Навуковае выданне

Грані роднага слова

Зборнік мовазнаўчых артыкулаў
(да 80-годдзя прафесара П.У. Сцяцко)

Адказныя за выпуск:
Камп'ютарная вёрстка: А.І. Багдзевіч
Дызайн вокладкі:

Падпісана да друку:



Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

# ГРАНІ РОДНАГА СЛОВА

## Зборнік мовазнаўчых навуковых артыкулаў (да 80-годдзя прафесара П.У. Сцяцко)

Гродна
ГрДУ імя Янкі Купалы
2010

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3

Г 77



Рэцэнзенты: доктар філалагічных навук А.В.Нікіцевіч;
кандыдат філалагічных навук Ф.І.Тамашэвіч

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы

Г 77 **Грані** роднага слова: зборнік мовазнаўчых навуковых артыкулаў (да 80-годдзя прафесара П.У.Сцяцко) / рэдкалегія: М.А.Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2010. – с. 476
ISBN

У зборніку змяшчаюцца артыкулы, прысвечаныя надзённым пытанням мовазнаўства: тэорыі і гісторыі мовы, міжмоўным стасункам, анамастыцы, тэрміналогіі, этымалогіі, іншым раздзелам лексікалогіі, а таксама фразеалогіі, словаўтварэнню, граматыцы, мове мастацкай літаратуры і методыцы выкладання мовы. Даецца бібліяграфічны паказальнік навуковых, навукова-метадычных і іншых працаў прафесара П.У. Сцяцко. Асобная частка зборніка ўключае артыкулы П.У.Сцяцко па культуры мовы.

Адрасавана навуковым супрацоўнікам, выкладчыкам ВНУ, аспірантам, студэнтам, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, работнікам друку.

***УДК 808.26***
**ББК 81 411.3**



**ISBN 978-985-515-**





## ЖЫЦЦЁ, ПРЫСВЕЧАНАЕ НАВУЦЫ І ВЫХАВАННЮ

5 сакавіка 2010 года споўнілася 80 гадоў Паўлу Уладзіміравічу Сцяцко, доктару філалагічных навук, прафесару, выдатніку адукацыі Рэспублікі Беларусь, уганараванаму за высокія дасягненні ў прафесійнай дзейнасці, значны ўклад у развіццё і памнажэнне духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа медалём Францыска Скарыны.

Нарадзіўся П.У.Сцяцко ў вёсцы Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля навучання ў Ваўкавыскім педвучылішчы паступіў у Гродзенскі педінстытут. Скончыў філалагічны факультэт з дыпломам выдатніка і быў размеркаваны на працу ў сваю альма-матар. Выкладаў тут усе мовазнаўчыя курсы студэнтам-філолагам. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Абараніў (датэрмінова) кандыдацкую дысертацыю, якую высока ацаніў віцэ-прэзідэнт АН Беларусі акадэмік К.Крапіва як першы апанент; потым – доктарскую дысертацыю, прысвечаную беларускаму народнаму словаўтварэнню. Павышаў свой славістычны досвед у знаных еўрапейскіх універсітэтах – Карлавым універсітэце ў Празе і Варшаўскім універсітэце.

Маючы высокі славістычны досвед, Павел Уладзіміравіч належным чынам перадае свае веды студэнтам, працуючы ў розных ВНУ Беларусі: дацэнт, затым прафесар кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педінстытута імя М.Горкага (1962 – 1981), загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага універсітэта імя Ф.Скарыны (1981 – 1990), загадчык кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства (1991 – 2007), цяпер прафесар названай кафедры Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы, а таксама прафесар Варшаўскага універсітэта (філіял у Беластоку, 1991 – 1994), дзе чытаў лекцыйныя курсы параўнальнай граматыкі славянскіх моваў, спецкурс па словаўтварэнні ў беларускай, рускай і польскай мовах і праводзіў адпаведны спецсемінар.

Адметным перыядам у жыцці Паўла Уладзіміравіча і беларускай лінгвістыкі былі 1960 – 1970 гады. Працуючы на кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педінстытута, П.У.Сцяцко прымаў самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы надта запатрабаваных тым часам навучальных дапаможнікаў для студэнтаў беларускай філалогіі, а таксама навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. У 1969 годзе выходзіць навучальны дапаможнік для ВНУ «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы», падрыхтаваны разам з М.С. Яўневічам. Кніга вытрымала тры выданні. У 2006 годзе выйшаў падручнік для



студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей, зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы», аўтары – М.С.Яўневіч, П.У.Сцяцко. У 1970 годзе пабачыў свет першы навучальны дапаможнік для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў Беларусі «Беларуская мова», напісаны М.Ц.Кавалёвай і П.У.Сцяцко. Ім карысталіся і студэнты ВНУ. Падручнік для навучэнцаў педагагічных вучылішчаў Беларусі «Беларуская мова. Частка 1» выйшаў з друку ў 1982 годзе (пятае выданне – у 2004 г.), дзе амаль траціна напісана Паўлам Уладзіміравічам. Акрамя таго, П.У.Сцяцко – сааўтар навучальных дапаможнікаў для студэнтаў-філолагаў «Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія» (1975, 2 выданне – 1980), «Сучасная беларуская літаратурная мова. Лексікалогія. Фразеалогія. Арфаграфія» (1976), а таксама двух выданняў праграмы па сучаснай беларускай мове. Павел Уладзіміравіч падрыхтаваў і выдаў кнігі «Пачатковы курс мовазнаўства» (1993), «Уводзіны ў мовазнаўства» (2001).

Адзін з важных кірункаў дзейнасці прафесара П.У.Сцяцко – праблема нармавання літаратурнай мовы. Маючы высокі лінгвістычны досвед, набыты падчас павышэння славістычнай адукацыі ў еўрапейскіх універсітэтах, а таксама працы ў шэрагу ВНУ Беларусі і Варшаўскім універсітэце, Павел Уладзіміравіч распрацаваў адмысловы курс «Праблемы адраджэння і натуральнага развіцця беларускай мовы, нармавання яе савецкага варыянта», які чытаецца ім з 1991 года да цяперашняга часу. Па гэтай праблеме апублікавана больш за сотню артыкулаў і тры кнігі: «Праблемы нормы, культуры мовы» (1998), «Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы» (1999), «Культура мовы» (2002).

Лінгвіст П.У.Сцяцко знакаміты таксама як дэрыватолаг. Упершыню ў гісторыі па беларускім словаўтварэнні ён абараніў доктарскую дысертацыю (1980), якая ўхвальна была атэставана знанымі ўсходнеславянскімі навукоўцамі – І.І.Кавалікам (Украіна), А.М.Ціханавым (Масква) і П.П.Шубам (Мінск). Апублікаваны манаграфіі «Народная лексіка і словаўтварэнне» (1972), «Беларускае народнае словаўтварэнне» (1977), а таксама раздзел «Словаўтварэнне» ў акадэмічнай «Беларускай граматыцы» (1985) (сааўтар В.П.Лемцюгова) і шмат артыкулаў ў беларускім і замежным друку.

П.У.Сцяцко падрыхтаваў 15 кандыдатаў навук, адзін з яго выхаванцаў стаў доктарам навук (А.Ф.Рогалеў). Яны даследуюць марфемна-словаўтваральны аспект славянскіх (беларуская, руская, украінская, польская, балгарская) і германскіх (англійская і нямецкая) моваў.

Прафесар П.У.Сцяцко паспяхова кіруе заснаванай ім навуковай школай дэрыватолагаў «Словаўтварэнне ў славянскіх і германскіх мовах». Навукоўцы школы апублікавалі шэраг манаграфічных работ,

прысвечаных словаўтварэнню (А.Ф.Рогалеў, А.І.Багдзевіч, І.І.Бубновіч, В.Л.Варановіч, А.І.Кавальчук, Л.Я.Кавалёва, С.Г.Ляскевіч, Ж.С.Сіпліденя і інш.).

П.У.Сцяцко выступаў апанентам і экспертам па 22 кандыдацкіх і доктарскіх дысертацыях. Праца Паўла Уладзіміравіча па падрыхтоўцы навукова-педагагічных кадраў вышэйшай навуковай кваліфікацыі годна адзначана на дзяржаўным узроўні – ён узнагароджаны Ганаровай граматай Дзяржаўнага вышэйшага атэстацыйнага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Яшчэ адзін досыць важны кірунак працы прафесара П.У.Сцяцко – беларуская навуковая тэрміналогія. Ён уваходзіць у склад Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі і ўзначальвае яе філіял у Гродне. Праблемам беларускай навуковай тэрміналогіі, структуры навуковых тэрміналагічных адзінак прысвечана больш за 50 навуковых артыкулаў. Рэалізацыяй яго навуковых ідэй сталі манаграфіі, тэрміналагічныя даведнікі (створаныя з актыўным удзелам П.У.Сцяцко), выдадзеныя ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі: «Лингвистическая терминология в вузовских курсах» (1984), «Русско-белорусский лингвистический словарь» (1988), «Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў» (1990), «Słownik terminologii lingwistycznej» (1994, Беласток), «Руска-беларускі фізічны слоўнік» 1999), «Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны. Ч.1. Мікратапанімія» (2005). Выйшаў з друку шэраг тэрміналагічных даведнікаў пад навуковай рэдакцыяй П.У.Сцяцко. Абаронены падрыхтаваныя пад яго кіраўніцтвам дзве дысертацыі па праблемах тэрміналогіі.

Не засталася ўбаку ад досведу Паўла Уладзіміравіча і народная лексіка. Яго кандыдацкая дысертацыя прысвечана даследаванню лексікі родных яму зэльвенскіх гаворак. Выдадзены тры кнігі: Дыялектны слоўнік (з гаворак Зэльвеншчыны)» (1970), «Народная лексіка» (1970), «Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны» (2005), а таксама «Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» (1999) у сааўтарстве і шэраг лексікаграфічных і навуковых артыкулаў у Беларусі і за яе межамі (Расія, Украіна, Польшча).

На рахунку П.У.Сцяцко больш за 500 апублікаваных прац (з іх 35 кніг – манаграфіі, слоўнікі, падручнікі і навучальныя дапаможнікі), прысвечаных даследаванню актуальных пытанняў беларускай мовы і яе стасункаў з рускай, украінскай, польскай, балгарскай мовамі.

Прафесар П.У.Сцяцко з’яўляецца (ці быў раней) членам рэдкалегіі шэрагу перыядычных навуковых і навукова-метадычных рэспубліканскіх і замежных выданняў: «Русский язык». Межвузовский республиканский научный сборник. Выпуски 2 – 13. Минск. 1982 – 1993; «Беларуская мова і літаратура ў школе». Штомесячны навукова-метадычны часопіс Міністэрства адукацыі Беларусі і «Роднае слова». Навуковы і метадычны часопіс Міністэрства адукацыі Беларусі (1990 – 2006); «Веснік Беларускага джяржаўнага універсітэта». Навукова-тэарэтычны часопіс (1989 – 1992); «Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы». Навукова-тэарэтычны часопіс (1996 – 2006); «Гарадзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры». Адказны рэдактар – П.У.Сцяцко (Выпускі 1 – 3, Гродна: ГрДУ, 1993, 1996, 1997); Białostocki Przegląd Kresowy. Tom 1. Języki wschodniosławiańskie. Białystok. 1993; Białostocki Przegląd Kresowy. Tom 2. Polsko-wschodniosławiańskie kontakty językowe i kulturowe w badaniach lingwistycznych. Białystok. 1994; «Беларуская мова: Энцыклапедыя» (1994) і інш.

Пад яго навуковай рэдакцыяй выйшла 20 кніг, яго прозвішча як рэцэнзента стаіць на 22 кнігах. Ён – навуковы кансультант па тэрміналагічным словаўтварэнні ў «Матэматычнай энцыклапедыі» (2001).

Актыўна супрацоўнічае Павел Уладзіміравіч з навуковымі і навукова-мастацкімі часопісамі Беларусі – «Роднае слова», «Полымя», «Маладосць» і іншымі. Ён – лаўрэат часопіса «Полымя» за 1990 год.

Імя П.У.Сцяцко ўвасоблена персаналіямі ў пяці энцыклапедычных выданнях: «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Беларуская мова: Энцыклапедыя», «Беларусь: Энцыклапедычны даведнік», «Беларуская энцыклапедыя», «Республика Беларусь. Энциклопедия».

І сёння Павел Уладзіміравіч актыўна працуе ў галіне падрыхтоўкі кадраў вышэйшай навуковай кваліфікацыі: кіруе аспірантамі, выступае апанентам па дысертацыях. З 12 мая 2008 года ўзначальвае Савет па абароне кандыдацкіх дысертацый па спецыяльнасці «10.02.20. Параўнальна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства». Чытае лекцыі, кіруе працай магістрантаў (падрыхтаваў 4 магістры філалагічных навук), напісаннем дыпломных і курсавых работ, падрыхтоўкай студэнцкіх навуковых даследаванняў на рэспубліканскі конкурс (6 студэнцкіх работ адзначаны дыпломамі).

Моцнага Вам здароўя, бадзёрасці і аптымізму на доўгія гады, шаноўны наш калега, настаўнік і выхаваўца!

Кафедра беларускага і тэарэтычнага<br>мовазнаўства Гродзенскага дзяржаў-<br>нага універсітэта імя Янкі Купалы

УДК 811.161.3

**В.В. Шур** (Мазыр)

# П. СЦЯЦКО ЯК ДАСЛЕДЧЫК БЕЛАРУСКАЙ АНАМАСТЫКІ

Навуковая дзейнасць прафесара П. Сцяцко заўсёды прыцягвае ўвагу лінгвістаў самых розных профіляў. Ён аўтар больш за 500 прац, сярод іх 35 кніг, з іх 7 манаграфій, 6 слоўнікаў, больш за 20 падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ і навучэнцаў каледжаў, ліцэяў, гімназій, ён таксама аўтар і сааўтар некалькіх энцыклапедычных і акадэмічных выданняў, навуковы кансультант энцыклапедычных выдавецтваў і інш. Яго дасягненні як аўтарытэтнага лінгвіста, даследчыка засведчаны ў персаналіях пяці энцыклапедый Беларусі.

Многія працы прафесара П. Сцяцко неаднаразова перавыдаваліся і ва ўсе часы карыстаюцца павышаным попытам. Некаторыя з іх поўнасцю або часткова апублікаваны ў двухтомніку «Моваznaўчы досвед (выбраныя творы)» Гродна: ГрДУ, 2005, агульнай колькасцю 758 старонак. У першую яго частку ўвайшлі публікацыі з галіны дыялекталогіі, сучаснай мовы, анамастыкі, міжмоўных стасункаў, методыкі выкладання мовы, у другую – культуры мовы (моўнай сістэмы), навуковай тэрміналогіі, а таксама некаторыя яго рэцэнзіі на кнігі іншых вучоных і інш. У сакавіку 2005 года ў Гродзенскім універсітэце імя Я. Купалы да юбілею прафесара П. Сцяцко была праведзена міжнародная навуковая канферэнцыя «Надзённыя праблемы лінгвістыкі». Па яе выніках апублікаваны зборнік з аднайменнай назвай аб'ёмам 367 старонак, у ім змяшчаюцца публікацыі, прысвечаныя тэорыі і гісторыі мовы, словаўтварэнню, лексікалогіі і фразеалогіі, анамастыцы, мове мастацкай літаратуры. Матэрыялам канферэнцыі папярэднічае бібліяграфічны паказальнік яго навуковых і навукова-метадычных прац.

Працы прафесара П. Сцяцко, прысвечаныя розным аспектам анамастыкі, выдзяляюцца глыбінёй аналізу, багаццем фактычнага матэрыялу, шырынёю погляду на праблему, арыгінальнымі новымі знаходкамі, аргументаваным палемічным запалам. Вучоны кваліфікавана з выкарыстаннем шырокага анамастычнага фону тлумачыць паходжанне і правапіс разнастайных беларускіх тапонімаў, прозвішчаў, іншых анамастычных адзінак, умела паказвае іх станаўленне, выяўляе іх нацыянальную «вопратку» – структуру, а яго методыка аналізу, іх вынікі становяцца зразумелымі нават людзям далёкім ад анамастычных праблем.

Так, у артыкуле «Уласныя асабовыя імёны, іх варыянты і ўжыванне ў народнай мове», які ўпершыню быў надрукаваны ў лексікалагічным зборніку «З жыцця роднага слова» (Мн., 1968.), аўтар паслядоўна прасачыў, якія імёны, іх варыянты і формы бытуюць у жывой народнай мове Зэльвеншчыны, адкуль аўтар родам, высветліў гістарычныя прычыны бытавання розных варыянтаў імёнаў, іх утварэнне і функцыяванне, паказаў прадуктыўнасць, частотнасць іх у народна-дыялектнай мове. Такі падыход даў магчымасць П. Сцяцко грунтоўна і кваліфікавана апісаць сістэмнае станаўленне іменаслоўя ў параўнальна абмежаваным рэгіёне, дзе гістарычна склаліся дзве разнавіднасці пераважна хрысціянскіх уласных імёнаў беларусаў з Гродзеншчыны: праваслаўныя прытрымліваюцца візантыйска-грэцкага іменаслоўя, каталікі маюць пераважна рымска-каталіцкія імёны і даюць іх сваім дзецям: *Адольф (Адоляк), Людвіг, Рамуальд (Ромак), Франц (Франак), Юзэфа (Юзя), Ванда, Зыгмунд (Зыгмусь)* і інш. У асяроддзі каталікаў пераважнае ўжыванне мелі лацінізаваныя формы старажытных імёнаў: *Базыль, Ян (Янак, Януш), Тамаш (Томак)* і г.д. Па традыцыі, як прасачыў даследчык, гэтыя дзве сістэмы іменаслоўя суіснуюць на Зэльвеншчыне і цяпер. Гэты артыкул у значнай меры стаў вызначальнай асновай для напісання намі навукова-папулярнай кнігі «З гісторыі ўласных імёнаў» (Мн., 1993), асабліва яе першай частцы пад назвай «Адкуль нашы імёны?», дзе мы прыводзім прыклады шырокага выкарыстання варыянтаў імёнаў у народна-дыялектнай мове з розных рэгіёнаў Беларусі.

Гаворкі паўночна-заходняй Беларусі, асабліва Гродзеншчыны, з даўніх часоў уяўляюць значную цікавасць для лінгвістаў, гісторыкаў, этнографаў, бо ў гэтым рэгіёне выразна выяўляецца славяна-балтыйска-германскае ўзаемадзеянне. Гэтай праблеме прысвечана мноства публікацый самых розных даследчыкаў – прадстаўнікоў беларускай, рускай, польскай, літоўскай і інш. навукі. Яшчэ акадэмік Я. Карскі – ураджэнец Гродзеншчыны, адзначаў, што моўныя асаблівасці гэтага рэгіёна маюць адметнасць, яны збліжаюць два асноўныя беларускія дыялекты – паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні, дзе сходзяцца і адлюстроўваюцца рысы беларуска-польска-латышска-літоўскіх гаворак. Лексіка, у тым ліку і анамастыкон гэтага рэгіёна, былі на ўвазе і шырока выкарыстоўваліся ў працах Я. Карскага, Т. Лер-Сплавінскага, А. Антановіча, В. Мартынава, М. Талстога, Ю. Мацкевіч, Т.Сцяшковіч, М. Бірылы, а ў апошнія гады Г. Цыхуна, П. Сцяцко, І. Лепешава,

М. Даніловіча, І. Канапацкага, Ю. Гурскай, М. Ермаловіча, Г. Усціновіч, І. Ласкова, А. Ванагаса, З. Зінкявічуса, В. Рымшы і інш.

У ракурсе пастаўленай праблемы неабходна назваць артыкулы і слоўнікі прафесара П. Сцяцко, які ў палеміцы з даследчыкамі балта-славянскага лексічнага ўзаемадзеяння пераконвае, што нельга прымаць некаторыя абагульненні адносна паходжання асобных беларускіх прозвішчаў, якія некаторымі даследчыкамі кваліфікуюцца як вытворныя ад літоўскіх апелятываў. Так, В. Рымша прааналізаваў больш за 140 гнёздаў беларускіх прозвішчаў, якія, на яго думку, маюць балтыйскае паходжанне. Аднак, як пераконвае шматлікімі прыкладамі з народных гаворак П. Сцяцко, для вызначэння крыніцы паходжання таго ці іншага антрапоніма вельмі важна прымаць пад увагу не толькі наяўнасць яго ўтваральных асноў у суседніх, кантактных мовах, але і ступень актыўнасці дэрывацыйных фармантаў ў кожнай з гэтых моў і інш. Асаблівую каштоўнасць маюць самыя розныя звесткі з народна-дыялектнай мовы, дзе захоўваецца шмат даўніх словаўтваральных асноў і дэрывацыйных сродкаў, шматлікія пераносныя значэнні слоў, нярэдка страчаныя літаратурнай мовай.

На нашу думку, артыкул П. Сцяцко «Да пытання аб балтыйскім паходжанні беларускіх прозвішчаў» (Веснік БДУ, 1986, № 3) і іншыя яго працы, матэрыялы слоўнікаў, далі падставу І. Ласкову і М. Ермаловічу ўсумніцца і распачаць палеміку ў канцы 90-х гадоў XX ст. у беларускіх навуковых і навукова-папулярных часопісах аб тым, што старажытная літва была не балцкім, а фіна-угорскім народам. Так, І. Ласкоў паслядоўна, услед за вядомым гісторыкам М. Ермаловічам, праводзіў думку, што ніводнае імя літоўскіх князёў не раскрываецца этымалагічна на прыкладзе з літоўскай (летувіскай) мовы. У такіх перакананнях І. Ласкоў, як і М. Ермаловіч, не самыя першыя. На неадпаведнасць літоўскіх імёнаў (летувіскай) мове звярнуў увагу больш за сто гадоў таму назад вядомы філолаг, знаўца лацінскай і грэчаскай моў Ю. Юргевіч, выдаўшы ў Маскве брашуру «Опыт объяснения имён князей литовских». І. Ласкоў, палемізуючы з вядомымі літоўскімі даследчыкамі А. Ванагасам, З. Зінкявічусам і інш., у некалькіх грунтоўных публікацыях з выкарыстаннем лінгвістычных, гістарычных і іншых фактаў, метадаў і аргументаў даказвае, што імёны самых знакамітых літоўскіх князёў *Ягайлы*, *Гедзіміна*, *Кейстута*, *Вітаўта*, *Віценя*, *Скіргайлы* і інш. паводле паходжання не літоўскія (летувіскія), а ўсе яны – нашчадкі фіна-угорскай літвы, змешанай з беларускім насельніцтвам. «Мы павінны, пісаў І. Ласкоў, вылучыць сляды аднаго з нашых продкаў – літвы – у нашай мове, геаграфічных назвах, звычаях, казках, песнях, загадках, прымаўках, легендах. Перад беларускімі даследчыкамі ўстае неадкладная задача па вывучэнні фіна-угорскіх, у першую чаргу пермскіх моў, фальклору угра-фінскіх народаў, каб метадам параўнання знайсці тыя сляды. Гэтая задача вялікая і высакародная» («ЛіМ», 18 жніўня 1989 г., с. 15). І яшчэ. У артыкуле «Жамойцкі тупік» гэты даследчык у прадмове піша: «За чатыры гады ў «ЛіМе» ды «Полымі» мною надрукаваны некалькі вялікіх артыкулаў, якія падыходзяць да акрэсленай праблемы з розных бакоў і, здавалася б, даводзяць, прытым аргументавана, што літва не была балцкім племем. Але складваецца ўражанне, што ніхто з навукоўцаў іх нібыта не чуе. Зазірнем у любую найноўшую працу па гісторыі Беларусі – толькі і бачыш: балты, балты, балты. А маю гіпотэзу ніхто не толькі не ўлічвае, але нават і не згадвае.»

Такім чынам, П. Сцяцко фактычна першы з сучасных даследчыкаў аргументавана пачаў даказваць, выкарыстоўваючы шырока мясцовыя анамастычныя факты, што частка сучасных беларускіх прозвішчаў жыхароў Гродзеншчыны ўтворана суфіксальным спосабам на падставе народна-дыялектных апелятываў і самых розных іншых словаўтваральных сродкаў, частка ж утварылася семантычным спосабам – шляхам пераасэнсавання былых назваў-характарыстык па тых ці іншых адзнаках ці ад гутарковых формаў імя. Пазней іх унутраная форма, матываванне сцерлася, згубілася, і найменне стала выконваць чыста называльную функцыю – функцыю вылучэння чалавека сярод насельнікаў. На гэтай падставе даследчык, шырока выкарыстоўваючы багаты апрацаваны і сістэматызаваны ў некалькіх сваіх слоўніках лексічны і анамастычны матэрыял, у радзе выпадкаў падказаў, як ён пісаў, «не прэтэндуючы на канчатковае вырашэнне пастаўленай праблемы», што многія прозвішчы беларусаў з Гродзеншчыны з’яўляюца спрадвечна беларускімі і не ўтрымліваюць у сваёй структуры балцкіх кампанентаў. Такім падыходам у шэрагу выпадкаў ён аргументуе мажлівае ўзнікненне беларускіх прозвішчаў на ўласнай аснове, а таксама стварае ўмовы іншым даследчыкам і падказвае, тлумачыць шляхі мажлівага станаўлення беларускага нацыянальнага анамастыкону.

Анамастычны матэрыял П. Сцяцко шырока выкарыстоўвае, разглядаючы самыя розныя аспекты культуры роднай мовы. Пра гэты клопат дасведчанага даследчыка некалькі яго грунтоўных артыкулаў, апублікаваных у часопісах «Полымя», «Роднае слова», «Беларуская лінгвістыка», газетах «Звязда», «Настаўніцкая газета». Нават загалоўкі яго прац сведчаць пра актуальнасць і надзённасць узнятых праблем: «Скланенне прозвішчаў», «Фіналі – *ій*, – *ый*. Ці ўласцівы яны беларускай мове?», «*Сапега. Сапегу. Сапегам*. Як скланяюццца

прозвішчы?», «Назавем... *Кастрычнік Акцябром*», «Раіліса з *Хімаю Чыгрын*: Пра беларускія формы прозвішчаў і іх перадачу на іншыя мовы», «Роздум над лёсам і правапісам беларускіх геаграфічных назваў». У гэтых і іншых артыкулах П. Сцяцко падаюцца кваліфікаваныя разважанні і рэкамендацыі, адсочаныя паслядоўнай моўнай практыкай, прыводзяцца пераканальныя прыклады неабходнай унармаванасці шматлікіх анамастычных адзінак, што падвергліся неўласцівым нашай мове гукавым, граматычным, словаўтваральным зменам і знявечанням. Яго рэкамендацыі і патрабаванні па ўнармаванні нацыянальнага беларускага анамастыкону натуральна ўпісваюцца ў тэорыю і заканамернасці сучаснай антрапаніміі і тапаніміі, з напрацаваным вопытам сусветнай моўнай практыкі, добра стасуюцца з рэзалюцыямі ААН па нацыянальнай стандартызацыі ўласных назваў, дазваляюць развітацца з непісьменнасцю, якая, на жаль, яшчэ ёсць ў некаторых сферах грамадства, і годна прадстаўляць Беларусь у цывілізаваным свеце праз яе анамастыкон.



# І. НАВУКОВЫЯ АРТЫКУЛЫ

УДК 811.161.3

**Т.М. Аліферчык** (Мінск)

## КАТЭГОРЫЯ ПРАСТОРЫ Ў АЙКАНІМІІ (НА МАТЭРЫЯЛЕ АЙКАНІМІІ ЗАХОДНЯГА ПАЛЕССЯ)

Катэгорыя прасторы з'яўляецца адной з самых важных частак старажытнай карціны свету. Асобай увагай даследчыкаў карыстаюцца тапанімічныя назвы, якія ў дадзеным выпадку выконваюць функцыю лакалізатараў і арганізатараў прасторавых адносін. Інфармацыя аб прасторы з'яўляецца базавай для тапаніміі: яе статус абумоўлены рэферэнтнай прывязкай адзінак тапанімікона. Прасторавасць зададзена самой прыродай тапоніма. Гэтая інфармацыя шматмерна, паколькі прасторавыя ўяўленні існуюць у некалькіх варыянтах (рэальная геаграфічная прастора, ландшафтная, ірэальная сакральная, гістарычная прастора і інш.) [1, с. 93].

Прасторавыя адносіны эксплiцыруюцца пераважна ў ландшафтнай тапаніміі, у адрозненне ад тапаніміі адантрапанімічнага паходжання. Асноўны рэсурс іменавання ў ланшафтнай тапаніміі – мясцовая геаграфічная тэрміналогія. Прычым своеасаблівай падаецца ўзаемасувязь матывавальнага геаграфічнага тэрміна і тапоніма, утворанага ад яго (падрабязна гл. [2]). Асноўнай адметнасцю яе з'яўляецца тое, што ландшафтны айконім не проста называе пэўны населены пукт, але і ўказвае на сукупнасць асноўных яго прыкмет: лакалізацыю ў прасторы адносна найбольш значных геаграфічных рэалій, у пэўнай ступені ўказанне на некаторыя якасці, уласцівыя гэтым рэаліям, ступень асвоенасці прасторы і інш. Менавіта гэтым абумоўлены элемент прагматычнасці ў іменаванні – называючы населены пункт геаграфічным тэрмінам, суб'ект-намінатар прама ўказвае на якасці, уласцівыя ландшафтнаму аб'екту: практычнасць (у прамысловасці (*руда*), у будаўніцтве (дыферэнцыяцыя пераважнага ідавага складу лясных масіваў)), небяспечнасць (балота *марочнае* = небяспечнае, вір у рацэ) і інш. Такім чынам, суб'ект намінацыі не проста называе пэўны населены пукт, але і ўказвае на сукупнасць яго прыкмет.

Зразумела, даследаванню ландшафтных тапонімаў павінна папярэднічаць шырокае вывучэнне семантыкі і арэала распаўсюджання геаграфічных тэрмінаў у агульнаславянскай перспектыве. На Палессі існуе дасканала развітая тэрміналогія для абазначэння асноўных

аб’ектаў і геаграфічных умоў. Неабходна адзначыць, што ў даследуемым рэгіёне захаваліся некаторыя архаічныя значэнні геаграфічных тэрмінаў, страчаныя ў большасці славянскіх літаратурных моў, у прыватнасці, *бор* ‘невялікая ўзвышанасць з супясчанай (радзей пясчанай) глебай, звычайна зарослай лесам, часцей за ўсё сасновым’, ‘высокае месца ў лесе’, *дуб* ‘дрэва’, *дуброва* ‘лес’, *востраў* ‘невялікае, сухое, узвышанае месца сярод балот, пакрытае густым лесам’; выключна ў тапонімах захаваліся такія тэрміны, як *гвоздзь* ‘сухая ўзвышаная мясціна сярод балот’, ‘прастора, пакрытая густым лесам’, які мае сувязі ў заходнеславянскіх і паўднёваславянскіх мовах (*Гвозніца*), *язвіна* ‘нара, логава, роў’, ‘не зусім зарослае старарэчышча; багністая гнілая жыліна, вокнішча на незамярзаючым балоце’ (*Язвіны*, *Язвінкі*), *быстрыца* ‘хуткае цячэнне ракі’ (*Быстрыца*) (падрабязна гл. [3]); у некаторых выпадках семантычнае напаўненне заходнепалескіх тэрмінаў адрозніваецца ад агульнапрынятага літаратурнага, у прыватнасці, у тэрмінах *гара* (‘узвышша, любое высокае месца, узгорак’, ‘невысокі марэнавы або пясчаны ўзгорак, звычайна круглы або закруглены або стромкі з аднаго боку; гравійны пагорак’, ‘высокі бераг ракі’, ‘высокае поле’ і інш. [4, с. 46], ‘доўгае ўзвышша, пагорак’ [5, с. 218]) і *града* (‘узвышша, прадаўгаваты ўзгорак сярод балота, паміж ручаёў, на лузе, які ніколі не заліваецца вадой’, ‘роўнае месца на лузе’, ‘пясчаная каса на полі, у лесе’ [4, с. 52], ‘доўгае ўзвышша сярод балота, у лесе’ [5, с. 226]), параўн. літ. *гара* ‘значнае ўзвышша, што ўзнімаецца над мясцовасцю або выдзяляецца сярод іншых узвышшаў’ [6, с. 143], *града* ‘рад невялікіх гор, узгоркаў’ [6, с. 143]. Усе адзначаныя асаблівасці адлюстраваны ў рэгіянальнай тапаніміі.

Асноўнай асаблівасцю сегментацыі акаляючага асяроддзя з’яўляецца вылучэнне найбольш важных геаграфічных аб’ектаў для зручнасці арыентацыі ў прасторы і арганізацыі прасторавых адносін. На падставе статыстычнага аналізу айконімаў можна зрабіць выснову, што асноўным аб’ектам, адносна якога развіваецца тапанімічная намінацыя, з’яўляецца лес. Тапонімы, утвораныя ад апелятыва *лес* і некаторых іншых, складаюць прыблізна 50 % ад агульнай колькасці ландшафтных тапонімаў. Багацце тэрмінаў, што характарызуюць лес і выяўляюць асаблівасці відавага складу лясных масіваў, таксама пацвярджае гэты факт. Не меншай значнасцю надзяляецца балота. На Палессі існуе даволі развітая арографічная тэрміналогія. У працэтных адносінах гэтая група некалькі меншая – крыху больш за 20 %. Трэці па значнасці ў тапанімічнай намінацыі ландшафтны аб’ект – вадаём (рака або возера). Айконімаў, матываваных гідраграфічнымі тэрмінамі, каля 20 % ад агульнай колькасці выяўленых у рэгіёне ландшафтных айконімаў. Пры гэтым адзначаецца значнасць ракі як арганізатара прасторавых сувязяў, параўн., у тапаніміі не адлюстраваліся транспартныя тэрміны, якія адносяцца да лясных масіваў або балот, у адрозненне ад тэрмінаў, якія абазначаюць рачныя шляхі, у прыватнасці *брод*.

Ландшафтная мадэль прасторы ў тапаніміі экспліцыруе такі спосаб арыентацыі, калі асноўнымі цэнтрамі з’яўляюцца геаграфічныя аб’екты. На асаблівасць арыентацыі ў прасторы ўказваюць так званыя тапонімы-арыенціры тыпу *Залессе*, *Міжлессе*, *Залядынне*, *Падбалоцце*, *Заазер’е* і інш. [7, с. 76]. Аднак адметнасць ландшафтнай мадэлі заключаецца ў тым, што і іншыя айконімы тыпу *Дуброва*, *Белае Возера*, *Махро*, *Рэчыца*, *Брадок* і інш., з’яўляюцца не проста найменнямі населеных пунктаў, а прама ўказваюць на іх размяшчэнне паблізу або непасрэдна каля пэўных ландшафтных рэалій – возера, балота, рэчкі. Гэты факт абумоўлены лексічнай асаблівасцю ўтваральнай базы: ландшафтныя айконімы ўтвораны ад назоўнікаў з агульным значэннем «месца» (nomina loci, або лакатывы) са значэннем адкрытай прасторы. Асноўная семантычная прыкмета такіх лакатываў – значэнне адкрытай паверхні, плошчы, месца, свабодна размеркаванага ў прасторы і толькі ўмоўна абмежаванага (раўніна, лесастэп, узгор’е і інш.) [8, с. 91].

У залежнасці ад спосабу жыцця і мыслення ў розных народаў вызначыўся свой асабісты падыход да топанамінацыі. Для абазначэння аб’ектаў выкарыстоўваўся не механічны набор выпадковых слоў. Старажытны чалавек не аддзяляў сябе і сваё існаванне ад акаляючага ландшафту і жыў суладна з ім. Таму ў топанамінацыі адлюстраваліся акрамя іншых аспектаў і асноўныя формы рэльефу. Пры гэтым айконімы *Горкі, Загара, Града, Высокае, Вярхі, Востраў, Плоскае, Яменка, Язвін, Глыбокае* не толькі экспліцыруюць інфармацыю аб формах рэльефу, але і рэпрэзэнтуюць адну з асноўных семантычных апазіцый у славянскай карціне свету *верх – ніз*. Такія онімы як *Горкі*, *Горы*, *Нагор’е*, *Загара*, *Горка*, *Града*, *Грады*, *Грудавікі*, *Высокае*, *Вярхі*, *Востраў*, матываваныя апелятывамі *гара*, *града*, *груд*, *верх*, *высокае*, *востраў*, маркіруюць станоўчыя формы рэльефу; айконімы *Плоскае*, *Плоска*, *Пласкінь* і *Яменка*, *Яміца*, *Ямна*, *Язвін*, *Язвіны*, *Глыбанец*, *Глыбокае* ўтвораны адпаведна ад тэрмінаў *плоскі*, які выражае нулявыя, і *яма*, *язвіна*, *глыбокі*, што адлюстроўваюць адмоўныя формы рэльефу. Асноўная адметнасць у дадзеным выпадку заключаецца ў тым, што адзначаныя онімы, адлюстроўваючы дзве часткі апазіцыйнай пары, рэпрэзэнтуюць таксама нейтральны аспект. Паказальным з’яўляецца той факт што пераважная большая колькасць тапонімаў, як і апелятываў, маркіруюць станоўчыя формы рэльефу ў супрацьлегласць адмоўным.

У паўсядзённым жыцці чалавеку важна асобнасць, адмежаванне асвоенай прасторы ад той, якая не ўваходзіла ў кола яго інтарэсаў. Катэгорыя асвоенасці з'яўляецца адной з цэнтральных у пазнаванні прасторы. Абсалютна натуральным у гэтым кантэксце падаецца існаванне тапонімаў *Краі*, *Крайнавічы*, *Кончыцы*, матываваных апелятывамі *край*, *канец* у значэнні 'канец, мяжа', а дакладней у дадзеным выпадку 'канец, мяжа асвоенай мясцовасці'.

Катэгорыя асвоенасці імпліцытна выражана і ў некаторых іншых айконімах. У прыватнасці, выключна ў дадзеным выпадку апазіцыя *неасвоены – асвоены* прадстаўлена апазіцыяй *лес*, *балота* як аб'ектаў аддаленых, «цёмных» – *поле*, *луг*, *сенажаць* як аб'ектаў, адваяваных ў лесу, балота, распрацаваных ў сельскагаспадарчых адносінах. Лес у славянскай міфалогіі і фальклоры з'яўляецца локусам, які вызначаецца прыкметамі аддаленасці, непраходнасці, неахопнасці. Лес набліжаецца да «таго свету», даволі часта маніфестуе яго і разумеецца як месца існавання розных міфалагічных істот, а таксама як прастора небыцця (побач з морам і гарамі). Лес супрацьпастаўляецца дому/двару/саду (абжытаму паселішчу, асвоенай тэрыторыі) у рамках апазіцыі *чужы – свой*, рэпрэзентуючы стыхію, варожую чалавеку, а таксама як прыроднае асяроддзе – культурнай прасторы [9, с. 97–100; 10, с. 283–283]. Такі ж матыў прагледжваецца і адносна ўспрыняцця балота як аддаленага аб'екта, небяспечнага і нячыстага месца, дзе па вераваннях заходніх і ўсходніх славян водзяцца чэрці і злыя духі [11, с. 228–229; 10, с. 41–42].

У якасці другой часткі апазіцыйнай пары *лес, балота – асвоеная (бязлесная, сухая) прастора* выступаюць такія геаграфічныя тэрміны як *пало́нь (абало́нь), луг, ляда, ніва*, якія адлюстраваліся ў тапаніміі – *Палонь, Палонна-Забалацце, Лугі, Залужжа, Лука, Прылукі, Ніўкі, Нівы, Залядынне, Лядзец* і інш. Неабходна адзначыць, што катэгорыя асвоенасці непасрэдна абумоўлена гаспадарчымі фактарамі: выключна ў дадзеным выпадку і абавязкова асваенне тэрыторыі адбываецца ў выніку развіцця вытворча-прамысловых і сельскагаспадарчых адносін. Такім чынам, асваенне прасторы абумоўлена гаспадарчай дзейнасцю чалавека.

Роля ракі як арганізатара прасторавых адносін таксама з'яўляецца ўскосным указаннем на асваенне прасторы – пракладваючы новыя шляхі, чалавек тым самым не толькі спрабуе асвоіць новую тэрыторыю, але і дасканальна вывучыць сам аб'ект, вылучыць уласцівыя яму якасці – колер, глыбіню, плынь, відавы склад і г.д., выдзеліць у той ці іншай ступені яго практычнасць.

Неабходна адзначыць, што катэгорыя асвоенасці імпліцытна прадстаўлена таксама ў такіх значэннях некаторых ландшафтных тэрмінаў, як 'сенажаць', 'сена, скошанае ў пэўным месцы'. У прыватнасці, семантыка лексемы *дуброва* можа вагацца ад 'вялікі выключна дубовы лес' да 'рэдкалессе любой пароды дрэў' або 'трава, што расце ў гэтым лесе', 'сена, скошанае ў гэтым лесе', 'пакос'. Апелятыў *балота* таксама абазначае непасрэдна 'балота' або 'трава, што расце на балоце', 'пакос, сена, скошанае на балоце'. У старажытнасці асноўным спосабам пашырэння зямельных угоддзяў, прыдатных для земляробства, была распрацоўка дзялянак ў лесе. У сваю чаргу балота таксама можа характарызавацца як рэсурс сельскагаспадарчых угоддзяў – у большасці выпадкаў для сенажаці. Такім чынам, з'ява пераходу семантыкі *дуброва* 'лес' > 'трава, што расце ў гэтым лесе' > 'сена, скошанае ў гэтым лесе', *балота* 'балота' > 'трава, што расце ў гэтым месцы' > 'сена, скошанае ў гэтым месцы' (аналагічна *пажарніца* 'выгарэлае месца ў лесе' > 'трава, якая расце на выгарэлым месцы' > 'сена, скошанае на выгарэлым месцы', *груд* 'сухая глеба, сухое месца сярод балота' > 'сена, скошанае там') вядомая на ўсёй славянскай моўнай тэрыторыі і цесна звязана з развіццём сельскай гаспадаркі [3, с. 44].

Аднак асваенне прасторы мае і негатыўны бок, які найбольш актуальна праяўляецца ў сучаснасці. У наш час фактычна немагчыма знайсці «чыстыя», нязменныя прыродныя ландшафты, паколькі ўсе яны ў большай або ў меншай ступені змяніліся пад уздзеяннем антрапагеннага фактара. С.Басік адзначае, што «індыкацыйны патэнцыял» народных геаграфічных тэрмінаў у тапаніміі дазваляе выявіць змены ландшафтаў рэгіёна і іх найбольш мабільных кампанентаў пад уздзеяннем асноўных антрапагенных фактараў: рассялення, развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарту, меліярацыі і г.д. [12, с. 45]. У гэтай сувязі неабходна адзначыць адметнасць кансерватызму тапаніміі. Менавіта па гэтай прычыне ў даследчыкаў ёсць магчымасць выяўляць змены ландшафту рэгіёна.

Аналіз тапанімічных дадзеных паказаў, што найбольш поўна ў ландшафтнай мадэлі прадстаўлены такія прасторавыя параметры, як лакалізацыя населенага пункта ў прасторы і асвоенасць прасторы. Як адзначае А.Л. Беразовіч, першы, «па сутнасці, дазваляе вызначыць кропку адліку суб'екта намінацыі ў адносінах да прасторавых аб'ектаў (паколькі лакалізацыя заўсёды ажыццяўляецца пры наяўнасці нейкай сістэмы каардынат), … апошні ж – даць якасную характарыстыку асвоенай і не асвоенай чалавекам прасторы» [1, с. 88].

Такім чынам, базавай для тапаніміі з'яўляецца інфармацыя аб прасторы. Катэгорыя прасторы ў тапаніміі найбольш поўна экспліцыруецца ў ландшафтнай мадэлі. Арганізацыя прасторавых

адносін у дадзеным выпадку адбываецца шляхам выдзялення асноўных геаграфічных аб'ектаў (лес, балота, вадаём) – своеасаблівых цэнтраў, адносна якіх развіваецца арыентацыя, у тым ліку і тапанімічная, суб'екта намінацыі. Такім чынам, у ландшафтнай мадэлі адлюстравана лакалізацыя населенага пункта адносна адзначаных аб'ектаў. «Прасторавы» патэнцыял тапонімаў, г. зн. іх здольнасць абазначаць месца, абумоўлены ўтваральнай базай: усе ландшафтныя айконімы матываваны назоўнікамі са значэннем адкрытай прасторы.

Пазнаванне прасторы скіравана не толькі ў гарызантальным накірунку, але і вертыкальным. У апошнім выпадку прасторавыя адносіны выяўляюцца ў апазіцыі *верх – ніз* з маркіраваннем таксама нейтральнай пазіцыі. Адзначаная апазіцыя адлюстравана ў заходнепалескай тапаніміі: *Горкі, Загара, Града, Высокае, Вярхі, Востраў – Плоскае, Пласкінь – Яменка, Язвін, Глыбокае*.

Адной з асноўных прасторавых катэгорый з'яўляецца асвоенасць прасторы, якая выяўляецца ў такіх айконімах, як *Краі*, *Крайнавічы*, *Кончыцы*, *Ніўкі*, *Залядынне*, *Лядзец*, *Лугі*, *Палонка* і інш.

*Спіс літаратуры*

1. Березович, Е.Л. Русская топонимия в этнолингвистическом аспекте / Е.Л. Березович. – Екатеринбург: Издательство Уральского университета, 2000. – 532 с.

2. Карпенко, Ю.А. Взаимосвязь географических терминов и топонимов / Ю.А. Карпенко // Местные географические термины в топонимии: тезисы докладов и сообщений / АН СССР, Московский филиал Географического общества СССР, Институт русского языка, Институт славяноведения, Институт географии; редкол.: Э.М. Мурзаев, Е.М. Поспелов, Н.И. Толстой. – М.: Изд-во АН СССР, 1966. – С. 6 – 9.

3. Толстой, Н.И. Славянская географическая терминология. Семасиологические этюды / Н.И. Толстой. – М.: Наука, 1969. – 262 с.

4. Яшкін, І.Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія / І.Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – 255 с.

5. Тураўскі слоўнік. У 5 т. / рэд.: А.А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – Т. 1. А – Г / А.А. Крывіцкі [і інш.]. – 1982. – 255 с.

6. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / АН Беларусі, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – Мінск: БелЭн, 1996. – 784 с.

7. Емельяновіч, В.М. Назвы-арыенціры ў мікратапаніміі Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці / В.М. Емельяновіч // Беларуская мова. – 1980. – Вып. 7. – С. 76 – 84.

8. Нядзілька, Н.У. Суфіксальныя адназоўнікавыя nomina loci ў сучаснай беларускай мове // Беларуская лінгвістыка. – 2007. – Вып. 59. – С. 91 – 96.

9. Славянские древности: Этнолингвистический словарь: в 5 т. / под ред. Н.И. Толстого. – М.: Международные отношения, 1995 – 2004. – Т. 3. К (Круг) – П (Перепелка) / Т.А. Агапкина [и др.]. – 2004. – 697 с.

10. Беларуская міфалогія: энцыклапедычны даведнік / пад рэд. С. Санько, Т. Валодзінай, У. Васілевіч [і інш]. – 2-е выд. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

11. Славянские древности: этнолингвистический словарь. В 5 т. / под ред. Н.И. Толстого. – М.: Международные отношения, 1995 – 2004. – Т. 1. А – Г / Т.А. Агапкина [и др.]. – 1995. – 577 с.

12. Басик, С. Географические термины в топонимии Западного Полесья как индикаторы изменения ландшафтов в XX веке / С. Басик // Загароддзе-3: матэрыялы навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Палессе ў XX ст.», Беласток, 1–4 чэрвеня 2000 г. // Кафедра беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку; Заходнепалескае навукова-краязнаўчае таварыства «Загароддзе»; Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры; пад рэд. Ф.Д. Клімчука, А. Энгелькінг, В.А. Лабачэўскай. – Мінск, 2001. – С. 45 – 47.

УДК 811.161.3

**Г.Ф.Андарала** (Мінск)

## АСАБЛІВАСЦІ ЎЖЫВАННЯ ВАЙСКОВАЙ ЛЕКСІКІ Ў РАМАНЕ Л.ДАЙНЕКІ «МЕЧ КНЯЗЯ ВЯЧКІ»

Раман Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі» прысвечаны гераічнай барацьбе гараджан старажытнага Полацка з тэўтонскімі рыцарамі-крыжакамі. «На самым пачатку XIII ст. наш народ жыў, павярнуўшыся тварам да Балтыкі, бо адтуль, як ненажэрная саранча, лезлі і лезлі крыжакі. Шмат крыві пралілося ў той час, шмат чалавечых касцей бялелася паміж маўклівых прыморскіх дзюнаў, на берагах Дзвіны і Нёмана. Знікалі цэлыя народы», – піша Л. Дайнека [5, с.6]. Хоць пісьменнік і не ставіў перад сабой мэты поўна і дакладна апісаць ваенныя падзеі гэтага перыяду, але неабходнасць праўдзівага адлюстравання мінулага абумоўлівае выкарыстанне аўтарам разнастайнай вайсковай лексікі тых часоў. У межах гэтага пласта можна выдзеліць некалькі лексіка-тэматычных груп: назвы зброі (меч, корд, кап'ё, суліца, дзіда, лук, страла, шастапёры, каса, вілы, доўбні, баявыя сякеры, баявыя дубіны (мачугі), бярвенні, валуны, гаршкі са смалой і агнём, бочкі са смалой, кісцяні, камлыгі), назвы баявых даспехаў, што засцерагалі воінаў ад удараў халоднай зброі (латы, нагруднікі, налакотнікі, накаленнікі, панцыр, кальчуга, шчыт, кальчужныя панчохі, місюрка, наборная браня, шалом з наноснікам, з кальчужнай сеткай-барміцай, капюшон-хаўберка), назвы войска і яго падраздзяленняў (дружына, гуф, сцяг, малева, рацць), назвы вайсковых службовых асоб (дружыннік, старшы дружыннік, малодшы дружыннік (дзецкі), ваявода, лучнік, арбалетчык, капейшчык, мечаносец, знузнік, вой, рыцар, кнехты, тысяцкі, збройнік, латнік, балістарыі).

Самае шматлікае лексічнае аб’яднанне складае група назваў халоднай зброі. Найбольш пашыранай з іх з’яўляецца агульнаславянскае па паходжанні слова *меч* ‘халодная зброя, вострая з абодвух бакоў’: Паміж гвалту і шуму жыцця, паміж грукату *мячоў*, паміж галасу паходных труб пакрысе выспявала, налівалася болем і сумам звонкая і непрыкметная, як мужчынскія слёзы, цішыня [5, с.32]. *Меч* рабілі доўгі, двухручны, каб дзвюма рукамі мог вой браць яго ў час бою за рукаяць [5, с.147]. Частае ўжыванне аўтарам слова *меч* абумоўлена тым, што названая моўная адзінка адносілася да актыўнага тагачаснага слоўніка. Яна ўвайшла ва ўсе лексіка-стылістычныя сістэмы тагачаснай беларускай пісьменнасці і набыла ў радзе выпадкаў пераноснае значэнне [4, с.206]. Каб стварыць адпаведны моўны каларыт эпохі, пісьменнік рэалізуе і другое значэнне слова *меч*, заснаванае на метафарычным ужыванні: ‘тое, што карае’, ‘гора, вайна’: Час брацца за *меч*, кунігас [5, с.64]. *Меч* на *меч*, косць на косць трэба ісці [5, с.69]. Яму [Брацілу] раптам захацелася зрабіцца птушкай, шчаслівай птушкай, якой не трэба лезці на страшныя забаролы, дзе чакаюць *мячы* і коп’і [5, с.13].

На ўзбраенні воінаў у старажытныя часы быў таксама і *корд* ‘кароткі меч’. Аднак у моўнай канве рамана гістарызм *корд* не знайшоў шырокага ўжывання: Тэўтон, гыхнуўшы, размашыста ўсадзіў яму [Халадку] між лапатак востры гарачы *корд* [5, с.292]. Двое верхавых, у чорных дарожных плашчах, бяззбройныя, калі не лічыць *кордаў*, засунутых за халявы ботаў, накіраваліся ў бок Рыгі [5, с.187]. У апісаны пісьменнікам час стараславянскае слова корд таксама вызначалася абмежаваным ужываннем, было вядома толькі мове дзелавых дакументаў і зусім адсутнічала ў жанры рэлігійнай і палемічнай літаратуры [4, с.207]. Беларускімі помнікамі гэта лексема фіксуецца толькі з першай паловы XV ст. [4, с.70].

Сярод назваў дрэўкавай зброі асабліва актыўнай у рамане з’яўляецца лексема *кап’ё* ‘калючая або кідальная зброя ў форме доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам’: Няздзіл, які нёс варту ля дзвярэй апачывальні, стукнуў аб падлогу дрэўкам *кап’я*, выдыхнуў прывітанне, баявы кліч палачан [5, с.29]. У правай руцэ Вячка сціскаў *кап’ё* з чатырохгранным бранябойным лязом. *Кап’ё* – зброя першага ўдару, і Вячка добра валодаў ім [5, с.45]. *Кап’ё* як від халоднай зброі было вядома яшчэ ў эпоху палеаліту, лічылася зброяй першага ўдару і выкарыстоўвалася ва ўсім свеце на вайне і паляванні. Слова *кап’ё* вядома многім славянскім мовам: руская – копьё, украінская – копе, польская – kopija, чэшская – kopі, славянская – kopjё, балгарская – копие, копе [2, с.85].



Разнавіднасцю кап’я выступае ў тэксце *суліца*: Браціла выцягнуў з-за спіны шчыт, узяў яго ў левую руку, у правай руцэ сціснуў *суліцу*, прыгнуўся і бясшумна нырнуў у цемру [5, с.16]. Месячныя промні ўспыхнулі на металічным наканечніку *суліцы*, і той засвяціўся, як вугалёк [5, с.9]. Слова *суліца* не зафіксавана «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы». У слоўніку Фасмера яно падаецца са значэннем ‘метательное копьё’ [3, с.861]. Больш поўнае тлумачэнне гэтай лексемы дае У.Даль: ‘ручное, холодное оружие, родъ копья или рогатины, также мётное копьё [IV, с.359]. Як разнавіднасць кап’я тлумачыць слова *суліца* і сам пісьменнік: За спіною ў чалавека быў прывязаны шчыт і кароткае кап’ё-*суліца* [5, с.8].

Як назва дрэўкавай зброі выкарыстоўваецца ў рамане і слова *дзіда*: Ён [Рацібор] абліваўся халодным потам, круглымі спалоханымі вачамі глядзеў на занесеную над сабою *дзіду*, але маўчаў, не прасіўся. *Дзіда* ўдарыла ў абсіверaную худую шыю, і смерд упаў у снег, захлынуўся крывёю [5, с.100]. – Рубон! – выгукнулі воіны баярына Івана, што конным строем ехалі за калясніцаю, ашчацініўшыся *дзідамі* [5, с.157]. У мове рамана названая лексічная адзінка малаўжывальная: яна сустрэлася 4 разы. У апісаны пісьменнікам час яна не вызначалася актыўнасцю [3, с.128]. Першакрыніцай слова *дзіда* з’яўляецца турэцкае džida, у старабеларускую мову яно ўвайшло з польскай džida [7, с.135] толькі ў пачатку XVIII ст. [2, с.71] і са значэннем ‘піка, кап’ё’ ўжывалася пераважна ў дзелавых помніках, якія найбольш поўна адлюстроўвалі жывую мову свайго часу. Актыўнасцю вызначалася слова *дзіда* ў народнай мове XIX ст., дзе была вядома ў розных формах і з больш шырокім значэннем: дзида ‘копіё’; дзидка, дзидочка – ‘уменьшительное слово дзида’; ‘копьецо’; ‘палка съ железнымъ остриемъ на концъ’; ‘острый шипокъ на деревахъ и кустахъ, какъ-то: дикой грушъ’ [6, с.131].

На ўзбраенні тагачасных воінаў былі *лукі*, *стрэлы*, *баявыя сякеры:* Княжацкія дружыннікі пачалі біць смердаў з *лукаў. Стрэлы* ляцелі з тонкім свістам, упіваліся ў чорную людскую сцяну [5, с.98]. Князь узвёў *лук*, які падаў яму дружыннік, нацягнуў цеціву і пусціў *стралу*, мецячы ў пустэльніка. Ды пустэльнік увільнуўся ад *стралы*, закрычаў, засмяяўся [5, с.99]. Збройнікі вастрылі мячы, коп’і, *баявыя сякеры*, нашывалі новыя слаі бычынай скуры на шчыты, змазвалі барсуковым тлушчам кальчугі [5, с.284].

Адметным узбраеннем літоўскіх воінаў былі *баявыя дубіны*, *або мачугі.* Значэнне гэтай устарэлай вайсковай назвы Л.Дайнека вельмі дакладна тлумачыць у кантэксце, апісваючы працэс падрыхтоўкі халоднай зброі: І пра дубіны літоўскія ведаў [Вячка]. Жадаючы зрабіць

сабе зброю, ідзе літовец у лес, выбірае малады дубок. Асцярожна, каб не параніць, ачышчае дрэўца ад сукоў з верху да самага нізу. Потым рассякае ў дрэве кару і абалону. У шчыліну ўтыкае вострыя рубчастыя камяні, якія пакрысе ўрастаюць у дрэва, ды так урастаюць, што здаецца – дуб вырас з імі з самага жолуда. Праз нейкі час гатова *баявая дубіна*, якую літоўцы называюць *мачуга* [5, с.56].

Высокай частотнасцю пры апісанні ўзбраення народных мас у творы адзначаюцца словы, якія актыўна ўжываюцца ў сучаснай мове, абазначаючы прадметы быту. Але ў гістарычны час, апісаны Л. Дайнекам, рэаліі, названыя гэтымі словамі, шырока выкарыстоўваліся ў якасці зброі. Менавіта са старажытным значэннем выкарыстоўвае пісьменнік слова *каса*: Шумны натоўп, узброены пераважна *косамі*, немагчыма было стрымаць [5, с.69]. Смерды рынуліся ва ўсе бакі, пачалі выдзіраць з зямлі сухія пні, махаць *косамі* [5, С.89]. Лексема *каса* як назва халоднай зброі ўжывалася не толькі ў помніках перыяду, адлюстраванага ў рамане, але і ў пазнейшы час. Узбраеннем народных мас з'яўлялася *каса* ў XIX ст.: «Мужык, пакуль здужае трымаці *касу* і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе» [1, с.217]. З такім значэннем гэта слова ўжывалася і ў творах пачатку XX ст.: «*Касу* ў шыйцы адагне, і насадзіць, і махне; Смерць таму, хто не сышоў: *Касой* рэзалі ўрагоў» [1, с.147].

Акрамя касы, народныя масы ўзброены ў рамане *віламі, доўбнямі, камянямі, бочкамі са смалою, парокамі (*каменямётныя машыны*), бярвеннямі, гаршкамі са смалой і агнём:* Смерды ішлі з *доўбнямі, віламі, косамі*. Але большасць мела толькі голыя кулакі [5, с.98]. Напасці на Леневардэн знянацку не ўдалося. Рыцары паспелі зачыніцца ў замку за каменнай сцяной і пачалі ярасную страляніну з арбалетаў. Але Вячка быў гатовы да гэтага – ягоныя людзі ў імгненне вока збудавалі заслоны з бярвенняў, за гэтымі заслонамі паставілі *парокі*... Потым у замак паляцелі *вогненныя бочкі са смалой* [5, с.269]. Воям вельмі мала ўдавалася адпачываць, бо Вячка разам са старэйшынам эстаў, маладым і маўклівым Меэлісам, вучылі іх рукапашнаму бою, вучылі адсякаць канцы штурмавых лесвіц, скідваць на галовы наступаючых *бярвенні, агромныя камяні, гаршкі са смалою* і *агнём* [5, с.284]. На тэўтонаў з вала пасыпаліся *каменні, гаршкі з агнём* [5, с.286].

Функцыя асобных вайсковых найменняў не абмяжоўваецца толькі тым, што служаць для рэалістычнага адлюстравання гераічных падзей пачатку XIII ст., для перадачы моўнага каларыту гэтага часу. Своеасаблівым з'яўляецца выкарыстанне пісьменнікам вайсковай лексікі ў якасці вобразных сродкаў мовы. Такім чынам, аўтар імкнецца не толькі да дакладнасці і праўдзівасці ў стварэнні малюнку мінулага, але і да мыслення намінацыямі той эпохі, якую апісвае. Найчасцей яркі запамінальны вобраз ствараецца Л. Дайнекам пры дапамозе параўнання, заснаванага на супастаўленні двух прадметаў па іх падабенстве. Аб'ектам параўнання ў большасці выпадкаў выступаюць *меч, кап'ё, шчыт, страла, лук*. Так, напрыклад, шляхам параўнання пісьменнік перадае ўнутраны стан праклятага сваёй сям'ёй і горадам забойцы Брацілы, які вярнуўся ў Кукейнос са здрадніцкай мэтай – разбіць гэты горад, знішчыць князя і княжых слуг: Брацілу нават падалося, што па левую руку бліснула Кокна, нібы вузкі халодны *меч* выцягнуў нехта з похваў і паклаў у начную чарнечу [5, с.18]. Сваім позіркам, як *кап'ём*, прабіваў ён [Брацiла] мяккае сэрца Сцегіса [5, с.20].

Надзвычай каларытнымі і адметнымі з'яўляюцца параўнанні, дзе суб'ектам параўнання выступаюць з'явы прыроды: Сонца, як маленькая распаленая грыўня, стаяла высока-высока ў небе, і ягоныя праменні, як вострыя залатыя *мячы*, рассякалі згусцелы ад спёкі блакіт [5, с.264]. З панылых тарфяных балотаў, з цёмных, залітых расой лясоў павольна ўсплывала сонца, як чырвоны, абпалены полымем бясконцых бітваў *шчыт* грознага бога Сварога [5, с.54]. Гэтая трава, доўгая, прамая, з калючымі пругкімі мяцёлкамі на самым версе, вельмі нагадвала *стрэлы* з *лука*, што ўпіліся ў зямлю [5, с.11].

Украпліваючы ў тэкст апавядання параўнанні такога кшталту, пісьменнік тым самым пастаянна трымае чытача ў той напружанай атмасферы барацьбы, на якую вельмі багата гісторыя нашага народа.

*Спіс літаратуры*


1. Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя: вучэб. дапаможнік. – Мінск, 1988. – 487 с.
2. Булыка, А.М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А.М.Булыка. – Мінск, 1972. – 384 с.
3. Булыка, А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV – XVII стст. / А.М.Булыка. – Мінск, 1980. – 256 с.
4. Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 340 с.
5. Дайнека, Л. Меч князя Вячкі; След ваўкалака: раманы. Для ст. шк. узросту / Л.Дайнека. – Мінск: Юнацтва, 1993. – 606 с.
6. Насовіч, І.І. Слоўнік беларускай мовы / І.І.Насовіч. – Мінск, 1983. – 792 с.
7. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: Т. 3. – Мінск, 1984.

УДК 811.161.3

**С.М.Аніськова** (Гомель)

# МЭТАФАРЫЗАЦЫЯ АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНАЙ ЛЕКСІКІ ЯК КРЫНІЦА ФАРМІРАВАННЯ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Развіццё інавацыйных тэхналогій, камп'ютэрызацыя грамадства, тэхнізацыя вытворчасці ва ўмовах паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу вымагаюць на лінгвістычным узроўні ўсё больш цеснага ўзаемадзеяння агульнаўжывальнай і тэрміналагічнай лексікі. Гэта ўзаемадзеянне адбываецца найперш у двух напрамках: або звычайная лексема ў выніку пераасэнсавання атрымлівае дакладную дэфініцыю і набывае статус тэрміна, або тэрмін, выходзячы за межы пэўнай тэрмінасістэмы, пачынае функцыянаваць у неспецыяльным кантэксце з нетэрміналагічным значэннем. Традыцыйна ў тэрміназнаўстве гэтыя ўзаемазвязаныя і ўзаемаабумоўленыя працэсы кваліфікуюць як тэрміналагізацыю і дэтэрміналагізацыю.

Мэта нашага артыкула – вызначыць асноўныя заканамернасці, з улікам якіх адбываецца тэрміналагізацыя. Для рэалізацыі гэтай мэты былі пастаўлены наступныя задачы: 1) прааналізаваць характар асацыятыўных сувязей, паводле якіх адбываецца пераасэнсаванне агульнаўжывальнай лексікі; 2) даследаваць лексіка-тэматычныя групы лексем, уключаных у працэс тэрміналагізацыі; 3) вызначыць віды адрозненняў паміж тэрмінаадзінкамі і зыходнымі найменнямі, на базе якіх адбываецца тэрмінаўтварэнне.

Пераасэнсаванне агульнаўжывальнай лексікі з'яўляецца адным з першасных кірункаў тэрміналагічнай намінацыі, таму што для выпрацоўкі ўласных (спецыфічных для тэрміналогіі ) словаўтваральных мадэлей і сродкаў неабходны пэўны час. Аб актыўнасці тэрміналагізацыі на пачатку станаўлення беларускай тэхнічнай тэрміналогіі сведчаць шматлікія прыклады са «Слоўніка тэхнічнай тэрміналогіі» А.Гурло (1932 г.в.): *барабан*, *вусік*, *галоўка*, *іголка*, *канал*, *крыло*, *лапатка*, *лябёдка*, *муфта*, *палец*, *паўзун*, *пята*, *сальнік*, *сядло (клапана)*, *ступняк = башмак*, *хамуцік*, *шпілька*, *шчака (мотыля).*

Тэрміны, якія ўзнікаюць у выніку пераасэнсавання агульнаўжывальных слоў, у сваёй семантычнай структуры змяшчаюць як агульныя з гэтымі словамі прыметы, якія ў лінгвістычнай літаратуры называюць інтэгральнымі, так і адрозныя, дыферэнцыяльныя, што абумоўлены спецыфікай прыроды тэрміна. Паводле суадносін паміж прыметамі тэрмінаадзінак і агульнаўжывальных лексем можна выдзеліць тры напрамкі тэрміналагізацыі: метафарычны перанос, метанімічны перанос, звужэнне значэння агульнаўжывальных слоў.

Мэтафарычны перанос, у аснове якога ляжыць «пераход назвы з аднаго аб'екта рэчаіснасці на другі на аснове пэўнага падабенства іх прымет» [1, с. 19], у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі прадстаўлены найбольшай колькасцю тэрмінаў.

У якасці інтэгральных характарыстык, паводле якіх адбываецца метафарызацыя, выступаюць:

а) форма: *барабан* – цыліндрычная частка шпіля, якая выкарыстоўваецца для ўладкавання швартоўнага троса < *барабан* – ударны музычны інструмент у выглядзе шырокага цыліндра; *бочка* – рачны буй, які па форме нагадвае бочку < *бочка* – вялікая цыліндрычная пасудзіна; *верацяно* – стальны стрыжань якара < *верацяно* – прылада... у выглядзе круглай драўлянай палачкі; *гняздо* – паглыбленне, у якое ўстаўляецца апора прыстасавання < *гняздо* – жыллё, зробленае птушкамі; *пяро* – частка руля ў выглядзе паваротнай вертыкальнай пласціны < *пяро* – рагавы стрыжань на скуры птушак;

б) функцыя: *адзенне* (берагавое) – надводныя і падводныя ўмацаванні берага < *адзенне* – вырабы з тканіны і пад., якія надзяюць на сябе; *бандаж* – накладны ліст для павелічэння трываласці корпуса тэхнічных прыстасаванняў < *бандаж* – спецыяльны пругкі пояс для падтрымання сценак жывата; *кажух* – пакрыццё з жалеза для ізаляцыі і засцярогі балера руля < *кажух* – верхняя вопратка; *сілкаванне* (рухавіка) – працэс, які забяспечвае нармальнае функцыянаванне рухавіка < *сілкаванне* – дзеянне паводле значэння дзеяслова сілкаваць і сілкавацца; *старэнне* (механізмаў) – непазбежнае пагаршэнне тэхнічных характарыстык пад уздзеяннем часу < *старэнне* – стан паводле значэння дзеяслова старэць. Функцыянальны перанос адны даследчыкі (М.І.Фаміна, А.В.Калінін) разглядаюць як разнавіднасць метафарычнага, а другія (А.А.Рэфармацкі) не адносяць да метафары на падставе таго, што метафарычны перанос, на іх думку, можа быць заснаваны толькі на чыста знешнім падабенстве. Мы лічым функцыянальны перанос разнавіднасцю метафарычнага.

в) месцазнаходжанне: *падэшва* – ніжняя частка прыстасаванняў < *падэшва* – ніжняя частка абутку; *шчака* – бакавая частка паверхні блока < *шчака* – бакавая частка твару;

г) дзеянне: *равун* – прыбор для падачы гукавых сігналаў < *равун* – разм. той, хто многа плача, раве (пра дзяцей); *сапун* – клапан у картэры рухавіка ўнутранага згарання < *сапун* – разм. той, хто цяжка дыхае, сапе; *паўзун* – дэталь механізмаў, якая слізгаецца ўзад і ўперад < *паўзун* – разм. той, хто не ўмее яшчэ хадзіць, поўзае (пра дзяцей). Як бачым,

«утварэнне тэрмінаў шляхам пераасансавання можа адбывацца на базе не толькі агульнаўжывальных слоў, нейтральных у стылістычных адносінах, але і размоўных» [2, с. 108];

д) характар руху транспартных сродкаў: *ракета* – пасажырскае судна на падводных крылах < *ракета* – лятальны апарат з рэактыўным рухавіком. Тут у аснове метафарычнага пераносу – падабенства ў спосабе руху судна на падводных крылах, якое як бы «ляціць» над вадой. Магчыма, у якасці дадатковай прыметы пераносу выступіла і форма названых рэалій;

ж) якасць: *жывучасць* – здольнасць транспартных сродкаў супрацьстаяць баявым і навігацыйным пашкоджанням < *жывучасць* – уласцівасць жывучага (пра чалавека або жывую істоту); *паваротлівасць* – здольнасць тэхнікі лёгка і хутка паварочвацца < *паваротлівасць* – уласцівасць паваротлівага (пра чалавека або жывую істоту). Тэрміны такога тыпу з'яўляюцца адначасова прыкладамі як метафарычнага пераносу на аснове падабенства па якасці, так і звужэння значэння. Такія намінанты разам з разгледжанымі раней тэрмінаадзінкамі *сілкаванне, старэнне* пацвярджаюць палажэнне В.П.Даніленка аб тым, што калі раней дэтэрміналагізацыі падлягалі ў асноўным прадметныя найменні, то ў сучасных галіновых тэрмінасістэмах выкарыстоўваюцца і тэрміны, якія ўзніклі ў выніку пераасэнсавання слоў з адцягненай семантыкай [3].

У тэрміналогіі сустракаецца таксама асобая разнавіднасць пераносу назваў, абумоўленая не падабенствам канкрэтных прымет, а «падабенствам эмацыянальных уражанняў ад названых паняццяў» [1, с. 21]: *барс* – спосаб зняцця судна з мелі хуткім рыўком < *барс* – буйны драпежнік сямейства катоў; *манішка* – сцяг белага колеру, які выкарыстоўваецца для сігналізацыі днём пры расходжанні ці абгоне суднаў < *манішка* – нагруднік, пераважна з белай тканіны... (як бачым, тут прыметамі пераносу таксама выступаюць асацыяцыі і колер); *пасынак* – частка мачты рачных суднаў, дзякуючы якой мачта здымаецца пры праходзе судна пад мастамі < *пасынак* – няродны сын... (агульная сема – няродны, дататковы); *шлейф* – паласа на вадзе ад руху судна < *шлейф* – доўгі падол жаночай сукенкі, які цягнецца ззаду (магчыма, тут у якасці прымет пераносу можна таксама разглядаць форму (доўгі) і месцазнаходжанне (ззаду)).

За аснову метафарычнага пераносу можа быць узята не адна прымета, а некалькі:

а) форма і месцазнаходжанне: *галава* (балера руля, шпіля, якара) – верхняя частка... акруглай формы < *галава* – верхняя частка цела чалавека; *рукаў* – адгалінаванне, якое адыходзіць ад галоўнага рэчышча ракі < *рукаў* – адзенне, якое пакрывае руку ці частку рукі; *крыло* (мосціка) – частка мосціка, якая выдаецца за яго межы < *крыло* – орган у птушак, насякомых, які служыць для лятання;

б) форма і функцыя: *калена* – асобнае злучэнне, звяно, адрэзак ў складзе чаго-небудзь, што з'яўляецца аб'яднаннем такіх адрэзкаў < *калена* – частка нагі, дзе злучаюцца бядровая і галеначная косці;

в) функцыя і месцазнаходжанне: *панцыр* – металічная абшыўка ваенных караблёў < *панцыр* – покрыва тулава ў некаторых жывёл; *пята* – ніжні край рангоўта, які з'яўляецца апорай < *пята* – задняя частка ступні;

г) форма, функцыя і месцазнаходжанне. На аснове пераносу гэтых прымет утвораны наступныя тэрміны: *(падводныя) крылы* – па форме нагадваюць крылы птушкі, размешчаны па абодвух баках судна, якое як бы «ляціць» над вадой з іх дапамогай; *рабро* – частка каркаса судна ў выглядзе дугападобнага элемента (агульная сема з рабром: дугападобная форма, месцазнаходжанне па абодвух «баках», засцерагальная функцыя).

У выніку метафарычнага пераносу на аснове падабенства некалькіх прымет узнік таксама тэрмін *кошка* як відавая назва якара, які, па-першае, мае чатыры лапы, па-другое, канцы лап загнутыя і завостраныя (як кіпцюры ў кошкі), па-трэцяе, пры дапамозе гэтых лап якар «зарываецца» ў грунт.

Цікава, што пры семантычным утварэнні тэрмінаадзінак перанос назвы можа адбывацца з улікам «не асноўных, а другасных прымет агульнаўжывальнага паняцця, якія з'яўляюцца важнымі для спецыяльнага паняцця [4, с. 42], напрыклад: *(паветраная) падушка* – слой сціснутага паветра паміж аснаваннем судна і яго апорнай паверхняй, які змяншае трэнне і гасіць вібрацыю. Прыметы паняцця, што абазначаецца агульнаўжывальным словам падушка: 1) частка пасцелі; 2) на падушку кладуць галаву; 3) падушка мяккая. Для пераносу назвы важна тое, што падушка з'яўляецца *мяккай* пракладкай *паміж* галавой і пасцеллю.

У тэрміналогіі воднага транспарту сустракаецца тэрмін *халасцяк* – адтуліна ў корпусе судна, зробленая пры яго збудаванні альбо рамонце, якая засталася нявыкарыстанай. Спосаб утварэння гэтага намінанта вызначаецца з большай ці меншай ступенню верагоднасці. Тэрмін мог узнікнуць шляхам метафарызацыі асабовай назвы халасцяк на аснове асацыяцыі. З другога боку, у тэхнічнай тэрміналогіі часта сустракаюцца комплексныя намінанты тыпу *халасты абарот, халасты ход, халасты шкіў*, дзе метафарызаваны азначальны кампанент мае семантыку «не звязаны з выкананнем карыснай работы», таму тэрмін *халасцяк* мог

утварыцца і ў выніку кандэнсацыі словазлучэння, дзе першы кампанент – *халасты*.

Агульнаўжывальная лексіка, якая ў працэсе тэрміналагізацыі паслужыла крыніцай узбагачэння навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, можа быць аб’яднана ў наступныя лексіка-тэматычныя групы:

1) асабовыя назвы: *паўзун, равун, сапун, халасцяк;*

2) саматычныя: *галава, калена, падэшва, пята, скула, шчака;*

3) заасемічныя: *барс, кошка, крыло, панцыр;*

4) прадметна-бытавыя: *бочка, верацяно, падушка;*

5) назвы адзення і яго частак: *кажух, манішка, пояс, рукаў, муфта, шлейф;*

6) намінанты лятальных апаратаў: *ракета*;

7) найменні музычных інструментаў: *барабан*;

8) намінанты пабудоў і іх частак: *арка, мосцік*.

Удзел у тэрмінаўтварэнні прымаюць не толькі словы так званай канкрэнай лексікі. «Дастаткова актыўныя і лексемы з адцягненай семантыкай, якія, у адрозненне ад канкрэтнай лексікі, класіфікаваць па групах цяжка» [4 с. 41]: *аўтаномнасць, жывучасць, паваротлівасць, сілкаванне, старэнне*.

Наяўнасць дыферэнцыраваных прымет у семантычнай структуры тэрмінаў, якія ўзнікаюць шляхам пераасэнсавання агульнаўжывальных слоў, прыводзіць да наступных адрозненняў тэрмінаадзінак ад зыходных лексем, на базе якіх адбываецца тэрмінаўтварэнне:

1) новая дыстрыбуцыя [1, с. 22; 2, с. 107]: *галава* (балера руля) – *галава* (ясная), *муфта* (гумавая, жалезная, злучальная, зубчатая, кулачковая, шарнірная) – *муфта* (прыгожая, цёплая), *пояс* (бартавы, бранявы, днішчавы, скулавы) – *пояс* (прыгожы, матулін, чырвоны), *старэнне* (дэталі, механізма) – *старэнне* (чалавека);

2) лексікалізацыя дэмінутываў [4, с. 43]: *баранчык, бародка, мосцік*.

Цікава, што агульнаўжывальныя словы, аб’яднаныя ў пару па прынцыпе «нейтральнае – памяншальнае», у якасці тэрмінаў могуць з’яўляцца назвамі розных паняццяў: *лапы* – часткі якара, *лапкі* – разгалінаваныя канцы снасці;

3) страта катэгорыі адушаўлёнасці. Зразумела, гэта з’ява назіраецца пры пераўтварэнні заасемічных назваў у тэрміны: *карміць кошак – кінуць кошкі*;

4) афіксальнае адрозненне ў структуры тэрміна і агульнаўжывальнага слова: *астойлівасць* – здольнасць судна захоўваць раўнавагу пры плаванні, *устойлівасць* – уласцівасць устойлівага;



5) розныя словаўтваральныя магчымасці тэрміналагічнай адзінкі і агульнаўжывальнага слова: *скула* – выгіб корпуса судна ў тым месцы, дзе борт, закругляючыся, пераходзіць у днішча, *скулавы* – які мае адносіны да скулы (*скулавы пояс карабля*); *скула* – парная костка чэрапа, *скуласты* – з пукатымі скуламі (*скуласты твар*).

Думаецца, што адзначаныя адрозненні паміж тэрмінамі і агульнаўжывальнымі словамі, на базе якіх гэтыя тэрміны ўзніклі, сведчаць у большай ступені на карысць аманіміі, а не полісеміі. Аднак сцвярджаць гэта адназначна было б некарэктна, паколькі праблема надзвычай складаная. Як вядома, адным са шляхоў утварэння амонімаў з’яўляецца «разыходжанне значэнняў мнагазначнага слова» [5 , с. 21], але, зразумела, ступень разыходжання можа быць больш ці менш значнай. Дзе мяжа, за якой дакладна ўзнікае амонім? Чаму, напрыклад, *бык* – ... жывёла... (ТСБМ, 1, 429) і *бык* – перамежкавая апора маста (звычайна ўжываецца форма мн. л. – быкі (там жа)) – амонімы, а *кошка* – ...жывёла... (ТСБМ, 2, 718) і *кошка* – прыстасаванне ў выглядзе якара з трыма ці больш кручкамі для падымання прадметаў з-пад вады (там жа) – мнагазначнае слова?

Такім чынам, аналіз фактычнага матэрыялу дазваляе зрабіць наступныя высновы: 1) тэрміналагізацыя з’яўляецца актыўнай крыніцай папаўнення тэрміналагічнага фонду ў навукова-тэхнічнай сферы; 2) метафарычны перанос вызначаецца найбольшай прадуктыўнасцю ў працэсе пераасэнсавання агульнаўжывальнай лексікі; 3) найчасцей у аснове асацыятыўных сувязей, паводле якіх узнікае тэрмін, – падабенства па форме; 4) метафарызацыя можа адбывацца з улікам не адной, а некалькіх прымет адначасова; 5) агульнаўжывальная лексіка, уключаная ў працэс тэрміналагізацыі, рэпрэзентуецца разнастайнымі лексіка-тэматычнымі групамі, сярод якіх вядучую ролю адыгрываюць саматычныя і прадметна-бытавыя найменні; 6) пераасэнсаванню могуць падлягаць як намінацыі з канкрэтным значэннем, так і словы з адцягненай семантыкай; 7) тэрміны, што ўзніклі на базе агульнаўжывальных лексем, валодаюць шэрагам адрозных уласцівасцей, што абумоўлена адметным характарам тэрміналагічнай намінацыі.

*Спіс літаратуры*


1. Прохорова, В.Н. Лексико-семантическое образование русской терминологии: автореф ...дис. д-ра филолог. наук: 10.02.01 / В.Н. Прохорова; МГУ. – М., 1983. – 33 с.

2. Кутарева, Л.В. Из наблюдений над техническими терминами, образованными путем переосмысления общенародных слов // Вест. ЛГУ. Сер 2. – 1979. – Вып. 3. – С. 106 – 109.

3. Даниленко, В.П. Русская терминология: Опыт лингвистического описания / В.П. Даниленко. – М.: Наука, 1977. – 246 с.
4. Прохорова, В.Н. Тематические группы лексики русского языка и терминообразования // Славянская филология. – М.: Изд-во МГУ, 1979. – С. 39 – 45.
5. Красней, В.П. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія: вучэб. дапам. / В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова – Мінск: Універсітэцкае, 1984. – 175 с.

УДК 811.161.3

**С.В.Асабіна** (Гродна)

## АЦЭНАЧНАЯ СТЫЛІСТЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ І ПРЫКАЗАК (НА ПРЫКЛАДЗЕ ТВОРАЎ МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА)

У творах М. Лынькова, як і ў творах іншых аўтараў, фразеалагізмы выконваюць шматлікія і разнастайныя стылістычныя функцыі узуальнага і аказіянальнага характару. Да ліку узуальных адносяцца: намінатыўная функцыя, функцыя лаканізацыі маўлення, функцыя вобразнага выказвання, ацэначная, эмацыянальная і экспрэсіўная функцыі. Тут спынімся толькі на адной з гэтых функцый – ацэначнай, сутнасць якой праяўляецца ў здольнасці фразеалагізмаў і прыказак даваць станоўчую ці, часцей, адмоўную ацэнку асобе або прадмету. Ацэначныя фразеалагізмы як дзейсны сродак характарыстыкі персанажаў выкарыстоўваюцца разнапланава:

1) як аўтарская ацэнка; напрыклад: «Цяпер ён быў у гітлераўцаў *правай рукой*» [1, т. 7, с. 319]; «Слухаў [Мірон] і ўсё сіліўся дапяць, куды горне субяседніца, бо дарма яна *мяніць языком* не любіла» [1, т. 5, с. 250];

2) пры характарыстыцы героя іншымі героямі: «Хлопцы там во! Ім, брат, *пальца ў рот не кладзі*. Баявыя, нічога пра іх не скажаш» [1, т. 4, с. 547]; «Чытай, *Фама* ты *няверны*...» [1, т. 5, с. 31]; «Дурань ты ёсць, чысты нават дурань, вельмі нават проста! *Ні рыба ні мяса*» [1, т. 4, с. 245]; параўн. таксама ў няўласна-простай мове: «І ўспомніў Васька, як хадзіў ён учора з Насцяй па свой заробак да гаспадара. Знікіціўся той, збедніўся, ну проста *сірата казанская*, – якія ў яго грошы, калі вайна, разруха» [1, т.1, с. 419];

3) пры самахарактарыстыцы персанажа: «Што ні кажыце, а супернік быў сур'ёзны, падарункі рабіў і ўсё такое іншае. Пад'язджаў усё… Але ж і я *не лыкам шыты*» [1, т.4, с.365]; «Трэба было і мне хоць на гэты раз даведацца Ташкента, але ж споўдаюся *як Марка па пекле*» [1, т. 8, с. 78]. Дзеяслоўныя выразы з адмоўна-ацэначным значэннем звычайна не ўжываюцца ў форме 1-й асобы, бо «чалавек у сілу розных прычын, галоўным чынам этычных, не можа сам сабе даваць ацэначную характарыстыку» [2, с. 46]. Аднак параўн. прыклад з рамана «Векапомныя дні», дзе партызан Дубок, якому надакучыла сядзець у лесе і хочацца на фронт, скардзіцца дзеду Сымону: «Сумна, дзед, сумна... Нашы там кроў праліваюць, ваююць, а я тут *лынды б'ю*, па завуголлю аціраюся, каб яны спарахнелі» [1, т. 4, с. 77].

Пытанне пра наяўнасць ацэначнасці ў сэнсавай структуры многіх фразеалагізмаў закраналі шмат якія даследчыкі. Напрыклад, Ф.Янкоўскі выразы з ацэначным значэннем, якія «не так называюць, як ацэньваюць, характарызуюць прадмет», кваліфікуе як фразеалагізмы-характарыстыкі і паказвае, што яны «найчасцей трапляюцца сярод найменных фразеалагізмаў – назоўнікавых і прыметнікавых» [3, с. 144–146]. Паводле В.А. Лебядзінскай, ацэначнымі могуць быць і дзеяслоўныя фразеалагізмы, якія «часцей за ўсё ўжываюцца ў форме 3-й асобы, бо характарыстыка звычайна даецца з боку» [2, с. 45].

Грунтоўны аналіз ацэначных фразеалагізмаў зроблены ў працах У.П. Жукава [4, с. 3–17; 5, с. 57–69]. Тут паказана, што гэтым значэннем устойліва, пастаянна, незалежна ад умоў кантэксту валодаюць многія назоўнікавыя і прыметнікавыя фразеалагізмы, якія пры гэтым выступаюць у ролі іменнага выказніка (*кроў з малаком* – 'вельмі прыгожы', *скура ды косці* – 'вельмі худы, змарнелы'), а таксама некаторыя па форме дзеяслоўныя выразы з паслабленымі трывальна-часавымі ўласцівасцямі, г.зн. выразы, пры якіх можна паставіць пытанне «які прадмет?» і ў якіх прыметнікавае значэнне пераважае над дзеяслоўным (*пальчыкі абліжаш* – 'вельмі смачна, прыемна' і 'вельмі добры, прывабны'; *пальца ў рот не кладзі* каму –'хто-небудзь такі, што можа пастаяць за сябе, з кім трэба быць асцярожным').

Маўленчая практыка М. Лынькова пацвярджае, што вельмі многія такія фразеалагізмы выконваюць ацэначную функцыю, спецыялізуючыся ў сказе ў якасці іменнага выказніка: «– Аднак, дзед, ты *востры на язык*, у гэтым табе не адмовіш… – праказаў Цайт, каб неяк змякчыць дзеда ліслівасцю» [1, т. 5, с. 338]; «Пагараваў чалавек без свае песні, гады з два хадзіў *як у ваду апушчаны*» [1, т. 5, с. 485]; «Гэта ж трэба так напужаць мяне! Я сена бяру, а ён *як з неба зваліўся*…» [1, т. 4, с. 58]; «У наш час… партызаны – *пусты гук*, ілюзія, ну, калі хочаце, прапаганда» [1, т. 4, с. 603]. Фразеалагізм *так сабе* мае некалькі значэнняў, і толькі ў трэцім ён выступае ў функцыі выказніка ці азначэння і абазначае 'ні добры і ні дрэнны, сярэдні; такі, што нічым асаблівым не вылучаецца': «*Так сабе* чалавек – хата там у яго ды ўслон які, а тут жа як выступае…» [1, т. 3, с. 418].

Такія выразы, з ярка выражанай ацэначнасцю, выступаюць яшчэ ў якасці зваротка: «Я табе пакажу партыю, *сукін сын*. Бачыш ты яго. Колькі разоў пад'язджае з такой гаворкай!» [1, т. 4, с. 345]; «– Ды ціха ты, *воўчае мяса*! – вылаяўся ён, не выпускаючы аброці з рук» [1, т. 5, с. 150]; «Ну што ж, змуціў, *нячысты дух*, дзяўчыну, цяпер суцяшай ідзі» [1, т. 3, с. 383].

Калі ж назоўнікавыя фразеалагізмы з ацэначным значэннем ужываюцца ў ролі дзейніка або дапаўнення, то перад імі абавязкова ставіцца які-небудзь займеннік-канкрэтызатар (*гэты, такі, нейкі, усякі* і пад.); напрыклад: «Тут доктар даў волю сабе ў дачыненні да Любкі, якую ён даўно ўзненавідзеў за характар, за легкадумнасць, за зняважлівасць да яго прафесіі, урэшце да прафесіі яе бацькоў, людзей сталых, сур'ёзных. Вось жа выpy дзіцца такая *чортава лялька*!» [1, т. 4, с. 122]; «Ідзі, кажа, Палажка, да таго *гада печанага*,.. дайся ў знакі яму, каб ён ведаў, як з маім родным дзіцём абыходзіцца…» [1, т.3, с.548]; «– Воля ваша, – кажа гэты *чорт лысы*, – закон ёсць закон» [1, т. 7, с. 257]. «Мы працуем, працуем, а нейкая *нячыстая сіла* псуе ўсю нашу працу» [1, т. 4, с. 393]; «Вырашэнню гэтага канфлікту аўтар надае выключнае значэнне і па меры сіл і магчымасцей падаграває вакол яго ўсякія «*страсці-мардасці*», ператвараючы гэты канфлікт ледзь не ў трагедыю» [1, т. 6, с. 454].

Прыказкі, што выконваюць ацэначную функцыю, як і фразеалагізмы, найчасцей выражаюць адмоўную ацэнку і маюць пераважна суб'ектную накіраванасць. Так, выкарыстанне прыказкі *Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць* паказвае на абыякавыя стасункі героя «Векапомных дзён» да хворых: « – Ну, што ж, таварышы, абяцаю вам усякую дапамогу… – і Саколіч хацеў развітацца з хворымі. – *Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць*… – адпаліла тут Насця» [1, т. 4, с. 357]. Прыказкі *Сабаку і сабачая смерць* (2 ужыванні) ('гаворыцца з пагардай пра дрэннага чалавека, які заслужыў пакараннне смерцю') і *Як ваўка ні кармі, а ён у лес глядзіць* ('як ні старайся перамяніць сутнасць чалавека, яго прывычкі, якасці, яны абавязкова праявяць сябе') ужо ў самой сваёй аснове ўтрымліваюць адмоўную ацэнку, а ўжываючыся ў кантэксце, яшчэ ў большай ступені праяўляюць пагардлівыя адносіны да герояў: «Прысмірэлыя, прыціхлыя, сядзелі гітлераўцы. – Ну што ж, *сабакам і сабачая смерць*… – сказаў нехта з людзей» [1, т. 5, с. 662]; «Аказваецца яшчэ раз правільнай… прыказка: *як ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць*» [1, т. 8, с. 57].

*Спіс літаратуры*

1. Лынькоў, М. Поўны збор твораў. У 8 т. / М. Лынькоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981 – 1985. – Т. 8.

2. Лебединская, В.А. К вопросу о стилистическом использовании 1-го лица глагольных фразеологизмов (на материале произведений и писем А.П. Чехова) / В.А. Лебединская // Уч. записки Свердловского ГПИ. Сб. 97: Вопросы лексикологии. – Свердловск, 1969. – С. 45 – 48.

3. Янкоўскі, Ф.М. Беларуская мова / Ф.М. Янкоўскі. – 3-е выд., дапрацав. – Мінск: Вышэйшая школа, 1978. – 336 с.

4. Жуков, В.П. О фразеологизмах с оценочным значением / В.П.Жуков // Уч. записки Новгородского гос. пед. ин-та. – Новгород, 1967. – Том 12. Вопросы фразеологии и грамматики русского языка. – С. 3 – 17.

5. Жуков, В.П. Семантика фразеологических оборотов / В.П. Жуков. – М.: Просвещение, 1978. – 160 с.

УДК 811.161.3

**А.М. Асіпчук** (Гродна)

## АНТОНІМЫ-НАЗОЎНІКІ ЯК АДЗІН СА СРОДКАЎ ВЫРАЗНАСЦІ Ў ТВОРАХ НІЛА ГІЛЕВІЧА

Імя Ніла Гілевіча, беларускага паэта, фалькларыста, перакладчыка, заслужанага дзеяча навукі, палымянага прамоўцы, мужнага патрыёта, вядома далёка за межамі Беларусі. Нашы суайчыннікі па праву ганарацца адным з найлепшых сыноў сваёй зямлі.

Шматграннасць асобы Ніла Гілевіча, безумоўна, знайшла адлюстраванне ў творчасці, найперш у паэзіі. Матывы, якія гучаць у вершаваных радках песняра, зразумелыя і блізкія многім, таму што ідуць ад сэрца, кранаюць самыя патаемныя струны чалавечай душы.

У адпаведнасці з выбранай тэмай, сюжэтам аўтар уважліва і адказна падыходзіць да адбору моўных сродкаў, сярод якіх пэўнае месца адводзіцца антонімам, у прыватнасці, антонімам-назоўнікам.

Так, кожная пара антонімаў выконвае пэўную стылістычную функцыю. Як слушна заўважае Л.А. Новікаў, «супрацьлегласці могуць у тэксце не толькі супрацьпастаўляцца, але і складвацца, спалучацца, а таксама супастаўляцца, раздзяляцца, чаргавацца, параўноўвацца, дапаўняць адна адну і г. д.» [1, с. 229]. Выдзяленне і аналіз стылістычных фігур праводзіліся на аснове значэння антанімічнага кантэксту.

Як сведчыць фактычны матэрыял, са 108 антанімічных параў, заснаваных на антаніміі назоўнікаў, 57 пабудаваны на *антытэзе*, асноўным прызначэннем якой з'яўляецца «супрацьпастаўленне супрацьлеглых, кантрастных па сваім значэнні слоў (шырэй – вобразаў)» [1, с. 248]. Найбольш пашыранай з'яўляецца простая неразгорнутая антытэза, выражаная як лексічнымі, так і граматычнымі антонімамі-назоўнікамі: *Мір* на зямлі даўно, а ў іх у сэрцы яшчэ смыліць, яшчэ грыміць *вайна* [2, с. 244]; Брава! Колькі *набытку* без

*страты*! Мова нам ні к чаму сапраўды, Калі рот будзе справай заняты – Цэлы дзень будзе повен яды [3, с. 131]; *Гора* ў прорву нябыту сплыло. *Шчасце* зведалі дзеці. Толькі б ціха на свеце было, толькі б ціха на свеце [2, с. 39]; Бухгалтар-крытык дзівіцца з балансу: На кожную *удачу* – сем *няўдач* [2, с. 3]; Дабранач, Зося!.. Хай вам спіцца соладка! А да мяне не прыйдзе *сон* мой сёння, А прыйдзе біць у скроні гулкім молатам Вялікае, шчаслівае *бяссонне*! [4, с. 92].

Аднак пераважную большасць стылістычных фігур, заснаваных на антытэзе, складаюць кантэкстуальныя антонімы-назоўнікі, якія з'яўляюцца сапраўднай аўтарскай знаходкай. Напрыклад: Я да цябе звяртаю слова: Ты паглядзі на тых між нас, Каму дзяржавы нашай мова – *Кусок руды*, а не *алмаз* [3, с. 122]; Не думай, Што гэта імгненне Было не нашым з табою, А толькі маім, Што я – *пагарэлец*, А ты – *херувім* [3, с. 79]; Мог сто кашуль шаўковых мець, А ён сказаў: «Не трэба! Ці ж я магу *шаўкі* надзець, Калі на іншых – *зрэб'е*?» [2, с. 41]; І вас, сябры, браты і сёстры, Вас, да чыіх асмяглых душ Яно спяшаецца праз вёрсты Данесці праўду вольных дум, – Вітаю шчыра, незмусова І зычу ўсім: што моцы ёсць – Трымайце ў славе наша слова: Яно *ўладар* тут, а не *госць*! [5, с. 54]; Народ! Калі ты ёсць *народ*, А не бязвольны *раб* дармовы – Не дай пусціць сябе на звод: Не выракайся роднай мовы! [5, с. 59]; За ўсе свае памылкі і грахі Перад людзьмі і Богам, За тое, што, нібы сляпы-глухі, З *анёлам* блытаў *погань* – Кускамі сэрца кожны дзень плачу [5, с. 35].

Разгорнутая антытэза сустракаецца значна радзей: Распадаецца грамадства. Скрэпы трэскаюцца скрозь. *Згода-еднасць* – толькі маска, Пад якой – *нянавісць-злосць* [3, с. 86]. Часам антытэза будуецца па прынцыпе паралелізму (паўтарэнне аналагічных структур): І не верце, ашчасліўленыя «роўнасцю», Калі хтосьць, апрацаваны прапагандай, Скажа вам, што вы ўраўнялі *Гонар* – з *ганьбай*, *Годнасць* – з *подласцю*, *Сумленне* – з *бессаромнасцю*. Так сказаць пра вас, Забыўшы, хто і дзе мы, Могуць толькі недабітыя нацдэмы [5, с. 35]. Прыкладам таму можа служыць і верш «Ісціна, адвечная, як свет…», дзе паэт па-філасофску разважае аб нашым жыцці, якое складаецца з супрацьлеглых (але не супярэчлівых) праяў чалавечага існавання:Ісціна, адвечная, як свет: *Шчасце* ходзіць толькі ў пары з *горам*. За *надзеяй* – *боль зняверу* ўслед. За *пашанай* – *прыніжэння сорам*. За *святлом знаходкі* – *горыч страты*, За *агнём любві* – *разлукі снег*. За *абдымкамі* – *падножка здрады*…Ісціна, адвечная, як свет [4, с. 37]. У дадзеных выпадках паралелізм дасягае ў антытэзе большай сілы, паколькі спалучаецца з лексічным паўторам у выглядзе пачатковых прыназоўнікаў *з* і *за*.



На другім месцы па частаце ўжывання пасля антытэзы знаходзіцца фігура *злучэння (амфітэза)*, асноўны сэнс якой заключаецца ў «складанні» супрацьлегласцей да агульнага цэлага. Значэнне антанімічных кантэкстаў пры гэтым з'яўляецца сінанімічным словам *усе*, *усё*, *заўсёды*, *поўнасцю* і пад. Напрыклад: Чытач! А можа – не прыдумаў? А – толькі кінуў свой пагляд на сутнасць *радасці* і *суму*, З якіх сатканы побыт-лад? [4, с. 107]; І зноў і зноў там, ледзь сцямнее ў полі, Хаджу, як прывід, з *вечара* да *ранку* – Ўсё запаветную шукаю брамку У тым сяле, дзе я не быў ніколі [2, с. 155]; Дзе ж ты дзелася, пушча? У палац твой зялёны І *спякотай* і *сцюжай* Я прыносіў паклоны [2, с. 13]; Эгаізм – чалавечых душ іржа. Што там еднасць таварыская святая? Мы і з *сябрам*, мы і з *д'яблам* на нажах, Калі рыбка не паслужыць залатая [6, т. 1, с. 303] і інш.

Ужывае Ніл Гілевіч у сваіх творах і фігуру *нейтралізацыі (дыятэзу)*, сутнасць якой заключаецца ў тым, што антонімы-назоўнікі не супрацьпастаўляюцца, а адмаўляюцца, нейтралізуюцца. Я – не *Хрыстос*, о не! Але й на *Юду* Я не гаджуся – не з яго радні. Чаму ж, за што ж усё жыццё паўсюду Я мушу чуць: «Распні яго! Распні!» [3, с. 46]; Не знаю, хто на борце карабля, хто ў гэты час стаіць каля руля, Не чуў пра іх ні *ганьбы*, ні *пахвал*, Але мне ўсё сказаў Дзевяты вал [6, т. 1, с. 128]; О, краю родны! Чым стрымаеш, Адвернеш лёс свой ад пятлі, Калі заступніка не маеш Ні ў *небе* ты, ні на *зямлі*?» [4, с. 259].

Даволі часта сустракаецца ў творах паэта фігура *раздзялення*, структурная формула якой «x або y», «x ці y», «ці x, ці y»: У школе, тэатры і з кожнай трыбуны – Хай чуюцца нашы пявучыя гукі. Ад сэрца да сэрца – ці *свята*, ці *будні* – Ідзі, мая мова, ідзі без прынукі! [4, с. 25]; Дзецям нашым, самым блізкім кроўна, Мы даём жыццё навечна ў дар. І для іх далёка не ўсё роўна, Хто іх бацька: *раб* або *змагар* [6, т. 1, с. 162]; Сябры мае, я ведаю і сам, Што быў бы сорам – у палоне страху Гадаць, чаго: якіх *уцех* ці *драм* Чакаць мне трэба на астатку шляху [5, с. 66] і інш.

Для паказу пераходу адной супрацьлегласці ў другую выкарыстоўваецца аўтарам фігура *пераўтварэння*. Напрыклад: Аптымісты мы, відаць, па духу, Калі ў вечнай з лёсам барацьбе Ухітраемся свой *сум* і *скруху* Абярнуць у *радасць* для сябе [6, т. 1, с. 338]; І звыклы *парадак*, і звыклы спакой – Усё абярнула *хаосам*, Дзе сэнсу і логікі, ну, ніякой – на наш недарослы розум [4, с. 74]; Які ганебны пераход, Ад *велічы* і *чыннасці* – Да чорнай *роспачы згрызот*, Да *нэндзы* і *нішчымнасці* [3, с. 98].

Зафіксаваны і адзінкавы выпадак стылістычнай фігуры *супярэчнасці*, пабудаванай на антаніміі назоўнікаў. Сэнс яе заключаецца

ў падкрэсленым выражэнні супярэчлівай сутнасці той ці іншай з’явы рэчаіснасці. Прыкладам могуць служыць наступныя радкі: Усё адносна. Усё – у дыялектыцы. І так адвеку на зямлі было: Тым самым лечацца, чым і калечацца, Бо ў *зле дабро* ёсць, а ў *дабры* ёсць *зло*! [6, т. 2, с. 214].

Як відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў, агульным для ўсіх стылістычных фігур з’яўляецца тое, што іх утвараюць антонімы-назоўнікі. Адрозніваюцца яны па сваім асноўным змесце і будове канструкцыі.

Па-майстэрску ўжытыя антонімы-назоўнікі разам з іншымі мастацкімі сродкамі надаюць мове твораў Ніла Гілевіча трапнасць, яркасць, непаўторную вобразнасць.

*Спіс літаратуры*

1. Новиков, Л.А. Антонимия в русском языке (Семантический анализ противоположности в языке) / Л.А. Новиков. – М.: Изд-во Москов. ун-та, 1973. – 290 с.

2. Гілевіч, Н.С. Лісце трыпутніку. Выбраныя творы / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Беларусь, 1968. – 254 с.

3. Гілевіч, Н.С. На высокім алтары. Новая кніга паэзіі / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Маст. літ., 1994. – 142 с.

4. Гілевіч, Н.С. Вечны матыў: Лірыка, паэмы, раман у вершах / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Юнацтва, 1994. – 271 с.

5. Гілевіч, Н.С. Збор твораў. У 6 т. Т. 3. Вершы і паэмы 1993 – 1999 / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Маст. літ., 2001. – 350 с.

6. Гілевіч, Н.С. Выбраныя творы. У 2 т. / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Маст. літ., 1981. – Т. 1 – 462 с., Т. 2 – 366 с.

УДК 811.161.3 + 811.161.1 + 811.162.1

**Г.У. Аўчыннікава** (Гродна)

## НАЙМЕННІ АСОБЫ ПАВОДЛЕ ПРАФЕСІЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ І РАМЁСТВАЎ – ДЭРЫВАТЫ З СУФІКСАМІ *-НІК* /*-НИК*/ *-NIK* – У БЕЛАРУСКАЙ, РУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОВАХ

Найменні асобы паводле роду дзейнасці – гэта значны пласт слоўніка кожнай мовы. Намінацыі паводле прафесіі і рамёстваў складаюць частку яго.

Намінацыі паводле прафесіі – гэта назвы асобы паводле такой працоўнай дзейнасці, якая з’яўляецца крыніцай сродкаў для існавання і «патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі» [1, с.381], у адрозненне ад найменняў паводле роду заняткаў ці рамёстваў. Апошнія таксама крыніцы заробку, але гэтая дзейнасць звязаная толькі з асабістым майстэрствам рамесніка.

Назвы асобы паводле прафесіі і рамёстваў ствараліся ў розны час, таму яны нярэдка адрозніваюцца паміж сабой у дэрывацыйных дачыненнях. Найменні паводле прафесіі вылучаюцца сярод іншых назоўнікаў гэтай семантычнай падгрупы шэрагам словаўтваральных асаблівасцяў. На сучасным этапе прадукцыйнасць маюць у беларускай мове *-чык/-шчык/-льшчык*, у рускай – *чик/-щик/-льщик*, у польскай – *-arz* і *-acz*. Праўда, выкарыстоўваюцца і іншыя суфіксы, адзін з якіх – уласцівы тром названым мовам *-нік*/*-льнік/-ник/-льник*/*-nik*. Сярод намінацыяў у сферы рамёстваў назоўнікі на *-нік*/*-льнік/-ник/-льник*/*-nik* займаюць больш значнае месца.

Суфікс *-нік*/*-льнік/-ник/-льник*/ *-nik* з’яўляецца адным з універсальных фармантаў: ён здольны далучацца да розных асноваў у рускай, беларускай і польскай мовах. Гэты фармант не спецыялізуецца менавіта на ўтварэнні намінацыяў асобы паводле прафесійнай дзейнасці [2, с.54], але, паводле Г.А. Арцямёнка, функцыя ўтварэння назваў асобы паводле прафесіі была характэрнай для суфікса *-нік/-льнік* і ў 19 стагоддзі: «Самую вялікую семантычную групу складаюць назвы асобы паводле прафесіі альбо занятку: *акцызникъ*, *арганникъ*, *крамникъ*» [3, с.14]. Г.А. Арцямёнак адзначае, што *-нік* больш прадукцыйны ў 19 стагоддзі, чым *-шчык*.

На сучасным этапе ў беларускай мове паралельна існуюць аднакаранёвыя ўтварэнні з *-нік* і *-чык* (*пазалотнік* і *пазалотчык*), назіраецца «вяртанне» некаторых назоўнікаў з *-нік/-льнік* у сучасную беларускую мову, звязаная з пурыстычнымі тэндэнцыямі замена гэтымі фармантамі пазычаных *-чык/-шчык/-льшчык*. Але сярод назваў асобы паводле прафесіі такія змены яшчэ вельмі нязначныя, у прыватнасці, гэта рэдка засведчана ў слоўніках.

Што да польскай мовы, то там суфікс *-nik* актыўна ўдзельнічае ў словаўтварэнні, але некаторыя з назоўнікаў, што існавалі ў 19 стагоддзі, пазней выйшлі з ужытку, а ў многіх утварэннях фармант *-nik* быў заменены на больш прадукцыйны *-c-a* [4, с.345].

Утварэнні з суфіксамі *-нік*/*-льнік/-ник/-льник*/*-nik* сустракаюцца сярод найменняў усіх сфераў прафесійнай дзейнасці чалавека: вытворчай, невытворчай, сферы абслугі, аднак іх колькасць ў розных семантычных падгрупах неаднолькавая.

Гэта пацвярджаецца матэрыяламі, выбранымі з наступных слоўнікаў: «Польска-беларускі слоўнік» (Мінск, 2004), «Беларуска-рускі слоўнік» (Мінск, 2003). Крыніцай польскіх адэкватаў да беларускіх і рускіх назоўнікаў стаў таксама «Słownik języka polskiego» (Warszawa, 1978).

Сярод найменняў у сферы **прамысловасці** ў беларускай мове назоўнікі з суфіксам *-нік/-льнік* займаюць другое паводле колькасці месца (пасля намінацыяў з *-чык/-шчык*): *гартавальнік, змотвальнік, нітачнік, пазалотнік* і інш. – каля 4 %. У рускай мове з найменняў названай падгрупы гэты суфікс маюць каля 2 % найменняў. Што тычыцца польскіх намінацыяў, іх колькасць складае 6 % ад агульнай колькасці назоўнікаў названай падрупы: *walcownik, gazownik, hartownik, lakiernik, hutnik, odlewnik*.

Найчасцей (у 53 % выпадках) рускамоўнымі эквівалентамі беларускіх назоўнікаў выступаюць утварэнні на *-ник*: *шклярусніk – стеклярусник, станочнік – станочник, нітачнік – ниточник* ды інш. Усе беларуска-рускія эквіваленты – адсубстантыўныя дэрываты, акрамя аддзеяслоўнага *расточнік* (*расточник*). Аддзеяслоўныя і адсубстантыўныя беларускія ўтварэнні маюць у рускай мове адпаведнікі з фармантамі *-чик*/*-щик*: *змотвальнік – смотчик; пазалотнік – позолотчик, золотильщик, золотчик; плытнік – плотовщик, сплавщик; сартавальнік – сортировщик.* Хоць у беларускай і польскай мовах больш найменняў на *-нік*/*-nik*, чым у рускай, часцей за ўсё польскамоўныя эквіваленты беларускіх назоўнікаў – гэта дэрываты з суфіксамі *-arz, -acz,* напрыклад: *нітачнік – niciarz, гартавальнік – hartowacz, сартавальнік – sortowacz, цэментнік – cemenciarz, сетачнік – siatkarz,* радзей – утварэнні на *-nik, -ec, -ak*: *станочнік – warsztatoweic, гартавальнік – hartownik, панчошнік – pończosznik, плытнік – flisak.*

Сярод намінацыяў у галіне **сельскай гаспадаркі** назвы асобы з суфіксам *-нік* займаюць у беларускай мове 4 месца паводле колькасці. Суфікс *-нік/-льнік* у беларускай мове мае 9 % назоўнікаў (у рускай мове гэты фармант уласцівы таксама 9 % утварэнняў, якія з’яўляюцца эквівалентамі беларускіх дэрыватаў на *-нік*): *птушнік – (рабочий) птичник, рыбнік – (специалист по рыбоводству) рыбник, садоўнік – садовник, огородник, овощевод – агароднік*. Гэта адсубстантыўныя дэрываты. У польскай мове ім таксама адпавядаюць найменні з *-nik*. Суфікс *-nik* уласцівы 11 % польскамоўным назоўнікам гэтай падгрупы: *sternik, warzywnik, pasiecznik, ogrodnik, sadownik*.

Няшмат назоўнікаў на *-нік(-ник, -nik)* і ў галіне будаўніцтва: *будаўнік – строитель* - *budowniczy, шпалернік – шпалерник – szpalernik, брукавальнік – мостильщик – brukarz* (20 % л.а. у беларускай мове, 10% л.а. – у рускай і польскай).

Менш пашыраныя намінацыі з *-нік (-ник, -nik)* у **невытворчай** сферы. Гэта назвы паводле прафесіяў, звязаных з мастацтвам, навуковай дзейнасцю, культурай і спортам, вайсковай справай. Тут увогуле ў трох мовах найчасцей выкарыстоўваюцца суфіксы і суфіксоіды неславянскага паходжання.

Нешматлікія назвы асобы паводле прафесіі ў сферы мастацтва, утвораныя пры дапамозе суфікса *-nik*, у польскай мове (4,8 %): *rytownik – гравёр, гравіроўшчык, гравёр (по дрэву) – drzeworytnik, гравёр (па медзі) – miedzorytnik.*

Сярод найменняў паводле прафесіі ў сферы спорту – таксама адна назва на *-nik* у польскай мове: *zavodnik – аўтагоншчык, гоншчык.*

Спосабам асноваскладання і суфіксацыі ўтвораныя назоўнікі-адэкваты *праваахоўнік* і *правоохранитель,* але ў кожнай мове выкарыстоўваецца той суфікс, які мае высокую прадукцыйнасць.

Польскаму адсубстантыўнаму назоўніку *prawnik* у беларускай мове адпавядае бяссуфіксавы назоўнік *юрыст.*

Дастаткова рэгулярным суфікс *-нік* у беларускай мове з’яўляецца ва ўтварэнні намінацыяў сферы **абслугі** (каля 7 % назоўнікаў). Зрэдку ён ўтварае назоўнікі з такой семантыкай у польскай мове (каля 4 %); у рускай – прыкладна 3% лексемаў з гэтым фармантам.

Такія ўтварэнні найбольш шматлікія ў галіне побытавых і сацыяльных паслугаў.

Назоўнікі, утвораныя пра дапамозе фарманта *-нік/-льнік*, у рускай мове маюць сваімі адпаведнікамі аналагічныя ўтварэнні: *дворнік – дворник* (утварэнні ад асноваў назоўнікаў). Радзей рускамоўныя адэкваты беларускіх аддзеяслоўных назоўнікаў на *-льнік* з’яўляюцца таксама аддзеяслоўнымі дэрыватамі з суфіксам *-тель*: *ратавальнік – спасатель* альбо *-щик*: *пакавальнік – упаковщик*. Найменню *цырульнік* адпавядае пазычаная з нямецкай мовы лексема *парикмахер*.

У польскай мове адпаведнікі гэтых назоўнікаў маюць розныя суфіксы: *-acz*: *пакавальнік – pakowacz*; *-arz*: *цырульнік – golarz*. Адна лексема з’яўляецца назоўнікам на *-or*: *распаўсюджвальнік – dystrybutor* (назоўнік *дыстрыб’ютар* ёсць і ў беларускай мове). Адсубстантыўнаму ўтварэнню з *-нік брамнік* у польскай мове адпавядае субстантываваны прыметнік *odźwierny*. Толькі аднаму дэрывату з *-льнік* у польскай мове адпавядае назоўнік на *-nik*: *выратавальнік – ratownik.*

У галіне адукацыі ў беларускай мове бытуе аддзеяслоўнае найменне з суфіксамі *-нік* (*настаўнік*), якому ў рускай адпавядае назоўнік з *-тель*: *учитель*, а ў польскай – з *-ciel*: (*nauczyciel*).

Беларускія найменні ў галіне гандлю таксама ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-нік* ад асноваў назоўнікаў (18,8 %), у рускай мове ім адпавядаюць аналагічныя дэрываты: *ларочнік – ларёчник, латочнік – лоточник, малочнік – молочник – mleczarz.* Беларускім адсубстантыўным дэрыватам з фармантам *-нік* – у польскай мове

адпавядаюць таксама адсубстантыўныя дэрываты, але з суфіксам *-arz*: *латочнік, крамнік – kramarz, крамнік – sklepikarz.*

Назвы асобы паводле прафесіі, звязанай з грамадскім транспартам, з маюць у польскай мове суфікс *-nik* (12,5 %): *przewóznik, kierownik*. Адзін беларускі назоўнік з *-нік* у рускай і польскай мовах мае сваімі эквівалентамі намінацыі на *-ник, -nik*: *лодочник, przewoźnik.*

Трэба падкрэсліць тое, што суфіксы *-ц-а* і *-ец* валодаюць больш выразным значэннем, чым *-нік*, у абазначэнні назваў асобаў паводле прафесіі. Так, з утварэнняў ад асновы дзеяслова *кіраваць кіраўнік* і *кіроўца* (у польскай мове *kierownik, kierowca*) менавіта другое называе асобу паводле прафесійнай прыкметы, а першае – паводле занятку.

Найменні паводле прафесіійнай дзейнасці, звязанай з грамадскім харчаваннем, таксама нешматлікія: *цукерачнік – конфетник – cukiernik, піролснік – пирожник – cukiernik.* Польскамоўны адэкват назоўніка *піролснік* – адсубстантыўны дэрыват з суфіксам *-arz: ciastkarz.*

Сярод намінацыяў у галіне аховы здароўя назоўнік на *-nik* ёсць у польскай мове: *położnik.*

Такім чынам, беларускамоўным намінацыям з суфіксам ***-нік*** у рускай мове часцей за ўсё адпавядаюца найменні з *-ник, -чик/-щик/ -льщик*, у польскай – *-arz, -acz, -nik*

Калі ва ўтварэнні намінацыяў паводле прафесійнай дзейнасці суфікс *-нік (-ник, -nik)* не з'яўляецца самым прадукцыйным і рэгулярным, то назоўнікі з гэтым фармантам займаюць самае значнае месца сярод намінацыяў у сферы **рамёстваў**. Такія дэрываты бытуюць у беларускай, рускай (каля 50 % найменняў) і польскай мовах (каля 30 %). Як адзначаюць многія даследчыкі, «назвы асобаў у сферы прамысловасці – найбольш мабільныя, рамёстваў – статычныя» [5, с.8], а суфікс *-нік/-ник/-nik* быў больш прадукцыйным да XIX ст. Да таго ж, як зазначае В.Л. Вароновіч, «... можна сцвердзіць, што калі назоўнік на *-нік* называе дзеяча, то нярэдка гэта як бы назва-канстатацыя: паведамляецца, што ён рабіў раней, робіць цяпер ці звычайна, а не хто ён (па прафесіі)» [2, с.54].

Само слова *рамеснік* у трох мовах *(ремесленник, rzemieślnik)* утрымлівае гэты фармант. Намінацыі з *-нік/-ник/-nik* часцей за ўсё з'яўляюцца ў беларускай, рускай і польскай мовах эквівалентамі, але могуць утварацца ад розных асноваў: *шапачнік – картузник – czapnik, капялюшнік – шляпник – kapielusznik, шчотачнік – щёточник* ды інш. Усё ж між трыма мовамі ёсць і адрозненні. Так, адпаведнікамі беларускіх і рускіх найменняў з суфіксам *-нік/-ник* могуць выступаць альбо назоўнікі з *-arz*: *чарапічнік – черепичник – dachówkarz*, альбо бяссуфіксавыя найменні: *пячнік – печник – zdun*. Рускаму нульсуфіксаваму дэрывату *шаповал* у беларускай і польскай мовах адпавядаюць намінацыі з фармантам *-нік(-nik)*: *folusznik, валюшнік.*

Такім чынам, выразна бачна, што найменні асобы паводле прафесійнай дзейнасці і паводле дзейнасці ў галіне рамёстваў адрозніваюцца не толькі семантыкай, але і словаўтваральнымі адметнасцямі. Гэта выяўляецца і ў рознай рэгулярнасці фарманта *-нік / -ник/-nik* у розных семантычных падгрупах назоўнікаў.

Суфікс *-нік/-ник/-nik* часцей утварае назвы асобы паводле прафесійнай дзейнасці польскай мове, радзей – у рускай. Што да беларускай мовы, то тут гэты фармант на сучасным этапе з'яўляецца прадукцыйным, часам замяняе пазычаны суфікс *-чык/-шчык/-льшчык* і, думаецца, будзе далей павялічваць сваю прадукцыйнасць у дэрывацыі найменняў вытворчай сферы, дзе ўтварэнні з гэтым фармантам займаюць другое паводле колькасці месца і дзе «невыразнасць» значэння гэтага фарманта кампенсуецца інфармацыйнасцю ўтваральных асноваў – тэрмінаў розных галінаў вытворчасці.

*Спіс літаратуры*

1. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / пад рэд. акадэміка АН БССР К.К. Атраховіча (Кандрата Крапівы) – Мінск: Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыклапедыі, 1980. – Т.4. – 768 с.

2. Вароновіч, В.Л. Словаўтварэнне назоўнікаў у беларускай мове: манаграфія / В.Л. Вароновіч. – Гродна: ГрДУ, 2005. – 135 с.

3. Артемёнок, Г.А. Становление словообразовательной микросистемы имён существительных в современном белорусском языке (по данным лексикографии XIX – XX веков): дис. …канд. филол. наук: 10.02.02. – Минск, 1988. – 216 с.

3. Gramatyka współczesnego języka polskiego. Skladnia. – Warszawa, 1979. – 396 с.

4. Мачалава, А.А. Стурктурна-семантычная характарыстыка найменняў асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет у беларускай і англійскай мовах: дыс. …канд. філал. навук: 10.02.02, 10.02.04 / А.А. Мачалава. – Гродна: ГрДУ, 2008. – 152 с.

5. Волкава, Я.В. Польска-беларускі слоўнік: звыш 40 000 слоў / Я.В.Волкава, В.Л.Авілава – Мн: Бел ЭН, 2004. – 880 с.

6. Беларуска-рускі слоўнік. У 3 т. / НАН Беларусі, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. А.І. Падлужнага. – Мінск: БелЭН, 2003. – Т. 1 – 3.

УДК 811.161.3

**А.І.Багдзевіч** (Гродна)

# АБ НЕКАТОРЫХ ПРАГМАТЫЧНЫХ І ГРАМАТЫЧНЫХ АСАБЛІВАСЦЯХ МАСТАЦКАГА ЗАГАЛОЎКА (НА ПРЫКЛАДЗЕ ЗАГАЛОЎКАВЫХ КОМПЛЕКСАЎ З ЛІРЫКІ Я.КУПАЛЫ)

Загаловак з'яўляецца адным з асноўных элементаў мастацкага тэксту, выконваючы цэлы шэраг функцый на розных этапах яго ўспрыняцця, а таксама будучы ў некаторай ступені яго скандэнсаваным эквівалентам у свядомасці чытача дзякуючы асацыяцыйным сувязям, выпрацаваным падчас знаёмства з творам. Як і газетны загаловак, які, на думку І.В. Галавіной, «валодае каласальнай энергіяй туга згорнутай спружыны» [1], загаловак мастацкага твора сапраўды з'яўляецца згусткам лінгвістычнай, мастацкай, прагматычнай энергіі. У адрозненне ад публіцыстычных твораў, у мастацкім творы роля загаловачнага комплекса не абмяжоўваецца перадтэкставымі функцыямі (у газеце важна прыцягнуць увагу чытача, калі ж артыкул прачытаны, загаловак страчвае сваю значнасць і цікавасць): яго функцыянальны патэнцыял рэалізуецца і на паслятэкставым этапе, прычым, тут нельга казаць пра якія-небудзь канкрэтныя часавыя.

У адрозненне ад медыятэкстаў, якія па сваім характары з'яўляюцца часовымі, выконваюць канкрэтныя пастаўленыя перад іх аўтарам задачы і страчваюць сваю цікавасць калі не адразу пасля іх прачытання, то ва ўсякім выпадку ў дастаткова кароткі тэрмін, мастацкія тэксты (як і ўвогуле мастацкія творы) маюць пазачасавы характар і ў большасці выпадкаў прыцягваюць увагу патэнцыяльнага спажыўца (чытача, гледача, слухача) на працягу дзесяцігоддзяў, а ў выпадку найбольш высокай мастацкай каштоўнасці і стагоддзяў.

Калі весці гаворку пра прагматычную функцыю загалоўка мастацкага твора, відавочна, што яе сутнасць – у імкненні да максімальнай эфектыўнасці пры мінімальнай затраце моўных сродкаў. Для газетных загалоўкаў, часовасць якіх ужо падкрэслівалася, прагматычная функцыя прыцягнення ўвагі мае першаступеннае значэнне [2; 3]. У іх выкарыстоўваюцца максімальна эфектыўныя сродкі, здольныя звярнуць на сябе ўвагу патэнцыяльнага чытача і прымусіць яго звярнуцца да артыкула. Часта чыста намінацыйных сродкаў бывае недастаткова, наадварот, пэўны дынамізм, прэдыкатыўнасць здольныя зацікавіць больш. Як сцвярджае І.В.Галавіна, «...у наш час прасочваецца тэндэнцыя да ўзрастання газетных загалоўкаў менавіта ў форме простых апавядальных сказаў». [1] Так, з 29 загалоўкаў газеты «Звязда» (№51 ад 18.03.2008) 16 з'яўляюцца паводле структуры сказамі, з іх 13 – простымі сказамі («Прэзідэнт Беларусі павіншаваў...», «МЗС Беларусі настойліва рэкамендуе скараціць колькасць персаналу пасольства ЗША ў Мінску», «Пахаладае», «Рэгіёны Расіі заявілі аб сваім удзеле ў беларускай выстаўцы СМІ», «Пенсіянер выпаў з балкона» і інш.). Аднак для мастацкага загалоўка такая высокая ступень прагматычнай эфектыўнасці непатрэбная. З аднаго боку, натуральна, прыцягненне ўвагі актуальнае для любога загалоўка, з другога – аўтар мастацкага твора не знаходзіцца ў стане такога цэйтнота, як аўтар публіцыстычнага тэкста, бо тут заведама ёсць жаданне з боку патэнцыяльнага чытача азнаёміцца з яго творчасцю, інакш кніга і не трапіла б у яго рукі. Такім чынам, ёсць магчымасць у пэўнай ступені пагрэбаваць чыста прагматычнымі якасцямі загалоўка на карысць мастацкай вартасці.

Як бачна нават з прыведзеных газетных прыкладаў, публіцыстычны загаловак максімальна насычаны ў інфармацыйным плане. Ён у сціслай форме перадае змест самаго артыкула. Тыя, каго пэўная праблема цікавіць, прачытаюць сам артыкул для атрымання больш падрабязнай інфармацыі. Астатнія і так у цэлым асноўную інфармацыю атрымалі і ў пэўнай ступені вычарпальна пазнаёміліся са зместам артыкула без непасрэднага звароту да яго.

Мастацкім загалоўкам гэта ўвогуле неўласціва. Па-першае, ніводзін мастацкі твор не можа зводзіцца да інфармацыйнасці, інакш у ім і сэнсу ніякага няма. З гэтай функцыяй лепш справіцца газетны артыкул або навуковая публікацыя. Таму перадаць вельмі сціслa асноўны змест нават невялікага твора (як верш, да прыкладу) немагчыма. Загаловак верша абавязкова пакідае пытанне: «Я бачыў» (што?), «Песня жней» (якая яна і аб чым?), «Не глядзі» (куды і чаму?) і пад. Затое ўзнікае іншая магчымасць: ужо на ўзроўні загалоўка стварыць пэўны мастацкі вобраз, выкарыстаць пэўныя прыёмы, якія не столькі прыцягнуць увагу да твора, колькі здолеюць у далейшым выклікаць праз асацыяцыі пэўныя фрагменты і вобразы з гэтага твора. Такім чынам, у адрозненне ад газетнага загалоўка, загаловак мастацкага твора з'яўляецца адначасова «мастом» да паслятэкставай фазы знаёмства з творам.

Разгледзім мадэль успрыняцця загалоўка «Мужык».

1. Знаёмства з загалоўкам дае нам звесткі аб тым, што галоўным героем, магчыма, лірычным героем верша з'яўляецца асоба мужчынскага полу. Фонавыя веды па гісторыі, культуры Беларусі дазваляюць нам таксама папярэдне абмаляваць сацыяльны статус героя.

У саму эпоху, калі верш быў напісаны, ён меў пэўную мэтавую аўдыторыю, якая ўстанаўлівала карэляцыю гэтага загалоўка з сабой.

2. Чытанне верша дае знаёмства з асноўнай ідэяй твора – нягледзячы на прыніжаны стан, сацыяльную пакрыўджанасць і неадукаванасць, мужык застаецца чалавекам з сваёй чалавечай годнасцю. Вынесенае ў загаловак слова набывае больш канкрэтны сэнс, можна сказаць, рэферэнтную суаднесенасць з уяўна канкрэтнай асобай, пералік якасцей – вартасцей і недахопаў – якой замацоўваецца ў памяці чытача ў шчыльнай сувязі з загалоўкам.

3. Паслятэкставы перыяд – перыяд, на працягу якога чытач будзе памятаць сам твор і яго загаловак – вызначаецца аўтаматычнасцю выкліку асацыяцый пасля агучвання загалоўка. Загаловак можа сустракацца ў розных кантэкстах – ад сяброўскай размовы да навуковага артыкула, – з'яўляючыся ў гэтых выпадках не толькі і не проста назвай тэкста, а ўласным імем лірычнага героя, у той самы час агульным імем цэлага рэальнага соцыума.

Карэкцыя загалоўкавага дэнатата, рэферэнта і канатацыі можа адбывацца з часам. Так на сёння «Мужыка» можна разумець шырэй, пазасацыяльна, як заклік да любога чалавека, незалежна ад яго месца ў грамадстве, пасады, звання, роду дзейнасці і пад., захоўваць сваю чалавечую годнасць.

Такім чынам, як бачым, мастацкі загаловак адрозніваецца меншай самастойнасцю, чым загаловак публіцыстычны, большай спаянасцю з самім тэкстам, ды і нярэдка ён (як у разгледжаным выпадку) можа быць начыста пазбаўлены мастацкіх сродкаў (ну якія мастацкія сродкі ў назоўніку *мужык*?), якія знаходзяцца толькі ў самім творы і экстрапалююцца на загаловак праз устанаўленне з ім пэўных асацыяцыйных сувязяў на тэкставым і паслятэкставым этапах успрыняцця мастацкага твора.

Разглядаючы лінгвістычныя асаблівасці загалоўкаў Купалаўскіх вершаў як кампанентаў метатэкста яго творчасці, звернем увагу на асноўныя іх структурныя адметнасці. Большасць – 43% – даследаваных загалоўкаў з'яўляюцца намінацыйнымі структурамі. Праўда, як заўважае А.В.Фаціна, не ўсе даследчыкі лічаць структуры тыпу «Мая малітва», «Паэзія», «Лапці», «Роднае слова» словазлучэннямі і назоўнікамі, бо некаторыя даследчыкі кваліфікуюць іх як намінатыўныя сказы, [4] сцвярджаючы, што любы загаловак – сказ. Мы не можам, аднак, згадзіцца з такой думкай, бо сказ абавязкова ёсць паведамленне, ён выражае закончаную думку. Намінатыўны сказ можа выражаць яе, як правіла, у пэўным кантэксце. Напэўна, загалоўкі накшталт «Вясна» ці «Зіма» або «Касьба» можна такім чынам кваліфікаваць, бо яны



сапраўды нясуць у сабе паведамленне, канстатуючы наяўнасць пэўнага стану прыроды або дзеяння. Такія загалоўкі з'яўляюцца прадказальнікамі зместу самаго твора, які, напэўна, будзе мець апісальны характар.

Сапраўды, у першых двух выпадках вядзецца апісанне вясновай / зімовай пары, а ў апошнім – працэсу касьбы (што набліжае дадзенае апісанне да апавядання). Але наўрад ці можна знайсці элементы паведамлення ў загалоўку «Лапці». Сцвярджаючы «Вясна», паэт канстатуе факт наяўнасці ў пэўны момант дадзенай пары года, што ж ён будзе канстатаваць прыведзеным загалоўкам «Лапці»? Не так лёгка ўвогуле ўявіць сабе кантэкст, у якім дадзены назоўнік мог бы ўтвараць самастойны намінатыўны сказ. Зразумела, што гіпатэтычна такі кантэкст магчымы, напрыклад, у тэксце, дзе апісваецца сялянская хата: «Зачыненыя дзверы. Лапці. Качарга ў куце». (А.Б.) Аднак як загаловак гэты канструкт не можа несці ніякага паведамлення, бо зусім незразумела, што іменна можа быць паведамлена пра дадзены аб'ект: гэта апісанне лапцей, іх функцый, якасцей ці нешта іншае? У Купалаўскім вершы лапаць набывае сімвалічнае значэнне як ўвасабленне людской працы, нашай гісторыі, лапаць, паводле Купалы, «*...будзе У цэркве вісеці, Люд аб ім будзе песенькі пеці*».

Наўрад ці можна было прадказаць на датэкставым этапе ўспрыняцця загалоўка, што менавіта так будзе інтэрпрэтаваны гэты атрыбут сялянскага жыцця. Гэта значыць, сам па сабе загаловак нічога не паведамляе, не нясе ў сабе хаця б мінімальнай закончанай думкі, нічога не канстатуе і, адпаведна, не можа быць інтэрпрэтаваны як намінатыўны сказ. Калі ў кантэксце любы назоўнік, напэўна, можа патэнцыяльна быць намінатыўным сказам, то выступаючы ў якасці загалоўка мастацкага твора, дзе, нягледзячы на кампанентную ўлучанасць ва ўвесь тэкст, ён адначасова выступае і ў надтэкставай функцыі (або можна нават сказаць у пазатэкставай), далёка не кожны назоўнік здольны стаць выразнікам прэдыкатыўнасці.

Такім чынам, па-першае, відавочна, што ўсё ж значная колькасць назоўнікаў або словазлучэнняў у форме назоўнага склону менавіта назоўнікамі або словазлучэннямі і з'яўляюцца, не могуць быць кваліфікаваны як сказы. Па другое ж, граматычная кваліфікацыя такіх структур як слова або сказа залежыць ад семантыкі канкрэтнага назоўніка. Любы намінатыўны сказ ёсць не што іншае, як скарочаны варыянт поўнаструктурнага сказа. Доказам гэтаму можа служыць і тое, што ў іншых мовах нашым намінатыўным сказам адпавядаюць двухсастаўныя, практыка ж ужывання іх у многіх славянскіх мовах дапускае фактычна выкіданне прэдыкатыўных кампанентаў. Так, сказ

«Вясна» можна разгарнуць у «Зараз ёсць вясна» (заўважым, што пры іншай часавай ці ўвогуле ладавай кваліфікацыі такі сказ ні ў якім разе не быў бы намінатыўным, абавязкова прагучала б «Была вясна» ці «Прыйдзе вясна» і пад.). У англійскай ці нямецкай мове і ў выпадку з цяперашнім часам атрымаем «It's spring» або «Es ist Früling», па-італьянску адпаведна «É primavera». Але незразумела, што іменна апушчана ў выпадку з «Лапці», «Замчышча», «Вёска» і пад. Калі дапусціць такую ж быційную інтэрпрэтацыю, змест выказвання аказваецца занадта малавартым паэтычнага асэнсавання: ну ёсць лапці, дык і што з таго? Ды і дзе або ў каго яны ёсць і пад.

Такім чынам, адсутнасць магчымасці адзінай верагоднай інтэрпрэтацыі такога загалоўка таксама можа разглядацца ў якасці крытэрыя яго граматычнай кваліфікацыі. Дарэчы, паралелі з моў, дзе намінатыўныя сказы адсутнічаюць, таксама спрыяюць абвяржэнню думкі, што ўсе загалоўкі – сказы. Так, у англійскай мове канструкцыі тыпу «The Woman in White» або «The Gadfly» не могуць быць сказамі, але цудоўна функцыянуюць у якасці загалоўкаў.

*Спіс літаратуры*


1. Головина, И.В. Особенности функционирования заголовков в форме прстых повествовательных предложений в современной немецкой прессе / И.В.Головина. – Москва, 2006. – 24 с.
2. Попуцевич, В.В. Роль заголовка в медиа-текстах / В.В. Попуцевич // Язык. Общество. Культура. В 2 ч. Ч.1. – Гродно, 2006. – С. 159-165.
3. Покровская, Е.В. Прагматика современного газетного текста / Е.В.Покровская // Русская речь. – 2006 .– № 3 .– С.81–87.
4. Фатина, А.В. Функционирование заголовочных комплексов в современной российской газете / А.В. Фатина. – Санкт-Петербург, 2005. – 24 с.



УДК 811.161.3



**Агнешка Баровец** (Люблін)


## *NOMINA AGENTIS* З ДВАЙНОЙ МАТЫВАЦЫЯЙ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Пытанне двайной матывацыі назоўніка ў сучаснай беларускай мове з'яўляецца ў мовазнаўчых даследаваннях адным з найважнейшых. Безумоўна, асноўную частку корпуса назваў, якія абазначаюць выканаўцу дзеяння, складаюць тыя, якія ўтварыліся ад адной словаўтваральнай асновы. Сярод *nomina agentis* (NAg) самыя прадуктыўныя – асновы дзеясловаў (напрыклад, *выкладчык* < *выкладаць*, *спявак* < *спяваць*, *чытач* < *чытаць*) і назоўнікаў (напрыклад, *баскетбаліст* < *баскетбол*, *дакладчык* < *даклад*, *кукурузнік* < *кукуруза*). Аднак нярэдка сустракаюцца і дэрываты, якія неабходна суаднесці з дзвюма асновамі, у прыватнасці – дзеяслова і назоўніка або прыметніка і назоўніка.

Да назоўнікаў, якія абазначаюць асоб – выканаўцаў дзеяння і характарызуюцца двайной дзеяслоўна-назоўнікавай матывацыяй належаць дэрываты са шматлікімі суфіксамі, аднак трэба падкрэсліць, што з'ява двайной матывацыі датычыць перш за ўсё моўных адзінак з фармантамі іншамоўнага паходжання. Намі было выбрана 88 назоўнікаў з двайной матывацыяй, з суфіксамі -*(а)тар* (54 назоўнікі), -*ант* // -*энт* (17), -*ор* // -*ёр* (11), -*іст* (6). Усе яны належаць літаратурнай мове, хаця нярэдка рэпрэзентуюць кніжны або дзелавы стылі і характарызуюцца нізкай частотнасцю. Тым не менш яны зафіксаваны ў шэрагу слоўнікаў і навуковых прац, сустракаюцца таксама ў беларускамоўных СМІ, у якіх часам выкарыстоўваюцца як сінонімы слоў з беларускімі суфіксамі, напр. *імарцёр* – *пастаўшчык*.

Сярод асабовых NAg з двайной матывацыяй самую вялікую групу складаюць назоўнікі з суфіксамі -*тар* // -*атар*, напрыклад, *агітатар* < *агітаваць* // *агітацыя*, *адміністратар* < *адміністраваць* // *адміністрацыя*, *акампаніятар* < *акампаніраваць* // *акампанемент*, *аператар* < *аперыраваць* // *аперацыя*, *арандатар* < *арандаваць* // *арэнда*, *арганізатар* < *арганізаваць* // *арганізацыя*, *асенізатар* < *асенізаваць* // *асенізацыя*, *газіфікатар* < *газіфікаваць* // *газіфікацыя*, *дыктатар* < *дыктаваць* // *дыктатура*, *дыстрыб'ютар* < *дыстрыб'юіраваць* // *дыстрыбуцыя*, *дэгазатар* < *дэгазіраваць* // *дэгазіфікацыя*, *дэгустатар* < *дэгуставаць* // *дэгустацыя*, *дэкаратар* < *дэкараваць* // *дэкарацыя*, *дэкламатар* < *дэкламаваць* // *дэкламацыя*, *дэманстратар (тавараў)* < *дэманстраваць* // *дэманстрацыя*, *ілюстратар* < *ілюстраваць* // *ілюстрацыя*, *імітатар* < *імітаваць* // *імітацыя*, *інвестар* < *інвеставаць* // *інвестыцыя*, *інкасатар* < *інкасаваць* // *інкасацыя*, *інкрустатар* < *інкруставаць* // *інкрустацыя*, *інспектар* < *інспектаваць* // *інспекцыя*, *інструктар* < *інструктаваць* // *інструкцыя*, *інтэгратар* < *інтэграваць* // *інтэграцыя*, *інтэрпрэтатар* < *інтэрпрэтаваць* // *інтэрпрэтацыя*, *інфарматар* < *інфармаваць* // *інфармацыя*, *каапаратар* < *каапераваць* // *кааперацыя*, *каардынатар* < *каадрынаваць* // *каардынацыя*, *каментатар* < *каменціраваць* // *каментар*, *кампазітар* < *кампанаваць* // *кампазіцыя*, *кампілятар* < *кампіляваць* // *кампіляцыя*, *канструктар* < *канструяваць* // *канструкцыя*, *карэктар* < *карэкціраваць* // *карэктура*, *ліквідатар* < *ліквідаваць* // *ліквідацыя*, *меліяратар* < *меліяраваць* // *меліярацыя*, *папулярызатар* < *папулярызаваць* // *папулярызацыя*, *прыватызатар* < *прыватызаваць* // *прыватызацыя*, *рэдактар* < *рэдагаваць* // *рэдакцыя*,

*рэкамендатар < рэкамендаваць // рэкамендацыя*, *рэпетытар < рэпеціраваць // рэпетыцыя*, *рэстаўратар < рэстаўраваць // рэстаўрацыя*, *рэфарматар < рэфармаваць // рэфармацыя*, *сістэматызатар < сістэматызаваць // сістэматызацыя*, *спецыфікатар < спецыфікаваць // спецыфікацыя*, *стандарызатар < стандарызаваць // стандарызацыя*, *стылізатар < стылізаваць // стылізацыя*, *стэрылізатар < стэрылізаваць // стэрылізацыя*, *таксатар < таксаваць // таксацыя*, *тарыфікатар < тарыфікаваць // тарыфікацыя*, *трансфарматар < трансфармаваць // трансфармацыя*, *уніфікатар < уніфікаваць // уніфікацыя*, *утылізатар < утылізаваць // утылізацыя*, *фальсіфікатар < фальсіфікаваць // фальсіфікацыя*, *цывілізатар < цывілізаваць // цывілізацыя*, *экзаменатар < экзаменаваць // экзамен*. Радзей пры дапамозе даследаванага суфікса ўтвараюцца дэрываты з адзінай матывацыяй, напрыклад, *аквізітар < аквізіцыя*, *губернатар < губерня*, *імператар < імперыя*, *інспектар < інспекцыя*, *ірыгатар < ірыгацыя*.

Сярод NAg з двайной матывацыяй з даследаваным суфіксам 48 назваў (91 %) складаюць дэрываты, утвораныя ад дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа і абстрактных назоўнікаў з канчаткам *-ія* // *-ыя*, напрыклад, *агітатар < агітаваць // агітацыя*, *адміністратар < адміністраваць // адміністрацыя*, *арганізатар < арганізаваць // арганізацыя*, *асенізатар < асенізаваць // асенізацыя*, *газіфікатар < газіфікаваць // газіфікацыя*. У матывуючых дзеясловах назіраюцца рэгулярныя ўсячэнні суфіксаў *-іра-* // *-ыра-*, напрыклад *аператар < аперыраваць // аперацыя*, *дыстрыб'ютар < дыстрыб'юіраваць // дыстрыбуцыя*, *дэгазатар < дэгазіраваць // дэгазіфікацыя*, *каментатар < каменціраваць // каментар*, *рэпетытар < рэпеціраваць // рэпетыцыя*. Апрача таго, некаторыя назвы могуць абазначаць як асобу, так з'яўляцца назвамі ўстаноў, фірм, машын, механізмаў, напрыклад, *арганізатар*, *газіфікатар*, *інвестар*, *кампілятар*, *прыватызатар*, *сістэматызатар*, *стандарызатар*, *стэрылізатар*, *таксатар*, *тарыфікатар*, *трансфарматар*, *уніфікатар*, *утылізатар*. Як правіла, у дэрыватах з *-атар* пад націскам знаходзіцца перадапошні склад суфікса, напрыклад, *агіта́тар*, *адміністра́тар*, *арганіза́тар*, *асеніза́тар*, *газіфіка́тар*, *дэгуста́тар*, *дэкара́тар*; *агіта́тары*, *адміністра́тары*, *арганіза́тары*, *асеніза́тары*, *газіфіка́тары*, *дэгуста́тары*, *дэкара́тары*. Месца націску не змяняецца і ва ўскосных склонах, што дазваляе даследаваныя дэрываты аднесці да тыпу А (пар. адзіночны лік – Н. *адміністра́тар*, Р. *адміністра́тара*, Д. *адміністра́тару*, В. *адміністра́тара*, Т. *адміністра́тарам*, М. *адміністра́тару*; множны лік – Н. *адміністра́тары*, Р. *адміністра́тараў*, Д. *адміністра́тарам*, В. *адміністра́тараў*, Т. *адміністра́тарамі*, М. *адміністра́тарах*).



Меншую групу складаюць NAg з суфіксамі *-ант* // *-энт*, якія прадстаўлены назоўнікамі *абанент < абаніраваць // абанемент*, *адрасант < адрасаваць // адрас*, *асістэнт < асіставаць*, *асісціраваць // асіста*, *дапісант < дапісваць*, *дапісаць // допіс*, *дэбютант < дэбютаваць // дэбют*, *інфармант < інфармаваць // інфармацыя*, *канкурэнт < канкурыраваць // канкурэнцыя*, *кансультант < кансультаваць // кансультацыя*, *карэспандэнт < карэспандаваць // карэспандэнцыя*, *падпісант < падпісваць*, *падпісаць // подпіс*, *праектант < праектаваць // праект*, *прэзентант < прэзентаваць // прэзентацыя*, *рэферэнт < рэфераваць // рэферат*, *рэцэнзент < рэцэнзіраваць // рэцэнзія*, *рэпрэзентант < рэпрэзентаваць // рэпрэзентацыя*, *секундант < секундаваць // секунда*, *фабрыкант < фабрыкаваць // фабрыка*, *экспанент < экспанаваць // экспанат*.

Пры дапамозе дадзенага суфікса ўтвараюцца дэрываты ад дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа і абстрактных назоўнікаў, напр. *інфармант < інфармаваць // інфармацыя*, *канкурэнт < канкурыраваць // канкурэнцыя*, *кансультант < кансультаваць // кансультацыя*, *карэспандэнт < карэспандаваць // карэспандэнцыя*, *прэзентант < прэзентаваць // прэзентацыя*, *рэцэнзент < рэцэнзіраваць // рэцэнзія*, *рэпрэзентант < рэпрэзентаваць // рэпрэзентацыя*, хаця аналіз лексікаграфічных крыніц сведчыць пра тое, што ў некаторых выпадках фармант *-ант* // *-энт* утварае дэрываты і з адзінай матывацыяй, напрыклад, *аркестрант < аркестр*, *дысертант < дысертацыя*, *інтэрвент < інтэрвенцыя*, *камедыянт < камедыя*, *кантрактант < кантракт*, *канцэртант < канцэрт*, *лабарант < лабараторыя*, *музыкант < музыка*.

Зрэдку назіраецца ўсячэнне словаўтваральнай асновы, напр. *абанент*, *карэспандэнт*, *экспанент*, апрача таго некаторыя дэрываты могуць спалучацца з іншымі словаўтваральнымі асновамі, напр. *літкансультант*, *фотакарэспандэнт*. Ва ўсіх граматычных формах пад націскам застаецца суфікс.

Суфікс *-ор* // *-ёр* з'яўляецца прадуктыўным пры ўтварэнні NAg як з двайной, так і адзінай матывацый. Ад адпаведных ім дзеясловаў і назоўнікаў узніклі назоўнікі *баксёр < баксіраваць // бокс*, *балансёр < балансаваць // баланс*, *імпарцёр < імпартаваць // імпарт*, *інтэрв'юэр < інтэрв'юіраваць // інтэрв'ю*, *кантралёр < кантраляваць // кантроль*, *мадэльер < мадэліраваць // мадэль*, *гіпнатызёр < гіпнатызаваць // гіпноз*, *грымёр < грыміраваць // грым*, *рэтушор < рэтушаваць // рэтуш*, *селекцыянер < селекцыянаваць // селекцыя*, *танцор < танцаваць //*

*танец*, *экспарцёр* < *экспартаваць* // *экспарт*. У сваю чаргу як назвы з адзінай словаўтваральнай матывацыяй трэба разглядаць назоўнікі *білецёр* < *білет*, *хранікёр* < *хроніка*.

Сярод NAg з двайной матывацыяй суфікс *-іст* // *-ыст* рэпрэзентуюць назоўнікі *капіст* < *капіраваць* // *копія*, *мадэліст* < *мадэліраваць* // *мадэль*, *праграміст* < *праграмаваць* // *праграма*, *прагназіст* < *прагназіраваць* // *прагноз*, *тэлефаніст* < *тэлефанаваць* // *тэлефон*, *тэлеграфіст* < *тэлеграфаваць* // *тэлеграф*, пры гэтым фармант утварае і назвы з адзінай назоўнікавай матывацыяй, напрыклад, *арфіст* < *арфа*, *архівіст* < *архіў*, *бадмінтаніст* < *бадмінтон*, *батэрфляіст* < *батэрфляй*, *баяніст* < *баян*, *веласіпедыст* < *веласіпед*, *візажыст* < *візаж*, *гітарыст* < *гітара*, *кларнетыст* < *кларнет*, *лібрэтыст* < *лібрэта*, *мандалініст* < *мандаліна*, *плакатыст* < *плакат*, *слаламіст* < *слалам*, *тэнісіст* < *тэніс*. У даследаваных дэрыватах назіраюцца рэгулярныя ўсячэнні суфіксаў *-іра-* // *-ыра-*, напрыклад, *капіст* < *капіраваць* // *копія*, *мадэліст* < *мадэліраваць* // *мадэль*, *прагназіст* < *прагназіраваць* // *прагноз*. У некаторых выпадках цяжка вызначыць, ці слова ўвогуле з'яўляецца дэрыватам, ці было поўнасцю засвоена з іншай мовы, напрыклад *тэлеграфіст* – анг. *telegraphist*, *тэлефаніст* – англ. *telephonist* (параўн. таксама *дыстрыб'ютар* – англ. *distributor*, *рэпрэзентант* – франц. *représentant*).

З'ява двайной матывацыі датычыць і NAg з іншымі суфіксамі, што адлюстроўваюць такія назоўнікі, як *асфальтоўшчык* < *асфальтаваць* // *асфальт*, *бетоншчык* < *бетанаваць* // *бетон*, *брашуроўшчык* < *брашураваць* // *брашура*, *выбаршчык* < *выбіраць* // *выбары*, *зборшчык* < *збіраць* // *збор*, *наборшчык* < *набіраць* // *набор*, *татуіроўшчык* < *татуіраваць* // *татуіроўка*; *нападоўца* < *нападаць*, *напасці* // *напад*; *прамоўца* < *прамаўляць*, *прамовіць* // *прамова*; *размоўца* < *размаўляць* // *размова*; *даследнік* < *даследаваць*, *дослед*; *шкляр* < *шкліць* // *шкло*.

Асобную групу складаюць NAg з двайной назоўнікава-прыметнікавай матывацыяй, да якіх належаць дэрываты *маставік* < *мост* // *маставы*, *межавік* < *мяжа* // *межавы*, *шумавік* < *шум* // *шумавы*; *пажарнік* < *пажар* // *пажарны*, *сезоннік* < *сезон* // *сезонны*, *трыкатажнік* < *трыкатаж* // *трыкатажны*, *цукерачнік* < *цукарка* // *цукерачны*, *цэментнік* < *цэмент* // *цэментны*, *чыгуначнік* < *чыгунка* // *чыгуначны*, *эстраднік* < *эстрада* // *эстрадны*; *мастаўшчык* < *мост* // *маставы*, *фруктаўшчык* < *фрукт* // *фруктовы*.

Аналіз беларускіх NAg з двайной матывацыяй дазваляе зрабіць наступныя высновы на семантычным і словаўтваральным узроўнях. Па-першае, даследаваныя назвы належаць да лексікі з галіны тэхнікі (напрыклад, *асфальтоўшчык*, *бетоншчык*, *брашуроўшчык*, *газіфікатар*, *маставік*), мастацтва і эстрады (напр. *дэкламатар*, *кампазітар*, *рэстаўратар*, *рэтушор*, *танцор*, *шумавік*), кніжнай справы (напрыклад, *ілюстратар*, *карэктар*), спорту (напрыклад *баксёр*). Па-другое, некаторым дэрыватам уласцівая стылістычная афарбоўка. Такім чынам, кніжны стыль рэпрэзентуюць назвы *дэкламатар*, *інтэрпрэтатар*, *рэпетытар*, *рэфарматар*. З другога боку, да размоўных трэба аднесці словы *маставік*, *межавік*, *сезоннік*, *трыкатажнік*, *фабрыкант* (іран.), а да неалагізмаў – назоўнікі *дапісант*, *падпісант*. Па-трэцяе, у залежнасці ад кантэксту дэрываты *агітатар*, *арганізатар*, *дыктатар*, *інтэгратар*, *папулярызатар* і іншыя могуць набываць рысы атрыбутыўнасці і абазначаць асоб не з пункту гледжання выкананага імі дзеяння, а рыс характару. Такім чынам, арганізатарам можна назваць не толькі таго, хто займаецца арганізацыяй чаго-небудзь (*nomen agentis*), але таксама таго, пра каго ведаем, што ўмее арганізаваць праекты і дзеянні, але якраз гэтым не займаецца (*nomen attributiva*). Па-чацвёртае, лексічнае значэнне шматлікіх дэрыватаў даволі аб'ёмнае і можа – у залежнасці ад моўнай сітуацыі – пашырацца на назвы неасабовых выканаўцаў дзеяння: установы, арганізацыі, фірмы, машыны, механізмы, прылады, напрыклад, *арганізатар* 1. 'той, хто займаецца арганізацыяй чаго-небудзь', 2. 'установа, якая займаецца арганізацыяй чаго-небудзь' (параўн. таксама *газіфікатар*, *інвестар*, *кампілятар*, *прыватызатар*, *сістэматызатар*, *стандартызатар*, *стэрылізатар*, *таксатар*, *тарыфікатар*, *трансфарматар*, *уніфікатар*, *утылізатар*; *экспанент*).

З фармальнага пункту гледжання сабраны намі матэрыял ахоплівае назоўнікі з суфіксамі як славянскімі, так і іншага паходжання, пры гэтым пераважаюць дэрываты, якія належаць да другой групы. Сярод іх самы прадуктыўны фармант *-(а)тар*, які ў рэдкіх выпадках характарызуецца зменлівым націскам, параўн. *дыстрыб'ютар* // *дыстрыб'ютэр* (параўн. таксама *імпарцёр* – *імпартар*). Па-другое, сярод моўных адзінак з двайной матывацыяй, якія абазначаюць асабовых выканаўцаў дзеяння найчасцей выступаюць два тыпы матывацыі: дзеяслоўна-назоўнікавая або прыметнікава-назоўнікавая. Пераважаюць словы з дзеяслоўна-назоўнікавай матывацыяй, якія складаюць 89% сабранага намі матэрыялу. Па-трэцяе, у корпусе даследаваных назваў знаходзім прыклады ўсячэння словаўтваральных асноў. У матывавальных дзеясловах рэгулярна адсякаецца суфікс *-ава-* (напр. *газіфікатар* < *газіфікаваць* // *газіфікацыя*, *дыктатар* < *дыктаваць* // *дыктатура*, *дэгустатар* < *дэгуставаць* // *дэгустацыя*, *дэкаратар* < *дэкараваць* // *дэкарацыя*, *дэкламатар* < *дэкламаваць* // *дэкламацыя*, *дэманстратар* (*тавараў*) < *дэманстраваць* //

*дэманстрацыя*, *ілюстратар* < *ілюстраваць* // *ілюстрацыя*, *імітатар* < *імітаваць* // *імітацыя*, *інвестар* < *інвеставаць* // *інвестыцыя*), *-іра-* // *-ыра-* (напрыклад, *aпeратар* < *aпeрыраваць* // *aпeрацыя*, *дыстрыб'ютар* < *дыстрыб'юіраваць* // *дыстрыбуцыя*, *дэгазатар* < *дэгазіраваць* // *дэгазіфікацыя*, *каментатар* < *каменціраваць* // *каментар*, *рэпетытар* < *рэпеціраваць* // *рэпетыцыя*). Па-чацвёртае, аналіз лексікаграфічных крыніц сведчыць пра тое, што даследаваныя NAg рэдка ўваходзяць у склад кампазітаў, хаця некаторыя моўныя адзінкі маюць у гэтай галіне даволі вялікі, на наш погляд, патэнцыял, параўн. *агент-кансультант*, *адміністратар-кансультант*, *бібліятэкар-кансультант*, *бізнес-кансультант*, *вучань-кансультант*, *выкладчык-кансультант*, *дарадчык-кансультант*, *медыя-кансультант*, *прадаўшчык-кансультант*, *псіхолаг-кансультант*, *рэдактар-кансультант*, *трэнер-кансультант*, *фірма-кансультант*, *эксперт-кансультант*, *юрыст-кансультант*; *дырэктар-карэспандэнт*, *літкарэспандэнт*, *фотакарэспандэнт*, *член-карэспандэнт*; *кампанія-імпарцёр*, *краіна-імпарцёр*, *фірма-імпарцёр*. Па-пятае, у дэрыватах з суфіксамі іншамоўнага паходжання, націск падае, як правіла, на фармант (напрыклад, *стандарызатар*, *стылізатар*, *стэрылізатар*, *таксатар*, *тарыфікатар*; *канкурэнт*, *кансультант*, *карэспандэнт*, *прэзентант*, *рэцэнзент*; *капіст*, *мадэліст*, *праграміст*, *прагназіст*, *тэлефаніст*; *гіпнатызёр*, *грымёр*, *рэтушор*). Словам са славянскімі суфіксамі ўласцівы націск на ўтваральнай аснове, напрыклад, *асфальтоўшчык*, *бетоншчык*, *брашуроўшчык*, *выбаршчык*, *зборшчык*, *наборшчык*, *татуіроўшчык*; *нападоўца*, *прамоўца*, *размоўца*.


*Спіс літаратуры*

1. Варановіч, В.Л. Асабовыя назоўнікі-наватворы ў беларускай мове (словаўтваральная структура і дачыненні да сістэмы літаратурнай мовы): дыс… канд. філал. навук / В.Л. Варановіч. – Гродна, 2000. – 114 с.
2. Варановіч, В.Л. Словаўтварэнне назоўнікаў у беларускай мове: манаграфія / пад рэд. П.У.Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005. – 135 с.
3. Лукашанец, А.А. Граматычныя аспекты беларускага словаўтварэння: дыс… д-ра філал. навук / А.А. Лукашанец. – Мінск, 2001.
4. Лукашанец, А.А. Словаўтварэнне і граматыка. – Мінск, 2001.
5. Лукашанец, А.А. Да праблемы ацэнкі сучасных працэсаў у лексіцы і словаўтварэнні беларускай мовы / Актуальныя пытанні беларускай лінгвістыкі. – Мінск, 2001. – С. 102-106.
6. Мачалава, А.А. Адметнасці суфіксальных сістэмаў англійскай і беларускай моў (на матэрыяле назоўнікаў – назваў асобы) / Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. Серыя 1: Гуманітарныя навукі. Вып. 3. – Гродна, 2005. – С. 114-120.





7. Мачалава, А.А. Намінацыі асобы паводле роду дзейнасці ў беларускай і англійскай мовах / Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. Серыя 1: Гуманітарныя навукі. Вып. 4. – Гродна, 2005. – С. 169-174.
8. Сцяцко, П.У. Адмысловыя дэрывацыйныя структуры ў тэрміналагічных слоўніках 90-х гадоў XX ст. / Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі: Артыкулы і матэрыялы міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі, Гомель, 22-23 мая 1998. – Гомель, 1999. – С. 5-10.
9. Сцяцко, П.У. Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы. – Гродна, 1999.


УДК 811.161.3

**К.А. Барысевіч** (Гродна)

## АКТУАЛЬНЫЯ ЗАДАЧЫ МІЖМОЎНАЙ ПЕРАДАЧЫ АНТРАПОНІМАЎ

Нягледзячы на вялікую колькасць прац, прысвечаных праблеме міжмоўнай перадачы антрапонімаў, яна не толькі па-ранейшаму застаецца прадметам дыскусій лінгвістаў і перакладчыкаў, але і набывае асаблівую актуальнасць у сувязі з пашырэннем стасункаў Рэспублікі Беларусь на міжнароднай арэне, а афіцыйны білінгвізм ў краіне толькі спрыяе павелічэнню колькаці памылак і недакладнасцей пры афармленні пашпартнай формулы іменавання асобы кірыліцай і лацінкай.

Існуе некалькі спосабаў перадачы ўласных імёнаў на іншыя мовы: транслітарацыя, практычная транскрыпцыя (трансфанацыя), транспазіцыя, калькаванне, пераклад па традыцыі, ужыванне імені ў яго зыходнай графічнай форме або іх спалучэнні. Аднак нягледзячы на разнастайнасць перакладчыцкіх прыёмаў, узнаўленне беларускіх антрапонімаў сродкамі іншай мовы і замежных імёнаў і прозвішчаў па-беларуску суправаджаецца значнымі праблемамі, абумоўленымі самой сутнасцю гэтай анамастычнай катэгорыі, пасрэдніцтвам рускай мовы, якая доўгі час бралася за аснову пры раманізацыі кірылічнага алфавіта і міжмоўным транскрыбаванні, а таксама адсутнасцю уніфікаваных норм перадачы антрапанімічных адзінак у розных графічных сістэмах, што істотна для народнасных моў, напрыклад, беларускай і англійскай.

У адносінах да кампанентаў афіцыйнай формулы іменавання асобы (у прыватнасці прозвішчаў) пераклад не ўжываецца з прычыны юрыдычнай значнасці іх гучання і напісання (арфаграфіі). Выключэнне складаюць г.зв. сэнсавыя (выдуманыя) антрапонімы, якія патрабуюць захавання іх унутранай формы, вобразнасці ў новым моўным афармленні.

Калі ў розных мовах, у прыватнасці беларускай і англійскай, сярод асабовых імёнаў можна знайсці эквіваленты (*Рыгор – Gregory*, *Сцепаніда – Stephana* і інш.), прычым яны маюць агульнае паходжанне і замяняюцца пры пераходзе з аднаго моўнага асяроддзя ў іншае не так пад уплывам лінгвістычных, як сацыяльных фактараў, то ў адносінах да прозвішчаў кшталту *Бондар* і *Cooper* або *Рыжы* і *Couch* нельга казаць пра эквівалентнасць. Прычынай ёсць спецыфіка семантычнай структуры прозвішча: яно абазначае асобу непасрэдна, абмінаючы ступень вывядзення. Так, замена англійскага асабовага імені *James* яго беларускім эквівалентам *Якаў* як спосаб натуралізацыі іншамоўнага імені не ўплывае на ажыццяўленне асноўнай функцыі апошняга – намінацыйнай, а пры выкарыстанні прозвішча *Каваль* для перадачы на беларускую мову англійскага антрапоніма *Smith* мяняецца яго гукавая абалонка і на першы план выходзіць семантыка прозвішчаўтваральнай асновы.

Аднак ігнараваць інфармацыю, заключаную ў прозвішчах, нельга. Перанос антрапонімаў на іншую лінгвістычную глебу павінен адбывацца з улікам унікальных асаблівасцей іх формы і этымалогіі, складанай сэнсавай структуры, суадносін значэнняў кампанентаў, адметнасцей словаўтваральнага працэсу, сувязей прозвішчаў з іншымі адзінкамі і катэгорыямі мовы. Няведанне або пагарджанне гэтымі ўласцівасцямі пры міжмоўнай перадачы антрапонімаў не толькі прыводзіць да страты іх нацыянальнай спецыфікі, але і ўскладняе ідэнтыфікацыю іх носьбітаў.

Пры перадачы прозвішча яго іншамоўны адпаведнік павінен упісвацца ў новую граматычна-сінтаксічную сістэму. Так, у беларускай мове мужчынскія прозвішчы, якія канчаюцца на зычны, акрамя адзінак на *-іх/-ых*, незалежна ад іх паходжання, скланяюцца і змяняюцца па ліках, напрыклад, сям’я *Кларсанаў* (*the Clarsons*). У некаторых выпадках пераасэнсоўваецца сама структура іншамоўнага антрапоніма. Напрыклад, у англійскім прозвішчы *Робін* (*Robin*) этымалагічны суфікс *-ін* (*-in*), які служыў для ўтварэння памяншальна-ласкальнай формы імені, у беларускай мове аказваецца аманімічным прозвішчаўтваральнаму фарманту *-ін* і выклікае імпліцытнае пераафармленне марфалагічнай будовы антрапоніма. Гэта адзін з відаў акамадацыі ўласных назваў да новага моўнага асяроддзя, якая ўзнікае ў выніку запазычання саміх адзінак або этнасацыяльнага перамяшчэння іх носьбітаў і можа рэалізоўвацца на розных узроўнях мовы. Напрыклад, прозвішча заснавальнікаў буйной амерыканскай кінакампаніі Warner Brothers (*Ўорнэр*) атрымалася шляхам дээтымалагізацыі ў англійскамоўным асяроддзі беларускага прозвішча *Воран* і набыцця ім новай матывацыі на падставе яго гукавога падабенства з англійскім антрапонімам *Warner* (< Guarnier, Garnier (асабовае імя) або garennier, warrennier ‘службовец, які даглядае дзічыну ў парку ці паляўнічым запаведніку’). На сённяшні дзень працэсы натуралізацыі замежных антрапонімаў у беларускай мове застаюцца па-за ўвагай даследчыкаў.

У сувязі з тым, што вынікам лексічнага перакладу ёсць новае імя або прозвішча, то для перадачы нарматыўных антрапонімаў з адной мовы на іншую, як правіла, выкарыстоўваецца перакладчыцкае (практычнае) транскрыбаванне або транслітарацыя (поўная ці частковая), аднак выбар паміж імі патрабуе абгрунтаванага рашэння. Так, калі мовы выкарыстоўваюць агульныя графічныя сістэмы, магчымы звычайны перанос антрапоніма (прозвішча) без змены яго пісьмовай формы (напрыклад, англійскае прозвішча *Bunyan* захоўвае сваю арфаграфію ў мовах, пісьменнасць якіх заснавана на лацінцы), аднак гукавое яго афармленне нярэдка скажаецца.

Для моў з рознымі графічнымі асновамі, напрыклад, англійскай і беларускай, узнаўленне антрапанімічнай адзінкі звычайна ёсць кампраміс паміж перадачай яе гучання і напісання. Такі падыход асабліва актуальны ў адносінах да англійскіх антрапонімаў з прычыны кансерватызму арфаграфічных правіл, якія часта не адлюстроўваюць сапраўднага гучання, аднак згладжваюць фанетычныя адрозненні, характэрныя для розных варыянтаў англійскай мовы.

У некаторых антрапонімах захаваўся традыцыйны спосаб міжмоўнага пераносу, прымяненне якога залежыць ад ступені ўжывальнасці таго або іншага імені. Так, прозвішча *Shakespeare* паводле правіл практычнай транскрыпцыі трэба перадаваць як *Шэйкспір*, але традыцыйна замацаваўся няправільны варыянт *Шэкспір*. У пэўных выпадках робяцца спробы адмаўлення ад старых форм перадачы антрапонімаў на карысць новых, больш дакладных з фанетычнага боку. Так, у бібліяграфічным паказальніку знакамітых замежных навукоўцаў, змешчаным у «Матэматычнай энцыклапедыі» [1], для некаторых прозвішчаў прапаноўваюцца два варыянты афармлення (*Waring – Варынг* (*Ўорынг*) і інш.), прычым аўтары адзначаюць сваё імкненне перадаць па-беларуску менавіта гучанне іншамоўных антрапонімаў, аднак часам кампаненты адной антрапанімічнай формулы перадаюцца рознымі спосабамі (*Stokes George Gabriel – Стокс Джордж Гэбрыэл* і інш.) або для прозвішча падаюцца два адпаведнікі, а асабовае імя ўзнаўляецца па традыцыі (*Hardy Godfrey Harold – Харды (Гарды) Годфры Гаральд* і інш.).

А. Таболіч і Л. Вікторка ў матэрыялах да слоўніка [2] таксама фіксуюць некалькі варыянтаў перадачы антрапонімаў (*Galsworthy – Галсуорсі* (*Голсуарты*), *Graham – Грэям* (*Грэм*) і інш.).

У асобных выпадках, якія маюць дачыненне перш за ўсё да гістарычных і біблейскіх імёнаў, а таксама імёнаў манархаў і рэлігійных дзеячаў (напрыклад, каралева *Elizabeth* павінна па-беларуску іменавацца не *Элізабэт*, а *Лізавета*), выкарыстоўваецца прынцып транспазіцыі (этымалагічнай адпаведнасці).

Адносна рускай мовы перакладчыцкая анамастыка распрацавана як з тэарэтычнага, так і з практычнага пункту погляду і шырока прадстаўлена ў спецыяльнай літаратуры. У беларускай мове працы гэтага кірунку засяроджаны пераважна на выяўленні супярэчнасцей і недакладнасцей пры міжмоўным пераносе ўласных імёнаў і выпрацоўцы новых падыходаў да іх афармлення. Так, у часопісе «Роднае слова» змешчаны цыкл матэрыялаў, прысвечаных перадачы па-беларуску імёнаў і прозвішчаў англійскамоўных і нямецкамоўных дзеячаў культуры, некаторых тапонімаў, а таксама перадачы лацінкай беларускіх прозвішчаў і геаграфічных назваў [2 –8].

Пэўная аднастайнасць у вырашэнні гэтых пытанняў была дасягнута ў тапанімічнай сферы ў сувязі з прыняццем «Інструкцыі па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта» [9] і міжнародным прызнаннем зацверджанай у ёй сістэмы раманізацыі беларускага кірылічнага тэксту [10]. Гэты варыянт лацінкі знайшоў практычнае выкарыстанне ў нарматыўным даведніку «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» [11]. Акрамя таго, пры падтрымцы дзяржаўных органаў вядзецца праца па нармалізацыі напісання іншамоўных тапонімаў па-беларуску [12].

Значна больш няпэўнасцей пры міжмоўным пераносе антрапонімаў. Розныя адпаведнікі для замежных імёнаў і прозвішчаў сустракаюцца нават у аўтарытэтных выданнях. Так, на падставе аналізу матэрыялаў «Беларускай энцыклапедыі» Л. Вікторка вылучае спосабы перадачы на беларускую мову антрапанімічных адзінак, якія ўжываюцца ў англійскамоўных краінах, а таксама выяўляе перавагі і недахопы розных падыходаў [13].

Шматлікія спрэчныя выпадкі напісання іншамоўных прозвішчаў ёсць і ў іншых даведніках, напрыклад, у «Руска-беларускім фізічным слоўніку» [14], у дадатку да якога прыводзіцца спіс лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі на мове-крыніцы, а таксама на беларускай і рускай мовах. Большасць антрапонімаў[1] тут перадаюцца пры дапамозе поўнай

[1] Мы маем на ўвазе англійскамоўныя прозвішчы.



або частковай транслітарацыі (*Richardson – Рычардсан, Stormer – Стормер* і інш.), некаторыя прозвішчы транскрыбуюцца (*Ryle – Райл, Strutt – Страт* і інш.), аднак ёсць і такія дэфармаваныя адзінкі, як *Laughlin – Лэфлін* (больш адэкватныя варыянты – *Локлін, Лофлін, Лафлін*), *Michelson – Майкельсан* (дакладней – *Мічэлсан, Мікелсан*). Няправільныя транскрыпцыі такога кшталту ўжо сталі традыцыйнымі, і замяніць іх наўрад ці магчыма. Акрамя таго, у гэтай працы неадназначна афармляюцца на пісьме аднолькавыя гукі ў адных і тых пазіцыях, напрыклад, галосны [у] у залежнасці ад паходжання свайго адпаведніка ў мове-крыніцы – *w* або *u* – перадаецца адпаведна праз *у* і *ў* (*Braun – Браўн*, але *Powell – Пауэл*).

У «Матэматычнай энцыклапедыі» [1] англійская графема *w* суадносіцца з беларускай *ў* і ўжываецца не толькі пасля галосных, але і пасля зычных і ў пачатку слова (*Maxwell – Максўэл, Rowan – Роўэн, Waring – Ўорынг* і інш.).

У апошняе дзесяцігоддзе для перадачы англійскамоўных уласных назваў робяцца пэўныя напрацоўкі. Так, матэрыялы А. Таболіч, Л. Вікторкі [2] паклалі пачатак стварэння дзвюхмоўнага антрапанімічнага слоўніка. Л. Вікторкай падрыхтаваны алгарытм «Англійска-беларуская практычная транскрыпцыя» [15, с. 130–131], аднак і ў ім няма паслядоўнасці (*Wilmar – Уілмар*, але *Walter – Ўолтар*).

Рэдка сустракаюцца ў слоўніках беларускія антрапонімы і іх лацінізаваныя адпаведнікі. Як правіла, рэгіструюцца асабовыя імёны, пры гэтым спосабы іх перадачы лацінкай адрозніваюцца. Так, у англійска-беларускім слоўніку Я. Пятроўскага асабовыя імёны перадаюцца спосабам транспазіцыі, напрыклад: *Іван, Ян – John, Юры – George* і інш.[16]. У працы С. Барыса беларускія асабовыя імёны і іх адметныя беларускія формы фіксуюцца ў двух варыянтах: на кірыліцы і лацінцы [17]. У слоўніку падаецца алфавіт «Беларуская лацінка», літарам якой адпавядаюць кірылічныя графемы (літары). Мяккасць парных зычных у сярэдзіне слова абазначаецца тут выкарыстаннем літары *і* (*Антаней – Antaniej* і інш.), а на канцы слова – надрадковым знакам (*Андрусь – Andruś* і інш.). Выключэнне складае гук [л’], які абазначаецца адмысловай літарай *L l*, а цвёрды – *Ł ł* (*Алехна – Alechna, Багуміл – Bahumił* і інш.). Гэтаксама перадаюцца беларускія прозвішчы ў слоўніку Л. Баршчэўскага (*Алесь Жлутка – Aleś Žłutka, Сяргей Шупа – Siarhiej Šupa* і інш.) [18].

Афіцыйнае афармленне імёнаў і прозвішчаў ажыццяўляецца паводле зацверджанага «Алгарытма беларуска-англійскай транслітарацыі» [15, с. 128–129]. Аднак і названая сістэма лацінізацыі не з’яўляецца універсальнай і стварае вялікую колькасць памылак. Гэта

яскрава відаць на прыкладзе афармлення беларускай антрапанімічнай формулы ў аўтарэфератах дысертацый: у большасці выпадкаў усе яе кампаненты транслітаруюцца з рускай мовы (*Ковальчук Оксана Ивановна – Kovalchuk Oksana Ivanovna, Семенькова Галина Константиновна – Semen'kova Galina Konstantinovna* і інш.); зрэдку зыходнай мовай выступае беларуская (*Ксяндзова Алена Уладзіміраўна – Ksiandzova Alena Uladzimirauna, Сівіцкая Наталля Віктараўна – Sivitskaya Natallia Viktarauna* і інш.); сустракаюцца іменаванні, розныя элементы якога перадаюцца і з рускай, і з беларускай моў (*Антанюк Марына Георгіеўна – Antoniuk Maryna Georgievna, Горбач Наталля Чаславаўна – Horbach Natallia Cheslavovna* і інш.); выкарыстоўваецца скарочаная форма (*Мачалава Алена Алегаўна – Machalava Alena* і інш.); еўрапейская формула (*Снигирева Наталья Александровна – Natalia Snigiriova* і інш.); а таксама нічым не апраўданы амерыканскі варыянт іменавання, у якім на месцы сярэдняга імені запісваецца ініцыяльная літара імені па бацьку (*Кныш Лариса Сергеевна – Larissa S. Knysh, Курилович Ольга Федоровна – Olga F. Kurilovich* і інш.).

Акрамя таго, непаслядоўнасць адлюстравання мяккасці зычных, неадназначнасць некаторых літар і іншыя надахопы разгляданай транслітарацыі ствараюць праблему дакладнасці транслітарацыі і рэтранслітарацыі. Так, напрыклад, прозвішча *Rubel* (*Рубель*) у адпаведнасці з англійскімі правіламі чытання пры адваротнай перадачы можна аформіць як *Рубл* або *Р'юбл*, а прозвішчы кшталту *Khvoshch* (*Хвошч*) увогуле выглядаюць нечытэльнымі і г.д.

Сітуацыя ўскладняецца адначасовым выкарыстаннем дзвюх сістэм раманізацыі беларускага алфавіта: англійскай і беларускай лацінак. У сувязі з гэтым І. Гапоненкай прапанавана дыскусія на прадмет адпаведнасці беларуска-англійскай лацінкі асноўным крытэрам аптымальнай сістэмы транслітарацыі [5]. З прыведзеных фактаў відаць: прывязанасць да канкрэтнай мовы англізаванага варыянта лацінкі звужае сферу яго выкарыстання да англійскамоўных тэкстаў, у той час як беларуская традыцыйная лацінка не толькі захоўвае графічнае аблічча антрапоніма (передае адметныя рысы беларускай мовы), але і адпавядае прынцыпам Статута і Праграмы ААН па пытаннях нацыянальнай і міжнароднай стандартызацыі [10].

Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца часопіс «Дзеяслоў» [19], у якім асабовыя імёны і прозвішчы беларускіх аўтараў перадаюцца нацыянальнай лацінкай, а назвы іх твораў перакладаюцца на англійскую мову (*Nił Hilevič «Having survived the war»; Hienadź Dźmitryjeŭ «The chronicle of a lost soul»* і інш.). Выкажам толькі прапанову, датычную зычных [л] і [л'], для перадачы якіх у названым перыядычным выданні і некаторых слоўніках выкарыстоўваюцца дзве графемы *l* і *ł*: падобная з'ява не ўласціва беларускай лацінцы і графічным сістэмам іншых еўрапейскіх моў (за выключэннем некаторых славянскіх моў, напрыклад, польскай, сербахарвацкай), таму з мэтай захавання аднастайнасці напісання больш мэтазгодна ўжываць аднолькавыя сродкі абазначэння мяккасці зычных, г.зн. зычны [л] варта передаваць сярэдннееўрапейскай літарай *l*, а яго мяккі карэлят – пры дапамозе надрадковага знака (´) і галоснай *i*. Пры пераносе беларускіх антрапонімаў у сербахарвацкую мову, дзе зычны [l] у мяккай пазіцыі передаецца дыграфам (лігатурай) *lj*, або ў польскую мову, якая ўжывае абедзве графемы *l* і *ł*, было б натуральна іх захаваць.

Як відаць, тапонімы і антрапонімы – адзінкі адной лексічнай катэгорыі – характарызуюцца адсутнасцю адзінства пры передачы іх на лацінку, розняй ступенню адлюстравання ў перакладных крыніцах, а таксама зацікаўленасці дзяржаўных органаў ва ўпарадкаванні іх дакументальнага афармлення ў розных графічных сістэмах. Між тым нармалізацыя правапісу беларускіх і замежных антрапонімаў (у тым ліку прозвішчаў), выкарыстанне паслядоўнай сістэмы раманізацыі беларускага алфавіта ва ўсёй пісьмовай практыцы выклікана лінгвістычнай і грамадскай запатрабаванасцю.

Паралельна з вырашэннем названых праблем неабходна складаць спецыяльныя нарматыўныя слоўнікі, у якіх бы рэгламентавалася напісанне іншамоўных антрапонімаў, а таксама такія даведнікі, якія б улічвалі дзяржаўны білінгвізм і задачы міжнародных зносін і вызначалі афармленне беларускіх асабовых імёнаў і прозвішчаў у трох графічных варыянтах – беларускай кірыліцай і лацінкай, а таксама рускай графікай.

Прынцыпы слоўніка беларускіх прозвішчаў, аптымальная структура яго лексікаграфічнага апарату прапанаваны І. Гапоненкай, якая з'яўляецца адным з аўтараў такога выдання ў рамках праекта «Сучасная сістэма беларускіх прозвішчаў: склад, асаблівасці правапісу, словаўтварэння, скланення і транслітарацыі» [20, с. 3]. У навукова-метадычнай лабараторыі пры ўстанове адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы» ўжо рыхтуецца да выдання «Слоўнік прозвішчаў Гродзеншчыны», у якім прадугледжваецца напісанне прозвішчаў на беларускай і рускай мовах і традыцыйнай лацінкай (*Алексяйчук – Алексейчук – Alieksiajčuk; Кульгавеня – Кульговеня – Kulhavienia* і інш.). Гэтая праца пакуль не мае аналагаў у нашай краіне і стане ўзорам для далейшага лексікаграфавання антрапонімаў.

Пры міжмоўнай перадачы антрапонімаў (прозвішчаў) трэба памятаць аб праблеме варыянтнасці, не дапушчальнай ў адносінах да афіцыйна

запісанай формы імені, пазбегнуць якой можна толькі пры ўліку ўсяго комплексу кампанентаў структуры гэтых адзінак і іх утваральных асноў. Акрамя таго, мэтазгодна паступова адыходзіць ад неадэкватных традыцый і адлюстроўваць актуальныя тэндэнцыі сучасных антрапанімікаў (напрыклад, змена месца націску ў беларускіх прозвішчах (*Санька – Санько – Sańko* і г.д.), сінкопа ў складаных прозвішчах англійскай мовы (*Debenham – Debnam – Дэбнам* і г.д.)).

*Спіс літаратуры*


1. Матэматычная энцыклапедыя / рэдкал.: В. Бернік (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 496 с.

2. Таболіч, А. Імёны і прозвішчы англамоўных мастакоў: Вялікабрытанія / А. Таболіч, Л. Вікторка // Роднае слова. – 2000. – № 4. – С. 55 – 57; Таболіч, А. Імёны і прозвішчы англамоўных пісьменнікаў: Аўстралія. Новая Зеландыя / А. Таболіч, Л. Вікторка // Роднае слова. – 2000. – № 2. – С. 72 – 73; Таболіч, А. Імёны і прозвішчы англамоўных пісьменнікаў: Вялікабрытанія / А. Таболіч, Л. Вікторка // Роднае слова. – 1999. – № 11. – С. 172 – 179; Таболіч, А. Імёны і прозвішчы кампазітараў і музычных дзеячаў Вялікай Брытаніі і ЗША / А. Таболіч, Л. Вікторка // Роднае слова. – 2001. – № 4. – С. 84 – 85; Таболіч, А. Імёны і прозвішчы пісьменнікаў: ЗША / А. Таболіч, Л. Вікторка // Роднае слова. – 2000. – № 1. – С. 77 – 79.

3. Варановіч, В. Шапэн ці Шапен?: Супярэчнасці ў напісанні іншамоўных прозвішчаў / В. Варановіч // Роднае слова. – 1998. – № 12. – С. 32 – 38.

4. Вікторка, Л. Англійскія імёны ў беларускай мове / Л. Вікторка // Роднае слова. – 1999. – № 10. – С. 152 – 158.

5. Гапоненка, І. Перадача беларускіх прозвішчаў лацінкай / І. Гапоненка // Роднае слова. – 2007. – № 6. – С. 22 – 25.

6. Гапоненка, І. Перадача іншамоўных геаграфічных назваў па-беларуску / І. Гапоненка // Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 30 – 32.

7. Навіцкі, М. Імёны і прозвішчы нямецкамоўных пісьменнікаў: А–В / М. Навіцкі // Роднае слова. – 2002. – № 10. – С. 82; Навіцкі, М. Імёны і прозвішчы нямецкамоўных пісьменнікаў: C, D, E, F / М. Навіцкі // Роднае слова. – 2002. – № 12. – С. 71; Навіцкі, М. Імёны і прозвішчы нямецкамоўных пісьменнікаў: G, H / М. Навіцкі // Роднае слова. – 2003. – № 2. – С. 87 – 88; Навіцкі, М. Імёны і прозвішчы нямецкамоўных пісьменнікаў: H, I, J, K, L, M / М. Навіцкі // Роднае слова. – 2003. – № 4. – С. 91 – 92; Навіцкі, М. Імёны і прозвішчы нямецкамоўных пісьменнікаў: M, N, O, P, R, S, T, U, V, W, Z / М. Навіцкі // Роднае слова. – 2003. – № 7. – С. 86 – 88; Навіцкі, М. Нямецкія найменні ў беларускай мове: праблемы перакладу / М. Навіцкі // Роднае слова. – 2002. – № 10. – С. 79 – 81.

8. Таболіч, А. Тапонімы ЗША / А. Таболіч, А. Таболіч // Роднае слова. – 2001. – № 7. – С. 83 – 84.

9. Інструкцыя па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта. Зарэгістраваная ў Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь 30.11. 2000 г. № 8/4488.

10. United Nations Statistics Division // United Nations Organization [Electronic resource]. – 2009. – Mode of access: http://unstats.un.org/unsd/geoinfo/uncsgn.htm. – Date of access: 20.08.2009.

11. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мін. вобл.: Нармат. давед. / пад рэд. В.П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – 605 с.

12. Гапоненка, І. Перадача іншамоўных геаграфічных назваў па-беларуску / І. Гапоненка // Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 30 – 32.

13. Вікторка, Л.В. Імя ўласнае асабовае ў міжкультурнай камунікацыі (на матэрыяле англійскай і беларускай моў) / Л.В. Вікторка // Язык и социум: материалы V междунар. науч. конф., Минск, 6–7 дек. 2002 г. В 2 ч. / Бел. гос. ун-т; редкол.: Л.Н. Чумак (отв. ред.) [и др.]. – Минск, 2003. – Ч. 2. – С. 159 – 162.

14. Каладзінскі, А.М. Руска-беларускі фізічны слоўнік / А.М. Каладзінскі, Д.М. Карацінская, П.У. Сцяцко; пад рэд. Л.М.Ківача. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 498 с.

15. Таболіч, А. Таямніцы мастацкага перакладу: English ↔ Belarusian / А. Таболіч. – Мінск: Бел. кнігазбор, 2004. – 148 с.

16. Пятроўскі, Я. Ангельска-беларускі, беларуска-ангельскі слоўнікі / Я. Пятроўскі. – Мінск: Тэхналогія, 1993. – 174 с.

17. Барыс, С. Беларускія імёны: дапам. для маладых бацькоў / С. Барыс. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 16 с.

18. Баршчэўскі, Л.П. Еўраслоўнік: 28 моў (каля 100 000 адзінак перакладу) / Л.П. Баршчэўскі. – Мінск: Радыёла-плюс, 2008. – 704 с.

19. Дзеяслоў: літаратур.-маст. часоп. – Мінск, 2008 – 2009.

20 Гапоненка, І.А. Прынцыпы і структура слоўніка-даведніка сучасных беларускіх прозвішчаў / І.А. Гапоненка // Надзённыя праблемы лексікалогіі і анамастыкі славянскіх моў: зб. навук. арт. / М-ва адук. РБ, Мазыр. дзярж. пед. ун-т; адк. рэд.: А.В. Солахаў, В.В. Шур. – Мазыр, 2006. – С. 3 – 5.


УДК 811.161. 3

**Жанна Белакурская** (Мінск)

## СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ АЎТАРСКАЙ ПАЗІЦЫІ Ў МАСТАЦКІМ ТЭКСЦЕ

Мастацкі тэкст – гэта замкнутая сістэма складанай унутранай арганізацыі, усе элементы якой знаходзяцца ў цесным узаемадзеянні і зарыентаваны аўтарскім пунктам погляду на адлюстраванне пэўнай пазнавальнай інфармацыі.

Пункт погляду аўтара мае, як правіла, ацэначны характар і арганізуе сюжэтную прастору тэксту, што праяўляецца ў кампазіцыі, сістэме вобразаў і інш., г. зн. ён уяўляе сабой найважнейшы элемент агульнага працэсу мастацкага спасціжэння свету. Пры гэтым аўтарскі пункт погляду можа быць глыбока прыхаваны, выражаны не ў канцэптуальнай эксплiцытнай інфармацыі, а выяўляецца пры

ўважлівых адносінах да асобных частак тэксту, да з'яў падтэксту, адлюстраваных аўтарам імпліцытна, і якія заключаюць у сабе глыбокі ўнутраны змест.

Як вядома, тэкст як цэласная адзінка мае свае адметныя дыферэнцыйныя і інтэгральныя прыкметы – звязнасць, цэласнасць, паслядоўнасць, інтэграцыя, завершанасць і інш., сістэмнае ўзаемадзеянне паміж якімі ствараецца і накіроўваецца аўтарам. Менавіта яго пазіцыя, яго пункт погляду прадвызначае ўсё ў мастацкім тэксце.

Асабліва выразнае адлюстраванне аўтарская пазіцыя набывае ў формах выкладання, прадстаўленых у тэксце, у тым ліку у адпаведных тыпах тэксту, а таксама ў сентэнцыях, падтэксце і інш.

У гэтым плане цікавасць уяўляе даследаванне коласаўскага тэксту, паколькі Якуб Колас – майстар пабудовы тэкстаў надзвычай разнастайных не толькі па змесце, але і па форме.

У мове ранніх апавяданняў Якуба Коласа моўнае выражэнне аўтарскага пункту погляду дастаткова разнастайнае, аднак размяркоўваецца ў тэкстах неаднародна і нераўнамерна. Тым не менш аўтарская пазіцыя садзейнічае шматграннасці і поліфанічнасці мастацкага тэксту.

Гетэрагенны характар ранніх апавяданняў пісьменніка прадугледжвае і наяўнасць розных тыпаў выкладання, такіх, як аўтарская мова, няўласна-простая мова, у кожным з якіх праяўляецца аўтарская светаўспрыманне і светаразуменне, якое ў найбольш поўнай форме прадстаўлена ва ўласнай мове аўтара. Менавіта ў ёй аўтарскі пункт погляду выходзіць на паверхню, выражаецца экспліцытна. Аднак яго ўвасабленне непасрэдна звязана з кампазіцыйна-моўнымі формамі тэксту – апісаннем, апавяданнем, разважаннем.

Так, найбольш выразна ўласна аўтарскае выкладанне прадстаўлена ў тэкстах-разважаннях. У такіх тэкстах Коласаў пункт погляду выражае не толькі абагульнена-аўтаномны характар, ён можа мець дачыненне да некалькіх падобных сітуацый, а не толькі да той, сувязь з якой прама ці ўскосна адлюстроўваецца. Логіка-сэнсавая універсальнасць разважання, яго генералізуючая роля ў тэксце адрывае яго ад канкрэтнага сюжэта, таму пісьменнік умацоўвае яго пазіцыю з папярэднім кантэкстам, пачынаючы разважанне спецыяльнымі лексічнымі маркерамі, якія або адсылаюць чытача да вядомай інфармацыі, або папярэднічаюць ёй. Звернемся да апавядання «Дзеравеншчына».

*«Як яно будзе далей, сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё, што кепска; і сам Міхалка так думае, стоячы на каленках па некалькі разоў на дзень»* [1, с. 104].



Актуалізацыя разважання ў кантэксце падкрэсліваецца і спецыяльным графічным прыёмам – выдзяленнем архітэктанічна ў самастойны абзац. Разважанне ў такім выпадку – выразнік коласаўскіх ідэй, якія пераплятаюцца з думкай дзейных асоб, у прыватнасці, з думкамі вясковага хлопчыка Міхала, што быў вымушаны падацца ў горад пасля смерці бацькоў.

Аўтарскі пункт погляду можа мець пытальна-тлумачальную форму, што дае магчымасць увайсці ў непасрэдны кантакт з чытачом.

*«Чулі вы, як балбоча бесперастанку, і ўдзень, і ўночы, пад гарою ручай, цекучы на каменьчыках, скачучы з аднаго парога на другі?...*

*– Ласне ручай умее гаварыць? – спытаеце вы.*

*– А ці вы не чуеце яго мовы? – спытаю вас і я»* [1, с. 224].

Традыцыйна апісанне (партрэтнае і пейзажнае) адносяць да статычнай кампазіцыйна-моўнай формы. Менавіта ў такім выглядзе партрэтныя апісанні-характарыстыкі найбольш ужывальныя ў Коласа. Тым не менш партрэт, нават лаканічны, але насычаны трапнымі дэталямі, дазваляе ўявіць індывідуальныя асаблівасці створанага вобраза. Акрамя фізічных характарыстык Якуб Колас у партрэт уключае звесткі аб знешнім выглядзе, манерах, г. зн. усё тое, што адлюстроўвае густы, звычкі, характар асобы і стварае яго адметнасць.

*«Я добра памятаю, як гэты пан ішоў праз сяло. Дзеці цэлай чарадой беглі за ім па вуліцы, бо такая фацэтная фігура тут з'яўлялася яшчэ першы раз. Гэта быў стары пан, якіх цяпер мала дзе сустрэнеш. Доўгія сівыя вусы, спушчаныя трохі кнізу, прыдавалі строгі выраз поўнаму твару пана каморніка. Круглае пуза так далёка выдавалася ўперад, што, пэўна, пан не бачыў за ім сваіх кароценькіх ножак. Усякаму, хто пазіраў на пана, здавалася, што ён не ідзе, а нейк пасоўваецца, як бочка на калёсах»* [1, с. 69].

Дзякуючы партрэту, вызначаецца сацыяльная прыналежнасць персанажа. Акрамя таго, уваходзячы ў тэмпаральны канцінуум тэксту, ён дае магчымасць пісьменніку адлюстраваць эпоху, пару года і г.д.

*«Назаўтра ўстаў ён рана. Залатала матка яго сярмягу, ушыла гузікі, бацька справіў яму лапці»* [1, с. 242].

У некаторых выпадках стварэнне партрэта ідзе паступова. Дзякуючы накопленым штрыхам, вобраз атрымліваецца надзвычай выразным і праўдзівым:

*«Ну, і гэтая Ганна! Уродзіцца ж такая краля»* [1, с. 77].

*«Прэч! – крыкнула дзяўчына, выпрастаўшы свой стройны стан»* [1, с. 78].

*«Ганна хадзіла ў кругу з вянком на галаве, сплеценым з першых красак. І сама яна была, як краска: нават дзяўчаты любаваліся яе*

*прыгожым тварам, доўгімі цёмнымі косамі і стройным станам»* [1, с. 83].

Партрэтныя штрыхі, раскіданыя па ўсім тэксце, не толькі ствараюць дынамічную карціну зменлівай знешнасці персанажа, але і дазваляюць аўтару счапіць тэкст у адно цэлае.

Адметнай рысай коласаўскага партрэта з'яўляецца ацэначнасць. Менавіта ў ацэначнасці праяўляецца роля партрэта ў сістэме сродкаў фарміравання кантэксту.

*«І зух жа гэты ляснік! І па ўсім відаць было, што ён стаяў вышэй усіх хлопцаў у сяле. Трэба было бачыць, як ён, апрануўшы сваю куртку з касцянымі гузікамі і закруціўшы вусы, ішоў вуліцаю і важна выкідаў нагамі, абутымі ў боты з блішчастымі халявамі. Тады здавалася яму, што ён падпірае сваёю галавою неба і што з яго дзівіцца ўсё сяло»* [1, с. 76].

Як бачна, апісанне эксплiцытна выражае аўтарскую ацэначнасць і мадальнасць, г. зн. непасрэдна ўказвае на размеркаванне аўтарскіх сімпатый ці антыпатый.

За пейзажам як відам кампазіцыйна-моўнай формы апісання таксама замацавалася значэнне статычнага фону з'яў. Аднак вобраз прыроды, якім з'яўляецца пейзаж у Коласавых апавяданнях, адлюстроўвае і дынамічныя працэсы, якія адбываюцца ў прыродзе.

*«Меж Ільёю і Спасам пачынаюцца чуць не кожны год дажджлівыя дні. І дажджы з громам і маланкамі найчасцей выпадаюць уночы. Цэлы дзень парыць, клоніць ка сну. Усё значыць на дождж, хоць неба і чыста і ярка свеціць сонца. А як толькі яно зайдзе, на краі неба з'яўляюцца хмаркі; скора растуць яны і вылазяць з-за лесу. Грозныя хмары з чырвонымі краямі агромнымі клубкамі ціха і важна насіскаюцца на неба. Як толькі сцямнее, пачынае бліскаць маланка, але грому яшчэ не чутно. А хмара ўсё паўзе і паўзе, усё большую і большую займае часць неба»* [1, с. 238].

Вобраз прыроды ў Коласа не мэта, а сродак паглыбленага тлумачэння стану дзейнай асобы ці стану самога аўтара. Якуб Колас выкарыстоўвае пейзаж у дзвюх розных функцыях: ён выражае або гармонію персанажа з прыродай, або іх антаганізм.

Так, апавяданне «Васіль Чурыла» пачынаецца апісаннем лесу і душэўнага стану жонкі лесніка – Алесі, якая ўсю ноч чакала свайго мужа.

*«Лес шумеў неяк вельмі нудна. Лес рэдка калі маўчыць. Прывычнае вуха лавіла ў ім галасы, але ніхто яшчэ не ўнікнуў у тайну яго мовы; толькі сэрца смутна адгадвае ў ім нуду і трывогу.*



*Касматыя яловыя вяршыні трасліся, як у шалёным танцы. Лапы то падымаліся, то апускаліся, як бы лавілі нявіднага ворага, якія не даваў спакою і прымушаў трасціся лес.*

*Лес шумеў. Смутна шумеў стары лес»* [1, с. 41].

Стан прыроды і вобраз Алесі знаходзяцца і развіваюцца ў апавяданні ў цесным эмацыянальным адзінстве. Малюнак прыроды адпавядае перажываннем лесніčыхі і стварае як бы адпаведны трывожны фон.

Аднак пейзаж можа выконваць і функцыю кантрасту. Так, спакой і міратворнасць апісання стану прыроды ў апавяданні «У старых дубах» рэзка кантрастуе са здарэннем, што адбылося з хлопцам Базылём, які зваліўся ў Нёман і якога ледзь адратавалі аднавяскоўцы.

*«Сонца гэтак жа сама пазірала на гэтую з'яву; гэтак жа сама было ціха ў прыродзе, і ўсё жыло сваім жыццём. Старыя дубы стаялі спакойна, важна, як і заўсёды. Толькі галкі, спуджаныя людскім крыкам, пазляталі з дубоў, ды сіваваронкі з сярдзітым карканнем кружыліся над дуплістымі дзеравякамі, як бы злуючы на тое, што патрывожылі без усякай прычыны іх прывольны спакой, і ззялі на сонцы сваім зялёным пер'ем»* [1, с. 103].

Эмацыянальна-ацэначная пазіцыя Якуба Коласа адчуваецца і ў апісаннях прыроды. Асабліва выразна гэта праяўляецца ў сентэнцыях, г. зн. такіх сказах унутры выказвання, якія, перарываючы паслядоўнасць выкладу фактаў, з'яў, апісанняў, уяўляюць сабой нейкія абагульненні, толькі ўскосна звязаныя з гэтымі фактамі, з'явамі, апісаннямі. Ілюстрацыяй можа служыць урывак з апавядання «Восень», які пачынаецца з апісання восені ў лесе, а затым перапыняецца выказваннем аўтара, што носіць характар лірычнага маналога: *«Эх, гутарлівы лес! Люблю я цябе, люблю твой шум, халадок тваіх лістоў і твой здаровы, смаляны запах»* [1, с. 236].

Калі разумець сентэнцыю як мікраадступленне, то аўтарскае адступленне (тры ці больш сказаў, цэлы абзац) дае магчымасць пісьменніку ў адкрытай форме выказаць асабістыя меркаванні, што маюць прамыя ці ўскосныя адносіны да цэнтральнай тэмы. Пры гэтым аўтарскія адступленні носяць характар рознага роду абагульненняў, заключэнняў, як гэта мае месца, напрыклад, у апавяданні «Вясна», дзе V раздзел носіць характар аўтарскага «павучання».

*«Гуляйце, дзеткі! Разумна гуляйце, прыглядайцеся да жыцця божага свету: няхай вучыць ён вас, як жыць, як рабіць вашу сілу разумнаю сілаю, каб непрыяцелі вашы не здалелі вас, не пабілі вас у адзіночку, Цяпер ваш час, гуляйце, набірайцеся сілы. Няхай шчыра свеціць вам сонца, няхай не зарастае дарога ваша дзікаю травою, як*

*зарасла дарога вашых бацькоў. Няхай шырэй і далей пазірае вока ваша на божы свет, на саміх сябе»* [1, с. 215].

Такія сентэнцыі адыгрываюць значную ролю ў змястоўна-канцэптуальнай інфармацыі, якую выражае сам аўтар, як бы «навязваючы» чытачу сваё стаўленне, свае густы і ўяўленні, адлюстроўваючы іх не толькі ў сказах, абзацах, але і ў асобных апавяданнях. Такія коласаўскія апавяданні, як «Думкі ў дарозе», «Паўлюковы думкі», «Вясковая дарога» і інш., цалкам уяўляюць сабой лірычны роздум пісьменніка, наскрозь прасякнутыя эмацыянальна-экспрэсіўнай характарыстыкай прадмета ці з'явы.

Патрэбна адзначыць, што аўтарскія маналогі – выразная стылёвая рыса Коласа-празаіка пазнейшага перыяду, адметны і неабходны кампанент структуры коласаўскага тэксту наогул.

Аўтарскі пункт погляду дастаткова выразна праяўляецца ў апавяданнях і ў такіх прыёмах, як перадаручэнне апавядання іншай асобе, увядзенне асобы апавядальніка, які замяшчае ўласна аўтара. Апавядальнік можа выконваць свае функцыі адкрыта, ведучы апавяданне ад 1-й асобы.

*«Я выскачыў на двор. Пахла гар'ю і дымам»* [1, с. 229].

Такое апавяданне вызначаецца асобай даверлівасцю і інтымнасцю. Апавядальнік як бы ўпускае нас у свой уласны ўнутраны свет.

Аднак апавяданне можа весціся і ад 3-й асобы.

Ад самага ранку касіў Паўлюк у пана на лузе. Намуляў ён рукі і плечы за няшчасныя два злоты; цяпер ішоў дадому, жаваў чорствую скарынку хлеба і думаў:

*«Мой моцны божа! Чаму такая несправядлівасць і няпраўда на свеце? І чаму справядлівую кару тваю, якою пакараў ты Адама за грэх яго, нясуць толькі бедныя людзі»* [1, с. 24].

Такім чынам дасягаецца максімальнае аб'ектыўнасць выкладання, паколькі эксплiцытныя ацэнкі належаць апавядальніку, а сам аўтар як бы не зацікаўлены ў ходзе падзей.

Аўтарскі пункт погляду прэвалюе і ў няўласна-простай мове, калі чужая мова як бы зліта з аўтарскай. Думкі дзейнай асобы перадаюцца скрозь прызму аўтарскіх адносін, і гэта надае тэксту своеасаблівае гучанне.

*«Моташна было Андрэю слухаць такія гутаркі – проста свет здаваўся яму нямілы. Здаецца, узяў бы, завязаў вочы і ішоў бы няведама куды, абы знайсці заспакаенне, абы не чуць той згрызоты, што была на сэрцы»* [1, с. 161].

Такім чынам, выяўленне аўтарскай пазіцыі, выражанай як вербальна, так і імпліцытна, стварае пэўны эмацыянальна-ацэначны фон і пашырае ўмовы правільнага разумення тэксту і як вынік – пазнання канцэпту, фарміраванню якога прысвечаны мастацкі твор.

*Спіс літаратуры*

1. Колас, Я. Збор твораў. У 14 т. / Я. Колас / рэд.калегія: В. Барысенка [і інш.]; падрыхт. тэкста і камент. У. Ларчанкі; АН БССР. Ін-т літаратуры імя Я. Купалы. – Мінск: Маст. літ., 1972 – 1978. – Т. 4, Апавяданні, 1906 – 1917. – 1973. – 342 с.

УДК 811.161.3

**Э.Д. Блінава**, **П.А. Міхайлаў**, **С.І. Фацеева** (Мінск)

## ГАВОРКІ СЛУЧЧЫНЫ: ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ

Лексічная сістэма беларускай дыялектнай мовы, нягледзячы на плённую і шматгадовую працу шырокага кола навукоўцаў, па-ранейшаму застаецца недастаткова распрацаванай галіной беларускага мовазнаўства, што стрымлівае развіццё шэрагу яе важных тэарэтычных раздзелаў. У сувязі з гэтым асабліва каштоўнымі і неабходнымі з'яўляюцца лексікалагічныя і лексікаграфічныя даследаванні па тых рэгіёнах Беларусі, якія найменш вывучаны ў гэтым плане. Да ліку апошніх адносяцца і гаворкі Случчыны – аднаго з найбольш цікавых і адметных этна-дыялектных рэгіёнаў на тэрыторыі Беларусі. На жаль, лексічныя матэрыялы з тэрыторыі Случчыны да гэтага часу сістэмна і глыбока не вывучаны, хоць названыя гаворкі выключна багатыя і займаюць важнае месца ў агульнай сістэме беларускай дыялектнай мовы. Таму на кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага яшчэ ў 60-ыя гады XX стагоддзя было задумана стварэнне «Слоўніка гаворак Случчыны».

Тады ж былі вызначаны і навукова абгрунтаваны тэрытарыяльныя межы будучай лексікаграфічнай працы ў абранай дыялектнай зоне, распрацавана Інструкцыя для збіральнікаў матэрыялаў і праспект «Слоўніка гаворак Случчыны». Асноўную працу па выяўленні і рэгістрацыі лексікі гаворак Случчыны планавалася праводзіць не толькі на тэрыторыі Слуцкага раёна Мінскай вобласці, а менавіта ў межах *Случчыны* ці *Слуцка-Нясвіжскага этна-дыялектнага рэгіёну*, які на поўдні мяжуе з Усходнім Палессем. Падставай для яго выдзялення паслужылі этнаграфічныя асаблівасці, адметнасці гаспадарчых заняткаў, земляробчай культуры, народнага адзення і інш. мясцовага насельніцтва. Геаграфічнае становішча (суседства з Падняпроўем, Палессем, Панямоннем), спецыфіка гаспадарання і побыту жыхароў Случчыны, іх багатая духоўная культура адлюстраваліся ў лексіцы

мясцовай гаворкі, якая яшчэ добра захавалася і актыўна ўжываецца ў паўсядзённых зносінах людзей. Аднак у залежнасці ад некаторых этнаграфічных і вытворчых рэгіянальных традыцый розныя пласты мясцовых слоў у той ці іншай вёсцы функцыянуюць у розным аб'ёме.

У тэрытарыяльна-дыялектных адносінах Случчына ўваходзіць у слуцка-мазырскую (па іншай класіфікацыі – у слуцкую) групу гаворак паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. На ўсходзе яна мяжуе з паўночна-ўсходнім дыялектам і сярэднебеларускімі гаворкамі, на поўдні – з палескімі, на захадзе і поўначы – гродзенска-баранавіцкімі гаворкамі паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. Такое памежнае становішча паміж некалькімі буйнымі дыялектнымі масівамі забяспечвае, на думку многіх навукоўцаў, з аднаго боку, захаванне шэрагу старажытных архаізмаў, а з другога – узнікненне розных інавацыйных моўных з'яў у выніку кантамінацыі (узаемадзеяння) рознадыялектных элементаў.

Рэгіянальная лексіка збіралася рознымі спосабамі, аднак асноўнымі і найбольш плённымі былі штогадовыя экспедыцыі шматлікіх студэнтцкіх груп на чале з вопытнымі і высокакваліфікаванымі выкладчыкамі ў папярэдне вызначаныя паасобныя вёскі Случчыны. У гэтых экспедыцыях перш за ўсё выкарыстаны «Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы» ў трох выпусках (1959, 1960, 1966) і «Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы» (1971). Акрамя таго, студэнтамі было падрыхтавана шэраг невялікіх рабочых апытальнікаў для напісання курсавых і дыпломных прац па лексіцы розных традыцыйных мясцовых заняткаў, промыслаў, звычаяў людзей. Дыялектныя словы з гэтых прац, як і кантрольных работ па дыялекталогіі студэнтаў завочнай і дзённай формаў навучання тагачаснага філалагічнага факультэта МДПІ імя М.Горкага, таксама ўключаныя ў картатэку будучага слоўніка.

Па першапачатковай задуме «Слоўнік гаворак Случчыны» павінен быць поўным слоўнікам традыцыйнай мясцовай лексікі (на ўзор «Тураўскага слоўніка»). Такі тып лексікаграфічнага даведніка, на думку аўтараў, найбольш адпавядае навуковым і практычным задачам сучаснай дыялекталагічнай навукі. Да традыцыйнай лексікі аўтары адносяць спрадвечныя або досыць старыя словы, якія складаюць лексічны фонд гаворкі, а таксама ўласналексічныя рэгіяналізмы, не адвяргаючы пры гэтым і некаторыя больш познія ўтварэнні і запазычанні. Такі тып дыялектнага слоўніка дазваляе прадставіць лексіку гаворкі як пэўную стройна арганізаваную сістэму, стварае спрыяльныя магчымасці для вывучэння мясцовых лексічных тэрытарыяльных супрацьпастаўленняў і даследавання яе ў параўнальным плане з іншымі аналагічнымі сістэмамі беларускай літаратурнай і дыялектнай мовы.

Як вядома, гаворкам Случчыны, з аднаго боку, уласцівыя амаль усе фанетычныя і граматычныя рысы, тыповыя для паўднёва-заходняга дыялекту, а з другога, – яны маюць свае, адметныя асаблівасці, характэрныя т.зв. усходняй групе беларускіх гаворак. Дыялектнае маўленне мясцовых жыхароў у асноўным дастаткова аднароднае, але на памежжы з гаворкамі іншых дыялектных груп – заходняй, сярэднебеларускай і ўсходнепалескай – яны маюць свае пэўныя адметнасці, асабліва ў галіне фанетыкі.

Асноўныя фанетычныя асаблівасці гаворак Случчыны. *Націскны вакалізм* характарызуецца васьміфанемным складам галосных. У становішчы пад націскам, апрача галосных фанем [і], [ы], [е], [а], [о], [у], ёсць яшчэ галосныя [ô] і [ê] (радзей дыфтонг [іе] на месцы былога [ѣ]): *лêс, абамлêла, жмêня*). Дыфтонг [іе] адзначаецца ў маўленні жыхароў вв. Вялікі Рожан Слуцкага р-на, Даманавічы Любанскага р-на, Рухава Старадарожскага р-на: *гарыэла, пабіеглі, по водзіе, шыэсь*. Фанема [ô] вымаўляецца ў новых закрытых складах на месцы [о]: *кôнь, вôз, двôр, жôрны*. Дыфтонг [уо] зафіксаваны ў тых жа вёсках, што і дыфтонг [іе].

У маўленні жыхароў вв. Хідра і Пагарэлае Асіповіцкага р-на, Наваполле Пухавіцкага р-на, Лясное і Пясочнае Капыльскага р-на, якія знаходзяцца на мяжы з сярэднебеларускімі гаворкамі, закрытыя гукі не адзначаны: *нявестку, дошч, хлеп, паехалі, рой, абет*.

Пераход [е] у [о] адбываецца непаслядоўна, прытым нават у гаворцы адной і той жа вёскі. Найбольш прыкладаў адсутнасці пераходу [е] у [о] зафіксавана ў гаворках Любанскага, Салігорскага і поўдня Клецкага раёнаў. Няма такога пераходу і ў корані некаторых слоў: *це́шча (чэ́шча), дале́ко, Хве́дар, ве́ска*, а таксама ў канчатках Т. скл. адз. ліку назоўнікаў муж. роду: *кане́м, кашэ́м, агне́м;* жан. роду: *душэ́ю, гразе́ю, зямле́ю, радне́ю, пуце́ю*; неасабовых займеннікаў: *мае́ю, твае́ю, свае́ю, усе́ю*. Не выяўлены пры палявых даследаваннях пераход [е] у [о] у канцавым адкрытым складзе: *усе́ (усё), мае́, твае́, свае́, чые́, ужэ́ (ужо), галье́*.

Гаворкам уласцівая з'ява лабіялізацыі, калі паміж губнымі і пасля губнога на месцы галоснага [ы] вымаўляецца [у]. Лабіялізацыя часцей за ўсё назіраецца пад націскам у аснове слоў: *буў, му́ло, ву́берыцца, ву́піў, ву́расло*, а таксама не пад націскам: *папро́буваў, путпаліў, збува́ецца, музо́ль, музы́ль, бува́ло, муй*, дзе [у] вымаўляецца не толькі на месцы галоснага [ы], але і галоснага [о], у тым ліку ў ненаціскных

канчатках назоўнікаў, прыметнікаў, неасабовых займеннікаў і лічэбнікаў: *нêмцуў, самалётуў, гэтум, жóўтум, у зялёнум, у пятум, азімуй.*

*Ненаціскны вакалізм*. Пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных усім гаворкам характэрна недысімілятыўнае аканне ў першым складзе перад націскам: *абабрáў, абамлêла, абарвý, картóплі, рабіць, нагаварыла*. Выключэнне – гаворка в.Даманавічы Любанскага р-на, дзе вымаўляецца [о]: *согнáлі, ходжáін, потскóчыў, голодáлі*; аднак *спасáліся, самалёты*.

У Любанскім, Салігорскім, Старадарожскім, Ганцавіцкім, часткова Слуцкім і Капыльскім (за выключэннем паўночнай часткі), недысімілятыўнае аканне – няпоўнае: *галавá, малакá, абганялі, хýстачка, вéчар, гóрад*; але *сáло, мáсло, багáто, бêлаго, нічóго, мáло, нямôцно, дóбрэ, гóрэ.*

У гаворцы вв. Хідра і Пагарэлае Асіповіцкага, Наваполле Пухавіцкага, Лясное, Пясочнае, Зубкі, Галынка Капыльскага, Грэск, Гольчыцы, Паўстынь Слуцкага р-наў недысімілятыўнае аканне – поўнае: *галава, сêна, сáла, старóга.*

Пасля мяккіх зычных галосныя [а], [о], [е] у першым складзе перад націскам супадаюць у гуку [а]: *вяснá, вязáць, лятáюць, пасядзêце, глядзéць, пясóк, вярóвачка, ляснік, вялікія*, апрача гаворкі в.Даманавічы Любанскага р-на, дзе вымаўляецца [е]: *летáе, сестрá, бежы, гледзяць, немнóго*. Такім чынам, ненаціскны вакалізм пасля мяккіх зычных у гаворках Случчыны характарызуецца недысімілятыўным яканнем. У другім, трэцім і іншых пераднаціскных складах этымалагічны [е] захоўваецца: *леснікі, вераб'і, лебядзіны, верацéнцо, дзераўянымі*, а ў паслянаціскных складах у маўленні жыхароў Салігорскага, Любанскага і Ганцавіцкага раёнаў вымаўляецца [е], у астатніх гаворках даследаванага рэгіёну – [а]: *акáпваем, прыкладáем, вêдае, тыдзень, фéрмерам, тóненечкая, кляпáем, аббівáеш*; *хлóпяц, у лêся, нéмяц, танцýям, прыдзя, чóрнянькая, чысцянькая, забýдзя.*

*Сістэма кансанантызму*. У гаворках рэгіёну паслядоўна вымаўляецца фанема [р]: *рукá, рôй, рôт, нарôд, азярôд, рабіла, прáмо, абрэ́зваць, берагê, гавары, бярóза, цяпêр*. Аднак у вв. Таль і Рачэнь Любанскага р-на людзі сталага ўзросту вымаўляюць мяккі [р']: *хрясткі, грядка, прянік, пряжа, прядý, бéряг, грябýць, гóря, рятýйце, гаревáць, бярёза, хварéў, дарéмны, дрéнно, дóбре, пéрье, наварю́*; у запазычаных словах – *швáгірь, дзірéктар, патрінáжная*. Акрамя таго, сталыя людзі называюць вёску *Рéчань*, а маладыя – *Рачэ́нь*. Разам з тым, у асобных словах этымалагічна цвёрдая фанема [р] таксама вымаўляецца мякка: *дрюгáя, прясóхне, крясівы, перебірянка, крюхмáл, карíто, у цабрях*. Але і ў маўленні сталых людзей вымаўленне мяккай фанемы [р'] паслядоўна не вытрымліваецца: *адрэ́жа, багатыр, грыб, удáрыла, сварыцца, дзéрава, на дварé, цяпêр* і г.д.

Мяккія губныя фанемы [б'], [в'], [м'], [п'] перад галоснымі [а], [о] зацвярдзелі: [*пйац'*], [*гаўйáдо*], [*мйáта*], [*мйасаêд*], [*пйáтніца*], [*павйáзаны*], [*памйóр*], [*бабйóр*], [*прыўйóз*], [*аўйóс*], [*с'амйóрка*].

Звонкія зычныя ў пазіцыі перад глухімі вымаўляюцца звонка ў гаворках Любанскага, Салігорскага і Ганцавіцкага р-наў: *абнôжка, дéжка, лóжка, нóжка, лóдка, апáдкі, грáдка, кáзка*, а таксама ў канцы слова: *мёд, лёд, стôг, снêг, зуб, хлêб*. У астатніх гаворках яны ў названым становішчы аглушаюцца: *дêшка, грáтка, дзяцько, заўяска, дзêт, хóлат, стôх, рôх, дуп, зуп, марôс, грáсь, нябóш, дошч.*

Падаўжэнне зычных на месцы старажытнага спалучэння «мяккі зычны + ьј» у гаворках Случчыны перадаецца непаслядоўна, часцей захоўваецца спалучэнне мяккага ці зацвярдзелага зычнага з наступным [j]: [*судз'йа*], [*грáз'йу*], [*зêл'йе*], [*вóсен'йу*], [*калóс'йе*], [*плáц'йе*], [*ночйу*]. Часам [j] страчваецца і тады вымаўляюць непадоўжаны зычны [*с'в'ін'á*], [*варэ́н'е*]. У гаворках Асіповіцкага і Пухавіцкага раёнаў назіраецца падаўжэнне: [*кас'с'ó*], [*палóз'з'е*], [*свáц'ц'а*], [*Хадóс'с'а*], [*гарахав'éн'н'е*].

Ва ўсіх гаворках зафіксаваны пратэтычны зычны [в] перад націскнымі [о], [у]: *вóзяро, вóчарадзь, вóсень, вóкна, вýсы, навýка, вýтра, вýсянь, вýліца, вýтка, вýмніца*. У гаворках Ганцавіцкага і Клецкага раёнаў у асобных словах вымаўляецца прыстаўны [г]: *гýліца, гóстры (гóйстры), гастрыць, гальяс*, а таксама пратэтычны галосны [а]: *абязмêн, арабіна*.

Марфалагічныя асаблівасці гаворак Случчыны. Захаваліся рэшткі формаў парнага ліку назоўнікаў жан. і н. роду Н. скл. у спалучэнні з лічэбнікамі *дзве, абедзве, тры, чатыры* і з састаўнымі лічэбнікамі, у якіх апошнія словы *два, тры, чатыры*: *дзвê лáве, абéдзве змéне, дзвê бáбе, тры нóрме, чатыры бýкве, дзвê слóве, чатыры вядрэ́, дзве лêце; двáццаць тры хáце згарэ́ло*. Гэтыя формы пераважаюць у маўленні людзей сталага ўзросту.

Шырока ўжываецца клічная форма ў назоўніках жан. і муж. роду з канчаткам -о ў гаворках з няпоўным недысімілятыўным аканнем*: цётко, мáмо, дзêўко, Мáнё, Зóнё, Гáлё; бáцько, дзядзько, Кóлько, Халімóнко.*

Назоўнікі муж. роду *бацька* і *дзядзька* ў гаворках з няпоўным недысімілятыўным аканнем змяняюцца як назоўнікі н. роду: Н. *бáцько, дзядзько*, Р. *бáцька, дзядзька*, Д. *бáцьку, дзядзьку*, В. *бáцька, дзядзька* і г.д. *Гадавáўса без бáцька, на дзядзька спадзявáўса* – в.Шыпілавічы Любанскага р-на.

Часткова захоўваюцца архаічныя формы Д. і М. скл. мн. ліку: *к урачо́м хадзіла, к бацькôм прыêхаў, воўк к пастухôм кідаўся; на карчо́х, на хутаро́х, у каласо́х, у лясо́х, у бако́х*. У мн. ліку сустракаюцца формы Н. скл. з асновай на заднеязычны з канчаткам -е: *жанкê, дзяўкê, берагê, андаракê*.

Асобныя запазычаныя назоўнікі з нулявым канчаткам маюць форму прыметнікаў і змяняюцца, як прыметнікі: *Няма́ ў нас цяпе́р гарманістага – з'êхаў. Ён за трактары́стага ро́біць. На́ша брыгадзі́ршая ў во́тпуску*.

Назоўнікі жан. роду ў памяншальна-ласкальнай форме маюць суфіксы -іц- (-ыць-), -к-: *рукаві́цка, спадні́цка, сястры́цка, крыні́цка, ву́мніцка*.

У гаворках Случчыны ўжываюцца дзве формы ўказальнага займенніка *гэты* і яго розныя фанетычныя варыянты – *гэ́ты (ге́ты), гэ́та (ге́та), гэ́тыя (ге́тыя, гэ́тые) і е́ты, е́та, е́то, е́тыя (е́тые)*, а таксама *гэ́такі* і *е́сты*: *Гэ́та зімá халóдная. Ге́дакі ґвалт, стаяў, як людзе́й нêмцы страля́лі. Ето ёй ашчэ́ пашча́сціла. Етым лêтам мно́го я́гад було́*. У гаворках Капыльскага, Клецкага, Слуцкага, Ганцавіцкага і Пухавіцкага раёнаў бытуюць формы з пачатковым [г], у Любанскім, Старадарожскім і Асіповіцкім раёнах – з пачатковым [j(е)].

У в. Пасека Старадарожскага раёна зафіксаваны неазначальныя займеннікі, утвораныя пры дапамозе часціцы *-ль*: *чаго́ль, што́ль, яке́ль, хтоль, каму́ль, каго́ль, чы́мсель*, а таксама прыслоўі *дзель, дзе́льсель*, якім у іншых гаворках і літаратурнай мове адпавядаюць неазначальныя займеннікі з часціцай *-сьці*: *чаго́сьці, хто́сьці, які́сьці* і г.д.

Прыметнікі жан. і н. роду, неасабовыя займеннікі і парадкавыя лічэбнікі маюць у Н. і В. скл. сцягнутую форму: *сма́чна я́гада, кі́сла малако́, аве́чо м'я́со, ко́жна кабêта, уся́ка стра́ва, пêрша наста́ўніца; бêлу бяро́зу, ле́тню нôчку, уся́ку рабо́ту, пêршу зіму́, дваццаці́летня маладзёха*.

Зваротныя дзеясловы маюць цвёрдыя постфіксы *-са* (найчасцей), *-со* і мяккі *-се*: *абазва́ўса, спужа́ласа, плю́шчыласо* (вока), *асталóсо, урадзі́ласе, накі́нуласе* (хвароба). Найбольш паслядоўна гэтыя постфіксы ўжываюцца ў гаворках Любанскага, Капыльскага, Клецкага, Салігорскага і Слуцкага раёнаў, а ў Асіповіцкім і Пухавіцкім – толькі постфікс *-са*: *засталá́са, садзе́мса, абрахма́ніласа, парва́ласа*. Аднак у многіх вёсках Слуцкага і Капыльскага раёнаў сустракаецца постфікс *-ся*, а часам паралельна – цвёрды і мяккі варыянты.

У дзеясловах 1 ас. мн. ліку амаль паслядоўна вымаўляецца цвёрды зычны асновы: *по́йдам, бу́дам, прадôм, ся́дам, жнôм, пякôм, жыво́м, кладо́м*.



Дзеясловы будучага складанага часу маюць злітную форму: *хвалі́цьму, жані́цьмеш, бра́цьме, выбіра́цьмем, сядзе́цьмеце, іці́муць, купля́цьмуць*.

Дапаможны дзеяслоў *ёсць* мае варыянты: *есць, есь, ест, е́сяка, е́сьцяка, е, ё*.

Дыялектныя адрозненні ў галіне сінтаксісу назіраюцца ў асноўным у словазлучэннях. Так, уласны множналікавы назоўнік у спалучэнні з дзеясловам са значэннем 'рух, перамяшчэнне ў прасторы' і семантычна блізкім да яго ў В.скл. з прыназоўнікам *у* мае ўсечаную форму: *іх адсыла́юць у Бара́навіч; была ў ма́ці ў Асіпо́віч; спача́тку паехаў у Пу́хавіч, а по́тым у Смі́лавіч прые́дзе; ба́ба на́ша пашла ў Шыпі́лавіч – стôлькі ягад набра́ла; нêмцы сына забі́лі ў Цімкавіч*.

Спалучэнне займеннікаў *яе, ім, мяне, наш* і інш. з прыназоўнікам *над* служыць для выражэння вышэйшай ступені якасці, уласцівасці прадмета ці асобы: *над на́шым каló́дзезем нямá вады́* (в. Карытна Асіповіцкага р-на); *над мянê ні адзін мушчы́на не ара́ў* (в. Морач Клецкага р-на); *была́ ўся́ка рыба, але́ над на́ша во́зеро нямá* (в. Рачэнь Любанскага р-на), г.зн.: няма вады лепшай, як у нашым калодзежы; лепш за мяне ні адзін мужчына не араў; была ўсякая рыба, але лепшай, як у нашым возеры, няма.

УДК 811.161.3

**Т.П. Бочкар** (Гродна)

## АБ ВЫВУЧЭННІ ЛЕКСІЧНАЙ ВАРЫЯНТНАСЦІ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМ АСПЕКЦЕ

Фразеалагізмы – ўстойлівыя адзінкі. Пра гэта даецца інфармацыя нават у школьных падручніках [1, с. 104; 2, с. 49]. Як аб адной з галоўных прымет фразеалагізмаў – устойлівасці – адзначаецца і ў вучэбных дапаможніках для ВНУ: «У фраземе нельга замяніць ніводнага кампанента, інакш яна разбурыцца» [3, с. 101]. Але, з другога боку, адна і тая ж фразеалагічная адзінка (далей ФА) іншы раз здольна «выступаць у дзвюх, а то і болей разнавіднасцях, узаемазамяняльных у любым кантэксце» [4, с. 73]. Нягледзячы на ўстойлівасць і ўзнаўляльнасць, ФА ўсё ж такі дапускаюць змены ў плане выражэння (варыянтнасць).

Пытанне фразеалагічнай варыянтнасці з'яўляецца адным з самых спрэчных у галіне фразеалогіі. Хоць яе існаванне прызнаецца вучонымі, але няма адзінства думак наконт, напрыклад, выдзялення крытэрыяў варыянтнасці. Так, калі семантычная тоеснасць, непарушанасць

унутранай формы, аднолькавая спалучальнасць з іншымі словамі, поўная замяняльнасць у любых кантэкстах як крытэрыі размежавання варыянтаў і сінонімаў прызнаюцца ўсімі фразеолагамі (Ю.Ю. Аваліані, Л.І. Райзензон, А.І. Дзіброва, У.П. Жукаў, А.У. Кунін, І.Я. Лепешаў і інш.) [5, с. 78], то наконт стылістычнага значэння як крытэрыя адрознення варыянтнасці і сінаніміі сярод вучоных няма адзінай думкі. Напрыклад, даследчыкі С.Г. Гаўрын, Ю.Ю. Аваліані, Л.І. Райзензон, А.У. Кунін, І.А. Фядосаў і інш. лічаць, што семантычная тоеснасць можа быць парушана несупадзеннем стылістычнай афарбоўкі. Аднак В.Н. Тэлія, А.І. Дзіброва, Л.А. Кулікова і інш. выказваюць супрацьлеглыя думкі [6, с. 25].

Спрэчным з'яўляецца таксама і пытанне наконт выдзялення тыпаў варыянтнасці. У залежнасці ад таго, што вар'іруецца ў складзе фразеалагізма – план выражэння ці план зместу – вылучаюць 5 тыпаў варыянтнасці: фанетычная, акцэнтная, марфалагічная, словаўтваральная і лексічная [5, с. 76; 4, с. 77]. І.Я. Лепешаў лічыць, што асобна павінны таксама разглядацца канструктыўна-колькасныя і камбінаваныя варыянты. Нявырашанай застаецца праблема сінтаксічных варыянтаў. А.А. Іваннікава [7, с. 122], У.І. Зімін [8, с. 81], В.М. Макіенка [9, с. 23], Ф.М. Янкоўскі [10, с. 195], З.А. Рудакоўская [11, с. 50], Т.І. Каваленка [12, с. 161-162], М.А. Даніловіч [13, с. 45] і інш. вылучаюць сінтаксічныя варыянты фразеалагізмаў, у той час як У.П. Жукаў [14, с. 25] і М.В. Раеўскі [15, с. 115] адмаўляюць іх існаванне. В.М. Касцючык лічыць, што сінтаксічныя варыянты мэтазгодна выдзяляць толькі ў дыялектнай мове [5, с. 76].

Існаванне лексічнай варыянтнасці таксама ставіцца пад сумненне. Некаторыя фразеолагі (у прыватнасці, Н.М. Амосава, А.І. Фёдараў, А.М. Бабкін) адмаўляюць лексічную варыянтнасць [16, с. 100; 17, с. 20; 18, с. 84]. Іх пазіцыя абгрунтоўваецца тым, што варыянтнасць у складзе фразеалагізма можа быць толькі фармальнай, калі адно і тое ж слова ўжываецца ў розных сваіх граматычных ці фанетычных адменніках. Калі ж адбываецца лексічная замена кампанента ФА, то парушаецца яе ўнутраная форма. І гэта ўжо не варыянтнасць, а сінанімія. Аднак «такая трактоўка значна збядняе паняцце фразеалагічнага варыянта і празмерна пашырае паняцце фразеалагічнага сіноніма» [5, с. 77]. Больш таго, лексічная варыянтнасць з'яўляецца адным з першых тыпаў варыянтнасці, якія вылучаліся вучонымі. Напрыклад, менавіта М.М. Шанскі хоць і не называў, але меў на ўвазе лексічныя варыянты [19, с. 193]. Пасля яго лексічную варыянтнасць як адзін з тыпаў фразеалагічнай варыянтнасці вылучыў і А.І. Малаткоў у «Фразеалагічным слоўніку рускай мовы» [20]. Ужо ў 1968 г. на Усесаюзнай канферэнцыі фразеологаў існаванне слоўных змяненняў кампанентаў фразеалагізма, якія не парушаюць яго сэнсавы бок, не ставілася пад сумненне даследчыкамі (У.П. Жукавым, А.А. Іваннікавай, А.М. Грунбергам і інш.). В.М. Макіенка ў працы «Славянская фразеалогія» называе менавіта лексічныя варыянты ўласна фразеалагічнымі [9, с. 32]. Акрамя таго, лексічная варыянтнасць з'яўляецца найбольш пашыраным тыпам [4, с. 77].

Усё сказанае ставіць вар'іраванне лексічнай структуры ў складзе фразеалагізмаў у шэрагі найбольш актуальных праблем фразеалогіі. Хоць пад лексічнымі варыянтамі разумеюць «агульнамоўныя, агульнаўжывальныя слоўна-кампанентныя разнавіднасці фразеалагізма» [21, с. 29], яны, на думку А.М. Грунберга, з'яўляюцца найбольш спрэчнымі з варыянтаў [22, с. 171].

Безумоўна, наяўнасць шэрагу прац, прысвечаных з'яве лексічнай варыянтнасці, сведчыць пра цікавасць да гэтага лінгвістычнага феномена і пра тое, што з пункту гледжання канкрэтнай мовы гэтая з'ява даследавалася (напрыклад, многія працы ў рускім мовазнаўстве). Але існаванне спрэчных пытанняў (некаторыя з іх упаміналіся вышэй) з'яўляецца паказчыкам таго, што лексічная варыянтнасць застаецца ўсё ж такі недастаткова даследаванай з'явай. Гэта выклікае неабходнасць яе далейшага вывучэння. Калі крыніцы адной мовы вычэрпваюцца, варта звярнуцца да рэсурсаў іншай мовы і даследаваць з'яву ў супастаўляльным аспекце.

Фразеалогія – адна з маладых лінгвістычных дысцыплін. Супастаўляльная фразеалогія як адно з яе адгалінаванняў значна маладзейшая. Так, калі заснавальнікам фразеалогіі лічаць Ш. Балі (з пункту гледжання сусветнай фразеалогіі, пачатак XX ст.), а таксама У.У. ВіНаградава (працы якога з'явіліся вызначальнымі ў станаўленні фразеалогіі як самастойнай лінгвістычнай навукі ў 1946-1947 гг. у СССР), то супастаўляльная фразеалогія пачала сваё існаванне ў другой палове XX ст. (70 – 80-я гады). Працы В.У. Вінаградава ляглі ў аснову і супастаўляльнай фразеалогіі не толькі на базе рускай мовы (напрыклад, даследаванні В.Н. Тэліі, М.М. Шанскага, А.І. Дзібровай, У.П. Жукава і інш.), але і на базе іншых моў (А.Д. Райхштэйн, А.У. Кунін і інш.). Сінхронна-супастаўляльнае вывучэнне складу ФА розных моў як самастойны напрамак фразеалогіі пачынае сваё існаванне з таго часу, калі з'явілася першая праца па гэтай праблематыцы ў сярэдзіне 60-х гадоў, звязаная з такімі імёнамі, як Л.І. Райзензон і Ю.Ю. Аваліані [23, с. 10].

Згодна з азначэннем Ю.П. Саладуба, пад супастаўляльнай фразеалогіяй трэба разумець «асобны кірунак у фразеалагічнай навуцы,

якi даследуе ў супастаўляльным аспекце фразеалагiчны склад дзвюх або некалькiх моў» [24, с. 171].

Фразеалагiчны фонд той цi iншай мовы называюць скарбам народа. Даследаванне моўных адзiнак гэтага ўзроўню ў параўнаннi з iншамоўнымi дае магчымасць выявiць складаныя канцэпты ў стане вобразаў. Так, напрыклад, параўнаем наступныя мiжмоўныя адпаведныя ФА *like a bolt from (out of) the blue* (як болт з неба) ‘нечаканае здарэнне; неспадзеўка’ [25, с. 45] i *як гром (пярун) з (сярод) яснага неба* ‘1) зусiм нечакана, раптоўна; звычайна пра якое-н. здарэнне, няшчасце, бяду i пад.; 2) зусiм нечаканы, раптоўны; пра якую-н. падзею, навiну i пад.’ [26, Т. 1, с. 324-325]. Абодва фразеалагiзмы выражаюць аднолькавае паняцце, аднак вобразы, якiя леглi ў аснову гэтых адзiнак хоць i падобныя, але не аднолькавыя. Англiйская ФА адлюстроўвае «лагiчна ненарматыўныя адносiны прадметаў i з’яў» [24, с. 187]: болт з неба ўпасцi не можа. Адпаведная ж беларуская ФА хутчэй выражае «лагiчна нарматыўныя адносiны» [24, с. 186]: гром у небе – прыродная з’ява. Другi лексiчны варыянт гэтага фразеалагiзма *як пярун з яснага неба* напамiнае нам пра мiфiчную iстоту старажытных славян.

Абедзве вышэйадзначаныя ФА ахоплены з’явай лексiчнай варыянтнасцi. У англiйскiм фразеалагiзме *like a bolt from (out of) the blue* вар’iруецца прыназоўнiкавы кампанент, а ў беларускiм адпаведнiку – назоўнiкавы i прыназоўнiкавы кампанеты. Варыянты *гром* i *пярун* узнiклi ў вынiку метанiмiчнага пераносу (Пярун у павер’ях старажытных славян асацыяваўся з громам i маланкай). Аб’ядноўвае беларускi i англiйскi фразеалагiзмы лексiчнае вар’iраванне прыназоўнiкавага кампанента ў складзе мiжмоўных адпаведнiкаў.

Безумоўна, сучасныя лiнгвiстычныя даследаваннi не могуць развiвацца без супастаўлення, асноўным элементам якога з’яўляецца выяўленне тоесных цi падобных i розных прыкмет тых фактаў мовы, якiя супастаўляюцца. Асаблiвае месца ФА ў мове дазваляе супастаўляць iх не толькi з iншымi ФА, але i з адзiнкамi iншых узроўняў – лексемамi, спалучэннямi слоў i iнш. [24]. Пры мiжмоўным супастаўленнi лексiчнай варыянтнасцi фразеалагiзмаў выяўляюцца тыя ж самыя семантычныя адносiны, якiя ўласцiвы i iншым адзiнкам унутры мовы – сiнанiмiчныя, антанiмiчныя i iнш. Напрыклад, у беларускай ФА *гамонiць (гаворыць) з небам* варыянтныя дзеяслоўныя кампаненты на лексiчным узроўнi з’яўляюцца сiнонiмамi. У англiйскай мове таксама ёсць шэраг выразаў, у складзе якiх варыянтныя кампаненты выступаюць як тоесныя цi блiзкiя па значэннi словы: у фразеалагiзме *quiet as the grave (tomb)* (цiхi як магiла) ‘пра чалавека, якi нiколi не выдасць сакрэтную iнфармацыю’ назоўнiкавыя кампаненты *grave* i *tomb* на лексiчным узроўнi ўступаюць у сiнанiмiчныя адносiны. Ёсць нават i адзiнкавыя выпадкi, калi варыянтныя кампаненты выступаюць як антонiмы: *all right on the night (day)* (усё ў парадку на гэтую ноч (на гэты дзень) ‘здавальняюча, добра зроблена (асаблiва пра драматычны спектакль або публiчную падзею, якi (якую) рыхтавалi, планавалi, але не ўсё адбываецца iдэальна)’.

Вывучэнне фразеалогii ў супастаўляльным аспекце дае аснову для складання фразеалагiчных слоўнiкаў як дзвюхмоўных, так i шматмоўных. Апошнiя – пакуль што рэдкасць [27]. Супастаўленне i тыпалогiя даюць магчымасць з iншага боку глянуць на фразеалагiчны склад роднай мовы, таму што ў параўнаннi з iншамоўнай адзiнкай, яе метафарычным вобразам фразеалагiзм роднай мовы пачынае ўспрымацца па-новаму.

Фразеалагiчная варыянтнасць, асаблiва лексiчная, як адзiн з найбольш пашыраных яе тыпаў, у супастаўляльным аспекце на сённяшнi дзень яшчэ недастаткова вывучалася. У працы А.Д. Райхштэйна, прысвечанай супастаўляльнаму аналiзу нямецкай i рускай фразеалогii, гэтай тэме адводзiцца ўсяго адна старонка тэксту [23, с. 98-99]. Гэтым тлумачыцца актуальнасць такога тыпу даследаванняў.

*Спiс лiтаратуры*

1. Гваздовiч, Г.А. Беларуская мова: падруч. для 10-га кл. устаноў, якiя забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыi, з бел. мовай навучання з 11-гадовым тэрмiнам навучання / Г.А. Гваздовiч, М.М. Круталевiч, У.П. Саўко. – 2-е выд., дапрац. – Мiнск: Нар. асвета, 2004. – 239 с.

2. Беларуская мова: падруч. для 10-11-х кл. агульнаадукац. шк. з рус. мовай навучання / В.I. Несцяровiч [i iнш.]. – Мiнск: Нар. асвета, 1999. – 271 с.

3. Сцяцко, П.У. Уводзiны ў мовазнаўства: дапаможнiк / П.У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2001. – 229 с.

4. Лепешаў, I.Я. Фразеалогiя сучаснай беларускай мовы: вучэб. дапам. для фiлал. фак. ВНУ. – Мiнск: Выш. шк., 1998. – 271 с.

5. Касцючык, В.М. Пытаннi фразеалагiчнай варыянтнасцi i сiнанiмii / В.М. Касцючык // Весн. Брэсцкага ун-та. Серыя фiлалагiчных навук. – 2006. – № 1 (4). – С. 76-83

6. Гарник, А.В. Вариантность лексического состава фразеологизмов современного польского языка: дис. … канд. филол. наук: 10.02.03 / А.В. Гарник. – Минск, 1988. – 165 с.

7. Иванникова, Е.А. Об устойчивости и тождестве фразеологизма в случаях структурной вариантности / Е.А. Иванникова // Проблемы устойчивости и вариантности фразеологических единиц: материалы межвузовского симпозиума, Тула, ноябрь 1968 г. / Тульский гос. пед. ин-т им. Л.Н. Толстого. – Тула, 1968. – С. 120 – 128.

8. Зимин, В.И. К вопросу о вариантности фразеологических единиц / В.И. Зимин // Проблемы устойчивости и вариантности фразеологических единиц:

материалы межвузовского симпозиума, Тула, 1968 г. / Тульский гос. пед. ин-т им. Л.Н. Толстого. – Тула, 1972. – С. 70 – 82

9. Мокиенко, В.П. Славянская фразеология / В.П. Мокиенко. – М.: Высш. шк., 1980. – 207 с.

10. Янкоўскі, Ф.М. Роднае слова / Ф.М. Янкоўскі. – 2-е выд., дапрац. і дап. / пад рэд. М. Яўневіча. – Мінск: Вышэйш. шк., 1972. – 448 с.

11. Рудакоўская, З.А. Структурна-кампанентныя змены і змест фразеалагізмаў / З.А. Рудакоўская // Беларуская мова. Вып. 6. – Мінск: БДУ, 1978. – С. 49 – 57.

12. Коваленко, Т.И. О понятии вариантности в лексике и фразеологии / Т.И. Коваленко // Труды Самаркандского университета им. А. Навои, Самарканд, 1972. – Новая серия, вып. № 219. – Вопросы фразеологии. – Ч. 2. – Самарканд, 1972. – С. 159-163

13. Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова: манаграфія / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2003. – 272 с.

14. Жуков, В.П. Об устойчивости и вариантности фразеологизмов на семантическом уровне / В.П. Жуков // Проблемы устойчивости и вариантности фразеологических единиц: материалы межвузовского симпозиума, Тула, 1968 / Тульский гос. пед. ин-т им. Л.Н. Толстого. – Тула, 1972. – С. 20 – 29.

15. Раевский, М.В. Замечания по спорным проблемам фразеологии / М.В. Раевский // Проблемы устойчивости и вариантности фразеологических единиц: материалы межвузовского симпозиума, Тула, 1968 / Тульский гос. пед. ин-т им. Л.Н. Толстого. – Тула, 1972. – С. 115 – 116.

16. Амосова, Н.Н. Основы английской фразеологии / Н.Н. Амосова. – Ленинград: Изд-во Ленинградского ун-та, 1963. – 208 с.

17. Фёдоров, А.И. Развитие русской фразеологии в конце XVIII – начале XIX в. / А.И. Фёдоров. – Новосибирск: Наука, 1973. – 170 с.

18. Бабкин, А.М. Русская фразеология, её развитие и источники / А.М. Бабкин. – Ленинград: Наука, 1970. – 262 с.

19. Шанский, Н.М. Лексикология современного русского языка: пособие для пед. ин-тов / Н.М. Шанский. – М.: Просвещение, 1964. – 316 с.

20. Фразеологический словарь русского языка / А.И. Молотков [и др.]; под ред. А.И. Молоткова. – М.: Советская энциклопедия, 1967. – 543 с.

21. Хлусевіч, І.М. Варыянтнасць фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове / І.М. Хлусевіч; пад рэд. праф. І.Я. Лепешава. – Гродна : ГрДУ, 2002. – 100 с.

22. Грюнберг, А.М. Сопоставление вариантности фразеологизмов с вариантностью слов / А.М. Грюнберг // Труды Самаркандского государственного университета им. А. Навои, Самарканд, 1972. – Новая серия, вып. № 219. – Вопросы фразеологии. – Ч. 2. – Самарканд, 1972. – С. 169 – 172.

23. Райхштейн, А.Д. Сопоставительный анализ немецкой и русской фразеологии: учеб. пособие / А.Д. Райхштейн. – М.: Высш. школа, 1980. – 143 с.

24. Солодуб, Ю.П. Современный русский язык. Лексика и фразеология (сопоставительный аспект): учебник для студентов филологических факультетов и факультетов иностранных языков / Ю.П. Солодуб, Ф.Б. Альбрехт.– 2-е изд. – М.: Флинта: Наука, 2003. – 264 с.



25. Dictionary of Idioms and Their Origins / Linda and Roger Flavell. – London: Kyle Cathie Ltd, 2006. – 343 p.

26. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. У 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008. – Т. 2.

27. Иллюстрированный сборник пословиц и поговорок на пяти языках: русский, английский, французский, испанский, немецкий / сост. М. И. Дубровин [и др.]; под ред. М.И. Дубровина. – М.: Изд. дом «Росмэн», 1998. – 221 с.

УДК 811.161.3

**І.І. Бубновіч** (Гродна)

## АСАБЛІВАСЦІ АДАПТАЦЫІ ІНШАМОЎНЫХ ДЗЕЯСЛОЎНЫХ АСНОВАЎ СТАРАБЕЛАРУСКАЮ ЛІТАРАТУРНАЮ МОВАЮ

У старабеларускі перыяд беларуская літаратурная мова выкарыстоўваецца ў розных сферах грамадскага жыцця, што вымагае актыўнага папаўнення лексічнага запасу як за кошт уласных рэсурсаў, так і за кошт пазычанняў. Іншамоўныя словы забяспечвалі назвамі новыя рэаліі, паняцці, з'явы ў навуцы, рэлігіі, культуры і г.д.

Сярод пазычанняў з розных моваў у колькасных адносінах пераважаюць назоўнікі, дзеясловы пазычаюцца значна радзей. Часам дакладна вызначыць, назоўнік ці дзеяслоў перш прыйшоў у беларускую літаратурную мову, досыць складана, бо тыя пісьмовыя крыніцы, якія захаваліся, не адлюстроўваюць усіх нюансаў пазычання. Напрыклад, фіксуюцца аддзеяслоўныя назоўнікі, а ўтваральная аснова – дзеяслоў – у старабеларускіх пісьмовых помніках адсутнічае, ці, магчыма, не занатавана слоўнікамі.

Як паказваюць нашы назіранні над лексікаграфічным матэрыялам, найбольш дзеясловаў у старабеларускі перыяд прыйшло з польскай мовы, крыху менш з лацінскай і нямецкай моваў. Вельмі рэдкімі былі пазычанні з чэшскай, венгерскай, італьянскай, грэцкай моваў. Іншамоўныя дзеясловы, як і іншыя часціны мовы, адаптаваліся фанетычна, марфалагічна і семантычна. Пры аналізе асаблівасцяў фармальнага і семантычнага засваення дзеяслоўных асноваў выявілася, што гэтыя працэсы маюць як агульныя, так і прыватныя, характэрныя пазычанням з адной мовы, рысы.

Дзеясловы, што прыйшлі з польскай мовы, разнастайныя па семантыцы, выкарыстоўваліся ў розных стылях старабеларускай літаратурнай мовы і з рознымі мэтамі. Дзеясловы-паланізмы досыць часта маюць беларускія адпаведнікі і адрозніваюцца ад беларускіх лексемаў толькі сваім фанетычным абліччам. Сярод уласнабеларускай

лексікі і пазычанняў з іншых моваў паланізмы вылучаюцца наяўнасцю спалучэнняў он, ен на месцы [ę]: *вонтплети*, *вонтпити*, *гнембити*, *вензенье*, *упоментовати*, *тронтити*, спалучэннем -ро-, -ло- на месцы ўсходнеславянскага поўнагалосся: *бронити*, *брснованье*, *звлочати*, *звротитися*; я на месцы беларускага е (з былога ћ): *вывядоватися*, *вяровати*, *повядати*, *преслядовати*, спалучэннем гв: *гвиздати*, [ц] на месцы [ч] (з *tj): *засмуцати*, *моцнети*, *обецати*, *освецати*, е на месцы о: *зъедночити*, спалучэннем дл*:* *мдлети*, адсутнасцю ўстаўнога [л] (l-epenteticum) пасля губных: *взнавяти*, *зоставяти*, *накрапяти*, *ослепяти*, *попровяти*, *примавяти*, *розмавяти*, наяўнасцю спалучэння кг, што адлюстроўвае [г] выбухны: *жекглевати*, спалучэннямі зычных з плаўнымі: *тлучи*, *трвати*. *У* выніку фанетычнай адаптацыі ўзнікаюць варыянты, якія фіксуюць розную ступень фанетычнага засваення паланізмаў у старабеларускай літаратурнай мове: *вензенье* і *вязенье*, *везенье* і *везэнье*, *бриметн*, *брмети*, *брыметн (*brzmieć*)*, *захвиценье* і *зафиценье (*zachwycenie*)*, *валчити* і *вальчити*, *зелжити* і *желжити*, *жекглевати* і *жеглевати*, *лекцеважити* і *легцеважити*, *мнимати* і *мнемати* і інш. Ёсць прыклады, дзе пад уплывам замены гука [ф], не ўласцівага беларускім гаворкам, спалучэннем гукаў [хв] назіраецца і адваротны працэс: *хвиятися – фиятися* (chwiać się), *захвиценье* - *зафиценье (*zachwycenie*)*.

У марфалагічных адносінах можна лічыць польскія дзеясловы засвоенымі старабеларускай літаратурнай мовай, бо польская і беларуская мовы таго часу блізкія па граматычных катэгорыях.

Найбольш фанетычных варыянтаў маем сярод лацінізмаў, якія ў пераважнай большасці прыйшлі праз пасярэдніцтва польскай мовы: *апелевати*, *апеллевати*, *апелловати*, *апеловати*, *аппелевати*, *аппелиовати*, *апэлевати*, *опэлевати; диспутовати*, *деспутовати*, *деспытовати*, *дыспутовати*. Многія лацінізмы адлюстроўваюць фанетычныя рысы, што сведчаць пра пасярэдніцтва польскай мовы: цвёрдыя [д], [т], [з], [с]: *актыковати*, *визытовати*, *дыспутовати*, мяккі [л']: *декляровати*, выбухны [г], які передаецца праз спалучэнне кг: *акгравовати* 'прыгнятаць, абцяжарваць', *декградовати*, *декгредовати* 'паніжаць у пасадзе', *деректовати* 'змяняць', *ерикговати* 'узвялічваць, узносіць'.

Аднак, на наш погляд, фанетычныя асаблівасці могуць сведчыць пра прамое пазычанне з лацінскай мовы, бо фанетычны варыянт выяўляе большую фармальную блізкасць да этымона, чым да польскага варыянта. Напрыклад, параўнаем *апеллевати*, *аппелевати* і польскае apelować, лацінскае appellare, *апробовати*, *аппробовати* і польскае aprobować, лацінскае approbare, *ассекуровати* і польскае asekurować, лацінскае assecurare і інш. Цяжка патлумачыць наяўнасць падвоеных зычных у напісанні дзеясловаў у старабеларускай літаратурнай мове, калі мела месца пасярэдніцтва польскай мовы. Верагодна, адзін і той жа дзеяслоў мог пазычацца рознымі шляхамі, што адлюстравалася ў напісанні: варыянты з падвоенымі зычнымі пранікалі пісьмовым шляхам непасрэдна з лацінскай мовы, а варыянты, сугучныя польскім (*апеловати*, *апэлевати*, *опэлевати* і інш.), праз пасярэдніцтва польскай мовы. Таксама гэтыя варыянты маглі адлюстроўваць розныя стадыі засваення іншамоўнай лексікі беларускаю моваю.

Большасць лацінізмаў, пазычаных праз пасярэдніцтва польскай мовы, страціла фанетычныя адзнакі іншамоўнасці, засвоілася фанетычна, і гэты працэс мог адбыцца і ў старабеларускай, і ў польскай мове: *анигилевати* (ст.-п. anihilować, с.-лац. annihilare), *апликованье* (п. aplikowanie, лац. applicare), *афектовати* (п. afectować, лац. affectare), *грасовати* (п. grasować, лац. grassari), *диспановати* (п. dysponować, лац. disponere), *комуниковати* (п. komunikować, лац. communicare). Асобныя лацінізмы захоўваюць падвоенае напісанне і ў польскай, і ў беларускай мове: *аллекговати*, *аллеговати* (ст.-п. allegować, лац. allegare), *диффамованье* (п. dyffamovanie, лац. diffamare). Непасрэдных пазычанняў з лацінскай мовы сярод дзеяслоўных асноваў, на думку А.М.Булыкі [1], няшмат: *експурговати* (лац. expurgare), *елибровати* (ад лац. liber), *корреспондовати* (с.-лац. correspondere), *оппоноваться* ( лац. opponere).

Для дзеясловаў-лацінізмаў характэрна фанетычная варыянтнасць: суіснуюць адзінкі з цвёрдымі і мяккімі зычнымі [д], [т], [з], [с]: *актыковати* і *активовати*, *апелевати* і *апэлевати*, *визытовати* і *визитовати*, з выбухным (передаецца праз спалучэнне кг) і фрыкатыўным [г]: *аллекговати* і *аллеговати* і інш. Лацінізмы вылучаюцца пэўнымі словаўтваральнымі прыкметамі: прыстаўкамі интро-: *интродукованье*, *интролигованый*, *интромиттовати*, ин-: *инферовати*, кон-: *конферовати*, ре-: *ревоковати*, *рекуперовати*, *реформовати*.

Марфалагічная адаптацыя ўсіх дзеясловаў, незалежна ад шляхоў пазычання, адбывалася аднолькава, афармляюцца яны ў старабеларускай літаратурнай мове пры дапамозе суфікса -ова-: *агитоватися*, *администровати*, *актыковати*, зрэдку з суфіксам -фикова-: *гратификовати*, *мортификовати*, *спецификовати*.

Дзеясловы з нямецкай мовы, па звестках А.М.Булыкі, пазычаюцца досыць рэдка, апасяродкаваныя пазычанні пераважаюць над беспасярэднімі [1]. Як і ў большасці іншых выпадкаў, пасярэдніцай служыць польская мова. Пра гэта сведчыць фармальнае аблічча іншамоўных дзеясловаў, больш блізкіх да польскіх варыянтаў, чым да нямецкіх: *варовати* (п. warować, н. währen), *вендровати* (п. wędrować, с.в.н. wandern*)*, *виншовати* (п.winszować, с.в.н. wünschen), *гартовати*

(п. hartować, н. härten), *жекгнати*, *жегнати* (п. żegnać, н.в.н. segen). У асобных выпадках, акрамя польскага пасярэдніцтва, назіраецца і чэшскае пасярэдніцтва: *жартъ* ( п. żart - чэш. žert – ням. Scherz).

Аднак аналіз такіх варыянтаў, як *плендровати* і *плюндровати* (п. plędrować, н. plűndern), *ратовати* і *ретовати* (п. ratować, н. retten), дазваляе меркаваць, што варыянты *плендровати*, *ратовати* былі пазычаныя пры пасярэдніцтве польскай мовы, а *плюндровати*, *ретовати* з нямецкай мовы беспасярэдне.

Наяўнасць варыянтаў уласціва іншамоўнай лексіцы ў цэлым, характэрная яна і германізмам. Гэта дзеясловы з цвёрдымі і мяккімі [д], [т]: *диктовати* і *дыктовати*, *дилеванье* і *дылеванье*, з выбухным і фрыкатыўным [г]: *гвалтити* і *кгвалтовникъ*, з гукамі [ф], [п] і спалучэннем хв: *фрасованье* і *хврасованье*, *фурманити* і *хурманъ*, *фрахтовати* і *прохтовати* і інш. Толькі для германізмаў уласцівы варыянты з чаргаваннем спалучэнняў см і шм: *смаровати* і *шмаровати*, ст і шт: *страфовати* і *штрафовати*, кт і хт: *фрахтовати* і *фрактовати*.

Ад уласнабеларускай лексікі германізмы адрозніваюцца нешматлікімі фанетычнымі асаблівасцямі, найчасцей гэта спалучэнні шт: *каштовати*, *штурмовати*, *кшталтовати*, хт: *лихтовати*, *фрахтовати*, шп: *шпеговати*, *шперовати*, *шпетити*, шр: *шрубоватися*.

Трэба адзначыць, што з нямецкай мовы ў старабеларускую літаратурную мову пазычалася шмат назоўнікаў, ад якіх на ўласна беларускай глебе ўтвараліся дзеясловы і аддзеяслоўныя назоўнікі, дзеепрыметнікі. А.М.Булыка разглядае многія дзеясловы як вытворныя і не падае асобным слоўнікавым артыкулам [1]. Найбольш актыўнымі ў словаўтваральных адносінах сярод германізмаў з’яўляюцца назоўнікі вага: *вагатися*, *ваганьеся*, *заважити*, *зневажати*, *переваженье* і інш. (55 адзінак), гафтъ: *гафтованье*, *гафтовати* (11 адзінак), дяка: *дякованье*, *дяковати*, *подякованье* (25 адзінак), што сведчыць аб іх трывалым замацаванні ў беларускай мове. Дадамо, што пазычанне ўсіх германізмаў было выклікана неабходнасцю развіцця старабеларускай літаратурнай мовы, большасць з іх захавалася ў беларускіх гаворках і стала здабыткам новай беларускай літаратурнай мовы.

Трэба адзначыць, што як і сярод пазычаных дзеяслоўных асноваў з іншых моваў, так і сярод германізмаў сустракаюцца аддзеяслоўныя назоўнікі і дзеепрыметнікі, а самі дзеясловы слоўнікамі не фіксуюцца, напрыклад, *гецованый*, *дилеванье*, *дылованье*, *одылеваный*. Мяркуем, што ў старабеларускай літаратурнай мове выкарыстоўваліся і дзеясловы *дилевати*, *одылевати*.



Паказчыкам засваення іншамоўнай лексікі ў мове-пазычальніцы з’яўляецца рэалізацыя дэрывацыйных магчымасцяў пазычанняў, развіццё іх словаўтваральнай актыўнасці, здольнасці служыць базай для ўтварэння новых слоў. Словаўтваральная актыўнасць пазычанняў сведчыць аб іх сталым замацаванні ў старабеларускай літаратурнай мове, аб прыстасаванні да сістэмы дэрывацыйных сродкаў беларускай мовы.

Надзвычай вялікія словаўтваральныя магчымасці ў старабеларускай літаратурнай мове выяўляюць паланізмы. Ад пазычаных дзеясловаў у старабеларускай мове ўтвараюцца назоўнікі з значэннем выніку дзеяння, працэсу з суфіксамі -ньј-: *евинкованье*, *жекглеванье*, *завикланье*, *здраженье*, *зезволенье*, *велбенье* і інш., -енијэ: *омдление*, агентыўныя назоўнікі з суфіксамі -ц(а): *забавца*, *зрайца*, *преслядовца*, -ник(ъ): *преслядовникъ*, -лник(ъ): *опекалникъ*, *пожичалникъ*, -ун(ъ): *опекунъ*, -ач(ъ): *ошукачъ*, *шемрачъ*, -ар(ъ): *щекаръ*, *шидаръ;* дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану: *забавеный*, *позабияный*, *завикланый*, *зъедночоный*, незалежнага стану: *отрулый*, цяперашняга часу незалежнага стану*: забиючий*, *мияючий*, *пожичаючий* і інш.

Ад нямецкіх дзеясловаў найчасцей утвараюцца назоўнікі з значэннем выніку дзеяння, працэсу з суфіксамі -ньј-э: *бунтованье*, *варованье*, *голдованье*, *дилеванье*, *пожегнанье*, *каштованье*, *мордованье*, *примушанье* і інш.(амаль усе дзеясловы-германізмы становяцца ўтваральнай асновай для такіх назоўнікаў), агентыўныя назоўнікі з суфіксамі -ц(а): *радца*, *райца*, *порадца*, *шкодца*, -ник(ъ): *гандлювникъ*, *гвалтовникъ*, *кгарцовникъ*, -ач(ъ): *шукачъ*, -ар(ъ): *фориторъ*, назоўнікі з значэннем месца дзеяння: *кгарцовня;* назоўнікі з суфіксам -унок(ъ): *шафунокъ;* дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану: *виншованый*, *кшталтованый*, *полерованый*, цяперашняга часу незалежнага стану*: ширмуючий*, *штурмуючий* і інш.

Адзначым таксама зваротныя формы аддзеяслоўных назоўнікаў тыпу *боданьеся* (побач з *баданье*) (з польскай мовы), *цвиченьяся* ( з нямецкай мовы).

Словаўтваральная актыўнасць лацінізмаў значна меншая, чым паланізмаў і германізмаў. Лацінізмы, пазычаныя непасрэдна, па нашых назіраннях, словаўтваральнага гнязда не маюць. Дзеясловы, што прыйшлі праз польскую мову, здатныя ўтвараць назоўнікі з значэннем выніку дзеяння, працэсу з суфіксамі -ньј-э: *администрованье*, *апелеванье*, *аппробованье*, *арештованье*, *грасованье*, *лимитованье* і інш., -нij-э, -енij-э: *фалшение*, *целебрование*, агентыўныя назоўнікі з суфіксамі -ник(ъ): *фундовникъ*, -ар(ъ): *администраторъ*, *визытаторъ*, *инстикгаторъ;* дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану:

*акгравоный*, *апробованый*, *дедикованый*, *инферованый*, *опонованый*, цяперашняга часу незалежнага стану*: вакуючий*, *опонуючий* і г.д.

Пазычанні з іншых моваў нешматлікія: з чэшскай: *боевати*, *дуфати* (*духвати*), *чмутити* (праз польскую), з французскай: *инвалидовати*, *презентовати*, *репликовати*, *декградовати* (праз польскую), утвораныя ад венгерскіх каранёў *гарцовати*, *отаборити*, італьянскага *протестовати*, грэцкіх *стиранити*, *тираничати*; з турэцкай праз рускую пазычаны дзеяслоў *кочевати* (*кочовати*) [1] і інш. Як і іншыя пазычаныя дзеясловы, яны могуць утвараць аддзеяслоўныя назоўнікі з значэннем працэсавасці з суфіксам -ньј-э: *боеванье*, *дуфанье*, *презентованье*, *претолмаченье*, *гарцованье*, агентыўныя назоўнікі з суфіксам -ник(ъ): *боевникъ*, назоўнікі з суфіксам -иск(о), -ищ(е): *кочовиско*, *кочовище*, дзеепрыметнікі*: боевный*, *протестуючий*, *цукрованый*.

Аналіз словаўтваральнай актыўнасці пазычаных дзеясловаў паказвае, што пры ўтварэнні новых словаў выкарыстоўваюцца тыя ж сродкі і мадэлі, што і пры дэрывацыі на базе ўласна беларускіх словаў.

Адной з самых выразных прыкмет замацавання іншамоўнай лексікі ў старабеларускай мове з'яўляецца станаўленне лексічнага значэння слова [2, с.224]. Большасць іншамоўных дзеясловаў у выніку семантычнай адаптацыі ў старабеларускай літаратурнай мове развівае толькі адно значэнне. Звычайна адназначнымі з'яўляюцца лацінізмы, бо сярод лацінскіх дзеясловаў пераважаюць тэрміны або блізкія да іх па значэнні словы: *агитоватися, акгравовати, актыковати, аллекговати, арештовати, апробовати, инстиговати, интролиговати, инферовати, итеровати, кассовати, корыкговати, модеровати, мортификовати, президовати* і інш. Рэдка лацінізмы развіваюць два і больш значэнняў, напрыклад, *апелевати* 1) апеляваць; 2) шукаць чыёй-небудзь рашаючай думкі [3, т.1, с.125-126].

Паланізмы часта выступаюць фанетычнымі варыянтамі да спрадвечна беларускай лексікі. У «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» іх значэнне разглядаецца з адсылкай да спрадвечна беларускіх формаў: *помовяти* 'тое, што і помовляти' [3, т.26, с.279-280], *поправяти* 'тое, што поправляти' [3, т.26, с.395] і інш. Як і пазычанні з іншых моваў, паланізмы часцей маюць толькі адно значэнне: *полецати, помовяти, потворяти, похлебовати, призволяти, примавяти* і інш. Аднак польскія дзеясловы могуць развіваць два і больш значэнняў: *велбити, кохати, покрепяти, полишати, прибияти* (па 2 значэнні), *мияти, навежати* (па 3 значэнні). Сярод паланізмаў, што найлепш «прыжыліся», ёсць дзеясловы, якія развіваюць па 5 і больш значэнняў, напрыклад, *мешкати* 1) займаць пэўнае месца або памяшканне, мець жыхарства; 2) існаваць; 3) мець пэўны тып узаемаадносін; 4) прытрымліваццa пэўнага тыпу паводзін; 5) марудзіць, затрымліваццa, пазніццa [3, т.18, с.30-31].

Паколькі германізмы пераважна словы з канкрэтным значэннем, то сярод іх больш адназначных словаў: *кшталтовати*, *рабовати*, *полеровати* і інш. Сустракаюцца і мнагазначныя словы, напрыклад, *виншовати* мае 3 значэнні [3, т.3., с.288], *варовати* – 4 значэнні [3, т.3., с.57].

Пазычанні з іншых моваў адназначныя: *кочевати*, *протестовати*, *презентовати*.

Толькі ў асобных выпадках іншамоўныя дзеясловы маюць амонімы, напрыклад, *каштовати* 'мець тую або іншую цану' і *каштовати* 'спрабаваць ежу, пітво на смак' [3, т.16, с.72-73].

*Спіс літаратуры*

1. Булыка, А.М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А.М.Булыка.– Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 384 с.

2. Булыка, А.М. Лексічныя запазычанні беларускай мовы XIV – XVIIIстст. / А.М.Булыка.– Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 256 с.

3. Гістарычны слоўнік беларускай мовы /Гал.рэд. А.І.Жураўскі. Т.1 – 29.– Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 2009.



УДК 811.161.3

**В.Л. Варановіч** (Гродна)

## ДА ПРАБЛЕМЫ ВЫЗНАЧЭННЯ МАТЫВАЦЫІ НАЗВАЎ АСОБЫ ЖАНОЧАГА ПОЛУ НЕКАТОРЫХ СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫХ ТЫПАЎ

У адной з нашых папярэдніх прац, прысвечанай, акрамя іншага, праблеме ўстанаўлення крыніц вытворнасці назваў асобы жаночага полу (фемінінатываў) [1][1], абапіраючыся на палажэнне І. Улуханава, згодна з якім «словаўтваральны фармант – гэта найменшы ў фармальным і семантычным плане словаўтваральны сродак… з ліку тых сродкаў, якімі якое-небудзь слова адрозніваецца ад слоў, што знаходзяцца з ім у адносінах матывацыі» [3, с. 8], мы прапанавалі версію (і паспрабавалі даказаць яе найбольшую рацыянальнасць), згодна з якой фемінінатывы тыпу *крамніца*, *буфетчыца* з'яўляюцца ўтварэннямі ад асноваў адпаведных ім назваў асобы мужчынскага роду, прычым утваральная аснова апошніх не скарачаецца (у ёй толькі адбываецца чаргаванне фінальнага зычнага *к* з *ц*), а словаўтваральным сродкам з'яўляецца нулявы суфікс (у спалучэнні з флексіяй *-а*). Схема такога ўтварэння выглядае наступным чынам: *крамнік* + -∅-а $\longrightarrow$ *крамніца* – і з'яўляецца ў прынцыпе аналагічнай той, паводле якой

[1] Гл. пра гэта таксама ў нашай манаграфіі [2, с. 63 – 67].

утвораны фемінінатывы *раба*, *кума* і пад. Акрамя таго, падпарадкаваць падобнай схеме мы палічылі магчымым утварэнне фемінінатываў тыпу *іспанка*, *выхаванка*. Адрозненне тут толькі ў тым, што ва ўтваральных асновах адпаведных назваў асобы мужчынскага роду (*іспанец*-, *выхаванец*-) адбываюцца два чаргаванні: *э* з нулём гука і адваротнае ў параўнанні з тым, што прадугледжвае першая схема: *ц / к*. Такім чынам, і ў гэтых выпадках утваральная аснова мужчынскай назвы поўнасцю змяшчаецца ў структуры жаночай, а словаўтваральным сродкам з'яўляецца нулявы суфікс, што важна ў сувязі з ідэяй, адлюстраванай у прыведзенай вышэй цытаце.

Зрэшты, для гэтага артыкула ў прыведзеным аглядзе істотным з'яўляецца той факт, што фемінінатывы тыпу *крамніца*, *буфетчыца*, а таксама тыпу *іспанка* трэба лічыць утворанымі ад адпаведных ім назваў асобы мужчынскага роду. Беручы ж пад увагу тое, што жаночыя назвы на *-ніц-а*, *-шчыц-а* / *-чыц-а*, *на -к-а* (адпаведныя мужчынскім на *-ец* (*-ац*)) складаюць вельмі вялікі працэнт ад усіх, а да таго ж у нашай мове таксама нямала бясспрэчна вытворных ад назваў асобы мужчынскага роду жаночых утварэнняў тыпу *піяністка*, *змагарка*, *шпіёнка* і інш., – можна зрабіць выснову, што **ўтварэнне назваў асобы жаночага полу менавіта ад карэляцыйных назваў асобы мужчынскага роду ў беларускай мове з'яўляецца правілам.**

Яўным выключэннем з гэтага правіла можна лічыць утварэнне нешматлікіх жаночых назваў, такіх, напрыклад, як *царэўна*, *князёўна*. Яны ўтвараюць карэляцыйныя пары з назвамі асобы мужчынскага полу (маскулінатывамі) *царэвіч* і *княжыч*, але ўтворанымі ад апошніх лічыцца не могуць. І справа тут не толькі і не столькі ў тым, што ў іх структуры не змяшчаюцца поўнасцю асновы *царэвіч*- і *княжыч*-, а ў тым, што суфіксы, якія ўваходзяць у структуру гэтых асноваў, не могуць быць у складзе жаночых назваў у прынцыпе, паколькі яны не проста выражаюць значэнне асобы (між іншым, яны за гэтае значэнне нават і не адказваюць, бо яно змяшчаецца ўжо ў іх уласных утваральных асновах – адпаведна ў *цар*- і *княз'*-), а называюць менавіта сыноў, г. зн. дзяцей мужчынскага полу. І гэтая полавая прыналежнасць мае тут прынцыповае значэнне. Таму можна сцвердзіць, што семантыка ўтварэнняў *царэўна* і *князёўна* пэўнай сваёй часткай супрацьстаўляецца семантыцы ўтварэнняў *царэвіч* і *княжыч*, а гэта значыць, што першыя не могуць лічыцца вытворнымі ад другіх.

Для параўнання, падобнай супрацьпастаўленасці няма ў парах амаль усіх астатніх тыпаў: напрыклад, у пары *настаўнік* – *настаўніца* першы яе



складнік у семантычным плане адрозніваецца ад другога – назвы жанчыны – у першую чаргу не тым, што гэта назва мужчыны, а тым, што гэта назва асобы ўвогуле, бо *настаўнікам* можна назваць і жанчыну. Слова ж *настаўніца* неабходнае ў тых выпадках, калі сема 'фемініннасць' актуалізуецца, выступае на першы план. З другога боку, толькі пры актуалізацыі семы 'маскуліннасць' слова *настаўнік* ужываецца менавіта як назва асобы мужчынскага полу, і дзякуючы якраз гэтаму пара *настаўнік* – *настаўніца*, як і вялікая колькасць іншых, можа разглядацца як карэляцыйная, а слова *настаўнік* – як маскулінатыў. Часам, праўда, пры актуалізацыі семы 'маскуліннасць' дзеля дасягнення максімальнай дакладнасці выказвання моўнікі імкнуцца да эксплікацыі дадзенай семы, як у наступным прыкладзе: *Школе не хапала настаўнікаў-мужчын*. Такія факты пацвярджаюць меркаванне, што першаснае прызначэнне большасці назваў асобы мужчынскага роду – абазначаць не асобу мужчынскага полу, а асобу ўвогуле.

Такім чынам, можна зрабіць наступную выснову: калі асабовы назоўнік мужчынскага роду прынцыпова не зарыентаваны на называнне асобы менавіта мужчынскага полу, то яго жаночы карэлят трэба лічыць утвораным ад гэтага назоўніка. Калі ж мужчынскі назоўнік прынцыпова «завязаны» на мужчынскай семантыцы, то гэта значыць, што маскулінатыў і яго карэлят-фемінінатыў з'яўляюцца кадэрыватамі, г.зн. паралельна ўтворанымі ад адной і той жа асновы.

Адрозненне паміж дзвюма пададзенымі становішчамі можна адлюстраваць схемамі 1 і 2.

***шукаць***

↓

***шукальнік*** 'асоба, якая шукае' → ***шукальніца*** 'асоба жаночага полу, якая шукае'

↓

(пры актуалізацыі семы 'маскуліннасць')
***шукальнік*** 'асоба мужчынскага полу, якая шукае'

**Схема 1**




**Схема 2**

У даволі няпэўных суадносінах знаходзяцца назвы ў парах тыпу *рагатун – рагатуха*, *весялун – весялуха*. І нездарма ў розных даведніках крыніцы вытворнасці для фемінінатываў на *-ух-а* падаюцца розныя. Так, у «Граматыцы беларускай мовы» сцвярджаецца, што яны ўтвораны ад асноваў дзеясловаў і прыметнікаў [4, с. 124]. У «Беларускай граматыцы» гаворыцца тое самае, аднак дадаецца і заўвага, паводле якой «назвы асоб на *-уха* суадносяцца таксама з назоўнікамі – назвамі асоб мужчынскага полу» [5, с. 252 – 253]. Аўтары ж «Словаўтваральнага слоўніка беларускай мовы» ўвогуле адназначна трактуюць падобныя фемінінатывы як вытворныя ад адпаведных ім назваў асобы мужчынскага полу, напрыклад: «**весял-ух-(а)** – *суф., ад* весял/ун/-(ø)» [6, с. 68].

На карысць першай версіі гаворыць той факт, што ў фармальнай структуры назваў тыпу *рагатуха* не змяшчаюцца поўнасцю асновы іх мужчынскіх карэлятаў. Але гэтую акалічнасць не варта лічыць істотнай, бо пры неабходнасці яна нівелюецца спасылкай на скарачэнне ўтваральнай асновы (гл. прыклад, прыведзены вышэй з «Словаўтваральнага слоўніка…»). Такім чынам, каб зняць адзначаную вышэй няпэўнасць адносна крыніцы вытворнасці такіх фемінінатываў, можна выкарыстаць крытэрый, сэнс якога заключаецца ў тым, ці магчыма ў адносінах да асобы жаночага полу ўжыць «мужчынскую» назву, падобна да таго, як вышэй мы адзначалі, што жанчыну можна назваць не толькі *настаўніцай*, але і проста *настаўнікам*. Такая магчымасць, нагадаем, дае падставы сцвярджаць, што сема ‘маскуліннасць’ не з’яўляецца неад’емным кампанентам асабовага назоўніка мужчынскага роду, а значыць, яго аснова разам з сваім семантычным зместам **можа быць** словаўтваральнай базай, да якой, не ствараючы супярэчнасці паміж мужчынскай і жаночай семамі, можна дадаць словаўтваральны сродак, які нясе з сабой значэнне жаночасці.



То ці можна назваць жанчыну (дзяўчынку) *рагатуном*, *веселуном*? А таксама – ці адбываецца такое называнне ў рэальным маўленні? Што да апошняга, то аўтар гэтых радкоў быў сведкам выпадку, калі жанчына адрэагавала на залівісты смех дзяўчынкі словам *рагатун*. Канешне, прыведзены выпадак даволі спецыфічны, бо, па-першае, выбар гэтага слова ў пэўнай ступені быў абумоўлены жаданнем надаць звароту эмацыйна-экспрэсійную афарбоўку, а па-другое, зварот адрасаваўся да зусім маленькай дзяўчынкі – не старэйшай за два гады. Аднак апошняя акалічнасць якраз па-свойму паказальная, бо сведчыць пра здольнасць мужчынскіх назоўнікаў гэтага словаўтваральнага тыпу уніфікаваць асобу, якую яны называюць, у гендэрных адносінах.

Дзеля справядлівасці адзначым, што назоўнікі тыпу *рагатун*, *весялун* вылучаюцца сярод пераважнай большасці маскулінатываў сваёй характарыстычнасцю, экспрэсіяй. І гэта, на першы погляд, служыць таму, што яны дадаткова «прывязаны» да канкрэтнай асобы, а таму як бы больш яўна падразумяваюць, што *рагатун*, акрамя іншага, – гэта іменна мужчына (хлопец). А гэта значыць, што для называння жанчыны (дзяўчыны) гэтае слова, строга ўзважваючы, не падыходзіць, што ў цэлым пацвярджае і маўленчая практыка. У такім разе і выводзіць фемінінатывы тыпу *рагатуха*, *весялуха* лагічней і натуральней з дзеясловаў ды прыметнікаў, а не з адпаведных маскулінатываў, бо з апошнімі яны, такім чынам, быццам бы знаходзяцца ў адносінах супрацьпастаўленасці.

Аднак ацэньваючы сітуацыю сістэмна, нельга не звярнуць увагі і на наступную акалічнасць. Падобна да слова *рагатун*, і многія іншыя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду іншых словаўтваральных тыпаў, у адрозненне ад слова *настаўнік*, не прымяняюцца для называння жанчын і не выглядаюць для гэтага прыдатнымі, але пры гэтым без аніякіх сумненняў і альтэрнатыў разглядаюцца як матывавальныя для адпаведных ім фемінінатываў. Напрыклад, мы практычна не сустракаем выпадкаў, каб жанчыну, што займаецца тэнісам, называлі *тэнісістам*, але ніводная традыцыйная граматыка не дапускае думкі пра тое, што слова *тэнісістка* ўтворана ад *тэніс*, а не ад *тэнісіст*. Гэтак жа сама жанчыну арабскай нацыянальнасці ніколі не называюць *арабам*, але слова *арабка* нават немагчыма матываваць ніякім іншым, акрамя як маскулінатывам *араб*, а прызнаць яго невытворным таксама нелагічна.

Ці значыць усё гэта, што зробленае намі вышэй сцверджанне пра тое, што калі асабовы назоўнік мужчынскага роду прынцыпова не зарыентаваны на называнне асобы менавіта мужчынскага полу (а гэта якраз добра выяўляецца праз магчымасць выкарыстання яго для называння асобы жаночага полу), то яго жаночы карэлят трэба лічыць

утвораным ад гэтага назоўніка, – ці значыць гэта, што такое сцверджанне мае толькі прыватны характар? Думаецца, што гэта не так. А справа ў тым, што калі словам *настаўнік* як назоўнікам мужчынскага роду можна назваць жанчыну, то гэта не прыватны выпадак, а выпадак, які займае полюсную пазіцыю на шкале, на каторай знаходзяцца **амаль усе** іншыя маскулінатывы. Дарэчы, пазіцыя маскулінатыва *настаўнік* не абсалютна полюсная, а толькі блізкая да полюса. На самым полюсе знаходзяцца *педагог*, *майстар* і шэраг іншых, што ўвогуле не маюць жаночых карэлятаў. Некалькі ніжэй – але ўсё роўна вышэй за слова *настаўнік* – маскулінатывы *дыктар, рэпарцёр* і інш.

Што да разгляданых вышэй маскулінатываў *рагатун, тэнісіст, швед*, то і іх здольнасць абазначаць асобу жаночага полу не вымяраецца нулявой велічынёй. Так, пра слова *рагатун* у гэтых адносінах мы вышэй згадвалі асобна. Пра вялікую колькасць іншых можна сказаць, што іх дачыненне да абазначэння асобы жаночага полу выяўляецца, напрыклад, у тым, што калі гавораць пра групу людзей, у складзе якой ёсць і мужчыны і жанчыны, то ўжываюць, як правіла, форму множнага ліку назоўніка мужчынскага роду: *тэнісісты* замест *тэнісісты* і *тэнісісткі; шведы* замест *шведы* і *шведкі; веселуны* замест *веселуны* і *весялухі*. У супрацьвагу гэтаму, падобным чынам нельга ўжываць словы тыпу *княжыч, царэвіч, каралевіч.* Такім чынам, амаль усім маскулінатывам, у тым ліку ўтварэнням тыпу *рагатун, весялун*, **у прынцыпе** ўласціва, акрамя асобы мужчынскага полу, абазначаць і асобу ўвогуле, а з гэтага вынікае, што яны падыходзяць на ролю ўтваральнікаў адпаведных ім фемінінатываў. Значыць, фемінінатывы тыпу *рагатуха, весялуха* аўтары «Словаўтваральнага слоўніка беларускай мовы» ўсё ж такі слушна лічаць утварэннямі ад назваў асобы мужчынскага роду тыпу *рагатун, весялун*, паколькі такі погляд перш за ўсё адпавядае агульнай заканамернасці ў адносінах паміж назвамі асобы жаночага полу і адпаведнымі ім асабовымі назоўнікамі, якія выконваюць у мове дваякую функцыю: у адных сітуацыях называюць мужчын, а ў другіх здольныя абазначаць асобу (асоб) безадносна да яе (іх) полу.

Асобную ўвагу хацелася б прысвяціць імёнам па бацьку. У простым маўленні ў адносінах да брата і сястры часам выкарыстоўваюць агульную для іх форму: *Паўлавічы, Сцяпанавічы* і пад. На наш погляд, такое ўжыванне не вельмі карэктнае і выклікана выключна імкненнем да эканоміі часу і высілкаў. Таму маскулінатывы *Паўлавіч*, *Сцяпанавіч* і г. д. трэба лічыць зарыентаванымі выключна на называнне асобы мужчынскага полу, а значыць, яны не могуць разглядацца як матывавальныя для фемінінатываў *Паўлаўна*, *Сцяпанаўна*. У такім разе апошнія ўтварэнні трэба выводзіць адпаведна з імёнаў *Павел* і *Сцяпан*.



Выкладзеныя вышэй разважанні дазваляюць у чарговы раз сцвердзіць не толькі тое, што ўтварэнне назваў асобы жаночага полу менавіта ад карэляцыйных назваў асобы мужчынскага полу ў беларускай мове з'яўляецца правілам, але і тое, што гэтае правіла распаўсюджваецца нават на тыя групы фемінінатываў, устанаўленне крыніцы словаўтваральнай матывацыі якіх мае спрэчны характар. Выключэннем жа з гэтага правіла з'яўляецца вельмі вузкая група фемінінатываў.

*Спіс літаратуры*


1. Барановіч, В.Л. Да праблемы словаўтваральнай структуры назваў асобы жаночага полу / В.Л. Варановіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1. Гуманітарныя навукі. – 1999. – № 2. – С. 130 – 133.
2. Варановіч, В.Л. Словаўтварэнне назоўнікаў у беларускай мове: манаграфія / В.Л. Варановіч; пад рэд. П.У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005. – 135 с.
3. Улуханов, И.С. Словообразовательная семантика в русском языке и принципы её описания / І.С. Улуханов. – М.: Наука, 1977. – 256 с.
4. Беларуская граматыка. У 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. М.В. Бірыла, П.П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – 431 с.
5. Граматыка беларускай мовы. У 2 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. К.К. Атраховіч (Крапіва), М.Г. Булахаў. – Мінск: выд-ва АН БССР, 1962. – Т. 1: Марфалогія. – 540 с.
6. Бардовіч, А.М. Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы / А.М. Бардовіч, М.М. Круталевіч, А.А. Лукашанец. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 413 с.


УДК 811.161.3

**А.М**. **Воінава** (Гомель)

## СІНТАКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ПЕРАКЛАДУ ПАЭМЫ М.Ю. ЛЕРМАНТАВА «МЦЫРЫ» НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ А.КУЛЯШОВЫМ

Адной з самых актуальных праблем сучаснага мовазнаўства папранейшаму застаюцца пытанні мастацкага перакладу, спосабы і прыёмы адэкватнага ўзнаўлення празаічнага і паэтычнага тэкстаў. Гэта сведчанне не толькі росту цікавасці беларускага чытача да здабыткаў агульнаславянскай і сусветнай культуры. Сёння добра ўсведамляецца, што мастацкая інтэрпрэтацыя іншамоўнага тэксту садзейнічае

ўзбагачэнню інтэлектуальнай культуры народа, адкрывае шырокія перспектывы ўзбагачэння нацыянальнай культуры і літаратуры.

Старонкі ўзаемасувязей беларускай і рускай літаратур праз мастацкі пераклад і ўзаемапераклад у многім пачаліся з асэнсавання творчасці прызнаных класікаў рускай літаратуры. Іх творчасць прываблівала беларускіх літаратараў і чытачоў сваёй магутнай мастацкай праўдай, народнасцю, уменнем стварыць нацыянальныя характары, эстэтычна і псіхалагічна выпісаныя на ўзроўні самых дасканалых шэдэўраў сусветнай класікі. У сваім даследаванні мы хацелі б звярнуцца да аналізу некаторых сінтаксічных асаблівасцей перакладу Аркадзем Куляшовым паэмы «Мцыры» класіка рускай літаратуры М.Ю. Лермантава на беларускую мову.

Нягледзячы на значныя дасягненні ў пытаннях тэорыі і практыкі перакладу, маларaспрацаваным застаецца лінгвістычны, моўны аспект мастацкага перакладу. Але для «практыкі перакладу, і тым больш для яго тэорыі з'яўляецца неабходнасцю лінгвістычная аснова, веданне заканамернасцей, якія існуюць паміж пэўнымі мовамі» [5, с.10]. Лінгвістычнай асновай мастацкага перакладу з'яўляецца супастаўленне моўных адзінак, выяўленне адпаведнікаў у перакладаемым тэксце і мове-арыгінале. Такія адпаведнікі могуць быць поўнасцю тоеснымі і дакладна перадаваць сэнс і стылістычнае адценне адзінкі перакладаемага твора; адпаведнік можа выбірацца з сінанімічнага раду і адрознівацца аб'ёмам значэння і функцый. Найбольш цікавымі для даследчыка з'яўляюцца выпадкі трансфармаваных адпаведнікаў, выкарыстанне якіх дыктуецца ўплывам паэтычнага кантэксту, творчай манерай перакладчыка, немагчымасцю захаваць страфу і г.д.

А. Куляшоў добра адчуваў, што перакласці класіка рускай літаратуры – значыць не толькі захаваць сэнс арыгінала, але і яго мастацкія асаблівасці, арганічна спалучыць вернасць перадачы лермантаўскага тэксту з узнаўленнем яго мастацкай формы ў беларускім варыянце. Відавочна, што ўзнаўленне рускага паэта не абмяжоўвала творчай ініцыятывы Куляшова-перакладчыка, не стрымлівала яго пошукаў. Беларускі аўтар, эксперыментуючы, шукаў свой арыгінальны падыход да перакладу. Ён часам, праўда, нешта страчвае ў параўнанні з арыгіналам, затое дабіваецца выпрацоўкі сваёй асабістай сістэмы ў перакладчыцкай дзейнасці.

Сінтаксічная будова паэмы «Мцыры» М.Ю. Лермантава вельмі багатая: у ім выкарыстоўваюцца розныя тыпы сказаў – простыя, аднасастаўныя, складаныя, складаныя сінтаксічныя канструкцыі. Перакладчык досыць часта адэкватна ўзнаўляе пэўную сінтаксічную канструкцыю. Так, просты сказ ён перакладае простым: *И божья благодать сошла на Грузию* [3, с.52]. – *Раскоша боская сышла на Грузію* [2, с.8], складаназалежны – адпаведнай канструкцыяй: *Ты хочешь знать, что видел я на воле?* [3, с.55] – *Ты хочаш знаць, што бачыў я на волі?* [2, с.12]. Неабходна адразу ж адзначыць, што простыя сказы ўжываюцца значна радзей у параўнанні са складанымі, што можна растлумачыць своеасаблівай інтанацыяй лермантаўскага твора.

Аднак большую цікавасць выклікаюць выпадкі неадэкватнай перадачы сінтаксічных канструкцый. Замена – найбольш распаўсюджаны тып перакладчыцкіх трансфармацый. Замяняцца могуць як граматычныя адзінкі (формы слоў, часціны мовы, члены сказа, тыпы сінтаксічнай сувязі), так і лексічныя. «Замена ў сказе звычайна выклікаецца адсутнасцю той або іншай канструкцыі ў мове перакладу, несупадзеннем ва ўжыванні канструкцый, а таксама неаднолькавым словаўжываннем, рознай спалучальнасцю слоў», – указвае М.С. Ржавуцкая [4, с.11]. Так, А. Куляшоў у значнай колькасці выпадкаў складаны сказ на мове арыгінала передае некалькімі простымі ці з простага робіць складаны. Часцей за ўсё такія адхіленні назіраюцца ў простых сказах, ускладненых адасобленымі азначэннямі, дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія, як вядома, выкарыстоўваюцца ў беларускай мове абмежавана: *Он на допрос не отвечал* [3, с.53] – *Яго пыталі – ён маўчаў* [2, с.9]; *И близок стал его конец; Тогда пришёл к нему чернец с увещеваньем и мольбой; И гордо выслушав, больной привстал, собрав остаток сил, и долго так он говорил* [2, с.53] – *И надышоў яго канец. Тады наведаўся чарнец да падапечнага свайго. Той горда выслухаў яго. І ўстаў, з апошніх сіл, юнак, і доўга гаварыў ён так* [2, с.9]; *Без жалоб он томился, даже слабый стон из детских уст не вылетал..* [3, с.52] – *Малы не скардзіўся. Нічым пякельных мук не выдаваў* [2, с.8]; *Пышные поля, холмы, покрытые венцом дерев, разросшихся кругом, шумящих свежею толпой, как братья в пляске круговой* [3, с.55] – *Скрозь цвіла зямля. Палі, узгоркі бачыў зрок; іх атуляў жывы вянок дрэў, што сышліся, як на сход альбо ў сяброўскі карагод* [2, с.12]; *могучий конь, в степи чужой, плохого сбросив седока,.. найдет прямой и краткий путь* [3, с.67] – *Магутны конь на чужыне, калі няўдалага знарок скідае конніка,.. знаходзіць на радзіму шлях* [2, с.25]. Але не ва ўсіх выпадках А. Куляшоў замяняе дзеепрыслоўныя звароты складаназалежным сказам, апускае іх, іншы раз ён захоўвае дзеепрыслоўную канструкцыю або ўводзіць параўнанне: *И гладкой чешуёй блестя, змея скользила меж камней* [3, с.58] – *Змяя паўзла з імглы, халоднай ззяючы луской* [2, с.15]; *Держа кувшин над головой, грузинка..* [3, с.61] – *Збан несучы над галавой, грузінка..* [2, с.18]; *Я ждал, схватив рогатый сук* [3, с.64] –

*Чакаў я, востры ўзяўшы сук* [2, с.22]; *Обнявшись крепче двух друзей* [3, с.65] – *Спляліся.. мацней, чым шчырыя сябры* [2, с.23]. Сустракаецца і адваротная трансфармацыя – складаны сказ у мове арыгінала перадаецца перакладчыкам простым: *Однажды русский генерал из гор к Тифлису проезжал: ребенка пленного он вёз* [3, с.52] – *Аднойчы рускі генерал вёз у Тыфліс з надхмарных скал малога хлопчыка ў палон* [2, с.8]; *Он как живой в своей одежде боевой являлся мне, и помнил я..* [3, с.52] – *Ягоны воблік баявы з'яўляўся мне з дзіцячых дзён..* [2, с.13]. Такія перабудовы сінтаксічнай канструкцыі можна растлумачыць патрабаваннямі захавання рыфмы і інтанацыі.

Сустракаюцца выпадкі неадэкватнай замены сінтаксічнай канструкцыі і пры перадачы аднасастаўных сказаў. Так, пры перакладзе двухсастаўны сказ у лермантаўскім творы перадаецца А. Куляшовым аднасастаўным. Часцей за ўсё такія выпадкі звязаны з пропускам асабовага займенніка, што дапамагае перакладчыку засяродзіць увагу менавіта на дзеянні: *Побрёл я в глубине лесной* [3, с.66] – *Ішоў бясконцым лесам* [2, с.24]; *я помнил смуглых стариков* [3, с.56] – *смуглявых прыгадаў дзядоў* [2, с.13]. Часам аднасастаўны сказ перакладчык трансфармуе ў двухсастаўны, уводзячы суб'ект дзеяння: *мне стало страшно* [3, с.59] – *страху не ўтаю .. я* [2, с.16]; *и снова вслушиваться стал* [3, с.60] – *зноў прыслухоўвацца я стаў* [2, с.16]; *хотелось мне* [3, с.66] – *я так хацеў туды* [2, с.20].

Што датычыць перакладу галоўных і даданых членаў сказа, то больш за ўсё выпадкаў неадэкватнага ўзнаўлення заўважаецца пры перадачы азначэнняў і дапаўненняў, іншы раз выказнікаў. Так, іменны выказнік А. Куляшоў трансфармуе ў дзеяслоўны, што некалькі мяняе сэнс выказвання: *Удар мой верен был и скор* [3, с.65] – *Але я ўдар падрыхтаваў* [2, с.22]; просты дзеяслоўны ў састаўны: *Вдали аул куриться начал* [3, с.66] – *Дыміў аул* [2, с.24]. Іншы раз замена мікравобразу вымагаецца не чыста лінгвістычнымі праблемамі, а патрабаваннем рыфмы, імкненнем захаваць агульнае гучанне лермантаўскай паэмы. Перакладчык часам карыстаецца прыёмам дабаўлення, г.зн. уводзіць у сказ новыя кампаненты, што прыводзіць да пашырэння структуры сказа, а таксама да семантычных змен. Увядзенне дабаўленняў тлумачыцца разыходжаннямі ў лексічных сістэмах мовы, неабходнасцю ўдакладнення для носьбіта мовы перакладу рэалій, названых у перакладзе, несупадзеннем пэўных формаўтваральных мадэляў арыгінала і перакладу, яны могуць быць выкліканы папярэднімі трансфармацыямі-заменамі, а найчасцей патрабаваннямі захавання рытму і страфы арыгінала, як гэта і адбываецца ў перакладзе «Мцыры».



Так, А. Куляшоў іншы раз апускае эпітэты, параўнанні, іншыя мастацкія дэталі або ўводзіць свае, некалькі адрозныя ад арыгіналу: *вдохнуть в мою измученную грудь* [3, с.58] – *грудзьмі ўздыхаць* [2, с.15]; *ночную свежесть тех лесов* [3, с.58] – *гаючы пах лясных разложыстых галін* [2, с.15]; *следы глубокие когтей* [3, с.58] – *знак кіпцюроў яго крывавых* [2, с.24]; *И восток озолотился* [3, с.59] – *Зямлю азалаціў усход* [2, с.16]; *земля сырой покров их освежит* [3, с.66] – *зямля схавае іх сляды* [2, с.24]; *при свете лунных вечеров* [3, с.56] – *пры бледным месяцы святле* [2, с.13]; *волны касалися крылом* [3, с.57] – *ракі краналіся крылом* [2, с.14]; *Побрёл я в глубине лесной* [3, с.66] – *Ішоў бясконцым лесам, без дарог* [2, с.24]; *Туманный лес заговорил* [3, с.66] – *Ачнуўся лес* [2, с.24]. Такая замена апраўдана, бо неабходна заўсёды помніць, што слоўнікавы склад мовы ўяўляе сабой не проста сукупнасць слоў, а сістэму, якая дапускае бясконца разнастайныя, але не любыя спалучэнні слоў у любым кантэксце: асобныя элементы слоўніка звязаны паміж сабою аднымі пэўнымі сэнсавымі і стылістычнымі адносінамі. Гэтыя абставіны праяўляюцца пры перакладзе і часта не дазваляюць выкарыстоўваць бліжэйшы слоўны адпаведнік, патрабуюць доўгіх пошукаў раўнацэннага ў сэнсавых і стылістычных адносінах варыянта і вымагаюць вялікіх намаганняў ад перакладчыка.

Часам адсутнасць у перакладзе пэўных сінтаксічных канструкцый азначэння (*найдет прямой и краткий путь* [3, с.67] – *знаходзіць на радзіму шлях* [2, с.25]; *палящий луч её обжёг* [3, с.68] – *Яго прамень агнём апёк* [2, с.26]; *без этих трёх блаженных дней* [3, с.57] – *без тых трох дзён* [2, с.14] і інш.) звязана з праблемай перадачы на беларускую мову стараславянізмаў, якія не вельмі шырока функцыянуюць у сучаснай мове і запазычаны ў асноўным праз рускую (глава, ісціна, саюз, благароддзе, благаслаўляць, блажэння, славесны і г.д.). Як бачым, яны амаль стылістычна нейтральныя, шырока ўжываюцца ва ўсіх стылях мовы. Па слушнай заўвазе М.Г.Булахава, «наяўнасць стараславянізмаў беларускай мовай абмяжоўваецца немагчымасцю падпарадкаваць гукавую, марфалагічную і словаўтваральную форму чужога слова нацыянальнай спецыфіцы» [1, с.10]. Таму А. Куляшоў, не знаўшоўшы адэкватнай замены, проста апусціў слова. Ад літары арыгінала прымушае адступіцца рытміка-інтанацыйная плынь арыгінала, граматычныя законы беларускай мовы.

Трэба адзначыць, што выпадкі замены сінтаксічных канструкцый, якія ўключаюць кніжныя формы, не такія ўжо частыя, у цэлым перакладчык адэкватна перадае фармальныя асаблівасці твора сродкамі беларускай мовы: *дружбы краткой* [3, с.58] – *кароткай дружбы* [2,

с.14]; *низверженный с небес* [3, с.59] – *нізрынуты з нябёс* [2, с.16]; *гордый глас* [3, с.60] – *горды голас* [2, с.17]; *Взор кровавый устремлял* [3, с.64] – *Крывавым вокам пазіраў* [2, с.22]; *Но тщетно спорил я с судьбой* [3, с.66] – *Дарма я з лёсам спрэчку вёў* [2, с.24]; *И кинул взоры я кругом* [3, с.66] – *Я ўбачыў край перад сабой* [2, с.24]; *дышал от уст её и щек* [3, с.58] – *ад вуснаў маладых і шчок* [2, с.18]; *мою усталую главу* [3, с.68] – *хаваў у стоме галаву* [2, с.26]; *надписью златой* [3, с.68] – *разьбою залатой* [2, с.27].

Як бачна, уласна стараславянскую лексіку, ужытую ў агульным, нейтральным сэнсе, А. Куляшоў звычайна замяняе на стылістычна нейтральныя беларускія адпаведнікі: *краткой – кароткай; глас – голас; глава – голова, златой – залатой* і г.д. Перакладчык разумее, што пастаянна замяняючы няпоўнагалосныя формы – сродак стварэння паэтычнасці – поўнагалоснымі, ён зніжае агульнапаэтычную тканіну твора. Але, з другога боку, няпоўнагалосныя формы не ўласцівы беларускай мове, і, каб наблізіць твор да беларускага чытача, перакладчык свядома ішоў на такую замену. Кніжнаславянізмы, ужытыя для вырашэння пэўных мастацкіх задач, стварэння каларыту часу, якія служылі для характарыстыкі некаторых вобразаў, заставаліся: *над моим челом свивался* [3, с.68] – *над маім чалом закручваўся* [2, с.26]; *лай знакомых псов* [3, с.56] – *брэх знаёмых псоў* [2, с.13]. У некаторых выпадках перакладчык для захавання рытму, інтанацыі страфы наогул апускае складаныя для перакладу кніжнаславянскія словы: *браздя рассыпчатый песок* [3, с.68] – *па сыпкаму пяску праклала баразну* [2, с.27]; *чужд ребяческих утех* [3, с.52] – *дзіцячых ён не знаў уцех* [2, с.8]; *прах вился столбом* [3, с.60] – *курыўся пыл услед за ім* [2, с.17]; *играющий на солнце лист* [3, с.68] – *ззяе на лісцях* [2, с.30]. У некаторых выпадках такая замена не адбіваецца на агульным рытміка-інтанацыйным гучанні твора, аднак іншы раз выразна заўважаецца стылістычная зніжанасць куляшоўскага перакладу ў параўнанні з лермантаўскім творам: *был чужд людей* [3, с.58] – *людзей цураўся я* [2, с.15]; *на краю грозящей бездны я лежал* [3, с.59] – *ляжаў я ў стромы на краю* [2, с.16]; *прилежный взор следить бы мог* [3, с.60] – *старанны позірк прасачыць* [1, с.17]; *Но с торжествующим врагом он встретил смерть лицом к лицу* [3, с.66] – *Ды перад ворагам сваім смерць сустракаў ён твар у твар* [2, с.23]; *Что я пред ним?* [3, с.67] – *А я?* [2, с.26]; *дышала сладость бытия* [3, с.68] – *дзе ўсё жыло* [2, с.26]; *изречь монашеский обет* [3, с.53] – *манахам стаць ён быў гатоў* [2, с.9].

У М. Лермантава творчая дамінанта надзвычай шырокая. Яму ўласцівы лірычнасць і грамадзянскасць, песеннасць і разнастайная палітра моўна-выяўленчых сродкаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што



А. Куляшоў выдатна справіўся з пастаўленай задачай – перакладам складанай паэмы, прапанаваў свае адпаведнікі кніжнаславянскай лексікі, здолеў па-майстэрску перадаць чароўныя радкі паэмы і даў чытачу паўнацэнны высокамастацкі пераклад, у якім адлюстраваліся галоўныя рысы стылю М.Ю. Лермантава. Для перакладу А.Куляшова ўласцівы адыход ад літаралізму пры поўным захаванні сэнсу арыгінала, яго мастацкай спецыфікі, у ім арганічна спалучаецца вернасць перадачы аўтарскага тэксту з узнаўленнем яго мастацкай формы ў беларускім варыянце.

*Спіс літаратуры*


1. Булахов, М.Г. Основные вопросы сопоставительной стилистики русского и белорусского языков / М.Г. Булахов. – М., 1979.
2. Куляшоў, А. Збор твораў. У 5 т. / А.Куляшоў – Мінск, 1977.
3. Лермонтов, М.Ю. Собрание сочинений. В 4 т. Т.2 / М.Ю.Лермонтов. – М., 1964.
4. Ржавуцкая, М.С. Пераклад сінтаксічных канструкцый з беларускай мовы на рускую (на матэрыяле твораў Івана Мележа): аўтарэф. дыс… канд. філал. навук / М.С.Ржавуцкая. – Мінск, 2000.
5. Фёдоров, А. Основы общей теории перевода / А.Фёдоров. – М., 1968. – С.10.


УДК 811.161.3 + 811.162.1

**Я.В. Волкава** (Мінск)

## ФАРМАНТ *-І(Ы)ШЧА*/*-I(Y)ŠĆO* Ў БЕЛАРУСКАЙ І СЕРБАЛУЖЫЦКІХ МОВАХ

У літаратуры існуе некалькі версій паходжання праславянскага фарманта **-išče/*-isko*. Не паглыбляючыся ў нетры індаеўрапейскіх рэканструкцый, адзначым, што, паводле адной з версій, першасным з'яўляецца фармант **-isko*, у выніку палаталізацыі якога ўтварыўся фармант **-išče*. Паводле С.Б. Бярнштэйна: «...данная структура основ удержалась только в тех праславянских диалектах, которые лежат в основе западнославянских языков. Наиболее устойчивой она оказалась в польском языке» [1, с.294]. Калі ж прыняць пад увагу лінгвагеаграфічны фактар, цэнтрам распаўсюджвання **-isko* на бліжэйшыя памежныя тэрыторыі і выцяснення **-išče* з'яўляецца ляхіцкі арэал, аднак, як сцвярджае В.В. Мартынаў, «вопрос о пространственном распределении словообразовательных формантов с точки зрения степени их архаичности нельзя считать решенным», і таму «достаточно надежное решение вопроса о происхождении формантов *-isko*, *-išče* оказывается пока затруднительным» [2, с. 42].

Аднак, незалежна ад вырашэння гэтага пытання, мы стаім перад фактам, што паміж Беларуссю і Лужыцай знаходзіцца тэрыторыя, на якой фармант *-*isko* амаль цалкам замяніў *-*išče* (застаецца яшчэ кашубскі анклаў, які толькі часткова падпаў пад уплыў гэтага працэсу). Таму цікава параўнаць, як функцыянуе *-*išče* ў мовах, носьбіты якіх не мелі непасрэдных кантактаў ці не паўтары тысячы гадоў.

У нашым даследаванні мы выкарысталі «Верхнялужыцка-нямецкі слоўнік» [3], «Нямецка-верхнялужыцкі слоўнік новай лексікі» [4], «Ніжнялужыцка-нямецкі слоўнік» [5], «Слоўнік ніжнялужыцкай мовы» А. Мукі [6], а таксама матэрыялы, сабраныя польскім сарабістам Т. Левашкевічам [7]. Крыніцай беларускіх матэрыялаў паслужылі самыя розныя слоўнікі (тлумачальны [8], гістарычны [9], дыялектныя [10, 11, 12], этымалагічны [13]), атласы беларускай мовы [14, 15], манаграфія па беларускім народным словаўтварэнні П.У. Сцяцко [16].

Спроба зрабіць тыпалагічнае апісанне славянскіх моў паводле дадзеных словаўтварэння была здзейснена ўкраінскімі мовазнаўцамі [17]. У прыватнасці, імі адзначаецца, што ўсходнеславянскія і паўднёваславянскія мовы развілі словаўтваральны тып назваў памяшканняў на *-ішча/-иште/-išče* ў адрозненне ад заходнеславянскіх моў, якія не ведаюць такога словаўтваральнага тыпу [17, с. 68]. Аўтары лічаць, што гэты факт пацвярджае існаванне паўднёваславянска-усходнеславянскай ізаглосы [17, с. 75]. Аднак нельга спяшацца з такімі высновамі: некаторыя прыведзеныя прыклады – укр. *сховище*, серб.-харв. *тркалиште* ‘манеж’[1] – паказваюць, што значэнне ‘памяшканне’ не з’яўляецца для гэтых лексем першасным (хутчэй, гаворка павінна ісці пра абазначэнне адкрытай або закрытай прасторы), а бел. *судзілішча* ўвогуле не мае прасторавага значэння, у той час як верхнялужыцкае *sudźišćo* мае значэнне ‘пакой суддзі’ [7, с. 74]. Таму нельга лічыць працу па тыпалагічных даследаваннях словаўтварэння славянскіх моў завершанай.

Найбольшая колькасць супадзенняў паміж беларускай і абедзвюма сербалужыцкімі мовамі – у назвах палёў паводле культуры: *аўсянішча*, *аўсішча* [16, с. 159], *оўсішчэ* [11, т. 3] – н.-л. *wowsyšćo*, в.-л. *wowsnišćo*; *гарохавішча*, *гарохнішча* [16, с. 165] – н.-л. *grochowišćo*, в.-л. *hrochownišćo*; *гурочнішча*, *гурковішча*, *гуркоўнішча* [15, т. 2] – н.-л. *górkowišćo*, в.-л. *kórkownišćo*; *ляновішча* – н.-л. *lanowišćo* [13, т. 6], *ленішча* [13, т. 5] – в.-луж. *lenišćo*; *маркоўнішча*, *марквішча* [15, т. 2] – н.-л. *marchwišćo*, *marchownišćo*, в.-л. *morchwišćo*; *пшанічышча*, *пшэнічнішчэ* [11, т. 4] – н.-л. *pšenicnišćo*, в.-л. *pšeńčnišćo*; *сцёрнішча* [14, с. 850] – н.-л. *sćernišćo*, в.-л. *šćernišćo*; *ячменішча*, *ячнішча* – н.-л. *jacmjenišćo*, *jacnišćo* [6], в.-л. *ječnišćo*; н.-л. *chmjelišćo* і в.-л. *chmjelnišćo* адпавядае беларускі тапонім *Хмелішча* [11, т. 5].

Як бачым, ва ўсіх трох мовах амаль поўныя супадзенні па асноўных сельскагаспадарчых культурах старажытнасці. Адзначым таксама паралелі паміж беларускай і адной з лужыцкіх моў: *бабовішча* – в.-л. *bobišćo* [7, с. 58], *bobownišćo* ‘поле з фасоляй’ [7, с. 105], *жытнішча* – в.-л. *žitnišćo*; *макавішча* – в.-л. *makowišćo*; *прасянішча* – н.-л. *pšosowišćo*; *рэпішча* – н.-л. *rěpišćo* ‘бурачышча’, в.-л. *rěpnišćo* ‘тс’, *цыбулішча* [16, с. 159] – в.-л. *cyblišćo* [7, с. 58].

Іншыя назвы палёў утвораны ад розных каранёў: *бульбянішча* – н.-л. *kulkownišćo*, в.-л. *běrnišćo*; *бурачышча* – н.-л. *głubišćo*, в.-л. *runklišćo*; *канюшынішча* – н.-л. *kwišinišćo*, в.-л. *dźećelnišćo*; *капуснішча* – н.-л. *kałownišćo*, в.-л. *kalnišćo*; *грачанішча* – н.-л. *hejdyšćo* [6].

Паводле разгляданай мадэлі, у сербалужыцкіх мовах утвараюцца назвы месцаў з пэўнай расліннасцю ад любых каранёў, напрыклад: н.-л. *majsnišćo*, в.-л. *kukuricnišćo* ‘кукурузнае поле’; н.-л. *rajsownišćo*, в.-л. *rajsnišćo* ‘рысавае поле’; н.-л. *jaricnišćo* ‘поле з яравой культурай’, в.-л. *tomatnišćo* ‘поле з таматамі’, в.-л. *truskalčišćo* ‘плантацыя клубніц’, .в.-л. *tobakowišćo* ‘плантацыя тытуню’. Таксама ў гэтую групу ўваходзяць назвы плантацый дрэў і кустоў як канкрэтных гатункаў, напрыклад: н.-л. *chójnišćo* ‘пасадкі хвоі’, в.-л. *malenišćo* ‘маліннік’, так і з агульным значэннем ‘месца, засаджанае дрэвамі; парк’ – н.-л. *bomišćo* [6], в.-л. *štomišćo* [7, с. 60], ‘кустоўе’ – н.-л. *kerišćo*, в.-л. . У беларускай мове зафіксаваныя *альховішча*, *лазовішча* [16, с. 112], *ліпішча*, *дубішча* [16, с. 204] – в.-л. *dubišćo.* Як адзначае Т.Левашкевіч, назоўнікі са значэннем ‘расліна’ найчасцей у верхнялужыцкай мове ўтвараюць дэрываты на -*išćo* (ён налічыў такіх 139) [7, с. 235]. Па аналогіі з назвамі месцаў, звязаных з раслінамі, утвараюцца назвы месцаў бытавання жывёл, напрыклад, н.-л. *jastśebišćo* ‘гняздо ястраба’, *mrojowišćo* ‘мурашнік’, в.-л. *hadźišćo* ‘гняздо змей’, *wopičišćo* ‘месца бытавання малпаў; клетка з малпамі’ [7, с. 56].

Наступная вялікая ў сербалужыцкіх мовах група – назвы месца паводле таго, што знаходзіцца ці адбываецца на ім. Спачатку прывядзём беларускія лексемы, якія супадаюць з адпаведнікамі хаця б адной з лужыцкіх моў: *пасвішча* [16, с. 46] – н.-л. і в.-л. *pastwišćo*; *лётнішча* [16, с. 112] – н.-л. *lětnišćo*, *ігрышча* – в.-л. *hrišćo* [7, с. 65], *явішча* ‘з’яўленне’ [16, с. 87] – н.-л. *jawišćo* , в.-л. *jewišćo* ‘сцэна’; *зімовішча* – в.-л. *zytowišćo* [7, с. 104]; *ловішча* ‘месца для лоўлі звяроў’ [16, с. 46] – в.-л. *łójišćo* ‘месца лоўлі рыбы’; *мачулішча*, *мачылішча* [16,

---
[1] Аўтары даследавання прыводзяць тут толькі адно значэнне, але ёсць яшчэ першаснае: ‘месца спаборніцтваў у бегу’.

с. 50] – н.-л. *macadlišćo*; *багнішча* – в.-л. *bahnišćo*; *макрышча* [16, с. 112] – в.-л. *mokrišćo* [7, с. 70–71]; *Езярышча* – н.-л. *jazorišćo*, в.-л. *jezorišćo*; *рэчышча* – в.-л. *rěčnišćo*; *глінішча* – *glinišćo* н.-л. [6], в.-л. *hlinišćo* [7, с. 61]; *Руднішча* – в.-луж. *rudnišćo* 'рудны паклад'. З назваў месцаў, якія характарызуюцца наяўнасцю карысных выкапняў, у беларускай мове зафіксаваныя яшчэ *тарфянішча, вапнішча* [16, с. 159]. А вось у лужыцкіх мовах гэта група значна больш пашыраная. Па гэтай мадэлі ўтвараюцца Nomina loci, значэнні якіх ахопліваюць ледзь не ўсе сферы жыцця і дзейнасці. Прывядзём толькі некаторыя прыклады: н.-л. *hokejnišćo* 'хакейная пляцоўка', *muzejowišćo* 'тэрыторыя музея', *stojnišćo* 'пункт погляду, пазіцыя', *wukubłanišćo* 'установа адукацыі', *zeperanišćo* 'пункт апоры'; в.-л. *bazaltnišćo* 'радовішча базальту', *srjedźišćo* 'цэнтр', *smykanišćo* 'каток (коўзанка)', *konferencnišćo* 'канферэнцзала', *šerjenišćo* 'месца з прывідамі' і г.д.

У сваю чаргу ў беларускай мове больш разнастайная група назваў месцаў, дзе некалі знаходзіўся прадмет, абазначаны ўтваральным словам (звычайна, гэта пабудова): *адрынішча*, *азярышча* [16, с. 159], *гумнішча*, *печышча* [10, т. 3], *млынішча* [16, с. 159], *пунішча* [10, т. 4], *сялібішча*, *хатнішча*, *хацішча*, *хлевішча* [10, т. 5], *зрубішчэ* [11, т. 2], *цэрковішчэ* [11, т. 5], *лазнище* [9, т. 16], *мостище* [9, т. 18]. Адзінкавыя сербалужыцкія назвы абазначаюць месца, дзе знаходзіцца пэўная пабудова: н.-л. *groźišćo*, в.-л. *hrodźišćo* 'гарадзішча'; н.-л. *gumnišćo* 'гумнішча', н.-л. *młynišćo* 'млынішча' [6, с. 62]. Магчыма, гэта звязана з большай частатой разбурэнняў будынкаў на беларускіх землях у мінулым.

Таксама, відаць, у сувязі з частымі пажарамі рознай «этыялогіі» ва ўсіх трох мовах прысутнічае вельмі разнастайная група лексем, якія абазначаюць месца пасля пажару: бел. – *выгарышча*, *выжарышча*, *гарэлішча*, *пагарэлішча*, *пажарышча*, *папялішча*, *попелішча*, *згаравішча* [10, т. 2], тапонімы *Пажарышча*, *Папялішча*; н.-л. – *pališćo*, *popjelnišćo*, *pśepalenišćo*, *spalnišćo*, *wopalnišćo*, *wótgórišćo*, *wupalnišćo*, *žaglišćo*; в.-л. – *palnišćo*, *spalnišćo*, *wupalnišćo*.

Досыць малалікую групу лексем на *-išćo*, якія абазначаюць назвы частак прылад і дзяржанні, даследчыкі лужыцкіх моў звычайна згадваюць мімаходзь. Па гэтай мадэлі дэрывацыя ані ў беларускай, ані ў сербалужыцкіх мовах ужо не адбываецца, нават у граматыцы верхнялужыцкай мовы няма пра яе згадкі, у беларускай граматыцы гэты тып лічыцца непрадукцыйным [18, с. 128]. Аднак мы лічым, што варта больш падрабязна разгледзець гэтую групу. У слоўніках беларускай мовы зафіксавана больш назваў дзяржанняў: *бічышча* [16, с. 159], *кавянішча*, *качаржычша*, *памялішча* [12], *касавішча*, *лапацішча* [10, т. 2], *чапялішча* [10, т. 5], *ключыщо* 'тоўстая жардзіна з крукам' [9, т. 15], *ощепище* 'дрэўка кап'я' [9, т. 23], *малатавішча*, *мятлішча*. У ніжнялужыцкай адзначаны *chóšćišćo* 'мятлішча', *kśuźišćo* 'пугаўё', *sekerišćo* 'тапарышча', *špóźišćo* 'дзяржанне рыдлёўкі'; у верхнялужыцкай – *hłowišćo*, *třělbišćo* 'прыклад (стрэльбы)', *hlebišćo* 'дрэўка кап'я', *chošćišćo* 'мятлішча'. Паралелізм назіраецца ў наступных лексемах: *вудавішча* [12] – н.-л. *huźišćo* [6], *граблішча* – н.-л. *grabišćo*, в.-л. *hrabišćo*; *касішча* [13, 833] – н.-л. *kósyšćo*, в.-л. *kosyšćo*; *вілковішча* [19, с. 253] – н.-л., в.-л. *widlišćo*, *цапавішча* – в.-л. *cypišćo*. Што датычыць лексемы *тапарышча*, цікава адзначыць, што н.-л. і в.-л. *toporišćo* мае агульнае значэнне 'дзяржанне', а не толькі 'дзяржанне сякеры'.

Хацелася б адзначыць і некаторыя цікавыя выпадкі актыўнасці такога тыпу словаўтварэння ў беларускай мове. Напрыклад, у «Тураўскім слоўніку» зафіксавана лексема *крыкавішча* 'адлегласць на голас' [11, т. 2]. У беларускіх дыялектных слоўніках адзначаны выпадкі словаўтварэння ад асновы на *-ішча*: *празвішчаць* 'даваць мянушкі' ад прозвішча [10, т. 4], *балотнешчы* 'балотны' ад *балотнішча* 'балота' [11, т. 1]. У сербалужыцкіх мовах такія выпадкі нам невядомыя. Зафіксаванае і ўтварэнне ад уласнай назвы: *Нямнішча* 'старое рэчышча Нёмана' [12]. Словаўтваральны адпаведнік ёсць у верхнялужыцкай мове: *Sprewišćo* 'старое рэчышча Шпрэі (рака ў Верхняй Лужыцы)' [7, с. 62].

Такім чынам, на падставе прааналізаванага матэрыялу бачна, што хаця сёння такі тып словаўтварэння ў беларускай мове лічыцца непрадукцыйным, дыялектныя і гістарычныя крыніцы сведчаць пра яго даволі значны патэнцыял у мінулым. У сербалужыцкіх мовах словаўтварэнне паводле такога тыпу працягваецца, напрыклад, у «Нямецка-верхнялужыцкім слоўніку новай лексікі» (маецца на ўвазе новая лексіка ў нямецкай мове) прыводзяцца словы, не зафіксаваныя раней: *kopjenišćo* 'ядро канцэнтрацыі населеных пунктаў', *hranične kontrolnišćo* 'пункт памежнага кантролю' [4]; у ніжнялужыцкай газеце *Nowy casnik* (12.08.2006) сустракаем лексему, дагэтуль у слоўніках не зафіксаваную: *pśelodowanišćo* 'пункт перагрузкі транспарту'.

*Спіс літаратуры*

1. Бернштейн, С.Б. Очерк сравнительной грамматики славянских языков: Чередования. Именные основы / С.Б. Бернштейн. – Москва: Наука, 1974.

2. Мартынов, В.В. Праславянская и балто-славянская суффиксальная деривация имен / В.В. Мартынов. – Мн.: Наука и техника, 1973.

3. Hornjoserbsko-němski słownik / wobdź. Timo Meškank. – Budyšin: LND, 2005.

4. Jenč, H. Němsko-hornjoserbski słownik noweje leksiki / Helmut Jenč, Anja Pohončowa, Jana Šołćina. – Budyšin: LND, 2006.

5. Starosta, M. Dolnoserbsko-nimski słownik / Manfred Starosta. – Budyšyn: LND, 1999.
6. Muka, A. Słownik dolnoserbskeje rěcy a jeje narěcow. Fotomechaniski nowośiść / Arnošt Muka. – Budyšyn: LND, 2008.
7. Lewaszkiewicz, T. Słowotwórstwo apelatywnych nazw miejsc w języku górnołużyckim / Lewaszkiewicz Tadeusz. – Wrocław [etc]: Wydawnictwo PAN, 1988.
8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / пад рэд. К.К. Атраховіча. – Мінск: БелСЭ, 1977–1984. – Т. 5.
9. Гістарычны слоўнік беларускай мовы / Гал. рэд. А.І. Жураўскі. – Т. 1 (выданне працягваецца). – Мінск: Навука і тэхніка, 1984.
10. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т. / рэдкал. Ю.Ф. Мацкевіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – Т. 5.
11. Тураўскі слоўнік. У 5 т. / рэд. А.А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – Т. 5.
12. Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі. У 2 т. / пад рэд. Е.С. Мяцельскай. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1: А–П. – 287 с.
13. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / рэд. В.У. Мартынаў. – Т. 1 (выданне працягваецца). – Мінск: Навука і тэхніка, 1978.
14. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт / пад рэд. Р.І. Аванесава [і інш.]. – Мінск: Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1963.
15. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. У 5 т. / пад рэд. М.В. Бірылы, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Фонд ФД РБ, 1993–1998. – Т. 5.
16. Сцяцко, П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі / П.У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977.
17. Историческая типология славянских языков: фонетика, словообразование, лексика и фразеология / под ред. А.С. Мельничука. – Киев: Наукова думка, 1986. – 287 с.
18. Беларуская граматыка. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / АН БССР – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – 431 с.
19. Лексіка гаворак беларускага прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік. – Мінск: Правы і эканоміка, 2008. – 353 с.

УДК 811.161.3

**В.М.Галай** (Мінск )

## АФІКСАЛЬНАЯ ДЭРЫВАЦЫЯ ГЕРМАНІЗМАЎ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Характэрнай функцыянальнай асаблівасцю запазычаных слоў з'яўляецца іх асваенне з дапамогай словавытворнасці ў лексічнай сістэме беларускай мовы. Як адзначаюць даследчыкі, словаўтварэнне ад запазычаных слоў трэба лічыць адным з асноўных спосабаў іх адаптацыі. З пункту гледжання гістарычнай лексікалогіі ўтварэнне новых адзінак ад запазычаных слоў мае дваякую цікавасць. З аднаго



боку, вытворныя з іншамоўнай асновай, выражаючы нешта новае, у той час лішні раз паўтараюць у мове корань, які ўзыходзіць да іншамоўнай асновы. З другога боку, словаўтварэнне ад запазычаных слоў дае магчымасць ускосна меркаваць аб асноўных словаўтваральных тыпах у беларускай мове.

Германізмы прымаюць актыўны ўдзел у словаўтваральных працэсах мовы-пазычальніцы. Як вядома, здольнасць да дэрывацыі – гэта адна з асноўных прыкмет трывалага засваення іншамоўнага слова, камунікацыйнай апраўданасці яго ў новай моўнай сістэме. На сучасным этапе функцыянуюць цэлыя словаўтваральныя гнёзды германізмаў і дэрыватаў, якія ўзніклі на беларускай глебе: *вага*, *вагавітасць*, *вагавіты*, *вагавы*, *вагальны*, *ваганне*, *вагануцца*, *вагар*, *вагаўшчык*, *вагаўшчыца*, *вагацца*, *вагаць*, *важанне*, *важаны*, *важкасць*, *важкі*, *важна*, *важнасць*, *важнічаць*, *важыцца*, *важыць*, *узважыць*, *адважыць*, *павага*, *перавага* і інш.

Ад слоў нямецкага паходжання ў беларускай мове новыя лексемы могуць утварацца марфалагічным, марфолага-сінтаксічным, лексіка-семантычным спосабамі. Найбольшае значэнне мае марфалагічны спосаб словаўтварэння, у прыватнасці, афіксацыя. У залежнасці ад таго, якія словаўтваральныя элементы ўдзельнічаюць ва ўтварэнні слова і як яны далучаюцца да словаўтваральнай асновы, выдзяляюцца дзве разнавіднасці афіксальнага словаўтварэння: суфіксацыя і прэфіксацыя (канфіксацыя не назіраецца ў даследуемым матэрыяле).

Значнай групай прадстаўлены ў беларускай мове аддзеяслоўныя субстантыўныя ўтварэнні з суфіксам *-нн*(е): *бракаванне*, *буксаванне*, *гафтаванне*, *дыляванне*, *рыфаванне*, *фарбаванне*, *футраванне*, *шмараванне*, *штампаванне*, *штрыхаванне*, *штэмпеляванне*, *шыхтаванне* і інш. Вытворныя з такім суфіксам адносяцца да ліку найбольш старажытных, яны вядомы агульнаславянскай мове.

Пры ўтварэнні найменняў, якія абазначаюць асобу, у прыватнасці, паводле роду занятку, найбольшую актыўнасць мае суфікс *-ар* (агульнаславянскі суфікс *-arjo* змяніўся на беларускай глебе на *-ар*, дзе пад уплывам фанетычных прычын адбылося зацвярдзенне *р*): *бляхар* «майстар, які вырабляе рэчы з бляхі; той, хто крые бляхаю дах», *гантар*, *гафтар*, *крамар*, *кухар*, *млынар*, *пушкар*, *гандляр*, *шынкар* (але: *гарбар*, *грабар*, *рымар*, *друкар* праніклі з нямецкай мовы ўжо з суфіксам *-er*). Са значэннем жаночага полу ўтвараюцца назоўнікі пры дапамозе суфікса *-к*: *бухгалтарка*, *гандлярка*, *шынкарка*, *мулярка*, *малярка*, *штукарка* і інш.

Для ўтварэння назоўнікаў, якія абазначаюць асобы паводле дзеяння, занятку, служыў таксама агульнаславянскі суфікс *-нік*: *буднік*

дыялектн. ‘рабочы лясгаса’, *ліннік* ад дыялектн. ліна ‘вяроўка’, *папернік* ‘рабочы папяровай прамысловасці’, *цагельнік* ‘рабочы, які працуе на цагельні’, *стадольнік* ‘гаспадар канюшні’, *шындэльнік* дыялектн. ‘гантаўшчык’ і інш.

Пэўная колькасць слоў узнікла ад асноваў германізмаў (так званых агентыўных назоўнікаў) з дапамогай агульнаславянскага суфікса -*ств*(а): *гандлярства, мулярства, млынарства, шынкарства, малярства, штрэйкбрэхерства* ‘дзеянні штрэйкбрэхераў, накіраваныя на зрыў стачкі, забастоўкі’ і інш.

Для абазначэння месца вытворчасці ці захавання чаго-небудзь служаць назоўнікі з суфіксам -*н*(я): *броварня* дыялектн. ‘спіртзавод’, *друкарня, зэгарня* дыялектн. ‘майстэрня гадзіннікаў’, *спіжарня* дыялектн. ‘кладоўка’, *паперня* ‘папяровая фабрыка’, *цагельня*.

У беларускай мове сустракаецца вялікая колькасць слоў з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі *-к-, -ік- (-ык), -ок, -ец-, -чык, -ачк(-ечк): бартка* ад дыялектн. *барта* ‘сякера’, *бляшка, гачок, крамка, латка, стопка* (ад *штоф – штопка*) ‘невялікая шклянка для віна, гарэлкі; колькасць віна, гарэлкі, якая ўмяшчаецца ў такую шклянку’, *талерка, шалька, шафка, шопка, штабка, шуфлядка, цыбулька, фаска, шнурок, камінок, кубелчык, ланцужок, рымарчык, млынец, кубелец, конавачка, конавечка, фортачка* і інш.

Варта адзначыць, што эмацыянальнасць узмацняецца, калі суфіксы далучаюцца да асновы, у складзе якой ужо ёсць ацэначны суфікс: *рантух –рантушок – рантушочак* ‘жаночы галаўны ўбор’, *крук – кручок – кручочак, фляшка – фляшачка*. Найбольш прадуктыўны ў беларускай граматыцы эмацыянальна-ацэначны суфікс *-к-*.

Ужыванне суфіксаў эмацыянальнай ацэнкі з’яўляецца сведчаннем трывалай словаўтваральнай актыўнасці слоў нямецкага паходжання. Аднак трэба адзначыць, што некаторыя назоўнікі, утвораныя пры дапамозе такіх суфіксаў, змянілі сваё значэнне: *брама* ‘аблямоўка’ – брамка ‘галаўны ўбор’; *дах* ‘дах’ – *дахаўка* ‘чарапіца’, *кнэбель* ‘кляп; болт’ – *кнэблік* ‘запанка, гаплік’; *гафт* ‘вышыўка; рубец’ – *гафтка, гаптка, гатка* ‘гаплік, засцежка’; *шляя* ‘шляя’ – *шлейка* ‘вузка палоска матэрыі’.

Найбольшую прадукцыйнасць пры ўтварэнні ад’ектываў ад іменных нямецкіх асноваў маюць суфіксы: *-н- (броварны, крамны, ратушны, спіжны, цагельны, турэмны, шпітальны, фарны), -ск- (гарбарскі, гафтарскі, грабарскі, кушнярскі, малярскі, пушкарскі, фурманскі, шніцарскі), -ов- (-ёв-): гандлёвы, друшляковы, рахунковы, крышталёвы, папяровы, рыдвановы, -ав- (бляхавы, дышлавы, броваравы, ванчосавы, ратушавы, дротавы).*



Што ж датычыць прэфіксацыі, то такім спосабам утвараліся ў асноўным дзеясловы. Найбольш пашыраныя прыстаўкі: *вы-, да-, за-, з-, на-, аб-, па-, пад-, раз-, у- (абмураваць, вышынкаваць, даважыць, намаляваць, парахаваць разважаць, уважыць, зафрахтаваць, змураваць, пафарбаваць, нафасаваць, наспіжаваць* і інш.).

На аснове разгледжанага матэрыялу можна зрабіць наступныя вывады: на базе запазычанняў з нямецкай мовы ўзнікаюць шматлікія афіксальныя дэрываты; асноўны спосаб дэрывацыі запазычанняў – суфіксальны.

УДК 811.161.3

**А.М. Гацко** (Баранавічы)

## ЛІНГВАКУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ПАДЫХОД У ФАРМІРАВАННІ КАМУНІКАТЫЎНА-ДЫСКУРСІЎНАЙ КУЛЬТУРЫ БУДУЧЫХ НАСТАЎНІКАЎ

У сучасных умовах полікультурнага і шматмоўнага грамадства ўменне ажыццяўляць камунікатыўную дзейнасць у адпаведнасці з нормамі, якія гістарычна склаліся ў моўным калектыве, з улікам псіхалагічных механізмаў уздзеяння на суразмоўцу, з выкарыстаннем лінгвістычных сродкаў і спосабаў рэалізацыі такога маўлення з мэтаю дасягнення найбольшага запланаванага прагматычнага выніку разглядаюцца ў якасці прыярытэтных.

Практычным кампанентам мэты навучання культуры маўленчых зносін выступае маўленне на роднай мове, замежнай у адзінстве ўсіх яе функцый: кагнітыўнай, рэгулятыўнай, каштоўнасна-арыентаванай, этыкетнай на якасна высокім узроўні і ўзроўні камунікатыўнай каштоўнасці. Магчымасці ажыццяўляць камунікацыю ў розных сферах і сітуацыях пры поўнай адэкватнасці сэнсавага зместу і моўнага афармлення выказванням, мэтам і адрасату зносін дэтэрмінуе рэалізацыю камунікатыўных інтэнцый і ўмоў працякання камунікатыўнага акта.

Даследаванні айчынных і замежных вучоных у галіне міжкультурнай камунікацыі, развіццё камунікатыўнай лінгвістыкі, якая ставіць у цэнтры даследавання праблему «мова і чалавек», абумоўліваюць неабходнасць разгляду феномена камунікатыўна-дыскурсіўнай культуры з пазіцыі лінгвакультуралагічнага падыходу.

Вызначэнне сутнасці і спецыфікі рэалізацыі дадзенага падыходу ў фарміраванні даследуемага віду культуры ажыццяўляецца з улікам

складаемых лінгвакультуралагічнага падыходу – лінгвістычнага і культуралагічнага.

Апіраючыся на сутнасць паняццяў «камунікацыя», «дыскурс», «камунікатыўна-дыскурсіўная культура», мэтазгодна прадставіць аналіз магчымасцей лінгвістычнага падыходу ў галіне даследавання тэксту. Істотным чынам мы апіраліся на працы М.М.Бахціна, У.У.Вінаградава, Б.А.Ларына, П.Хартмана, Л.У.Шчэрбы і інш.

Апісанне шматпланавай сістэмы мовы як глабальнай з’явы, як цэльнага сродку камунікацыі з улікам спецыфікі функцыянавання адзінак розных узроўняў патрабуе канкрэтызацыі сутнасці і арганізацыі перадумоў і ўмоў чалавечай камунікацыі – суб’ектаў лінгвістыкі тэксту. У айчынных лінгвістычных даследаваннях [1, 2] мова разглядаецца ў сувязі з мысленнем, культурай, псіхалагічнай дзейнасцю, а маўленчае выказванне – як пачатак лінгвістычных працэдур. З пазіцыі лінгвістычнага падыходу моўныя факты апісваюцца не толькі з дапамогай адпаведных моўных з’яў, спалучальнасці знакаў, іх размеркавання ў моўным ланцугу, але і з дапамогай прыцягнення экстралінгвістычных фактараў: сітуацыі параджэння і ўспрымання тэксту (дыскурсу), камунікатыўнай і прагматычнай устаноўкі аўтара, суаднясення створанай у дыскурсе мадэлі свету з рэальным светам.

Лінгвістычны падыход рэалізуецца ў некалькіх асноўных накірунках [3]: 1) вывучэнне тэксту як сістэмы з характэрнымі прыметамі цэласнасці і звязнасці; 2) пабудова тыпалогіі тэкстаў па камунікатыўных параметрах і суаднесенымі з імі лінгвістычнымі параметрамі; 3) вывучэнне і аналіз моўных адзінак, якія складаюць тэкст; 4) вызначэнне і фіксацыя асаблівасцей функцыянавання моўных адзінак розных узроўняў у выніку іх інтэграцыі з тэкстам.

Лінгвістычны падыход да даследавання фарміравання камунікатыўна-дыскурсіўнай культуры (КДК) будучых настаўнікаў прадугледжвае разгляд дадзенага феномена ў наступных аспектах: анталагічным, гнасеалагічным, лінгвістычным, псіхалагічным, прагматычным. Разгледзім дадзеныя аспекты больш падрабязна.

Антрапалагічны аспект праблемы фарміравання КДК будучых настаўнікаў прадугледжвае вызначэнне спосабаў існавання дыскурсу ў часе і прасторы, асаблівасцей намінацыі, якія ажыццяўляюцца ў дыскурсе. Любы дыскурс уяўляе сабою вобразную мадэль рэчаіснасці, у якой узаемадзейнічаюць канцэптуальны час (мадэлюемы ў дыскурсе) і перцэптыўны час (успрымаемы індывідам). Камунікатыўная функцыя мовы, якая адлюстроўваецца ў дыскурсе ці тэксце, рэалізуецца толькі пры наяўнасці рэцыпіента, які ацэньвае працягласць працэсу камунікацыі.



Гнасеалагічны аспект патрабуе ўліку заканамернасцей фарміравання думкі пры стварэнні дыскурсу і мадэлявання камунікацыі з выкарыстаннем віртуальных і актуальных моўных знакаў. Дыскурс мадэлюе прыватны і універсальны аб’ект, які спалучае часавую закончанасць і бясконцасць у гнасеалагічным аспекце.

Разгляд КДК як магчымасці і гатоўнасці ажыццяўляць камунікацыю на замежнай мове з улікам асаблівасцей успрымання, разумення, аналізу і стварэння дыскурсаў прадугледжвае рэалізацыю ўласна лінгвістычнага аспекту. Для гэтага неабходна разгледзець іерархічныя адносіны, якія звязваюць адзінкі розных узроўняў і механізмы іх выражэння. Схематычна дадзенае палажэнне можа быць прадстаўлена наступным чынам:




Псіхалагічны аспект прадугледжвае аналіз спецыфікі ўспрымання пэўнага дыскурсу з псіхалагічнага пункту погляду. Найбольш значымымі ў гэтых адносінах прадстаўляецца структура, вертыкальная і гарызантальная мадэлі параджэння і катэгорыі дыскурсу.

Структура дыскурсу з пункту гледжання лінгвістыкі тэксту распадаецца на глыбінную і павярхоўную. Глыбінная структура (вертыкальная мадэль) уключае ідэйна-тэматычны змест і інтэнцыі камуніканта, дамінуючым фактарам якіх з’яўляецца прагматычная ўстаноўка. Павярхоўная структура (гарызантальная мадэль) прадстаўляе сабою фармальна-зместавую лінгвістычную форму дыскурсу. Спецыфіка ўспрымання структуры дыскурсу з псіхалагічнага

пункту погляду залежыць ад комплексу фонавых ведаў і ўзроўню сацыялінгвістычнай кампетэнцыі ўдзельнікаў камунікацыі.

Прагматычны аспект рэалізацыі лінгвістычнага падыходу да фарміравання КДК вызначаецца характарам адносін камуніканта да аб’ектыўнай рэчаіснасці і да зместу матэрыялу. Асаблівае значэнне надаецца чляненню дыскурсу (тэксту) – працэсу, які адлюстроўвае падзеі аб’ектыўнай рэчаіснасці, прадстаўленай ў дыскурсе. Кампазіцыйна- сэнсавае чляненне дыскурсу прыводзіць да выдзялення асноўных кампазіцыйна-маўленчых форм, неабходных для ажыццяўлення камунікацыі, выражэнне адносін камунікантаў да аб’ектыўнай рэчаіснасці. Змястоўны матэрыял – напаўненне дыскурсу – адбіраецца з улікам асноўных функцыянальна-маўленчых аспектаў маўлення: намінацыі, тэматызацыі, стылізацыі.

З пазіцыі лінгвістычнага падыходу дыскурс уключае сістэму моўных сродкаў для маркіравання камунікатыўных стратэгій на вербальным узроўні: кантактныя сігналы гаворачага і слухаючага, клішэ, маўленчыя формулы, пабочныя словы і сказы і іншыя, аб’яднаныя паняццем камунікацыя.

Такім чынам, праведзены намі аналіз магчымасцей лінгвістычнага падыходу да даследавання праблемы фарміравання КДК будучых настаўнікаў дазволіў разгледзець дадзены працэс у аспекце актуалізацыі моўных сродкаў розных узроўняў ва ўмовах функцыянавання пэўнага дыскурсу.

Другім накірункам у фарміраванні КДК будучых настаўнікаў з’яўляецца культуралагічны падыход у даследаванні дадзенай праблемы. Сучасная культурная парадыгма адукацыі адводзіць «ведавай» ролю прадуктыўнага інфармацыйнага сродку навучання. Дамініраванне культурных і сацыякультурных каштоўнасцей у адукацыйных працэсах дазваляе арганізаваць іх як культурна значымае ўзаемадзеянне суб’ектаў. Таму ўзнікае праблема пераводу адукацыі ў іншае, культураадпаведнае вымярэнне, рашэнне якой патрабуе рэалізацыі культуралагічнага падыходу.

Сутнасць культуралагічнага падыходу заключаецца ў разглядзе розных аб’ектаў як культурных працэсаў, а менавіта ў рэгістрацыі зменаў культурных аб’ектаў, іх культур, сістэм і ўзаемасувязей. Вызначэнне культурнага статусу працэсу фарміравання КДК будучых настаўнікаў можа ажыццяўляцца ў некалькіх накірунках: 1) суб’ект-аб’ект-суб’ектным, у цэнтры якога знаходзяцца культурна-філасофскія паняцці каштоўнасцей, культурных норм, культурнага інтарэсу; 2) суб’ект-суб’ектным , дэтэрмінуючым культурную дзейнасць будучых настаўнікаў, іх культурнае самавызначэнне, культурнае развіццё; 3) аб’ект-суб’ектным, які характарызуе даследуемы працэс з пункту гледжання культурнага кантэксту адукацыі, розных культурных мадэляў, спецыфікі мульцікультурнага асяроддзя і культурных сітуацый (дыскурсаў).



Рэалізацыя лінгвакультуралагічнага падыходу ў даследаванні праблемы фарміравання камунікатыўна-дыскурсіўнай культуры будучых настаўнікаў можа ажыццяўляцца на некалькіх узроўнях: 1) зместава-структурным; 2) структурна-функцыянальным; 3) практыка-моўным; 4) культуратворчым; 5) кантрольна-дыягнастычным [4, 5]. На зместава-структурным ўзроўні навучанне арыентавана на аналіз засваення будучымі настаўнікамі лінгвакультуралагічных каштоўнасцей: культурнай рознабаковасці моў і моўных аб’яднанняў, розных сацыякультурных норм, сістэм, адносін і інш. На структурна-функцыянальным узроўні дадзены падыход рэалізуецца пры разглядзе сістэмы функцыянальных кампанентаў КДК, якія ўяўляюць сабою базавыя сувязі паміж зыходнымі станамі структурных кампанентаў дадзенай сістэмы і канчатковым вынікам яе функцыянавання. На практыка-моўным узроўні лінгвакультуралагічны падыход рэалізуецца пры аналізе розных дыскурсаў, а таксама пры вызначэнні адэкватнасці рэалізацыі моўных сродкаў розных узроўняў камунікатыўнай сітуацыі. Асаблівае значэнне надаецца практычнаму адбору моўных адзінак для ажыццяўлення камунікацыі ў зададзеным дыскурсе. На культуратворчым узроўні дадзены падыход дапамагае вызначыць культуралагічную каштоўнасць моўных адзінак, тэкставагу матэрыялу, культурных рэалій. На культурна-дыягнастычным узроўні лінгвакультуралагічны падыход можа быць рэалізаваны ў комплекснай дыягностыцы ўменняў будучых настаўнікаў ажыццяўляць камунікацыю ў зададзеным дыскурсе з улікам яго лінгвістычных і культуралагічных каштоўнасцей.

Такім чынам, лінгвакультуралагічны падыход прадстаўляецца прадуктыўнай і мэтазгоднай стратэгіяй у фарміраванні камунікатыўна-дыскурсіўнай культуры будучых настаўнікаў у сілу яго комплекснасці і поліфункцыянальнасці.

*Спіс літаратуры*

1. Каменская, О.Л. Текст и коммуникация: учеб. пособие для институтов и факультетов иностранных языков / О. Л. Каменская. – М.: Высшая школа,1990. – 151 с.

2. Клюев, Е.В. Речевая коммуникация: учеб. пособие для университетов и институтов. / Е.В. Клюев.– М.: РИПОЛ КЛАССИК, 2002. – 320 с.

3. Тураева, З.Я. Лингвистика текста: учебное пособие для студентов педагогических институтов / З.Я. Тураева. – М. : Просвещение, 1986. – 127 с.

4. Крылов, Н.Б. Культурология образования / Н.Б. Крылов. – М. : Народное образование, 2000. – 272 с.
5. Крылов, Н. Б. Формирование культуры будущего специалиста / Н. Б. Крылов. – М.: Высшая школа, 1990. – 142 с.

УДК 811.162.1 + 811.162.3 + 811.162.2

**О.В. Герасимович** (Минск)

## О НЕКОТОРЫХ ЗНАЧЕНИЯХ ВОСТОЧНОСЛАВЯНСКОГО «*ВЕРА*»

Современными носителями белорусского, русского и украинского языков лексема *вера* понимается исключительно в абстрактном значении, что отражено толковыми словарями данных языков. Ср., например, в белорусском языке *вера*: 1. ’уверенность в чём-нибудь, в исполнении, осуществлении чего-нибудь’; 2. ’убеждённость в положительных качествах кого-либо’; 3. ’убеждённость в реальном существовании сверхнатуральных сил’. В качестве оттенка выделяется ‘религиозное учение; вероисповедование’ [1, с. 477].

Однако белорусский и украинский диалектный материал свидетельствует об употреблении отвлечённого наименования *вера* также и в материальном значении. В «Туровском словаре» наряду с обычной семантикой слова *вера*, именно ‘вероисповедование, вера’ [*У бога веры цяпер няма; Наша вера провослаўная; Як той бобер, дзесяць вер* (поговорка)], зафиксировано совсем неожиданное на первый взгляд значение ‘лира’ [*У веру грае старэц і Лазара пое*; Теребличи Столинского района] [2, с. 112].

Особенно привлекает к себе внимание тот факт, что отмеченное на Туровщине наименование *вера* з эндемической семантикой ‘лира’ не употребляется больше ни в одном из славянских языков, но известно в латинском как омоним к *fidēs* ‘вера, доверие, уверенность’: ср. *fidēs* ‘струна, струнный инструмент (кифара, лира[2])’, ‘игра на струнном инструменте’ [4, с. 326]. Очевидно, в говоре произошёл метафорический перенос *вера* ‘вероисповедование’ → *ліра* ‘музыкальный инструмент’, и, чтобы понять его причину, необходимо обратиться к экстралингвистическим фактам.

---

[2] Лира (греч. λύρα) – древнегреческий струнный щипковый инструмент, который был широко распространён в разных музыкальных культурах Древнего мира: шумерской, египетской, греческой, этрусской [0, с. 183].



Связанная обычно с бытом нищих колёсная лира[3], которая на Украине называется сильно трансформированными *реля*, *рыля*, а на Беларуси – *лера* [6, с. 278; 5, с. 72] (с метатезой слогов, которая амофонически способствует этимологическому обновлению номинативного прототипа), является древним музыкальным инструментом восточнославянских певцов. В современном белорусском литературном языке слово *ліра* употребляется в двух близких значениях: ‘древнегреческий струнный щипковый музыкальный инструмент’ и ‘старинный народный белорусский музыкальный инструмент с клавишами и сумой’ (причём И.Р. Шкраба причисляет *ле́ра / лі́ра* к числу безэквивалентной белорусской лексики [7, с. 150]), а в переносном понимании – ‘символ поэзии, поэтического творчества’ [8, с. 48][4].

Первые сведения о бытовании лиры у белорусов относятся ко второй половине XVII века (по другим данным – к рубежу XVI–XVII веков [9, с. 260]). С того времени старцев-лирников можно было встретить на всей территории этнографической Беларуси – от Смоленска до Белостока, поэтому лира по праву считается одним из бытовых и типичных для Беларуси народных музыкальных инструментов [10, с. 30, 32][5].

Белорусские старцы распевали под аккомпанемент лиры духовно-религиозные стихи, псалмы, канты, исторические и поучительно-бытовые песни [11, с. 30], танцевальные же мелодии играть на лире, согласно народной апинии, считалось грехом [10, с. 30]. Пение старцев приносило деревенскому населению большое наслаждение, а само ремесло считалось почётным занятием и всегда вознаграждалось уважением и щедрыми воздаяниями [12, с. 109–110]. Музыковед А.Л. Маслов, который занимался изучением пения под звуки лиры, небезосновательно считал лирников «воспитателями народа в деле познания добра и истины» [5, с. 83][6].

---

[3] См. более подробное описание инструмента в книге И.Д. Назиной «Белорусские народные музыкальные инструменты: струнные» (1982) [0, с. 72–83].

[4] Там же отмечен омоним к слову *лира* (ит. *lira*) в значении ‘денежная единица в Италии и Турции’.

[5] См., например, в драме Я. Коласа «Раскіданае гняздо»: «Старац ідзе наперад, за ім – Марыля з дзецьмі па баках, а за Марыляй – Данілка. Усе пяюць «Лазара» – Данілка грае».

[6] Ср. в этом контексте хрестоматийную строку А.С. Пушкина: «<…>чувства добрые я *лирой* пробуждал».

Странствующие певцы – в большинстве случаев люди с физическими недостатками (слепотой, хромотой и т.п.) – стремились вызвать у слушателей чувство жалости, сочувствия, поэтому основное место в их репертуаре занимали духовные стихи («старческие, святые песни»). Наиболее популярным был текст, имеющий в своей основе евангельскую притчу о Богаче и Лазаре (Лука 16. 19–31) [14, с. 157], в которой последний воспринимался как «образцовый» нищий [15, с. 346]. Впоследствии данный образ был переосмыслен в народном сознании и приобрёл неодобрительный оттенок, обусловленный тем, что нищие и слепцы нередко прибегали к обману, рассказывая о своих невзгодах и болезнях [16, с. 224], или тем, что под образом нищих ходили люди, которые притворялись несчастными [17, с. 76]. Это обстоятельство повлекло за собой употребление в русских говорах собственного имени *Лазарь* в качестве нарицательного: ср. ‘прозвище нищих, а также слепых, добывающих себе пропитание пением’ [18, с. 449], ‘льстивый, жалобный попрошайка’ (*Через пять вёрст дошли до села Селитьбы. Оно жило подаянием, делало калек, слабоумных, лазарей, уродцев на всю Россию и Сибирь*) [19, с. 234], ‘лицемер, ханжа’ (самар., пенз.), ‘о льстивом человеке’ (нижегор.), ‘о человеке, который с помощью лести, угодничества стремится добиться чьего-либо покровительства, милости, доверия’ (пенз., тамб., перм., том.), ‘о ловком, действующем в корыстных целях человеке’ (*Ишь, какой Лазарь!* (калуж.)), ‘о навязчивом, настойчивом в своих просьбах человеке’ (псков., твер.), ‘о ленивом, плохом ученике’ (*Эх, ты лазарь! Сидишь первым внизу* (перм.)) [20, с. 242]. От данного имени образованы обладающие сходной семантикой глаголы *ла́зарить* ‘просить, выпрашивать; побираться’ (твер., пск., петерб., нижегор.) [20, с. 242; 18, с. 238], *ла́зарничать* ‘просить, выпрашивать; побираться’ (пск., твер.), ‘добиваться чьего-либо расположения при помощи лести’ (тамб.) [20, с. 242], ‘ластиться, подлещиваться, льстиво выпрашивать, канючить, клянчить’ (тамб.) [19, с. 238], а также «общий для всех восточнославянския языков» [17, с. 76] фразеологизм (точнее фразеологическое сращение) *петь Лазаря* ‘упрашивать’ [19, с. 238], ‘жаловаться на свою судьбу, плакаться’ [15, с. 346].

Заговорно-заклинательные интенции этих стихов характеризуются интонациями «просьбы», «плача» [20, с. 97], которые обусловлены обращением к Богу и непоколебимой верой в него. Все исследователи, которые слушали пение старцев в сопровождении лиры, единодушно свидетельствовали о поразительном соответствии между их манерой пения и характером звучания инструмента, которое приводит к своеобразной монотонной и заунывной гармонии [5, с. 109][7]. Из употребления лира выходит в 30–40-е годы XX века вместе с исчезновением отдельного класса профессиональных нищих [23, с. 290].

Таким образом, есть основания считать, что музыкальная гармония и духовно-религиозная тематика стихов, которые исполнялись певцами под аккомпанемент лиры, могли способствовать обратной метафоризации: *вера* ‘вероисповедование’ → *лира* ‘музыкальный инструмент’. Игра на лире настолько стала ассоциироваться с исполнением именно духовных стихов, проникнутых верой в Бога[8], что привела к постоянному употреблению, а потом и закреплению слова *вера* в конкретном значении ‘музыкальный инструмент (лира)’ в центральнополесском белорусском говоре, причём только в давыдгородокском ареале Туровщины, известном в средневековье как один из развитых культурных центров.

Показательным в отношении конкретности / абстрактности является также употребление в белорусском и украинском языках слова *вера* и его производных в значении ‘кредит, долг’ (калька с лат. *crēditum*), не свойственном русскому языку: ср. современное бел. *вһра*, зафиксированное словарём И.И. Носовича в значении ‘долг, одолжение’ [26, с. 105], укр. *продавати на віру* ‘продавать в кредит, с оплатою попозже’, *віритель* ‘кредитор, заимодавец’ [27, с. 679], укр. диал. *віра* ‘кредит’, *вірити* ‘(деньги) одалживать’, фразеологизм *дати на віру* ‘дать в кредит’ [28, с. 130]. Ср. с лат. *credo*, имеющем в качестве второго значения ‘давать взаймы’, а в качестве четвёртого – ‘верить’ [29, с. 207]. Среди пословиц и поговорок русского народа, собранных В.И. Далем, также находим *Не божись, в долг поверю* [30, с. 607].

Приведённые языковые факты позволяют отметить вполне конкретное понимание лексемы *вһра* в белорусском языке – как ‘долг, одолжение’; лексемы *віра* и её производных в современном украинском языке и в его бойковских говорах – как ‘кредит, долг’; в русском языке отражение близкой семантики присутствует в единичном фразеологизме.

Довольно интересным представляется значение слова *вера*, зафиксированное в словаре сербскохорватского литературного языка. В

---

[7] Ср. слова Гераклита: «Гармония – это результат напряжения между противоположностями, как в луке и *лире*» [0, с. 217].

[8] Подобно другим музыкальным инструментам, задействованным в сакральных структурах, лира наделяется функцией посредничества между землёй и небом [0, с. 217]; лира – символ гармонического соединения космических сил [0, с. 294].

качестве пятого лексико-семантического варианта исследуемого слова предлагается ‘сговор, обручение’ (*Прстен дава, вjеру уговара*) (‘Кольцо (перстень) давать, договариваясь о верности’) [31, с. 353].

В связи с этим можно отметить, что в сербском диалектном словаре Й. Вуковича отражена лексема *вера* в следующем значении: ‘обручальное кольцо’, ‘прстен без камена и без главе (вблизи Сиња)’ (‘перстень без камня и без головки, шляпки’), ‘ein glatter Fingerring’ (‘гладкий, ровный перстень’) (*Под вjером стаjала дjевоjка три године*) (‘Девушка была помолвлена три года’) [32, с. 144–145]. Ср. также лат. *viriae* ‘кольца для рук, браслеты’ [4, с. 826].

Следовательно, лексема *вера* употребляется в одном из говоров сербскохорватского языка в материальном значении ‘обручальное кольцо’, которое жених дарит невесте в знак их помолвки: ср. *веренички прстен* ‘кольцо, перстень (подарок жениха)’.

«В любом региональном словаре, по словам А.Ф. Журавлёва, содержится такое количество «тонкой» культурной информации, что он вполне может выдержать конкуренцию с прямыми этнографическими дескрипциями, а нередко и превосходит их» [3, с. 179]. Приведённый материал служит подтверждением значимости обращения к истории реалий для прояснения семантики отдельных слов, а также ценности диалектного лексикона как прямого источника сведений этнографического характера.

*Список литературы*

1. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; пад агул. рэд. К.К. Атраховіча. – Мінск: Беларус. сав. энцыкл., 1977 – 1984. – Т. 1. – 1977. – 608 с.

2. Тураўскі слоўнік. У 5 т. / Акад. навук БССР, І-т мовазнаўства; склад.: А.А. Крывіцкі, Г.А. Цыхун, І.Я. Яшкін. – Мінск : Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – Т. 1. – 1982. – 255 с.

3. Коляда, Е.И. Музыкальные инструменты в Библии = Musical instruments in the Bible: энциклопедия / Е.И. Коляда; Рос. акад. наук, Отд-ние лит. и яз., Ин-т пер. Библии. – М. : Композитор, 2003. – 399 с.

4. Дворецкий, И.Х. Латинско-русский словарь: ок. 200 000 слов и словосочетаний / И.Х. Дворецкий. – М. : Рус. яз. – Медиа, 2003. – 845 с.

5. Назина, И.Д. Белорусские народные музыкальные инструменты: струнные / И.Д. Назина. – Минск : Наука и техника, 1982. – 120 с.

6. Музыкальная энциклопедия. В 6 т. / гл. ред. Ю.В. Келдыш. – М. : Совет. энцикл.; Совет. композитор, 1973 – 1982. – Т. 3. – 1976. – 1104 с.

7. Шкраба, І.Р. Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі (у рускамоўным дачыненні) / І.Р. Шкраба. – Мінск: Беларус. Энцыкл., 2008. – 318 с.

8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; пад агул. рэд. К.К. Атраховіча. – Мінск: Беларус. сав. энцыкл., 1977 – 1984. – Т. 3. – 1979. – 672 с.



9. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т. / рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. Сав. Энцыкл., 1984 – 1987. – Т. 3. – 1986. – 750 с.

10. Прывалаў, Н. Народныя музычныя інструменты Беларусі / Н. Прывалаў / Ін-т беларус. культуры, Дасалед. ін-т для вывучэння мастацтва. – Мінск : Друк. Інбелкульта, 1928. – 39 с.

11. Беларускі фальклор : энцыклапедыя. У 2 т. / рэдкал.: Г.П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск : Беларус. Энцыкл., 2005 – 2006. – Т. 2. – 2006. – 828 с.

12. Малевич, С. Белорусский нищенский «Лазарь» / С. Малевич // Живая старина. – 1906. – Вып. 2. – С. 109 – 114.

13. Назина, И.Д. Белорусские народные музыкальные инструменты: струнные / И.Д. Назина. – Минск : Наука и техника, 1982. – 120 с.

14. Мокиенко, В.М. В глубь поговорки: рассказы о происхождении крылатых слов и образных выражений / В.М. Мокиенко. – 2-е изд., перераб. и доп. – СПб. : МиМ : Паритет, 1999. – 221 с.

15. Большой фразеологический словарь русского языка: значение, употребление, культурологический комментарий / авт.-сост.: И.С. Брилева [и др.]; отв. ред. В.Н. Телия. – 2-е изд., стер. – М. : АСТ-Пресс книга, 2006. – 781 с.

16. Отин, Е.С. Словарь коннотативных собственных имён / Е.С. Отин. – М.; Донецк: А Темп, 2006. – 435 с.

17. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск : Нар. асвета, 1981. – 160 с.

18. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. / М. Фасмер; пер. с нем. и доп. О.Н. Трубачева; под ред. и с предисл. Б.А. Ларина. – М. : Прогресс, 1964 – 1973. – Т. 2. – 1967. – 672 с.

19. Даль, В.И. Толковый словарь живого великорусского языка: совмещ. ред. изд. В.И. Даля и И.А. Бодуэна де Куртене в соврем. написании. В 4 т. / В.И. Даль. – М. : Олма-пресс, 2003 – 2004. – Т. 2. – 2004. – 668 с.

20. Словарь русских народных говоров / Акад. наук СССР, Ин-т рус. яз.; сост. Ф.П. Филин. – М.; Л.: Наука, 1965–2007. – Вып. 16. – 1980. – 376 с.

21. Шамсутдзінава, Л. Духоўны верш аб Лазары ў музыцы вуснай і пісьмовай традыцыі / Л. Шамсутдзінава // Праблемы этнамузыкалогіі і гісторыі музыкі ў сучасных даследаваннях: зб. дакл. III навук. чытанняў памяці Л.С. Мухарынскай, Мінск, 24 – 25 сак. 1994 г. / Беларус. акад. музыкі ; склад. і навук. рэд. І.Д. Назіна. – Мінск, 1996. – С. 93 – 99.

22. Словарь символов и знаков : широчаший спектр символики в искусстве и мифологии : сюжеты и явления в символах / авт.-сост. Н.Н. Рогалевич. – Минск: Харвест, 2004. – 510 с.

23. Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя / Беларус. Сав. Энцыкл.; рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелСЭ, 1989. – 575 с.

24. Керлот, Х.Э. Словарь символов / Х.Э. Керлот; пер.: Н.А. Богун [и др.]. – М. : REFL-book, 1994. – 603 с.

25. Варбот, Ж.Ж. Русские диалектизмы в славянской этимологии / Ж.Ж. Варбот // Исследование славянских языков в русле традиций сравнительно-исторического и сопоставительного языкознания: инф.

материалы и тез. докл. междунар. конф., Москва, 30 – 31 окт. 2001 г. / Моск. гос. ун-т; отв. ред.: В.П. Гудков, С.С. Скорвид. – М., 2001. – С. 19 – 20.

26. Насовіч, І.І. Слоўнік беларускай мовы / І.І. Насовіч. – Мінск: Беларус. сав. энцыкл., 1983. – 778 с.

27. Словник української мови. В 11 т. / редкол.: І.К. Білодід (голова) [та ін.]. – Київ: Наук. думка, 1970 – 1980. – Т. 5. – 1974. – 840 с.

28. Онишкевич, М.Й. Словник бойківських говірок. В 2 ч. / М.Й. Онишкевич. – Київ: Наук. думка, 1984. – Ч. 1 : А–Н. – 496 с.

29. Дворецкий, И.Х. Латинско-русский словарь: ок. 200 000 слов и словосочетаний / И.Х. Дворецкий. – М.: Рус. яз. – Медиа, 2003. – 845 с.

30. Даль, В.И. Пословицы, поговорки и присловья русского народа / В.И. Даль. – М.: Эксмо, 2008. – 895 с.

31. Rečnik srpskohrvatskoga književnog jezika. U 6 knj. / [uređ. odbor M. Stevanović i dr.]. – Novi Sad; Zagreb: Matica srpska: Matica hrvatska, 1967 – l976. – Knj. 1: A–E. – 1967. – 866 s.

32. Вуковић, Ј. Акценат говора Пиве и Дробњака / Ј. Вуковић // Српски дијалектолошки зборник. Х. – Београд, 1940.

33. Журавлёв, А.Ф. Диалектный словарь и культурные реконструкции / А.Ф. Журавлёв // Славянское языкознание: XIII Междунар. съезд славистов, Любляна, 2003: докл. рос. делегации / Рос. акад. наук, Отд-ние ист.-филол. наук, Нац. ком. славистов Рос. Федерации; отв. ред. А.М. Молдован. – М., 2003. – С. 177 – 189.

УДК 811.161.3

**П.М. Давідоўскі** (Люблін)

## ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ ЛАЦІНКІ І ВОПЫТ СУСЕДЗЯЎ

Сучасная беларуская літаратурная мова пачала фарміравацца ў двух графічных варыянтах – кірылічным і лацінскім. Паколькі пісьмовая традыцыя старабеларускай мовы была перарваная, за аснову графічных сістэмаў новай беларускай літаратурнай мовы былі ўзяты графічныя сістэмы рускай і польскай моў адпаведна. Першапачаткова гэтыя графічныя сістэмы фактычна і выкарыстоўваліся для запісу беларускай мовы. У беларускіх тэкстах кірыліцай выкарыстоўваліся такія знакі рускай «гражданкі», як *и*,   і *щ*. Толькі напачатку XX стагоддзя замацоўваецца сістэма алфавіта, у якой адсутнічаюць гэтыя знакі [1, с. 17]. Паступова ў беларускіх кірыліцы і лацінцы замацоўваецца фанетычны прынцып пісьма. Рэфармаванне алфавітаў было звязана далёка не толькі з фанетыка-фаналагічнымі асаблівасцямі мовы: *«Парадаксальным чынам алфавіт і правілы запісу мовы, гэты бачны план выражэння мовы <...>, у свядомасці людзей набываюць ірацыянальна высокую значнасць, часам роўную значнасці мовы, а часам нават яе перавышае. Таму рэформы пісьма нярэдка звязваліся з пачаткам рэлігійных, нацыянальных або палітычных рухаў.»* [2, с. 2]. Беларускім алфавітам кадыфікатары таксама імкнуліся надаць «уласны твар», адмежаваць іх ад рускай і польскай моў [3, с. 60].



Прыстасаванне лацінскага алфавіта для іншых моў не з'яўляецца лёгкай справай, паколькі найчасцей не хапае літар для перадачы ўсіх гукаў. Найбольш прадуктыўнымі спосабамі перадачы на пісьме гукаў, для якіх не хапае літар асноўнага алфавіта, з'яўляецца перадача аднаго гука з дапамогай некалькіх літар і ўвядзенне новых літар, утвораных найчасцей з дапамогай дыякрытычных знакаў [4, с. 527-528]. Для беларускай лацінкі была запазычаная графічная сістэма польскай мовы, сістэма запісу зычных у якой была ўсістэматызаваная яшчэ ў 1594 годзе [5, с. 32]. Такую сістэму можна ахарактарызаваць як змешаную дыграфна-дыякрытычную. Найбольш характэрнымі яе рысамі з'яўляюцца спосабы перадачы гукаў [ч], [ш], [х], [дз], [дж], [дз'] з дапамогай дыграфаў *cz*, *sz*, *ch*, *dz*, *dż*, *dź* адпаведна. Гукі [ж], [ц'], [н'], [с'], [з'] перадаваліся з дапамогай літараў з дыякрытыкамі – *ż*, *ć*, *ń*, *ś*, *ź*. Для перадачы апазіцыйнасці гукаў [л] і [л'] па цвёрдасці-мяккасці выкарыстоўваліся літары *ł* і *l* адпаведна, што з'яўляецца найбольш характэрнай рысай графічнай сістэмы польскай мовы. У беларускіх тэкстах XIX стагоддзя сустракаюцца таксама польскія насавыя галосныя. Таксама з польскай мовы ў беларускую лацінку былі запазычаныя некаторыя арфаграфічныя прыёмы, напрыклад, спосаб пазначэння мяккасці зычнага перад галосным праз дадаванне літары *i*.

Напрацягу свайго развіцця беларуская лацінка паступова трансфармавалася, змяняючы свой выгляд, хаця ў асноўным прынцыпы пісьма засталіся тымі самымі. Можна выдзеліць наступныя графічныя рэформы беларускай лацінкі:

1) Канец XIX ст. – у графічную сістэму беларускай лацінкі, якая ў той час поўнасцю наследавала польскую графічную сістэму, акрамя выпадкаў перадачы характэрных рысаў беларускай мовы, была ўведзена спецыфічная беларуская літара – *й*. Напрацягу XIX стагоддзя ўзнікалі розныя варыянты перадачы на пісьме гука [ў], што было звязана з яго ўнікальнасцю і, адпаведна, немагчымасцю запазычання літары для яго з найбліжэйшага моўнага акружэння. Канчаткова замацаваўся менавіта варыянт *й* (Часам у тэкстах, друкаваных беларускай лацінкай, відавочна па тэхнічных прычынах, выкарыстоўваецца варыянт *ū*). Аналагічная літара *ў* у кірыліцу будзе прынята значна пазней, праўдападобна пад уплывам лацінкі.

2) 1906 год – умоўны час правядзення рэформы беларускай лацінкі, якая палягала на ўвядзенні літар *č*, *š*, *ž* для перадачы гукаў [ч],

[ш], [ж], замест ранейшага напісання гэтых гукаў, як у польскай мове, – *cz, sz, ż*. Такі варыянт лацінкі часта называюць «лацінкай чэскага тыпу» або «нашаніўскай лацінкай» (дзякуючы яе выкарыстанню газетай «Наша Ніва»). За час рэформы найчасцей прынята лічыць выхад ўувыдавецтве «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ» у Пецярбурзе буквара «Biełaruski lementar abo Pierszaja nawuka czytania», у якім былі ўведзены новыя літары [6, с. 14-15]. Аднак 1906 год толькі ўмоўна можна лічыць часам правядзення гэтай рэформы, паколькі яшчэ некаторы час паралельна з новым выкарыстоўваўся стары «польскі» тып лацінкі, што было найчасцей звязана з наяўнасцю шрыфтоў у друкарнях. Нават у самім „Lementary…» выкарыстоўваецца ранейшы спосаб напісання, між іншым, так напісана назва кнігі на вокладцы і тытульнай старонцы. Дарэформенны варыянт лацінкі можна сустрэць у друку нават пасля замацавання рэформы ў «Беларускай граматыцы для школ» Браніслава Тарашкевіча [7, с. 13], якая адыграла выключную ролю ў кадыфікацыі беларускай мовы. Пасля рэформы графічная сістэма таксама засталася змешанай дыграфна-дыякрытычнай, паколькі засталіся дыграфы *ch, dz, dż, dź*, якія не заўсёды ўключаліся ў алфавіт.

3) Канец 30-х гадоў XX стагоддзя. Увядзенне літары *v* замест ранейшага *w* для [в]. Таксама як і ў 1906 годзе, беларускія дзеячы імкнуліся ліквідаваць сляды польскага ўплыву на беларускую лацінку. Ян Станкевіч пісаў у 1927 годзе ў артыкуле «Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя 14.-21.XI.1926 і яе працы дзеля рэформы беларускае абэцэды й правапісу»: *«Пакуль у нас побач з кірыліцаю ўжываеццаársткава й лацініца – а будзе яна ўжывацца прынамся яшчэ значны час, - Конфэрэнцыі трэба было разгледзіць таксама й рэформу беларускае лацініцы. Дык шкода, што Конфэрэнцыя гэтай справаю не занялася. Рэформа беларускае лацініцы лёгкая: пасьля замены ўжываных раней польскіх cz, sz, ż ужыванымі ў навуцы літарамі č, š, ž і па ўвядзеньню й для нескладовага у, астаецца цяпер замяніць польска-нямецкае w лацінскім v, як гэта зрабілі Ліцьвіны й Чэхі. Што v лепшае за w, гэта відавочна: яно займае на палову меней месца. Увядзеньне v канчальна прыдало-б нашай лацініцы беларускі характар»* [8, с. 39]. Паступова ўжыванне *v* становіцца пануючай практыкай.

Важным паказчыкам канчатковага адмежавання беларускай лацінкі ад польскай графічнай сістэмы можа быць сітуацыя з выдавецтвам польскімі ўладамі беларускіх падручнікаў *„Lemantar»* і *„Pierszy pramień»* аўтарства Станіслава Любіч-Маеўскага ў 1926 годзе, калі беларускія дзеячы вельмі востра аднесліся да выкарыстання ў гэтых падручніках польскай графікі [9, с. 27-31].



Пры выбары алфавіта для беларускай мовы, а таксама рэфармаванні графічных сістэм беларускай мовы далёка не апошнюю ролю адыграў сімвалічны аспект. Сітуацыя беларускай мовы ўнікальная, але разам з тым мае шмат падабенства з сітуацыямі выбару графічных сістэмаў і рэфармавання графічных сістэмаў іншых моў. На беларускую мову ўздзейнічалі падобныя пазамоўныя фактары, як і на мовы іншых народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы (перш за ўсё славянскіх і суседніх балтыйскіх). *«Таму для правільнага разумення канкрэтнага стану рэчаў у галіне пісьма і правапісу неабходна звярнуць увагу на моўнае акружэнне, г. зн. на пытанне, якія алфавіты і якія віды правапісу існуюць у суседніх краінах або грамадствах, асабліва тады, калі іншая мова супернічае з разгляданай намі ці нават дамінуе над ёй.»* [10, с. 231] На развіццё беларускай лацінкі перш за ўсё аказала ўплыў польская мова, графічная сістэма якой была запазычаная, а таксама чэшская, графічныя сродкі якой былі запазычаныя пры рэфармаванні лацінкі, як і іншых славянскіх, а таксама балтыйскіх і эстонскай моў.

Акрамя відавочнага чэшскага ўплыву на рэфармаванне беларускай лацінкі, не выключаны таксама ўплыў суседняй літоўскай мовы. Графічная сістэма літоўскай мовы таксама ўзнікла на аснове польскай графічнай сістэмы, і літоўцы ў сваёй мове ажыццявілі падобную рэформу раней [11, с. 222-223]. Галоўнай мэтай літоўскай рэформы было пазбаўленне слядоў польскіх уплываў. Графіка польскай мовы сфармавалася пад непасрэдным чэшскім уплывам, графічныя сістэмы гэтых моў пачалі значна адрозніваца пасля рэформы Яна Гуса: *«Пасля гэтай рэформы сучасная чэская мова стала менш прыпамінаць польскую, у якой захаваліся элементы старачэскай арфаграфіі. Гэты міжвольны пабочны эфект чэскай рэформы, пра які шкадавалі некаторыя чэскія панславісты, вельмі прывабіў літоўцаў, бо для іх галоўным праціўнікам была польская культура. Напрыклад, традыцыйна ў чэскай, польскай, літоўскай мовах выкарыстоўвалася літара w, як і ў нямецкай. Пасля рэформы ў чэскай і літоўскай замест w пачалі ўжываць v. Таксама ўсе тры мовы выкарыстоўвалі дыяграф cz, у выніку рэформы чэская і літоўская мовы ўвялі на яго месцы č. Змагаючыся з польскай мовай, літоўцы звярнуліся да новай чэскай арфаграфіі, супрацьставіўшы яе старой чэскай арфаграфіі.»* [12, с. 50]. Не можна выключыць таксама і ўплываў іншых моў (натуральна, не толькі на графічную сістэму): *«Мовы, якія маглі ўплываць на беларускую, былі мовы суседзяў: са славянскіх – руская (да вайны* (Першай сусветнай – П. Д.) *адзіная афіцыйная мова), польская, украінская; акрамя таго, літоўская і латышская. Да іх можна яшчэ дадаць славянскія мовы, на якія кадыфікатары маглі спасылацца ў*

*межах канцэпцыі славянскай узаемнасці. Такі ўплыў маглі аказаць не толькі афіцыйныя кадыфікацыі, але таксама і альтэрнатыўныя праекты»* [10, с. 231]. Варта зазначыць, што ў XIX стагоддзі беларуская, літоўская, латгальская і ўкраінская мовы ў Расійскай Імперыі развіваліся ў падобных умовах. Выкарыстанне лацінскага алфавіта для іх было пад цэнзурнай забаронай. Афіцыйных забаронаў было некалькі [13, с. 228, 445, 473-474]. Вельмі часта менавіта на падставе іх забаранялася распаўсюджванне кніг. Аднак гэта не схіліла большасці нацыянальных дзеячаў да адмовы ад лацінскага алфавіта на карысць кірыліцы. Інакш сітуацыя выглядала толькі з украінскай мовай.

Частка ўкраінскіх зямель уваходзіла ў склад Аўстра-Венгерскай Імперыі, дзе мелі месца спробы ўвядзення лацінкі для ўкраінскай мовы, аднак гэта не атрымала шырокай падтрымкі і нават прывяло да так званай «азбучнай вайны» ў XIX ст. [14, с. 12-13]. Украінская лацінка таксама была створана на падставе графічнай сістэмы польскай мовы. У выніку рэфармавання, таксама з выкарыстаннем літар чэшскага алфавіта, набыла ўстойлівы выгляд, у якім, хоць рэдка, але выкарыстоўваецца па сённяшні дзень [15, с. 205]. Галоўная прынцыповая розніца паміж беларускай і ўкраінскай лацінскімі графічнымі сістэмамі – перадача гука [х] літарай *x* ва ўкраінскай лацінцы.

Графічная сістэма польскай мовы таксама была запазычана для латгальскай мовы (частка даследчыкаў выдзяляе яе як асобную мову, частка лічыць толькі гаворкай латышскай мовы – П. Д.) [16, с. 21-22]. Рэфармаваная з выкарыстаннем літар чэшскай мовы графічная сістэма латгальскай мовы атрымала больш агульных графічных рыс з латышскай мовай, графічная сістэма якой складвалася на аснове нямецкай.

Варта зазначыць прадуктыўнасць запазычання «гусыцкіх» літар з дыякрытыкамі ў іншыя мовы – славянскія, балтыйскія і эстонскую мовы. Таксама літары чэшскага алфавіта выкарыстоўваюцца ў шматлікіх міжнародных сістэмах транслітарацыі і транскрыпцыі.

Такім чынам, беларуская лацінка з'яўляецца гістарычна склаўшымся беларускім алфавітам. Аднак не можна сцвярджаць, што фарміраванне яе завяршылася канчаткова, паколькі надалей вядуцца дыскусіі на тэму яе рэфармавання і фактычна выкарыстоўваюцца некалькі яе варыянтаў. Адным з сучасных прыкладаў спробы рэфармавання беларускай лацінкі можа быць «Інструкцыя па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта», прынятая ў 2000 годзе (пэўныя змены былі ўнесены ў 2007 годзе) [17, с. 28]. Такую сістэму транслітарацыі на



аснове традыцыйнай лацінкі Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі Навук Беларусі прапанаваў яшчэ ў 1994 годзе для напісання антрапонімаў у пашпартах грамадзянаў Рэспублікі Беларусь: *«Прапанаваная сістэма мае толькі адно адрозненне ад «беларускай лацінкі» паводле граматыкі Б. Тарашкевіча, якое заключаецца ў неаднолькавым абазначэнні мяккага і цвёрдага зычнага «л». У «беларускай лацінцы» літарай l абазначаўся мяккі зычны «л», а літарай ł – цвёрды зычны»л»: слава – sława, лес – les. Такі прынцып характэрны для сучаснай польскай мовы і, відаць, быў прыняты ў беларускай мове пад непасрэдным уплывам польскай графікі. У прапанаванай Інстытутам мовазнаўства сістэме транслітарацыі перадача цвёрдага і мяккага «л» падпарадкоўваецца агульнаму прынцыпу адлюстравання мяккасці зычных. Літара алфавіта абазначае цвёрды гук, мяккасць зычнага перад галосным перадаецца літарай «і» і адпаведным галосным, мяккасць зычнага перад мяккім знакам і ў канцы слова – рыскай (´) над адпаведнай літарай. Такая сістэма з'яўляецца зручнай для карыстання»* [18, с. 6].

Фарміраванне графічнай сістэмы беларускай лацінкі звязана перш за ўсё з польскай графічнай сістэмай, якая першапачаткова была запазычана. Значны ўплыў на развіццё лацінкі аказала чэшская графічная сістэма, літары якой выкарыстоўваліся падчас рэфармавання. Фарміраванне беларускай лацінкі мае вельмі шмат агульных рысаў з працэсамі фарміравання алфавітаў моў суседніх народаў. Польская графічная сістэма таксама запазычвалася для літоўскай і латгальскай моў, а таксама для ўкраінскай лацінкі. Пры рэфармаванні графічных сістэмаў гэтых моў, а таксама латышскай мовы, за аснову графічнай сістэмы якой была ўзята нямецкая, вельмі прадуктыўна выкарыстоўваліся літары чэшскага «гусыцкага» алфавіта. У свеце выкарыстанне лацінскага алфавіта з'яўляецца абсалютнай неабходнасцю (напрыклад, перадача тапонімаў і антрапонімаў у дакументах, напісанне адрасоў у сетцы Інтэрнэт). Таму вельмі важным з'яўляецца азнаямленне з вопытам суседніх і іншых краін (перш за ўсё славянскіх) у гэтай сферы і наяўнасць падобнага вопыту ў фарміраванні графічных сістэм.

*Спіс літаратуры*

1. Яновіч, А.І. Станаўленне графічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы новага перыяду / А.І. Яновіч // Беларуская лінгвістыка. – Мінск, 1987. – Вып. 31. – С. 16 – 22.

2. Мечковская, Н.Б. Типология графико-орфографических реформ в истории славянской письменности: фонетико-фонологические и социо-семиотические аспекты / Н.Б. Мечковская. – Минск: Белгосуниверситет, 1998. – 33 с.

3. Мечковская, Н.Б. Белорусский язык: Социолингвистические очерки (=Specimina philologiae slavicae, Bd. 138) / Н.Б. Мечковская. – München: Verlag Otto Sagner, 2003. – 156 с.

3. Diringer, D. Alfabet czyli klucz do dziejów ludzkości / D. Diringer. – Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1972. – 578 s.

4. Polański, E. Reformy ortografii polskiej – wczoraj, dziś, jutro / E. Polański // Bulletin de la Société polonaise de linguistique. – 2004. – fasc. LX. – S. 29-46.

5. Kahaniec K. Biełaruski lementar abo Pierszaja nawuka czytania / K. Kahaniec. – Pieciarburh: Drukarnia K. Piantkoŭskaha, 1906. – 23 s.

6. Taraškiewič B. Biełaruskaja hramatyka dla škoł / B. Taraškiewič. – Wilnia: Drukarnia M. Kuchty, 1918. – 112 s.

7. Станкевіч Я. Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя 14.-21.XI.1926 і яе працы дзеля рэформы беларускае абэцэды й правапісу / Я. Станкевіч // Язык і языкаведа. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. – С. 25 – 39.

8. Давідоўскі, П.М. Дзяржаўныя спробы выдавецтва беларускіх падручнікаў у ІІ Рэчы Паспалітай / П. М. Давідоўскі // Acta Albaruthenica, Rossica, Polonica: VIII Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства»: у 2 ч., Віцебск, 22-24 кастрычніка 2009 г. / ВДУ імя П. М. Машэрава; рэд. Г. М. Мезенка (адк. рэд.) [і інш.]. – Віцебск, 2009. – ч. 1. – С. 27 – 31.

9. Марці, Р. Алфавіт і правапіс – лінгвістычны і сімвалічны аспекты (лацініца) / Р. Марці // Acta Albaruthenica. – 2005. – №5. – С. 230 – 237.

10. Palionis, J. Lietuvių rašomosios kalbos istorija / J. Palionis. – Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidykla, 1994. – 336 p.

11. Snyder, T. Rekonstrukcja narodów. Polska, Ukraina, Litwa, Białoruś. 1569 – 1999 / T. Snyder. – Sejny: Pogranicze, 2009. – 350 s.

12. Сборникъ постановленій и распоряженій по цензурѢ съ 1720 по 1862 годъ. – Санкт-Петербургъ: въ типографіи Морскаго Министерства, 1862. – 482 с.

13. Худаш, М.Л. «Азбучна війна» / М. Л. Худаш // «Українська мова». Енциклопедія / редкол. В.М. Русанівський [та ін.]. – Київ: Українська енциклопедія, 2000. – С. 12 – 13.

14. Чорновол, І. Латинка в українському правописі: ретроспектива й perspektyva / І. Чорновол // Незалежний культурологічний часопис «Ї». – 2002. – №23. – С. 205 – 211.

15. Лейкума, Л. Коротко о латгальской письменности / Л. Лейкума // XXVII межвузовская научно-методическая конференция преподавателей и аспирантов. Секция балтистики: тезисы докладов / Санкт-Петербургский государственный университет. Санкт-Петербург, 1998. – С. 21–22.

16. Постановление Государственного комитета по имуществу Республики Беларусь 11 июня 2007 г. №38 «О внесении изменений и дополнений в Инструкцию по транслитерации географических названий Республики Беларусь буквами латинского алфавита» // Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь. – 2007. – №159. – 8/16668.

17. Лукашанец, А.А. Аб правілах транслітарацыі беларускіх уласных назваў / А.А. Лукашанец // Наша слова. – 1994. – 5 кастр. – С. 6.



УДК 811.161.3

**В.У. Далідовіч** (Мінск)

## ЛЕКСІКА ІТАЛЬЯНСКАГА ПАХОДЖАННЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У сувязі са зменамі ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці лексічны склад кожнай мовы патрабуе пастаяннага папаўнення сваіх рэсурсаў, у якім побач са словаўтварэннем на ўласнамоўнай базе значную ролю выконвае і запазычванне іншамоўных лексічных сродкаў.

Вывучэнне розных аспектаў запазычвання іншамоўнай лексікі неаднаразова прыцягвала ўвагу лінгвістаў. У беларускім мовазнаўстве можна назваць такіх даследчыкаў, як І.М. Акулаў, А.М. Булыка, В.М. Галай, Т.М. Мальцава і інш., у працах якіх даецца грунтоўны аналіз запазычаных слоў як у сучаснай беларускай мове, так і старабеларускай.

Варта падкрэсліць, што пры аналізе іншамоўнай лексікі абавязкова ўлічваецца той факт, што на пранікненне і замацаванне лексемы магло ўплываць некалькі моўных стыхій, таму крыніца запазычвання вызначаецца па-рознаму.

У слоўнікавы склад беларускай мовы ўваходзяць запазычванні як з блізкіх, суседніх моў, так і з аддаленых тэрытарыяльна. Даволі значны лексічны пласт у сучаснай беларускай мове ўтвараюць словы раманскага паходжання, у прыватнасці, запазычаныя з італьянскай мовы. Паводле «Слоўніка іншамоўных слоў» А.М. Булыкі, налічваецца звыш 160 слоў італьянскага паходжання. Нягледзячы на адносную малалікасць, многія з іх трывала замацаваліся ў беларускай мове і актыўна ўжываюцца, таму засяродзім на іх сваю ўвагу.

Шляхі пранікнення слоў італьянскага паходжання ў беларускую мову былі рознымі, але варта адзначыць, што большасць італьянскіх слоў трапіла ў беларускую лексічную сістэму праз пасрэдніцтва іншых моў: рускай, польскай, французскай.

Сувязі беларускіх зямель з італьянскімі існавалі яшчэ ў старажытныя часы. Варта ўзгадаць, напрыклад, пра шлюб Вялікага Князя Літоўскага і Караля Польскага Жыгімонта І з італянкай Бонай Сфорца, якая прывезла з Італіі мастакоў, музыкантаў, архітэктараў. Многія выхадцы з Беларусі вучыліся ў італьянскіх універсітэтах (Ф. Скарына, С. Будны і інш.). У XVI – XVIII стагоддзях у прыватныя беларускія тэатры запрашалі італьянскіх, французскіх, польскіх прафесіянальных спевакоў і акцёраў. Культурныя і эканамічныя

беларуска-італьянскія адносіны значна актывізаваліся ў апошнія дзесяцігоддзі. Усе гэтыя сувязі ў той ці іншай меры ўплывалі на лексічны склад беларускай мовы.

Любы падзел запазычанняў у пэўнай меры ўмоўны, але найбольш мэтазгоднай і рацыянальнай класіфікацыяй, на думку многіх даследчыкаў, лічыцца лексіка-тэматычнае апісанне запазычанай лексікі. Словы італьянскага паходжання ў сучаснай беларускай мове адзначаюцца ў розных лексіка-тэматычных групах, найбольш шырока яны прадстаўлены ў музычнай терміналогіі, сацыяльна-эканамічнай і бытавой лексіцы.

Італьянская мова лічыцца мовай класічнай музыкі. Жанр оперы ўзнік у Італіі яшчэ ў XVI стагоддзі і даволі хутка распаўсюдзіўся па Еўропе. У XVIII стагоддзі на Беларусі ўжо дзейнічалі оперныя трупы Гродзенскага тэатра Тызенгаўза, Нясвіжскі тэатр Радзівіла, Слонімскі тэатр Агінскага, Шклоўскі тэатр Зорыча. Многія музычныя тэрміны італьянскага паходжання замацаваліся ў розных мовах. У беларускай мове гэта словы *адажыо, аперэта, араторыя, баркарола, віяланчэль, кантата, кантрабас, піяніна, сапрана, тарантэла, трыо, фагот, флейта* і інш.

Даволі шматлікую групу складаюць словы-назвы асоб (у асноўным па роду заняткаў): *балерына, віртуоз, імпрэсарыо, інкасатар, касір, мафіёзі, маэстра* і інш.

Дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу Італія была і застаецца важным гандлёвым пасрэднікам, таму некаторыя італьянскія лексемы ўвайшлі ў групу эканамічных тэрмінаў: *банк, валюта, кантрабанда, ламбард, мафія, сальда, фірма* і інш.

У галіне грамадска-палітычных адносін ужываюцца такія словы, як *газета, гета, расізм, фашызм* і інш.

Ваенна-марскія тэрміны даволі нешматлікія: *барка, граната, компас, ракета, шпага* і інш.

Італьянскія майстры дасягнулі выдатных поспехаў у літаратуры і мастацтве, але слоў, звязаных з гэтымі галінамі, у беларускай мове параўнальна мала: *акварэль, арабеска, буфанада, гратэск, навела, ратонда, санет, фрэска* і інш.

Італьянскія словы папоўнілі групу бытавой лексікі: *балдахін, графін, даміно, коўдра, шкарпэткі* і інш; а таксама лексікі, звязанай з кулінарыяй і прыгатаваннем ежы: *вермішэль, капучына, макароны, марцыпан, памідор, піцца, салата, сальцісон, сардзіна, спагецці, цукар, цэдра*.

Некаторыя словы не ўвайшлі ў пералічаныя групы: *грандыёзны, інкогніта, фіяска, лаванда, цюльпан, аварыя, аўтастрада, казіно, піццэрыя, таверна, талія, карнавал, латарэя* і інш.

Асобна можна вылучыць словы, якія ўваходзяць у розныя тэматычныя групы, але ўсе яны звязаныя з італьянскімі рэаліямі: *гандола, гандальер, мафія, ліра, капучына, піцца, спагецці* і інш.

Падагульняючы сказанае, можна адзначыць, што словы італьянскага паходжання ў беларускай мове паводле сваёй тэматычнай прыналежнасці вельмі разнастайныя і шырока ўжываюцца ў розных сферах камунікацыі.

*Спіс літаратуры*

1. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў / А.М. Булыка. – Мінск, 1994.
2. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мн., 1977-85.
3. Акулов, И.М. Заимствования в структуре старобелорусского языка / И.М. Акулов: автореф. дис. …канд. филол. наук / И.М. Акулов. – Мінск, 1977.
4. Ігнатоўскі, І.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / І.М.Ігнатоўскі. – Мінск, 1991.
4. Мальцева, Т.А. Лексика французского происхождения в белорусском языке: автореф. дис. …канд. филол. наук / Т.А.Мальцева. – Мінск, 1983.
5. Dizionario della lingua italiana. Bacci, 1994.
6. Enciclopedia universale Garzanti, 1995.

УДК 811.161.3

**М.А.Даніловіч** (Гродна)

## АЙКАНІМІЯ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

Тапанімію Гродзенскага раёна ўтвараюць тысячы ўласных назваў для абазначэння розных геаграфічных аб'ектаў: населеных пунктаў, урочышчаў, лясных масіваў, сельскагаспадарчых угоддзяў, рэльефу, вадаёмаў і інш. Сярод іх найбольш прыкметную групу складаюць айконімы – назвы населеных пунктаў. Айканімічны іменаслоў фарміраваўся ў розныя гістарычныя перыяды з рассяленнем людзей на новыя месцы жыхарства. Нельга бачыць у ім стыхійны набор разрозненых адзінак. Гэта дастаткова выразная сістэма з уласцівымі ёй заканамернасцямі. Людзі ніколі не называлі сваё паселішча выпадковым словам. За кожнай назвай стаіць канкрэтная матывацыйная аснова, звязаная з прыродным асяроддзем, вытворчай дзейнасцю, менталітэтам.

Нашы продкі былі цесна звязаны з прыродай, усведамлялі сябе яе часцінкай. Пры асваенні новых тэрыторый яны звярталі ўвагу на кідкія

вызначальныя прыкметы пэўнай мясцовасці. І часта пазамоўнай асновай пры выбары назвы заснаванага населенага пункта станавіліся асаблівасці ландшафту, прыродна-геаграфічныя арыенціры. Гэта маглі быць віды дрэў, лясных масіваў, зараснікаў, каля якіх закладвалася паселішча: *Арэхавічы, Дубаўка, Дуброва, Дуброўка, Дубніца, Дубінка, Старадубавая, Забярэзіна, Залясяны, Лясніца, Лясная, Падліпкі, Ракітна, Ракіце, Тапалёва, Хвайняны.*

На тэрыторыі Гродзенскага раёна нямала балот і лугоў. Назвы іх таксама знайшлі адбітак у тапаніміі: *Белыя Балоты, Забалаць, Забалоцце, Забагонікі, Лужкі, Лугавая.*

Аседласць паблізу вадаёмаў, на берагах рэк і азёраў выклікала такія назвы: *Парэчча, Зарачанка, Узбераж, Азёры, Падазёркі, Беражны, Берагавы, Лукавіца, Плавы, Крынічная, Пруды.* Шэраг айконімаў – гідранімічнага паходжання, яны створаны ад уласных абазначэнняў вадаёмаў: в. *Горніца* < р. *Горніца*, в. *Каменка* < р. *Каменка,* в. *Котра* < р. *Котра*, в. *Лакно* < воз. *Лакно*, в. *Адэльск* < р. *Одла,* в. *Запур'е* < р. *Пурва*, в. *Нямнова* < р. *Нёман,* в. *Свіслач* < р. *Свіслач,* в. *Падбелае* < воз. *Белае.*

Базай для ўтварэння некаторых айконімаў паслужылі мікратапанімічныя назвы ўрочышчаў: в. *Бабіна* < ур. *Бабіна*, в. *Берві* < ур. *Берві*, в. *Гумнішча* < ур. *Гумнішча*, в. *Дуброва* < ур. *Дуброва,* в. *Лазы* < ур. *Лазы*, в. *Лосева* < ур. *Лосева*, в. *Масткі* < ур. *Масткі.*

Айконімы прыродна-геаграфічнага паходжання ў большай ступені характэрны для паўночна-ўсходняй часткі Гродзенскага раёна – тэрыторыі, на якой і сёння пераважаюць лясныя масівы, а доля сельскагаспадарчых угоддзяў нязначная.

З развіццём земляробства ў мінулым пашыралася кола айконімаўтваральных асноў. Прататыпамі назваў населеных пунктаў становяцца словы, звязаныя з працэсамі расчысткі лесу пад поле. Астраўная сістэма земляробства, калі зямельныя ўчасткі распрацоўваліся на нязначных па памерах астраўках сярод непрыгодных для земляробства тэрыторый, выклікала такія назвы: *Астравок, Вострава.* Падсечна-агнявы спосаб расчысткі лясных участкаў даў жыццё назве *Пальніца* (ад *паліць*). Сёння забытае слова *дзерць* 'упершыню распрацаваны ўчастак зямлі' (ад *драць*) паслужыла базай для ўтварэння назвы *Дзертніца.* Паводле характару глебы на полі ўзніклі назвы *Пясчанка, Камяністая.*

У якасці тапанімічнай асновы шырокае адлюстраванне атрымала слова *сяло.* Пэўныя ўласныя назвы ад яго маглі ўзнікнуць у час правядзення рэформы («Устава на валокі»), калі многія сёлы былі знесены, а іх тэрыторыі выкарыстаны для новых землеўладальнікаў.



Тыповым сярод іх з'яўляецца тапонім *Навасёлкі.* Ён сустракаецца ў чатырох сельсаветах і адным пасялковым савеце Гродзенскага раёна: Абухаўскім, Азёрскім, Квасоўскім, Падлабенскім, Сапоцкінскім. Аснову *сяло* маюць таксама назвы, пабудаваныя па іншых мадэлях: *Выселка, Ліхасельцы, Перасельцы, Селюкі.*

Вылучаецца група айконіамў, утвораных ад назваў калектыву людзей, якіх аб'ядноўваў агульны занятак: *Стральцы* (сацыяльная група людзей, якія ахоўвалі каралеўскую пушчу ад незаконнай высечкі), *Канюхі* (жыхары вёскі займаліся гадоўляй коней), *Гліняны* (вёска ў Скідзельскім сельсавеце, славілася ганчарнымі вырабамі, асабліва з чорнай гліны, там выраблялася і цэгла). Часта калектывы людзей вызначаліся паводле павіннасцей, што выконваліся на карысць каралеўскага, княжацкага ці біскупскага двара: *Асочнікі* (асочнікі – сяляне, якія ахоўвалі лясныя багацці і высочвалі звера ў час палявання караля, князёў, феадалаў), *Баброўнікі* (баброўнікі – сяляне, якія палявалі на баброў і плацілі падаці бабровымі шкурамі), *Бандары* (бандары – рамеснікі, якія выраблялі драўляны посуд), *Агароднікі* (агароднікі – сяляне, пасаджаныя на невялікіх участках паблізу гаспадарскага двара і абавязаныя выконваць пэўныя павіннасці). У Верцялішкаўскім і Індурскім сельсаветах ёсць вёскі з назвай *Баяры,* якая засведчыла існаванне ў мінулым досыць пашыранай саслоўна-класавай і сацыяльна-маёмаснай групы людзей. У XVI ст. беларускія баяры яшчэ належалі да шляхты і карысталіся саслоўнымі прывілеямі, але пазней, асабліва пасля XVIII ст., баяры збяднелі і сталі звычайнымі служывымі сялянамі.

Прыкладна палова назваў населеных пунктаў Гродзенскага раёна мае антрапанімічнае паходжанне – утворана ад імён, мянушак, прозвішчаў людзей. Гэта абумоўлена сістэмай сельскай гаспадаркі ў феадальную эпоху, асаблівасцю якой з'яўляецца раздробленасць землеўладання. Кожны кавалак зямлі знаходзіўся ва ўладанні сялянскай сям'і або рода і называўся па агульным прозвішчы ўладальніка або па імені главы сям'і ці рода. Назва зямлі часцей за ўсё пераходзіла і на паселішча. Многія родавыя назвы ўтварыліся на аснове імён-мянушак: *Гумбачы* < *Гумбач, Сухары* < *Сухар, Ліхачы* < *Ліхач, Корчыкі* < *Корчык, Курпікі* < *Курпік, Брузгі* < *Брузго.* Пасля ў гэтай функцыі сталі выкарыстоўвацца кананічныя імёны праваслаўнай ці каталіцкай царквы. Утвораныя айконімы пачалі выконваць функцыю не толькі родавага, але і патранімічнага наймення, абазначаць нашчадкаў або падуладных чалавека з пэўным імем ці прозвішчам: *Барбарычы, Васілевічы, Занявічы, Іванаўцы, Кузьмічы, Маркаўцы, Мінкаўцы,*

*Міцкевічы, Навумавічы, Пракопавічы, Радзявічы, Селіванаўцы, Тарусічы, Цідовічы, Юравічы, Яскевічы.*

Выразнае ўказанне на прыналежнасць каму-небудзь выяўляюць такія назвы, як *Александрова, Бушнева, Дзямідкава, Карашава, Коматава.* Пераважна з XVIII ст. падобныя назвы сталі ўтварацца пры дапамозе фармантаў *-аўка (-оўка), -еўка (-ёўка): Багушоўка, Грынёўка, Дзмітрыеўка, Мар'янаўка, Міхайлаўка, Саволеўка, Юзафоўка.*

Ёсць у Гродзенскім раёне некалькі назваў-прысвячэнняў, прысвоеных населеным пунктам у гонар гістарычных дзеячаў і падзей: *Батароўка* – у гонар караля Стэфана Баторыя, *Партызанская* (былая назва *Пузавічы*) – у памяць аб жыхарах вёскі, знішчаных нямецкімі акупантамі за сувязь з партызанамі), *Вусава* (былая назва *Вулька Драгунская*) – у гонар начальніка заставы лейтэнанта В.М.Усава, які гераічна загінуў у першы дзень вайны 1941 г.).

У айканіміі Гродзенскага раёна пэўны след пакінулі іншыя мовы. У мінулым на Гродзеншчыне жыло заходнебалцкае племя Ятва (Яцвягі), якое карысталася яцвяжскай мовай (перастала існаваць у XVI ст.). Яцвягі былі славянізаваныя, але мясцовая айканімія захавала нямала балтыйскамоўных элементаў. Такія элементы маглі быць і вынікам цеснага кантактавання насельнікаў Гродзеншчыны з насельнікамі суседняй Летувы. Параўн. сучасныя назвы вёсак і словы з летувіскай мовы: *Бабіна* – gabina 'брод', 'мокрая, гразкая дарога', 'дрыгва', *Бержалаты* – beržas 'бяроза', *Бросты* – brastà 'брод', *Гадуны* – gùdas 'мясцовая мянушка беларуса ў літоўцаў', *Індура* – indré 'трыснёг', *Каўняны* – Kaunine 'назва балота', прозвішча Kaũnas, Kaunẽlis < káutis 'змагацца, біцца', kaunùs 'задзірысты', *Лакно* – laukininkas 'жыхар поля; селянін, земляроб', *Мішкенікі* – miškiniai – 'абабак', *Райста* – raistas 'забалочаны лясок', *Табала* – tábaloti 'калыхацца, трэсціся (пра дрыгвяністае балота)', *Скідзель* – skidẽlis, skisti 'разгаліноўвацца, разыходзіцца, раздвойвацца'.

Пад уплывам польскай мовы назвы, якія заканчваюцца на *-шчына*, атрымалі афармленне на *-шчызна*: *Гневяншчызна, Дабравальшчызна, Круляўшчызна, Мураўшчызна.* У феадальнай Беларусі ўзнікла многа паселішчаў на свабодных нерасчышчаных участках зямлі з пэўнымі ільготнымі павіннасцямі. Сяляне, вольныя ад многіх прыгонных павіннасцей і пабораў, давалі назву сваім паселішчам *Воля, Волька*, а ў спаланізаванай форме – *Вулька: Вулька Драгунская, Вулька Жандовая, Вулькаўцы.*

З прыкладаў іншамоўнага ўплыву можна адзначыць і назву *Машталеры,* утваральнай асновай якой з'яўляецца слова сярэдневерхненямецкага паходжання marstall, якое мела значэнне 'старшы конюх'.

У працэсе гістарычнага функцыянавання адны з айконімаў захавалі свой першапачатковы выгляд, а другія зазналі структурнае пераафармленне. Асноўная прычына змяненняў – тэндэнцыя да спрашчэння форм геаграфічных назваў на фанетычным, словаўтваральным, лексічным узроўнях [1, с. 12]. Параўнаем некаторыя ранейшыя і сучасныя формы: *Длужнева – Глушнева, Іванавічы – Іванаўцы, Монькавічы – Монькаўцы, Галавічэвічы – Галавачы, Некрашэвічы – Некрашы, Зброшкаўшчызна – Брошкаўцы, Капцёўшчызна – Капцёўка, Бакунова – Бакуны, Лабна-Агароднікі – Агароднікі, Жукевічы-Панямунь – Жукевічы.*

Побач з афіцыйнымі ў гаворках існуюць і неафіцыйныя найменні некатрых населеных пунктаў. Напрыклад, у Парэцкім сельсавеце *Забалоцце* выкарыстоўваецца толькі ў афіцыйных зносінах, а вяскоўцы называюць гэтае паселішча айконімам *Забалотнікі.* Параўн. таксама паралельныя: Хамуты – *Калёня*, Глушнева – *Лушнева,* Салацце – *Салаці*, Дзертніца – *Дзеркніца*, Парэчча – *Парэчы.*

Паводле статыстычных звестак [2, с. 161-186], на 1 сакавіка 2004 г. у Гродзенскім раёне зарэгістравана 385 населеных пунктаў, сярод якіх абласны цэнтр – г. *Гродна*, горад раённага падпарадкавання – *Скідзель*, пасёлак гарадскога тыпу – *Сапоцкін*, іншыя знаходзяцца ў межах наступных сельскіх і пасялковых саветаў.

Абухаўскі сельсавет: вёскі Абухава, Абуховічы, Агароднікі, Александрова, Бірулічы, Будоўля, Гушчыцы, Загорцы, Коматава, Котра, Курпікі, Лашавічы, хутар Мар'янаўка, вёскі Машталеры, Мігова, Міхайлаўка, Навасёлкі, Плавы, Пужычы, Ракіце, Саволеўка, Селюкі, Струпіна, Юравічы.

Адэльскі сельсавет: вёскі Адэльск, Бакуны, Брузгі, Вялікае Дзямідкава, Грабяні, Дубніца, Іванаўцы, Клачкі, Клінчаны, Кулёўцы, Малое Дзямідкава, хутар Мінкаўцы, вёска Мішкенікі, хутар Навадзель, вёскі Падліпкі, Пяслі, Радзявічы, Скраблякі, Старадубавая, Струбка.

Азёрскі сельсавет: вёскі Азёры, Арэхавічы, Бушнева, Губінка, Забярэзіна, Камяністая, Канявічы, Корчыкі, Лакно, Масткі, Навасёлкі, Пруды, Пыра, Радута, Старына, Стрыеўка, Сухары.

Верцялішкаўскі сельсавет: вёскі Аленічы, Баркі, Батароўка, Баяры, Берагавы, Быльчыцы, Верцялішкі, Галаўнічы, Грынёўка, Дворцы, Жытомля, Забагонікі, Завадзічы, Заполле, Казіміроўка, Казловічы, Пілюкі, Пундзішкі, Ракітна, Рыдзялі, Санкоўшчына, Сіўкава, Сколабава, Сыпаная Гара, Табала, Табольская Будка, Талочкі, Тапалёва, Тужаўляны, Цыдзікі, Эйсманты.

Гожскі сельсавет: вёскі Агароднікі, Багушоўка, Барбарычы, Бержалаты, Буднікі, Гожа, Гумбачы, Дуброва, Загорнікі, Зялёная, Калонія Казіміроўка, Камяністая, Крынічная, Лукавіца, Лясніца, Мельнікі, Новая Гожа, Падазёркі, Пералом, Плябанішкі, Пальніца, Прывалкі, Райста, Русота, Свентаянск, Цідовічы, Чарнуха, Чарнушкі, Шабаны.

Індурскі сельсавет: вёскі Баброўнікі, Балічы, Баяры, Белева, Вялікая Жорнаўка, Дубаўка, Жорнаўка, Жытарадзь, Занявічы, Індура, Кавалічы, Круглікі, Ланявічы, Лаша, Кунцаўшчына, Лугавая, Лужкі, Луцкаўляны, Малая Жорнаўка, Новадубавая, Пракпавічы, Рагачы, Сухая Даліна, Яскевічы.

Капцёўскі сельсавет: вёскі Бросты, Бычкі, Вішнявец, Вялікая Альшанка, Гібулічы, Гневяншчына, Горніца, Жукевічы, Жылічы, Каменка, Капцёўка, Караневічы, Каробчыцы, Каўпакі, Кашэўнікі, Копанькі, Малахавічы, Малая Альшанка, Нямейшы, Пагараны, Палаткова, Скамарошкі, Славічы, Солы, Сухмяні, Фабрычны, Цвіклічы, Чэхаўшчына, Юзафоўка.

Квасоўскі сельсавет: вёскі Агароднікі, Баранава, Верхнія Пагараны, Верхняя Свіслач, Віцькі, Гарны, Грыўкі, Дайлідкі, Дарошавічы, Дзякалавічы, Зарубічы, Каленікі, Карозічы, Квасоўка, Кругляны, Кузьмічы, Лікоўка, Літвінкі, Навасёлкі, Ніжнія Пагараны, Новікі, Няцечы, Путна, Рудавіцы, Саломенка, Свіслач, Сцяцкі, Ферма, Хамікі, Хлістaвічы.

Падлабенскі сельсавет: вёскі Адамавічы, Баля Сольная, Баранавічы, Баяры, Бяляны, Валавічоўцы, Вулькаўцы, Выселка Рагачы, Галавічы, Гінавічы, Дабравольшчына, Дзмітрыеўка, Дубніца, Загараны, Калбасіно, Камісарава, Канюхі, Капланаўцы, Караліно, Круляўшчына, Кулакоўшчына, Лабна-Агароднікі, Ласосна, Ліхасельцы, Міцкевічы, Навасёлкі, Навумавічы, Новікі, Падлабенне, Пад’ятлы, Перстунь, Польныя Багатыры, Пракопавічы, Пушкары, Пышкі, Рагачы, Рацічы, Салаўі, Саннікі, Сафіёва, Скрынікі, Стрэльчыкі, Тарусічы, Трычы, Тумашы.

Парэцкі сельсавет: вёскі Бабіна, Белае, Вярхполле, Гадуны, Глушнева, Гумнішча, Дзертніца, Дубінка, Забалоцце, Запур’е, Ліхачы, Лосева, Маркішы, Новая Руда, Падбелае, Парэчча, мястэчка Парэчча, вёскі Перасельцы, Рыбніца, Сабаляны, Саламянка, Салацце, Старая Руда, Узбераж, Хамуты, Чарнуха.

Путрышкаўскі сельсавет: вёскі Астравок 1, Астравок 2, Аульс, Грандзічы, Дзевятоўка, Дуброва, Забалаць, Зарыца, Каменная Русота, Кукалі, Кульбакі, Лапенкі, Малышчына, Падкрыжакі, Панямунь, Першае Мая, Прыгодзічы, Путрышкі, Русота, Чашчаўляны, Шчачынова, Ялоўшчына.

Сапоцкінскі пасялковы Савет: вёскі Асочнікі, Асташа, Баляненты, Белічаны, Белыя Балаты, Беражаны, Васарабы, Васілевічы, Войтаўцы, Вусава, Вусенікі, Галавенчыцы, Галынка, Гарачкі, Дзмісевічы, Доргунь, Забрачаны, Зарачанка, Кадыш, Калеты, Каўняны, Келбаскі, Кодзеўцы, Лінкі, Лойкі, Лясная, Маркаўцы, Монькаўцы, Навасады, Навасёлкі, Новікі, Нямнова, Плоскаўцы, Плябанскія, Пралейкі, Пясчаны, Радзівілкі, Рынкаўцы, Самборы, гарадскі пасёлак Сапоцкін, вёскі Свяцк, Селіванаўцы, Сінявічы, Сонічы, Тартак, Чарток, Шадзінцы, Шынкаўцы, Шэмбелеўцы, Ятвезь.

Скідзельскі сельсавет: вёскі Ахрымаўцы, Баброўня, Багудзенька, Бандары, Белякоўшчына, Брошкаўцы, Бубны, Бярві, Вострава, Восьнікі, Галавачы, Гарашкі, Гліняны, Залясяны, Канюхі, Карашава, Кашубінцы, пасёлак Кашубінцы, вёска Лазы, Ляшчыцы, хутар Мастаўляны, вёскі Мількаўшчына, Некрашы, Партызанская, Полымя, Прыступічы, Пясчанка, Рыскі, Сікорыца, горад Скідзель, вёскі Стральцы 1, Стральцы 2, Сухаўляны, Тарасюкі, Ханявічы, Хвайняны.

У мінулым шэраг назваў населеных пунктаў (у сувязі са знікненнем паселішчаў, іх аб’яднаннем ці перайменаваннем) было страчана. Яны захоўваюцца ў памяці людзей ці ўжо толькі ў пісьмовых крыніцах: *Асошнікі*, *Астравок*, *Ваінішкі*, *Верхнія Пагараны*, *Вялікая Капліца*, *Дзямшы (Дземша)*, *Доргунская Вулька*, *Дунаеўка*, *Жандовая Вулька*, *Жыдаўшчына*, *Змяёва*, *Кавальцы*, *Каменны Мост*, *Камчатка*, *Канстанцінова*, *Кардон Падліп’е*, *Касцельная Баля*, *Клімаўшчына*, *Кондзеўка*, *Кодзі*, *Крушнікі*, *Крыўляны*, *Лэйгабалі*, *Малая Капліца*, *Малыя Баяры*, *Міраны*, *Ніжнія Пагараны*, *Падбердаўшчына*, *Падражок*, *Папрукала*, *Паўлінаўка*, *Пузавічы*, *Светлы*, *Сіні Камень*, *Ставы*, *Старадворцы*, *Сядзюшкі*, *Фенькава*, *Хвайна*, *Хвасты*, *Шкленск* і інш.

Масавае перасяленне людзей у горад, якое адбылося за апошняе паўстагоддзе, аказала разбуральнае ўздзеянне на беларускую вёску. Многія населеныя пункты перасталі існаваць ці знаходзяцца на мяжы знікнення. Не мінула гэтая трагедыя і паселішчаў Гродзенскага раёна. Невялікія вёскі, асабліва ў пушчанскай зоне, замерлі пустымі хатамі ці маюць па некалькі жылых двароў. Для прыкладу прывядзём асобныя звесткі па Парэцкім сельсавеце, у якім усяго налічваецца 26 населеных пунктаў, з лічбавым адлюстраваннем 1) колькасці гаспадарак і 2) колькасці жыхароў: Саламянка – 0/0, Забалоцце – 0/0, Падбелае – 1/1, Белае – 2/3, Бабіна – 2/5, Маркішы – 3/5, Дубінка – 5/8, Гадуны – 6/10, Хамуты – 6/13, Запур’е – 11/12, Гумнішча – 13/18, Вярхполле – 14/17

(інфармацыя на 24 снежня 2009 г.). Лічбы паказваюць, што дзве вёскі апусцелі цалкам. Амаль палову вёсак у сельсавеце чакае такі самы лёс, бо у іх на адну гаспадарку прыходзіцца пераважна адзін жыхар – як правіла, жанчына пенсійнага ўзросту. Шкада, што ў будучым іх назвы застануцца толькі на гістарычнай карце.

*Спіс літаратуры*

1. Янушкевіч, С.А. Уласныя назвы паселішчаў заходняй Гродзеншчыны: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / С.А.Янушкевіч; І-нт мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 1998. – 20 с.

2. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць: нармат. давед. / пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2004. – 471 с.

УДК 811.161.3

**З.П. Данільчык** (Гродна)

## НАЗОЎНЫ ПРЭДЫКАТЫЎНЫ НАЗОЎНІКАЎ СА ЗВЯЗКАЙ *ЁСЦЬ* У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Вялікай разнастайнасцю як з боку структуры, так і з боку семантыкі вызначаюцца сінтаксічныя канструкцыі са словам *ёсць*, якое функцыянуе ў якасці звязкі састаўнога іменнага выказніка. Страчваючы ў гэтай функцыі поўнасцю сваё лексічнае значэнне, гэтае слова захоўвае толькі фармальныя прыметы дзеяслова, у прыватнасці, катэгорыі часу, ладу, асобы, ліку, «служыць спосабам, своеасаблівым «мостам» далучэння выказніка да дзейніка» [1, с. 136], арганізоўвае, далучае, уводзіць у сінтаксічную структуру сказа прызвязачную частку выказніка, якая нясе асноўную лексічную інфармацыю. Канструкцыі са звязкай *ёсць* – на што неабходна найперш звярнуць увагу – характэрны для навуковага, афіцыйна-справавога і публіцыстычнага стыляў мовы. Яны функцыянуюць звычайна там, дзе патрэбны строга вызначаныя фармулёўкі. Таму не выпадкова, што названая звязка сустракаецца нярэдка ў сказах, якія носяць характар рознага роду дэфініцый, азначэнняў і характарызуюцца выразнасцю і сціспласцю думкі: *Граніца паверхні ёсць лінія* (Геаметрыя); *Паняцце ёсць думка, якая з'яўляецца адлюстраваннем сукупнасці агульных істотных адзнак аднаго або некалькіх прадметаў* (Псіхалогія) і інш.

Але ўжыванне звязкі *ёсць* – з'ява не заканамерная. Побач са звязачнымі прэдыкатыўнымі канструкцыямі паралельна функцыянуюць і канструкцыі з нулявой звязкай: *Хімія – навука аб рэчывах, іх пераўтварэннях і з'явах, якія адбываюцца пры гэтых пераўтварэннях* (Хімія); *Астраномія – навука, якая вывучае рух, будову і развіццё нябесных цел і іх сістэм* (Астраномія) і г. д. Паралелізм абедзвюх прэдыкатыўных канструкцый абумоўлены імкненнем да прастаты, лаканічнасці, сцісласці ў падачы матэрыялу.

Сабраны фактычны матэрыял сведчыць, што звязка *ёсць* – пашыраная з'ява і ў творах мастацкай літаратуры. Выкарыстанне яе тут рэгулюецца звычайна стылістычнымі прычынамі. Сказы з апошняй, набываючы нярэдка характар пэўных суджэнняў, меркаванняў ці развагі, функцыянуюць, як правіла, у мове персанажаў твораў і надаюць ім (сказам) размоўны каларыт: *Ты, браток, чалавек ваенны і павінен ведаць дысцыпліну. Тое, што я сказаў, ёсць загад* (М. Паслядовіч); *Ён не ўпершыню заўважыў, што работа ёсць лепшы лекар душэўных нягод* (Т. Хадкевіч); *Ураджай жалудоў, кажуць людзі, ёсць прыкмета на цяжкі год* (Я. Колас).

Функцыянаванне звязкі *ёсць* з мэтай стылізацыі мовы персанажаў асабліва ярка праяўляецца ў аповесці Я. Коласа «Дрыгва», дзе апісваецца момант допыту Саўкі Мільгуна палякамі: *Ты ведаеш, – гаварыў далей рыжы, – што войт ёсць «польска асоба ужондова». Што ж змусіла цябе зрабіць замах на забойства войта?* У гэтым сказе звязку *ёсць* пісьменнік ужыў у чыста стылістычнай функцыі: ён хацеў падкрэсліць асаблівасць мовы польскага жаўнера (у польскай мове звязка *ёсць* у такіх канструкцыях, як вядома, з'яўляецца нормай).

У дыялагічнай і аўтарскай мове стылістычна афарбаваныя прэдыкатыўныя канструкцыі са згаданай звязкай структурна могуць ускладняцца ўзмацняльнай часціцай *і*, адмоўнай часціцай *не*, параўнальнымі службовымі словамі. Пералічаныя кампаненты ўносяць у выказванне пэўныя мадальныя адценні. Так, у спалучэнні «і + ёсць + назоўнік» лагічны націск падае на звязку, а сказ у цэлым набывае адценне катэгарычнага сцверджання, меркавання ці развагі: *Можа, гэта люлька і ёсць прычына таму, што стары Бязручка бярэ малы ўдзел у размовах* (Я. Колас); *А калі, кажа, не знаёмы, дык пазнаёмімся – я сам і ёсць бальшавік* (К. Крапіва); *Вось чаму і блізка яму ўсё: і радасць, і смутак, і шчасце, і гора другіх. А гэта і ёсць жыццё* (А. Пальчэўскі) і г. д.

Адмоўная часціца *не*, якая размяшчаецца ў прэпазіцыі да выказніка і адносіцца непасрэдна да звязкі, адмаўляе наяўнасць прыметы, што прыпісваецца дзейніку, надаючы канструкцыі поўнасцю адмоўны характар: *А калі і гэтаму апавяданню не пашануе, то тады прыйдзецца прызнаць, што падкова не ёсць сімвал удачы і шчасця* (Я. Колас).

Сярод структурных разнавіднасцей сказаў гэтага тыпу сустракаюцца і такія, дзе часціца *не* ў спалучэнні з прызвязачнай

часткай можа выражаць мадальнае адценне сцверджання. Асабліва гэта назіраецца ў пытальна-рытарычных сказах. Для апошніх характэрна наяўнасць і другой часціцы, што выражае дадатковыя сэнсавыя адценні нейкай развагі, роздуму: *Чытаць гэту кнігу, умець адгадваць яе мнагалучыя напісы – хіба ж гэта не ёсць шчасце?* (Я. Колас); *Хіба здабыць гэта – не ёсць шчасце?* (М. Ткачоў).

Іншы ж раз канструкцыі «не + ёсць + назоўнік» могуць ускладняцца, набываючы форму «ёсць + не + назоўнік, а + назоўнік». Гэта з'ява назіраецца ў тых выпадках, калі адмоўная часціца *не* размяшчаецца ў постпазіцыі да звязкі і адносіцца непасрэдна да прызвязачнай часткі, дзе другая частка канструкцыі «а + назоўнік» сцвярджае, чым стаў прадмет (паняцце) у сувязі са стратай пэўнай прыметы: *Гэта ж вядома Лаўрэну, што тыя зоры, якія падаюць, ёсць не душы людзей, якія толькі што памерлі, а звычайныя нябесныя целы, якіх называюць метэорамі* (Э. Самуйлёнак).

Звязка *ёсць* можа спалучацца з параўнальным службовым словам *як бы* (іншых зафіксаваць не ўдалося), дзе ўсё спалучэнне разам з прызвязачнай часткай набывае ў такім выпадку «мадальную афарбоўку метафарычнага параўнання» [2, с. 675]: *Наогул жа Бабіч і па службоваму і па сацыяльнаму свайму стану ёсць як бы нейкая прамежкавая планета, што адчувае на сабе ўплыў суседніх планет* (Я. Колас).

Акрамя разгледжаных вышэй выпадкаў, звязка *ёсць* характэрна і для двухсастаўных сказаў, што фарміруюцца шляхам паўтораў назоўнікаў у форме назоўнага склону. Такія канструкцыі А.М. Пяшкоўскі называў «ідэальнымі сказамі тоеснасці» [3, с. 272]. У іх паняцце выказніка падаецца праз паняцце дзейніка і сцвярджаецца, што прадмет думкі з'яўляецца самім сабою, адпавядае агульнапрынятаму аб ім уяўленню: *Але што зробіш – барацьба ёсць барацьба…* (І. Шамякін); *Аднак пярэчыць ён не мог – пан ёсць пан, хоць і ходзіць пра яго па аколіцы дурная слава* (М. Лупсякоў). У прыведзеных сказах звязка *ёсць* з'яўляецца абавязковай, бо пры адсутнасці яе сказ «распаўся б».

Прэдыкатыўныя канструкцыі «назоўнік + ёсць + назоўнік» могуць ускладняцца прыслоўямі часу і месца *заўсёды*, *усюды*; узмацняльнай часціцай *і*; указальнай часціцай *гэта*, а таксама асабовымі займеннікамі *ён*, *яна*, *яно*, *яны*: *Маці заўсёды ёсць маці* (П. Кавалёў); *Вайна ўсюды ёсць вайна, таму яна і называецца народная…* («Полымя»); *А свята і ёсць свята. Закон* (А. Савіцкі); *Факт – гэта ёсць факт* (Р. Мурашка); *Вайна – яна ёсць вайна…* (М. Лынькоў).

Усе пералічаныя ўскладняльнікі ўносяць у сказ пэўныя мадальна-экспрэсіўныя адценні пастаянства, звычайнасці. У якасці кампанентаў мадэлі «назоўнік + ёсць + назоўнік» найчасцей ужываюцца абстрактныя назоўнікі, радзей – канкрэтныя: *Парадак ёсць парадак* (М. Ракітны); – *Але характар ёсць характар, яго за пазуху не схаваеш* (А. Савіцкі); *Студэнт ёсць студэнт. І нават самыя здольныя з іх астаюцца ў адносінах да сваіх выкладчыкаў вучнямі* (У. Карпаў); *– А сена ёсць сена. Ні за якія грошы яго нідзе не купіш* (І. Дуброўскі). Як відаць з прыведзеных прыкладаў, такія канструкцыі характарызуюцца семантычнай разнастайнасцю. Яны не існуюць у мове ў гатовым выглядзе, а ствараюцца ў ходзе маўлення.

Сустракаецца многа выпадкаў, калі знешне тоесныя прэдыкатыўныя канструкцыі «назоўнік + ёсць + назоўнік» (тут маюцца на ўвазе лексічна тоесныя назоўнікі, што выступаюць у ролі кампанентаў мадэлі) могуць выражаць унутраную неадпаведнасць: *А вайна ёсць вайна, павінен жа і ён, пан Юзаф, несці выдаткі на айчыну* (М. Лынькоў); *Потым і ён сказаў: – Вайна – ёсць вайна. І лепш, каб яе не было* (А. Васілевіч); *Але што ты паробіш, вайна ёсць вайна… Ваш жа сын загінуў за айчыну!* (М. Лынькоў); – *Слухай, ёсць загад часова пакінуць горад. Прарвацца давядзецца з баямі. Будзь гатовы да гэтага. – Зноў акружэнне? – Што ж зробіш. Вайна ёсць вайна* («Беларусь»). У прыведзеных сказах знешне тоесныя спалучэнні выражаюць розны ўнутраны сэнс. У першым кантэксце сказ *«Вайна ёсць вайна»* ўжыты ў тым сэнсе, што ў час вайны кожны чалавек павінен унесці пэўныя сродкі ў фонд абароны айчыны; у другім – вайна – рэч непажаданая, непатрэбная; у трэцім – вайна патрабуе ахвяр за айчыну; у чацвёртым – на вайне заўсёды бываюць нечаканасці і патрэбна быць гатовым да іх.

Іншы раз знешне тоесныя канструкцыі могуць выражаць аднародны ўнутраны сэнс: *Але мы не маглі тут нічога парадзіць: загад ёсць загад* (М. Машара); – *Ну, як? – запытаўся Грашчэня. – Загад ёсць загад, – панура адказаў Пацяруха* (І. Гурскі); *Бурчаць – бурчалі, але загад ёсць загад, і як толькі будаўнічыя работы ў лагеры былі скончаны, усе прыступілі да заняткаў* (А. Шашкоў). Канструкцыі *«загад ёсць загад»*, як бачна з прыкладаў, хоць і выкарыстоўваюцца рознымі пісьменнікамі ў розных сітуацыях, у розных кантэкстах, але выступаюць з адным і тым жа значэннем, і тут ужо нельга меркаваць аб іх мнагазначнасці. Гэта акалічнасць, на наш погляд, залежыць ад семантыкі назоўнікаў, якія ўтвараюць спалучэнне, блізкае да фразеалагізма.

Ва ўсіх разгледжаных канструкцыях іменная частка, як правіла, выражаецца назоўнікамі ў форме назоўнага склону. Гэта і правамерна, бо, як адзначаў Ц.П. Ломцеў, «пры звязцы ёсць выказнік у сучаснай беларускай літаратурнай мове не можа стаяць у творным склоне…» [4,

с. 159]. У сувязі з гэтым нельга пагадзіцца са сцверджаннем Т.А. Тулінай, якая лічыць, што ва ўсіх усходнеславянскіх мовах сказы мадэлі «назоўнік + ёсць + назоўнік» шырокаўжывальныя і пабудаваны амаль аднолькава…, толькі «ва ўкраінскай і беларускай мовах наглядаецца больш моцная цяга да творнага прэдыкатыўнага… (*Бяда – яна бядой і ёсць*)» [5, с. 256]. Прыведзены аўтарам прыклад не пашпартызаваны. Адносна ўкраінскай мовы гэта так, але што да беларускай літаратурнай мовы, то, не гаворачы ўжо аб беспадстаўнасці сцверджання адносна перавагі творнага прэдыкатыўнага, нам удалося зафіксаваць толькі дзве канструкцыі (са 137) з творным прэдыкатыўным назоўнікаў: *Хоць заключэнні экспертаў разыходзяцца, але самым аўтарытэтным экспертам ёсць суд* (Я. Колас); *Вайна!.. Марылька мала чаго разумела ў гэтым слове. Але добра памятае, што ніхто іншы, як вайна і ёсць прычынай іхняй горкай долі* (А. Якімовіч).

Як растлумачыць ужыванне ў прыведзеных сказах творнага прэдыкатыўнага назоўнікаў? У дачыненні да рускай мовы ён тлумачыўся як сінтаксічны паланізм. «Творны пры цяперашнім часе дзеяслова *быць*, – сцвярджаў Ф.І. Буслаеў, – складае асаблівасць польскай гаворкі» [6, с. 468].У дачыненні да беларускага сінтаксісу творны прэдыкатыўны пры звязцы *ёсць* быў тыповым для помнікаў перакладной свецкай літаратуры і кваліфікаваўся Я.Ф. Карскім як паланізм [7, с. 364]. Адсюль можна меркаваць, што ў прыведзеных канструкцыях творны прэдыкатыўны захаваўся як сінтаксічны паланізм або пранік сюды з украінскай мовы, дзе ён з'яўляецца тыповай формай.

Падагульняючы назіранні, адзначым, што назоўны прэдыкатыўны назоўнікаў са звязкай *ёсць* сустракаецца не толькі ў навуковым, афіцыйна-справавым і публіцыстычным стылях мовы, але шырока выкарыстоўваецца пісьменнікамі для характарыстыкі мовы персанажаў мастацкіх твораў і вызначаецца разнастайнасцю як з боку структуры, так і з боку семантыкі.

*Спіс літаратуры*

1. Нелисов, Е.А. О вспомогательных глаголах и связках / Е.А. Нелисов // Филологический сборник. – Вып. V. – Алма-Ата, 1966. – 189 с.
2. Виноградов, В.В. Русский язык: Грамматическое учение о слове / В.В. Виноградов. – М. – Л.: Учпедгиз, 1947. – 784 с.
3. Пешковский, А.М. Русский синтаксис в научном освещении / А.М. Пешковский. – Изд-ие 7-е. – М.: Учпедгиз, 1956. – 511 с.
4. Ломтев, Т.П. Грамматика белорусского языка / Т.П. Ломтев. – М.: Учпедгиз, 1956. – 336 с.



5. Тулина, Т.А. Типы предложений с тавтологией главных членов в русском языке / Т.А. Тулина // Исследования по современному русскому языку. – М., 1970. – 346 с.
6. Буслаев, Ф.И. Историческая грамматика русского языка / Ф.И. Буслаев. – М: Учпедгиз, 1959. – 623 с.
7. Карский, Е.Ф. Белорусы. Язык белорусского народа / Е.Ф. Карский. – Вып. 2 – 3. – М.: Изд-во АН СССР, 1956. – 518 с.

УДК 811.161.3

**А.М.Ермакова** (Гомель)

## ЭКСПРЭСІЎНА АФАРБАВАНАЯ ЛЕКСІКА ЯК СРОДАК ПРАГМАТЫЧНЫ

Найбольш эканомным спосабам уздзеяння на адрасата з'яўляецца сумяшчэнне ў адной лексічнай адзінцы і намінатыўнай, і прагматычнай функцый, а ўмовай камунікатыўна-прагматычнага поспеху з'яўляецца апеляцыя да эмацыянальнага ўспрыняцця паведамлення, што звычайна дасягаецца за кошт вобразнасці.

Тэрмінам экспрэсія акрэсліваецца ўся сфера стылістычнай выразнасці ўвогуле, незалежна ад таго, якімі сродкамі яна ствараецца. Звяртаючыся да лексічнага ўзроўню, адзначым, што тэрмін мае дваякі змест: гэта выразнасць як асаблівасць мовы ўвогуле і канататыўная прыкмета ў значэнні слова – у больш вузкім разуменні. Экспрэсіўнасць – эфект, які ствараецца ўнутранай формай слова, асацыятыўна-вобразным матывам, што арганізуе змест. Экспрэсіўна афарбаваная лексіка – вынік другаснай намінацыі, і менавіта ўнутраная форма злучае каштоўнасную арыентацыю суб'екта і аб'ектыўную рэчаіснасць. Экспрэсіўна афарбаваная лексіка мае больш складаную мадальную дзвюхвяршыннасць лексічнага значэння: аб'ектыўна-мадальнае значэнне (значэнне, не звязанае з суб'ектам) і суб'ектыўна-мадальнае (эматыўна-ацэначныя адносіны суб'екта да рэчаіснасці). Эфект экспрэсіўнасці дасягаецца шляхам узмацнення суб'ектыўнай мадальнасці ў рамках пэўнай лексічнай адзінкі. Выбар канататыўнай мадальнасці – сведчанне таго, што аўтар маўлення зацікаўлены не столькі ў кваліфікацыі таго, што належыць свету, колькі ў інтэрпрэтацыі ацэнкі, вынікам чаго з'яўляецца зварот не да аб'ектыўных характарыстык прадмета маўлення, а да яго асацыятыўна-вобразных прыкмет.

*Гэта звычайны міф, кажа ён, быццам нашы жанчыны прыгажэйшыя ў свеце. Ды яны ж саўковыя!* (ЛіМ, 4 красавіка 1997 г. С. 3).

У дадзеным прыкладзеназіраем ужыванне экспрэсіўна афарбаванага слова саўковы. Уся інфармацыя сцягваецца, сціскаецца і пры жаданні проста разгортваецца ў цэлы каскад «сэнсаў» – ацэначны (саўковы ўспрымаецца як звязаны з сацыялістычным мінулым, абмежаваны ў развіцці), стылістычны (грубае прастамоўнае азначэнне) і як сума першага і другога – экспрэсіўны (інфармацыя пра тое, што суб’ект маўлення ставіцца да азначаемага з пагардай, імкнецца прынізіць). Усе пералічаныя вышэй сэнсы ўтвараюць канатацыю як кампанент значэння. Відавочнай з’яўляецца суб’ектыўна-мадальная арыентацыя экспрэсіўна афарбаванага значэння, яго здольнасць вылучаць аб’ект і адначасова несці інфармацыю аб адносінах з боку суб’екта маўлення.

Кожны аўтар мае права быць суб’ектыўным у сваіх ацэнках, а тым больш – у ацэнках эматыўна-эксрэсіўных. Пры гэтым нельга забывацца на рэальныя характарыстыкі аб’екта. Нейтральныя ацэначныя найменні могуць выклікаць, напрыклад, гордасць або крыўду, а экспрэсіўна афарбаваныя ўспрымаюцца як хвала або зневажэнне, г.зн. пачуцці больш інтэнсіўныя.

Узнікненне эматыўнасці (лінгвістычны аспект катэгорыі эмацыянальнасці) непасрэдна звязана з дзеяннем унутранай формы (асацыятыўна-вобразны матыў, які арганізуе змест) як эмацыянальнага раздражняльніка, г.зн. усведамленне вобраза як сродку для ўзмацнення ацэначнай інфармацыі. Сэнсавае ўспрыняцце залежыць ад «мантажнай» узаемасувязі. Калі чытач атрымлівае інфармацыю, што *Казімір Любіч, нібыта князь, беларускі шляхціц. Неадроджаны не прыходзіў па начах з нямым дакорам, сны былі цяжкімі, іх, здаецца, увогуле не было. Можа, менавіта таму сёння я хачу, хацеў бы спытацца: раптам нехта ведаў яго, чуў ці нават чытаў, можа нешта распавесці, падаць згадку-здагадку – пра нязнойдзенага й згубленага мною Казіміра Львовіча, князя, беларускага шляхціца* (ЛіМ, 28 сакавіка 1997 г. С. 12), то на «асноўны кадр» наслойваецца вобраз неадроджанага (дастойнага, каб адрадзілі памяць аб ім), нязнойдзенага (таго, каго неабходна знайсці), згубленага (нехта ўсё ж ведаў, памятае). Экспрэсіўна афарбаваныя ў кантэксце князь, шляхціц успрымаюцца праз прызму матываванага вобраза. Механізм узнікнення эмацыянальнай рэакцыі – сумяшчэнне вобраза з інфармацыяй. Ролю вобраза пры стварэнні пэўнай эматыўнай афарбоўкі ў публіцыстыцы цяжка пераацаніць. Напрыклад, разгледзім ужыванне сінанімічнага рада, у якім адзін і той жа інтэлектуальны змест атрымаў рознае эматыўнае асэнсаванне ў залежнасці ад таго, які асацыятыўны эфект выклікае вобраз.



*Сёння мы збяднелі. І не проста збяднелі – агалелі, ператварыліся ў жабракоў* (ЛіМ, 28 сакавіка 1997 г. С. 13).

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы падае наступныя значэнні вылучаных слоў: збяднець ‘стаць бедным’, агалець, згалець’крайне збяднець’, жабрак ‘той, хто жабруе і жыве з міласціны’. У кантэксце эмацыянальны эфект дасягаецца пры дапамозе дадатковай, асацыятыўнай інфармацыі: агалець падкрэслівае беднасць, што праяўляецца ў адсутнасці неабходнай вопраткі, абутку, агалець – страціць покрыва, стаць безабаронным. І ўрэшце, ператварыцца ў жабракоў – не мець магчымасці зарабіць самастойна, быць залежным ад нечыя міласціны. Такім чынам аўтар выразна перадае суб’ектыўнае адчуванне крайнасці, безвыходнасці.

Любое слова, выраз, выказванне можа быць афарбавана ў адпаведнасці з «эфектам Куляшова» – гэта вынік псіхалагічнага сумяшчэння прамога і вобразнага зместу, што суадносіцца з дадзенай моўнай адзінкай.

*Гэта быў дужа нестандартны чалавек. Вельмі ўжо «непранумараваны»* (ЛіМ, 14 лютага 1997 г.С.1).

Непранумараваны – ‘той, хто не мае нумару’. Першасная інфармацыя дапаўняецца другаснай: ‘яго нельга паставіць ні першым, ні другім, ні апошнім, нельга параўнаць з іншымі. Ён – адметная асоба’.

У лінгвістычнай літаратуры дастаткова распаўсюджаны погляд, што канатацыя заснавана на асацыяцыі. Механізм разгортвання яе ў аўтарскіх публіцыстычных жанрах заўсёды «індывідуальны», суб’ектыўны.

*Ён змог ім стаць – ён змог ім застацца, ужо назаўсёды* (ЛіМ, 14 сакавіка 1997 г. С. 4).

Стаць ‘зрабіцца кім-небудзь’ як пачатковасць стану асацыятыўна звязваецца з магчымасцю яго больш працяглага ўтрымання, застацца – ’не перастаць быць кім-небудзь’. ‘Не перастаць быць кім-небудзь’ назаўсёды – перадаецца стан максімальнай працягласці, немагчымасці завяршэння (назаўсёды заняць месца ў гісторыі беларускай культуры).

Пабудовы на аснове нестандартных асацыяцый даюць неабмежаваныя магчымасці для стварэння агульнага эмацыянальнага фону (танальнасці).

*Стральцоў меў залішне многа свабоды ад жыцця* (ЛіМ, 14 лютага 1997 г. С. 1).

‘Быць свабодным ад стэрэатыпных правілаў жыцця’ → ‘быць свабодным ад жыцця’ → ‘быць абсалютна незалежным’.

Уяўляюць цікавасць асацыяцыі, што ўзнікаюць на старонках друку па прычыне білінгвізму.

*Што сёння кажуць нашы людзі ў адказ на звычайнае пры сустрэчы пытанне: «Як маешся?»... Нехта горка пасміхнецца: «А як па-руску – маюсь...»* (ЛіМ, 28 сакавіка 1997 г. С. 13).

Як асацыяцыя гэты сэнсавы змест не ўваходзіць непасрэдна ў семантыку слова. Яскравы прыклад асацыятыўна-вобразнага сэнсаўтварэння.

Канатацыя як своеасаблівы мікракампанент значэння намінатыўных адзінак з'яўляецца інструментам стварэння экспрэсіўнай афарбоўкі. Для поўнага ўяўлення аб стварэнні экспрэсіўнага эфекту неабходна даследаваць залежнасць яго ад кантэксту, улічыўшы стылістычную прыналежнасць тэкстаў. Такім чынам, паняцце канатацыі цесна змыкаецца з паняццем аб падтэксце, г.зн. аб сукупнасці прыкмет, што ствараюць экспрэсіўны фон выказвання. Пры выкарыстанні адзінак лексічнага ўзроўню ў якасці прагматычных сродкаў перавага аддаецца лексемам, якія з'яўляюцца актуалізаванымі або маюць вобразную ўнутраную форму.

УДК 811.161.3 + 811.111

**Л.Я.Кавалёва** (Гродна)

## АНГЛІЙСКІЯ ЗАПАЗЫЧАННІ Ў КОМПЛЕКСНЫХ ТЭРМІНАХ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Англійская лексіка інтэнсіўна пачала пранікаць у сучасную беларускую мову ў XX – XXI стст. у перыяд найбольш глыбокіх грамадскіх пераўтварэнняў, калі нашая краіна выйшла на міжнародную арэну, змянілася яе эканамічнае, палітычнае становішча. Запазычанні англійскага паходжання выкарыстоўваюцца як для намінацыі новых рэалій і паняццяў (*мерчэндайзінг*), так і для замены ранейшых найменняў (параўн.: *франц. макіяж – англ. мэйк-ап*).

За кошт англійскіх запазычанняў узбагачаецца не толькі агульнаўжывальная мова, але і мова навукі. Так, англіцызмы ў рознай ступені папоўнілі наступныя галіны беларускай тэрміналогіі: спартыўную, тэхнічную, фізічна-матэматычную, марскую, эканамічна-фінансавую, грамадска-палітычную, тэрміналогію мастацтва і культуры, сельскагаспадарчую, біялагічную, хімічную, мінералагічную, металургічную, паліграфічную, інфармацыйна-адукацыйную, тэкстыльную, медыцынскую, ваенную, будаўнічую, прыродна-метэаралагічную, гістарычную, юрыдычную, філалагічную, горназдабыўную, філасофскую, чыгуначную.



Замацаванне англіцызмаў у слоўнікавым складзе беларускай мовы звязана з праблемамі фанетычнай і граматычнай асіміляцыі, а таксама з іх актыўнасцю ў словаўтваральным працэсе.

Лічыцца, што іншамоўная адзінка адаптавалася, прыстасавалася да нормаў мовы-пазычальніцы, набыла «грамадзянства» ў тым выпадку, «калі яна пачынае даваць вытворныя шляхам словаўтварэння або шляхам змены значэння» [1, с. 138].

Артыкул прысвечаны англіцызмам, якія актыўна ўдзельнічаюць у працэсе ўтварэння комплексных тэрмінаў сучаснай беларускай мовы. Вылучаецца група як двухкампанентных тэрмінаў-словазлучэнняў, так і шматкампанентных. Найбольшай прадукцыйнасцю характарызуюцца наступныя структурныя мадэлі:

а) «прыметнік + назоўнік»: *венчурны капітал, напалмавая бомба, агрэсіўны блок, марская блакада, венчурнае прадпрыемства, футбольнае поле, тэнісны стол, кембрыйскі перыяд, дэвонская сістэма, ватманская папера, палярны пак, пінгпонгавая дыпламатыя, бартэрная здзелка, буферная дзяржава, лёгкі танк* і інш.;

б) «назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *інстынкт хомінгу, азбука Морзе, апарат Морзе, лідэр партыі, вежа танка, знішчальнік танкаў, калона танкаў, прарыў блакады, экіпаж танка, траленне мін* і інш.;

в) «дзеяслоў + назоўнік»: *прарываць блакаду, здымаць блакаду;*

г) «назоўнік + прыметнік»: *лазер вадкасны, лазер імпульсны, дысплей аддалены, брыдэр электраядзерны, старт халодны, стэк апаратны, драйвер загружальны* і г.д.;

д) «абрэвіятура + назоўнік»: *РАС-лазер;*

е) «прыметнік + прыметнік»: *лазерна-актыўны, лазерна-галаграфічны, лазерна-плазменны, лазерна-эмісійны.*

Трохкампанентныя тэрміны, дзе адзін з іх - англіцызм, складаюць наступныя мадэлі:

а) «назоўнік + прыметнік + назоўнік»: *артылерыя тракавай цягі; знішчальна-супрацьтанкавая артылерыя; танка-дэсантны карабель; танк непасрэднай падтрымкі; інтэрфейс «супольная шына»; бэта-спектраметрычны блок; оптыка-механічны блок; лазер з лямпавай напампоўкай* і г.д.;

б) «прыметнік + прыметнік + назоўнік»: *цяжкі танкавы батальён; супрацьтанкавае міннае поле; алфавітна-лічбавы дысплей;*

в) «прыметнік + назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *дыспетчарскае кіраванне пула;*

г) «назоўнік + назоўнік у родным склоне + назоўнік у родным склоне»: *інтэрфейс увода-вывада;*

д) «назоўнік + назоўнік + прыметнік»: *лазер на фарбавальніках трохколерны; транзістар арсенід-галіевы;*

е) «назоўнік + абрэвіятура + прыметнік»: *камп’ютэр IBM-сумяшчальны;*

ж) «назоўнік + прыметнік + абрэвіятура»: *лазер з дынамічнай РАС.*

У лексікаграфічных працах можна бачыць і шматкампанентныя тэрміны з англійскім словам.

Так, сярод чатырохкампанентных тэрмінаў вызначаюцца наступныя мадэлі:

а) «назоўнік + прыметнік + назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *лазер з актыўнай сінхранізацыяй мод; лазер з неадыябатычнай мадуляцыяй напрамкаў; стартэр з магнітнай сістэмай узбуджэння;*

б) «назоўнік + назоўнік + назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *лазер на крышталях з цэнтрамі афарбоўкі;*

в) «назоўнік + прыметнік + прыметнік + назоўнік»: *лазер з манаімпульснай лазернай напампоўкай; лазер з папярочнай імпульснай напампоўкай; транзістар палявы з ізаляванай засаўкай;*

г) «назоўнік + назоўнік + прыметнік + назоўнік»: *скануіраванне мяжы злучаных матэрыялаў; лазер у рэжыме мадуляванай дыхтоўнасці.*

Аналіз матэрыялу паказвае, што ў сучасных тэрміналагічных слоўніках беларускай мовы зафіксаваны тэрміны і з большай колькасцю структурных элементаў, дзе адзін з кампанентаў – англіцызм: *лазер з фазава-палерызацыйным селектарам даўжынь хваль; лазер з унутрырэзанатарным падваеннем частаты выпраменьвання; лазер з глыбокай адмоўнай адваротнай сувяззю.*

Такім чынам, англійскія лексемы актыўна ўдзельнічаюць у тэрмінаўтваральным працэсе мовы-рэцыпіента; замацоўваюцца ў слоўнікавым складзе сучаснай беларускай мовы.


*Спіс літаратуры*

1. Доза, А. История французского языка // А.Доза – М., 1956. – 443 с.



УДК 811.161.3



**А.І.Кавальчук** (Гродна)


## НАЗВЫ АСОБЫ ПАВОДЛЕ АДНОСІНАЎ ДА ЕЖЫ Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРКАХ

У беларускай народнай мове багаты арсенал найменняў, што характарызуюць чалавека паводле адносінаў да ежы. Яскрава такія адносіны выяўляюцца ў субстантыўнай і ад’ектыўнай лексіцы, якая ў асноўным групуецца вакол двух семантычных цэнтраў. У першым з іх вызначальнымі характарыстыкамі з’яўляюцца ‘абжорлівы, ненаедны, прагны’, у другім – ‘пераборлівы да ежы’. Тэматычны слоўнік



«Чалавек», які паслужыў асноўнай крыніцай нашага даследавання, змяшчае да 50 назоўнікаў і 42 прыметнікі са значэннем ‘абжорлівы’, 8 назоўнікаў і 18 прыметнікаў са значэннем ‘пераборлівы да ежы чалавек’ [5, с. 300 – 302, 342 – 343].

Асобныя назвы вызначаюцца іншай семантыкай, што адлюстроўвае, напрыклад, манеру чалавека есці або паказвае, якой ежы чалавек аддае перавагу: *сёрбала* ‘той, хто есць з прыцмокваннем (гукам)’, *спасліві* ‘той, хто вельмі хутка папраўляецца пры добрым харчаванні’, *картаплянік* жарт. ‘той, хто любіць бульбяныя блінцы’, *малочніца* ‘жанчына, якая любіць усё малочнае’.

Асноўныя два значэнні ўтрымліваюць адмоўную канатацыю, і таму большасць адзінак (асабліва субстантыўных) суправаджаецца ў лексікаграфічных даведніках адпаведнымі стылістычнымі паметамі. Як правіла, паметы адлюстроўваюць наступныя адносіны да аб’екта гаворкі: зневажальныя (*жарлюк*, *нінаеда*), непахвальныя (*прагара*, *кішкар*), абразлівыя (*галадамер*, *пражора*, *аб’ядала*), грубыя (*трубло*, *аб’яда*, *абжора*), здзеклівыя (*нетра*), асуджальныя (*нерапа*, *ненаежа*), рэдка – іранічныя (*трупша*), жартаўлівыя (*церніца*). Часам стылістычная памета проста паказвае на экспрэсіўнасць назвы, не называючы канкрэтнай характарыстыкі (*рублей*, *гладамор*). Варта адзначыць, што пэўная эмацыйна-экспрэсіўная афарбоўка ўласцівая кожнай лексеме, якая характарызуе абжорлівага ці пераборлівага да ежы чалавека, хоць у слоўніках адпаведныя паметы часта адсутнічаюць або маюць досыць несістэматычны характар. Гэта звязана з пэўнымі цяжкасцямі, якія і сёння існуюць у лексікаграфічнай практыцы. Кожнаму з аўтараў даведнікаў даводзіцца суб’ектыўна, «на свой розум» вызначаць тую ці іншую дадатковую характарыстыку адзінкі. Да таго ж, як відаць з паданых вышэй адзнак, яны вельмі блізкія і ўзаемазамяняльныя.

Значную частку гэтай групы складаюць словы са старажытнымі каранямі **žer-(*žьr-) < i.-e. **$q^u$*er* ‘паглынаць’ і **(j)ěd- < i.-e. *ēd-* ‘есці’. Асаблівай разнастайнасцю вызначаюцца прыметнікі, у якіх знаходзім адбітак даўніх чаргаванняў галосных і зычных. Гэта адзінкі з багатым наборам суфіксаў – *-лів-*, *-ат-*, *-ыст-*, *-авіт-*, *-очн-*, *-н-*, *-к-*: *абжорлівы*, *абжарлівы*, *абжорысты*, *абжырны*, *жэрлівы*, *жарлаты*, *жарлочны*, *жаравіты*, *жоркі*, *пражорлівы*, *пражэрлівы*, *пражырлівы*, *пражорны*, *пражырны*, *жырны*, *жыркі*, *жыравіты*, *ненажэрны;* *ненаедны*, *ненаедлівы*, *ненаесны*, *худаедлівы*, *худаежлівы*, *худаежы*, *лютаежлівы*, *ліхаежлівы*, *аблаежлівы* і інш. Сярод назваў пераборлівага да ежы чалавека дамінуюць лексемы з праславянскім коранем **bir- (*bьr-)*: *пераборлівы*, *перабірлівы*, *пераборчлівы*, *перабірасты*, *недаборны.*

Субстантыўная і ад'ектыўная лексіка, што выкарыстоўваецца для характарыстыкі ненаеднага ці пераборлівага да ежы чалавека, адлюстраваная і літаратурнымі даведнікамі, напрыклад, «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» (далей – ТСБМ) [3]. Як правіла, гэтыя словы адносяць да размоўнага стылю, падаючы з адпаведнай паметай: *абжора* разм., *ненажэрны* разм., *ненажэрлівы* разм., *ненажэра* разм., *пражора* разм., *прорва* разм. 'аб пражэрлівым чалавеку', *пераборлівы* разм. Праўда, у гэтай найбольш поўнай і аўтарытэтнай працы назіраецца пэўная непаслядоўнасць пры вызначэнні стылёвай прыналежнасці адзінак. Так, словы *абжорлівы, абжорысты, пражэрлівы, пражэрны*, у адрозненне ад адзначаных вышэй, паметы «размоўнае» пры сабе не маюць, хоць утваральныя да іх дзеясловы *абжэрціся, жэрці* кваліфікуюцца ўсё ж як размоўныя. Дарэчы, лексема *абжэрціся* мае і адзнаку паводле эмацыйна-экспрэсіўнай афарбоўкі («грубае»). Больш позні даведнік «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1999) пры слове *абжорлівы* ўжо падае памету «размоўнае» (далей – ТСБЛМ) [2].

Зрэдку можна заўважыць пэўную семантычную неадпаведнасць дыялектных і літаратурных адзінак. Да прыкладу, субстантыў *аб'ядала* разм. у ТСБМ знаходзім толькі са значэннем 'той, хто аб'ядае другіх' (утварэнне ад *аб'ядаць* разм. 'многа ці часта едучы, прычыняць страту каму-небудзь', а дыялектнае *аб'ядала (аб'ядайла)* мае значэнне 'абжорлівы, ненаедны' (ад *аб'ядацца* 'есці лішняе, пераядаць'); паводле ТСБМ, *жлукта* разм. ужываецца толькі ў адносінах да таго, хто многа п'е (у ТСБЛМ ёсць удакладненне – 'пра таго, хто многа п'е спіртнога'), дыялектныя ж крыніцы сведчаць, што і той, хто шмат есць, ненаедны, таксама характарызуецца гэтай назвай. Акрамя гэтага, у ТСБМ бачым амонімы *жлукта*[1] абл. 'пасудзіна…' і *жлукта*[2] разм. 'пра таго, хто многа п'е, апіваецца', у пазнейшым ТСБЛМ – полісемант *жлукта* '1. Выдзеўбаная з драўлянай калоды пасудзіна для запарвання бялізны. 2. перан. Пра таго, хто многа п'е спіртнога (разм. неадабр.)'. На нашу думку, узнікненне асабовай назвы можна бачыць як у семантычным пераасэнсаванні (метафарычным пераносе з назвы посуду), так і аддзеяслоўным утварэнні – ад *жлукціць* перан. 'многа і прагна піць' (першае значэнне – 'запарваць бялізну ў едкім шчолачным растворы'), вядомага як літаратурнай мове, так і гаворкам.

Што датычыць дэрывацыйных асаблівасцяў аналізаванай тэматычнай групы, то для прыметнікаў мы ўжо адзначылі розныя суфіксы, якія могуць выступаць у якасці самастойнага словаўтваральнага сродка, а таксама з'ўляцца часткай словаўтваральнага фарманта. Найбольш прадукцыйны спосаб ад'ектыўнага словаўтварэння для вызначанага абсягу лексем – марфемны, асабліва суфіксацыя і канфіксацыя.

Пры ўтварэнні прыметнікаў са значэннем 'пражэрлівы, ненаедны' і 'пераборлівы да ежы' выкарыстоўваюцца наступныя канфіксы:

*аб- + -лів-, аб- + -ыст-, аб- + -н-, а- + -н-: абжорлівы, абжарлівы, абжырны, абжорысты, ажорны ← жэрці.* Утваральнай асновай для гэтых адзінак можна лічыць і аснову дзеяслова *абжырацца*. У такім выпадку гаворка пойдзе ўжо пра суфіксавае ўтварэнне, г.зн., што для адзначаных прыметнікаў характэрная падвойная матывацыя. Варыянт адсубстантыўнага ўтварэння (ад назоўніка *абжора*) мы лічым не зусім апраўданым, бо найбольш верагоднае ўзнікненне назвы асобы на аснове якасці, а не наадварот;

*пра- + -лів-, пра- + -н-: пражорлівы, пражэрлівы, пражырлівы, пражорны, пражырны ← жэрці.* У адрозненне ад папярэдніх дэрыватаў, тут нельга казаць пра падвойную матывацыю, бо дзеяслова *пражыраць (пражырацца)* са значэннем 'многа і прагна есці' слоўнікі не фіксуюць;

*не- + -н-, не- + -лів-, не- + -к-: ненажэрны ← нажэрціся, ненаедны (ня́наедны), ненаедлівы, ненаесны ← наесціся (наядацца), ненасытны, ненасыткі ← насыціцца, ненатольны ← наталіць, недаборны ← дабіраць* 'перабіраць, выбіраць'.

Сярод ад'ектываў, утвораных суфіксавым спосабам, таксама пераважаюць аддзеяслоўныя дэрываты. У якасці словаўтваральных выступаюць суфіксы *-лів-, -н-, -к-, -ат-, -аст-, -л-: жарлівы, жэрлівы, жарлаты, жаравіты, жоркі, жырны, жыркі, жыраўны, жыравіты, жырлівы ← жэрці* (асобныя адзінкі, напрыклад, *жырны, жыркі, жыраўны, жыравіты*, верагодна, зведалі ўплыў слова *жыр* 'тлушч', распаўсюджанага ў некаторых беларускіх гаворках); *прагны, праглівы ← прагнуць* (у сваю чаргу прыметнік *прагны* стаў утваральнай базай для словаў *прагавіты, прагавітны*); *пераборлівы, перабірлівы, пераборчлівы* (*ч* узнікае, відаць, пад уплывам рускай мовы), *перабірасты ← перабіраць, нэнзлы ← нэндзіць; праяслівы ←* **праесціся* 'аб'есціся, пераесці' (паводле ЭСБМ, слова магло прыйсці з польскай мовы, дзе *przejeść się* 'аб'есціся, пераесці' [6, т.10, с. 27]). Словы *хаўчлівы, хаўслівы* ўтварыліся, відаць, ад нейкага гукапераймальнага **ха́ваць* 'есці' (параўн. у Фасмера: *хавкать* 'есть, лаять', укр. *хавкати* 'жадно есть' [4, т.4, с. 215]).

Суфіксы *-н-, -енн-* з'яўляюцца словаўтваральнымі фармантамі ў адсубстантыўных утварэннях *пропасны ← пропасць* 'бездань' і *працьменны ← працьма* 'вялікае мноства, безліч'.

Складана-суфіксавым спосабам утвораныя ад'ектывы, якія выкарыстоўваюцца для характарыстыкі пераборлівага да ежы чалавека, суфікс *–лів-* і тут аказваецца надзвычай прадукцыйным: *худаедлівы, худаежлівы, лютаежлівы, людаежлівы, людаедлівы, літаежлівы, ліхаежлівы, аблаежлівы.* Як бачым, большасць гэтых словаў першай часткай асновы мае корань з агульнай семантыкай 'дрэнны, благі' (*худ-*, *лют-*, *ліх-*), таму такія адзінкі ўяўляюцца досыць празрыстымі. Што датычыць лексем *людаежлівы, людаедлівы*, то іх можна патлумачыць уплывам слова *людаед,* значэнне якога таксама ўтрымлівае адмоўную канатацыю. *Літаежлівы*, на нашу думку, ёсць кантамінацыя *лютаежлівы* і *ліхаежлівы.* У прыметніку *аблаежлівы* першая частка асновы паходзіць ад праславянскага *obьlъ* (рус. *облый* 'вялікі, круглы'). Можна дапусціць, што першапачаткова гэты прыметнік ужываўся для характарыстыкі чалавека, які многа еў (на што паказвае сема 'вялікі'), пасля развілася энантыясемічнае значэнне. Дарэчы, выпадкі энантыясеміі вядомыя беларускім гаворкам: гродз. *вірло* зняв. 'чалавек з дрэнным зрокам' ← *вірла΄ты* 'лупаты, з вялікімі вачыма', *гаргара* 'слабы, худы, хваравіты чалавек' ← *гаргара* 'пра вялікую нязграбную рэч' [1, с. 37–38, с. 64–65]. Складана-нульсуфіксавым спосабам утвораны прыметнік *худаежы*.

Назоўнікі-назвы асобы паводле адносінаў да ежы і манеры есці ўтварыліся пераважна ад асноў дзеясловаў і прыметнікаў, зрэдку – назоўнікаў. Для шэрагу такіх назваў характэрная падвойная матывацыя. Так, назву *абжора* можна кваліфікаваць як утварэнне ад дзеяслова *абжырацца* з дапамогай нулявога суфікса, а можна бачыць тут адпрыметнікавы дэрыват (ад *абжорлівы*); *пражора, пражор, прожыр, прожар, пражыра, ненажора, ненаежа, ненаяда* – прэфіксава-нульсуфіксавыя ўтварэнні (ад *жэрці, нажырацца, наядацца*) або нульсуфіксавыя (ад *пражэрлівы, ненажэрны, ненаедны*). На нашу думку, зважаючы на багаты арсенал разгледжаных прыметнікаў і першаснасць узнікнення назвы прыметы ў дачыненні да назвы асобы паводле гэтай прыметы, больш мэтазгодна бачыць тут менавіта адад'ектыўнае словаўтварэнне.

Да аддзеяслоўных суфіксавых утварэнняў належаць наступныя: *жарун, жрун ← жэрці (жраць), жарлюк ← жарляць* 'есці', *аб'ядала, аб'ядайла ← аб'ядацца, трубіла, трубло, трубіч ← трубіць* 'шмат есці', *таптора ← таптаць* 'есці', *комкала ← комкаць* 'прагна есці булку, пірог', *рублей ← рубаць* 'есці', *круміла ← круміць* 'прагна і многа есці', *гомала ← гамаць* 'есці', *сёрбала ← сёрбаць, піхач ← піхаць, покала ← покаць* 'без меры есці ці піць' (з *покала* зближаюць і назву *апока* 'аб'ядала, п'яніца' [6, т. 1, с. 129]).



Меншай прадукцыйнасцю вызначаюцца аддзеяслоўныя і адпрыметнікавыя нульсуфіксавыя дэрываты: *аб'ежа, аб'яда ← аб'ядацца, топта ← таптаць, пераеда ← пераядаць, жлот ← жлокаць (жлоктаць)* 'піць, хлябтаць', *глыць, глык ← глытаць (глыкаць), насыць ← насыціць, ненасыць ← ненасытны, нэндза, нэнджа ← нэндзіць* (або *нэнзлы*).

Іншыя спосабы марфемнага словаўтварэння рэпрэзентаваныя адзінкавымі найменнямі: з дапамогай суфіксаў ад прыметніка *ненаедны* ўтварыліся назвы *ненаедак, ненаедніца;* конфіксавым або суфіксавым аддзеяслоўным дэрыватам трэба лічыць слова *напіхач* (у залежнасці ад утваральнай асновы *піхаць* або *напіхваць*)*; няўкормак* утворана ад *карміць* шляхам далучэння конфікса; назоўнік *кішка* стаў утваральным для назваў *кішкар* і *кішкун.*

Адным з самых прадукцыйных спосабаў утварэння дыялектных субстантываў з семантыкай персанальнасці з'яўляецца семантычная дэрывацыя. Не выключэнне і адзінкі аналізаванай тэматычнай групы. Так, у выніку метафарычнага пераносу ўзніклі наступныя назвы абжорлівай, ненаеднай асобы: *мялён ← мялён* 'частка ў жорнах', *мяліца, цёрла, церніца* ← 'прылада церці лён', *сілядоўка* ← 'вялікая бочка для засолкі селядцоў', *прорва* ← 'бездань', *нетра ← нетры* 'глыбіні зямлі, унутраная прастора; багна'. Як і слова *жлукта,* якое мы згадвалі раней, назва *жарло* можа лічыцца метафарай (ад *жарло* 'горла, рот') або суфіксавым утварэннем ад *жэрці.*

Абсалютная большасць аналізаваных найменняў – адзінкі ўласнабеларускага паходжання. Толькі некаторыя з гэтых назваў зведалі іншамоўны ўплыў, як, напрыклад, *праяслівы, нэндза, нэнджа. Прагара, (прагора)* лічаць пазычаннем з літ. *prãgaras* 'тс' [6, т. 9, с. 338].

Асобныя адзінкі ўяўляюць сабою досыць непразрыстыя найменні. Так, дастаткова складана дакладна вызначыць крыніцу паходжання ці спосаб утварэння для назвы *жырвота* 'непераборлівы да ежы чалавек', якая бытуе ў гродзенскіх гаворках; магчыма, тут трэба бачыць нейкую кантамінацыю *жэрці*, *жыр* і *жывот.* Назву *нерапа* асудж. 'чалавек, які надта многа есць', верагодна, можна звязваць з *нераб* 'гультай, лодар', якое ад *не рабіць.* Найменне *трупша* іран. 'той, хто многа есць' варта трактаваць як дэрыват ад *трубіць* 'шмат есці', калі дапусціць аглушэнне *б → п*, тым больш што гэты дзеяслоў стаў утваральнай базай і для некаторых іншых назваў з тым самым значэннем. Цьмянымі уяўляюцца і словы *протхля* зніж. 'той, хто шмат есць', *карністы* 'пераборлівы да ежы чалавек', *кашэрны* 'тс'. Нягледзячы на шырокую распаўсюджанасць найменняў *галадамер, галадамір, гладамор,* якіх-небудзь пэўных меркаванняў наконт іх паходжання таксама няма [6, т. 3, с. 22].

*Спіс літаратуры*

1. Кавальчук, А. Асабовыя найменні ў гаворках Гродзеншчыны: Манаграфія / А. Кавальчук. – Гродна: ГрДУ, 2006. – 146 с.
2. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М.Р.Судніка, М.Н.Крыўко. – Мінск: БелЭН, 1999. – 784 с.
3. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / пад рэд. К.Атраховіча. – Мінск: БелСЭ, 1977 – 1984. – Т. 1 – 5.
4. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. / М. Фасмер // Пер. с нем. и дополнения О.Н.Трубачёва. – М.: Прогресс, 1987. – Т. 1 – 4.
5. Чалавек: тэматычны слоўнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа; склад. В.Дз. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л.П.Кунцэвіч, А.А. Крывіцкі. – Мінск: Бел.навука, 2006. – 573 с.
6. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978 – 2008. – Т. 1 – 12.

УДК 811.161.3 + 811.112

**Т.М. Кантаровіч** (Гродна)

## ДЭРЫВАТЫ – НАЙМЕННІ АСОБЫ ЖАНОЧАГА ПОЛУ ПАВОДЛЕ ПРАФЕСІІ Ў БЕЛАРУСКАЙ І НЯМЕЦКАЙ МОВАХ

Словаўтваральная сістэма мовы развіваецца па сваіх унутраных законах, але зведвае моцны ўплыў сацыяльных фактараў. Слоўнікавы склад і спосабы ўтварэння слоў змяняюцца, гэта абумоўлена не толькі ўнутранымі, але і знешнімі фактарамі ў працэсе грамадскага функцыянавання мовы.

Не ўсе элементы лексічнага складу мовы аднолькава рэагуюць на змяненні ў грамадстве. Найбольш адчувальны на змены ў грамадска-палітычным і эканамічным жыцці людзей разрад назоўнікаў са значэннем асобы. Гэтая катэгорыя слоў займае значнае месца па ступені інтэнсіўнасці развіцця ў колькасных і якасных адносінах як у беларускай, так і нямецкай мовах. Адну з груп назоўнікаў катэгорыі асобы складаюць жаночыя намінацыі (фемінінатывы). Іх вывучэнне мае важнае значэнне для выяўлення словаўтваральных заканамернасцяў мовы, станаўлення словаўтваральнай сістэмы, яе змяненняў [1, с.282].

Беларуская і нямецкая мовы належаць да адной індаеўрапейскай сям'і моваў, але ўваходзяць у розныя яе групы: беларуская – у славянскую (усходнеславянскую падгрупу), нямецкая – у германскую. Разгляд шляхоў і сродкаў перадачы значэння фемінінасці ў гэтых мовах дазваляе вызначыць рысы іх падабенства і адрознення.



Фемінінатывы – гэта назоўнікі са значэннем асобы жаночага полу. У навуковай літаратуры пытанне вытворнасці суфіксальных назоўнікаў са значэннем асобы жаночага полу нельга лічыць вырашаным. Адны вучоныя лічаць, што амаль усе назоўнікі жаночага роду ўтварыліся пры дапамозе фемініннага словаўтваральнага сродку ад асновы назоўнікаў мыжчынскага роду: *кандуктар – кандуктар-ка, брыгадзір – брыгадзір-ыха*. Іншыя сцвярджаюць, што асабовыя назоўнікі жаночага роду суадносяцца не з адпаведнымі назоўнікамі мужчынскага роду, а з агульнымі для мужчынскага і жаночага роду ўтваральнымі асновамі. У такім выпадку гаворку трэба весці аб паралельным утварэнні (кадэрыватах): *школьніца і школьнік* ад *школа, шчабятун і шчабятуха* ад *шчабятаць* [2, с.89].

Даследчык В.Л. Варановіч лічыць, што ўтварэнне назваў асобы жаночага полу менавіта ад карэляцыйных назваў асобы мужчынскага полу ў беларускай мове з'яўляецца правілам. Калі асабовы назоўнік мужчынскага роду прынцыпова не зарыентаваны на называнне асобы менавіта мужчынскага полу, то яго жаночы карэлят трэба лічыць утвораным ад гэтага назоўніка. Калі ж мужчынскі назоўнік прынцыпова «завязаны» на мужчынскай семантыцы, то гэта значыць, што маскулінатыў і яго карэлят-фемінінатыў з'яўляюцца паралельнымі ўтварэннямі, інакш кадэрыватамі.

У беларускай мове мужчынскія назвы самі могуць утварацца ад адпаведных назоўнікаў жаночага роду *(жняя – жня-яр)*. Акрамя таго, некаторыя назвы асобы жаночага полу ўвогуле не маюць аднакаранёвых адпаведнікаў мужчынскага роду (*каравайніца, кудзельніца, пралля*) ці выступаюць як паралельныя ўтварэнні з featured рознафанемнымі суфіксамі (*ткалля і ткачыха*). Назоўнікі толькі жаночага роду, што абазначаюць асоб па прафесіі, у беларускай мове сустракаюцца рэдка: *няня, прачка, машыністка, пакаёўка, павітуха, кастэлянка, манікюрка, педыкюрка*.

Нярэдка назоўнікі, што абазначаюць асоб паводле іх прафесійных заняткаў, пасад, маюць форму мужчынскага роду і захоўваюць яе ў тых выпадках, калі стасуюцца з асобамі жаночага полу [3, с.50]. Тлумачыцца гэта тым, што раней у пэўных сферах дзейнасці былі занятыя выключна мужчыны, а жанчыны не мелі магчымасці займаць адпаведныя пасады, а таксама тым, што пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. прыкметна ўзрасла тэндэнцыя называць жанчыну па прафесіі, занятку назоўнікамі мужчынскага роду. Такім чынам, у мове з'яўляюцца маскулінатывы, ад якіх немагчыма альбо цяжка ўтварыць карэлятыўныя пары жаночага роду: *акадэмік, арбітр, лідар, прафесар, дацэнт, дэкан, акадэмік, біёлаг, афіцэр, лейтэнант, капітант, генерал* і

інш. Патэнцыяльна магчымае ў некаторых выпадках утварэнне карэлятыўных параў стрымліваецца ў літаратурнай мове як «незвычайнасцю» гэтых утварэнняў для ўспрыняцця носьбітамі мовы (*камсоргка, палітручка, лейтэнантка, маёрка*), так і з'яўленнем непажаданай аманіміі (*электрык – электрычка, швейцар – швейцарка, штурман – штурманка, качагар – качагарка*).

На сучасным этапе развіцця грамадства займанне жанчынамі розных пасад рэальнае, таму, як сцвярджае М.Я Цікоцкі, ў беларускай мове ўтвараюцца адпаведныя фемінінатывы і колькасць назоўнікаў, якія маюць паралельныя формы, павялічваецца: *інжынер – інжынерка, рэдактар – рэдактарка, лаўрэат – лаўрэатка, дэлегат – дэлегатка*. І гэта падцвярджаюць акадэмічныя слоўнікі апошніх 20 гадоў, папаўняючыся назоўнікамі-фемінінатывамі. Прытым, слоўнікі, а таксама сучасная моўная практыка сведчаць, што працэс узнікнення і замацавання ў мове новых жаночых назоўнікаў дастаткова дынамічны, і з цягам часу гэты дынамізм не зніжаецца. Нярэдка ўзнікаюць даволі «смелыя» ўтварэнні - ад такіх маскулінатываў, якія паводле ранейшага ўяўлення здаваліся зусім неперспектыўнымі як дэрывацыйная база для фемінінатываў.

Аднак назоўнікі, якія ўзнікаюць у мове для абазначэння новых прафесій і пасад, найчасцей традыцыйна маюць форму толькі мужчынскага роду: *касманаўт, кардыёлаг, дызайнер, авіяканструктар, механік, бортінжынер, вірусолаг, эпідэміёлаг, дыялектолаг, каардынатар.* Дзеясловы-выказнікі пры назоўніках мужчынскага роду, якія абазначаюць жанчын па прафесіі, ужываюцца ў форме прошлага часу жаночага роду, а азначэнні пераважна захоўваюць форму мужчынскага роду: *выстаўку арганізавала малады каардынатар Сарокіна; дасведчаны эпідэміёлаг Ганна Іванаўна хутка распазнала хваробу*. Перавага назоўнікам мужчынскага полу аддаецца ў тым выпадку, калі неабходна назваць асобу ў шырокім сэнсе – безадносна да полу, што звычайна сустракаецца ў афіцыйна-справавым стылі, наменклатурных пераліках прафесій ці ў найменнях устойлівага тыпу (*Герой Вялікай Айчыннай вайны, начальнік цэха, старшы навуковы супрацоўнік).*

З мэтай нейтралізацыі значэння мужчынскага полу побач з назоўнікам гэтага роду могуць выкарыстоўвацца словы *жанчына, дзяўчына, маці*, якія знаходзяцца ў прэпазіцыі ці постпазіцыі [4, с.186]: *жанчына – паштальён, жанчына – дырыжор, жанчына – дыпламат, дзяўчына – механік, шафёр – дзяўчына, цёця – доктар, маці – будаўнік*. У некаторых выпадках фемінінныя кампаненты такіх аналітычных назваў выконваюць функцыю не толькі «нейтралізатара», але і ўдакладняльніка семантычнага зместу назоўніка мужчынскага роду: *майстар – шліфавальшчыца, слесар – зборшчыца, ткачыха – ветэран, сакратар – машыністка*. [4, с.186.]

Што тычыцца нямецкай мовы, то ў лінгвістычнай літаратуры адзначаецца: прыметай нашага часу з'яўляецца рост фемінінатываў на -*in*, якія сіметрычна дапаўняюць мужчынскія найменні асобы жаночымі. У нямецкай мове існуюць амаль неабмежаваныя магчымасці для ўтварэння фемінінатываў, паколькі суфіксальнае ўтварэнне са значэннем мужчынскай асобы прадугледжвае паралельнае ўтварэнне са значэннем асобы жаночага полу. Гэта падцвярджаюць шматлікія новыя словы з суфіксам *-in,* напрыклад: *Pädagogin (жанчына-педагог), Akademikerin (жанчына-акадэмік), Psychiaterin (жанчына-псіятр)* [5, с.128]. Часта далучэнне суфікса *–in* суправаджаецца ўзнікненнем умляўта: *der Arzt (доктар) – die Ärztin (доктарка, урачыха), der Koch (повар) – die Köchin (кухарка, паварыха), der Bauer (селянін) – die Bäuerin (сялянка).*

У новых сацыяльных умовах у працэсе адмаўлення ад сацыяльнай дыскрымінацыі жанчын і, як вынік, іх авалодвання рознымі прафесіямі, у нямецкай мове таксама ўзнікла тэндэнцыя ўжываць словы мужчынскага роду – абазначэнні асобы па прафесіі і роду заняткаў у адносінах не толькі да мужчын, але і да жанчын *(Sie ist Ingenieur)*. Нямецкія слоўнікі ў гэтым выпадку падаюць толькі форму мужчынскага роду: *der Delegierte (дэлегат), der Advokat (адвакат), der Preistrager (лаўрэат), der Redakteur (рэдактар).* Значэнне фенімінасці надаецца гэтым назоўнікам пры далучэнні займенніка жаночага роду *sie: Sie Advokat (адвакатка), Sie Preistrager (лаўрэатка),* або праз кантэкст.

Спынімся дэталёва на беларускіх фемінінатывах і іх нямецкіх адпаведніках, якія складаюць самую шматлікую групу найменняў асобы жаночага полу паводле спецыяльнасці/ прафесіі/займанай пасады.

Актыўнасць фемінінных суфіксаў беларускай мовы тут вызначаецца паводле моўнага матэрыялу «Беларуска-рускага слоўніка» пад рэдакцыяй А.І. Падлужнага. У якасці крыніцы нямецкіх фемінінатываў выкарастаны «Нямецка-беларускі слоўнік» М.І.Кур'яненкі. (далей у тэксце – НБС-2006). Гэты слоўнік невялікі, у яго складзе 50000 слоў. Ён не падае ўсе фемінінатывы, якія існуюць у нямецкай мове, але з'яўляецца першым перакладным слоўнікам, які выйшаў з друку зусім нядаўна і з'яўляецца найбольш поўным у параўнанні з даведнікамі і навучальнай літаратурай, якія

выкарыстоўваліся пры перакладзе з нямецкай мовы на беларускую да нядаўняга часу.

Назвы асобы жаночага полу паводле спецыяльнасці/ прафесіі/займанай пасады ў беларускай мове ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў **-шчыц-а/-льшчыц-а/ -ыц-а/-іц-а, -к-а/-ёўк-а, -ніц-а, -ых-а, -ін-я/-ын-я, -ыс-а, -эс-а, -ух-а.** Для абазначэння назвы асобы гэтай групы таксама выкарыстоўваюцца субстантываваныя прыметнікі. Найбольш прадукцыйнымі фармантамі ў беларускай мове з’яўляюцца суфіксы **-шчыц-а/-льшчыц-а/ -ыц-а/-іц-а, -к-а/-ёўк-а, -ніц-а.**

У сучаснай нямецкай мове разам з высокапрадукцыйным суфіксам *-in* для ўтварэння фемінінатываў паводле спецыяльнасці/ прафесіі/займанай пасады даволі шырока выкарыстоўваецца паўсуфікс *-frau.* Асноўнае адрозненне ва ўжыванні гэтых словаўтвальных сродкаў у тым, што суфікс *-in* можа ўтвараць фемінінатывы толькі ад ужо вядомых у мове найменняў мужчынскага полу, у той час калі паўсуфікс *-frau* разам з тым устанаўляе сіметрыю мужчынскі/жаночы *(der Fachmann (эксперт) – die Fachfrau (жанчына-эксперт), der Staatsmann (дзяржаўны дзеяч) – die Staatsfrau (дзяржаўная дзеячка).* Ён таксама дазваляе ствараць такія найменні для абазначэння асоб жаночага полу паводле прафесіі, якія з’яўляюцца пераважна «жаночымі», г.зн. не маюць адпаведнасці ў сферы абазначэння асоб мужчынскага полу: *die Karrierefrau (кар’ерыстка), das Karrieremädchen (кар’ерыстка), Afräumefrau (прыбіральшчыца), Putzfrau (прыбіральшчыца), Küchenfrau (паварыха).*

Сярод іншых словаўтваральных афіксаў, якія выкарыстоўваюцца для ўтварэння фемінінатываў па прафесіі ў нямецкай мове, можна назваць наступныя: паўсуфіксы *-schwester, -magd, -dame, -mädchen, -mädel, -fräulein, -weib*. Трэба зазначыць, што паўсуфіксы *-mädchen, -mädel, -fräulein, -weib* належаць да ніякага роду. У запазычаных назоўніках жаночага роду назіраем суфіксы *-ine, -a, -ess* [6]. Фемінінатывы па прафесіі таксама абазначаюцца субстантываванымі прыметнікамі.

У беларускай мове найбольш актыўнымі пры ўтварэнні найменняў асобы жаночага полу паводле спецыяльнасці/прафесіі/займанай пасады выступаюць суфіксы **-шчыц-а/-льшчыц-а/-ыц-а/-іц-а.** У нямецкай мове іх адпаведнікамі з’яўляюцца наступныя фарманты: суфікс **-in** *(прыбіральшчыца – Aufwärterin, Raumpflegerin, Wärterin, прасавальшчыца – Plätterin, прадзільшчыца – Spinnerin, танцоўшчыца – Tänzerin, дыванщчыца – Teppichwirkerin),* паўсуфікс **-frau** *(прыбіральшчыца – Aufwartefrau, Putzfrau, Reinmachefrau*), суфікс **–ess** (запазычанае з англійскай мовы найменне *Hostess),* запазычаныя



лексемы (*Girl* **-** *танцоўшчыца (у вар’етэ, кардэбалеце), Mannequin – манекеншчыца*).

Другім па актыўнасці суфіксам, які ўтварае назвы асобы жаночага полу паводле спецыяльнасці/прафесіі/займанай пасады, з’яўляюцца ў беларускай мове суфіксы **-к-а/-ёўк-а.** У нямецкай мове іх адпаведнікамі выступаюць суфікс **-in** *(дантыстка – Dentistin, акушэрка – Geburtsshelferin, жанглёрка – Jongleurin, біліцёрка – Platzanweiserin, карчмарка – Wirtin, аканомка – Wirtschafterin, спявачка – Artisitin),* паўсуфікс **-mädchen** *(служанка – Dienstmädchen, Hausmädchen; пакаёўка – Dienstmädchen, Kammermädchen, Stubenmädchen, Zimmermädchen, пастушка – Hirtenmädchen),* паўсуфікс **-frau** *(камерыстка – Kammerfrau, пакаёўка – Kammerfrau, санітарка – Wartefrau, прачка – Waschfrau)***,** паўсуфікс **-magd** *(служанка – Dienstmagd, пакаёўка – Dienstmagd*. Лексема ***Magd*** *(пакаёўка)* выкарыстоўваецца і як асобная лексема-адэкват беларускага фемінінатыва.), паўсуфікс **-weib** *(гандлярка– Marktweib, прачка – Waschweib*), асобныя словы – субстантываваныя прыметнікі *(Deputierte – дэпутатка).*

Трэцім па актыўнасці суфіксам, які ўтварае назву асобы жаночага полу паводле спецыяльнасці/прафесіі/займанай пасады, з’яўляецца ў беларускай мове суфікс **-ніц-а.** У **нямецкай** мове адпаведнікамі гэтых дэрыватаў з’яўляюцца суфікс **-in** *(настаяльніца – Abtissin, капялюшніца – Hutmacherin, каруначніца – Spitzenklöpplerin, трыкатажніца – Wirkerin),* субстантываваныя прыметнікі *(тапельніца – Ertrunkene, рамесніца – Gewerbetreibende, мытніца – Zollbeamte),* паўсуфікс **-mädchen** *(кветачніца – Blumenmädchen, пасудніца – Küchenmädchen*), паўсуфікс **-frau** *(малочніца – Milchfrau),* паўсуфікс **-fräulein** *(выхавацельніца – Kinderfräulein*).

Яшчэ адным фармантам, пры дапамозе якога ўтвараюцца назвы асобы жаночага полу , з’яўляецца суфікс **-ых-а.** Пры дапамозе гэтага непрадукцыйнага фарманта ўтвараюцца адзінкавыя найменні: *паварыха, ткачыха, урачыха, плаўчыха, дворнічыха, разм., краўчыха, майстрыха, старажыха.* У НБС-2006 падаецца толькі два найменні з гэтым фармантам, у нямецкай мове яны афармляюцца пры дапамозе суфікса **-in**: *ткачыха – Weberin, Wirkerin.*

Непрадукцыйны суфікс **-ын-а/-ін-я** маюць адзінкавыя найменні: *ахмістрыня* уст., *балерына, прыма-балерына.* У нямецкай мове ім адпавядаюць найменні *Balletttanzerin, Ballerina;* першае афармляецца пры дапамозе суфікса **-in,** а другое – запазычанне – пры дапамозе суфікса **-a.**

Нерэгулярны суфікс **-ыс-а** маюць фемінатывы *актрыса, кінаактрыса*. Нямецкі адпаведнік да беларускага з **-ыс-а** афармляецца пры дапамозе суфікса **-in**: *Abatissin – абатыса.*

Пры дапамозе нерэгулярнага суфікса **-эс-а** ўтвораны фемінатывы *паэтэса, сцюардэса*. У НБС-2006 падаецца адно найменне з суфіксам **-ess**, якое з'яўляецца запазычаннем з англійскай мовы: *сцюардэса – Stewardess.*

Такім чынам, у беларускай і нямецкай мовах асноўным спосабам утварэння дэрыватаў-найменняў асобы па прафесіі з'яўляецца суфіксацыя. У нямецкай мове выкарыстоўваецца шэраг паўсуфіксаў для ўтварэння фемінатываў гэтай групы. У беларускай мове суфіксы далучаюцца да агульнай для мужчынскага і жаночага роду словаўтваральнай асновы альбо да асновы назоўнікаў мужчынскага роду. У нямецкай мове галоўны суфікс *-in* далучаецца толькі да ўжо вядомых у мове найменняў мужчынскага полу, у той час калі паўсуфікс *-frau* паралельна з паўсуфіксам *-mann* дадаецца да агульнай асновы. У абедзвюх мовах фемінатывы па прафесіі могуць абазначацца субстантываванымі прыметнікамі. У беларускай і ў нямецкай мовах для абазначэння асобы жаночага полу па прафесіі могуць выкарыстоўвацца маскулінатывы.

*Спіс літаратуры*

1. Шуба, Т.П. Феминінативы с суфиксами -их-(а) (-іх(а)/-ых-(а)) в русском и белорусском языках / Т.П.Шуба // Е.Ф. Карский и современное языкознание: материалы IX Международных Карских чтений. В 2-х ч. / Гродн. гос. ун-т; отв. ред. М.И. Конюшкевич. – Гродно, 2003. – Ч. 1. – С. 282 – 285.

2. Сцяцко, П.У. Спрэчныя пытанні словаўтварэння: Асабовыя назоўнікі жаночага і мужчынскага роду як паралельныя ўтварэнні / П.У.Сцяцко // Роднае слова. – 1996. – №9. – С.89 – 94.

3. Варановіч, В.Л. Фемінатывы – неалагізмы ў беларускай літаратурнай мове / В.Л.Варановіч // Культура Гродзенскага рэгіену: Праблемы развіцця ва ўмовах паліэтнічнага сумежжа. – Гродна, 2003.

4. Янко-Триницкая, Н.А. Наименования лиц женского пола существительными женского и мужского рода / Н.А.Янко-Триницкая // Развитие словообразования современного русского языке. – М., 1966.

5. Степанова, М.Д. Теоретические основы словообразования в немецком языке / М.Д.Степанова, В.Фляйшер.– М.: Высшая школа, 1984. – 264 с.

6. Словарь словообразовательных элементов немецкого языка / А.Н. Зуев [и др.]; под рук. М.Д. Степановой. – 2-е изд., стереотип. – М.: Рус. яз., 2000. – 536 с.

7. Беларуска-рускі слоўнік. У 3 т. / пад рэд. А.І Падлужнага. Выданне 3-е, папраўл. і дапоўн. – Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2003.

8. Кур'яненка, М.І. Нямецка-беларускі слоўнік = Deutsch-belarussisches Wörterbuch:больш за 50000 словаў / М.І. Кур'яненка. – Мінск: Зміцер Колас, 2006. – 976 с.



УДК 811.161.3

**А.М.Лапкоўская** (Гродна)

## ДЫЯЛАГІЧНАСЦЬ І АДРАСАВАНАСЦЬ У НАВУКОВЫМ ДЫСКУРСЕ

Адной з неабходных якасцей сучаснага вучонага з'яўляецца ўменне эфектыўна ўдзельнічаць у навуковай камунікацыі, правільна карыстацца навуковым дыскурсам як у вуснай, так і ў пісьмовай форме. Абмен інфармацыяй – абавязковы кампанент навуковага працэсу. Для кожнага аўтара навуковага тэксту важна, каб яго даследаванне было апісана ў дакладнай, поўнай і кароткай манеры так, каб яго работа магла быць паўторана іншымі даследчыкамі, і адпаведна, ацэнена ў навуковым асяроддзі.

Для нашага часу характэрным з'яўляецца пашырэнне сфер зносінаў людзей, павелічэнне ліку сітуацый, калі людзям неабходна пераконваць адзін аднаго, уступаючы ў зносіны, таму актуальным з'яўляецца вывучэнне фактара адрасата – эфектыўнага ўліку асаблівасцей той аўдыторыі, на якую накіравна маўленчае ўздзеянне [1, с. 172].

Прадметам нашага даследавання стаў навуковы дыскурс. Паколькі мэтаю гэтага віду дыскурса з'яўляецца інфармаванне, прыўнясенне новых ведаў, то мы можам лічыць навуковыя тэксты камунікатыўна накіраванымі, таму што зносіны трактуюцца як інтэрындывідуальная камунікацыя, накіраваная на перадачу інфармацыі і ў гэтым выпадку аўтар навуковага тэксту жадае, каб слухач ці чытач як мага больш зразумелі яго. Такім чынам, інфармаванне – гэта тып асаблівага непрамога ўздзеяння [2, с. 4]. Маўленне (нават унутранае, а тым больш знешняе) заўсёды накіравана на адрасата, нават у выпадках размовы з самім сабой [3, с. 191].

Мы ў сваім артыкуле хацелі б закрануць пытанне пра размежаванне такіх прымет навуковага тэксту, як дыялагічнасць і адрасаванасць. У трактоўцы аднаго з буйнейшых рускіх вучоных XX стагоддзя М.М.Бахціна дыялог з'яўляецца універсальным паняццем, «якое пранізвае ўсё чалавечае маўленне і ўсе адносіны і з'явы чалавечага жыцця, увогуле ўсё, што мае сэнс і значэнне» [4, с. 49].

Дыялагічнасць навуковага тэксту, якая з'яўляецца атрыбутам і ўмоваю жыццяздольнасці сістэмы камунікацыйнага абмену

інфармацыяй, што сфакусавана на камунікатыўнай накіраванасці на адрасата, па меркаванні многіх даследчыкаў, з'яўляецца неад'емнай часткай існавання тэкстаў (хаця у ХХ стагоддзі лічылася, што навуковаму маўленню не ўласціва арыентацыя на адрасата [М.М.Сенкевіч, 1967]). Як адзначае М.М.Кожына «…прыметы навуковага маўлення, якія набліжаюць яго з дыялагічным – накіраванасць на адрасата і ўлік яго ў структуры тэксту» [3, с.196].

Прымета дыялагічнасці навуковага маўлення мае дзве асновы:

1) лінгвістычную, якая выцякае з камунікатыўнай сутнасці мовы;

2) гнасеалагічную і логіка-псіхалагічную, што звязаны з характарам навуковага маўлення і навуковай творчасці [3, с. 194].

Навуковы выклад мае сваёй асноўнай мэтай уздзеянне на розум, а не на пачуцці чытача; ён разлічаны не на эмацыйна-пачуццёвае, а, перш за ўсё, на лагічнае ўспрыманне. У працэсе дыялагічнасці адбываецца не толькі абмен інфармацыяй, але і з'яўляюцца пункты гледжання, светапоглядныя пазіцыі, каштоўнасныя арыентацыі, вымалёўваюцца подступы да ісціны, пры гэтым адбываецца або ўмацаванне поглядаў, меркаванняў адносна гэтага пытання, або наадварот выпрацоўваецца новы погляд; тэксты, якія змяшчаюць элементы дыялагічнасці, не проста прачытваюцца, яны глыбока асэнсоўваюцца, інтэрпрэтуюцца і пераапрацоўваюцца чытачом. У любым выпадку, як сцвярджае У.І.Кунчанка, дыялог з аўтарам / адрасатам дае як дадатковыя веды, так і магчымасць прыўнесці ў дыялог свой новы сэнс [5, с. 12]. Так, пацверджаннем дыялагічнасці, г.зн. наяўнасці адрасата, а значыць камунікатыўнай накіраванасці на яго, авалоданне ўвагай адрасата, можа служыць займеннік «мы», які ў сучасным навуковым тэксце выкарыстоўваецца для абазначэння суб'ета выкладу, і часцей за ўсё аб'ядноўвае аўтара і чытача, што звязана ў асноўным з «інтымізацыяй апавядання для стварэння кантакту паміж аўтарам і чытачом» [3, с. 173], выкарыстанне ў навуковых тэкстах пабуджальных сказаў з дзеяслоўнымі формамі другой асобы множнага ліку, у якіх сумяшчаюцца значэнні вытворцы дзеяння і адрасата волевыяўлення. Дадзеныя канструкцыі выкарыстоўваюцца ў форме арыентацыі на чытача, актывізацыі яго ўвагі ў выглядзе так званых канструкцый і зваротаў сувязі (*уважліва сачыце за…; звярніце ўвагу на…; заўважце, што…* і да т.п.), актывізацыі яго мыслення, г.зн. у эўрыстычнай функцыі (*успомніце…; узгадайце…; звярніцеся да…* і г.д.), а таксама для стварэння нагляднасці выкладу (*прыслухайцеся да…, паглядзіце на…; гляньце на тое, што…* і г.д.), комплекс «пытанне – адказ», пры гэтым стылістыка-камунікатыўныя функцыі пытанняў як і іх структура (а таксама формы адказаў і сродкі сувязі з пытаннем) дастаткова разнастайныя, таму што яны пабуджаюць да канкрэтных дзеянняў, садзейнічаюць кансалідацыі аўдыторыі; пераказ, аднаўленне чужога меркавання ў выглядзе ускоснай мовы (пункт гледжання, выказвання) другой асобы; пабочныя і ўстаўныя канструкцыі адпаведнай семантыкі (*па яго меркаванні…; на яго погляд…; як вы разумееце…* і г.д.), зварот да супрацьпастаўленняў, падкрэсленым выкарыстаннем супраціўных злучнікаў, часціц для прыцягнення ўвагі чытача да якога-небудзь боку зместу (напрыклад: *Мяркуецца, аднак, што такія выпадкі не даюць падставы для …*), акрамя таго, паведамляючы адрасату свій намер, аўтар імкнецца выклікаць у яго патрэбныя асацыяцыі, актуалізаваць тыя веды, якія ў адрасата ўжо ёсць. Гэту ж задачу выконваюць і разнастайныя спасылкі і нагадванні, у тым ліку і ўказанні на сувязь з папярэднімі адрэзкамі тэксту, выкарыстанне структуры складанага сказа, – які дадае, азначае, удакладняе, тлумачыць, значэнні ў сувязі з раскрыццём пункту гледжання выступаючых, чужое маўленне ў выглядзе прамой цытацыі ( *Сучасная псіхалогія ўяўна паказвае, што…; як адзначае Дж. Бернал «…цывілізацыя, якой мы яе цяпер ведаем, у яе матэрыяльным аспекце немагчыма без навукі…*), што дазваляе гаварыць тут пра фенамен інтэртэкстуальнасці. Спасылкі, напаміны, указанні на сувязь з папярэднімі адрэзкамі тэксту М.М.Бахцін абазначаў як «унутраную дыялагічнасць» [4, с. 228]. Адносна пытання адрасаванасці, то даследчык Т.М.Міхайлюк вызначае дадзенае паняцце як іманентную ўласцівасць навуковага тэксту ў якасці аб'екта вербальнай камунікацыі, скрозь прызму якога апрадмечваюцца ўяўленні пра прагназуемы адрасат якога-небудзь тыпу навуковага тэксту і спецыфіцы інтэрпрэтацыйнай праграмы, абумоўленай экстралінгвістычнымі асаблівасцямі спецыяльнай навуковай камунікацыі [6, с. 7]. З нашага пункту гледжання, адрасаванасць пададзена ў навуковых тэкстах імпліцытна, таму што адрасаванасць прадвызначае толькі валоданне навукова-паняційным апаратам, акцэнтуацыя на новых фактах, лагічны, рацыянальны спосаб пераканання, рэальныя факты, пераваладанне усходнай аргументацыі

(ад менш моцнага аргумента да больш моцнага), выклад фактаў, якія пабудаваны на пазітыўнай аснове.

Такім чынам, мы можам паспрабаваць прадвызначыць, што адрасаванасць з'яўляецца «субкатэгорыяй» дыялагічнасці, гаворачы іншымі словамі, паняцце «дыялагічнасць» уяўляецца гіперонімам у адносінах да гіпоніма «адрасаванасць».




Дадзеная схема паказвае, што «праслойкай» паміж адрасантам і адрасатам у тэксце з'яўляюцца дыялагічнасці і адрасаванасць, якія паказаны іерархічна, г.зн. дыялагічнасць «вышэйшая» за адрасаванасць, з'яўляецца гіперонімам у адносінах да адрасаванасці. Хаця чытач або слухач тэксту з'яўляецца гіпатэтычным, не «яўным», тым не менш, дадзены працэс мае двухнакіраванасць, «абаюднасць» руху, таму што пры прачытанні / успрыманні навуковага тэксту ў аўтара і адрасата ўзнікае своеасаблівы від дыялога. Дадзены працэс з'яўляецца творчым, уяўляецца таксама працэсам, які не проста накіраваны на атрыманне інфармацыі, але і на актыўную яе пераапрацоўку, г.зн. суадносіць з ужо існуючымі ведамі, упарадкуе іх, знаходзіць супрацьпастаўленні, адшуквае шляхі іх вырашэння, што праяўляецца ў форме «адказ – пытанне», у ацэнцы чужых сэнсавых пазіцый, у аднаўленні мікрадыялогаў.



Падводзячы вынік вышэйадзначанаму, можна сказаць, што спецыфіка адрасата навуковага тэксту – агульная навуковая спецыяльнасць (і адрасата, і адрасанта), прыналежнасць да аднаго накірунка, прагматычная ўстаноўка тэксту – перакананне пры дапамозе лагічнага абгрунтавання. Передача зместу навуковага тэксту вызначаецца як камунікатыўна-інфарматыўная.

*Спіс літаратуры*

1. Стернин, И.А. Фактор адресата в речевом воздействии / И.А. Стернин. – Вестник ВГУ, Серия: Филология. Журналистика. 2004. – №1. – С. 171 – 179.

2. Матвеева, Г.Г. Актуализация прагматического аспекта научного текста / Г.Г. Матвеева. – Издательство Ростовского университета, 1984. – 132 с.

2. Кожина, М.Н. Диалогичность письменной научной речи как проявление социальной сущности языка / М.Н. Кожина. – М.: Наука, 1987.

3. Бахтин, М.М. Проблемы поэтики Достоевского / М.М. Бахтин. – М.: Советская Россия, 1979. – 316 с.

4. Кунченко, В.И. Диалог с текстом как условие понимания философской проблемы / В. И. Кунченко // Hermeneutics in Russia. Volume 1. – 1998.

5. Михайлюк, Т.М. Лингвостилистические средства стереотипности научной прозы (на материале современной французской медицинской статьи): автореф. дис. … канд. филол. наук / Михайлюк Т.М. – М.: МГЛУ, 1991. – 24 с.

6. Матвеева, Г.Г. Актуализация прагматического аспекта научного текста / Г.Г. Матвеева. – Издательство Ростовского университета, 1984. – 132 с.

УДК 811.161.3 + 811.161.1 + 811.111

**Т.В. Лапшына** (Магілёў)

## МАТЫВАВАНАСЦЬ АРНІТОНІМАЎ (НА МАТЭРЫЯЛЕ БЕЛАРУСКІХ, РУСКІХ І АНГЛІЙСКІХ АРНІТОНІМАЎ)

Сучасная матывалогія, гарманічна аб'ядноўваючы ў сабе ўсе актуальныя падыходы да вывучэння моўных з'яў, накіравана на выяўленне вытлумачальнасці, матываванасці сувязі гучання і значэння слова з улікам сведчанняў моўнай свядомасці носьбітаў той ці іншай мовы. Гэта ж тычыцца і тэрміназнаўства.

Тэрміналогія як асобы разрад лексікі і тэрмін як асобая разнавіднасць слова ці словазлучэння даўно з'яўляюцца аб'ектам навуковага даследавання, паколькі без вырашэння праблем і пытанняў, звязаных з тэрміналогіяй, не можа на сённяшні дзень абысціся ні адна лінгвістычная тэорыя, калі яна імкнецца адлюстроўваць сучасны стан развітых літаратурных моў.

Адным з пацвярджэнняў цесных сувязей тэрміналагічнай лексікі з агульналітаратурнай з'яўляецца, напрыклад, тое, што і пры ўтварэнні тэрміналагічнай лексікі дзейнічаюць ты ж законы, што і пры ўтварэнні агульналітаратурнай лексікі; тымі ж спосабамі словаўтварэння, якія абслугоўваюць мову ў цэлым, карыстаецца і тэрміналогія.

Аднак, як вядома, тэрмін павінен адпавядаць пэўным патрабаванням: павінен быць адназначным, стылістычна і экспрэсіўна нейтральным, незалежным ад кантэксту і г.д.. У некаторых аўтараў сустракаюцца выказванні і адносна такой прыметы тэрмінаў, як матываванасць.

На прыкладах арнітонімаў беларускай, рускай і англійскай моў мы і паспрабуем разгледзець пытанні, звязаныя з праблемай матываванасці арнітонімаў.

Лексіка-тэматычная група, а таксама лексіка-семантычная група «арнітонімы» ў кожнай мове фарміравалася паступова з спрадвечных і іншамоўных элементаў. І тыя і другія абазначэнні могуць быць выражаны як адным словам, так і словазлучэннем.

За час існавання рэгулярных арніталагічных даследаванняў сярэдзіны 18 ст. і да нашых дзён, напрыклад, рускія арніітолагі (таксама і беларускія) выкарыстоўваюць для абазначэння аб'ектаў сваіх даследаванняў лацінскія, рускія літаратурныя і мясцовыя дыялектныя назвы птушак. Нягледзячы на шырокае ўжыванне традыцыйна рускіх назваў птушак, сэнсавае значэнне многіх з іх , а тым больш іх паходжанне, паўзабытыя або поўнасцю згубленыя. Аднак, узнікшыя ў мове ў глыбокай старажытнасці, назвы птушак з'яўляюцца важным элементам культуры народа і нясуць у сабе інфармацыю пра характэрныя асаблівасці кожнага віда. Гэта інфармацыя захоўваецца ў свядомасці людзей на працягу доўгага часу і садзейнічае ўтварэнню неабходных асацыятыўных сувязей паміж назвай і тыповымі рысамі біялогіі птушкі. На жаль, змешчаная ў назвах птушак інфармацыя ў наш час амаль страчана.

Арнітонімы − абавязковая частка тэрміналогіі любой мовы, пры гэтым многія з назваў птушак уваходзяць у актыўную частку лексікі. З'яўляючыся намінатыўнымі адзінкамі, арнітонімы знаходзяцца ў парадыгматычных і сінтагматычных адносінах паміж сабою і з астатнімі словамі мовы.

Значэнне арнітоніма, як і значэнне любога слова, гэта элемент структуры знакавай сітуацыі, які забяспечвае асацыятыўную сувязь плана выражэння лексічнай адзінкі з яе дэнататам і яе паняццем. У нашым выпадку пад дэнататам разумеюць як асобную птушку , так і сукупнасць птушак, а пад паняццем − уяўленне аб дэнатаце ў межах моўнай ці сацыяльнай агульнасці.

Несупадзенне названых элементаў (частковае або поўнае), якое назіраецца нават у роднасных мовах, стварае цяжкасці пры апісанні, супастаўленні, перакладзе арнітонімаў. Адрозненні паміж мовамі могуць тычыцца ўсіх трох кампанентаў слова – яго дэнатата, аб'ёма і характару паняцця (у прыватнасці, ступені яго абстрагавання) і яго экспанента. Прычым усё гэта суправаджаецца іншымі, як уласна лінгвістычнымі, так і экстралінгвістычнымі момантамі – розніцай у складзе відаў птушак на тэрыторыі краін, мовы якіх вывучаюцца і супастаўляюцца; разыходжаннем у колькасці назваў адной і той жа птушкі, у ступені яе ментальнай актуальнасці для гаворачых на гэтых мовах.

Цікава прасачыць, што ляжыць у аснове называння той ці іншай птушкі ў розных мовах, як блізкіх, так і не вельмі блізкіх. У выніку ж параўнання арнітонімаў можна заўважыць, што часта розныя прыметы былі пакладзены ў час называння носьбітамі розных моў.

У нашай мове, напрыклад, пачулі, як птушка спявае, і далі назву за голас; другую ўбачалі і далі назву за крылы і хахалок; за трэцяй назіралі і далі назву паводле нейкай дзейнасці (функцыі) ці месца пражывання.

А ў другой мове можа быць усё наадварот: могуць даць назву, напрыклад, за знешні выгляд, а не за голас, як у нашай мове. А калі ўлічыць, што і чуюць, і бачаць, і назіраюць усе па-свойму, то можна зразумець, што разыходжанням у мовах няма межаў.

Напрыклад, слова «варона», напэўна, існуе для перадачы колеру птушкі − «вараны», «чорны», а англійскае слова «crow» – гукапераймальнае (па-англійску «croak», «caw» абазначае «каркае»).

Снягір атрымаў такую назву за тое, што прылятае да нас тады, калі паяўляецца снег. У Англіі ж ён называецца «бычы зяблік» або «буйны зяблік» – «bullfinch». Па іншай тэрміналогіі, снягір называецца «ружовым зяблікам». У іспанскай мове снягір называецца «каралеўскім зяблікам».

Чачотцы, насупраць, носьбіты беларускай і рускай моў далі імя за голас, а носьбіты англійскай мовы – за знешні выгляд. Руская назва дае

ўяўленне пра голас птушкі: лічыцца, што яна вымаўляе характэрнае «чет-чет-чет» Англійская назва «redpoll» («чырвоная макушка», «чырвонагаловік», «чырвоная шапачка») недвусэнсоўна намякае на афарбоўку апярэння. І сапраўды, гэтая маленькая птушачка па велічыні нагадвае вераб'я і ў цэлым на яго падобная, але адрозніваецца ад яго малінава-чырвонай шапачкай і грудкай.

Не здзіўляе і той факт, што англійская сініца называецца «tit», таму што менавіта на гэты гук, на думку стваральнікаў слова, падобны яе голас, а не на «сінь», як мы прывыклі лічыць.

На фоне такой блытаніны падобныя назвы тым больш здзіўляюць тады, калі носьбіты розных моў заўважылі ў птушцы адно і тое ж, што і легла ў аснову стварэння арнітоніма.

Праблема матываванасці знака абмяркоўвалася яшчэ ў антычнасці, аднак найбольш ясна і эксплііцытна яна была, як вядома, выкладзена Ф.дэ Сасюрам. «Не існуе моў, дзе няма нічога матываванага, аднак немагчыма сабе ўявіць і такую мову, у якой матывавана было б усё. Паміж гэтымі дзвюма крайнімі кропкамі – найменшай арганізаванасцю і найменшай адвольнасцю – можна знайсці ўсе прамежкавыя выпадкі. Ва ўсіх мовах маюцца дваякага роду элементы – цалкам адвольныя і адносна матываваныя, – аднак у даволі розных прапорцыях, і гэту асаблівасць моў можна выкарыстоўваць пры іх класіфікацыі» [1, с. 165]. Даследчыкі Ул.Р. Гак, В.І. Блінова, А.М. Ціханаў і іншыя сыходзяцца ў тым, што матываваных слоў значна больш, чым нематываваных. Гэтым і вызначаецца перш за ўсё важнасць і актуальнасць словаўтваральнай матывацыі. Матываванасць – цэнтральнае паняцце сінхроннага словаўтварэння, паколькі асноўным прадметам вывучэння ў сінхронным словаўтварэнні з'яўляюцца матываваныя словы.

Матываванасць слова – гэта абумоўленасць яго значэння значэннем іншага слова, ад якога яно ўтворана. Пад матываванасцю ў матывалогіі разумеецца структурна-семантычныя ўласцівасці слова, што дазваляюць усвядоміць узаемаабумоўленасць сувязі значэння (семемы) і гучання (лексемы) слова на аснове суадноснасці яго з моўнай ці пазамоўнай рэчаіснасцю.

У апошнія дзесяцігоддзі інтэнсіўнае развіццё атрымала супастаўляльная матывалогія, аб'ект аналіза якой складае з'ява матывацыі слоў у розных мовах ці дыялектах.

Супастаўляльная матывалогія разумеецца як навука, якая вывучае лексічную сістэму дзвюх ці больш моў (або форм адной мовы) з пункту погляду матываванасці метадам супастаўлення іх. Супастаўленне адной мовы з іншымі мовамі з'яўляецца найбольш перспектыўным метадам выяўлення характэрных рыс і тэндэнцый семантычнай структуры мовы.



Таму ў супастаўляльных даследаваннях нельга абмяжоўвацца толькі выяўленнем разыходжанняў, аднолькава важна і апісанне агульнага, таго, што супадае. Пры гэтым вельмі важным з'яўляецца высвятленне характару і ўдзельнай вагі спецыфічнага і агульнага.

Матывіровачныя прыметы могуць адлюстроўваць як істотныя, так і менш істотныя ўласцівасці прадметаў (параўн., напрыклад, МП, што ўказвае на прыналежнасць птушкі да пэўнага роду, віду, сямейства). Гэта залежыць ад рада фактараў – ад вопыту інфарманта, які матывуе лексічную адзінку, яго сацыяльнай прыналежнасці, узросту, але галоўнае – ад таго, якую ўласцівасць рэаліі інфармант лічыць найбольш важнай для характарызуемай лексічнай адзінкі. У залежнасці ад характару МП у арніталагічнай лексіцы беларускай, рускай і англійскай моў можна вылучыць наступныя групы:

**Паводле голасу (гукапераймання) птушкі:**

*перасмешка* (бел.)‒ птушка сямейства валасянак атрада вераб'іных (песня ‒ у асноўным перайманне галасоў іншых птушак);

*пискулька (русск.)* ‒ звукоподражательное «пищать». Пискливый крик характерен для одного из гусей, которого так и зовут ‒ пискулька;

*chat* (англ. )– пеўчыя птушкі, якія атрымалі сваю назву за рэзкія крыкі, што нагадваюць балбатню, мармытанне.

**Паводле месцазнаходжання (жыхарства) птушкі:**

*чаротніца (бел.)* ‒ птушка, якая жыве на зарослых чаротам і трысняговых вадаёмах;

*каменка (русск.)* – (живет на камнях). Гнезда строит чаще всего на земле и в щелях каменных строений, около пней, кустов, груды камней;

woodcock (англ.)‒ утворана пры дапамозе двух слоў, якія абазначаюць «wood»‒ лес і «cock» ‒ самец.

**Паводле спосабу харчавання птушкі:**

*мышалоў (бел)* ‒ птушка харчуецца мышамі;

*кедровка (русск.)* – основная пища птицы – семена кедра;

*nutcracker (англ.)* ‒ утворана ад слоў «nut»‒ арэх і «cracker» ‒ раскалываць; птушка харчуецца арэхамі.

**Паводле афарбоўкі апярэння птушкі:**

*бусел* (бел.)‒ лічыцца, што гэта назва звязана з рускім прыметнікам «бусы» ‒ шэры;

*зарянка* (русск.) ‒ птица имеет красную грудку (ее еще называют по той же причине малиновкой);

*redstart (англ.)* – чырвоны хвост. Названая так за колер хваста. Хвост, грудка, чэрава і бокі іржаўчата-чырвонага колеру.

**Паводле знешняга выгляду птушкі:**

*крыжадзюб (бел.)* − утворана пры дапамозе злучэння двух слоў: «крыж» і «дзюба». Птушка мае загнутую перакрыжаваную на канцы дзюбу;

*галстучник* (русск.) – (будто галстук на шее). Галстучник имеет нижнюю сторону тела белую с черной поперечной полосой на шее (с «галстуком»);

*barbet* (англ.) – (з барадой). Добра развітыя шчацінкі пад дзюбай. Гэтыя шчацінкі ўтвараюць пад дзюбай птушкі падабенства рэдкай барады, за што ўсё сямейства і атрымала сваю назву.

**Паводле падабенства функцыі (дзеяння), манеры паводзін птушкі:**

*Нырэц(бел.)* − вадаплаўная птушка сямейства качыных, якая здабывае сабе корм, ныраючы пад ваду;

*поползень* (русск.) − птица, передвигаясь по земле, как бы ползет;

*нarrier* (англ.) − утворана ад «harry», што азначае «рабіць напад», спустошваць. Птушка разарае гнёзды іншых птушак.

**Паводле пэўнай уласцівасці птушкі і асацыяцыі:**

Да гэтай групы можна аднесці арнітонімы, што звязаны непасрэдна з уласцівасцю птушкі, напрыклад:

беларуск. *глушэц* − ад прыметніка «глухі». Названа так у сувязі з тым, што птушка пры такаванні як бы глухне;

руск. *глупыш* – глупая и доверчивая птица, не боится человека как на гнездовьях, так и во время кочевок. Глупыши весьма прожорливы и иногда доедаются до того, что прежде , чем подняться в воздух, должны отрыгнуть часть добычи;

англ. l*ovebird* – ( закаханыя птушкі). Птушкі прыметныя прыгожым апярэннем, і, мяркуючы па знешнім выглядзе, пары любяць сядзець блізка адно да аднаго.

Сюды адносім арнітонімы, звязаныя асацыятыўнымі і іншымі сувязямі паміж птушкай і чалавекам, напрыклад:

беларуск. *чарнец* − птушка сямейства качыных;

руск. *авдотка* – была обнаружена Авдотьей;

англ. *ovenbird* – птушка будуе ў дажджлівы сезон вялікае гняздо, падобнае на печ.

У арнітаніміі знаходзім шмат тэрмінаў, у аснове якіх ляжаць аб’ектыўныя прыметы матывацыі (колер, знешні выгляд, функцыя і інш.) і разам з тым абавязкова прысутнічае асацыяцыя.

Аналізуючы арнітонімы ў беларускай, рускай і англійскай мовах, нельга не заўважыць, што арніталагічная лексіка беларускай і рускай тэрміналогій прыкладна ў аднолькавай меры прадстаўлена матывіровачнымі прыметамі, звязанымі з гукападражаннем і знешнім выглядам птушкі. У англійскай жа тэрміналогіі арнітонімы характарызуюцца наяўнасцю матывіровачнай прыметы, звязанай са знешнім выглядам; значна менш у параўнанні з беларускай і рускай мовамі арнітонімаў, матывіровачная прымета якіх звязана з голасам птушкі



У сувязі з усім вышэйсказаным напрошваецца вывад аб тым, што дамінантнай рысай беларускіх і рускіх арнітонімаў з’яўляецца наяўнасць матывіровачных прымет, звязаных з голасам і знешнім выглядам птушкі, а ў якасці адметнай рысы арніталагічнай лексікі англійскай мовы можна назваць матывіровачную прымету, якая ўказвае на знешні выгляд птушкі.

Аднак, нягледзячы на некаторыя адрозненні ў выбары матывіровачнай прыметы для называння птушкі, у цэлым матывіровачныя прыметы ў беларускай, рускай і англійскай мовах характарызуюцца агульнасцю.

*Спіс літаратуры*

1. Де Соссюр, Ф. Курс общей лингвистики / Ф. де Соссюр // Труды по языкознанию. − М., 1977. − 297 с.

УДК 811.161.3

**Д.А. Лаўшук**, **І.М. Ячмянёва** (Магілёў)

## АСНОЎНЫЯ СПОСАБЫ КАМПРЭСІІ КОМПЛЕКСНЫХ НАМІНАЦЫЙ (НА МАТЭРЫЯЛЕ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ)

У сучаснай сельскагаспадарчай тэрміналогіі, як і ў многіх іншых галіновых тэрмінасістэмах, для называння новых паняццяў і рэалій усё часцей выкарыстоўваюцца шматслоўныя намінацыі: *бульбасаджалка з прыстасаваннем для радковага ўнясення ўгнаенняў*, *прэс для выбару земляных расадачных камочкаў*, *канцэнтраваны корм з высокім утрыманнем бялку*, *машына для ўборкі і ўкладкі бацвіння ў падоўжныя радкі*, *штурхальная валакуша з верхнім і бакавымі захватамі* [1] і інш. Звязана гэта ў першую чаргу з ускладненнем самога працэсу сельскагаспадарчай вытворчасці, з механізацыяй і аўтаматызацыяй усіх галін сельскай гаспадаркі. Намінацыі, што ўліваюцца ў сучасную тэрміналогію, прызначаны часам называць паняцці вельмі складаных тэхнічных механізмаў, здольных выконваць адначасова некалькі розных аперацый. Таму падобныя найменні валодаюць складанай структурай, утвараючы тэрміны-ланцужкі. Зразумела, цяжка адразу знайсці для іх больш кампактныя адпаведнікі, якія б здолелі

адлюстраваць неабходныя і дастатковыя прыметы адпаведных паняццяў. Але што датычыць тэрмінаў тыпу *баначны высяўны апарат адназерневага высеву* ці *высяўны апарат з верхнім высевам*, то тут, здаецца, відавочная перанасычанасць неабходнымі прыметамі. Калі апарат прызначаны для высеву і гэта адлюстравана ў структуры паняцця, то няма патрэбы ў склад і без таго доўгага наймення ўводзіць лішні тэрмінаэлемент «высяўны». Наўрад ці адпавядаюць нормам сучаснай беларускай мовы і комплексныя намінацыі сферы фіксацыі тыпу *наколваючы захват бульбасаджалкі, сыходзячаяся пастава канечнасцей* [1] і пад. Часам у слоўніках фіксуюцца тэрміны-словазлучэнні, у склад якіх уваходзяць дзеепрыметныя звароты: *хвароба, выкліканая няправільным кармленнем;* злучнікі і злучальныя словы, што звычайна служаць для сувязі слоў у сказе: *аднанасенны плод, які не растрэскваецца; аўтаматычная паілка з крышкай, што закрываецца; барана з зубамі, якія прымусова хістаюцца; выразанне парасткаў, якія далі плады; кампост з торфу і зялёнай масы; кантроль надояў і якасці малака; прэс, які дае цюкі вялікай шчыльнасці; ягня, якое ссе іншых аўцаматак* [1] і інш. Падобныя канструкцыі вельмі цяжка (а хутчэй немагчыма) кваліфікаваць як тэрміны: гэта паняцці, для якіх спецыялісты і мовазнаўцы яшчэ не знайшлі адпаведнай тэрміналагічнай намінацыі.

Паколькі доўгія назвы не вельмі зручныя ў выкарыстанні, то ў сферы функцыянавання яны ўсё часцей скарачаюцца і т.ч. на практыцы рэалізуецца прынцып адпаведнасці тэрміна патрабаванню быць кароткім. Даследчыкі вылучаюць два асноўныя прыёмы скарачэння тэрміналагічных намінацый – словаўтваральныя і лексічныя [2, с. 43]. Паспрабуем выявіць, наколькі яны прадуктыўныя ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі.

Сярод ***словаўтваральных*** прыёмаў кампрэсіі тэрміналагічных найменняў вылучаюцца абрэвіяцыя і дэрывацыя [2, с. 43]. Дзякуючы сваёй уласцівасці ў сціслай форме называць складанае паняцце, ***абрэвіяцыя*** становіцца ўсё больш папулярным спосабам утварэння спецыяльных найменняў. Замене грувасткіх тэрмінаў скарочанымі адпаведнікамі садзейнічае частае ўжыванне першых. У сельскагаспадарчай тэрміналогіі сустракаюцца як часткова скарочаныя тэрміны (*дзяржплемкніга, насенфонд, племмаладняк, сельгасінвентар*), так і складанаскарочаныя абрэвіятуры: складовыя (*амафос, дзяржплемгас, калгас, лясгас, насенсаўгас, племгас*) і ініцыяльныя (*АФК* – комплекснае ўгнаенне (азот, фосфар, калій), *ВАУ* – вадкія азотныя ўгнаенні, *ВКУ* – вадкія комплексныя ўгнаенні, *ВМУ* – вадкія мінеральныя ўгнаенні, *АМБ* – аўтахтонная мікрафлора групы Б, *ІПС* – інкубатарна-птушкагадоўчая станцыя, *ППГ* – пшанічна-пырнікавы гібрыд). Ініцыяльныя абрэвіятуры часцей спалучаюцца з іншымі сімвалічнымі абазначэннямі: *АІД-1* (*агрэгат індывідуальнага даення*), *СТДБ-20* (*садовая трактарная дыскавая барана*), *ПС-3-30* (*садовы трохкорпусны плуг*), *ПП-50* (*трактарны плантажны плуг*) і пад. З прыведзеных прыкладаў няцяжка заўважыць, што некаторыя ініцыяльныя абрэвіятуры не поўнасцю адлюстроўваюць тэкст тэрміна-словазлучэння. Па сваёй функцыі падобныя найменні набліжаюцца да наменклатурных знакаў. Не ўсе даследчыкі станоўча адносяцца да існавання абрэвіятур і нават лічаць, што ад іх належыць пазбаўляцца, паколькі такія скарачэнні паслабляюць сістэмныя сувязі паміж тэрмінамі. Абрэвіятуры «часта бываюць зразумелыя толькі вузкаму колу спецыялістаў, таму могуць кваліфікавацца не як скарочаныя варыянты кадыфікаваных тэрмінаў, а як нестандартныя прафесіяналізмы. Менавіта ў сувязі з гэтым ад іх належыць пазбаўляцца для захавання сістэмнасці тэрміналогіі» [3, с. 38]. Сапраўды, неспецыялісту часам цяжка «расшыфраваць» значэнне ініцыяльных абрэвіятур, змешчаных у даведачнай літаратуры, калі яны не ўжываюцца разам з поўнай назвай. У пэўных выпадках з кантэксту можна здагадацца, пра што вядзецца гаворка: «Каб садзейнічаць пераводу азоту ў даступную для раслін форму, трэба … выкарыстоўваць мікрабіялагічныя прэпараты *АМБ*» [4, с. 447]. Напэўна, размова ідзе пра азотныя мікрабіялагічныя прэпараты. Але найчасцей з кантэксту вынікае значэнне толькі адной са структурных частак абрэвіятуры: «Калі папярэднікамі былі травы, то пасля іх уборкі праводзяць *лушчэнне* з дапамогай *ЛДГ-5*» [4, с. 462] (паколькі ўзгадваецца працэс лушчэння, то Л – гэта лушчыльнік, а вось што такое ДГ, застаецца толькі здагадвацца). «Са з'яўленнем пустазелля ў асенні перыяд участкі *культывуюць **КПС-4***» [4, с. 462] (культывуюць, зразумела, культыватарам, але што такое ПС?). У асобных выпадках неспецыялісту наогул немагчыма «расшыфраваць» змест ініцыяльнай абрэвіятуры: «Пасадку рэкамендуецца рабіць расадапасадачнай машынай СКН-6А» [4, с. 462]. Таму пры выкарыстанні абрэвіятур (у першую чаргу ініцыяльных) у даведачнай літаратуры, прызначанай для шырокага кола карыстальнікаў розных прафесій, трэба абавязкова падаваць іх зыходную поўную форму.

Найменні, утвораныя шляхам ***дэрывацыі***, найбольш рацыянальныя, паколькі яны і кароткія, і семантычна матываваныя. Пры гэтым спосабе кампрэсіі тэрміналагічнага словазлучэння скарочаная частка выражаецца значэннем словаўтваральнага афікса [2, с. 49]: *першы рой – пярш**ак**, каровін гной – карав**як**, аўсянае поле –*

*аўсян**ішч**а, жытняя поле – жытн**ішч**а, ламавы конь – ламав**ік**, маладое малако – малодз**ів**а, маладая курыца – малод**к**а, кормны кабан – корм**ік**, ялавая матка – ялаў**к**а, азімыя пасевы – азім**ін**а, васковае люстэрка – васкав**іц**а, матачны гадавальнік – матачн**ік**, марыльная камера – марыл**к**а* і інш. Падобны спосаб кампрэсіі комплекснага наймення кваліфікуецца ў сучаснай лінгвістыцы як суфіксальная універбацыя. Моўная дакладнасць і кароткасць – асноўныя перавагі суфіксальных універбатаў, якія забяспечылі іх трывалае замацаванне ў мове навукі. Як пэўны недахоп намінацый, скарочаных такім спосабам, можна назваць іх шырокую семантыку. Так, лексема *малочніца* ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі ўжываецца і як ветэрынарны тэрмін, і са значэннем «малочная карова». У ТСБМ найменне фіксуецца са значэннямі «прадаўшчыца малака і малочных прадуктаў» (разм.) і «захворванне слізістай абалонкі рота (пераважна ў грудных дзяцей)» [5, т. 3, с. 97]. Найменне *мешанка* мае не толькі значэнне «мешаны корм», але і «змешаны пасеў кармавых раслін» [5, т. 3, с. 148]. Найменне *матачнік* абазначае не толькі матачны гадавальнік, але і першагоднікі агароднінных культур: «Матачнікам капусты называецца расліна, што дасягнула фазы тэхнічнай спеласці качана і ўбіраецца цалкам з карэннем» [4, с. 452].

У межах сельскагаспадарчай тэрмінасістэмы вельмі распаўсюджаны такі спосаб кампрэсіі спецыяльнай намінацыі, як утварэнне тэрмінаў-кампазітаў: *капалка для бульбы – бульбакапалка, малатарня для ільну – ільномалатарня, сарціроўка канюшыны – канюшынасарціроўка, сушылка для агародніны – агароднінасушылка, стамленне глебы – глебастамленне, сартавая прачыстка – сортапрачыстка, пераварочвальнік валкоў – валкапераварочвальнік, цёрка для ільну і канюшыны – ільноканюшынацёрка.* Прадуктыўнасць гэтага спосабу можна растлумачыць яго эканомнасцю і адначасова змястоўнасцю.

Для ***лексічных*** скарачэнняў характэрны два тыпы структурных пераўтварэнняў: тэрміналагічнае словазлучэнне замяняецца адналексемнай намінацыяй і тэрміналагічнае словазлучэнне замяняецца іншым, з меншай колькасцю структурных частак [2, с. 50].

Выкарыстанне тэрмінаў значнай даўжыні і складанай канструкцыі не зусім зручнае, таму ў маўленні яны часта замяняюцца т. зв. няпоўнымі тэрмінамі [6, с. 69], калі ў зыходнай комплекснай назве апускаецца адзін або некалькі тэрмінаэлементаў: *уборачная пара – уборачная, пасяўная пара – пасяўная, першародзячая карова – першародзячая, азімыя збожжавыя культуры – азімыя, яравыя збожжавыя культуры – яравыя, жняярка-самаскідка – самаскідка, хлеў-кароўнік – кароўнік, яйцо-вылівак – вылівак, метысная жывёла – метыс, пчала-зборшчыца – зборшчыца, цяля-сысун – сысун, цыбуля-сявок – сявок, валакуша-шлейф – шлейф, лён-даўгунец – даўгунец* і інш.

Кароткасць – істотная прыкмета тэрмінаў, утвораных у выніку эліпсісу, але яна не павінна дасягацца за кошт пагаршэння семантыкі наймення. Калі, напрыклад, ужываецца назва *шлейф*, то без кантэксту нельга зразумець, пра якое прыстасаванне вядзецца размова, паколькі ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі гэта найменне выкарыстоўваецца і для называння бараны, і для называння валакушы (*барана-шлейф* і *валакуша-шлейф*). Найменне *сысун* ужываецца для называння цяляці (*цяля-сысун*) і парасяці (*парася-сысун*).

У шэрагу выпадкаў тэрміналагічнае словазлучэнне замяняецца аднаслоўным запазычаным ці сваямоўным адпаведнікам: *прышчэпліванне зближэннем – аблакціроўка, міжпароднае скрыжаванне – кросбрыдзінг, апрацоўка насення кіслародам – барбаціраванне, штучная матка – брудэр, пладовая гніль – маніліёз; пасяўны матэрыял – насенне, мыш палявая – жытнік, абразанне суквеццяў – вершкаванне, калёсы для снапоў – драбіны, цэлыя крупы – ядрыца, чаргаванне культур – севазварот* і інш. Падобныя пары найменняў можна кваліфікаваць як дэфінітыўныя сінонімы, у структуры якіх ёсць лексемы, што называюць самыя істотныя прыметы паняцця. Параўн.: *аблакціроўка* – спосаб прышчэплівання, пры якім два парасткі злучаюцца без аддзялення іх ад мацярынскіх раслін [7, с. 25]; *кросбрыдзінг* – метад развядзення сельскагаспадарчай жывёлы, пры якім скрыжоўваюцца жывёлы розных парод [8, с. 673]; *севазварот* – сістэма паляводства з паслядоўным, перыядычным чаргаваннем пасяўных культур на адным і тым жа полі [5, т. 5, кн. 1, с. 104].

Часам тэрміналагічнае словазлучэнне замяняецца менш доўгім: *сяўба квадратна-гнездавым спосабам – квадратна-гнездавая сяўба, прышчэпка ў бакавы зрэз – бакавая прышчэпка, яйцо з крывянымі плямамі на жаўтку – крывяное яйцо, аўтаматычны вязальны апарат – вязальны апарат, перакульная збожжавая вага – перакульная вага, вага для адбору яек перад інкубацыяй – вага для адбору яек, выганка цыбулі ў пяро – выганка цыбулі, падсоснае выпойванне цялят – падсоснае выпойванне, прыстасаванне да радковай сеялкі для высеву кукурузы – прыстасаванне да радковай сеялкі* і інш.

Такім чынам, у сучаснай сельскагаспадарчай тэрміналогіі выкарыстоўваюцца разнастайныя спосабы словаўтваральнай і лексічнай кампрэсіі комплексных намінацый, існаванне якіх многімі даследчыкамі разглядаецца як адзін з найбольш істотных недахопаў сучасных тэрмінасістэм. Зразумела, было б ідэальным, калі б для кожнага паняцця ўдалося падабраць яго кароткую і ў той жа час дакладаную назву. Аднак крытэрый кароткасці нярэдка парушаецца на практыцы і, як сведчаць матэрыялы сучасных слоўнікаў, у большасці

выпадкаў так і застаецца толькі пажаданай прыметай рэальных тэрмінаў, што, у прынцыпе, не перашкаджае ім абслугоўваць многія галіны ведаў, у тым ліку і звязаныя з сельскай гаспадаркай.

*Спіс літаратуры*


1. Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі / Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі; пад рэд. М.В. Бірылы, Г.У. Арашонкавай. – Мінск: Ураджай, 1994. – 560 с.

2. Даниленко, В.П. Ещё раз к вопросу о кратких вариантах термина / В.П. Даниленко // Культура речи в технической документации (на материале ГОСТов и специальной литературы) / Ин-т русск. языка АН СССР; редкол.: Л.И. Скворцов (отв. ред.) [и др.]. – М.: Наука, 1982. – С. 36 – 53.

3. Крыжановская, А.В. Актуальные проблемы упорядочения научной терминологии / А.В. Крыжановская, Л.А. Симоненко. – Киев: Наукова думка, 1987. – 162 с.

4. Энцыклапедыя сельскага гаспадара / Беларус. энцыкл.; рэдкал.: Б.І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш]. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 1993. – 736 с.

5. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР; пад агульн. рэд. К.К. Атраховіча. – Мінск: Беларус. энцыкл., 1977 – 1984. – Т.3: Л – П. – 1979. – 672 с.; Т. 5, кн. 1: С – У. – 1983. – 663 с.

6. Моисеев, А.И. Словарная обработка составных терминов / А.И. Моисеев // Функционирование терминов в современном русском языке: межвуз. сб. – Горький, 1986. – С. 56 – 64.

7. Беларуская Энцыклапедыя. У 18-ці т. – Мінск: Беларус. энцыкл., 1996 – 2002. – Т. 1.

8. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў. У 2 т. / А.М. Булыка. – Мінск: Беларус. энцыкл., 1999. – Т.1: А–Л. – 1999. – 736 с.


УДК 811.161.3

**І.Я. Лепешаў** (Гродна)

## ЦІ ЎСЕ ПРЫКАЗКІ – ВОБРАЗНЫЯ?

Вельмі многія аўтары даведнікаў, падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, артыкулаў, даючы азначэнне прыказцы, абавязкова называюць вобразнасць як адну з асноўных, адметных рыс прыказкі. У некаторых працах вобразнасць лічыцца «неад'емнай арганічнай часткай прыказкі» [1, с. 4]. У пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, с. 435) прыказка азначаецца як «устойлівае вобразнае выслоўе павучальнага зместу...» Вядомы рускі фалькларыст У.І.Чычароў [2, с. 310] у дэфініцыю (лагічнае азначэнне) прыказкі ўключае «кароткае вобразнае суджэнне», а В.П. Анікін [3, с. 75] характарызуе прыказку як «вобразны народны выраз...». Школьнікам прапануецца завучваць, што «прыказкай называецца створанае народам лаканічнае, вобразнае выслоўе з павучальным зместам, якое мае прамы і пераносны сэнс» [4, с. 14].

Аўтары такога азначэння прыказкі няправільна альбо вельмі шырока разумеюць паняцце «вобразнасць».

У працах жа некаторых іншых вядомых даследчыкаў мімаходам зазначаецца, што ёсць прыказкі вобразныя і бязвобразныя. Так, у свой час (1892 г.) на гэта звярнуў увагу А.А. Патабня [5, с. 98]: «Калі абагульненне не будзе змяшчаць у сабе следу свайго паходжання ад вобраза, мы атрымліваем іншы від прыказкі, а менавіта – бязвобразны выказ маральнага зместу, напрыклад: «Береги денежку на черный день». Я.Ф. Карскі [6, с. 437] таксама падзяляў прыказкі на вобразныя («На чыім возе едзеш, таму песеньку спявай») і бязвобразныя («Багаты дзівіцца, чым худы жывіцца»). К. Крапіва ў вялікім артыкуле «Беларускія прыказкі» адзначыў, што «ёсць прыказкі бязвобразныя, напрыклад: *Хто лжэ, той і крадзе; Не дай убогаму, а патрэбнаму; Хто дбае, той і мае*» [7, с. 251].

Перш чым гаварыць пра паняцце «вобразнасць» і пра тое, як адрозніць вобразную прыказку ад бязвобразнай, варта сцісла спыніцца на цесна звязаным з вобразнасцю пытанні пра сэнсавую класіфікацыю прыказак. Калі іх аналізаваць з семантычнага боку, то тут выразна вылучаюцца тры групы.

У першую групу ўваходзяць прыказкі алегарычнага характару, г.зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае. Так, у прыказцы *Груган гругану вока не выдзеўбе* зусім не пра гругана і невыдзёўбванне вока ідзе размова; сэнс прыказкі – «людзі, звязаныя якімі-небудзь агульнымі, звычайна карыслівымі, інтарэсамі, дзейнічаюць заадно і не здрадзяць, не зробяць кепскага адно другому». Сэнс прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* – «свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў».

Алегарычныя, пераносныя прыказкі ўтвараюцца не на лексічнай, а на сінтаксічнай аснове, г.зн. у выніку пераасэнсавання не кожнага слова паасобку, а ўсяго выказвання-сказа ў цэлым. Аб'ект пераасэнсавання (скажам, *Яблык ад яблыні недалёка падае*) як бы выварочваецца навыварат цалкам і адначасова, а не асобнымі сваімі словамі. *Яблык* і *яблыня* ў іх свабодным ужыванні, як засведчана ў тлумачальных слоўніках, наогул адназначныя назоўнікі, а *падаць* і *недалёка* маюць па некалькі слоўнікавых значэнняў. Адпаведныя ж словы-кампаненты ўнутры прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* дэактуалізаваліся, як бы растварыліся ў агульным сэнсе прыказкі і не маюць нічога агульнага з прамымі ці пераноснымі значэннямі слоў.

У «Слоўніку беларускіх прыказак» [8] апісана 1500 найбольш ужывальных прыказак. Сярод іх на долю алегарычных, пераносных прыпадае 460 прыказак.

Д р у г а я група аб'ядноўвае прыказкі, у якіх няма поўнага пераасэнсавання ўсіх кампанентаў. Частка слоў такіх прыказак захоўвае сваё літаральнае значэнне. Да прыкладу, у прыказцы *Не такі чорт страшны, як яго малююць* іншасказальны сэнс маюць толькі кампаненты *чорт* і *малююць*; агульнае значэнне прыказкі – «не так страшна на самай справе, як здаецца». Або возьмем прыказку *Стары вол баразны не псуе (не сапсуе).* У ёй таксама не ўсе кампаненты атрымалі метафарычнае пераасэнсаванне, таму яе змест перадаецца з выкарыстаннем гэтых непераасэнсаваных слоў: «стары, вопытны чалавек не сапсуе таго, за што бярэцца». Захоўвае сваё літаральнае значэнне і слова *вучыць* у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць*, яна абазначае «малады, нявопытны вучыць старэйшага, вопытнага». Такіх прыказак, у якіх не ўсе кампаненты пераасэнсаваліся, каля 800 (з ліку 1500 апісаных у «Слоўніку...»).

Ёсць і т р э ц я я група прыказак (іх каля 260). Яны наогул ужываюцца толькі ў прамым значэнні і не патрабуюць тлумачэння. Агульны сэнс амаль кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў, напрыклад: *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую*; *Век жыві – век вучыся*; *Вучыцца ніколі не позна*; *Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух*; *Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць*; *Зяць любіць узяць*.

Вернемся цяпер да вобразнасці прыказак. Як вядома, слова «вобраз» шматзначнае, у мастацтве яно абазначае канкрэтна-пачуццёвую форму ўяўлення. Вобразнасць слушна атаясамліваецца з пераноснасцю, метафарычнасцю, фігуральнасцю. Пры метафарычным пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтныя вобразы, праз нагляднае ўяўленне пра каго- ці што-небудзь. Вобразнасць у дачыненні да прыказак – гэта сумешчанае бачанне дзвюх карцін. Так, пры ўжыванні прыказкі *Кашы маслам не сапсуеш*, якая абазначае «неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць», зыходны вобраз надзённа-харчовага паходжання, пакладзены ў аснову прыказкі, хоць і знаходзіцца як бы ў цені свядомасці, але не можа не прасвечвацца праз цэласнае парэмійнае значэнне.

Найбольшы каэфіцыент вобразнасці маюць тыя прыказкі, якія могуць быць супрацьпастаўлены адпаведнаму свабодна арганізаванаму сказу і на яго фоне ўспрымаюцца як разгорнутыя метафары. Усе прыказкі названай вышэй 1-й групы вобразныя. Сярод іх ёсць і такія, у аснове якіх – нерэальны, прыдуманы вобраз: *Адальюцца воўку авечыя слёзы; Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю*.

Можна вылучыць некалькі тыповых семантычных мадэляў, па якіх арганізуецца супастаўленне розных з'яў. Напрыклад, ёсць шмат прыказак «жывёльнага паходжання», г.зн. такіх, якія дастасоўваюцца да чалавека, але ўзніклі праз параўнанне людскіх учынкаў, дзеянняў і інш. з паводзінамі жывёл, іх звычкамі і г.д. Вось толькі некалькі такіх прыказак: *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць; Бадлівай карове бог рог не дае; Ваўка ногі кормяць; Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць; Сабака брэша – вецер носіць; Ведае кошка, чыё сала з'ела; На бязрыб'і і рак рыба*.

А гэта прыклады прыказак «птушынага паходжання»: *Адна ластаўка вясны не робіць; Варона з куста, пяць на куст; Начная зязюля дзённую перакукуе; Пужаная варона куста баіцца; Старога вераб'я на мякіне не правядзеш*.

Ёсць таксама нямала прыказак «расліннага паходжання», напрыклад: *Ад крывога дрэва прамога ценю не бывае; І да грыба трэба нагнуцца; Пустазелле з поля вон; Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць; Што пасееш, тое і пажнеш*.

Вельмі многія прыказкі алегарычнага характару склаліся на аснове сказаў, якія ў сваім першапачатковым сэнсе непасрэдна звязаны з канкрэтнымі назіраннямі чалавека за рознымі з'явамі прыроды: *З вялікага грому малы дождж бывае; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; На адным месцы і камень мохам абрастае; Ціхая вада грэблі рве* і інш.

Пад пераасэнсаванне падпалі сотні іншых выказванняў-сказаў з самых разнастайных сфер: *Бяздоннай бочкі не напоўніш; Дыму без агню не бывае; За чужой шчакой зуб не баліць; Золата і ў смецці блішчыць; Чужы кажух не грэе; Шыла ў мяшку не схаваеш* і г.д.

Прыказкі 2-й семантычнай групы таксама можна лічыць вобразнымі ці, лепей сказаць, часткова вобразнымі, бо ў іх няма скразнога пераасэнсавання. У адных выпадках непераасэнсаваным застаецца толькі адно слова; напрыклад, першае слова ў такіх прыказках: *Абяцаная шапка на вушы не лезе; Будзе і на нашай вуліцы свята; Восень на рабым кані едзе*. Часам, наадварот, толькі адно слова ці прыназоўнікава-склонавае спалучэнне ўжыта фігуральна, астатнія захоўваюць сваё літаральнае значэнне: «Ад *торбы* і турмы не заракайся»; «Малако ў каровы *на языку*». Пераасэнсаванасць або непераасэнсаванасць кампанентаў камбінуецца і ў іншых разнастайных прапорцыях: *Гэта яшчэ толькі кветачкі, а ягадкі наперадзе; Куды іголка, туды і нітка; Адсохні тая рука, што сабе не спрые; Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не*

*атрасешся; Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не; Мая хата з краю, нічога не знаю*. Асобныя словы ператвараюцца ў прыказкавыя кампаненты не толькі шляхам метафарызацыі, а і ў выніку метанімічнага ці сінекдахічнага пераносу: *Аддай рукамі, хадзі нагамі; Адна галава добра, а дзве яшчэ лепей.*

Усе прыказкі 3-й групы – бязвобразныя. Але яны, як і прыказкі дзвюх іншых груп, характарызуюцца ўстойлівасцю і ўзнаўляльнасцю, актыўна выкарыстоўваюцца ў маўленні як выказванні, за якімі стаіць аўтарытэт пакаленняў, што стварылі іх.

А што да самога азначэння прыказкі, то яно можа быць такім: устойлівае, узнаўляльнае, не менш як двухкампанентнае афарыстычнае, найчасцей поўнасцю або часткова алегарычнае закончанае выказванне звычайна павучальнага характару ў форме простага ці складанага сказа. Пад такое азначэнне падпадаюць кожная прыказка паасобку і ўсе, што ўваходзяць у парэмійны склад. Выключэнні вельмі рэдкія. Яны датычаць зусім нязначнай часткі прыказак, якімі даецца якасная ацэнка асобе, не названай у самой прыказцы: *І за лучынку знойдзе прычынку*; *І за шчэпку знойдзе прычэпку*. Або прыказка *І сам не гам і другому не дам*, якая гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чым-небудзь.

Пад *устойлівасцю* прыказкі разумеецца пастаянства яе зместу, а таксама часцей за ўсё кампанентнага складу і структуры. Праўда, прыкладна 40% прыказак здольныя, захоўваючы свой змест, вар'іравацца. *Узнаўляльнасць* – гэта рэгулярная паўтаральнасць, выкарыстанне прыказкі як звычайнай моўнай адзінкі, якая не складаецца ў працэсе маўлення, а выхопліваецца з памяці ў гатовым выглядзе. *Афарыстычнасць* – гэта трапнасць, лаканічнасць, адшліфаванасць.


*Спіс літаратуры*

1. Аксамітаў, А.С. Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі / А.С. Аксамітаў. – Мінск, 1958.

2. Чичеров, В.И. Русское народное творчество / В.И. Чичеров. – М., 1959.

3. Русское народное поэтическое творчество / под ред. Н.И. Кравцова. – М., 1971.

4. Беларуская літаратура: падручнік для 5 класа / пад рэд. В.А. Ляшук. – Мінск, 2002.

4. Потебня, А.А. Из лекций по теории словесности. Басня. Пословица. Поговорка / Теоретическая поэтика / А.А. Потебня. – М., 1990.

5. Карский, Е. Беларусы / Е. Карский. – Минск, 2001.

6. Крапіва, К. Зб. тв. У 4 т. / К. Крапіва. – Мінск, 1963. – Т. 4

7. Лепешаў, І.Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч. – Мінск, 2002.




УДК 808.26 + 808.2

**І.С. Лісоўская** (Гродна)

## ДЗЕЯСЛОВЫ АКУСТЫЧНАГА АСПЕКТУ Ў ПРАЦЭСЕ АДЛЮСТРАВАННЯ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Анталагічна (пазамоўнай рэчаіснасцю) і сістэмна (моўнай рэчаіснасцю) у шасціаспектным прадстаўленні маўленчага дзеяння як першасны кацэптуалізуецца акустычны бок (аспект) маўлення. Акустычная грань маўленчага дзеяння паўстае як працэс, для якога характэрны менавіта спосаб ажыццяўлення маўлення і яго акустыка-фізіялагічныя характарыстыкі: тэмп маўлення, тэмбр голасу, яго вышыня, ступень гучнасці, выразнасць маўлення, асаблівасці артыкуляцыі асобных гукаў, уласцівыя асобнаму чалавеку або моўнаму калектыву. Такі погляд падказвае і сам тэрмін «***акустыка***», які паходзіць ад грэчаскага «***akustikos***», што азначае «***слыхавы***». Заканамерна, што акустычны аспект характарызуюць лексемы, якія перадаюць гучанне маўлення.

Пры прадстаўленні акустычнага аспекту для беларускай моўнай карціны свету амаль неістотнымі з'яўляюцца адрасат, тэма і змест выказвання.

Падзел пазамоўнай рэчаіснасці на аснове дэнататыўнай суаднесенасці дзеясловаў маўлення дазваляе вылучыць інтэгральную семантычную прымету *'вымаўляць членападзельныя гукі мовы'*, якая не толькі аб'ядноўвае ўсе дзеясловы маўлення ў адну лексіка-семантычную групу (ЛСГ), але і з'яўляецца адначасова асноўнай семантычнай прыметай для дзеясловаў, якія характарызуюць акустычны бок маўленчага дзеяння. Яна (прымета) непасрэдна ўказвае і на дамінантныя дзеясловы даследаванай ЛСГ у цэлым (**гаварыць, казаць),** і на дамінанту дзеясловаў, звязаных з акустычным аспектам – **вымаўляць**, якая адпавядае дэнататыўнаму азначэнню *'утвараць членападзельныя гукі мовы, якія нясуць інфармацыю і тым самым вылучаюць мову чалавека з усяго свету гукаў'*.

У прадстаўленні гэтага боку маўленчага дзеяння прымае ўдзел субстантыўная намема, якая называе дзеючую асобу (антрапонім). Таму з намінацыяй акустычнага аспекту суадносяцца толькі дзеясловы, якія называюць маўленне чалавека, або тыя дзеясловы, якія прыраўноўваюць гучанне нежывога і жывога свету да чалавечага маўлення, напрыклад: *Адна старая* ***сялянка*** *не выцерпела –* ***буркнула****: – Пану цівуну варон страляць, а нам спіны гнуць!* [2, т.1, с. 422]. *– Вось бяда, дык бяда, ледзь не праспаў, а сёння апошні дзень старога года, –* ***бурчаў*** *сам на сябе* ***дзед****. Кудлаты і нязграбны малы* ***сабака*** *папрабаваў*

***бурчаць**, пасля сціх* [2, т.1, с.424]. У апошнім кантэксце дзяслоў ***бурчаць*** не актуалізуе маўленчае дзеянне.

Лексічную выразнасць і шматграннасць акустычная сема набывае ў сінтаксічных канструкцыях, якія дыферэнцыруюць акустычную прымету маўлення.

Дамінантныя дзеяслоўныя лексемы (**гаварыць, казаць, вымаўляць)** не ўтрымліваюць усёй шматграннасці акустычнай характарыстыкі маўлення і патрабуюць дадатковага акружэння ў выглядзе актуалізатараў маўленчага працэсу: прыслоўяў, назоўнікаў з прыназоўнікамі, дзеепрыслоўяў і інш., напрыклад: **гаварыць** + *ціха, голасна, злосна, шумна, з жарам, трасучы кулакамі* і інш.

Перыферыйныя дзеясловы больш выразна актуалізуюць акустычную сему дзякуючы ўласнай семантычнай ёмкасці і сінтаксічнаму акружэнню, напрыклад: *Ён выступаў з прамоваю на польскай мове, **гаварыў** доўга, то ціха, спакойна, то вельмі горача, са слязьмі і трасучы кулакамі* [1, с.281]. ***Заверашчэла** яна коратка, але такім высокім і тоненькім-тоненькім, не сваім голасам, што нават сам пан Халяўскі выскачыў з свайго пакоя* [1, с.368]. *Некалькі хвілін Суяпан Сямёнавіч маўчаў, уважліва прыглядаўся да вучняў, потым падышоў да акна і ціха, але надзвычай выразна **пачаў дэкламаваць*** [2, т.1, с.232].

Сама «структура» акустычнага боку маўлення не прадугледжвае дыферэнцыяцыі маўленчага дзеяння па мэце, таму для дзеясловаў гэтай падсістэмы лексіка-семантычнай групы дзеясловаў маўлення характэрны толькі якасная і колькасная характарыстыкі спосабу дзеяння.

Акустычная сема можа прысутнічаць і ў тых дзеясловах, якія актуалізуюць іншую грань маўленчага дзеяння. У такім выпадку яна з’яўляецца дадатковай да асноўнай семантычнай прыметы.

Паколькі лексіка-семантычная група дзеясловаў маўлення з’яўляецца адкрытай структурай, то «ўцягванне» лексічных адзінак з іншых ЛСГ з’яўляецца нормай. На пярэдні план семантыкі ва «ўцягнутым» дзеяслове выходзіць сема *‘вымаўляць членападзельныя гукі мовы’*, напрыклад: *стракатаць, журчаць, мянціць, цадзіць, ліць, адрэзаць, барабаніць, малаціць, капіраваць, цягнуць, напіраць, кульгаць* і да т.п.

У тым выпадку, калі менавіта акустычная сема ў дзеяслове асноўная, анамасіялагічна і семантычна канцэптуалізуюцца такія грані гучання маўлення, як ступень гучнасці (*грымець, енчыць, галасіць, лямантаваць, крычаць, раўці, гарланіць* і інш.), тэмп (*малаціць, тараторыць, тарахцець, залапатаць, сыпаць, сыпнуць, мямліць, цягнуць, цадзіць і інш.)*, тэмбр (*раўці, журчаць, басіць* і інш.) і інш.

Інтэгральная семантычная прымета з’яўляецца асновай і для семантычнага развіцця дэрыватаў, напрыклад: **гаварыць – прагаварыць** (доўгі час)**, выгаворваць; шаптаць – шаптацца, прашаптаць** і інш.

Пры канцэптуалізацыі іншых аспектаў маўленчай дзейнасці інтэгральная семантычная прымета *‘гаварыць, вымаўляць членападзельныя гукі мовы*’ ўзаемадзейнічае з семантычнай прыметай ‘*гаварыць, вымаўляць + як, якім чынам, з якой мэтай’*. Пры гэтым інтэгральная семантычная прымета адступае на другі план семантыкі, тым самым даючы магчымасць актуалізавацца іншым семантычным прыметам. Напрыклад, у семантычнай структуры дзеяслова **шаптацца** на пярэдні план выходзіць у адных лексемах значэнне акустычнай характарыстыкі маўлення – *‘гаварыць, вымаўляць ціха, шэптам’*, а ў іншых – маўленчага ўзаемадзеяння ‘*гаварыць паміж сабой’*, як у сказе: *«Зося кінулася ў гушчу моладзі і пачала **шаптацца** з нейкім незнаёмым Рыгору хлопцам»* [5, т.5, с.350]. У семантычнай структуры дзеяслова **раўці** сема ‘*моцна гаварыць*’ можа адыходзіць на другі план перад семантычнай прыметай ‘*крычаць на каго-небудзь’*.

Аналагічная пераакцэнціроўка ў семантыцы пры адпаведным лексічным і сінтаксічным акружэнні можа адбыцца і ў іншых мнагазначных дзеясловах, якія здольны прадстаўляць розныя аспекты маўленчага дзеяння, напрыклад: ***гаркнуць, гаркаць, енчыць, брахаць, сыкаць, сыкнуць, лемантаваць, крычаць, клікаць, гаманіць, гарланіць*** і інш.

Акустычны аспект маўлення канцэптуалізуецца і на ўзроўні выказванняў, і на ўзроўні структурнай схемы сказа з прэдыкатам маўлення. Для семантычнай прыметы *‘гаварыць, вымаўляць членападзельныя гукі мовы + як, якім чынам*’ характэрны сінтаксічныя канструкцыі: S (суб’ект) –V (маўленчае дзеянне) – А (акалічнасць сп.дз.) – ПМ і S–V–A (сп.дз.). Практычнае пацвярджэнне сказанаму знаходзім і ў мове рамана М.Гарэцкага «Віленскія камунары», і ў лексікаграфічнай практыцы: S–V–A (сп.дз.) – (ПМ) **–** *Папомніш ты, хамуйла, – ціхенька **адгыркнуўся** Махлярчык ды папоўз скоранька ад яго ракам, каб яшчэ нагою ў зад не выткнуў* [1, с.256]. *Яны **адказвалі** коратка і ў нос: «Моо’н»* [1, с.256]. *Раманіха, схапіўшыся рукамі за галаву, **галасіла**: – А сын ты мой ... А што ж з табой зрабілі*...[2, т.1, с.18]. *Размахвала [бабуля] ёю, кашуляй, перад носам у суседак з самымі жаласнымі на ваччу слязьмі і горка-горка, у роспачы **лямантавала**: – А гэта што? А гэта што? А хто мне адкупіць?* [М.Г., с.265]; S-V-A

(сп.дз.) ***Заверашчэла*** *яна коратка, але такім высокім і тоненькім, не сваім голасам, што нават пан Халяўскі выскачыў з свайго пакоя* [1, с.269].

Магчымы тут таксама і выказванні, дзе прысутнічае аб'ект, на які накіравана маўленчае дзеянне, хоць, як вядома, такая маўленчая сітуацыя не зусім характэрная для акустычнага аспекту, напрыклад: – *Што гэта робіцца? – ён наўмысна голасна* ***закрычаў*** *мне па-польску* [1, с.390] – S–V – P (аб'ект) – A (сп.дз.) – ПМ.

Відавочна, што ў наратыўным (мастацкім) тэксце аўтару неабходна даць усе характарыстыкі маўленчага працэсу. Тут патрабуецца акалічнасны актуалізатар разгорнутай структуры, які змяшчае ў сабе дастатковую інфармацыю аб акустычнай грані маўлення (**галасіла,** *схапіўшыся рукамі за галаву*; **заверашчэла** *яна коратка, але такім высокім і тоненькім, не сваім голасам;* ***адказвалі*** *коратка і ў нос; ціха, але надзвычай выразна* ***пачаў дэкламаваць*** і інш.).

Такім чынам, вывучэнне акустычнага аспекту маўлення дазваляе сцвярджаць, што акустычная характарыстыка з'яўляецца важным сродкам актуалізацыі пазамоўнай рэчаіснасці. Дзякуючы гэтай яскравай грані, па-новаму ўспрымаюцца лексічныя значэнні як уласна дзеясловаў маўлення, так і дзеясловаў, уцягнутых з іншых лекіка-семантычных груп. У працэсе даследавання намі былі выяўлены дзеясловы, у якіх акустычная характарыстыка выходзіць на пярэдні план семантыкі, напрыклад: *гаварыць, казаць, сказаць, агаласіць, адчаканіць, адгукнуцца, адазвацца, адзывацца, барабаніць, бубніць, буркаваць, буркатаць, буркнуць, бурчаць, верашчаць, вохкаць, замармытаць, галасіць, грымець, гундосіць, гусці, дудукаць, енчыць, забурчаць, забарабаніць, забубніць, загаласіць, журчаць, жупіць, казаць, крактаць, крахтаць, крычаць, лямантаваць, капіраваць, мармытаць, малаціць, паддакваць, пашумець, прамармытаць, пішчаць, раўці, сіпець, сказаць, скуголіць, стагнаць, стракатаць, сыпаць, сыпануць, сыкаць, тарахцець, тараторыць, хмыкаць, хмыкнуць, хрыпнуць, цадзіць, цюгакаць, шаптаць, прашаптаць, шаптацца* і інш.

Вялікая колькасць дзеясловаў маўлення, звязаных з акустычным аспектам, сведчыць пра тое, што для іпастасі «чалавек гаворачы» вельмі важна, які акустычны эфект выклікае маўленне чалавека.

*Спіс літаратуры*


1. Гарэцкі, М. Аповесці, дакументальна-мастацкія запіскі, раман / М. Гарэцкі // Выбраныя творы. У 2 т. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1973. – Т.2. – С. 249 – 471.
2. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мінск: «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1997 – 1984.




УДК 811.161.3

**Н.У. Літвін** (Гродна)

## ДА ПЫТАННЯ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНАМІЧНУЮ ЛЕКСІКУ ПЕРЫЯДУ ДА 20-Х ГАДОЎ XX СТАГОДДЗЯ

Перыяд да 20-х гадоў XX стагоддзя ахоплівае значны этап у гісторыі развіцця беларускай мовы. Працяглы працэс станаўлення і функцыянавання беларускай мовы характарызуецца перарывістасцю, што, у сваю чаргу, аказала пэўны ўплыў на фарміраванне тэрміналагічнай лексікі. «Такія экстралінгвістычныя фактары, як забарона беларускай мовы Варшаўскім сеймам у 1696 годзе і негатыўныя адносіны да яе царскага ўрада Расіі, якія выклікалі больш чым стогадовы разрыў паміж пісьмовымі традыцыямі старабеларускай і сучаснай беларускай мовы ў XVII – XVIII стст., адмоўна ўздзейнічалі на пераемнасць натуральнага фарміравання тэрміналагічнай лексікі, паколькі замацаванне навуковых тэрмінаў адбываецца перш за ўсё ў працэсе іх ужывання ў друкаваных выданнях» [1, с. 10].

Эканамічная тэрміналогія складвалася адначасова з фарміраваннем і развіццём эканамічных адносін (таварна-грашовых і інш.) і адлюстроўвала кожны этап іх развіцця. Нягледзячы на тое, што сапраўдным перыядам станаўлення беларускай эканамічнай тэрміналогіі лічыцца пачатак XX стагоддзя, калі яна знайшла адлюстраванне на старонках лексікаграфічных крыніц, асновы гэтай тэрміналагічнай лексікі былі закладзены ў далёкім мінулым. Пэўнае ўяўленне аб складзе і развіцці эканамічнай лексікі старабеларускай мовы можна атрымаць з сучасных даследаванняў справавых помнікаў беларускага пісьменства.

Так, у працы З.П. Даунене аб'ект даследавання – «лексічная група, звязаная з эканамічным жыццём беларускай народнасці, у прыватнасці, з гандлем, якая досыць багата адлюстравана ў старабеларускіх помніках дзелавой пісьменнасці XV – пачатку XVII стст.» [2, с. 3]. Актыўнае папаўненне гэтай лексічнай групы было абумоўлена ростам таварна-грашовых адносін у выніку буйнога развіцця гарадоў. Актывізацыі знешняга гандлю спрыяла пашырэнне эканамічных адносін Вялікага княства Літоўскага з Рускай дзяржавай, а таксама наладжванне праз Прыбалтыку сувязей з Захадам пасля разгрому Тэўтонскага ордэна, «прычым афіцыйнае афармленне гандлёвых сувязей ажыццяўлялася на старабеларускай мове» [1, с. 18].

Гандлёвая лексіка перыяду старабеларускай мовы ўключае лексіку, што абазначае арганізацыю гандлёвага працэсу, і лексіку, якая абазначае адзінкі вымярэння тавараў і грошы. Першая група гэтай лексікі

суадносіцца непасрэдна з гандлёвай тэрміналогіяй. Тут вылучаюцца назвы працэсаў і дзеянняў куплі-продажу; прадметаў і спосабаў куплі-продажу; асоб, занятых у гандлі; месцаў гандлю і гандлёвых збудаванняў і інш.

Назвы павіннасцей, падаткаў, гандлёвых пошлін і адміністрацыйна-судовых плацяжоў даследуюцца ў якасці асобнай лексічна-тэматычнай групы сацыяльна-эканамічнай лексікі ў працы Н.І. Гілевіч. «Гісторыя гэтых назваў у значнай ступені спрыяе больш глыбокаму вывучэнню гісторыі народа, праца якога складала базіс эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця» [3, с. 9].

Сацыяльна-эканамічную лексіку са значэннем прадметнасці ў Полацкіх граматах ранняга перыяду даследуе Т.М. Казачэнка [4]. Тут разглядаецца лексіка маёмаснай сферы, якая ўключае лексемы, што абазначаюць віды маёмаснай уласнасці і спосабы яе выкарыстання; словы, звязаныя са спадчынным правам; назвы падаткаў, гандлёвых пошлін і адміністрацыйна-судовых плацяжоў; лексіка камерцыйнага профілю і інш.

Багаты лексічны матэрыял разгляданай сферы знаходзім на старонках «Старабеларускага лексікону» М.Р. Прыгодзіча, Г.К. Цівановай [5]. Тут адзначаюцца найменні, звязаныя з гандлёвай і камерцыйнай дзейнасцю, назвы розных падаткаў і плацяжоў, а таксама адзінкі метрычнай сістэмы.

Іншамоўная сацыяльна-эканамічная лексіка старажытнага перыяду адлюстравана ў працы А.М. Булыкі «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV – XVIII стст.» [6].

Агляд вышэйадзначаных прац дае ўяўленне адносна структурна-семантычных і генетычных асаблівасцей асобных пластоў эканамічнай лексікі перыяду старажытнабеларускай мовы.

Так, некаторым найменням таго часу была ўласціва мнагазначнасць, якая ўзнікала ў выніку адначасовага адлюстравання імі агульных бытавых і сацыяльна-эканамічных паняццяў (*пошлина*, *повинность*, *данина*, *вага* і інш.), а таксама ў выніку іх тэрміналагічнай living рознапланавасці: *купля* (тавар; пакупка; працэс куплі-продажу; дакумент, што сведчыць аб пакупцы); *торг* (гандаль; базар, месца гандлю; тавар) і інш.

У межах эканамічнай лексікі XV – XVII стст. сустракаюцца сінанімічныя найменні, якія сведчаць пра дынамічны характар развіцця разгляданай лексікі, незавершаны характар яе фарміравання. Адзначаюцца розныя віды сінонімаў: а) сінонімы са слоў агульнаўсходнеславянскага перыяду, старабеларускіх і запазычаных (*торгъ – купецтво – гандель*; *товаръ – речи – рухлядь*); б) сінонімы з аднакаранёвых слоў, утвораных пры дапамозе розных



словаўтваральных афіксаў (*померъ – померное* ‘памерная пошліна’; *прутовщина – прутовщизна – прутовое* ‘пазямельна-маёмасны падатак з мяшчан на карысць гаспадара ці горада’); сінанімічныя словазлучэнні (*служба подводная – податокъ подводный*; *платъ поголовный – податокъ поголовный*).

З генетычнага пункту гледжання сацыяльна-эканамічная лексіка старажытнабеларускай эпохі неаднастайная. Як сведчаць даследаванні, яе пераважную частку складае спрадвечны пласт. У сферы лексікі са значэннем ‘павіннасці, падаткі, гандлёвыя пошліны і адміністрацыйна-судовыя плацяжы’ каля 13 % складаюць адзінкі, якія перайшлі ў спадчыну ад старажытнарускай мовы (*пошлина*, *повинность*, *дань*, *платъ* і інш.), а пераважная колькасць найменняў (66 %) – спецыфічна беларускія адзінкі, утвораныя на старажытнарускай моўнай аснове (*данина*, *податокъ*, *зарука*, *служба* і інш.). Для параўнання, на долю запазычанняў прыходзіцца 4 % ад агульнай колькасці слоў [3, с. 14]. Як зазначае З.П. Даунене, у сферы гандлёвай лексікі перыяду XV– пачатку XVII стст. асноўную групу складаюць словы, якія прыйшлі па спадчыне са старажытнарускай мовы, куды ўваходзяць таксама словы, узніклыя ў эпоху агульнаславянскага адзінства, і старажытныя запазычанні (*вага*, *купити*, *мена*, *прибыток*, *продавати*, *торговля* і інш.). Частка найменняў – утварэнні перыяду асобнага існавання ўсходнеславянскіх моў [2, с. 7]. Да такой высновы прыходзіць і Т.М. Казачэнка: «У этымалагічных адносінах разгледжаная сацыяльна-эканамічная лексіка не выяўляе прыкметных адрозненняў ад іншых прадметна-тэматычных разрадаў слоў, якія ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ранняга перыяду. Як і наогул у канцылярска-юрыдычнай пісьменнасці канца XIV – пачатку XVI стст., яе аснову складаюць словы, якія перайшлі ў спадчыну ад старажытнарускай эпохі або былі ўтвораны на беларускай глебе на базе праславянскага і старажытнарускага каранясловa» [4, с. 134].

Разам з тым у працэсе фарміравання і папаўнення эканамічнай лексікі разгляданага перыяду актыўна ўдзельнічалі і запазычанні, пранікненню якіх на беларускую глебу спрыялі эканамічныя і гандлёвыя кантакты Вялікага княства Літоўскага з іншымі краінамі і народамі, а таксама пашырэнне на беларускіх землях грамадскіх і культурных функцый сярэдневяковай латыні: «...асноўная частка запазычанняў фінансава-камерцыйнага характару ішла з польскай мовы, у якой, дарэчы, сацыяльна-эканамічная тэрміналогія была больш дасканалай, таму што ўвабрала ў сябе шматлікія спецыяльныя тэрміны з лацінскай, нямецкай і раманскіх моў» [6, с. 72]. Так, шматлікай была група лацінізмаў: *арендаръ* ‘арандатар’, *колекторъ* ‘зборшчык аплаты’,

*фундаторъ* ‘заснавальнік, дабрачынец’, *аренда* ‘арэнда’, *контрактъ* ‘кантракт’, *квота* ‘пэўная сума грошай’ і інш. Германізмы былі найбольш пашыраныя ў групе назваў, што характарызавалі арганізацыю камерцыйнага працэсу, гандлёвыя пункты і аперацыі: *гандель* ‘гандаль’, *кгатунокъ* ‘гатунак’, *кермашъ* ‘кірмаш; касцельнае свята’, *рынокъ* ‘рынак; рыначная плошча’, *фримаркъ* ‘абменны гандаль’ і інш. Пласт слоў разгляданай сферы быў уласнапольскага паходжання: *державца* ‘арандатар; уладар’, *поборца* ‘зборшчык падаткаў’, *цельникъ* ‘мытнік’, *таксовати* ‘ацэньваць’ і інш. Запазычанні з іншых моў былі нешматлікія: *барышъ* ‘барыш’ (цюрк.), *казначей* ‘казначэй’ (цюрк.), *бонда* ‘маёмасць, грошы; збожжа’ (літ.), *дзякло* ‘падатак збожжам’ (літ.).

Дэрываты разгляданай сферы ўзнікалі пры дапамозе марфалагічнага, сінтаксічнага, марфалагічна-сінтаксічнага і семантычнага спосабаў. Афіксальныя дэрываты былі матываваныя спрадвечнымі і запазычанымі лексемамі: *арендованье*, *торгованье*; *податок*, *данина*; *перекуп*, *перекуповати*, *поторговати*. Тэрміналагічныя словазлучэнні ўтвараліся часцей за ўсё шляхам спалучэння назоўнікаў і прыметнікаў: *товары косматые*, *речи продажные*; *торги великие*, *торги недельные*, *рыбный торг*. «Назоўнік у гэтым спалучэнні звычайна з’яўляецца вельмі ўжывальным і выступае як родавая назва, прыметнік выконвае ролю носьбіта відавой прыметы» [2, с. 8].

Досыць прадуктыўны ва ўтварэнні сацыяльна-эканамічнай лексікі эпохі старой беларускай мовы, у прыватнасці групы назваў гандлёвых пошлін і падаткаў, марфалагічна-сінтаксічны спосаб. У «Старабеларускім лексіконе» налічваецца каля 35 адзінак гэтага способу ўтварэння: *ворковое*, *воротное*, *закосное*, *млечное*, *подворотное* і г.д [5].

У сферы гандлёвай лексікі XV – пачатку XVII стст. прадуктыўны таксама семантычны спосаб дэрывацыі. «Утварэнне тэрміналогіі ішло за кошт семантычных змен агульнаўжывальных слоў, якія звязаны з тым, што, становячыся гандлёвым тэрмінам, агульнанароднае слова, акрамя шырока ўжывальных значэнняў, набывала новае, спецыяльнае значэнне» [2, с. 8]: *речи* (прадмет, рэч – прадметы куплі-продажу), *клетка* (пакой, келля – гандлёвая лаўка).

На працягу далейшага гістарычнага развіцця беларускай мовы частка найменняў сферы эканомікі аказалася забытай па прычыне знікнення прадметаў і рэалій, якія яны абазначалі, астатнія захаваліся ў ёй і функцыянуюць па сённяшні дзень. З цягам часу ўзнікалі новыя паняцці, звязаныя з сацыяльна-эканамічным жыццём, а таксама адпаведная лексіка для іх адлюстравання. Так, папаўненне пласта сацыяльна-эканамічнай лексікі адбываецца ў XIX стагоддзі, у час развіцця новай пісьмова-літаратурнай мовы. У пачатку XIX стагоддзя ўзніклі новыя словы, што абазначалі агульныя паняцці сацыяльных з’яў (*арандатарства*, *найманне*, *налог*, *пабор* і інш.), назвы асоб па маёмасным і службовым становішчы (*аканом*, *банкрут*, *закладнік*, *квотнік*, *рэвізор* і інш.), назвы падаткаў і абазначэнні паняццяў, звязаных з грашовым разлікам (*абрахунак*, *акцыз*, *заработак*, *квота*, *пенсія*, *нядоімка* і інш.). Яшчэ некалькі новых адзінак з’яўляецца ў межах разгляданай тэматычнай групы ў 60-я гады XIX стагоддзя (*жалаванне*, *казна*, *казначэйства*, *кантракт*, *капітал*, *льгота*, *магазін*, *падатак*, *падрад*, *ссуда* і інш.) і ў канцы адзначанага перыяду (*банк*, *даход*, *заём*, *зробшчык*, *камісійны падатак*, *пеня*, *перакупшчык*, *прыход*, *расход*, *рабочы*, *сіндзікат*, *увальненне*, *уздаражэць*, *фабрыкант*, *штраф* і інш.) [7, с. 238]. Менавіта 60-я гады XIX стагоддзя лічацца пачаткам фарміравання палітэканамічнай тэрміналогіі. У гэты перыяд актывізуецца рэвалюцыйна-дэмакратычны рух, распаўсюджваюцца марксісцкія ідэі, з’яўляюцца публіцыстычныя выданні на беларускай мове, у прыватнасці «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага (1862 – 1865 гг.), пераклады ўрыўкаў марксісцкай літаратуры [8, с. 108].

Не скончыўся працэс папаўнення сацыяльна-эканамічнай лексікі і ў пачатку XX стагоддзя, калі ў беларускай мове ўжо склалася досыць шматлікая група тэрмінаў для адлюстравання грамадска-вытворчых, таварна-грашовых адносін капіталістычнай фармацыі (у тым ліку тэрміналагічных словазлучэнняў): *прадукцыя*, *рэсурсы*, *фонд*, *цірaж*, *цэннік*, *акцыянерны*, *ашчадны*, *кааператыўны*, *фінансавы*, *асігнаваць*, *канфіскаваць*, *налічаць*, *нацыяналізаваць*, *утрымваць*, *цаніць*, *сіндзікат*, *акцыз*, *манаполія*; *абарот капіталу*, *закладны капітал*, *накладная плата*, *пакрыць кошт* і інш. [9, с. 84]. Палітэканамічныя тэрміны складалі частку грамадска-палітычнай тэрміналогіі, якая ў дакастрычніцкі час была адлюстравана ў газетах «Наша доля» (1906 г.) і «Наша ніва» (1906–1915 гг.). Адзначаная група тэрмінаў была нешматлікая і не вельмі распрацаваная. У яе межах вылучалася значная колькасць дублетаў, якімі выступалі: а) аднакаранёвыя найменні з рознымі словаўтваральнымі фармантамі (*даход – прыход*, *крэдытны – крэдытовы* і інш.); б) словы нацыянальныя і інтэрнацыянальныя (*павер – пазычка – крэдыт*, *пэнсія – плата* і інш.); в) беларускія словы і непасрэдныя запазычанні з рускай мовы (*мыто – пошліна*, *выдаткі – расходы* і інш.); г) словы старажытнарускага кораня і даўнейшыя запазычанні (*таргоўля – гандаль*, *прыбытак – чынш*); д) агульнаславянскія і вузкадыялектныя словы (*даход – зварот*); е) двума запазычанымі тэрмінамі (ці ўтворанымі на запазычанай аснове), з якіх

адзін меў інтэрнацыянальны характар (*гандляваць – спекуліраваць*) [9, с. 86 − 87]. Полінайменнасць і варыянтнасць палітэканамічных тэрмінаў складалі адну з асаблівасцей тэрміналагічнай лексікі нашаніўскага перыяду, крыніца якой – агульнаўжывальная лексіка, для якой характэрна бессістэмнасць: «Словы, што існавалі ў народных гаворках, або выкарыстоўваліся як гатовыя моўныя адзінкі, набываючы ў выніку другаснай намінацыі тэрміналагічнае значэнне, або служылі базай для ўтварэння новых лексічных адзінак намінатыўна-тэрміналагічнага характару», «...адносіны паміж словамі-тэрмінамі, што вынікаюць са спецыфікі адносін паміж паняццямі, яшчэ не акрэсліліся» [10, с. 30 − 31].

Палітэканамічная тэрміналогія нашаніўскага перыяду, як і ўся грамадска-палітычная лексіка, не знайшла адлюстравання ў лексікаграфічных крыніцах. Тое ж самае можна сказаць і пра сацыяльна-эканамічную лексіку ранейшага перыяду, бо ў той час не вялася актыўная тэрмінаграфічная практыка: «Нягледзячы на даўнія лексікаграфічныя традыцыі і наяўнасць развітай для таго часу тэрміналогіі ў друкаваных выданнях, у XVII – XVIII стст. не было выдадзена спецыяльных тэрміналагічных слоўнікаў па асобных галінах ведаў» [11, с. 9].

У выніку нераспрацаванасць і бессістэмны стан беларускай эканамічнай тэрміналогіі дарэвалюцыйнага перыяду – заканамерная з’ява, звязаная з адсутнасцю мэтанакіраванай працы ў галіне навуковай тэрміналогіі, перарывістасцю працэсу яе фарміравання, што абумоўлена перарывістым характарам гістарычнага развіцця самой беларускай мовы.

*Спіс літаратуры*


1. Антанюк, Л.А. Беларуская навуковая тэрміналогія: фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне / Л.А. Антанюк. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – 240 с.
2. Даунене, З.П. Торговая лексика в белорусской деловой письменности XV – XVII вв.: автореф. дис. … канд. филол. наук / З.П. Даунене; Вильнюсский гос. ун-т. – Вильнюс, 1966. – 14 с.
3. Гилевич, Н.И. Из истории социально-экономической лексики в белорусском языке (названия повинностей, налогов, торговых пошлин и административно-судебных платежей в письменных памятниках XV − XVIII вв.): автореф. дис. … канд. филол. наук / Н.И. Гилевич; Белорус. гос. ун-т им В.И. Ленина. – Минск, 1971. – 19 с.
4. Казачэнка, Т.М. Сацыяльна-эканамічная лексіка са значэннем прадметнасці ў Полацкіх граматах ранняга перыяду / Т.М. Казачэнка // Весці АН Беларусі. – 1997. − №2. – С. 128 – 136.
5. Прыгодзіч, М.Р. Старабеларускі лексікон: падручны перакладны слоўнік / М.Р. Прыгодзіч, Г.К. Ціванова. – Мінск: Бел. выд. т-ва «Хата», 1997. – 175 с.





6. Булыка, А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV – XVIII стст. / А.М. Булыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 256 с.
7. Гістарычная лексікалогія беларускай мовы / рэд. А.Я. Баханькоў, А.І. Жураўскі, М.Р. Суднік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 340 с.
8. Бажкова, М.І. Аб фарміраванні і развіцці беларускай палітэканамічнай тэрміналогіі / М.І. Бажкова // Весн. беларус. дзярж. экан. ун-та. – 1997. − №2. – С. 107 – 109.
9. Соотношение интернационального и национального в общественно-политической терминологии восточнославянских языков / под ред. Т.И. Панько. – Львов, 1984. – 204 с.
10. Красней, В.П. Некаторыя асаблівасці беларускай навуковай тэрміналогіі нашаніўскага перыяду і 20-х гадоў / В.П. Красней // Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1994. − № 2. – С. 30 – 35.
11. Антонюк, Л.А. Белорусская терминология: становление, развитие, структура: автореф. дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.02 / Л.А. Антонюк; БГУ. – Минск, 1992. – 40 с.


УДК 811.161.3

**С.Г**. **Ляскевіч** (Гродна)

## САСТАРЭЛЫЯ НАЗВЫ ЖАНОЧЫХ ГАЛАЎНЫХ УБОРАЎ (НА МАТЭРЫЯЛЕ ГАВОРАК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ)

Галаўныя ўборы з’яўляюцца важным складнікам як мужчынскага, так і жаночага касцюма. Выконваючы пэўную практычную функцыю, яны, акрамя таго, надаюць гарнітуру завершанасць, стылёвую аднароднасць, інфармуюць пра грамадскае і сацыяльнае становішча ўладальніка.

Даследчыкі народнага адзення адзначалі, што жаночыя галаўныя уборы вызначаліся разнастайнасцю, маляўнічасцю і яркасцю, паколькі былі неад’емным элементам традыцыйнага жаночага гарнітура. Замужняя жанчына не мела права нават у хатніх умовах хадзіць з непакрытай галавой. Для яе былі абавязковымі чапцы або наміткі, якія з другой паловы XIX стагоддзя сталі выцясняцца хусткамі. З развіццём урбанізацыі і прамысловай вытворчасці адзення, у сувязі са зменамі ў сацыяльным становішчы жанчыны ў грамадстве галаўныя ўборы раней, чым іншыя віды традыцыйнага народнага адзення, падпалі пад уздзеянне гарадской моды і перайшлі ў разрад этнаграфічных рэліктаў. Услед за зніклымі рэаліямі ў пасіўны запас перайшлі словы, што іх называлі. Гэты працэс паралельны ў літаратурнай і дыялектнай мовах.

Цікава, што ў адрозненне ад найменняў іншых відаў адзення (напрыклад, верхняга), знікненне галаўных убораў, як правіла, суправаджаецца стратай іх найменняў. Праведзены намі раней аналіз

старадаўніх назваў верхняга адзення даў некалькі іншы вынік: у той час ,як у сучаснай беларускай літаратурнай мове яны страчаныя альбо падаюцца як гістарызмы, у гаворках гэтыя словы часта працягваюць выкарыстоўвацца, паколькі развілі новае (часцей за ўсё абагульненае) значэнне. Так, напрыклад, лексема *кафтан* пашырыла свой семантычны аб'ём і выкарыстоўваецца як для назвы канкрэтных відаў адзення (кароткага паліто на кудзелі, пінжака, кофты), так і для наймення адзення ў цэлым, усякага верхняга з рукавамі адзення да пояса. Слова *лапсярдак* таксама мадэрнізавала сваю семантыку і з адценнем непахвальнасці ўжываецца для назвы розных відаў адзення.

У гаворках захаваліся шматлікія фанетычныя і словаўтваральныя варыянты назвы даўнейшага галаўнога ўбору замужніх жанчын – *наміткі*. Намітка выраблялася з хатняга добра адбеленага кужальнага палатна. З-за белага колеру гэтага віду галаўнога ўбору ў Сярэднявеччы беларускіх жанчын называлі белагаловымі. Спосаб і манера завівання *наміткі* быў асаблівым у кожнай мясцовасці [1, с. 5]. Намотванне, альбо павязванне, наміткі было даволі няпростай справай, патрабавала шмат часу і пэўнай спрактыкаванасці. Моцна счэпленую намітку можна было, як шапку, здымаць не развязваючы. Насілі яе звычайна пару тыдняў – пакуль не забруджвалася. Як адзначаюць этнографы, насілі наміткі і прадстаўніцы пануючых класаў, гэты від галаўнога ўбора часта адлюстроўвалі на іконах і мініяцюрах: у Беларусі ўпершыню сустракаецца *намітка* на партрэце першай паловы XVI ст. княгіні Кацярыны Алелькавіч-Слуцкай [2, с. 35]. У канцы XIX стагоддзя яна бытавала на асноўнай тэрыторыі Беларусі як святочны галаўны ўбор некаторых старых жанчын і абрадавы галаўны ўбор на вяселлі і пры пачатку ўборкі зернавых.

Даследчыкі народнага адзення адзначаюць, што на Беларусі гэты від ручніковага галаўнога ўбору бытаваў даўжэй, чым у іншых усходнеславянскіх народаў: у некаторых глухіх вёсках жанчыны насілі наміткі яшчэ ў першай чвэрці XX стагоддзя. Дыялекталагічны матэрыял сведчыць, што яшчэ доўгі час пасля гэтага (як мінімум да 80 гадоў мінулага стагоддзя) лексема працягвала функцыянаваць у гаворках са зменненай семантыкай.

Так, на Гродзеншчыне адзначаны словы *ня́мятка* і *намята́нка* са значэннем 'цёплая хустка'*: Твая баба закукліла ня́мятку і пашла на сяло ў магазін.* Рагозніца Маст. [3, с. 280]; *Па намятанцы сваю матачку пазнаю.* Жыдзевічы Іўеў. [4, т. 3, с. 162; 5, с. 298]. Дадатковую семантыку мае слова на Брэстчыне, дзе *наметка, намітка, намэтка* – 'кужэльная прасціна' [6, с. 142], Лоеўшчыне – *наме́тка* 'марля', у Лунінецкім раёне *на́метка (на́мэтка)* – 'кавалак палатна, які дарылі на крысцінах павітусе' [7, с. 110]. У іншых гаворках сустракаецца ў формах *наметка* [8, т. 1, с. 240; 9, в. 1, с. 84; 10, т. 3, с. 142], *намотка* [9, в. 1, с. 84], *намётка* [11, с. 277; 4, т. 3, с. 161], *на́матка* [5, с. 298] з першасным значэннем. Старабеларускае *наметъ* лічыцца пазычаннем з польскага *namiot* 'палатка, шацёр', аднак гэтая сувязь непрымальная для назвы галаўных убораў. Хутчэй, роднаснае з рускім *наметать*, народная этымалогія зблізкае з *наматаць* (палескае – *наматка*).

Як і наміткі, чапцы былі абавязковымі для замужняй жанчыны. Іх або вязалі, альбо шылі з тканіны. У адрозненне ад разнастайных варыянтаў навівання намітак, крой пашытых чапцоў быў дастаткова аднастайным на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Яны шыліся з суцэльнага куска тканіны, у якім недалёка ад краю рабілася прораз. Пры сшыванні большая частка чапца збіралася ў складкі альбо зборкі, і ўтваралася акругленне для галавы. Завязваўся чапец звычайна на патыліцы з дапамогай ушытай ззаду тоненькай аборкі або стужачкі. Як адзначаюць даследчыкі народнага адзення, завязванне чапцоў пад падбародкам было распаўсюджана толькі ў цэнтральнай Беларусі [12, с. 168]. Гэта інфармацыя не пацвярджаецца лінгвістычным матэрыялам. Як слоўнікі літаратурнай мовы, так і дыялектныя слоўнікі апісваюць гэты від жаночага галаўнога ўбору з завязкамі пад падбародкам. Пры гэтым дыялекталагічныя крыніцы занатавалі больш назваў чапцоў.

Так, акрамя адлюстраваных у акадэмічных слоўніках лексем *чапец, чэпчык, каптур* і *капар*, народныя гаворкі Гродзеншчыны захоўваюць яшчэ лексемы*: брыжы, дзярноўка, гірлянда, капытка, пучыдло, строік, чэпак*. Фактычна ўсе гэтыя лексемы сёння пасіўнага запасу – састарэлыя. Толькі *чэпак* і *чэпчык* ужываюцца з яшчэ адным значэннем – 'вэлюм' і ўключаюцца ў лексічна-семантычную падгрупу назваў вясельных галаўных убораў (разам з лексемамі *вален, валь, вэлян, вэлюм, вянок, завой, фата).*

Лексема *чапец* сярод гэтай лексічна-семантычнае падгрупы назваў даўнейшых галаўных убораў, якія насілі пад хусткаю пажылыя жанчыны, займае дамінантнае становішча. Матэрыял гродзенскіх гаворак паказвае, што яна бытавала ў шматлікіх варыянтах: *чы'пак* (*Наложа чыпак, такая хароша баба!* Быстрыца Астр.; *чапок (Маладзіцы ш чапком хадзілі*. Міратычы Карэл. [4, т. 5, с. 403, с. 440]) і, найчасцей, *чэпак*: *Чэпак надзявалі замужнія*. Новікі Гродз.; *Чэпак зложыць маладая пасьля васельля*. Паляцкішкі Воран.; *Як замуш выходзілі, куплялі чэпак на голаў – белы. А на чэпак завязвалі хустку*. Кіралі Шчуч.; *Старыя насілі чэпак*. Старое Сяло Зэльв.; *Чэпак насілі бабы*. Навасёлкі Свісл.; *Чэпкі насілі пат спот, наверх хустку завязвалі*. Мсцібава Ваўк. [4, т. 5, с. 446]*; Чэпкі насілі даўней, мая маці насіла*

*чэпак, чэпкі накладалі на галаву замужнія жанчыны*. Куклі Воран. [13, с. 553]. Відавочна, што гэты від галаўнога ўбору меў узроставую, а не саслоўную (як у Даля *чепец, чепчик, чепик*– 'галаўны жаночы ўбор вышэйшага класа – дваранства') дыферэнцыяцыю. Праславянскае **čеrьсь* роднаснае літоўскаму *kepure* шапка, якое спрабуюць набліжаць да грэцкага, спробы збліжэння з сяр.-лацінскім *cappa* 'від галаўнога ўбору', згодна з М.Фасмерам, састарэлі. Такім чынам, *чапец, чапок, чыпак, чэпак* утвораныя ад кораня *чэп-* пры дапамозе адпаведных суфіксаў *(-ец, -ок, -ак)*. *Чэпчык* – памяншальнае суфіксавае ўтварэнне ад *чапец*, якое са значэннем 'вэлюм' можа разглядацца як вынік пераасэнсавання дэмінутыва.

*Каптур* – 'галаўны ўбор, які насілі замужнія жанчыны пад хусткай'*: Ест каптуры, у каго захаваўся*. Куклі Воран. [13, с. 217]; *За маёй памяццю маладзіцы насілі каптуры з вушамі*. Бакшты Іўеў. [4, т. 2, с. 406]. Другое значэнне гэтага слова – 'дзіцячая шапачка' [4, т. 2, с. 407]. *Капту'рык* ужываецца як памяншальнае да абодвух значэнняў гэтага слова. Прыкладна такія самыя значэнні мае слова *каптур* у літаратурнай мове, дзе называе дзіцячы або жаночы вязаны галаўны ўбор, які завязваецца пад падбародкам [14, с. 277; 15, т. 2, с. 633]. У мінска-маладзечанскіх гаворках *каптур* – гэта яшчэ і 'высокая прычоска з доўгіх валасоў' [9, в. 3, с. 61]. Іншае значэнне мела слова ў старабеларускай мове: 'каўпак, капюшон' [16, с. 139], 'цёплая шапка з круглым верхам, падшытая футрам', 'манаскі галаўны ўбор' [17, т. 14, с. 273]. Старабеларускія *каптуръ, коптуръ* пазычаныя са старапольскага *kaptur*, якое, аднак, не мае надзейнай крыніцы пазычання, выводзяць з лацінскай або цюрцкіх (турэцкай) моў.

*Брыжы* – 'вязаны чэпчык з карункамі, які насілі замужнія жанчыны пад хусткай': *Як толькі вышла замуш, так на галаву і надзела брыжы*. Клачкі Гродз. [18, с. 22]. Акадэмічныя слоўнікі фіксуюць слова са значэннем 'вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборачкі, якою аздаблялі адзенне і інш.' [15, т. 1, с. 410; 14, с. 94]. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы падае яшчэ значэнне 'тое, што сваёй формай нагадвае карункі'. Фактычна з такімі самымі значэннямі, што і ў літаратурнай мове, бытуе лексема *брыжы* ў іншых гаворках: 'прышытая складкамі стужка матэрыі да адзежыны' [11, с. 92; 19, т. 1, с. 132], 'рознакаляровыя істужкі, прышытыя да падола спадніцы' [7, с. 23], 'манжэты: каўнерык (у складкі) у нямецкай рубашкі і такі самы выпуск на грудзях' [19, т. 1, с. 132], *брыжыкі* – 'махры з нітак' [9, в. 1, с. 24]. У старабеларускай мове адзначаецца з XVIII стагоддзя *брыжики* 'карункі' [17, т. 2, с. 227]. Са значэннем 'чэпчык' *брыжы* – вынік семантычнай дэрывацыі, але тут мы маем справу з метаніміяй (а не метафарай, як у літаратурнай мове і іншых гаворках). Адбыўся перанос назвы часткі на цэлае ад *брыжы* 'карункі', якое з польскага *bryże* 'тс', а гэта з нямецкага *Fries* 'фрыз' або *Breis(e)* 'аздабленне на рукаве'.

Наступныя назвы адмысловых жаночых галаўных убораў фіксуюцца толькі ў гаворках Гродзеншчыны з адпаведнымі паметамі, літаратурнымі і дыялектнымі слоўнікамі іншых рэгіёнаў Беларусі яны не адзначаюцца. Калі ўлічыць, што з часу рэгістрацыі гэтых лексем прайшло ўжо 30 - 50 год, то відавочна, што сучасныя гродзенскія гаворкі іх таксама страцілі.

*Дзярноўка* – устарэлая назва чапца: *Бало дзярноўку на галаве насілі*. Едначы Зэльв. [20, с. 53]. На Гомельшчыне *цярноўка (церноўка)* – 'хустка (шарсцяная)' [21, в. 10, с. 121]. У літаратурнай мове *дзёран* і *дзярніна* – 'верхні пласт глебы, густа пераплецены карэннем травы' [15, т. 2, с. 172, с. 180]. Магчыма, слова – вынік семантычнай дэрывацыі паводле падабенства ў размяшчэнні (верхні пласт) альбо выглядзе (магчыма, чэпчык быў сплецены).

*Гірлянда* падаецца з паметай «устарэлае» са значэннем 'жаночы галаўны ўбор, які апраналі пад хустку': *З белага гафтавання шылі гірлянды, насілі пат хустку дзеўкі і жанчыны*. Нагародавічы Дзятл. [13, с. 119]. Відавочна, вынік семантычнай дэрывацыі. Параўнаем: літаратурнае *гірлянда* 'кветкі і зеляніна, сплеценыя ў выглядзе шырокай стужкі' альбо, больш верагодна, 'арнамент, узор у выглядзе гэтых кветак' [14, с. 150]. Сама лексема *гірлянда* – з нямецкага *Girlande* або французскага *guirlande*.

Лексема *капытка* выкарыстоўвалася для найменне жаночага галаўнога ўбора з матэрыі: *Пат шапку надзяваям капытку з брыжамі*. Навасёлкі Свісл. [7, с. 74]. На Палессі *копыток* 'казырок' [5, с. 293]. Відавочна, новае значэнне ўзнікла на падставе падабенства галаўнога ўбору паводле формы да *капыта*. *Капытка* – вынік семантычнай дэрывацыі.

*Пучыдло* – 'галаўны ўбор, які раней старыя кабеты насілі пад хусткай': *Яшчэ мая маці насіла пучыдло*. Міжэвічы Слонімск. Калі не лічыць слова пазычаннем з польскай мовы, то *пучыдла* – суфіксавае ўтварэнне ад *пучыць 'тырчаць' (пуч-ыдл-а)*. Даслоўна *пучыдла* – 'тое, што тырчыць, выпіраецца', а ў выніку семантычнай дэрывацыі – назва галаўнога ўбору.

*Строік* – 'галаўны ўбор, які даўней сталыя кабеты насілі пад хусткай': *Яшчэ наша матуля строік насіла – недзе ў шапе валяецца*. Дзяляцічы Нав. [22, с. 72]. Другое значэнне слова, пададзенае з паметай абрадавае, – 'галаўны ўбор удавы, якая другі раз ідзе замуж': *Як другі раз ідзе ўдава замуш, то кладзе строік – такі быў зроблены каблучок,*

*прымацоўвалі кветкі, куплялі і клалі, як ішлі ў царкву*. Міратычы Карэл. [4, т. 4, с. 599]. Магчыма, роднаснае *строй* 'касцюм', *строіцца*, *устроіцца* 'ўбірацца'.

Як вынікае з прыведзенага фактычнага матэрыялу, назвы адмысловых галаўных убораў як у літаратурнай, так і ў дыялектнай мове перайшлі ў пасіўны запас альбо страціліся ў сувязі са знікненнем рэалій, што іх называлі.

*Спіс літаратуры*

1. Маленка, Л.І. Беларускае народнае адзенне: метадычны дапаможнік / Л.І. Маленка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 64 с.

2. Беларускае народнае адзенне / пад рэд. В.К. Бандарчыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 95 с.

3. Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 670 с.

4. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 5.

5. Лексика Полесья. Материалы для славянского полесского диалектного словаря / АН БССР, Ин-т славяноведения; отв. ред. Н.И. Толстой. – М.: Наука, 1968. – 476 с.

6. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М.М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 292 с.

7. Шаталава, Л.Ф. Беларускае дыялектнае слова / Л.Ф. Шаталава. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 208 с.

8. Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі. У 2 т. / уклад. Е.С. Мяцельская [і інш.]; пад рэд. Е.С. Мяцельскай. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1. – 287 с.

9. Матэрыялы да слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак: 3 выпускі / пад рэд. М.А. Жыдовіч. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1970 – 1977. – 3 вып.

10. Тураўскі слоўнік. У 5 т. / склад А.А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – Т. 5.

11. Бялькевіч, І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І.К. Бялькевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. - 512 с.

12. Молчанова, Л.А. Материальная культура белорусов / Л.А. Молчанова. – Минск: Наука и техника, 1968. – 231 с.

13. Сцяшковіч, Т.Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 618 с.

14. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / І.М. Бунчук [і інш.]; пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – Мінск: БелЭн, 1998. – 783 с.

15. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / пад рэд. К. Атраховіча. – Мінск: БелСЭ, 1977 – 1984. –5 т.

16. Булыка, А.М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А.М. Булыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 382 с.

17. Гістарычны слоўнік беларускай мовы / АН БССР; Ін-т мовазнаўства; гал. рэд. А.І. Жураўскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1999. – Т. 18.

18. Цыхун, А.П. Скарбы народнай мовы: З лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну / А.П. Цыхун. – Гродна, 1993. – 243 с.

19. Даль, В. Толковый словарь живого великорусского языка. В 4 т. / В. Даль. – М.: Русский язык, 1978 – 1982. – 4 т.

20. Сцяцко, П.У. Народная лексіка / П.У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 175 с.

21. Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвузаўскі зборнік. Выпускі 3 – 10. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1975 – 1982.

22. З народнага слоўніка: зб. артыкулаў / рэд. А.А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 351 с.

УДК 811.161.3

**Ю.В. Маліцкі** (Мінск)

## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ІХТЫЯЛАГІЧНАЯ ЛЕКСІКА: АБ'ЕКТНЫ ТЫП МАТЫВАЦЫЙНЫХ АДНОСІН

Іхтыялагічная наменклатура (назвы рыб) па праву лічыцца самай складанай у плане сістэматызацыі і ўпарадкавання групай фауністычнай лексікі. Іхтыёнімы найбольш нераўнамерна размяркоўваюцца па моўнай тэрыторыі, а іх значэнні найменш дакладна засвойваюцца большасцю носьбітаў мовы. Прычына гэтага – у строгай лакалізацыі іхтыялагічных найменняў у залежнасці ад размяшчэння водных аб'ектаў і складу іх насельнікаў. «Асобныя найменні рыб актыўна функцыянуюць звычайна толькі там, дзе водзяцца адпаведныя віды ці разнавіднасці рыб, у той час як у мясцовасцях, аддаленых ад вадаёмаў, яны застаюцца цалкам невядомымі ці для асноўнай масы насельніцтва семантычна нявызначанымі» [1, с. 3]. Пэўная семантычная дыфузнасць іхтыёнімаў, безумоўна, стварае вялікія цяжкасці пры сістэматызацыі лексічнага матэрыялу. Але, у той жа час, адносная тэрытарыяльная ізаляванасць назваў і істотнае вар'іраванне рыбалоўнага вопыту ў розных мясцовасцях робяць дыялектную іхтыялагічную тэрміналогію надзвычай цікавым і рэпрэзентатыўным аб'ектам для анамасіялагічных даследаванняў.

Асноўная задача анамасіялагічнага аналізу заключаецца ў вылучэнні матывацыйных адносін, пакладзеных у аснову таго ці іншага наймення. У якасці асноўных анамасіялагічных паняццяў можна назваць наступныя: анамасіялагічная дамінанта, тып матывацыйных адносін, матывацыйная прыкмета. *Анамасіялагічная дамінанта* – гэта комплекс аднародных матывацыйных прыкмет, набор якіх адлюстроўвае пэўную назватворчую накіраванасць. Сукупнасць

дамінант, што рэалізуюцца ў межах пэўнага тыпу матывацыйных адносін, фарміруе анамасіялагічны кантэкст. *Тып матывацыйных адносін* адлюстроўвае характар моўнага выражэння анамасіялагічнай дамінанты. Ён з'яўляецца прамежкавай ступенню паміж анамасіялагічнай дамінантай і матывацыйнай прыкметай, з аднаго боку, і фармальна-структурным абліччам намінацыйнай адзінкі – з другога. У якасці *матывацыйнай прыкметы* выступае канкрэтная ўласцівасць аб'екта намінацыі, якая вылучае яго на фоне іншых.

Агульны аб'ём разгледжанага корпуса беларускіх народных найменняў рыб большы за 250 адзінак. Разам з варыянтамі колькасць іхтыёнімаў перавышае 600 лексем[9]. Імі прадстаўлена 35 відаў рыб.

Назвы рыб, распаўсюджаныя ў беларускіх гаворках, з пункту погляду матываванасці можна падзяліць на дзве вялікія групы: матываваныя і нематываваныя. Да нематываваных мы адносім «чыстыя» запазычанні (***келб***, ***мінога***, ***харыус***), а таксама этымалагічна цьмяныя ці на дадзены момант нявызначаныя найменні (напрыклад, ***карп***). Яны выходзяць за межы аб'екта анамасіялагічнага даследавання, бо не з'яўляюцца прадуктам назватворчай дзейнасці носьбіта беларускай мовы. Колькасць такіх назваў адносна агульнага корпуса беларускай іхтыялагічнай лексікі невялікая (каля 10%). Усе астатнія намінацыі класіфікуюцца адносна анамасіялагічных дамінант, тыпаў матывацыйных адносін і матывацыйных прыкмет.

Як сведчыць матэрыял, беларуская народная іхтыянаменклатура базуецца на сямі анамасіялагічных дамінантах. У аснове ўсіх беларускіх назваў рыб ляжаць наступныя характарыстыкі:

1) характэрная знешняя асаблівасць;
2) характэрная асаблівасць паводзін;
3) характэрная фізіялагічная асаблівасць;
4) час нерасту;
5) пераважнае месца існавання;
6) спосаб здабывання;
7) спосаб спажывання.

Корпус беларускай народнай іхтыялагічнай лексікі даволі раўнамерна размяркоўваецца па ўсіх асноўных тыпах матывацыйных адносін: аб'ектным, атрыбутыўным, дзейнасным. У меншай ступені

[9] Аб'ём корпуса беларускіх народных іхтыёнімаў вызначаўся паводле тэматычнага слоўніка «Жывёльны свет» (раздзел «Рыбы») [2]. На дадзены момант гэта найбольш поўны збор дыялектных іхтыялагічных назваў беларускай мовы.



прадстаўлены назвы метафарычнага і складанага (аб'ектна-дзейнасны, атрыбутыўна-дзейнасны, атрыбутыўна-метафарычны і г.д.) тыпаў.

Аб'ектны тып матывацыйных адносін з'яўляецца найбольш распаўсюджаным у параўнанні з іншымі тыпамі. Да яго належыць адна трэцяя частка ад агульнай колькасці матываваных іхтыялагічных намінацый. Акрамя таго, аб'ектны тып вылучаецца найбольш разгалінаванай сістэмай матывацыйных прыкмет у межах прадстаўленых анамасіялагічных дамінант.

Да аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін належаць іхтыялагічныя назвы, што ў зместавым аспекце актуалізуюць спасылку на аб'екты жывой і нежывой прыроды. Марфалагічную аснову згаданага тыпу складаюць неадушаўлёныя назоўнікі і адносныя прыметнікі.

Назвы і варыянты, што належаць да аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін, рэпрэзентуюць 19 відаў рыб. Найбольшай колькасцю назваў і варыянтаў (ад 10 да 20) прадстаўлены віды, характэрныя для рэк і азёр па ўсёй тэрыторыі Беларусі (**акунь**, **бычок**, **ёрш**, **лешч**, **падуст**, **плотка**). Аб'ектны тып выступае ў якасці выключнага ў найменнях пэўных відаў рыб: напрыклад, усе народныя назвы **галаўня** адносяцца толькі да аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін.

Анамасіялагічны кантэкст назваў аб'ектнага тыпу складаюць тры дамінанты:

1) характэрная знешняя асаблівасць; 2) пераважнае месца існавання; 3) час нерасту.

Кола матывацыйных прыкмет у межах гэтых дамінант акрэслена прадметнымі рэчамі, а таксама абстрактнымі часавымі паняццямі.

Анамасіялагічная дамінанта *«характэрная знешняя асаблівасць»* у межах аб'ектнага тыпу прадстаўлена матывацыйнымі прыкметамі з агульным значэннем саматычных аб'ектаў – частак цела рыбы.

Саматычныя аб'екты вылучаюцца носьбітам мовы ў якасці базавых для назватворчасці дзякуючы пэўнай адметнасці. Як правіла, яна засноўваецца на ненармальных (адрозных ад рэальнай ці ўяўнай нормы) відавочных характарыстыках пэўнага віду рыбы ў параўнанні з іншымі. Гэта можа быць памер галавы ці вачэй (як правіла, вялікі), форма носа (празмерна выцягнуты) ці лба (занадта пляскаты), наяўнасць калючак і г.д. Параўнальнасць пры гэтым выступае вызначальным фактарам. Такім чынам, намі адзначаны наступныя матывацыйныя прыкметы:

- вялікая галава (***галавач*** ‘бычок’);

- шырокі (пляскаты) лоб (***лабач*** ‘невялікі шчупак’);

- вялікі рот/вусны (***губар*** ‘лешч’),

- вялікія вочы (***вакунь*** ‘акунь’ [ад *око* ‘вока’; 3], ***глазач*** ‘лешч’),

- выцягнуты нос (***насар*** ‘ёрш’);

- своеасаблівая лінія пазваночніка (***гарбыль*** ‘буйны акунь’);

- наяўнасць калючак (***ёрш*** ‘ёрш’ [рус. дыял. ***ёрш*** ‘зазубраны цвік’ – назва паводле калючак на пярэдніх і галоўных жаберных крышках; 4]).

Пры рэалізацыі вышэйзгаданых прыкмет матывацыя мае партытыўны характар: назва ўсёй рыбы абумоўлена вылучэннем некаторай, адметнай па меркаванні суб’екта намінацыі, часткі цела.

У межах анамасіялагічнай дамінанты *«пераважнае месца існавання»* атрымалі развіццё матывацыйныя прыкметы, звязаныя са сферай існавання рыб. Сутнасць гэтых матывацыйных прыкмет складае аб’ектная прывязка ў спосабе існавання той ці іншай рыбы або яе пераважнае месца знаходжання. Гэта такія аб’екты, як

- уласна дно (***днянка*** ‘плотка’, ***падонак*** ‘шчупак’);

- пясок (***пясчанік***/***пясочнік*** ‘бычок’, ***пясчанка*** ‘малы падуст’, ***пяскур***/***пяскар*** ‘пячкур’ і інш.);

- камень (***падкаменшчык*** ‘бычок’);

- глей/ціна (***багнік*** ‘уюн’ [ад *багна*]).

Назвы рыб, што ўзніклі на базе анамасіялагічнай дамінанты *«час нерасту»* суадносяцца з рэаліямі двух тыпаў: рэальныя рэчыўныя аб’екты і абстрактныя часавыя паняцці. На базе рэчыўных аб’ектаў (дрэваў, на час цвіцення якіх прыпадае нераст) узніклі такія назвы, як ***альхоўка*** ‘плотка’, ***альховік*** ‘лін’ (матывацыйная прыкмета – «нераст у час цвіцення альхі»), ***вярбовік*** ‘лешч’(«нераст у час цвіцення вярбы»), ***каласавік*** ‘лешч’ («нераст у час цвіцення каласоў жыта»), ***малінаўка*** ‘рыбец’ («нераст у час цвіцення маліны») і інш. На базе абстрактных часавых паняццяў (каляндарных святаў і частак года) – назвы тыпу ***мікольнік*** ‘лешч’ («нераст у час свята Міколы»), ***юравіца*** ‘мінога’ («нераст у час свята Юр’я»), а таксама ***красавік*** ‘лешч’ («нераст у красавіку»), ***марцоўка*** ‘шчупак’ («нераст у марце») і інш.

Цікава, што характар матывацыйнай прыкметы ў адносінах да аднаго і таго ж віду рыбы можа вар’іравацца. Так, напрыклад, у беларускіх гаворках назвы **лячша**, Abramis brama (L.), што ўзніклі на базе дамінанты «час нерасту» могуць суадносіцца з рознымі раслінамі і, адпаведна, мець розныя матывацыйныя прыкметы: «нераст у час цвіцення бярозы» (***бярозавік*** – паўночны рэгіён Беларусі), «нераст у час цвіцення вярбы» (***вярбовік*** – паўночна-заходняя дыялектная зона, а таксама Лоеўскі раён), «нераст у час цвіцення лазы» (***лазовік*** – паўночна-заходняя дыялектная зона), «нераст у час цвіцення лапуха» (***лапушнік*** – Браслаўскі раён), «нераст у час цвіцення чаромхі» (***чаромушнік*** / ***чаромхавік*** / ***чаромха*** – паўночны рэгіён, а таксама Смаленшчына). Тлумачыцца гэта, на нашу думку, адрозненнямі ў рыбалоўным вопыце.

Адзначым, што іхтыялагічныя назвы ў пэўных выпадках могуць узнікаць на базе адразу дзвюх анамасіялагічных дамінант. Такая матывацыя ўзнікае ў выніку накладання адной дамінанты (храналагічна пазнейшай) на другую (ранейшую) на падставе сугучнасці рэалій, што абумоўліваюць характар субдамінанты. У якасці прыкладу такой з’явы можна прывесці назву ***калінік*** ‘лін’. Паводле В.Ц. Каламіец, на першым этапе фарміравання такіх адзінак згаданыя найменні звязваліся з праславянскай асновай *kalъ* ‘бруд’. На наступных этапах да гэтага ўяўлення далучылася ўяўленне аб каліне як аб расліне, з часам цвіцення якой супадае нераст ліна. Паводле такога самага прынцыпу, відавочна, узнікла і назва ***калінаўка*** ‘краснапёрка’. Толькі ў гэтым выпадку, як можна меркаваць, адбылося сумяшчэнне анамасіялагічных дамінант «час нерасту» і «характэрная знешняя асаблівасць» (параўнанне колеру ягад каліны і колеру плаўнікоў **краснапёркі**).

Асноўным анамасіялагічным спосабам – словаўтваральным напрамкам фарміравання структуры назваў, – характэрным для аб’ектнага тыпу матывацыйных адносін, з’яўляюцца розныя тыпы **афіксацыі**.

Суфіксацыя выступае найбольш распаўсюджаным спосабам утварэння іхтыялагічных назваў, што адносяцца да аб’ектнага тыпу матывацыйных адносін (больш за 70% ад агульнай колькасці назваў). Пры фарміраванні назваў рыб запатрабаваны суфіксы *-ар* (***губар*** ‘лешч’, ***насар*** ‘ёрш’ і інш.), *-ач* (***лабач*** ‘шчупак (невялікі)’, ***глазач*** ‘бычок’, ***гарбач*** ‘акунь’ і інш.), *-ень* (***галавень*** ‘галавень’), *-ік*/*-нік* (***багнік*** ‘уюн’, ***лапушнік*** ‘лешч’, ***мікольнік*** ‘лешч’, ***чаромушнік*** ‘лешч’ і інш.), *-к* (***калінка*** ‘верхаводка’), *-ур* (***пячкур*** ‘пячкур’), *-ыль* (***гарбыль*** ‘акунь (вялікі)’), а таксама суфіксальныя спалучэнні *-авіц-* (***юравіца*** ‘мінога’), *-анк-*/*-янк-* (***днянка*** ‘плотка’, ***пясчанка*** ‘падуст’, ***альшанка*** ‘гарчак’ і інш.), *-оўк-*/*-аўк-* (***альхоўка*** ‘плотка’, ***марцоўка*** ‘шчупак’, ***калінаўка*** ‘краснапёрка’ і інш.), *-овік-*/*-авік-*/*-евік-* (назвы **ляшча**: ***вярбовік***, ***лазовік***; ***бярозавік***, ***каласавік***; ***ябланевік***, ***юр’евік***). У некаторых выпадках характар выбару таго ці іншага суфікса ў іхтыялагічным найменні можа быць прадыктаваны характэрнымі асаблівасцямі прадстаўнікоў пэўнага віду. Так, напрыклад, у аснове назваў ***галовень*** ‘галавень’ і ***галавач*** ‘бычок’ ляжыць адзін аб’ект – галава, але падставы

яго вылучэння ў якасці базы назватворчага працэсу розныя. Назва галаўня «тлумачыцца не столькі памерам галавы гэтай рыбы, колькі яе асаблівай формай» [1, с. 19]: наяўнасцю шырокага лба, які пераходзіць у крыху пляскатае цела. У той жа час назва ***галавач*** 'бычок' абумоўлена менавіта памеравымі характарыстыкамі: галава гэтай рыбы сапраўды вялікая і кідаецца ў вочы на фоне цела [5]. Напэўна, у гэтым і заключаецца розніца ў выбары афіксальных словаўтваральных сродкаў, што рэалізуюць кожнае са значэнняў. Суфікс *-ач* адпавядае мадэлі, што рэалізуецца ў словах тыпу *пузач* 'чалавек з пузам, вялікім жыватом', суфікс *-ень* – не адпавядае.

Прэфіксальны (***падуст*** / ***падуства*** 'падуст') і прэфіксальна-суфіксальны (***падкаменшчык*** 'бычок', ***падонак*** 'шчупак') словаўтваральныя спосабы пры фарміраванні структуры назваў рыб аб'ектнага тыпу запатрабаваны значна менш.

Суфіксацыя валодае безумоўным прыярытэтам у моўнай рэалізацыі ўсіх без выключэння анамасіялагічных дамінант. Ступень яго запатрабаванасці большая за 50% па кожнай: ад 56% па дамінанце «пераважнае месца існавання» да 95% па дамінанце «час нерасту». У назвах, утвораных паводле анамасіялагічнай дамінанты «характэрная знешняя асаблівасць», адзначаецца колькасная перавага суфіксаў *-ар* і *-ач*. Яны далучаюцца да базавай асновы са значэннем частак галавы рыбы. У фармальную структуру назваў, утвораных на базе анамасіялагічнай дамінанты «пераважнае месца існавання», у найбольшай колькасці выпадкаў уваходзяць суфікс *-ік-*/*-нік-*, а таксама спалучэнне суфіксаў *-анка-*/*-янка-*. Значэнне каранёў, з якімі ўзаемадзейнічаюць згаданыя марфемы, – 'уласна дно вадаёма і характар яго пакрыцця'. Афіксальную частку большасці назваў, утвораных паводле анамасіялагічнай дамінанты «час нерасту», складае суфікс *-ік-*. Найчасцей ён далучаецца да каранёвай марфемы са значэннем дрэваў.

*Спіс літаратуры*

1. Коломиец, В.Т. Происхождение общеславянских названий рыб / В.Т. Коломиец. – Киев: Наукова думка, 1983. – 159 с.
2. Жывёльны свет: тэматычны слоўнік / склад. В.Дз. Астрэйка і інш.; рэд. Л.П. Кунцэвіч, А.А. Крывіцкі. – Мінск: Беларуская навука, 1999. – 239 с.
3. Этымалагіны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. А – Б / В.У. Мартынаў, [і інш.]; рэд. В.У. Мартынаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 440 с.
4. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: В 4 т. Т. 2 / М. Фасмер; пер. с нем. и доп. О.Н. Трубачёва. – СПб.: Терра-Азбука, 1996. – С. 27.
5. Рыбы: попул. энцикл. справ. / Под ред. П.И. Жукова. – Мінск: БелСЭ, 1989. – 311 с.



УДК 811.161.3

**П.І. Маляўка** (Гродна)

## МОЎНАЯ ПАЛІТРА АПАВЯДАННЯЎ АЛЕНЫ ВАСІЛЕВІЧ

У айчыннай мастацкай літаратуры Алена Васілевіч займае сваю нішу, мае свой аўтарскі голас, сваё індывідуальнае аблічча, непаўторнае, адметнае. З усіх літаратурных жанраў яна аддала перавагу, выбрала надзейным спадарожнікам і выразнікам сваіх думак і пачуццяў па жыцці самы малы па форме эпічны жанр – апавяданне, у якім пісьменніца ўсімі магчымымі моўнымі сродкамі імкнецца абараніць гармонію жыцця і праўду веку.

*«Пра што б ні пісала Алена Васілевіч, у яе творах заўсёды адчуваецца маладое жыццялюбства, уменне разглядзець усе колеры жыцця, аддаючы перавагу тым светлым, што мецяць яго асноўны тон. Столькі ўсмешак, часам замілавання да сваіх герояў, шчырай улюблёнасці ў жыццё»* [1, с. 88-89].

У яе апавяданнях непарыўна паяднаны, зліты змест і форма, зменлівы настрой і рытміка радка, разнастайнасць пачуццяў і самі словы, якія перадаюць гэтыя пачуцці. Са старонак напісанага ёю гучыць жывая беларуская мова, экспрэсіўная, эмацыянальная, пяшчотна-настраёвая.

*«Фраза Алены Васілевіч мякка-задуменная, лагодна-спакойная, стрымана-строгая, заклапочана-далікатная, з'едліва-іранічная, рэзка-непрымірымая, шчымліва-балючая, радасна-светлая, гулліва-іскрыстая…»* [2, с. 17].

Яна глыбока адчувае, добра ведае і ўмела карыстаецца народнымі моўнымі скарбамі. А гэта дазваляе ёй выказаць свае думкі і пачуцці пры дапамозе яркіх вобразаў. Слова пісьменніцы жывое, нясе ў сабе ўсю паўнату перажыванняў. Характар моўнавыяўленчых сродкаў абумоўлены экспрэсіяй пачуццяў, метафарычнасцю выказвання, стварэннем новых, нечаканых аўтарскіх кантэкстаў. Адчуць сэрцам каштоўнасць ужывання ў дадзеным месцы канкрэтнай моўнай фарбы можа толькі здольны і таленавіты мастак.

І зусім не выпадкова мова яе апавяданняў з'яўляецца багатай і рознакаляровай, насычана шматлікімі параўнаннямі, фразеалагічнымі спалучэннямі, метафарамі, прыказкамі. Кожны са сродкаў адлюстроўвае пэўную думку галоўнага героя, яго душэўны стан, рысу характару, пейзаж, замілаванасць роднымі мясцінамі. Каб пераканаўча абмаляваць з'яву ўсебакова, шматгранна, Алена Васілевіч карыстаецца індывідуалізаванымі моўнавыяўленчымі сродкамі, збірае задуманы вобраз па частках з мэтай больш поўнага раскрыцця характару героя,

пачынаючы з апісання знешняга вобліку і спыняючыся на асаблівасцях паводзін і псіхаэмацыянальным аналізе яго ўчынкаў. Пісьменніца валодае вялікім майстэрствам выяўляць сілу, «магічнасць» слова праз яго музыку – гук, рытм. Як вясёлы пацешнік, мудры чараўнік, яна снуе і снуе ніці сваёй невычарпальнай фантазіі, каб весела, у моўнай гульні раскрыць нам, асабліва дзецям, розныя адценні значэння слоў, паказаць сувязь іх сэнсавай сутнасці і гучання, вучыць спасцігаць народны дух мовы. Слова ў яе апавяданнях пераліваецца, «іграе», як вясёлка, рознымі фарбамі і адценнямі.

Эстэтычную функцыю мовы апавяданняў забяспечваюць вобразныя параўнанні, якія выкарыстоўваюцца для каляровай і змястоўнай перадачы думак і пачуццяў, выразна характарызуюць прадмет, абмалёўваючы яго з усіх бакоў. На думку Ф.М. Янкоўскага, *«параўнанне ва ўсіх, без выключэння, мовах – яркі паэтычны сродак! Параўнанне пачуем, калі касец разказвае пра навальніцу, якая заспела яго на лузе. Параўнанне сустрэнеш у мове пісьменніка, калі той апісвае штосьці ці разважае або аддае свайму герою маналог…»* [3, с. 8].

Менавіта гэтаму моўнаму сродку аддае перавагу Алена Васілевіч, каб грунтоўна апісаць пэўную асобу, яе эмацыянальны стан і паводзіны, каб данесці да нас нават самыя невялічкія асаблівасці кожнай з'явы, паасобнага чалавека. Так, непаўторнасць і індывідуальнасць у адлюстраванні знешняга выгляду маленькіх герояў нясуць вобразныя параўнанні, выкарыстаныя аўтаркай у апавяданнях «Падчарыца», «Шурка Рэмзікаў»: *«Калі дзяўчынка злуецца або задумваецца над чым-небудзь вельмі сур'ёзным, густыя бровы сыходзяцца на пераноссі так блізка, **быццам зрастаюцца**»* [4, с. 203] і *«…старшына звярнуўся да хлапчука з тварам, усыпаным, **нібы драздовае яйцо**, рабаціннем»* [4, с. 412].

Не менш трапныя вобразныя параўнальныя звароты ўжывае пісьменніца, каб паказаць глыбіню чалавечага сэрца, той настрой, што ахоплівае героя ў незвычайных для яго абставінах: *«Я любіла Каіпава і ўпотай ад людскіх вачэй горка плакала над яго бездапаможнымі трыкутнічкамі і над яго лёсам: з кожным днём, **нібыта раставаў**, Каіпаў гаснуў і гаснуў»* [4, с. 24].

Калі характарызаваць параўнанні адносна іх структуры, то можна выдзеліць два тыпы канструкцый: параўнальныя звароты, якія складаюцца з ***аднаго слова або словазлучэння,*** што уваходзіць у склад простых і складаных сказаў, і з ***цэлага сказа – даданай часткі складаназалежнага сказа***. Першая група параўнанняў значна пераважае ў мове апавяданняў: *«Пацалаваў я яе, а сам адчуваю, што губы мае зрабіліся халодныя, **як лёд**»* [4,с. 56-57] або *«… да таго ж, **як тапельнік**, ён хапаўся за саломінку, спадзяючыся: можа, усё-такі знойдзецца спачуванне ці хоць якая парада…»* [4,с. 63].

Сустракаюцца, хаця і вельмі рэдка, параўнальныя звароты, якія ў адрозненне ад простых па структуры параўнанняў з'яўляюцца прэдыкатыўнай адзінкай, што нясе пэўнае паведамленне, сцвярджэнне: *«Ад апошніх слоў мой сусед неяк сціскаецца, **нібыта яго знячэўку-сцебанулі нечым пякучым**»* [4,с. 161].

Вельмі распаўсюджанымі ў апавяданнях Алены Васілевіч з'яўляюцца вобразныя параўнальныя канструкцыі, у якіх суб'ект і аб'ект параўнання звязваюцца марфалагічна-сінтаксічнымі сродкамі (параўнальнымі злучнікамі тыпу: як, быццам, бы, нібы, нібыта): *«Вялікія чорныя вочы, **нібыта дзве трапяткія сарначкі**, глядзелі на субяседніка заўсёды як бы са здзіўленнем…»* [4,с. 12] або *«… жарабя яго аднойчы так убрыкнула, што небарака адляцеў, **быццам мячык**…»* [4,с. 439].

Значна радзей выкарыстоўваюцца ў апавяданнях бяззлучнікавыя параўнальныя звароты. Адзінкавымі, да прыкладу, сталіся выпадкі выкарыстання «творнага параўнання», выражанага назоўнікам. Такая канструкцыя характарызуе якасць дзеяння аднаго прадмета не непасрэдна, а праз другі прадмет, дзеянне якога ў дадзены момант найбольш яму ўласціва. Менавіта параўнанне такога тыпу вырашыла ўжыць пісьменніца, каб апісаць першае каханне Ані Валошкі («Пасаг»), калі ўсё ў грудзях гарыць агнём, буркоча і пераварочваецца: *«… яна так і не заснула да самай раніцы. **Агнём** палалі сляды Васілёвых пацалункаў…»* [4, с.173].

Прыведзеныя прыклады патлумачваюць, што пры дапамозе **параўнальных зваротаў**, спосабы ўтварэння якіх самыя разнастайныя і багатыя, Алена Васілевіч па-мастацку пераканаўча апісвае прадметы, з'явы, працэсы і якасці, выразна перадае стылістычныя асаблівасці, грунтоўна ўдакладняе арганічнае выкарыстанне тропаў у структуры апавядальных твораў.

Адным з найбольш распаўсюджаных сродкаў адлюстравання рэчаіснасці з'яўляецца таксама і **метафара**. Паводле стылістычнай афарбоўкі ўсе метафары падзяляюцца на некалькі тыпаў: **моўныя**, гэта значыць метафары з прамым, хоць і ўтвораным на аснове пераносу, значэннем прадметаў і з'яў рэчаіснасці, **паэтычныя**, у якіх заўсёды адчуваецца іншасказальны характар, **індывідуальна-аўтарскія**, якія дапамагаюць пісьменніку данесці свае задумы, нечаканыя асацыяцыі. Што датычыцца апавяданняў пісьменніцы, то яна плённа выкарыстоўвае ўсе тыпы метафар у мастацкай тканіне твора, каб яшчэ больш уразіць, захапіць чытача, падараваць яму асалоду

адлюстраванага свету募 мараў і ўяўленняў. Цікавымі і змястоўнымі з’яўляюцца метафары, што падкрэсліваюць індывідуальнасць чалавека, яго непаўторнасць, адрозненне ад іншых людзей: *«Ці то за дарогу, ці то яшчэ раней чорныя вусікі завёў, скрыпеў новенькімі хромавымі ботамі, на апошнюю дзірачку папругі сцягваў тонкі стан… І, як і раней,* ***паблісквaў*** *чорнымі* ***цыганскімі*** *вачыма…»* [4, с.176] або *«… усё захапляла мяне ў гэтай незнаёмай жанчыне: інтэлігентнасць* ***твару, прыгожага някідкай сціплай прыгажосцю****, лёгкая паходка, вопратка…»* [4, с.23].

Псіхаэмацыянальны стан герояў, іх думкі, пачуцці аўтарка раскрывае трапнымі метафарычнымі словазлучэннямі. Да прыкладу, у адным з апавяданняў чытаем радкі пра выключную адданасць чалавека да сваёй працы: *«…сцэна стала для яго святым алтаром, да якога схіляўся* ***ён*** *кожны раз не інакш, як бескарысна і* ***з палаючым сэрцам****…»* [4, с.93].

Праўдзіва «намалявана» радасць, ласкавасць, пяшчота ў вачах жанчыны, калі яна ўпершыню адчула закаханасць, адчула сябе неабходнай: *«…****яна*** *ці то таму, што па інтарэсах увесь час жыла, што ніколі не дома, ходзіць па гэтых маіх няўтульных пакоях і так шчыра* ***шчабеча****…»* [4, с.57].

Пры дапамозе паэтычных метафар Алена Васілевіч прыгожа і праўдзіва перадае «нам стан прыроды ў розныя поры года, звяртаючы ўвагу не толькі на цёплыя сонечныя дзянёчкі, але і на халодныя зімовыя вечары, калі *«****круціла і замятала*** *дарогу мяцеліца»* [4, с.403] і *«****завіхрыў, загуляў****, паваліў буран»* [4, с.9].

Прыкладам ужывання індывідуальна-аўтарскай метафары ў апавяданні «Геша» сталася апісанне, якім пісьменніца надзяліла маленькае нязграбнае гусяня, якое *«хадзіла павольна, важна, толькі неяк смешна налягала на правую нагу і прававым крылом* ***заграбала паветра****»* [4, с.368]. І яшчэ адзін прыклад такой метафары, але ўжо з іншага апавядання: *«… жанчына, якая ніколі не плача, пужае і…» «* ***замарожвае»*** [4, с.164].

Заўсёды на сваім месцы ў апавяданнях пісьменніцы фразеалагізмы, гэтыя «залацінкі народнай мудрасці», якія ўмоўна адносна іх семантыкі можна падзяліць на паасобныя групы.

Паколькі апісанне свайго героя Алена Васілевіч пачынае са знешняга вобліку, дык і трапна выбраны фразеалагізм можа даць неабходныя звесткі не толькі аб узросце асобы, колеры скуры, вачэй, але і аб фізічным стане чалавека: *«Усё гэта былі мужыкі і бабы* ***шырокай касці,*** *людзі негаваркія, непаваротлівыя, але працавітыя і на дзіва вынослівыя»* [4, с.3].

Дадзены фразеалагізм са значэннем ‘каржакаватыя, каранастыя’ падкрэслівае працалюбства гэтых людзей, здольнасць перамагаць у сабе ляноту, незграбнасць.

Зусім іншая сітуацыя ў апавяданні, у якім маладосць і нявопытнасць героя характарызуюцца фразеалагізмам «малако на губах не абсохла» са значэннем ‘хто-небудзь малады і зусім нявопытны’: *«…стараючыся адвесці ўбок настойлівыя хлопцавы рукі, Валошка ўвесь час абрывала яго: «У цябе самога яшчэ малако не губах не абсохла…»* [4, с.170].

У іншую групу можна вылучыць фразеалагічныя адзінкі, што раскрываюць і аналізуюць унутраны стан герояў, іх мары, памкненні, апісваюць адзіноту чалавека ў гэтым свеце, калі родныя загінулі на вайне і няма каму цяпер пажаліцца: *«… бабка Матруна таксама ж асірацела ў вайну. Адна жыве:* ***ні кала ні двара****»* [4, с.242].

Асобную групу складаюць фразеалагічныя спалучэнні, якія малююць і даносяць да нас дзеянні, паводзіны герояў, а разам з тым, раскрываюць звычкі чалавека, станоўчыя і адмоўныя: *« – Пакурылі? –* ***Адвёў душу****. – Так і дома, на рабоце? – Так. Часам і больш»* [4, с.54] або *«– Нянакш свалата, прайдзісвет – прыстойны чалавек хіба такую жанчыну пакінуў бы? Такую жанчыну! Ды каб мне такую – я* ***на руках*** *бы яе* ***насіў****»* [4, с.85].

Асобна можна выдзеліць фразеалагізмы з узмацняльным значэннем, якія сваім зместам павялічваюць характар успрымання знешняга і ўнутранага апісання героя, значнасці абставін і ўмоў, пры якіх адбываецца дзеянне, што падкрэсліваюць бязмернасць і маштабнасць прыроднага свету: *« – … а заўтра я вам пакажу, дзе ў нас баравікі растуць. Сёлета іх –* ***хоць касу закладай****…»* [4, с.404], яшчэ *«гэтак мяне круціць* ***– свету белага не відаць****»* [4, с.404], пра сапраўднае сяброўства Грышкі і Лёнькі, якія заўсёды дапамагалі адзін аднаму, таму *«ўсе ў школе казалі, што іх* ***вадой не разальеш****»* [4, с.402].

Сваю прыхільнасць да параўнанняў, метафараў, фразеалагізмаў пісьменніца ўраўнаважвае пачуццём меры. Яна не сыпле іх як з рэшата, а калі ўжывае, то вельмі трапна і да месца. Па характару выкарыстання іх у мове апавяданняў можна меркаваць аб тым, якім яна бачыць свет, наколькі шматгранным уяўляе жыццё, у якое яна кліча з нястомнаю вераю ў людзей, шчыра аддаючы перавагу «краіне Дзяцінства».

*Спіс літаратуры*

1. Сямёнава, А.І. Імем Дабраты / А.І. Сямёнава. Гарачы след таленту. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1979. – 182 с.

2. Яфімава, М.Б. Няхай не пакідае нас надзея! / М.Б. Яфімава. – Мінск: Роднае слова, 1997. – 114 с.

3. Янкоўскі, Ф.М. Беларускія народныя параўнанні / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск: Вышэйшая школа, 1973. – 240 с.

4. Васілевіч, А.С. Выбраныя творы. У 3 т. // Апавяданні, успаміны, партрэты, эсэ // А.С. Васілевіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1983. – 493 с.

УДК 811.161.3

**В.В.Маршэўская** (Гродна)

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ З КАМПАНЕНТАМІ *«БЕЛЫ – ЧОРНЫ»*

«Колеравая палітра» ў кампанентным складзе фразеалагічных адзінак беларускай мовы разнастайная, аднак не шматколькасная: з агульнай колькасці прааналізаваных намі адзінак (каля 7 тысяч), пададзеных у Слоўніку фразеалагізмаў І.Я.Лепешава [7], толькі каля 60 выразаў утрымлівае ў сваім складзе кампанент тыпу *зялёны*, *сіні*, *чырвоны*, *залаты*, *ружовы*, *карычневы*, *шэры*, *руды* і іншыя (такія прыметнікі называюць *каляронімамі*). Напрыклад: *зялёнае святло* ‘свабодны шлях, без перашкод і затрымак’; *зялёнае поле* ‘стол для гульні ў карты’; *блакітная кроў* ‘чалавек дваранскага паходжання’; *сіняя птушка* ‘сімвал шчасця; тое, што ўвасабляе для каго-н. найвышэйшае шчасце’; *карычневая чума* ‘фашызм’; (загінуць, прапасці і пад.) *як рудая мыш* ‘зусім дарэмна, беспрычынна’; *шэрая гадзіна* ‘час, калі пачынае цямнець, на стыку дня і ночы, прыцемак’ і іншыя. Часам бывае цяжка растлумачыць, чаму той ці іншы з іх атрымаў пэўнае значэнне, напрыклад, чаму выраз *гарэць сінім полымем (агнём)* мае значэнні ‘знаходзіцца пад пагрозай невыканання, зрыву’ і ‘псавацца, станавіцца непрыгодным’, а выраз *чырвоны певень* мае значэнне ‘пажар’; *сіняя панчоха* – ‘непрывабная жанчына, якую больш за ўсё цікавяць дзелавыя, навуковыя заняткі’, а выраз *сінія каўнерыкі* ў эканоміцы – гэта ‘рабочыя, занятыя фізічнай працай, як правіла, тыя, хто працуе ў цэхах’; навуковы ж і праектна-канструктарскі персанал называецца *залатымі каўнерыкамі*.

Аднак сустракаюцца адзінкі, адзін з кампанентаў якіх **на генетычным узроўні** можна звязаць з разнастайнымі значэннямі (прамымі, вытворна-прамымі, пераноснымі) адпаведнага колеру. Напрыклад, – фразеалагізм *чырвонай ніткай* (праходзіць, пралягаць) ‘вельмі выразна, ярка (праходзіць)’. У беларускай мове прыметнік *чырвоны* ўжываецца ў 6-ці значэннях, першае з якіх *‘які мае афарбоўку аднаго з асноўных колераў спектра, што ідзе перад аранжавым; колеру крыві’*, а чацвёртае значэнне *‘яркі, ясны, светлы’* пазначаецца як *народна-паэтычнае* [8, т. 5, с. 330]. На думку вучоных, чырвоны колер самы моцны з усіх астатніх колераў, ён мае здольнасць хутка, нават імгненна, прыцягнуць да сябе ўвагу [2]. Нездарма спосаб выпраўлення памылак у бухгалтарскіх уліковых запісах носіць назву *чырвонае сторна* і запісваецца толькі чырвоным чарнілам. З этымалагічных крыніц даведваемся, што выраз *чырвонай ніткай* (праходзіць, пралягаць) «у сучасным, пераносным яго значэнні ўпершыню выкарыстаў Гётэ ў рамане «Роднасныя натуры», адначасова паказаўшы, ад якога канкрэтнага значэння ён ішоў: «Нам давялося чуць, што ў англійскім марскім ведамстве існуе такое правіла: усе снасці каралеўскага флоту, ад самага тоўстага каната да найтанчэйшай вяроўкі, сукаюцца так, каб праз іх, на ўсю даўжыню, праходзіла чырвоная нітка, якую нельга выцягнуць іначай, як распусціўшы ўсё астатняе; так што нават па самым маленькім абрыўку вяроўкі можна пазнаць, што яна належыць англійскай кароне» [7, с. 412]. Думаецца, што ніякі іншы колер не мог бы рэалізаваць пазначанае значэнне (‘вельмі ярка, выразна’).

З усёй «колеравай гамы» ў фразеалагізмах часцей сустракаем кампаненты «белы» і «чорны» (такіх адзінак – каля 30): *белыя мухі*, *да белых мух*, *казка пра белага бычка*, *у белых пальчатках*, *у белы свет як у капейку*, *белая варона*, *чорны воран*, (трымаць) *у чорным целе*, *чорнае золата*, *рабіць з белага чорнае (белае чорным)* і іншыя. У каларыстыцы «*белы*» належыць да колеракода «*белыя*», у які ўключаюцца колераэлементы *перламутравы*, *малочны*, *слановай касці*, *цялесны*, *крэмавы* і інш. «*Чорны*» разам з *грыфельным* і *антрацытавым* уключаецца ў колеракод «*шэрыя*». У беларускай мове прыметнік *чорны* мае 12 значэнняў, першае з якіх *‘які мае колер сажы, вугалю, самы цёмны з усіх колераў’*. У гэтым значэнні прыметнік *чорны* ўступае ў антанімічныя адносіны з шасцізначным прыметнікам *белы* ў першым яго значэнні *‘які мае колер снегу, малака’* [8, т. 5, с. 316]. Колераабазначэнні *белы*, *чорны* маюць шырокае выкарыстанне, неабмежаваныя спалучальныя магчымасці, яны стылістычна нейтральныя. Але «яны ўжо перажылі сваю гісторыю як колераабазначэнні і з’яўляюцца абстрактнымі колераабазначэннямі для назвы гэтых колераў» [2, с. 266]. Магчыма, гэтая акалічнасць і паслужыла больш пашыранаму выкарыстанню ў фразеалагізмах (з усіх астатніх колераабазначэнняў) менавіта слоў *«белы»* і *«чорны»*.

На працягу доўгага перыяду гістарычнага развіцця жыццё чалавека вызначалася галоўным чынам двума фактарамі, якія не маглі быць адвольна зменены: ноччу і днём, святлом і цемрай. Белы колер быў колерам дня, ён быў поўны адкрытасці, гатоўнасці ўспрымаць свет, жыццё ва ўсёй іх мнагастайнасці; з чорным колерам першабытны

чалавек атаясамліваў цемру, распад, смерць, а значыць, зло. Фразеалагізм *чорны дзень* мае значэнне ‘цяжкі, змрочны час для каго-н.’. У гэтым выразе «прыметнікавы кампанент выступае як сэнсаўтваральны, ён суадносіцца з такімі перыферыйнымі значэннямі слова *чорны*, як ‘цяжкі, беспрасветны’ ці ‘звязаны з горам, няшчасцем’» [7, с. 409]. Асацыяцыі з цяжкім, змрочным перыядам выклікае таксама фразеалагізм (бачыць, паказваць, выглядаць і пад.) *у чорным святле* – ‘змрочна, непрыглядна, горш, чым на самай справе’.

Фразеалагізм *чорная костка (косць)* ‘чалавек простага, нязнатнага паходжання’ можна суаднесці з 10-м значэннем прыметніка *чорны* (*‘якія ў дарэвалюцыйныя часы адносіўся да ніжэйшых слаёў грамадства, да простага народа’*), ён выклікае антанімічныя асацыяцыі з фразеалагізмам *белая костка (косць)* ‘чалавек знатнага (часцей дваранскага) паходжання’. На антанімічным супастаўленні двух слоў пабудаваны фразеалагізм *чорным па белым* (напісана, надрукавана і пад.) ‘вельмі дакладна, выразна, зусім пэўна, недвухсэнсава’. Да сярэдзіны XIV ст. кнігі пісалі толькі на пергаменце, які выраблялі са скуры маладых ягнят, цялят і казлянят. Скура ў працэсе перапрацоўкі набывала белы колер. У якасці чарніла з XII ст. выкарыстоўвалі сумесь сернакіслай жалезнай солі з чарнільным арэшкам. Моцны раствор такога чарніла быў добра бачны на белым пергаменце. Вялікая філасофская, навуковая і духоўная значнасць гэтых старажытных пергаментаў стварала выключны аўтарытэт усяму, што было напісана *чорным чарнілам па белым пергаменце* [4, с. 621–622]. Ды і ў наш час псіхолагі раяць менавіта чорны колер выкарыстоўваць у падручніках, дакументах, рэкламе пры напісанні тэкставага матэрыялу [2].

Асаблівасці індывідуальна-аўтарскага бачання свету ў колеры прыводзяць да ўзнікнення кантэкставых апазіцый. Напрыклад, каларатыў *ружовы* ў беларускай міфалогіі звязаны з *ружай* як сімвалам прыгожай жанчыны, таму ружовы колер выклікае асацыяцыі з паняццем рамантычнасці, сентыментальнасці. У беларускай мове прыметнік *ружовы* мае 3 значэнні, апошняе з якіх пераноснае: *‘нічым не азмрочаны, радасны, светлы’*. Фразеалагізм *глядзець праз ружовыя акуляры* (на каго, на што) ‘не заўважаючы недахопаў у кім-, чым-небудзь, ідэалізаваць каго-, што-небудзь’ уступае ў антанімічныя адносіны з выразам *глядзець праз чорныя акуляры* (на каго, на што) – ‘не заўважаючы нічога добрага ў кім-, чым-небудзь, чарніць, ганьбаваць каго-, што-небудзь’. Узнікае кантэкставая апазіцыя: *ружовы – чорны* (ідэалізаваць – паказваць лепшым, чым ёсць у сапраўднасці і ганьбаваць – знаходзіць заганы, недахопы, паказваць у дрэнным выглядзе каго-, што-небудзь). Параўнаем таксама значэнні наступных фразеалагізмаў: *маляваць ружовымі фарбамі (у ружовых колерах)* (каго, што) – ‘падаваць, характарызаваць каго- ці што-небудзь ідэалізавана, прываблівa, лепш, чым ёсць на самай справе’ – *маляваць чорнай фарбай* (каго, што) – ‘падаваць, характарызаваць каго- ці што-небудзь у негатыўным плане’ (апошні выраз выклікае асацыяцыі з 6-м значэннем прыметніка *чорны* ў беларускай мове – *‘дрэнны, адмоўны; які не выклікае адабрэння’*: *Яны* [сусед і вусаты] *доўга шукалі ўсяго дрэннага ў былога парабка, а разам стараліся выказаць як найбольш чорных слоў і на цяперашні свет* (Чорны) [8, т.5, с.316].

У фразеалагізме *чорная кошка (прабегла) перабегла* (паміж кім) кампанет «*чорны*» выклікае асацыяцыі з 12-м значэннем прыметніка *чорны ‘паводле забабонных уяўленняў – чарадзейны, звязаны з нячыстай сілай’*: *Зайшла размова аб навуках – Старых, даўнейшых – і іх штуках, Аб кнігах з чорнаю пячаццю, Аб чараўніцтве, аб закляцці* (Колас) [8, т. 5, с. 317]. «У розных народаў дэманы і звязаныя з імі смерць і зло асацыююцца з чорным колерам (*Чорная болізня, Чорная немач (чума), Чорны ціх (ціф)* ды інш.). Хецкі выраз *«чорная зямля»* азначаў міфічны падземны свет. Чорны – гэта колер цемры ў падземным царстве, колер ночы» [3, с. 553]. Ды і само слова *кот, котка* ў міфалагічных уяўленнях беларусаў звязана з нячыстай сілай. «Сёння самыя вядомыя павер’і пра ўвасабленне ў котцы чорта ці ведзьмы («*Як чараўніцу везлі хаваць, за труной услед ішло многа вясковых катоў, аж у магілу за ёй лезлі*» – запіс з Лепельскага р-на). Адсюль успрыманне сустрэчы з *чорным* катом як знака бяды. Так, калі *чорны* кот перабяжыць дарогу маладым, што едуць да вянца, то жыццё іх будзе цяжкім» [3, с. 254].

У міфапаэтычным сэнсе слова *«белы»* – гэта сімвал бязмежнасці, вечнасці Сусвету [3, с. 46]. Такі ж вобраз ствараецца фразеалагізмам *белы свет* – ‘навакольная рэчаіснасць, сусвет, зямля, з усім, што на ёй існуе; жыццё ва ўсіх яго праявах’. З гэтым выразам звязаны фразеалагізмы *ў белы, божы свет* (ісці, ехаць) – 1) ‘у невядомым напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды’; 2) ‘адпаведна жаданням, куды захочацца, уздумаецца’; *выводзіць (выцягваць) на белы свет* (каго, што) ‘даводзіць што-н. да ведама публікі; выкрываць’[6, т. 2, с.375; т. 1, с.233].

Як заўважае А.Жук, «бачыць белы свет абазначае для чалавека жыць. Хоць, згодна з навукай, «белый свет» – белае святло – складанае па спектарным складзе светлавое выпраменьванне, бачыць якое мы здольны толькі дзякуючы дзіўным уласцівасцям чалавечага вока» [5, с. 80]. *Не бачыць белага свету* – ‘не ведаць спакою, пакутаваць (ад непасільнай працы, вялікага клопату і пад.)’ . «У спалучэнні *света*

*белага не бачыць* зварот *белы свет* яшчэ захоўвае зыходнае значэнне ‘яркае дзённае святло’» [4, с. 518].

Існуе думка, што белы колер павінен выклікаць станоўчыя эмоцыі, звязаныя з чысцінёй, светам, дабром. Аднак, як заўважае Н.Б.Бахіліна, кожны асобна ўзяты колер ці спалучэнне колераў можа ўспрымацца чалавекам па-рознаму ў залежнасці ад культурна-гістарычнага кантэксту, ад прасторавага размяшчэння колеравай плямы, яе формы і фактуры, ад настроенасці і культурнага ўзроўню гледачоў і многіх іншых фактараў [2]. Вялікую ролю адыгрывае прадмет – носьбіт колеру. У сувязі з гэтым, ацэнка колеру самога па сабе можа адрознівацца ад яго ацэнкі ў канкрэтнай сітуацыі. Напрыклад, у старажытных грэкаў *белы* колер выклікаў асацыяцыі з Зеўсам, каралём усіх багоў: *белыя коні* цягнулі яго калясніцу; апранутыя ў белае святары прыносілі ў ахвяру белых жывёл. У беларускай міфалогіі *белы конь* – сімвал сонечных багоў: «апранутую ва ўсё белае дзяўчыну 10 траўня (н. ст.) саджалі на *белага каня*, які быў прывязаны да слупа, і спявалі ў гонар сонечнага бога Ярылы» [3, с. 252]. Фразеалагізм *на белым кані* (быць, апынуцца, вярнуцца і пад.) ‘у выгадным становішчы, як пераможца’ выклікае станоўчыя эмоцыі. Аднак у асяроддзі краўцоў белы колер быў звычайны, пазбаўлены такой узнёсласці і пашаны, магчыма таму ў выразе *шыта (сшыта) белымі ніткамі* ‘няўмела, няўдала схавана, скрыта што-н.’, што, на думку І.Я.Лепешава, «паходзіць з маўлення краўцоў, якія адзенне для першай прымеркі толькі збольшага прыхопліваюць звычайна белымі ніткамі» [7, с. 418], пераважае адмоўная экспрэсія.

Са свабоднага словазлучэння, звязанага з геаграфічнымі картамі, узнік фразеалагізм *белая пляма* (‘недаследаваная тэрыторыя’ і ‘нераспрацаваная частка чаго-н.) (параўнаем першае вытворна-прамое значэнне прыметніка *белы* ў беларускай мове – *‘які мае светлы колер’*). «Калі той ці іншы раён або край яшчэ не быў даследаваны, то на картах, на фоне рознакаляровага адлюстравання зямной паверхні, ён выглядаў белай плямай. Першае значэнне (‘недаследаваная тэрыторыя’) развілося ў фразеалагізме метанімічным спосабам – на аснове прасторавай сумежнасці, другое (‘нераспрацаваная частка чаго-н.’) узнікла на базе першага метафарычным спосабам (на аснове падабенства з’яў)» [7, с. 48].

Да *няўласных якасцей* колеру адносіцца здольнасць перадаваць вагавыя (лёгкія, цяжкія, паветраныя, якія прыгнятаюць і пад.), тэмпературныя (цёплыя, халодныя, гарачыя, ледзяныя, пякучыя і інш.), фактурныя (мяккія, мулкія, гладкія, шарахаватыя, слізкія і г.д.), акустычныя (ціхія, гучныя, глухія, звонкія, музычныя і пад.), прасторавыя (якія выступаюць, якія адступаюць, глыбокія, паверхневыя і г.д.) і іншыя ўласцівасці. У залежнасці ад вопыту, набытага чалавекам пры ўспрыманні няўласных якасцей колеру і адпаведнага прадмета, колер можа выклікаць тыя ці іншыя асацыяцыі, пачуцці. Часцей гэта адносіцца да мастакоў, паэтаў, музыкантаў. У прыватнасці, даследуючы белы колер у творах Я.Коласа, Ю.Бабіч прыйшоў да вываду, што белы колер традыцыйна халодны: *Перад вачыма Пракопа ўстаюць белыя прасторы за вёскай, халодныя, неласкавыя…* («Адшчапенец»); *І луг, і поле, і горкі – усё засыпана белым халодным пухам* («Зіма»). «Цёплы» белы – хутчэй, выключэнне, заканамернасцю ж будзе белы «халодны» [1, с. 18]. На думку нямецкага навукоўца Г.Кайнца, калі б адчуванне цеплыні вызначалася толькі набытым вопытам, то *белы* колер павінен быць самым цёплым, бо максімальная тэмпература наступае пры *белым* каленні. Пазначаная асаблівасць лягла ў аснову метафарычнага вобраза фразеалагізма (даводзіць, распякаць) *да белага калення* ‘да поўнага адчаю, да поўнай страты самавалодання’. «Пры награванні перад каваннем метал спачатку станавіўся чырвоным, затым жоўтым, а пры вельмі моцным награванні – белым» [4, с. 242].

Як бачым, толькі адзінкавыя з прыведзеных фразеалагізмаў можна аднесці да малакольскаснай «перыферыйнай групы ў фразеалагічнай сістэме»; у такіх адзінках кожны кампанент (ці адзін з іх) «выступае як сэнсаўтваральны і семантычна суадносіцца (але не супадае!) з адпаведным словам у яго свабодным ужыванні» [6, т. 1, с. 7].

*Спіс літаратуры*

1. Бабіч, Ю. «Белая раўніна – ні канца ні краю». Колеракод «белы» ў мове твораў Якуба Коласа / Ю.Бабіч // Роднае слова, 2007. – № 3. – С.15 – 18; № 4. – С.15 – 19.

2. Бахилина, Н.Б. История цветообозначений в русском языке / Н.Б. Бахилина. – Москва: Наука, 1975. – 288 с.

3. Беларуская міфалогія: энцыклапед. слоўн. / С.Санько [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

4. Бирих, А.К. Словарь русской фразеологии: историко-этимологический справочник / А.К. Бирих, В.М.Мокиенко, Л.И.Степанова. – СПб.: Фолио-Пресс, 1998. – 704 с.

5. Жук, А. Гэты белы шматкаляровы свет / А.Жук // Роднае слова. – 2007. – № 3. – С. 80 – 81.

6. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў. У 2 т. / І.Я.Лепешаў. – Мінск: БелЭн імя П.Броўкі, 2008.

7. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я.Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2004. – 448 с.

8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / пад агульн. рэд. К.К.Атраховіча (К.Крапівы). – Мінск: БелСэ, 1977 – 1984.

УДК 811.161.3

**А.І.Маршэўскі**, **В.В.Маршэўская** (Гродна)

## КАНЦЭПТ «ЗАЛАТЫ» Ў ТЭРМІНАХ ЭКАНОМІКІ

Колераабазначэнні (маюць асноўнае значэнне колеру) асабліва шырока выкарыстоўваюцца ў мастацкай літаратуры. З іх дапамогай аўтарам удаецца стварыць яркія, запамінальныя мастацкія вобразы, паказаць самыя тонкія змены не толькі ў прыродзе, але і ў настроі, пачуццях саміх герояў. Наша ж увага будзе накіравана на выяўленне колераабазначэнняў і даследаванне спецыфікі іх функцыянавання ў тэрмінах эканомікі [5].

Каляронім *залаты* ўключаецца ў колеракод «*жоўтыя*» разам з такімі колераэлементамі, як *вохравы, персікавы, мядовы, бурштынавы, пясочны, саламяны, лімонны, канарэечны* і інш. Як пазначае М.Абрагімовіч, у беларускай мове «ў значэнні ‘бліскуча-жоўты; колеру золата’ ўжываецца прыметнік *залаты*, вядомы ў старабеларускай мове ў трох формах – *златый, злотый, золотой*, з першасным значэннем ‘які складаецца з золата; зроблены з золата’. Такім чынам, значэнне ‘бліскуча-жоўты’ < ‘колеру золата’ з’яўляецца вытворным. Тым не менш праславянская назва * *zolto* матываваная менавіта жоўтым колерам золата і паходзіць ад таго самага індаеўрапейскага кораня, што і праславянскае **žьltъ* ‘жоўты’» [1,с. 85].

Эмацыйныя асацыяцыі, што выклікаюцца пэўным колерам, падзяляюцца на тры групы: пазітыўныя (вясёлыя, прыемныя, бадзёрыя, лірычныя і г.д.), негатыўныя (сумныя, вялыя, журботныя, трагічныя, сентыментальныя і інш.), нейтральныя (спакойныя, ураўнаважаныя, абыякавыя і пад.). Жоўтаму колеру псіхолагі даюць станоўчую характарыстыку: «жоўты колер – гэта разумова-псіхічны прамень, які стымулюе і актывізуе разумовыя лагічныя здольнасці» [4, с. 126]. Аднак у тэрміналагічных адзінках са сферы эканомікі *жоўты* выклікае негатыўныя асацыяцыі. Напрыклад: *жоўтае абавязацельства* – ‘дыскрымінацыйная мера супраць прафсаюзнага руху’; *жоўтая крэдытная картка* – ‘крэдытная картка, па якой прадастаўляецца крэдыт са скідкай 15 % на тэрмін да 1 года’ (для параўнання – *сярэбраная К.К.* – скідка да 30 % на тэрмін да 3 гадоў; *залатая К.К.* – скідка да 50 % на тэрмін да 7,5 гадоў; *плацінавая К.К.* – скідка да 90 % на тэрмін да 10 гадоў) і іншыя.

«*Залаты* – бадай, адзіны колер, які звычайна, пры адсутнасці спецыфічнай метафарызацыі, не мае адмоўных асацыяцый. Гэта сапраўды пазітыўны, станоўчы ва ўсіх адносінах колер, што адпаведным чынам і ўспрымаецца ў кантэксце» [2, с. 47]. Гэтае сцверджанне цалкам справядліва і ў дачыненні да тэрмінаў эканомікі. У прыватнасці, каштоўныя паперы *«з залатым абрэзам»* характарызуюцца мінімальнай рызыкай, гэта азначае, што зварот капіталу і атрыманне даходу на яго практычна гарантаваны. Аднак тэрміналагічныя адзінкі, у якіх кампанент *залаты* мае вытворнае значэнне, звязанае з *колерам*, нешматколькасныя.

Першаснае значэнне прыметніка *залаты* ‘які складаецца з золата; зроблены з золата’ праяўляецца ў тэрмінаадзінках *залаты лінгот* [ад франц. *lingot* – злітак] – ‘стандартызаваны залаты злітак вышэйшай пробы з цітрам 995/1000, вагой каля 12,5 кг. Для больш зручнага карыстання існуюць залатыя лінготы па 5, 10, 20, 25, 50, 100, 200, 500, 1000 г’; *залатая манета* – ‘манета, вырабленая з золата’; *залатыя запасы* – ‘цэнтралізаваны рэзервовы запас золата (у злітках і манетах), які знаходзіцца ў распараджэнні цэнтральнага эмісійнага банка альбо фінансавых органаў дзяржавы ці міжнародных валютна-крэдытных арганізацый’ і іншыя.

Непасрэднае дачыненне да *золата* мае таксама кампанент *залаты* ў тэрмінах *залатая блакада, залаты аўкцыён, залаты крызіс* і інш.; значэнне ‘які вылічваецца на золата, па курсу золата’ маюць тэрміны *залаты змест рубля, залаты змест грашовай адзінкі, залатыя пункты, залаты чэк, залатая валюта* і пад.

У некаторых тэрміналагічных словазлучэннях адзін з кампанентаў набывае пераноснае, метафарычнае значэнне, а кампанент *залаты* паранейшаму мае адносіны да *золата*: *залаты «жук»* – ‘1) аналітык, які лічыць золата самым надзейным капіталаўкладаннем і сродкам абароны ад інфляцыі і дэпрэсіі’; 2) ‘усякі, хто імкнецца ўкладваць капітал у золата, якое, як уяўляецца, дае гарантыі ад сусветных эканамічных катастроф’; *залатая «ліхаманка»* – «уцёкі» ад нестабільных валют да золата і перыядычнае павышэнне яго цаны’ і пад.

Часам эканамічныя тэрміны зведваюць працэс дэтэрміналагізацыі і папаўняюць фразеалагічны фонд. Напрыклад: *залатое рукапацісканне* – ‘звальненне аднаго з кіраўнікоў кампаніі з выплатай яму значнай фінансавай кампенсацыі (каб пазбегнуць публічнага скандалу); узнагароджанне пры адыходзе на пенсію да тэрміну, які быў агавораны)’; *залатыя парашуты* – ‘спосаб абароны ад спробы паглынання карпарацыі: паглынальная карпарацыя заключае са сваімі менеджарамі пагадненне, згодна з якім пры звальненні ім павінны выплачвацца вялікія сумы. У гэтым выпадку патэнцыяльным пакупнікам загадзя звязваюцца рукі і яны могуць адмовіцца ад паглынання’; *залатая жыла* – ‘вельмі багатая, невычэрпная крыніца

даходаў, прыбытку і пад.'; *залаты фонд (чаго, чый)* – 'самае лепшае, самае каштоўнае, самае значнае' і іншыя.

Такім чынам, кампанент *залаты* ў тэрмінах эканомікі праяўляе сваё першаснае значэнне, звязанае з паняццем *золата*, што, у сваю чаргу, выклікае асацыяцыі з велізарным багаццем, стабільнасцю, пэўнасцю (параўнаем: *залаты цялец* – 'увасабленне грошай, багацця; улады грошай, багацця'; *пакланяцца залатому цяльцу* – 'імкнуцца да накаплення золата, багацця' [3, с. 566].

*Спіс літаратуры*

1. Абрагімовіч, М. Жоўты, зялёны, аранжавы, памяранцавы: з гісторыі слоў / М. Абрагімовіч // Роднае слова, 2007. – № 12. – С. 85 – 86.
2. Бабіч, Ю. «Пырскаў залатых лінуўся рой». Залаты колер і яго адценні ў творах беларускіх пісьменнікаў / Ю.Бабіч // Роднае слова. – 2008. – № 11. – С. 47 – 49.
3. Бирих, А.К. Словарь русской фразеологии: историко-этимологический справочник / А.К.Бирих, В.М.Мокиенко, Л.И.Степанова. – СПб.: Фолио-Пресс, 1998. – 704 с.
4. Гоникман, Э.И. Лечебная радуга камня / Э.И.Гоникман. – М.: Велигор, 2007. – 168 с.
5. Словарь-справочник по современной экономике: на пяти языках / М.В.Мишкевич [и др.]; под общ. ред. М.И.Плотницкого, М.В.Мишкевича. – Минск: Выш. школа, 1996. – 364 с.

УДК 811.161.3+811.111

**А.А. Мачалава** (Гродна)

## ПЫТАННІ АДЗІНСТВА / ПАДЗЕЛЬНАСЦІ МОЎНАЙ ФОРМЫ ПРЫ ПАРАЎНАННІ НАЗВАЎ АСОБЫ НЕБЛІЗКАРОДНАСНЫХ МОЎ

Асаблівасці працэсу намінацыі кожнай з моў, якія параўноўваюцца, можна прасачыць па асаблівасцях афармлення паняцця. Таму даследаванне найменняў асобы па прымеце адзінства/падзельнасці структуры можа быць адным з аспектаў комплекснага даследавання найменняў асобы ў беларускай і англійскай мовах.

Калі прыняць да ўвагі меркаванне аб тым, што паняцце не існуе без моўнай формы, можна акрэсліць ступень паняццевасці па ступені адзінства моўнай формы або яе падзельнасці. Мэтазгодна размяжоўваць паняцці абсалютнай і неабсалютнай паняццевасці. «Абсалютнае паняцце суадносіцца з нематываваным простым словам, а неабсалютнае паняцце мае розныя ступені паняццевасці і можа суадносіцца з такімі канцэптуальнымі ўтварэннямі, якім адпавядаюць афіксальнае слова, афіксоіднае слова, складанае слова і фраза» [1, с. 8].

На думку А.С.Кубраковай, ступень кампрэсіі адваротна залежыць ад ступені матываванасці: мінімальную матываванасць маюць афіксальныя словы, афіксоідныя і складаныя – адпаведна большую матываванасць і меншую ступень кампрэсіі [2, с. 72].

Семантычная катэгорыя асобы адлюстроўваецца рознымі словаўтваральнымі сродкамі, сярод якіх найбольш тыповымі ў беларускай і англійскай мовах з'яўляюцца суфіксальныя і складаныя найменні асобы. «Пры масавай намінацыі характэрнае імкненне да ўвядзення абазначэнняў з «лімітаванай» (адпаведна з магчымасцямі мовы) матываванасцю, або, наадварот, такіх абазначэнняў, якія з пункту гледжання існуючых у мове адносін з'яўляюцца цалкам нематываванымі» [3, с. 34].

Выкарыстанне словазлучэнняў для намінацыі асобы абумоўлена імкненнем мовы да абазначэння новых паняццяў пры дапамозе існуючых у мове лексічных адзінак, якія з часам замяняюцца універбамі (*працаўнік харчовай прамысловасці – харчавік, аператар бурыльнай устаноўкі – буравік*).

Разгляд назваў асобы ў аспекце адзінства/падзельнасці структуры дазваляе акрэсліць ступень адпаведнасці афармлення найменняў асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет агульнай тэндэнцыі мовы да аналітызму / сінтэтызму. Вызначэнне мовы як аналітычнай або сінтэтычнай не з'яўляецца абсалютнай характарыстыкай: памеры выключэнняў могуць суадносіцца нават з межамі пэўнага лексіка-семантычнага разраду або яго часткі.

Афармленне найменняў асобы шэрагу лексіка-семантычных разрадаў супярэчыць агульнай тэндэнцыі да сінтэтычнага/аналітычнага афармлення назваў. Гэта тычыцца двухслоўных назваў асобы паводле прыналежнасці да кірунку свету, краіны ў беларускай мове, адвербальных назваў асобы ў сферы прамысловасці, рамёстваў у англійскай мове. Граматычнай абмежаванасцю спалучальнасці беларускіх суфіксаў асобы з шэрагам дзеясловаў абумоўлена адпаведнасць суфіксальных адвербальных назваў традыцыйных прафесій у англійскай мове беларускім двухслоўным найменням. Лексічныя абмежаванні спалучальнасці матывавальных назоўнікаў з суфіксамі асобы і, як вынік, неаднаслоўнае афармленне назваў традыцыйных прафесій з'яўляецца больш характэрным для сінтэтычнай беларускай мовы, чым для аналітычнай англійскай.

Асобную групу складаюць запазычанні (як у чыстым выглядзе, непасрэдна з англійскай мовы – *брокер, дылер,* так і ўтвораныя ў

беларускай мове ад запазычаных асноў – *камбайнёр, лазершчык, рэкардыст*). Англійскія адпаведнікі да такіх назваў характарызуюцца большай ускладненасцю структуры (*тэнісіст – tennis-player*). Найбольш яскрава сінтэтызм/аналітызм мовы выражаны пры параўнанні спосабаў афармлення назваў, утвораных ад класічных (лацінскіх або грэчаскіх) матывавальных асноў у беларускай і англійскай мовах: *лабарант – laboratory assistant* (маецца на ўвазе сінхранічны разгляд назваў).

Выбар намінацыйных сродкаў рэгулюецца як інтралінгвістычнымі, так і экстралінгвістычнымі фактарамі: развіццё сістэмы намінацыі ідзе ў двух супрацьлеглых кірунках. З аднаго боку, праяўляецца імкненне мовы да аднолькавага марфалагічнага афармлення найменняў асобы, у выніку чаго пэўныя суфіксальныя сродкі набываюць шырокія намінацыйныя магчымасці, напрыклад, суфікс *-чык/-шчык, -льшчык* і *-er* пры ўтварэнні намінацый асобы паводле прафесійнай прыметы. З іншага боку, мае месца з'ява спецыялізацыі спосабаў і сродкаў выражэння значэння асобы паводле пэўных матывавальных прымет.

Абмежаванасць спіса суфіксаў актывізуе складанні з часткова звязанымі каранёвымі марфемамі, аднак, аднаслоўныя назвы няздольныя задаволіць патрабаванні грамадства да адлюстравання пашыранай спецыялізацыі прафесій, і таму выкарыстоўваюцца неаднаслоўныя найменні, якія выказваюць тэндэнцыю да рэгулярнасці, а пэўныя іх элементы – да універсальнасці (*aпepaтap, наладчык, operator, constructor*). У англійскай мове інтэграцыя прафесій праяўляецца больш яскрава: тут шырока распаўсюджаны кампаненты, што абагульнена называюць прафесію, да якой далучаюцца ўдакладняльнікі (*operator – solar energy station operator*). У беларускай мове таксама вызначаюцца лексічныя дамінанты: *aпepaтap* – у намінацыях, звязаных з кіраваннем абсталяваннем і *наладчык, рамонтнік* – у намінацыях прафесій, звязаных з тэхнічным абслугоўваннем абсталявання.

У беларускай мове выяўлена 4,1 % адпаведных бессуфіксальных назваў, што звязана са значнай колькасцю бессуфіксальных запазычанняў. Нязначная колькасць англійскіх бессуфіксальных адзінак (0,8 % адпаведнікаў беларускім) адлюстроўвае агульную тэндэнцыю англійскай мовы да шматмарфемнага афармлення назваў спецыялістаў пры дапамозе спецыялізаваных суфіксаў, якія перадаюць значэнне агентыўнасці і, у некаторых выпадках, спецыялізацыі дзеяча. Аналітычны лад англійскай мовы ўплывае на працэнтавыя суадносіны неаднаслоўных адпаведнікаў (22,5 % двухслоўных найменняў адпавядаюць беларускім суфіксальным назвам, англійскім – толькі 8,4 %). Англійскай мове больш уласціва захаванне падзельнасці структуры ўтворанай намінацыі асобы: *plastic surgery → plastic surgeon* (у беларускай мове маем аднаслоўныя найменні *марафонскі бег → марафонец*). Перавага складаных найменняў (сярод якіх і лексемы з часткова звязанай каранёвай марфемай, шырокаўжывальнай у англійскай мове (18,7 % складаных назваў у англійскай мове і 5,6 % – у беларускай)) звязана з імкненнем стварыць больш дакладную сістэму назваў асобы паводле прафесійнай прыметы. Вызначаецца тэндэнцыя да змяншэння колькасці фразавых найменняў у беларускай мове (беларускім назвам адпавядае 0,4 % фразавых найменняў у англійскай мове, а англійскім – 2,8 % у беларускай) за кошт актыўнага запазычвання назваў.

На сучасным этапе развіцця як беларускай, так і англійскай мовы сінтэтычнае або аналітычнае афармленне назваў знаходзіцца пад больш выражаным уплывам экстралінгвістычных, чым інтралінгвістычных фактараў: калі пры ўтварэнні назваў традыцыйных прафесій выключную ролю адыгрывалі інтралінгвістычныя законы, то пры стварэнні сучасных назваў спецыялістаў і беларуская і англійская мовы праяўляюць тэндэнцыю да неаднаслоўнага афармлення назваў прафесій, таму можна сцвярджаць аб аднолькавай ступені ўплыву фактара спецыялізацыі прафесій на абедзве даследаваныя мовы і аб змяншэнні ролі фактара сінтэтызму/аналітызму.

*Спіс літаратуры*

1. Колчин, С.А. Именование лиц в современном русском языке: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.10 / С.А. Колчин; Том. гос. ун-т. – Томск, 1988. – 21 с.

2. Кубрякова, Е.С. Теория номинации и словообразование / Е.С. Кубрякова // Языковая номинация: виды наименований / А.А. Уфимцева [и др.]; отв. ред.: Б.А. Серебренников, А.А. Уфимцева. – М., 1977. – С. 222 – 303.

3. Шадрин, В.И. Парадигматическая система номинативных средств английского языка: учеб. пособие / В.И. Шадрин. – Л.: Ленингр. гос. ун-т, 1990. – 80 с.

4. Шмелев, Д.Н. Способы номинации в современном русском языке / Д.Н. Шмелев – М., 1982.

5. Янко-Триницкая, Н.А. Закономерность связей словообразования и лексического значения в производных словах / Н.А. Янко-Триницкая // Развитие современного русского языка / под ред. С.И. Ожегова, М.В. Панова. – М., 1963. – С. 83 – 97.

6. Ilyish, B.A. The structure of modern English / B.A. Ilyish. – Leningrad: Prosveshchenie, Leningradskoe otd-nie, 1977. – 366 p.

7. Marchand, H. The categories and types of present-day English word-formation: a synchronic-diachronic approach / H. Marchand. – Wiesbaden: O. Harrassowitz, 1960. – 379 p.

УДК 811.161.3

**Н.К. Памецька** (Гродна)

# ГІСТОРЫЯ КЛІЧНЫХ ФОРМАЎ НАЗОЎНІКА І ІХ РЭАЛІЗАЦЫЯ Ў МОВЕ ЯНКІ КУПАЛЫ

Клічная, або вакатыўная, форма ў старажытнай усходнеславянскай мове мела значнае распаўсюджанне. У сістэме склонавых формаў назоўнікаў розных старажытных тыпаў скланення такая форма (у дачыненні да гістарычнага мінулага, як слушна заўважае В.М.Маркаў, лепш гаварыць «пра форму клічнага склону» [1, с. 42]) вылучалася выразнай адметнасцю.

Па-першае, форма клічнага склону была абмежавана ў сваім праяўленні. Яна ўжывалася толькі ў адзіночным ліку, у мужчынскім і жаночым родзе, у першых чатырох скланеннях на *ŏ, *ŭ, *ĭ,*ā. У кожным з гэтых чатырох скланенняў клічны склон характарызаваўся адметнымі канчаткамі: назоўнікі м. р. з былой асновай на *ŏ мелі канчаткі -*е*, -*ю* (*отъче*, *коню*), з асновай на *ŭ – канчатак -*у* (*сыну*, *дому*), назоўнікі м. і ж. р. з асновай на *ĭ – канчатак -*и* (*гости*, *ночи*), назоўнікі ж. і м. р. з асновай на *ā – канчатак -*о*, -*е* (*сестро*, *земле*, *воеводо*, *юноше*). Такім чынам, назоўнікі ніякага роду, як і назоўнікі іншых старажытных асноў (на зычны, і на *ū), а таксама назоўнікі парнага і множнага лікаў клічнай формы з адметнымі канчаткамі не ўтваралі. Ва ўсіх гэтых выпадках функцыю вакатыву выконваў назоўны склон, «адлюстроўваючы «пачатак» тэндэнцыі, якая пазней ахопіць усе іншыя катэгорыі імён» [1, с. 43].

Па-другое, у адрозненне ад іншых склонавых формаў, клічная форма не выражала сінтаксічных сувязей слова. Звычайна, перадаючы зварот да пэўнай асобы або прадмета, клічная форма складала параўнальна ізаляваны самастойны вакатыўны сказ. Зрэдку яна ўключалася ў структуру сказа на правах дзейніка.

Вакатыўная форма ў славянскіх мовах вельмі рана пачала знікаць, замяняючыся формай назоўнага склону. З якога часу пачаўся гэты працэс, дакладна не вызначана, аднак вядома, што найбольш раннія выпадкі ўжывання формы назоўнага склону замест клічнай формы выяўлены ўжо ў «Астраміравым евангеллі» XI ст. [2, с. 172].

У перыяд фарміравання трох усходнеславянскіх народнасцей развіццё клічных формаў у паасобных мовах адбывалася па-рознаму. У рускай мове клічная форма была амаль цалкам страчана ў XIV – XV стст. [3, с. 184], захаваліся толькі асобныя формы царкоўнаславянскага паходжання тыпу *боже*, *господи*, якія, па сутнасці, ператварыліся ў выклічнікі. Што да беларускай мовы, дык тут клічная форма не страціла сваёй актуальнасці. Аб гэтым сведчыць прыкметная колькасць клічных формаў у помніках старабеларускага пісьменства, хоць «у адрозненне ад старажытнарускай мовы, дзе клічная форма мела даволі значную сферу пашырэння, у беларускай мове яна выступала больш абмежавана» [4, с. 61].

У старабеларускай мове сістэма клічных формаў у асноўным захоўвала асаблівасці старажытнай усходнеславянскай сістэмы, разам з тым яна адлюстроўвала і некаторыя новыя з’явы, абумоўленыя найперш перагрупоўкай старажытных тыпаў скланення назоўнікаў і фанетычнымі працэсамі ў жывой беларускай мове таго часу.

Так, назоўнікі м. р. тыпу скланення на *ŏ ў клічнай форме, працягвалі ўжывацца з ранейшымі канчаткамі -*е*, -*ю* (*боже*, *квете*, *отче*, *витезю*, *створытелю*). Разам з тым дзякуючы зацвярдзенню ў беларускай мове шыпячых зычных, ц і р назоўнікі з гэтымі зычнымі ў канцы асновы часам выкарыстоўваюцца з новым канчаткам -*у* (*мужу*, *слухачу*, *рыцэру*).

Клічная форма назоўнікаў тыпу скланення на *ŭ ўтваралася пераважна пры дапамозе ранейшага канчатка -*у* (*сыну*), але пад уплывам адпаведных больш шматлікіх формаў тыпу скланення на *ŏ цвёрдай разнавіднасці яна набывала новы канчатак -*е* (*сыне*, *доме*).

У сваю чаргу аналогія з клічнымі формамі назоўнікаў тыпу скланення на *ŭ і адпаведнымі формамі тыпу скланення на *ŏ мяккай разнавіднасці садзейнічала распаўсюджанню сярод назоўнікаў з асновай на *ŏ цвёрдай разнавіднасці канчатка -*у*. Клічная форма назоўнікаў з асновай на заднеязычны гук у старабеларускай мове характарызуецца неаднастайнасцю, утвараючыся пры дапамозе як канчатка -*у* (*наместнику*, *пахолку*), так і пры дапамозе канчатка -*е*, у апошнім выпадку канцавы заднеязычны асновы чаргаваўся з шыпячым (*достойниче*, *человече*).

Ранейшы канчатак -*и* клічнай формы назоўнікаў тыпу скланення на *ĭ паслядоўна адлюстроўвае назоўнік м. р. *господь* (*господи*) і некаторыя назоўнікі ж. р. (о бедная *смерти*).

Клічная форма назоўнікаў ж. р. тыпу скланення на *ā афармляецца, як і раней, канчаткамі -*о* ў назоўнікаў цвёрдай разнавіднасці (*дочко*, *невесто*, *потехо*), -*е* ў назоўнікаў мякккай разнавіднасці (*госпоже*, *душе*, *земле*). З прычыны зацвярдзення шыпячых назоўнікі былой мяккай разнавіднасці іншы раз выступаюць з канчаткам -*о* (*госпожо*, *душо*) [4, с. 63].

Такое афармленне мелі клічныя формы ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове. Можна меркаваць, што падобныя формы з

пэўнымі, наяўнымі ў жывой мове асаблівасцямі, абумоўленымі ў асноўным фанетычнымі з’явамі акання і зацвярдзення шыпячых, ц і р, бытавалі і ў тагачасных беларускіх гаворках. Праўда, гэта сцверджанне з прычыны адсутнасці спецыяльных распрацовак па беларускай дыялектнай мове старажытнага перыяду застаецца пакуль здагадкай.

Як відаць, у старабеларускай мове клічная форма мела даволі трывалыя пазіцыі, «разам з тым тут працягвалася выцясненне яе Н. склонам» [5, с. 29]. Гэты працэс не выходзіў за межы агульнага рэчышча «эвалюцыі Кл. формы ў славянскім свеце, якая ў самым агульным выглядзе зводзіцца да яе паступовай страты, знікнення» [6, с. 95]. Тэмпы названага працэсу ў асобных славянскіх мовах розныя: ад практычна поўнай страты вакатыўнай формы ў рускай, славацкай і славенскай мовах да захавання яе, хай і з моцнымі абмежаваннямі, у балгарскай, польскай і беларускай, дзе абмежаванні яшчэ больш моцныя [6, с. 95]. Перадумовы страты вакатыўных формаў у славянскіх мовах дакладна не вызначаны. Даследчыкі гавораць як пра інтралінгвістычныя, так і пра экстралінгвістычныя прычыны гэтай з’явы, вылучаючы сярод першых лексічную, марфалагічную, фанетычную і сінтаксічную, сярод другіх – уплыў іншых моў, дзеянне фактара моды і інш. [гл. 6, с. 96–101].

Выкарыстанне клічнай формы ў беларускай мове характарызуецца пэўнай адметнасцю, абумоўленай найперш спецыфікай фанетычнага ладу мовы, а таксама некаторымі пазамоўнымі прычынамі.

Ужыванне клічнай формы ў беларускай мове звузілася за кошт супадзення яе з формай назоўнага склону ў назоўнікаў жаночага роду II скланення ў гаворках з поўным недысіміляцыйным аканнем і ў новай беларускай літаратурнай мове. Але ў беларускіх гаворках з няпоўным недысіміляцыйным аканнем і оканнем клічныя формы гэтых назоўнікаў з былымі канчаткамі *-о*, *-е* выкарыстоўваюцца і ў наш час (*Ганно! Тэкле!*).

Клічную форму з старажытнымі канчаткамі *-у*, *-ю*, *-е* (у асобных словах апошні з пералічаных канчаткаў рэалізуецца з прычыны акання як *-а*) ў беларускіх гаворках і літаратурнай мове захавалі таксама назоўнікі мужчынскага роду І скланення, бо асаблівасці беларускага ненаціскнога вакалізму не маглі паспрыяць супадзенню іх клічнай формы з формай назоўнага склону, нулявы канчатак якой паходзіць з былых рэдукаваных -ǔ, -ĭ (*Сынку! Дзеду! Коню! Браце! Дружа! Княжа! Ойча!*).

Такім чынам, фанетычныя прычыны, найперш асаблівасці ненаціскнога вакалізму, толькі часткова паўплывалі на лёс клічнай формы ў беларускай мове. Я.Ф.Карскі сцвярджаў, што ў «старое заходнерускае нарэчча» перайшлі формы сямі склонаў, і «ўсе гэтыя склоны маюцца і ў сучаснай беларускай мове: у ёй нават клічная форма ... жывая з’ява, прытым у старажытным відзе, са змякчэннем, напр., задненёбных у шыпячыя перад *-е* асноў на *ŏ мужчынскага роду» [7, с. 151]. І далей: «клічны склон да гэтага часу жыве ў беларускім нарэччы і мае значнае распаўсюджанне» [7, с. 169].

Разам з тым выцясненне клічнай формы формай назоўнага склону ў беларускай мове не спынялася. Акрамя агульнай на славяншчыне тэндэнцыі да страты клічнай формы, у значнай меры гэтаму спрыяў уплыў рускай мовы, у якой вакатыўная форма знікла, як вядома, яшчэ ў XIV – XV стст. і якая ў XIX ст. пасля далучэння беларускіх земляў да царскай Расіі пачала ўмацоўваць свае пазіцыі на Беларусі і садзейнічала паскарэнню названага працэсу ў беларускай мове. Пэўныя вынікі такога развіцця клічнай формы канстатуе ўжо першая найбольш аўтарытэтная для свайго часу «Беларуская граматыка для школ» Б.Тарашкевіча, дзе гаворыцца, што «ў значэнні клічнага склону звычайна ўжываецца назоўны склон... Але клічны склон мае і свае асобныя канчаткі *-у*, *-е* (пасля цвёрдага зычнага *-а*): 1) Іване, слаўны пане! браце...; 2) коню, вучыцелю, госцю...» [8, с. 74].

Актыўна замена клічнай формы формай назоўнага склону ў беларускай мове адбывалася ў савецкі час, калі беларуская мова падпала пад інтэнсіўную русіфікацыю. Тэндэнцыйная зададзенасць гэтай замены дастаткова выразна праглядваецца ў некаторых тагачасных навуковых працах. Напрыклад, у «Граматыцы беларускай мовы. Т. I» (Мінск, 1962), дзе аналізу формаў клічнага склону назоўнікаў мужчынскага роду І скланення прысвечаны асобны параграф, які займае амаль дзве старонкі, хоць і адзначаецца, што «пад уплывам народных гаворак у мастацкай літаратуры, асабліва першай палавіны XX стагоддзя, шырока ўжываліся формы клічнага склону назоўнікаў», але робіцца выснова, што яны «ў наш час не з’яўляюцца літаратурнай нормай» [9, с. 46].

Падобнае сустракаем і ў даследаванні «Назоўнік у беларускай мове» М.А. Жыдовіч, якая, заўважаючы, што «клічная форма ў беларускіх гаворках мае значнае пашырэнне» і «выступае з рознымі канчаткамі» [10, с. 116], тым не менш, аспрэчвае сцверджанні некаторых рускіх лінгвістаў аб захаванні клічнай формы ў беларускай мове і заключае, што ў сучаснай беларускай мове мы сустракаем толькі «рэшткі клічнай формы, якая абмежавана ў сваім ужыванні» [10, с. 120]. Дарэчы, беспадстаўнасць заўваг адносна абмежаванага выкарыстання клічнай формы ў беларускай мове (ужываецца толькі ў мастацкай літаратуры і паасобных гаворках) паказаў у свой час

Ф.М.Янкоўскі: «Клічны склон заўсёды быў прыналежнасцю гутарковай і паэтычнай мовы» [11, с. 147].

Аб'ектыўна ацэньваючы стан клічнай формы на сучасным этапе, Э.Д.Блінава і Е.С.Мяцельская слушна сцвярджаюць: «Беларуская мова захоўвае як жывую з'яву форму клічнага склону. Клічная форма ёсць у паўднёва-заходнім дыялекце і ў сярэднебеларускіх гаворках» [12, с. 71]. Аднак гэты факт не прымае да ўвагі і «Беларуская граматыка. Частка I» (Мінск, 1985) [13], дзе наогул не ўпамінаецца клічны склон.

Пэўную цікавасць уяўляе вывучэнне клічнай формы ў мове выдатнага майстра мастацкага слова, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, дзейнасць якога прыпадае на гады станаўлення і замацавання нормаў новай беларускай літаратурнай мовы. У якасці крыніцы фактычнага матэрыялу быў абраны Поўны збор твораў паэта ў 9-і т. (Мінск, 1995 – 2003).

Даследаванне мовы Янкі Купалы паказала, што пісьменнік актыўна выкарыстоўвае клічныя формы ў разнастайных мастацкіх (паэтычных, драматычных, празаічных), а таксама публіцыстычных і эпісталярных творах. Паводле нашых падлікаў, у пісьмовай спадчыне паэта ў вакатыўнай форме сустракаюцца больш за 100 назоўнікаў, агульная колькасць ужыванняў такіх формаў каля 800 (!).

Клічную форму ў творах Купалы маюць уласныя і агульныя асабовыя назоўнікі, радзей – назоўнікі, якія абазначаюць птушак, жывёл, міфічных істот, і неадушаўлёныя назоўнікі, ўжытыя ў значэнні адушаўлёных. Выразнай адметнасцю мовы паэта ёсць тое, што клічную форму тут маюць, за рэдкім выключэннем, толькі назоўнікі мужчынскага роду, што цалкам адпавядае гістарычнаму лёсу гэтых формаў у беларускіх гаворках.

У залежнасці ад характару асновы назоўнікі ў мове Купалы ў клічнай форме выкарыстоўваюцца з рознымі канчаткамі: -*е*, -*а*, -*у*, -*ю*.

Канчатак -*е* маюць: а) назоўнікі з асновай на цвёрды зычны і на *ў*, пры гэтым канцавыя цвёрдыя зычныя асновы чаргуюцца з адпаведнымі мяккімі зычнымі: *анеле (анёле), Асмомысле, атамане, балване, Баяне (баяне), беларусе, бесе, Бляксе, браце, бядназе, васпане, гадзе, галубе, грузіне, Джамбуле, дэпутаце, жыдзе, збродзе, Іване, Імсціславе, капітане, куме, людзе, Максіме, народзе, палаўчаніне, пане, Рамане, саколе, сваце, спасе, суседзе, Сымоне, сыне, Тарасе, Усяволадзе, Харміліёне, хлебаробе, Хрысце, цвеце, чараўладзе, чорце, Якаве, Яне, Яраславе, яснепане*; б) назоўнік польскага паходжання з асновай на мяккі зычны *вашэць*: *вашэце*(*я*). Паводле нашых падлікаў, агульная колькасць назоўнікаў з канчаткам -*е* ў клічнай форме ў спадчыне Янкі Купалы – 47, колькасць ужыванняў такіх формаў – 296. Найбольш актыўна Купала выкарыстоўвае клічныя формы *пане* – 126 ужыванняў, *браце* – 80, *саколе* – 20, *галубе*, *народзе*, *Хрысце* – кожная форма па 10 ужыванняў, *беларусе*, *сыне* – кожная форма па 9 ужыванняў. Спарадычнымі ў мове Купалы варта лічыць тыя клічныя формы з канчаткам -*е*, якія ілюструюцца ўсяго 1 прыкладам: *бесе, Бляксе, бядназе, васпане, гадзе, грузіне, дэпутаце, збродзе, капітане, Рамане, спасе, Тарасе, Усяволадзе, Харміліёне, хлебаробе, чорце, Якаве, яснепане.*

Канчатак -*а* маюць: а) назоўнікі, у аснове якіх заднеязычныя *г*, *к* чаргуюцца з шыпячымі *ж,ч*: *Божа, ваяча, война, воўча, гайдуча, дружа, дружача, Залязняча, казача, мастача, небарача, нябожа, салавейча, унуча, уража, чалавеча, юнача*; б) назоўнікі *Данец, старац, украінец, хлопец*, пры гэтым на канцы асновы адбываецца чаргаванне зычнага *ц*//*ч*: *Донча, старча, украінча, хлопча*; в) назоўнік *князь*, які ў адрозненне ад папярэдніх назоўнікаў, характарызуецца асновай на мяккі зычны, што чаргуецца з зацвярдзелым шыпячым *з'*//*ж*: *княжа*. Агульная колькасць назоўнікаў, клічная форма якіх у спадчыне Янкі Купалы мае канчатак -*а*, – 22, колькасць ужыванняў гэтых формаў – 269. Найбольш актыўна Купала выкарыстоўвае такія клічныя формы, як *Божа* – 160 ужыванняў (гэта самая частотная сярод усіх вакатыўных формаў у мове пісьменніка), *дружа* – 31, *война* – 21, *княжа* – 14, *нябожа*, *старча* – кожная форма па 12 ужыванняў, *чалавеча* –10. Адзінкавыя ўжыванні – *ваяча, воўча, Донча, дружача, Залязняча, салавейча, унуча, уража, юнача.*

Канчатак -*у* маюць: а) назоўнікі з асновай на *р*: *валадару (уладару), ветру, грабару, дудару, Ігару, кабзару, камісару, песняру, прафесару (прафэсару), цару, шынкару*; б) некаторыя назоўнікі з асновай на зычны *к*: *братку, заступніку, палкоўніку, паночку, складальніку, сынку, чытальніку*; в) назоўнікі з асновай на цвёрды і шыпячы зычны: *дзеду, Езу, каралевічу, панічу, сабрату, сыну, таварышу*. Агульная колькасць назоўнікаў, клічная форма якіх мае ў спадчыне Купалы канчатак -*у*, – 25, агульная колькасць іх ужыванняў у мове паэта – 113. Найбольш актыўна Купала выкарыстоўвае такія клічныя формы, як *паночку* – 45 ужыванняў і *сынку* – 18 ужыванняў. Адзінкавымі фіксацыямі пададзены клічныя формы *ветру, грабару, дудару, заступніку, Ігару, камісару, каралевічу, сабрату, чытальніку*.

Канчатак -*ю* маюць назоўнікі з асновай на мяккія зычныя: *гаю, дабрудзею (дабрадзею), Івасю, косю, краю, хмелю, ягамосцю*. Клічную форму з канчаткам -*ю* ў моўнай спадчыне Купалы маюць усяго 8 назоўнікаў, агульная колькасць ужыванняў такіх формаў – 76. Найбольш часта паэт выкарыстоўвае формы *дабрудзею* – 52 ужыванні,

*косю* – 8, *гаю* – 5. Адзінкавымі прыкладамі пададзены клічныя формы *Івасю, краю*.

Такім чынам, у мове Янкі Купалы адлюстраваліся ўсе найбольш адметныя і пашыраныя ў гісторыі беларускай мовы канчаткі клічнай формы. Адсутнасць у гэтым пераліку клічнай формы з канчаткам *-і* старажытнага тыпу скланення на **ĭ* (выключэнне ў гэтых адносінах складае толькі клічная форма паланізма *вашэці*, зафіксаваная ў мове Купалы і з іншымі канчаткамі) цалкам зразумелая, бо ўжо ў старабеларускім пісьменстве такія формы ілюструюцца невялікай колькасцю прыкладаў.

У творах Купалы сустракаюцца нешматлікія марфалагічныя варыянты клічнай формы назоўніка, якія адрозніваюцца канчаткамі, напр. *вашэце – вашэці – вашэця*, заўважаны таксама фанетычныя варыянты, якія адрозніваюцца гукавым складам асновы, напр. *анеле – анёле, валадару – уладару, дабрудзею – дабрадзею, прафесару – прафэсару*.

Сярод клічных формаў у Купалы вылучаюцца: 1) формы са сталай традыцыяй выкарыстання ва ўсходнеславянскіх мовах (*Баяне, Божа, браце, дружа, княжа, чалавеча* і інш.) і 2) формы, якія пісьменства папярэдніх гістарычных перыядаў не фіксуе; можна меркаваць, што паэт, кіруючыся сваім надзвычай тонкім моўным чуццём, утварыў некаторыя з іх самастойна ў адпаведнасці з нормамі беларускай мовы свайго часу (*грузіне, Джамбуле, прафесару, хлебаробе, таварышу, чытальніку* і інш.).

Асобныя клічныя формы ўжываюцца ў якасці кампанентаў фразеалагізмаў. Надзвычай актыўная ў гэтых адносінах клічная форма *Божа*, зафіксаваная ў складзе фразеалагізмаў *барані Божа, Божа мой (вялікі), Божа (ты) мой (наш) літасцівы (міласцівы, міласэрны, мілы), дай Божа, крый Божа , памажы Божа* і інш.

Выкарыстанне клічных формаў у творах Купалы характарызуецца рознымі асаблівасцямі і патрабуе асобнай размовы. Тут адзначым толькі некаторыя з іх: а) паўтор адной і той жа клічнай формы ў сказе і творы, б) ужыванне клічных формаў розных назоўнікаў у адным сказе і творы, в) ужыванне адной і той жа клічнай формы ў мове пэўнага персанажа (напр., Пранцісь Пустарэвіч з камедыі «Паўлінка» спалучэнне дзвюх клічных формаў *пане дабрудзею* ўжывае 52 разы) і інш.

Клічная форма ў мове Купалы звычайна выступае ў функцыі зваротка, у некаторых выпадках – у функцыі выклічніка.

Такім чынам, аналіз гісторыі клічных формаў і іх рэалізацыі ў мове Янкі Купалы сведчыць, што гэтыя формы складаюць адметную асаблівасць беларускай мовы і ў спрыяльных для нашай мовы варунках, несумненна, атрымалі б статус нарматыўных.



*Спіс літаратуры*

1. Марков, В.М. Историческая грамматика русского языка. Именное склонение: учеб. пособие для филол. фак. ун-тов и пед. вузов / В.М.Марков. – М.: Высшая школа, 1974. – 143 с.
2. Черных, П.Я. Историческая грамматика русского языка / П.Я.Черных. – 3-е изд. – М.: Гос. уч.-пед. изд. Мин. просвещ. РСФСР, 1962. – 375 с.
3. Самсонов, Н.Г. Древнерусский язык / Н.Г.Самсонов. – М.: Высшая школа, 1973. – 296 с.
4. Мова беларускай пісьменнасці XIV – XVIII стст. / А.М.Булыка [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 319 с.
5. Булыка, А.М. Мова выданняў Францыска Скарыны / А.М.Булыка, А.І.Жураўскі, У.М.Свяжынскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 255 с.
6. Норман, Б.Ю. Вокатив в функции подлежащего в славянских языках / Б.Ю.Норман // Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы. – 2000. – № 3 (5). – С. 43–46.
7. Карский, Е.Ф. Белорусы. – Т. II. – Вып. 2. / Е.Ф.Карский. – Варшава, 1911. – 423 с.
8. Тарашкевіч, Б. Беларуская граматыка для школ / Б.Тарашкевіч. – Выд. 5-е, перапрацоўлі. і пашыран. – Вільня, 1929.
9. Граматыка беларускай мовы. У 2 т. / Акад. навук Беларускай ССР; Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа. – Т. І. – Мінск: Навука і тэхніка, 1962. – 540 с.
10. Жыдовіч, М.А. Назоўнік у беларускай мове. Ч. І. Адзіночны лік / М.А.Жыдовіч. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1969. – 230 с.
11. Янкоўскі, Ф.М. Гістарычная граматыка беларускай мовы / Ф.М.Янкоўскі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Вышэйшая школа, 1989. – 301 с.
12. Блінава, Э. Беларуская дыялекталогія / Э.Блінава, Е.Мяцельская. – 2-е выд., дапрац. і дапоўн .– Мінск: Вышэйшая школа, 1980. – 304 с.
13. Беларуская граматыка. У 2 ч. – Ч. 1. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – 431 с.

УДК 811.161.3

**І.В. Піваварчык** (Гродна)

## ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНАЯ ГРУПА ‘ШЛЮБНАЕ ЎБРАННЕ МАЛАДОЙ’ (ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАЕ АПІСАННЕ)

Народнае адзенне ўключаецца ў катэгорыю найважнейшых аб`ектаў даследаванняў у сферы традыцыйна-бытавой культуры этнасу, выступаючы ў ролі носьбіта асноўных этнадыферэнцыяльных прыкмет. Любы від народнага адзення мае не толькі ўтылітарнае прызначэнне, але носіць яскрава выражаны знакавы характар. Яркім прыкладам спецыфічнага спосабу выяўлення знакава-сімвалічнай інфармацыі выступае шлюбна-вясельны касцюм нявесты. Разгледзім вясельнае ўбранне маладой, яго асноўныя функцыі, выкарыстаўшы ў якасці крыніц дыялекныя і этнаграфічны матэрыял.

У вясельнае ўбранне нявесты ўваходзяць галаўныя ўборы, шэраг прадметаў жаночага адзення, упрыгожанні і абутак, якія ў сваёй

сукупнасці складаюць пэўную цэласную сістэму – абрадавы касцюм маладой. У шырокім сэнсе ў паняцце ‘абрадавы касцюм’ уваходзіць таксама прычоска, звязаная з галаўным уборам, і дапаўненні да касцюма – аксесуары.

Убранне маладой звычайна адпавядала пары года. Перш за ўсё гэта *кашуля*: тонкая, белая, паркалёвая, у чатыры палы, шытая беллю, сцягнутая на шыі льном. Вясельную кашулю адмыслова аздаблялі вышыўкай, «каля вората золата, каля падола серабро», узорыстым ткацтвам. Асабліва ўпрыгожваліся рукавы, утвараючы «чырвоны рукаў». Некаторыя ўзорна тканыя рукавы маглі насіць толькі молодкі, а не дзеўкі. На тэрыторыі Падняпроўя маладую прыбіралі ў белую «сцэльную» сарочку: *Даўней у першы дзень надзявалі бялізнавую сцэльніцу* [1, с.47]. Паходжанне лексемы *сцэльніца* звязваецца са спосабам пашыву кашулі – яе шылі суцэльнай з ільняной ці баваўнянай тканіны ў адрозненні ад кашулі з падточкай, г.зн. адразной. На думку Т.А.Бернштам, у найменні *сцэльніца* замацаваліся міфарытуальныя ўласцівасці: у паўночна-расійскіх абрадах жніўна-сенакосная сарочка называецца *исцельница, целоножница* – назвы, у якіх падкрэсліваецца ц н о т н а с ц ь , н е к р а н у т а с ц ь дзяўчыны-нявесты [2, с.183].

Вясельная кашуля маладой мае яшчэ адно найменне – аналітычную канструкцыю *чарэсная сарочка* [1, с.47]. У існуючай лінгвістычнай і этнаграфічнай літаратуры мы не знайшлі больш звестак пра ўжыванне слова *чарэсны* ці яму роднасных у беларускіх гаворках, аднак аднакаранёвыя словы шырокавядомыя ў іншых славянскіх мовах: руск. *чересла* \`паясніца\`, *чересел, чересл* \`пояс\`; укр. *черес* \`скураны пояс для грошай\`; лексема вядома таксама балгарскай, славенскай, славацкай, чэшскай, польскай мовам як \`пах\`, што дае падставы гаварыць пра яе праславянскае паходжанне: < *čersło \`бядро\` [3, т.4, с.342). Паверх кашулі нявеста апранала чорны каптанік або суконны гарсэт.

Як летам, так і зімою маладая ўбіраецца ў *андарак* (= вузкая спадніца хатняга вырабу з воўны) найчасцей з сіняга сукна з чырвоным карсажам, вытканы ўзорамі, ператыканы. Зрэдку замест андарака адзявалі паркалёвую *спадніцу*, *саян* (= спадніца з прышытым ліфам-гарсэтам) доўгі, да долу. У Веткаўскім р-не спадніца, якую маладой упершыню адзявалі на вяселлі, атрымала назву *калышка* [1, с.49].

Гэты элемент жаночага строю валодаў сімвалічна-знакавай функцыяй. *Калышка* прыйшла на замену архаічнаму адзенню дзяўчыны – дзвюм нясшытым полкам панёвы, таму «тэма паяднання ў такой рэчы нібыта даецца ў працэсе і ў сувязі з вобразам уваходу» [1, с.49]. Слова *калышка* ў значэнні \`спадніца\` не адзначаецца дыялектнымі слоўнікамі беларускай мовы. Паводле этнаграфічных сведчанняў, *калышка* была тыповым уборам жанчынаў руска-ўкраінскага і, як мы ўстанавілі, беларускага памежжа. Лінгвагеаграфія дазваляе класіфікаваць лексему як беларуска-руска-ўкраінскую ізалексу і этымалагічна лічыць магчымым дэрыватам ад дзеяслова *колыхати*.

Цікава зазначыць, што матывы дзіцяці, люлькі адлюстраваліся ў цэнтральнабеларускім слове *калышка*, дзе яно бытуе з значэннем \`калыска\` \`гушалка\` [4, с.71]. Разнастайныя і аддаленыя на першы погляд значэнні \`спадніца\` і \`люлька\` можна аб\`яднаць на аснове агульнай прыметы – \`рэчы, суадносныя з «бабскім» перыядам жыцця жанчыны\` – перыядам актыўнага ажыццяўлення ёю рэпрадуктыўных функцый.

Паверх спадніцы-андарака нявесце павязвалі *фартух*: белы, у складку з чырвонымі ўзорамі, якому ў вясельным кодзе ўласцівы высокі ўзровень семіятычнасці. Ён сімвалізуе пераемнасць, працяг роду, «радаводную эстафету жыцця на фоне бясконцасці вечнасці […], прычым верхняя частка і пояс, на якім трымаўся атрыбут жаночай долі, былі чырвонымі, г.зн. жывот жанчыны – улонне новага жыцця – быў экраніраваны (закрыты) чырвоным – жыццёпрадукавальным – фрагментам ручніка» [5, с.77]. У гэтым кантэксце чытаецца і апатрапеічная функцыя фартуха. Зазначым, што ўвесь комплекс вясельнага ўбрання маладой мае ахоўную, магічную моц. Каб адвесці «дурныя вочы», нявеста да шлюбу ніжнюю спадніцу апранала навыварат.

У халоднае надвор\`е маладая апранала *світку* (= верхняе адзенне з сукна), *бурнос* сівы (пашыты з сівага сукна), паабшываны каля кішэняў, рукавоў і каля каўняра, *сярмягу* (= верхняе адзенне з грубага нефарбаванага дамотканага палатна) белую; *кажушок*, а як багатая, то і вялікі доўгі *кажух*.

Этнографы зазначаюць, што «кажух і сярмяга ёсць адвечным уборам нашых сялян; маладая, калі не вельмі горача, адзета ў сярмягу і кажух» [6, s.246]. Паказальна, што ў Віцебскім павеце нявеста ўбіралася ў шубу, нягледзячы на пару года, «хотя бы даже в июльские жары» [7, т.1, с.42]. Этнаграфічны фон функцыянавання кажуха, футра (шубы) у вяселлі асабліва шырокі і абапіраецца на незвычайна мнагапланавую сімволіку футра: акрамя апатрапеічнага і прадукавальнага значэння, яно ўвасабляе багацце, заможнасць і дабрабыт, апелюючы да культу продкаў.

Неадымнай часткай строю маладой быў *пояс*, абавязкова чырвонага колеру. Ён называўся *чант(д)ыкор: Червоный пояс – це чиндокора, у ём середка – черчата, а по краю - синий и жёлтый* [8,

с.121]. Як засведчана ў літаратуры, слова *чынтекорь* належыць да даўніх запазычанняў з польскай мовы: < ст.-польск. czuntakor, ужывалася ў старабеларускай мове з значэннем `гатунак шаўковай тканіны` [9, с.111].

Сімволіка пояса аналізуецца ў многіх сучасных працах па славянскай духоўнай культуры. На думку даследчыкаў, пояс выконвае шэраг функцый: выступае ў якасці пасярэдніка паміж «сваім» і «чужым», з яго дапамогай распаўсюджваецца сфера ўплыву чалавека на неасвоеную прастору; пояс – сімвал сілы, патэнцыі ў адносінах да мужчын і сімвал дзявочай цноты, чысціні і вернасці ў адносінах да жанчын.

Знакавасць пояса дасягала найвышэйшай напружанасці ў час вясельнай урачыстасці, калі ён «адрываецца ад касцюма з тым, каб ператварыцца ў самастойную знакава-рэлігійную адзінку» [10, с.36]. Сэнс і сімволіка пояса адлюстроўваецца ў апаясванні маладой, якое суправаджаецца шэрагам рытуальных дзеянняў. Так, у Касцюковіцкім р-не перад ад`ездам маладых да шлюбу дружок на шыю нявесце двойчы закідвае пояс, а паднявесніцы яго адкідваюць. За трэцім разам гэта яму ўдаецца, а пасля падпяразвае ім маладую. Гэтая несумненна архаічная рытуальная акцыя змяшчае ў сваім семантычным полі некалькі сімвалічных значэнняў. Па-першае, падпарадкаванне маладой жаніху, якое выражаецца апаясваннем а) «мужавым» поясам – падарункам жаніха і б) мужчынам з роду маладога. Па-другое, падпяразванне чантыкорам павінна садзейнічаць плоднасці маладой. У сувязі з узгаданай сімвалічнай функцыяй варта прывесці прыклад выкарыстання вясельнага пояса з мэтай паўплываць на прыплод хатняй жывёлы: перад выхадам з хлява жывёлы пад парог клалі пояс, у якім вянчаліся [8, с.120-121].

Выкарыстанне менавіта чырвонага пояса ў абраднасці звязваецца з асэнсаваннем яго як сімвала цноты і маральнай чысціні маладой. Гэта значэнне пояса дастаткова поўна раскрываецца ў сітуацыі абрадавага ўзвелічэння / ганьбавання нявесты пасля шлюбнай ночы: *«Если невеста окажется честною, то снимают с нея чандыкор и перевязывают его через правое плечо маршалку…Если невеста окажется нечестной, вешают чандыкор на крючок»* [7, т.3, с.464].

Элементам строю маладой, што спадарожнічаў ёй на працягу вяселля, быў *ручнік*, якім маладой перавязвалі правую руку. У гэтым выпадку ручнік мае выключна сімвалічнае значэнне – маркіруе прыналежнасць маладой мужу. Варта ўзгадаць яшчэ адну асаблівасць вясельнага строю маладой: на поясе ў яе вісела 20–30 ручнікоў для падарункаў.



Зазначым, што адносна вясельнага касцюма нявесты крыніцы падаюць факты супрацьлеглага характару: поруч з паказаннямі на самае лепшае шлюбнае ўбранне маюцца звесткі, што *«платье к венцу надевается какое угодно, только не из лучших»*, і матывуецца: *«при постоянных поклонах…оно совершенно загрязняется»* [7, т.1, с.2].

Працэс убірання маладой у вясельнае адзенне ўспрымаецца як наскрозь магічная дзея і выступае вонкавым паказчыкам сімвалічнага пераходу нявесты. У рытуальным апрананні маркіруецца локус: маладую ніколі не ўбіраюць у хаце бацькоў, у хаце ўдавы або ўдаўца [7, т.1, с.381], а найчасцей у нежылым памяшканні (амбары, клеці) або ў суседняй хаце, дзе ёсць дастатак, дзеці і шчаслівы лёс гаспадароў. Зазначым, што выбар хаты не быў выпадковым. Пры гэтым патрэбна было захоўваць наступныя ўмовы: дом не павінен знаходзіцца на супрацьлеглым баку вуліцы; каб твар нявесты, якая ідзе ў гэты дом, быў звернуты на ўсход: *…і дайжа еслі жаніх будзе ехаць з якога боку, дык туды на сустрэчу не вядзі, а вядзі наадварот ад жаніха, у другую старану* [11, с.302]. Матываванні, якія тлумачаць гэтыя рытуальныя звычаі, атрымліваюць міфалагічную трактоўку: каб маладая не тужыла па доме.

У склад рытуальнага строю маладой абавязкова ўваходзілі прадметы, якім надавалася функцыя апатрапеяў. Найперш гэта абярэгі расліннага паходжання, якія ў выніку сваіх прыродных уласцівасцяў набывалі магічную здольнасць уздзейнічаць на носьбіта небяспекі. Як абарончыя сродкі ад чараўнікоў і ведзьмаў, увогуле ад усяго злога («штоб ніхто не прыстаў») нявеста на працягу вяселля мела пры сабе зелле *адкаснік* і *вядун* (=мак-самасей), у кішэні трымала загорнутыя ў анучку галоўку цыбулі ці часныку [12, с.58], апатрапеічныя функцыі якіх заснаваныя на рэзкім моцным паху і горкім смаку, а таксама на актывізацыі семы множнасці. Верагодна, з аналагічнай мэтай пры ад'ездзе да маладога нявеста за пазухай трымала грэбень, талерку і лыжку – металічныя прадметы ў народным успрыманні прыцягвалі на сябе любыя хваробы, засцерагаючы такім чынам чалавека.

Вяселле складаецца з цыклу абрадаў, якія афармляюць пераход нявесты ў новы сацыябытавы статус, а змяненне сутнасці чалавека нараджала шэраг спадарожных момантаў, якія знайшлі сваё выражэнне ў розных формах рытуальнага пераапранання. У беларускай традыцыі рытуальнае пераапрананне знайшло найбольш поўнае выяўленне ў комплексе рытуалаў з шлюбнай *сарочкай* маладой. Выдзеленасць кашулі ў сістэме абрадавага строю нявесты абумоўлена непасрэдным яе кантактам з целам, бо сарочка выступае самай інтымнай часткай убору,

настолькі інтымнай, што некаторыя мужчыны не бачылі яе на працягу ўсяго жыцця.

Менавіта інтымнасць кашулі, а таксама здольнасць выступаць правадніком магічнай сілы голага цела ўключыла яе ў шырокі кантэкст абрадаў і абрадавых дзеянняў, павер`яў, песняў. Выключнае месца кашуля маладой займае ў абраднасці першай шлюбнай ночы, дзе яна мае на мэце засведчыць і публічна прадэманстраваць гасцям цнатлівасць маладой. Зазначым, у народным міфалагічным светаўспрыманні дзявочая непарушнасць была акружана рэлігійным арэолам, успрымалася як божае блаславенне, сімвал дабрачыннасці і шчасця, радасці і весялосці для таго дому, куды ідзе маладая, у той час як нецнатлівасць нясе зганенне, разлад, спусташэнне і іншыя нелады дому. Рэлігійная сімволіка нявіннасці, цнатлівасці шлюбу паўплывала на традыцыйнае вяселле, што прывяло да з`яўлення спецыфічнай урачыстасці, якую можна назваць «трызнай над страчанай дзявоцкасцю».

Прадметным выяўленнем дзявочай маральнай і палавой чысціні ў вясельным кодзе выступала *сарочка*, а яе знаходжанне ў самым цэнтры перанараджэння маладой выклікала ўзнікненне шматлікіх магічных рытуалаў і дзеянняў. Так, адпраўляючы маладых у камору, жанчыны роду жаніха становяць маладую на века ад дзяжы і пры ўсіх дагала распранаюць і накладаюць чыстую белую кашулю.

Кашуля шлюбнай ночы з засведчанымі адзнакамі дзявоцтва – «разлітай калінкай на падале» – вызначыла і адпаведнае яе ўспрыманне – усім усходнім славянам вядомы ўрачысты, нават буйны характар язычніцкага вясельнага балявання пад назвай «калінкі». Вясельны разгул, які афармляў фізічную (палавую) блізкасць маладых, санкцыянаваў іх уключэнне ў рода-нараджальны калектыў, здымаў усе забароны на паводзіны прыданак і сваякоў роду маладога. Сарочку нявіннай маладой урачыста насілі па ўсёй вёсцы і паказвалі кожнаму, аддавалі яе прыданкам, *«которыя играли с нею, выделывали с ней разные штуки, катали ею по столу и т. п. «* [7, т.1, с.273]. У выпадку выяўлення нецнатлівасці маладой на Палессі яе сарочку набівалі саломай і ператваралі ў пудзіла, у якое ўтыкалі моркву з выразна фалічнай семантыкай [13, с.183].

Апошнім звяном у структуры абрадавага пераапранання маладой выступаў рытуал змены адзення пасля абраду «каморы», які мэтазгодна разглядаць у серыі ачышчальных рытуалаў, дзе чысціня ўяўляецца перш за ўсё маральнай, духоўнай, а не фізічнай уласцівасцю. Этнаграфічныя дадзеныя сведчаць пра пераапрананне пасля шлюбнай ночы як маладой, так і маладога, прычым «вона одежу дае ёму свою, ужэ вон скідае тэ мацерынэ да ее кладзе», а маладая «перэдзеваецца ў своє» або ў тое, што ёй падрыхтаваў жаніх перад вяселлем.



Такім чынам, неаднаразовая перамена вясельнага ўбрання маладой сімвалізавала змяненне сутнасці аж да поўнага прызнання яе новага статуса грамадскасцю. Рытуальнае адзенне надзялялася не толькі абарончай, але і магічнай, лекавай здольнасцю.

*Спіс літаратуры*

1. Нячаева, Г. Мярэжы, тэхналогія як магія / Г.Нячаева // Беларусь. – 2000. – № 7. – С. 46 – 49.

2. Бернштам, Т.А. Молодежь в обрядовой жизни русской общины 19 – нач. 20 в.: Половозрастной аспект традиционной культуры / Т.А. Бернштам. – Л.: Наука, 1988. – 280 с.

3. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. / М. Фасмер; пер. с нем. и дополнения О.Н.Трубачева. – М.: Прогресс, 1987.

4. Шаталава, Л.Ф. Беларускае дыялектнае слова / Л.Ф. Шаталава – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 208 с.

5. Крук, Я. Сімволіка беларускай народнай культуры / Я. Крук. – Мінск: Ураджай, 2001. – 350 с.

6. Gloger Z. Encyklopedia staropolska ilustrowana / Ze wstępem J. Krzyżanowskiego. W 4 t. T. 3. – Warszawa: Wiedza Powszechna, 1974. – 350 s.

7. Шейн, П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края / П.В. Шейн. – Т .1, ч.1. – СПб., 1902.

8. Плотникова, А.А. Первый выгон скота в Полесье / А.А. Плотникова // Славянский и балканский фальклор. – М.: Индрик, 1995. – С. 108 – 110.

9. Булыка, А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XVI – XVIIст. / А.М. Булыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 356 с.

10. Фадзеева, В.Я. Знакавая семантыка традыцыйнага пояса / В.Я. Фадзеева // Народныя паясы – мастацтва і рамяство: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. – Мінск; 1994. – С. 34 – 39.

11. Сысоў, У.М. З крыніц спрадвечных / У.М. Сысоў. – Мінск: Вышэйшая школа, 1997. – 415 с.

12. Никифоровский, Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычии, легендарные сказания о лицах и местах / Н.Я. Никифоровский. – Витебск, 1897.

13. Кабакова, Г.И. Антропология женского тела в славянской традиции / Г.И. Кабакова. – М.: Ладомир, 2001. – 335 с.

УДК 811.161.3

**В.І. Рагаўцоў** (Магілёў)

## КАЛАМБУР ЯК СРОДАК СТВАРЭННЯ КАМІЧНАГА ЭФЕКТУ (НА МАТЭРЫЯЛЕ П'ЕС К. ГУБАРЭВІЧА)

Жанравы дыяпазон драматургічнай творчасці К. Губарэвіча шырокі і разнастайны: «гістарычна-рэвалюцыйная і гераічная драма, лірычная і сатырычная камедыя, фарс і вадэвіль» [1, с. 274].

Асаблівую вядомасць набылі п’есы драматурга «Брэсцкая крэпасць» і «Брэсцкі мір», якія сталі «адкрыццём не толькі ў беларускай драматургіі» [2, с. 210].

Ужо ў адной з першых п’ес «Алазанская даліна» (напісана ў суаўтарстве з І. Дорскім), у якой усё дзеянне «набыло камедыйную інтэрпрэтацыю» [3, с. 22], шырока выкарыстоўваецца прыём «вадэвільных паўтарэнняў адных і тых жа сітуацый» з мэтай «нарастання камізму» [4, с. 108], «нагнятання смешных сітуацый і здарэнняў», што з’яўляецца «істотнай асаблівасцю камізму» [5, с. 177] твора.

Элементамі камізму напоўнены не толькі творы камедыйнага жанру, але і драмы, героі якіх, самыя звычайныя людзі, і ў нялёгкі час не страчваюць дасціпнасці, пачуцця гумару, што дапамагае ім выжыць у неймаверна цяжкіх умовах.

Адным з дзейсных сродкаў стварэння камічнага эфекту ў п’есах К. Губарэвіча з’яўляецца каламбур.

На падставе таго, з якіх моўных адзінак (лексічных, фразеалагічных) утвараюцца каламбуры, адпаведна можна вылучыць два іх тыпы – лексічныя і фразеалагічныя.

**І. Лексічныя каламбуры.** У залежнасці ад таго, якія лексічныя сродкі выкарыстоўваюцца для ўтварэння каламбураў, выдзяляюцца лексічныя каламбуры трох тыпаў: полісемічныя, паранамазійныя і аманімічныя.

***Полісемічныя каламбуры.*** Яны грунтуюцца на сутыкненні ў полісеманце адначасова двух значэнняў. Гэта магчыма таму, што ў «адным тэксце выкарыстоўваюцца як бы два кантэксты, у кожным з якіх тое ж самае слова мае сваё пэўнае, адрознае ад іншага значэнне» [6, с. 7].

Абыгрывацца могуць два розныя тыпы лексічных значэнняў полісеманта.

1. Прамыя значэнні. Гэта можа быць значэнне (намінацыйна-першаснае) і яго адценне (намінацыйна-другаснае): [Вольга:] *Ну, бабуля, а я за вамі па ўсім горадзе **ганяюся**… Паехала ў бальніцу, а там, кажуць – выпісалася ўжо…* [Бабуля:] *А чаго за мной **ганяцца**? Я ж не заяц.* («З вяршыні відаць далей») Тут дзеяслоў *ганяцца* спачатку ўжываецца з адценнем: ‘высочваць месцазнаходжанне каго-н., каб убачыць ‘ (у рэпліцы Вольгі; актуалізатар – *Паехала ў бальніцу, а там, кажуць – выпісалася ўжо*), а потым са значэннем ‘бегаць следам, каб дагнаць або злавіць’ (у рэпліцы бабулі; актуалізатар – *Я ж не заяц*).

Камізм найбольш яскравы, калі другое значэнне ў параўнанні з першым з’яўляецца экспрэсіўна больш зніжаным: [Хадоська:] *Аўдакія Піліпаўна пакуль толькі старшыня калгаса, а не Прэзідыума Вярхоўнага Савета.* [Змітрок:] *Яна і туды **дастукаецца**.* [Кіеня:] *Глядзіце, каб вы абое не **дастукаліся**.* [Змітрок:] *А мы нікога не баімся.* («А куды ж нам падзецца») Камічная эфект ствараецца за кошт абыгрывання экспрэсіўных значэнняў полісеманта *дастукацца.* У рэпліцы Змітрака рэалізуецца значэнне разм. ‘дасягне свайго настойлівымі намаганнямі’, а ў рэпліцы Кіені – разм. ‘адмоўнымі паводзінамі выклікалі на сябе бяду, непрыемнасць’ (з гэтым жа значэннем успрымаецца полісемант Змітраком у чацвёртай рэпліцы, пра што сведчыць актуалізатар *А мы нічога не баімся*).

2. Пераносныя значэнні (або іх адценні): [Мікіта Сямёнавіч:] *Ну недарэмна ж я трыццаць з лішнім год **пляжыў** у народным кантролі.* [Дырэктар:] *І Стрыжэўскага маеце намер **спляжыць**?* («З вяршыні відаць далей») Полісемант *пляжыць* ужыты ў розных значэннях: у першай рэпліцы – перан. разм. ‘працаваў’, у другой – перан. разм. ‘замучыць, загубіць нападкамі, ганеннем’. Камічны эфект грунтуецца на «непаразуменні» паміж персанажамі, якія, зыходзячы з розных камунікацыйных мэт, у адну і тую ж лексічную адзінку ўкладваюць розны сэнс.

3. Прамое і пераноснае значэнні: [Клава:] *Колька кажа: ты сваім голасам, Клаўка, на раённым аглядзе самадзейнасці ўсіх **пакладзеш**!* [Ксана (з іроніяй):] *Усе ўпокат будуць ляжаць…* («На крутым павароце») Дзеяслоў *пакладзеш* Клава ўжывае з пераносным значэннем ‘пераможаш’, а Ксана – успрымае з прамым ‘надасі ляжачае становішча’ (актуалізатар – *упокат будуць ляжаць*).

Прамое значэнне можа абыгрывацца з сінкрэтычным (прамым і пераносным): [Баяніст (лянiва ўстаў на нозі):] *Я, між іншым, гіравік. Двухпудовую адной рукой вышэй галавы падымаю…* [Стась:] ***Дуб** таксама моцны. Але **дубам** і астаецца.* [Баяніст:] *Ну, годзе. Не будзем паглыбляцца ў дубовы лес, бо не хачу псаваць нашых добрасуседскіх адносін.* («Салодкі месяц») Тут лексема *дуб* Стасем ужываецца спачатку з прамым значэннем ‘буйное ліставое дрэвае сямейства букавых з цвёрдай драўнінай і пладамі-жалудамі’ (*дуб таксама моцны*), затым з сінкрэтычным (прамым і пераносным экспрэсіўна зніжаным – як сімвал тупасці: *Але дубам і астаецца*). Баяніст, зразумеўшы Стасеў тонкі намёк, параіў таму: *Не будзем паглыбляцца ў дубовы лес, бо не хачу псаваць нашых добрасуседскіх адносін.*

Даведаўшыся ад Вані («Ох, «жыгулі» вы, «жыгулі»!»), што ён складае з сябе «высокі сан мастацкага кіраўніка», Алена з недаўменнем пацікавілася ў яго: *А як жа Нюра з Федзем? Яны ж без цябе не **спяюцца**.* Ванеў адказ (*Ужо. **Спеліся!***) выклікаў здзіўленне ў Алены:

*Ды не можа быць!* <…> *Без акампанемента?* На што Ваня з горыччу адказаў: *Акампанемент стаў трэцім лішнім.* Дзеяслоў (не) *спяюцца* рэалізуе прамое значэнне (не) ‘дасягнуць зладжанасці ў сумесным спеве’ (выяўляецца з дапамогай актуалізатара – рэплікі Алены *Без акампанемента?*), а форма *спеліся* – перан. разм. ‘сышліся’ (у інтымных адносінах; актуалізатар – Аленіна рэпліка *Ды не можа быць!*, а таксама словы Вані: *Акампанемент стаў трэцім лішнім*). У рэпліцы Алены і Вані абыгрываецца, апрача таго, назоўнік *акампанемент* – яго узуальнае значэнне ‘музычнае суправаджэнне’ і аказіянальнае ‘той, хто ажыццяўляе гэтае суправаджэнне’: [Алена:] (Спеліся) *без акампанемента?* [Ваня:] *Акампанемент стаў трэцім лішнім.*

Пераноснае значэнне можа быць аказіянальным: [Тэкля:] *То яшчэ ад нашай маці. Шлюбнае ўбранне…* [Ваня:] *Крык народнай творчасці.* ***Экстра**-клас!* [Алена:] *Што гэта ў цябе «экстра» да языка прыліпла?* [Марыля:] *Каб то ліпла. А то глытае яе.* («Ох, «жыгулі» вы, «жыгулі»!») Прыметнік *экстра* ў рэпліцы аднаго персанажа (Вані) ўжываецца са значэннем ‘самы лепшы’ (у дачыненні да народнай творчасці), а ў рэпліцы другога (Марылі) – з метанімічным значэннем ‘гарэлка найвышэйшага гатунку’ (актуалізатар – *А то глытае яе*).

***Аманімічныя каламбуры.*** Аснова такіх каламбураў – аддаленасць значэнняў амонімаў, нечаканае сутыкненне якіх у кантэксце «надае каламбурам асаблівую вастрыню і камічнасць слоўнага непаразумення» [7, с. 42]: [Кіеня:] *Гадавальнік трэба планаваць у нашым раёне!* [Хадоська:] ***Ліпавы?*** [Кіеня:] *Так. Ліпавы! Рэспубліканскі ліпавы гадавальнік! Даходзіць?* [Хадоська:] *Прыблізна.* («А куды ж нам падзецца») На першы погляд, Хадоська ў прыметнік *ліпавы* ўкладвае значэнне ‘які складаецца з ліп’, што, дарэчы, пацвярджаецца словамі Кіені: *Так. Ліпавы! Рэспубліканскі ліпавы гадавальнік!* Разам з тым яго пытанне (*Даходзіць?*) дае падставы меркаваць, што Кіеня не ўпэўнены ў тым, у якім значэнні Хадоська ўжывае прыметнік *ліпавы* (у «сапраўдным» ці ў ‘падроблены, несапраўдны’). Камізм каламбурнага ўжывання амонімаў звязаны, такім чынам, з «непаразуменнем» персанажаў.

Сярод аманімічных асобна можна вылучыць каламбуры, у якіх абыгрываюцца лексічна-граматычныя амонімы (словы розных часцін мовы, што супадаюць гучаннем у пачатковай форме): [Гэля:] *За шчасце!..* (Выпіваюць.) [Стась:] ***Горка!*** [Гэля:] *Ды не, саладкаватае быццам.* [Стась:] ***Горка**, кажу!* [Гэля:] *А-а-а…* («Салодкі месяц») Тут той самы гукавы комплекс *горка* па-рознаму ўспрымаецца персанажамі: Стасем – як *горка*[1] (у значэнні выклічніка *горка!* – разм. ‘вокліч, якім за вясельным сталом просяць маладых пацалавацца’), а Гэляй – як *горка*[2]



(безасабова-прэдыкатыўнае слова са значэннем ‘адчуванне горкага смаку’; актуалізатар – *Ды не, саладкаватае быццам*).

У п’есе «Брэсцкая крэпасць» сустракаецца каламбур, пабудаваны на аснове міжмоўнай аманіміі. Аманімічную бінарму ўтвараюць словы з нямецкай і беларускай моў: [Зімін:] *Што дрыжаць калені, ваяка?* [Салдат (не разумее):] ***Я, я***. [Кантарыя:] *Ты што мне туту –* ***я, я****!.. Ты ўжо не* ***я****, а нуль.* У аснове каламбура супастаўленне міжмоўных амонімаў: ням. *я* (ja) [1] (‘так, згодзен’) і бел. *я* [2] (‘сам як асоба’). Таксама: [Салдат:] ***Я, я.*** [Кантарыя:] *А я на тваім месцы гаварыў бы –* ***я*** *не* ***я*** *і хата не мая.* («Брэсцкая крэпасць») Камізм грунтуецца на непаразуменні персанажаў, кожны з якіх у «я» ўкладвае розны змест.

***Паранамазійныя каламбуры.*** У аснове іх – абыгрыванне паранамазаў: [Нэля:] ***Псіхатэрапія****, бабуля!* [Бабуля:] *Бачу, што* ***распсіхаваліся****…* («Галоўная роля») У выніку збліжэння паранамазаў робіцца спроба аднавіць першаснае значэнне аднаго з кампанентаў паранамазійнай бінармы – *псіхатэрапія.* Суадносячы гэты назоўнік (дакладней, яго першую частку – *псіха-*) з дзеясловам *распсіхаваліся*, бабуля, такім чынам, выяўляе сваё разуменне сэнсу назоўніка *псіхатэрапія* (тое, што мае дачыненне да праяўлення псіхічнага стану чалавека, яго ўзбуджанасці, нервовасці).

У каламбуры могуць збліжацца паранамазы, другі з якіх у параўнанні з першым, экспрэсіўна нейтральным, як правіла, мае адмоўную канатацыю. На збліжэнні кантрасных паранамазаў і ўзнікае камічны эфект: [Бонч-Бруевіч:] *Я б цябе зараз не* ***пагрэў****, а* ***агрэў*** *бы, ды так, каб ты не ўстаў больш!* («Галоўная стаўка») Паранамаз *агрэў бы* (разм. ‘моцна ўдарыў бы’) мае зніжаную экспрэсію.

Са зніжанай экспрэсіўнай канатацыяй ужываецца другі кампанент паранамазійнай бінармы і ў наступных прыкладах.

1. [Лагута:] *А я, можа, не хачу!.. Можа, я* ***скакаць*** *хачу!..* (З усяе сілы б’е абцасам у падлогу.) [Ахрэм:] *Цыц у мяне!* ***Даскакаўся****!* («На крутым павароце») Тут абыгрываюцца дзеяслоўныя формы *скакаць* – ‘хутка рухацца, падскочваючы’ (актуалізатар – рэмарка *З усяе сілы б’е абцасам у падлогу*) і *даскакаўся* – перан. разм. ‘легкадумнымі, ганебнымі паводзінамі наклікаў на сябе непрыемнасці, бяду’ (паказчык – *Цыц у мяне!*).

2. [Верамейчык:] *Ты што, не* ***апахмяляўся*** *яшчэ?* [Лагута (хапае табурэтку і замахваецца):] *Выходзь лепш, пакуль не* ***апахмяліў*** *цябе самога!..* («На крутым павароце») Параўн.: *апахмяліцца* – ‘выпіць спіртнога на другі дзень пасля моцнай выпіўкі’ і *апахмяліць* – перан. разм. іран. ‘адлупцаваць, пакараць’ (актуалізатар – *Выходзь лепш, пакуль не…*).

3. [Ваня:] *У яе радасны **стрэс.*** [Тэкля:] *Я цябе як **трэсну** гэтым вядром!* («Ох, «жыгулі» вы, «жыгулі»!») Параўн.: *стрэс* – ‘стан напружання арганізма, які з’яўляецца ахоўнай рэакцыяй у адказ на дзеянне моцных раздражняльнікаў унутранага або знешняга асяроддзя’ і *трэсну* – прaст. ‘моцна стукну, удару’ (актуалізатар – *…гэтым вядром!*).

Камічны эфект абумоўліваецца аднаўленнем унутранай формы аднаго з кампанентаў паранамазійнай бінармы: [Лёшка (узяў яе за руку вышэй локця):] *А ты ведаеш, што такое **ЛЭП**?* [Гэля (адхіснулася ўбок):] *Давай без **лэп**, між іншым. <…> Не думала, што не можаш абысціся без лэпання.* («Салодкі месяц») Супастаўленне абрэвіятуры *ЛЭП* з аддзеяслоўным назоўнікам *лэпанне*, сведчыць, што Гэля гэтую абрэвіятуру сэнсава звязвае з паняццем *лэпаць* ‘мацаць’.

У п’есе сустракаецца каламбур, заснаваны на фармальным збліжэнні паранамазаў (г. зн. без аднаўлення іх унутранай формы): [Дуня:] *Неблагая* [справа], *калі за свой кошт. Ну, а за свой кошт з непрывычкі неяк боязна. Вось ён і **спеўся**.* [Мікола:] *Можа, **спіўся**?* [Дуня:] *Можа і спіўся. З начальнікам нашага будаўнічага ўчастка.* («Простая дзяўчына») Камічны эфект абмоўлены тым, што экспрэсіўна афарбаваны дзеяслоў *спеўся* (перан. разм. ‘дасягнуў узгодненасці ў дзеяннях, учынках, адзінства ў поглядах’) абыгрываецца з яшчэ больш экспрэсіўна насычаным – *спіўся* (разм. ‘стаў п’яніцам’), які мае большую, чым папярэдні, адмоўную ацэначную канатацыю.

Паранамазійную бінарму могуць утвараць два запазычаныя словы, адно з якіх невядомае персанажу, таму замест яго ўжываецца блізкагучнае зразумелае слова. У выніку адбываецца, як і ў папярэднім прыкладзе, фармальнае абыгрыванне паранамазаў: [Гена:] *Бабуля, усё будзе **о’кэй!*** [Бабуля:] *А, знаю я вас! Калі будзе **хакей** – за хлебам у магазін некаму будзе схадзіць.* («З вяршыні відаць далей») Параўн.: *о’кэй* (англ. *okey*) – ‘*усё ў парадку, добра*’ і *хакей* (англ. *hockey*) – ‘спартыўная камандная гульня з клюшкамі і шайбай на лёдзе’.

**II. Фразеалагічныя каламбуры.** Яны ўзнікаюць двума спосабамі.

1. Дэфразеалагізацыя фразеалагізма. Гэты прыём заключаецца ў страце фразеалагізмам ідыяматычнага значэння і аднаўленні прамога. Гэта адбываецца часцей за ўсё пры абыгрыванні аднаго з кампанентаў устойлівай адзінкі з тоесным (аманімічным) словам свабоднага ўжывання: [Скібка:] *Нічым вы не правініліся, і давяраю вам, толькі…* [Кіеня:] *…толькі **свінню** хочаш **падкласці**.* [Скібка:] *Пра якую **свінню** ты гаворыш, Карней Тарасавіч?* [Кіеня:] *Табе лепш ведаць.* («А куды ж нам падзецца») Той самы выраз *свінню падкласці* ў маўленні Кіені ўжываецца як фразеалагізм (разм. неадабр. ‘цішком учыніць непрыемнасць, подласць каму-н.’), а ў маўленні Скібкі ўспрымаецца і як свабоднае словазлучэнне (актуалізатар – пытанне-канкрэтызатар з словам, аманімічным кампаненту фразеалагізма – *Пра якую <u>свінню</u> ты гаворыш?*).



Такім жа прыёмам утвараюцца каламбуры і ў наступным прыкладах:

а) [Ахрэм:] *Калі так пойдзе – неўзабаве **і галаву згубіш**.* [Лагута:] *Такой не шкада.* [Ахрэм:] *Як жа без **галавы** кіраваць будзеш?* [Лагута:] *А, думаеш, мала яшчэ старшынь **без галоў**?* («На крутым павароце») У першай рэпліцы выраз *згубіць галаву* ўжываецца як фразеалагізм (разм. ‘пазбаўляцца развагі’), а ў другой ён успрымаецца як свабоднае словазлучэнне (актуалізатар – *такой не шкада*). Тое ж можна сказаць і пра выраз *без галоў* (чацвёртая рэпліка), які ўжываецца з сінкрэтычным значэннем – ідыяматычным (разм. ‘неразумны’) і свабодным (пад уплывам тоеснага слова *галавы* з папярэдняй, трэцяй, рэпліке);

б) [Верхаводка:] *Я думаў, мне яшчэ **шпільку падпусціла**.* [Дуня:] *З вас даволі і той.* [Верхаводка:] *Даволі. Вось аж дагэтуль* (паказвае пальцам папярок горла). *Такая ўжо **шпілька**, што век буду бога маліць за твае здароўе…* [Дуня:] *Сам вінаваты.* («Простая дзяўчына») Выраз *шпільку падпусціла* Верхаводкам спачатку ўжываецца як фразеалагізм (разм. неадабр. ‘сказала непрыемнае, з’едлівае; падкалола’), а потым разумецца як свабоднае словазлучэнне (актуалізатарам з’яўляецца назоўнік *шпілька* – перан. ‘з’едлівая, колкая жанчына’, сугучны з кампанентам фразеалагізма). Прамое значэнне надаецца гэтаму выразу і ў першай рэпліцы Дуні, пра што сведчыць займеннік (даволі і) *той* (шпількі), сэнс якога раскрываецца ў словах Верхаводкі: *Даволі. Вось аж дагэтуль* (паказвае пальцам папярок горла). *Такая ўжо шпілька, што век буду бога маліць за твае здароўе…*

Дэфразеалагізацыя фразеалагізма можа адбывацца пры паралельным ужыванні фразеалагізма і аманімічнага свабоднага спалучэння слоў: [Гарэцкі:] *То лепш падзякуйце Вользе Паўлаўне. Яна паверыла вам і даручыла **галоўную ролю**…* [Агата Раманаўна:] *Не, Васіль, Пятровіч, <u>галоўную</u> **ролю** ў маім жыцці **сыгралі** вы…* («Галоўная роля») Тут абыгрываецца свабоднае словазлучэнне *галоўную ролю* ‘асноўную’ (у рэпліцы Гарэцкага) і ўстойлівае *сыгралі* <галоўную> *ролю* ‘мелі значэнне, аказалі ўздзеянне’ (у рэпліцы Агаты Раманаўны), у выніку чаго ў ім актуалізуецца першаснае значэнне, што і выклікае ў чытача ўсмешку. Або: [Ваня (паклаў рукі на плечы Алены):] *То што, мо **па руках**?* [Алена:] *Можна і **па руках**…* (Лёгенька вызваляецца ад яго рук.) *Калі дасі ім волю…* («Ох, «жыгулі» вы, «жыгулі»!») У аснове каламбура абыгрыванне фразеалагізма *па руках* – разм. ‘дамовіліся, згодны’(ужыты ў рэпліцы Вані) і аманімічнага

свабоднага словазлучэння [рэпліка Алены; актуалізатар – *Можна* (і па руках…) (Лёгенька вызваляецца ад яго рук.) *Калі дасі ім волю…*].

2. Абыгрыванне двух значэнняў фразеалагізмаў-полісемантаў: [Гэля:] Давай у другі бок, а то **галава закружыцца**. [Стась:] У цябе, бачу, ужо **закружылася**!.. І ад каго! Божа мой!.. Мала таго, што да Лёшкі ліпнеш, дык… («Салодкі месяц») Фразеалагізм галава закружыцца ў рэпліцы Гэлі ўжываецца са значэннем 'хто-н. адчуе галавакружэнне', а ў рэпліцы Стася – 'стараціць здольнасць цвяроза разважаць' (актуалізатар – Мала таго, што да Лёшкі ліпнеш, дык…).

Такім чынам, для стварэння камічнага эфекту ў п'есах К. Губарэвіча па-майстэрску выкарыстоўваюцца каламбуры двух тыпаў – лексічныя (полісемічныя, аманімічныя, паранамазійныя) і фразеалагічныя.

*Спіс літаратуры*

1. Усікаў, Я.К. Губарэвіч Кастусь / Я.К. Усікаў // Беларускія пісьменнікі: біябібліягр. слоўнік. У 6 т. Т. 2. / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь, Беларус. Энцыкл.; пад рэд. А.В. Мальдзіса; рэдкал.: І.Э. Багдановіч і інш. – Мінск: БелЭн, 1993. – С. 274.

2. Няфёд, У. Драматург-грамадзянін: да 75-годдзя з дня нараджэння Кастуся Губарэвіча / У. Няфёд // Полымя. – 1982. – № 1. – С. 208 – 211.

3. Усікаў, Я. Беларуская камедыя / Я. Усікаў. – Мінск: Вышэйш. шк., 1973. – 192 с.

4. Сабалеўскі, А. Кастусь Губарэвіч / А. Сабалеўскі // Беларуская савецкая драма / А. Сабалеўскі. – Мінск: Маст. літ.,1972. – Кн. 2. – С. 86 – 118.

5. Усікаў, Я. Пафас лірычнай камедыі / Я. Усікаў // Полымя. – 1970. – № 10. – С. 166 – 178.

6. Вакуров, В.Н. Речевые средства юмора и сатиры в советском фельетоне / В.Н. Вакуров: учеб.-метод. пособие. – 2-е изд. – М.: Изд-во МГУ, 1969. – 54 с.

7. Щербина, А.А. Сущность и искусство словесной остроты (каламбура) / А.А. Щербина. – Киев: Изд-во АН УССР, 1958. – 68 с.

УДК 811.161.3

**А.Э.Сабуць** (Гродна)

## ГЕНІТЫЎНАЯ МЕТАФАРА Ў ПАЭЗІІ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

*Маміна слова*
*Мяне пераксціла,*
*Дабраславіла*
*Купалава слова.*

Р.Барадулін

«Усё пазнаецца ў параўнанні» – гэты афарызм старажытнага кітайскага філосафа Канфуцыя асабліва справядлівы, калі мы пачынаем гаворку пра мастацкую творчасць, пра экспрэсіўнасць мастацкага пачуцця, пра, урэшце, актуалізацыю ўнутраных патэнцый слова. А між тым, як вядома, якраз метафара і сімвал служаць непераўзыдзенымі індыкатарамі эстэтычных функцый слова. Прычым згаданыя канцэпты суіснуюць у сваім няпростым вымярэнні, таму феномен метафары і сімвала як узаемаабумоўленых універсалій заслужана вымагае глыбокага і пранікнёнага вывучэння гэтага шматслойнага пластычнага арганізма, энергетычнае поле якіх асабліва прыцягальнае. Урэшце, у чым «матор метафары» (выраз А.Вазнясенскага) і чым абумоўлены культ метафары (незалежна ад часу і прасторы)? Зразумела, паняцце «метафарычны стыль» патрабуе глыбокай расшыфроўкі, асабліва пры асэнсаванні прыроды пераемных судакрананняў метафарычнай пластыкі, яе выяўленчых аналогій на розных узроўнях (гісторыка-генетычны, кантактны, тыпалагічнае падабенства). Бо, як слушна сцвярджаў Р.Семашкевіч, проста хваліць паэта за метафарычнае бачанне – усё роўна што зрабіць камплімент кампазітару, што ў яго ёсць музычны слых [1, с. 116]. Таму само ўменне стварыць загадкава-параўнальнае ў метафары – празрыстай, замкнутай, бінарнай, генітыўнай, дэкаратыўнай і г.д. – сапраўды вялікі дар.

Пералік пытанняў можна было б доўжыць, аднак, аддамо належнае, у прыватнасці, актывізацыі генітыўнай метафары ў паэзіі прызнанага «караля метафары» Рыгора Барадуліна. Нездарма з яго імем у сучаснай беларускай паэзіі звязана ўяўленне пра паэзію складанай метафарычнасці. «Барадулінскі метафарызм» (выраз В.Бечыка) мае надзвычай багатую палітру – ад зрокавай метафары да метафары паняційнай, ад уласна метафары да метафары-параўнання, метафары-перыфразы, метафары-сімвала, метафары-прысвячэння, квантатыўнай метафары, генітыўнай метафары. «Роўных яму няма сярод сучаснікаў. Ён адзіны, хто здолеў … увабраць у сябе ці не ўсю беларускую спрадвечнасць… Ён адзіны беларускі паэт, які існуе толькі ў мове і выключна ў ёй (падкрэслена намі. – А.С.)» [2, с. 7].

У «Паэтыцы» Арыстоцеля гаворыцца: «…а важней за ўсё – быць майстрам на метафары. Толькі гэта нельга пераняць ад другога, гэта – прыкмета таленту, бо складаць добрыя метафары значыць прыкмячаць падабенства» [3, с. 117]. Безумоўна, метафарычнасць барадулінскай паэзіі своеадметная выразным віртуозным абыходжаннем са словам, майстэрскай вынаходлівасцю. Вяртанне ў неруш роднага слова – барадулінская стыхія. У натуральна густым метафарычным радку пазнаеш творцу-паэта. Разам з тым народнае светабачанне і моватворчая энергія Я.Купалы дужа імпануюць Р.Барадуліну, арганічна ўваходзяць у яго мастакоўскі свет. У духу магутнай купалавай словатворчасці Р.Барадулін узнаўляе першародна-этымалагічную

сутнасць народнага ўяўлення аб пэўнай з'яве. Нездарма Барадулін свайго вялікага папярэдніка называе «чорнарабочым мовы». Думаецца, дзякуючы апантанаму пранікненню ў дух мовы, якая са слоў творцы *«са дна дзіўнабоскай паганскай асновы»*, метафарычная вобразатворчасць абодвух паэтаў мае відавочную міфічную падсветку – адначасова самабытную і прызнаную. Так, менавіта народны паганскі дух, надзвычайнае багацце экспрэсіўнай метафорыкі, эстэтычныя ідэалы «Слова пра паход Ігаравы» выглядаюць зусім заканамерным зваротам Я.Купалы і Р.Барадуліна да перакладу гэтага арыгінальнага велічнага твора.

Невычэрпнасць мастацка-вобразных патэнцый народнай мовы люструецца ў паэтыцы Рыгора Барадуліна праз актывізацыю **генітыўнай метафары**, сутнасць якой – у зліцці семантычных суадносін метафарызуемага і метафарычнага з іх сумарным выходным значэннем. Так, барадулінскія генітыўныя метафары (*«ніткі дажджу»,»нябёсы веры»*, *«вецер цярпення* маўклівы*»,»сад славяншчыны»*, *«змяя пяшчоты»*, *«азёры вачэй»,»*сонцакрылы *жаўранак кахання»*, *«космас цемры, святла… космас лесу, гарода, саду,… космас клопату»*, *«крошкі зор»*, *«кроў* зарэзанага *лета»*, «белая *шкарлупіна зімы»* [4] і інш.) люструюць праз аўтарскае светабачанне канфігурацыю таго ці іншага вобраза, які расшыфроўвае метафарызаваны кантэкст. Пэўную дыфузнасць, адзінства кампанентаў дэманструюць і інверсійныя канструкцыі генітыўнай метафары: «весняга *смутку вугольчык»*, *«снегу малодзіва»*, *«жалобы хуста»*, *«страху* сляпая *варта»*, *«Клопатаў* зямных // *Чаўны* прысталі», *«Змяркання* маразявае *віно* // Не хоча выліваецца ў // *Прагнасць зяп ночы»* [4] і г.д. Значнае месца ў барадулінскай генітыўнай метафарычнай прасторы займаюць структуры з дзвюма метафарычнымі часткамі, згарманізаванымі (у пералічаных ніжэй, акрамя апошняй) семантычнай злітнасцю («Белая *яблыня грому* // Чорных *садоў ліхалецця»*, *«Туман пакут скроні часу* выбеліў»,»Каб *зоркі* чыстых *мрояў* не пагаслі, // Прагнаўшы *сон* журлівых *аблачын»*, «У *кмене зорак* хлеб падавы, // Пячэцца ён на *аеры веры»*, *«Смутак верасу* сіні, // Палыновая *памяць тугі»*, *«Град праклёну* // Б'е ў *плечы даху»*, *«Нарог* нашай *памяці* // Мусіць араць // *Аблогу зніклівасці»*, «Абляціць пажоўклы *ліст журбы. // Колас шчырасці* нальецца сілай» [4] і інш.).

Адметнасць барадулінскага метафарычна-гукапіснага майстэрства можна прасачыць і па паэтавых перакладах. Ягоныя пераклады з рускай мовы лірыкі Б.Пастарнака (улюбёнага ў «касмічныя метафары») падкрэсліваюць віртуознае жывое захаванне адэкватнай інтанацыі і гукапісу ў беларускай мове. Так, у духу пастарнакаўскай жывапіснай метафорыкі натуральна гучаць барадулінскія пераклады-супадзенні (*«Стракозаў шкло* // хадзіла па шчаках»). Думаецца, не апошнюю ролю ў імкненні да экспрэсіўна-густой генітыўнай метафары сыгралі барадулінскія пераклады блізкіх бурапенным тэмпераментам іспанамоўных Ф.Гарсія Лоркі і С.Вальехі. Так, гукапіс музычна-метафарычнага Лоркі працуе не толькі на форму, але і на эмацыянальны падтэкст. Трэба сказаць, барадулінскае дапытлівае пранікненне ў дух і сэнс арыгінала гарманізуе ў пэўнай ступені ягоную паэтычную стыхію. Прыём суадноснасці разнародных прадметаў параджае ўстойлівыя «лоркіянскія» словазлучэнні-знаходкі (*«плод пацалункаў»*, *«плады лядоўні»*, *«павуціна цішыні»*, «Нябёсы, нябёсы, // паранілі цела мае // вашага *гневу восы»* [4]), або з С.Вальехі («Ноч, быццам *кубак злосці»* [4]).

Важна адзначыць, што асацыятыўнае «абрастанне» генітыўнай метафарычнай вобразнасці слова ў барадулінскай творчасці прыкметна, скажам, у прыкутасці да ўзнёсла-паэтычнага слова *«вырай»:* «І мне паслала шчодры *вырай дзён»*, *«Хмар вырай* // Свіцязі слязу страсе», *«Вырай смутку* – спадчына» [4] і інш. Сталымі (г.зн. часта ўжывальнымі, устойлівымі) барадулінскімі генітыўнымі метафарамі выглядаюць *статак гадоў*, *паша гадоў*, *стагі ўспамінаў*, *сырадой хмар*, *попел вякоў*, *дарога трывогі*, *туман сырадою* і інш., што заўважна заявілі пра сябе ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Хоць, безумоўна, рызыкоўна сцвярджаць, што вышэйзгаданыя метафары менавіта толькі індывідуальна-аўтарскія барадулінскія. Так, у прыватнасці, яны аўтарскія, барадулінскія, ужытыя непасрэдна паэтам у канкрэтным тэксце (тэкстах). Немалаважнай выглядае (ужо згаданая) частая ўжывальнасць і, відаць, невыпадковая вобразная арганізаванасць вакол аднаго (некалькіх) сэнсавых паняццяў-слоў (з дадзеным семантычным кантэкстам). У гэтай сувязі лагічна назваць індывідуальна-аўтарскімі барадулінскія генітыўныя метафары з асноватворнай семай 'дрэва' (*«дрэва жыцця»*, *«дрэва ракі»*, *«дрэва пазнання»*, *«жыцця* радаводнае *дрэва»*, *«дрэва часу»* і інш.), а таксама семай 'рака' (*«рака жыцця»*, *«рака мовы»*, *«рака часу»*, *«рака беларускасці»* і інш.), ужыванне якіх абсалютна натуральнае і заканамернае для Барадуліна-прыродапаклонніка, «кшчонага паганца», як сам сябе называе. Таму зусім не выключана, што літаральныя індывідуальна-аўтарскія метафары могуць быць тоеснымі, ідэнтычнымі (г.зн. супадаць) у некалькіх творцаў. Так ці інакш метафара існуе ў індывідуальным стылі творцы адразу ў двух вымярэннях: і як дадзенасць, вынік, і як працэс. Якраз апошняе – су-тварэнне цэласнасці – патрабуе, нават вымагае чытацкага асацыявання, актыўнай су-творчасці. Таму акрэслім тры

істотныя моманты актывізацыі генітыўнай метафары ў паэтычным арсенале Р.Барадуліна:

Найперш, гэта актуалізацыя міфатворчай метафорыкі. Адметнае міфічна-метафарычнае насычэнне вобразнага стылю паэзіі Р.Барадуліна бачыцца як працяг традыцый вялікага спадчынніка Я.Купалы. Архаічнае светаадчуванне ў абодвух паэтаў прадыктавана ўзнаўленнем самабытнай продкавай веры, сінтэзаванай арганічнасцю матываў рэлігійнага і патрыятычнага. Праўда, сама абумоўленасць звароту да паганскай міфалогіі культурна-ідэалагічнай сітуацыяй у творцаў рознахарактарная. Бунтарская прырода рамантызму Купалы, ягонае стыхійнае міфатворчае мысленне падкрэслівала абсурднасць і драматызм быцця, пачуццё адзіноты ў змаганні за *«долю людскую»*. Адсюль – купалавы бінарныя апазіцыі ў вылучэнні, з аднаго боку, культу сонца і, з другога, – акцэнтацыі ключавых міфалагічных вобразаў долі, ліха, гора, бяды, зла, духаў, шэльмаў, зданяў і інш. Трэба сказаць, у Р.Барадуліна галерэя «ніжэйшых» бажаствоў народнай дэманалогіі не валодае той злавеснай сілай, якою надзелены міфалагічныя персанажы Я.Купалы. Надзвычай багаты паганскі пантэон багоў узнаўляе дух спадчыннай крэўнай пераемнасці, шлях гістарычнага быцця народа. Зразумела, замацаванне эмпірычнага вопыту з дапамогай паганскіх вобразаў-сімвалаў люструецца ў мастакоў слова праз вылучэнне ўстойлівых у старажытнай культуры супрацьлеглых сіл (агонь-вада; уваскрэсенне-смерць). Прычым міфатворчая генітыўная метафара ў абодвух творцаў розніцца міфалагічнымі мадэлямі: у Купалы – гэта логіка абсурду (*«пошасць трупавея»*, *«светач судзьбіны»* і інш.), экзістэнцыйная адзінота (*«сны забыцця»*, *«быт канання»* і інш.), у Барадуліна – паступальная натурфіласофская зрытмізаванасць («Беларушчына – // Жаль птушыны. // Для Пегаса рублены хлеў // Несвянцоная *кроў крушыны*» [4]).

Па-другое, генітыўная метафара выглядае пераважна як сціслае згорнутае супрацьпастаўленне, дзе апазіцыя – у самой семантычнай структуры. У Барадуліна – лагічная несумяшчальнасць канкрэтнага і ўмоўна-абстрактнага паняццяў (*«цяляты паслухмянасці»*); квантытатыўны (колькасна-вагомы) пачатак у філасофскай падсветцы (*«ветах жыцця»*, *«снег гадоў»*, *«паша гадоў»*, *«смутак сутак»* і інш.).

І, па-трэцяе, «кансерватыўны» характар аўтарскіх генітыўна-метафарычных неалагізмаў (захаванне сваёй унутранай формы – этымалагічнага вобразу). Неардынарныя ўзоры барадулінскага мыслення, якія ўзбуджаюць пэўныя асацыяцыі: *«амплітуда смеласці»*, *«інтэлект зямлі»*, *«зерне цішыні»* і інш.). Барадулін-паэт не любіць, карыстаючыся тэрмінам Ф.Буслаева, «распранутых слоў».



Такім чынам, актывізацыя генітыўнай метафары ў паэзіі Рыгора Барадуліна стварае ўражанне натуральнасці і самабытнасці паэтычнага пачуцця, абумоўлівае характарнасць і экспрэсіўнасць вобразнасці. Метафара – працэс семантычна-знакавы, у пэўнай ступені і нацыянальна-генетычны феномен. Генітыўная метафара як рытарычная фігура выконвае ролю т.зв. «праяўляльніка» кантэксту; гэта сумарны выхад семантычнай сувязі двух складнікаў аднаго цэласнага выразу. Індывідуальнасць творчага почырку (і барадулінскага, і спадчынна купалаўскага) – у стварэнні аўтарскіх неалагізмаў, якія ў мастацкім кантэксце выступаюць як своеасаблівыя «згорнутыя» генітыўныя метафары.

Такім чынам, Р.Барадулін ашчадна стварае свой паэтычны слоўнікавы актыў. Як бачна, адзнакі эмацыянальнай экспрэсіўнасці слова, пашыранай таўталогіі, нязмушанага наватворства, густой каларытнай метафорыкі – у стыхіі народнай творчасці. Прыклад барадулінскай метафарычна насычанай паэзіі люструе невычэрпнасць вобразных патэнцый беларускай мовы. Да месца выглядае ў дадзеным выпадку думка вядомага знаўцы эстэтыкі славеснай творчасці М.Бахціна: «Толькі ў паэзіі мова раскрывае ўсе свае магчымасці, бо патрабаванні да яе тут максімальныя:.. паэзія быццам выціскае ўсе сокі з мовы, і мова перавышае тут саму сябе» [5, с. 65]. Самабытны талент Барадуліна ведае цвёрдую цану крывіцкаму наскаму слову, з паганскай багавейлівасцю вяртае яму спаконвечнае. Таму ювелірнае майстэрства метафарычнага бачання і люстравання свету ёсць барадулінская медытацыя непасрэдна-перажытага і пражытага, або, як сказаў бы сам паэт, не абцяжараны законамі мастацкага выкарыстання генітыўнай метафары, сказаў бы шчыра і вячыста: *«асацыяцый караваны па ўсіх радках накіраваны»*, адкуль *«расток радка, галінка верша»*.

*Спіс літаратуры*


1. Семашкевіч, Р. Выпрабаванне любоўю: эсэ, артыкулы / Р.Семашкевіч. – Мінск: Маст. літ., 1982. – 206 с.

2. Някляеў, У. Нават вецер гнёзды ўе // Барадулін, Р.І. Руны Перуновы: выбр. творы / Р.Барадулін; уклад. А.Камоцкі, У.Сіўчыкаў; прадм. У.Някляева. – Мінск: Радыёла-плюс, 2006. – 496 с.

3. Аристотель. Об искусстве поэзии / Аристотель; пер. с древнегреч. В.Г.Аппельрота; ред. пер. и с коммент. Ф.А.Петровского. – М.: Гослитиздат, 1957. – 182 с.

4. Барадулін, Р. Выбраныя творы / Р.Барадулін; уклад., прадм., камент. М.Скоблы. – Мінск: Кнігазбор, 2008. – 600 с.

5. Бахтин, М.М. Проблема содержания, материала и формы в словесном художественном творчестве // Бахтин, М.М. Литературно-критические статьи / М.М.Бахтин; сост. С.Бочаров и В.Кожинов. – М.: Худож. лит., 1986. – С. 26 – 89.

6. Теория метафоры: сборник / пер. с англ., фр., нем.. исп.. польск. яз.; вступ ст. и сост. Н.Д.Арутюновой; общ. ред. Н.Д.Арутюновой и М.А.Журинской. – М.: Прогресс, 1990. – 512 с.

УДК 811.161.3

**А.С. Садоўская** (Гродна)

# З'ЯВА СІНАНІМІІ Ў ЭКАНАМІЧНАЙ І ВАЕННАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

З'ява сінаніміі з'яўляецца актуальнай на сённяшні дзень як у сферы агульнаўжывальнай лексікі, так і ў сферы тэрміналогіі. Нягледзячы на тое, што існуюць шматлікія даследаванні такіх пытанняў, як «азначэнне сіноніма, прынцыпы класіфікацыі сінонімаў, будова сінанімічных радоў, выбар дамінанты, крыніцы ўзнікнення сінонімаў, функцыянальна-стылістычная роля іх у мове і інш., ні ў айчынным, ні ў зарубежным мовазнаўстве гэтыя даследаванні не прывялі да стварэння колькі-небудзь адзінай тэорыі сінонімаў» [1, с.236], таму паняцце «сіноніма і сінаніміі застаецца адным з найбольш складаных і найменш распрацаваных паняццяў сучаснай семантыкі» [1, с. 236]. Нават пры тлумачэнні сінонімаў іншы раз пад увагу бяруцца розныя бакі гэтай з'явы, што прыводзіць да неаднолькавага азначэння гэтага паняцця: «сінонімы – словы, якія абазначаюць адно і тое ж паняцце, значыць, тоесныя ці гранічна блізкія значэннем» [2,]; «словы, тоесныя або блізкія па значэнні, але розныя па гучанні» [1, с.236]; «словы з аднолькавым ці блізкім значэннем, але з розным гучаннем» [3, с.3]; «словы, якія абазначаюць адно паняцце, але адрозніваюцца адценнямі значэння або стылістычнай афарбоўкай» [4, с.23]. Тое, што сінаніміка беларускай мовы на сённяшні дзень застаецца маладаследаванай, сведчыць і той факт, што да гэтага часу не існуе поўнага слоўніка сінонімаў беларускай мовы. Выдадзены ў 1976 годзе «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М.К. Клышкі змяшчае толькі каля 1900 сінанімічных радоў і мае патрэбу ва ўдасканаленні і перапрацоўцы.

На агульнамоўным узроўні багацце сінонімаў – паказчык яе развітасці, выразнасці, здольнасці перадаваць найтанчэйшыя рухі і думкі, выяўляць самыя складаныя адценні паняццяў. Чым большая колькасць сінонімаў, тым багацейшая мова. Наяўнасць багатай сінаніміі дапамагае пазбегнуць паўтораў, аднастайнасці лексікі, дае магчымасць зрабіць мову дакладнай, вобразнай і разнастайнай.

На ўзроўні тэрміналагічнай лексікі з'ява сінаніміі таксама існуе, але яна характарызуецца сваімі спецыфічнымі асаблівасцямі, як і ўся тэрміналогія. Увогуле тэрміны як элементы моўнай сістэмы, хоць і падпарадкоўваюцца яе законам і асаблівасцям, але ўсё ж такі выяўляюць адметныя рысы ў параўнанні з агульнаўжывальнымі словамі. Гэта адрозненні ў характары паняційнага зместу (тэрміны, як правіла, абазначаюць тэрміналагічнае паняцце, а агульнаўжывальныя словы – лагічнае паняцце), у стылявой характарыстыцы (тэрміны пераважна ўжываюцца ў навуковым стылі), часцінамоўнай прыналежнасці (у якасці слоў-тэрмінаў выкарыстоўваюцца пераважна назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы, прыслоўі), у спосабах тэрмінаўтварэння (самым прадуктыўным спосабам утварэння тэрмінаў з'яўляецца сінтаксічны). Па-іншаму разглядаюцца ў тэрміналогіі і семантычныя з'явы, да якіх і адносіцца сінанімія. Аналіз з'яў семантычнага накірунку у працах айчынных і замежных мовазнаўцаў даволі разнастайны, супярэчлівы і складаны. Часцей за ўсё дыскусіі звязаны з агульнай станоўчай або адмоўнай ацэнкай мнагазначнасці, сінаніміі і аманіміі.

Большасць даследчыкаў прытрымліваецца думкі, што ідэальны тэрмін не павінен мець сінонімаў. Але ў кожнай тэрміналагічнай сістэме можна рэальна адзначыць факт існавання некалькіх тэрмінаў для абазначэння аднаго ж і таго паняцця.

Сінанімія ў эканамічнай і ваеннай тэрміналогіі назіраецца ўжо ў 20-ыя гады XX ст., калі разгарнулася інтэнсіўная распрацоўка і ўпарадкаванне беларускай нацыянальнай тэрміналогіі. Гэта быў заканамерны працэс. Пачатковы этап фарміравання беларускай навуковай тэрміналогіі характарызаваўся тым, што адбываўся адбор лепшых лексічных сродкаў і адсюль ужыванне сінанімічных і варыянтных назваў. Пра гэта сведчаць выдадзеныя камісіяй Інстытута беларускай культуры 24 выпускі (зборнікі) па розных галінах навукі, у якіх фіксуюцца такія сінанімічныя адзінкі: *нядоімка, недабор; нястача, недахватка; недалік, недалічка; пералічэньне, пералік; падрахунак, падлік; пастаўка, дастаўка; таргоўля, гандаль; выдатак, расход; разрахунак, разьлічка; даведка, спраўка; фундавальны доўг, забясьпечаны доўг; барыш, прыбытак; гарантыя, забясьпека; імпарт, увоз; крамніна, мануфактура; баяр, ваяр, баец; хаўруснік, саюзнік; вычын, подзвіг; параза, паражэнне; віж, разведка; віжаваць, сачыць.*

На сённяшні дзень семантычныя з'явы ў тэрміналогіі (мнагазначнасць, аманімія, сінанімія) кваліфікуюцца як непажаданыя, непатрэбныя, бо яны могуць садзейнічаць тэрміналагічнай блытаніне. Для тэрміналогіі павінна быць характэрна «ўзаемаадназначная адпаведнасць паміж тэрмінам і паняццем» [5, с.25]. Тым не менш, аналіз тэрміналагічных сістэм на сённяшнім этапе іх развіцця дае

падставы сцвярджаць, што з’ява полінайменнасці і варыянтнасці мае месца і з’яўляецца не такой ужо і рэдкай. Праўда, на сучасны момант у мовазнаўцаў няма адзінай думкі наконт сінаніміі ў тэрміналогіі. Частка з іх лічыць мэтазгодным выдзяляць у тэрміналогіі адносныя і абсалютныя сінонімы (Д.С. Лотэ, В.П. Даніленка, Б.М. Галавін і інш.). У адносных сінонімах значэнне супадае толькі часткова, у абсалютных поўнасцю. Гэта дае падставы называць абсалютныя сінонімы дублетамі. Ёсць і такая думка, што тэрміны-сінонімы не існуюць, а тое, што лічыцца сінонімамі ў тэрміналогіі, уяўляе сабой дублетнасць. Акрамя гэтага, у тэрміналогіі сустракаюцца і варыянты аднаго ж і таго тэрміна.

Па меры таго, як нацыянальная тэрміналогія развівалася і ўдасканальвалася, многія сінанімічныя рады скарачаліся, і ў выніку заставалася адна, найбольш ужывальная назва. Але, нягледзячы на гэта, поўнасцю знікнуць у тэрміналогіі сінонімы не могуць.

Эканамічная і ваенная тэрміналогія характарызуецца тым, што для абазначэння аднаго ж і таго паняцця выкарыстоўваюцца такія тыпы тэрміналагічных адзінак:

1) дзве і больш спрадвечнабеларускія лексемы: *перакупшчык – гандляр; бязвыплатна – дарма; уладальнік – уласнік; высокадаходны – высокапрыбытковы; дагавор – дамова; дагаворанасць – дамоўленасць, доказ – довад; маёмасць – уласнасць; заклад – залог; абарачальнасць – зваротнасць; здача – рэшта; угода – здзелка; расход – выдатак; стрэльба – ружжо; дабраволец – добраахвотнік; барацьба – змаганне.*

2) спрадвечнабеларуская і запазычаная назва: *абарачальнасць – канверсавальнасць; авуары – маёмасць; адміністрацыя – кіраўніцтва; імпарт – увоз; ліцэнзія – дазвол; гарантыя – парука; аванс – задатак; маркетынгавая лагістыка – рух тавараў; фонд акумуляцыі – фонд накаплення; бартэрны – тавараабменны; кавалерыя – конніца; траншэя – роў; агрэсар – захопнік; анархія – безуладдзе.*

3) дзве назвы іншамоўнага паходжання: *фундатар – спонсар; кантралёр – рэвізор; вэксалядаўца – трасант; дэпанент – дэпазітар; індасамент – жыра; універсам – супермаркет; генералітэт – генералы.*

4) поўны тэрмін і скарочаны (у апошні час шматслоўныя і доўгія намінацыі выцясняюцца больш кароткімі, у выніку чаго можна гаварыць аб такім тыпе сінанімічнай адпаведнасці, як «поўная форма тэрміна – кароткая форма тэрміна»): *галоўбух – галоўны бухгалтар; дзяржфонд – дзяржаўны фонд; рухомасць – рухомая маёмасць; зарплата – заработная плата; сабес – сацыяльнае забеспячэнне; гасразлік – гаспадарчы разлік; боегатоўнасць – баявая гатоўнасць; лінкор – лінейны карабель; дысбат – дысцыплінарны батальён.*



Фіксуецца сярод эканамічных і ваенных тэрмінаў і з’ява варыянтнасці. У тэрміналогіі «варыянтнымі з’яўляюцца разнавіднасці таго ж самага тэрміна, якія адрозніваюцца паміж сабой фанетычнымі і словаўтваральнымі элементамі ці сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць ніякіх семантычных адценняў і поўнасцю супадаюць сваім значэннем» [5, с.27].

Асабліва пашыраны сярод эканамічных і ваенных тэрмінаў словаўтваральныя варыянты: *кірмашовы – кірмашны; кірмашовец – кірмашоўца; хабарадавальнік – хабарадаўца; заканадавец – заканадаўца; наведвальнік – наведнік; прадпрыемец – прадпрымальнік; вайсковец – вайскоўца; службовец – службоўца.* Радзей сустракаюцца марфалагічныя, арфаграфічныя і фанетычныя варыянты: *астатак – астача, плацеж – плата; купля – куплянне;順планшэт – планшэтка; заваёва – заваёўванне; бізнесмен – бізнэсмэн; ваўчэр – ваўчар; лакаўт – лакаут; ільготны – льготны.*

Такім чынам, распаўсюджанасць сінонімаў на агульнамоўным узроўні, безумоўна, аказвае уплыў і на іх дастаткова частае ўжыванне і выкарыстанне ў тэрміналогіі, хоць існаванне гэтай з’явы лічыцца парушэннем галоўнага патрабавання да тэрміна – адсутнасці полінайменнасці і варыянтнасці.

Адзначаючы прычыны існавання сінонімаў ў тэрміналогіі (а менавіта нераспрацаванасць многіх тэрмінасістэм, абмежаванасць ужывання беларускамоўных тэрмінаў), многія лічаць правільным разглядаць гэтую з’яву як непажаданую, празмерную. Існаванне сінаніміі з’яўляецца сведчаннем адыходу ад асноўных патрабаванняў, прад’яўляемых да тэрміна як носьбіта спецыяльнага значэння. Але не лічыцца з фактам існавання сінонімаў сярод тэрмінаў на сённяшні дзень пакуль што няма ніякіх падстаў.

*Спіс літаратуры*


1. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. А.Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – 463 с.
2. Словарь синонимов / под ред. А.П. Евгеньева. – Ленинград, 1976. – 585 с.
3. Клышка, М.К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў / М.К. Клышка . – Мінск: Вышэйшая школа, 1976. – 592 с.
4. Сучасная беларуская літаратурная мова. Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія / М.Ц. Кавалёва [і інш.]. – Мінск: Вышэйшая школа, 1984. – 190 с.
5. Красней, В.П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі / В.П. Красней // Веснік БДУ. Серыя 4. – 1995. – № 1. – С.25 – 27.

УДК 811.161.3

**С.Б. Сачанка** (Мінск)

## АБНАЎЛЕННЕ СУЧАСНЫХ ЛІТАРАТУРНЫХ НОРМ

У абнаўленні сучасных літаратурных норм вызначыліся дзве лінгвістычныя канцэпцыі: а) рэфарматарская – з пурыстычнай тэндэнцыяй у дачыненні рускага ўплыву, імкненнем адмовіцца ад жорсткай нармалізацыі літаратурнай мовы, дазволіць канкурэнцыю альтэрнатыўных элементаў; б) традыцыяналісцкая, якая імкнецца захаваць распрацаваныя і замацаваныя ў савецкі час літаратурныя нормы. Сучасныя лінгвісты лічаць мэтазгодным у цяперашняй моўнай сітуацыі пры вызначэнні норм зыходзіць з апрабіраваных граматыкамі, слоўнікамі фактаў і са з'яў жывога пісьмовага і вуснага маўлення [1, с. 53]. Рэфарматарскую плынь нарадзіла ў грамадстве ў 1980-я гг. меркаванне, быццам у папярэднія дзесяцігоддзі беларускую мову свядома, па палітычных матывах, набліжалі да рускай. Рэфарматары імкнуліся абнавіць мову паводле норм, якія існавалі ў 1920-я гг., да рэформы 1933 г. У сярэдзіне 1980-х гг. дарэформенным правапісам друкавалі асобныя матэрыялы часопісы «Роднае слова», «Бярозка», «Спадчына» [1, с. 52–53]. Пры выкарыстанні дарэформеннага правапісу ў часопісе «Роднае слова» № 7–9 за 1992 г. дапускаліся памылкі ў абазначэнні асіміляцыйнай мяккасці; іх прычыны – малая псіхалагічная абгрунтаванасць, адсутнасць функцыянальнай нагрузкі (праціпастаўленне цвёрдым у становішчы перад мяккімі зычнымі не выконвала сэнсаадрознівальнай ролі) і стракатасць карціны па гаворках [2, с. 74]. З захаваннем асаблівасцей дарэформеннага правапісу выдавалася вернутая ў навуковы і культурны ўжытак «забароненая» навуковая, мастацкая літаратура 1920-х гг. На радыё вяліся перадачы, якія адлюстроўвалі літаратурнае вымаўленне 1920-х – пачатку 1930-х гг. Пачалі суіснаваць два варыянты правапісных і граматычных норм, або два варыянты літаратурнай мовы. «Радыкальная», «рэфарматарская» плынь (тэрміналогія Германа Бідэра) аднавіла ўзоры моўнай дзейнасці 1920-х гг. у правапісе, арфаэпіі, граматыцы, словаўтварэнні, словаўжыванні. «Рэфарматары» лічылі: наступствы русіфікатарскай палітыкі 1930–1980-х гг., часу ўкладання «безаблічных фіксатарскіх слоўнікаў», павінны змяншацца праз зварот да дыялектных, фальклорных крыніц. У правапісе, у граматыцы неабходна прытрымлівацца правілаў «Беларускай граматыкі для школ» Браніслава Тарашкевіча [1, с. 52–53; 3, с. 98]. Неабходнасць удакладнення стандартаў літаратурнай мовы абумоўлена пераглядам установак беларускай савецкай школы моўнай нармалізацыі ў палітычнай сітуацыі 1990-х гг. [4, с. 1]. Рэформа правапісу 1933 г. дала набыткаў менш, чым прынесла страт, беларуская мова ў выніку рэформы значна страціла нацыянальную самабытнасць і супраціўляльнасць да асіміляцыі [5, с. 148]. У выніку правядзення рэформы ў практычную беларускую граматыку і ў правапіс былі ўнесены «шкодныя змены» [6, с. 4]. Беларуская мова наблізілася да рускай і страціла «магчымасць супраціўляцца асіміляцыі з боку апошняй» [7, с. 15]. Пераадоленне «штучнага» бар'еру паміж беларускай і рускай мовамі было мэтай правядзення рэформы 1933 г. Аднак польскі ўплыў на літаратурную беларускую мову нязначны, ёсць мясцовасці, у якіх ён не выяўлены [6, с. 5]. Рэформа беларускага правапісу 1933 г. праводзілася для «ачышчэння літаратурнай мовы ад «нацдэмізмаў»« – архаізмаў і правінцыялізмаў [8, с. 132–136]. Але новая беларуская мова не захавала традыцый старабеларускай мовы, а неалагізмы ў беларускай мове, як у любой іншай, натуральныя; наватворы не маюць нічога супольнага са зменай граматыкі і правапісу [6, с. 5–6]. Пасля рэформы як дабравольныя запазычанні ў беларускую мову ўводзілася руская лексіка і беларуская мова насычалася фразеалагічнымі, сінтаксічнымі асаблівасцямі рускай мовы. Рускіх фанетычных і марфалагічных асаблівасцей у беларускую мову было ўведзена каля 30 [9, с. 169]. Змененыя ў выніку рэформы 1933 г. прынцыпы правапісу прывялі да скажэння беларускага вымаўлення [9, с. 165]. Была праведзена змена і правапісу, і граматыкі беларускай мовы. Усе змены 1933 г. наблізілі граматычныя асаблівасці беларускай мовы да граматычных асаблівасцей рускай мовы [6, с. 10, 16]. Пастанова 1933 г. змяніла іерархію ўжывання граматычных форм паўназначных зменных часцін мовы, прывяла да шырэйшага выкарыстання некаторых форм, выцяснення асобных форм з ужытку як дыялектных або архаічных. Рэформа 1933 г. узаконіла бытаванне ў беларускай мове дзеепрыметнікаў незалежнага стану, якія да правядзення рэформы ўжываліся ў літаратурнай мове абмежавана [10, с. 153–155]. «Рэфарматары» патрабуюць выпрацоўкі кампрамісных прынцыпаў правапісу з улікам класічных норм беларускай мовы [9, с. 12]. У 2-й палове 1980-х – 1990-я гг. ідэя рэфармавання беларускай літаратурнай мовы зводзілася да замены варыянта мовы, які склаўся ў даваенныя савецкія 1930-я гг. (пасля рэформы правапісу 1933 г.) і пасля вайны на аднаўленчым этапе, яе варыянтам 1920-х гг. і ранейшым. У стане 1920-х гг. беларуская літаратурная мова з яе паўднёва-заходняй, «віленскай», дыялектнай асновай захавалася ў прадстаўнікоў беларускай эміграцыі [3, с. 98].

«Традыцыяналісцкая», «кансерватыўная» плынь абараняе нормы, што скلаліся ў моўнай практыцы савецкага часу. Сучасныя літаратурныя нормы патрабуюць быццам бы не радыкальнага перагляду, а ўдакладнення. Прадстаўнікі плыні лічаць тэндэнцыю да замены агульных з рускай мовай слоў дыялектнай лексікай, штучнымі наватворамі, словамі польскага паходжання, і распаўсюджванне граматычнай варыянтнасці, арыентацыю на нормы 1920-х гг. як дэструктыўныя працэсы ў беларускім літаратурным словаўжыванні [1, с. 53]. Але мове нельга штосьці навязаць, калі гэта будзе супярэчыць мілагучнасці маўлення, традыцыйнасці, граматычнаму густу [11, с. 219]. Некаторыя даследчыкі не асуджалі вынікаў рэформы беларускага правапісу 1933 г., прапаноўвалі ўлічваць той факт, што на «пarэформеннай» мове выхаваны тры пакаленні беларусаў і таму патрэбна не вяртанне да ранейшых, «дарэформенных», арфаграфічных, граматычных норм, а ўдасканальванне распрацаваных норм. Удакладнены ў 1933 г. правапіс, маўляў, садзейнічаў стабілізацыі літаратурна-пісьмовых норм беларускай літаратурнай мовы [5, с. 148, 153]. Такім чынам, дзве ўказаныя процілеглыя пазіцыі выяўлены ў ацэнцы мінулых мовазнаўчых набыткаў: 1) «рэфарматары» – празмерная «інтэрнацыяналізацыя», пераважна за кошт рускай мовы, разбурае мову, замацоўвае русіфікатарскія тэндэнцыі; 2) «традыцыяналісты» – неабходна ўдасканальваць нацыянальную моўную практыку, «рэфарматары» паланізуюць мову сваёй моватворчасцю [12, с. 141]. Быццам бы носьбіты іншых беларускіх дыялектаў павінны быць незадаволены тым, што ў аснову літаратурнай мовы кладзецца адзін дыялект, і адсутнасцю дасягальнай за кошт марфалагічнага прынцыпу тыпізацыі ў правапісе; многія асаблівасці правапісу Браніслава Тарашкевіча, маўляў, захоўваюць уплыў польскай традыцыі [13, с. 54]. Наяўнасць дзвюх указаных мовазнаўчых плыней у 2-й палове 1980-х і ў 1990-я гг. не паспрыяла вырашэнню важных агульнанацыянальных задач [1, с. 53]. Аднак у нядаўнім часе зрабілася модным уводзіць у друкаванае слова «альтэрнатыўныя» формы правапісу, граматыкі, словаўжывання [14, с. 136]. Выкладзем аб'ектыўны пункт гледжання на абнаўленне сучасных літаратурных норм. У пачатку XXI ст. у беларускай мове ў гістарычнай сітуацыі, якая склалася ў Беларусі праз дзесяцігоддзі пасля рэформы 1933 г., суіснуюць дзве правапісныя і вымаўленчыя традыцыі [15, с. 25]. Характэрны два правапісы: 1) класічны, «тарашкевіца»; 2) рэфармаваны, «наркамаўка». З навуковага і юрыдычнага пункту гледжання «тарашкевіца» не парушае агульнапрынятых норм беларускай мовы [9, с. 197]. Суіснаванне двух правапісных і нават моўных варыянтаў у межах соцыуму выяўляецца тады, калі народы (носьбіты мовы) зведваюць вонкавую экспансію. Рэформа 1933 г. паклала пачатак суіснаванню двух правапісных стандартаў, пачала рэвізію нормы на ўсіх моўных узроўнях: арфаграфічным, арфаэпічным, марфалагічным, лексічным і сінтаксічным. Названая рэформа не вырашыла актуальных праблем арфаграфіі, не спрасціла правапіс, у шэрагу выпадкаў ускладніла яго (ужыванне *у* нескладовага, адлюстраванне мяккасці зычных і інш.). Арфаграфічная дваістасць павінна ліквідавацца ў выніку пошуку кампрамісу: прыхільнікі класічнага правапісу ў Беларусі адмовіліся ад захавання «окання» ў запазычаннях, «правіла другога складу», прынялі прынцыпы правапісу складаных слоў 1959 г. [16, с. 13–14]. Пасля 1957 г. мовазнаўчая навука ў БССР часта ігнаравала практычныя праблемы беларускай мовы – прапанаваны ўрадам «курс на зліццё моў» не прадугледжваў удасканальвання, развіцця беларускай мовы [16, с. 17]. Такім чынам, неабходнасць абнаўлення сучасных літаратурных норм абумоўлена тым, што ў 2-й палове XX ст. за кароткі адрэзак часу беларуская мова зведала розныя ўплывы і тэндэнцыі. Гэта адбілася на характары і напрамку моўных працэсаў, на іх грамадскай ацэнцы. Пад уздзеяннем нелінгвістычных фактараў узнікаюць дыяметральна процілеглыя ацэнкі аб'ектыўных моўных фактаў, выказваюцца розныя погляды на літаратурную норму [17, с. 261–262]. На працягу 1930–1980-х гг. у беларускай лінгвістыцы панавала разуменне нормы як забароны [1, с. 51]. У канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг., да рэферэндуму 1995 г., палітычная сітуацыя ў Беларусі змянілася: Беларусь стала незалежнай, суверэннай дзяржавай, беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Пашырылася сфера выкарыстання беларускай мовы, адбылося павелічэнне кола носьбітаў літаратурнай мовы, пачаўся перагляд арыенціраў моўнага развіцця. Праблемы беларускай арфаграфіі ў акрэслены перыяд зноў актуалізаваліся [5, с. 153]. У пачатку 1990-х гг. працэс нацыянальнай ідэнтыфікацыі, выспявання нацыянальнай тоеснасці паскорыўся. Перыяд уздыму нацыянальнага адраджэння быў кароткім, вынікі рэферэндуму 1995 г. заканадаўча замацавалі змену сацыяльна-палітычнага курсу ўлады [18, с. 32]. Тады, у пачатку 1990-х гг., навукоўцы акрэслілі шэраг праблем сучаснага беларускага правапісу, выказалі прапановы па далейшым яго развіцці, удасканаленні: 1) лічыць прагрэсіўнай тэндэнцыю да пашырэння асіміляцыі па аканні (менш – па яканні) на беларускую лексіку, частку слоў іншамоўнага паходжання, прадугледзець варыянтнасць старога і новага напісанняў, будучыя змены фіксаваць у дапоўненых перавыданнях слоўнікаў; 2) увесці абазначэнне пазіцыйнай мяккасці

зычных у спалучэннях знакамі ‘ і *ь;* 3) удасканальваць беларускую арфаэпію, якой паслядоўней апісваліся б моўныя асаблівасці, не ахопленыя правіламі арфаграфіі [1, с. 53–54]. Неабходна прытрымліваца міжнародных стандартаў правапісу іншамоўнай лексікі, асабліва імён, назваў, аднак трэба ўводзіць дадатковыя транскрыпцыйныя напісанні ў сістэме слоўнікавай, энцыклапедычнай, іншай даведачнай літаратуры [13, с. 28]. Незалежна ад напрамку рэфармавання беларускай мовы важна займацца ачышчэннем беларускай лексікі ад русізмаў, асцярожна ставіцца да паланізмаў [7, с. 31]. Арыентацыя ў абнаўленні сучасных літаратурных норм вызначаецца ўплывам суседніх моў, найперш рускай. *У савецкай Беларусі* пасля рэформы беларускага правапісу 1933 г., у 1930–1950-я гг., фарміраванне кніжных стыляў і слоўніка беларускай літаратурнай мовы адбывалася пад уплывам рускай мовы. Выявілася «тэндэнцыя да творчага ўзаемадзеяння беларускай і рускай моў» – як выраўноўванне на ўзор рускай мовы арфаграфічных, граматычных, словаўтваральных норм, запазычванне або структурнае, семантычнае калькаванне слоў ці сінтаксічных канструкцый з афіцыйнага рускага «новояза». Рускі моўны ўплыў закрануў усе ўзроўні моўнай сістэмы: лексіку, словаўтварэнне, граматыку. У нарматыўных руска-беларускіх слоўніках, выдадзеных пасля рэформы 1933 г. (у 1937 г. і ў 1953 г.), у рэестравай перакладной частцы на першым месцы прыводзілася транслітараванае слова, тоеснае з рускім. Яму надаваўся статус больш пашыранага, спецыфічна беларускае слова адсоўвалася на другі план, пераводзілася ў пасіўны запас, гэта было абгрунтавана ідэалагічна [1, с. 46–48]. *У асяроддзі беларускай эміграцыі на Захадзе* панаваў дыяметральна іншы падыход: эміграцыйныя мовазнаўцы, пісьменнікі арыентаваліся на жывую народную мову, гаворкі, насычалі мову сваіх твораў правінцыялізмамі, архаізмамі [9, с. 12, 165]. У мове некаторых выданняў беларускай эміграцыі (выдання перакладу на беларускую мову Біблії) дыялектызмы прысутнічаюць на ўсіх моўных узроўнях; найбольшай колькасцю дыялектызмаў характарызуюцца марфалогія (што выяўлена ў склонавых канчатках дзеясловаў) і лексіка. У перакладзе Біблії Яна Станкевіча ўжыта шмат дыялектызмаў, што звязана з пошукавай дзейнасцю перакладчыка ў моўнай сферы [19, с. 220].

*Спіс літаратуры*

1. Сямешка, Л.І. Сацыялінгвістычныя аспекты функцыянавання беларускай літаратурнай мовы ў другой палове ХХ ст. / Л.І. Сямешка // Беларуская мова. – Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej; red. nauk. Aljaksandr Lukašaniec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole, 1998. – S. 25 – 54.

2. Падлужны, А.І. Мякка ці цвёрда? / А.І. Падлужны // Беларуская лінгвістыка. – 1994. – Вып. 43. – С. 72 – 75.

3. Крывіцкі, А.А. Гаворкі беларускай мовы, пасляваенная моўная сітуацыя і дынаміка маўлення ў Беларусі / А.А. Крывіцкі // Беларуская мова. – Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej; red. nauk. Aljaksandr Lukašaniec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole, 1998. – S. 55 – 104.

4. Бушлякоў, Ю.С. Моватворчая практыка Янкі Станкевіча: (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы): аўтарэф. дыс. …канд. філал. навук: 10.02.01 / Ю.С. Бушлякоў; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2003. – 20 с.

5. Сямешка, Л.І. Кадыфікацыя арфаграфічных норм / Л.І. Сямешка // Беларуская мова. – Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej; red. nauk. Aljaksandr Lukašaniec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole, 1998. – S. 148 – 154.

6. Станкевіч, Я. Зьмена граматыкі беларускага языка ў БСРР / Я. Станкевіч. – Вільня: Выд. аўтара, 1936. – 16 с.

7. Лыч, Л.М. Рэформа беларускага правапісу 1933 года: ідэалагічны аспект / Л.М. Лыч. – Мінск: Б-чка газ. «Наша слова», 1993. – 39 с.

8. Колас, Якуб. Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову / Якуб Колас. Зб. тв. У 14 т. – Мінск, 1972 – 1978. – Т. 12: Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, 1917 – 1946. – 1976. – С. 132 – 136.

9. Баршчэўская, Н. Беларуская эміграцыя – абаронца роднае мовы / Н. Баршчэўская. – Варшава: Un-t Warszawski, 2004. – 368 с.

10. Запрудскі, С.М. Што змянілася ў марфалогіі беларускай мовы пасля рэформы 1933 г.? (На матэрыяле іменных часцін мовы і займеннікаў) / С.М. Запрудскі // Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: матэрыялы міжнар. навук. канф., Мінск, 24 – 25 кастрычніка 2006 г. / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі; навук. рэд. А.А. Лукашанец. – Мінск, 2006. – С. 153 – 155.

11. Рамза, Т.Р. Сінтаксіс / Т.Р. Рамза // Беларуская мова / Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej; red. nauk. Aljaksandr Lukašaniec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole, 1998. – S. 206 – 222.

12. Выгонная, Л.Ц. Беларускае літаратурнае вымаўленне / Л.Ц. Выгонная // Беларуская мова / Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej; red. nauk. Aljaksandr Lukašaniec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole, 1998. – S. 105 – 147.

13. Яскевіч, А.С. Сумежжа: Мова. Пераклад. Вытокі прозы / А.С. Яскевіч. – Мінск: Маст. літ., 1994. – 253 с.

14. Іўчанкаў, В.І. У вечным пошуку свайго правапісу / В.І. Іўчанкаў // Крыніца. – 2002. – № 9 – 10. – С. 133 – 139.

15. Прыгодзіч, М.Р. Пытанні норм беларускай мовы ў працах замежных лінгвістаў // Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: матэрыялы міжнар. навук. канф., Мінск, 24 – 25 кастрычніка 2006 г. / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі; навук. рэд. А.А. Лукашанец. – Мінск, 2006. – С. 22 – 28.

16. Беларускі клясычны правапіс: збор правілаў. Сучасная нармалізацыя / З. Санько, В. Вячорка [і інш.]. – Вільня; Менск, 2005. – 159 с.

17. Лукашанец, А.А. Словаўтварэнне / А.А. Лукашанец // Беларуская мова / Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej; red. nauk. Aljaksandr Lukašaniec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole, 1998. – S. 155 – 190.
18. Лабачэўская, В.А. Мова і самасвядомасць у асяроддзі гуманітарнай інтэлігенцыі Беларусі ў 1990-я гг.: некаторыя назіранні і падсумоўванні / В.А. Лабачэўская // Język i tożsamość na pograniczu kultur; pod red. Elżbiety Smułkowej i Anny Engelking. – Białystok, 2000. – S. 32 – 37.
19. Фурс, В.У. Дыялектныя асаблівасці ў мове сучасных беларускіх перакладаў Евангелля паводле Мацвея / В.У. Фурс // Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 15 – 16 красавіка 2008 г. / Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі; навук. рэд. Л.П. Кунцэвіч, Н.В. Паляшчук. – Мінск, 2008. – С. 216 – 220.

УДК 811.161.3+811.112

**А.А.Сідарчук** (Гродна)

## СРОДКІ ВЫРАЖЭННЯ АЦЭНАЧНЫХ НАЙМЕННЯЎ АСОБЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ І НЯМЕЦКАЙ МОВАХ

Чалавек узаемадзейнічае з аб'ектамі і з'явамі навакольнага асяроддзя, якія выклікаюць пэўныя эмоцыі, рэакцыі, ацэнкі. Вынікі ацэначнай дзейнасці знаходзяць сваё адлюстраванне ў мове. Корпус ацэначных сродкаў у беларускай і нямецкай мовах вялікі і разнастайны, бо ацэнка асобы, прадметаў, якасцей, падзеяў і іншага, якая здзяйсняецца суб'ектам, суправаджае працэс пазнання, пранікае ва ўсе моўныя слаі і рэпрэзентуецца сродкамі амаль усіх моўных узроўняў.

Ацэначныя найменні асобы складаюць своеасаблівую сістэму моўных адзінак у беларускай і ў нямецкай мовах. Яны выяўляюцца на марфемным, лексічным і фразеалагічным узроўнях. Тут ацэнка асобы ажыццяўляецца на падставе шэрагу прымет, якія апісваюць чалавека з самых розных бакоў. Гэтыя прыметы могуць характарызаваць чалавека, па-першае, як біялагічную істоту з пэўнымі фізічнымі і фізіялагічнымі асаблівасцямі, па-другое, як істоту, здольную перадаваць аб'ектыўную рэчаіснасць дзякуючы яе мысленчым здольнасцям і разуменням, па-трэцяе, як істоту, здатную не проста адлюстроўваць, а і пераўтвараць навакольнае асяроддзе і, па-чацвёртае, як сацыяльную істоту, г.зн. як суб'ект, які ўзаемадзейнічае з падобнымі да сябе і звязаны з імі рознымі адносінамі [1, с. 7].

Характарыстыка асобы, што выражаецца моўнымі сродкамі, – гэта ацэначнасць, пад якой разумеюцца адносіны моўніка да прадмета гаворкі, г.зн. закладзеная ў слове станоўчая ці адмоўная характарыстыка чалавека. На выбар пэўных сродкаў выражэння ацэнкі так ці іначай уплываюць усе элементы структуры акта ацэнкі: суб'ект ацэнкі, аб'ект ацэнкі, дзеянне ацэньвання і сама ацэнка.

Вялікая колькасць ацэначнай асабовай лексікі маркіравана праз спецыяльныя словаўтваральныя адзінкі. Суфіксы, якія ўваходзяць у словаўтваральную семантыку наймення, узмацняюць агульнае ацэначнае значэнне.

Самымі актыўнымі суфіксамі беларускай мовы, якія ўдзельнічаюць ва ўтварэнні ацэначных найменняў асобы, з'яўляюцца: ***-ік****: перадавік* 'той, хто дасягнуў найлепшых вынікаў у рабоце, паказвае ўзоры свядомых, добрасумленных адносін да працы', *ныцік* 'чалавек, які ўвесь час ные, на ўсё скардзіцца', *хлюпік* 'бязвольны, нікчэмны, маладушны чалавек'; ***-нік****: разумнік* 'разумны, разважлівы чалавек', *грымаснік* 'той, хто любіць рабіць грымасы', *бабнік* 'той, хто вельмі захапляецца жанчынамі'; ***-ун****: прыгажун* 'прыгожы чалавек', *балбатун* 'чалавек, які занадта многа гаворыць, пустаслоў і пляткар', *весялун* 'вясёлы чалавек, забаўнік'; ***-ак/-як****: слабак* 'слабасільны, слабавольны або слабанервовы чалавек', *здаравяка* 'чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы', *задавака* 'фанабэрысты, ганарысты чалавек, зазнайка'; ***-ач:*** *багач* 'чалавек, які валодае вялікім багаццем, багацей', барадач 'чалавек з барадой', *мантач* 'марнатравец, той, хто транжырыць свае грошы, маёмасць'.

У нямецкай мове ацэначныя найменні асобы ўтвараюцца пераважна пры дапамозе наступных суфіксаў: ***-er****: Kriecher → падхалім* 'нізкі, подлы лісліва, які запабягае перад кім-н., каб дамагчыся свайго', *Schleicher → падліза* 'той, хто падлізваецца да каго-н.', Zänker → задзіра 'завадатар сварак, баек, забіяка'; ***-ling****: Schreiberling → пісака* 'пра таго, хто дрэнна, няўмела піша', *Naivling → прасцяк* 'прастадушны, недалёкі чалавек', *Frechling → нахабнік* 'бессаромны, бесцырымонны чалавек'; ***-bold****: Neidbold → зайздроснік* 'зайздросны чалавек', *Ulkbold → жартаўнік* 'чалавек, які любіць жартаваць', *Trunkenbold → п'яніца* 'той, хто п'янствуе, алкаголік'.

Побач з суфіксамі вылучаюць таксама паўсуфіксы, якія фармальна і этымалагічна супадаюць з асновамі слоў, што свабодна функцыянуюць у мове. Найбольш частотныя з іх наступныя: ***-affe*** *(der Affe – малпа): Gähnaffe → разявака* 'той, хто бяздумна, рассеяна прыглядаецца да чаго-н.', *Grasaffe → малакасос* 'пра маладога чалавека, які не ведае жыцця, не можа яшчэ стала разважаць', *Zieraffe → франт* 'чалавек, які любіць модна апранацца, моднік'; ***-maul*** *(das Maul – морда): Lästermaul → паклёпнік* 'той, хто паклёпнічае на каго-, што-н.', *Leckermaul → ласун* 'той, хто любіць паласавацца', *Lügenmaul → ілгун* 'няпраўдзівы чалавек, выдумшчык'.

У абедзвюх мовах выкарыстоўваюцца і шматасноўныя словы: *дабрадзей* 'той, хто робіць дабро, дапамагае, аказвае паслугу каму-н.', *губашлёп* 'разява, расцяпа', *лежабок* 'чалавек, які любіць многа спаць, гультай', *дармаед* 'той, хто не працуе, а жыве на чужы кошт, лайдак, гультай', *сябелюб* 'сябелюбівы чалавек, эгаіст'; *Gaizhals* → *скнара* 'вельмі скупы чалавек', *Gamaschenheld* → *педант* 'той, хто залішне строгі ў выкананні ўсіх фармальных запатрабаванняў', *Heulpeter* → *плакса* 'той, хто многа і часта плача'. *Radaubruder* → *буян* 'той, хто схільны буяніць, скандаліст', *Freßsack* → *абжора* 'прагны да яды, пражэрлівы, ненасытны чалавек'.

Моўныя адзінкі лексічнага ўзроўню вызначаюцца тым, што сама ацэнка ўжо пакладзена ў семантычную структуру слова і можа ўваходзіць у дэнататыўны альбо канататыўны кампанент слова. У слоўніках выкарыстоўваюцца спецыяльныя паметы, якія перадаюць разнастайныя станоўчыя ці адмоўныя індывідуальныя прыметы і якасці чалавека: *жмінда* (пагард.) 'вельмі скупы чалавек, скнара', *аболтус* (лаянк.) 'дурань, гультай, нядбайнік', *балван* (зневаж.) 'дурань, невук'; *Kaffer* (вульг.) → *дурань* 'неразумны, тупы, абмежаваны чалавек', *Popel* (фам.) → *мурза* 'мурзаты, з запэцканым тварам, бруднымі рукамі', *Bösewicht* (жарт.) → *гарэза* 'свавольнік, дуронік, непаседа'.

На лексічным узроўні – гэта і тыя словы, што спалучаюць павышаную інфармацыйнасць і ўплывовую характарыстыку. Найбольш дакладна гэтым патрабаванням адпавядаюць так званыя сродкі паўторнай намінацыі, якім уласціва вобразнасць, экспрэсіўнасць і значны сэнсавы аб'ём.

Найбольш частотным экспрэсіўным сродкам, які служыць для ацэньвання, з'яўляецца метафара. У метафарах заключана не толькі вобразнае ўяўленне і інфармацыя пра ацэнку, але і выражэнне пэўных пачуццяў, адносінаў: *арол* 'пра смелага, гордага чалавека', *байбак* 'пра непаваротлівага, гультаяватага чалавека', *рыцар* 'самаадданы, высакародны чалавек'; *Pfeife* (свісток, дудка) → *няўклюда* 'той, хто мае нязграбную фігуру, пазбаўлены спрыту ў рухах', *Natter* → *гадзюка* 'пра небяспечнага, шкоднага чалавека', *Dackel* → *такса* 'пра неразумнага чалавека'.

Эфектыўным спосабам выражэння ацэнкі служыць фразеалагічны корпус абедзвюх моваў: *сляпое кацяня* 'чалавек, які не разбіраецца ў тым, што адбываецца ў наваколлі', *божы адуванчык* 'стары, нядужы чалавек', *стрэляны воўк* 'вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек', *вольны казак* 'свабодны, ні ад каго не залежны чалавек', *мокрая курыца* 'чалавек, які мае ўбогі, прыгнечаны выгляд'; *ein geriebener Bursche* → *прайдоха* 'пранырлівы, хітры чалавек', *ein fauler Sack* → *гультай* 'лянівы чалавек. лодар', *eine komische Marke* → *дзівак* 'чалавек з незвычайнымі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі; арыгінал', *ein gemeiner Hund* → *нягоднік* 'чалавек ганебных, несумленных паводзін; нізкі чалавек', *ein unnützer Esser* → *абуза* 'той, хто абцяжарвае каго-, што-н.'

Такім чынам, адзінкі ўсіх моўных узроўняў – гэта сістэмна арганізаванае мноства са сваім значэннем і функцыямі. Інварыянтны складнік гэтага мноства – агульная функцыя ацэначнасці.

*Спіс літаратуры*

1. Рындина, Н.В. Типология номинаций лица в современном английском языке: автореф. дис. …канд. фил. наук: 10.02.04 / Н.В. Рындина. – М., 2002. – 23 с.

2. Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. У 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993. – Т. 2.

3. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: больш за 65 000 слоў / НАН Беларусі. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; аўт: І.М. Бунчук, М.Н. Крыўко, З.М. Кудрэйка; пад рэд. М.Р. Судніка. – 4-е выд. – Мінск: БелЭн, 2005. – 783 с.

4. Langenscheidts Großwörterbuch Deutsch als Fremdsprache / Herausgeber: Professor Dr. Dieter Götz, Professor Dr. Günther Haensch, Professor Dr. Hans Wellmann. – neu bearb. Aufl.– Berlin und München: Langenscheidt Verlag, 2008. – 1307 s.

УДК 811.161.3

**Ж.С.Сіпліведа** (Гродна)

## ДА ПЫТАННЯ ПРА БЕЛАРУСКА-РУСКІЯ ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ ПАРАЛЕЛІ

Развіццё любой літаратурнай мовы, яе функцыянаванне ва ўсіх галінах грамадска-культурнага жыцця ў пэўнай ступені вызначаецца станам навуковай тэрміналогіі, бо менавіта яна з'яўляецца важным паказчыкам удасканалення мовы. Між тым, аснову тэрміналогіі беларускай і рускай моў (найперш спецыяльнай тэрміналогіі) складаюць іншамоўныя найменні, удзельная вага якіх на сучасным этапе досыць значная, бо істотна актывізуюцца працэсы пранікнення пазычанай лексікі. У апошнія дзесяцігоддзі «вакабуляр безбаязна паглынае ды перакшталтуе паводле ўласцівай мове марфалогіі ды фанетыкі чужыя слоўныя формы, асабліва тыя, што звязаны з прагрэсам у той ці іншай тэхналогіі» [1, с.14]. Зразумела, што адаптацыя пазычаных тэрміналагічных найменняў у пэўнай мове адбываецца рознымі шляхамі і працягваецца гэты працэс доўгі час. Аднак трапіўшы ў новае моўнае асяроддзе, тэрмінаадзінкі іншамоўнага паходжання і дэрываты ад іх абавязкова павінны афармляцца паводле арфаэпічных і граматычных нормаў мовы-пазычальніцы. Таму відавочна, што пры вырашэнні пытанняў канструявання пазычаных тэрмінаў і ўтварэнняў

ад іх у кожнай канкрэтнай мове неабходна ўлічваць законы словатворчасці мовы-рэцэптара, у разумных межах выкарыстоўваць яе ўласныя моўныя сродкі.

Агульнавядома, што беларуская і руская мовы на працягу некалькіх стагоддзяў развіваліся ў цеснай узаемасувязі. Апроч таго, блізкасць граматычнага ладу генетычна роднасных моў, іх матэрыяльнае падабенства ды і іншыя прычыны абумовілі істотнае ўздзеянне рускай мовы на тэрміналагічную сістэму беларускай. Менавіта гэтымі акалічнасцямі тлумачыцца шэраг супольных рысаў у тэрміналагічных сістэмах беларускай і рускай моў, агульны лексічны фонд, аднолькавыя дэрывацыйныя спосабы і фарманты, з дапамогай якіх узнікаюць новыя словы ў абедзвюх мовах. Праўда, названыя агульныя рысы «не зліваюцца, а ўзаемадзейнічаюць і ўзаемнаўзбагачаюцца ў міжмоўных кантактах, імкліва развіваючы сваю нацыянальную самабытнасць, свае фарбы і магчымасці на аснове заканамернасцей свайго ўнутранага развіцця і агульных функцый» [2, с.13]. Таму наяўнасць шэрагу супольных рысаў у граматычным ладзе блізкароднасных моў зусім не адмаўляе існавання ў іх сваіх, спецыфічных заканамернасцей, якія дзейнічаюць і ў галіне тэрміналогіі. Паказальным прыкладам гэтага можа быць структурная арганізацыя ад’ектыўных тэрмінаадзінак.

Назіранні сведчаць, што пераважная большасць тэрмінаадзінак ад’ектыўнага тыпу ў сучасных беларускай і рускай мовах утварылася ад іншамоўных намінацый. Апроч таго, нямала падобных тэрмінаў трапіла ва ўсходнеславянскія мовы з класічных ці з заходнееўрапейскіх моў. Прычым у беларускую мову нярэдка іншамоўныя найменні прыходзяць ужо семантычна засвоенымі рускай мовай. Усё гэта пэўным чынам накладвае адбітак на дэрывацыйную структуру ад’ектыўных тэрмінаадзінак. З аднаго боку, у структуры такіх ад’ектываў ёсць суфіксы, што ўтварыліся на базе іншамоўных афіксаў, з другога – у афармленні беларускіх тэрмінаў адчуваецца моцны ўплыў з боку рускай мовы. Дарэчы, згаданая акалічнасць невыпадковая, бо руская мова сёння з’яўляецца прамежкавым ланцужком «у перадачы навуковай інфармацыі ў маштабах краін былога СНД з мэтай міжнацыянальнага навуковага супрацоўніцтва» [3, с.101].

У прапанаваным артыкуле разгледзім асаблівасці ўтварэння ў сучасных беларускай і рускай мовах ад’ектыўных тэрмінаадзінак з фармантам *-ічн-* (руск. *-ичн-/-ическ-*). Падобныя дэрываты абслугоўваюць найперш галіну спецыяльнай тэрміналогіі і складаюць высокапрадукцыйныя тыпы вытворных, што актыўна папаўняюцца новымі словамі на сучасным этапе развіцця і функцыянавання абедзвюх моў, і колькасны склад такіх тыпаў нават цяжка вызначыць, бо нельга ўлічыць усе адпаведныя словы і асабліва тыя ўтварэнні, якія не набылі яшчэ шырокага ўжытку.

Безумоўна, прадукцыйнасць словаўтваральнага тыпу прыметнікаў з суфіксам *-ічн-* у структуры на беларускай глебе ў пэўнай ступені тлумачыцца ўплывам з боку рускай мовы, арыентацыя на лексічныя і словаўтваральныя сродкі і мадэлі якой была дастаткова выразнай у савецкі час. Як паказваюць матэрыялы лексікаграфічных працаў, у старабеларускай літаратурнай мове ад’ектывы з суфіксам *-ічн-* складалі малапрадукцыйны тып вытворных (*гармоничныи, мелодичныи, символичныи, фактичныи* і інш). Пры гэтым асобныя прыметнікі з суфіксам *-ічн-* накшталт *арфичныи, ентелехичныи, паралитичныи, плястеричныи, флегматичныи* нельга кваліфікаваць як уласна беларускія ўтварэнні. У старажытную беларускую мову падобныя ад’ектывы прыйшлі з іншых, неславянскіх моў. Звычайна гэта пазычанні класічнага паходжання (з грэчаскай, лацінскай моў). Не вызначаўся фармант *-ічн-* як сродак утварэння прыметнікаў рэгулярнасцю і прадукцыйнасцю і ў перыяд XIX стагоддзя. І толькі з сярэдзіны XX стагоддзя выяўляецца значнае папаўненне слоўніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы за кошт ад’ектываў, якія маюць у структуры фіналь *-ічны.*

Назіранні сведчаць, што ў беларускай мове суфікс *-ічн-(-ычн-)* узаемадзейнічае толькі з асновамі назоўнікаў іншамоўнага паходжання. У мове мастацкай літаратуры сустракаем адзінкавыя выпадкі індывідуальнага ўтварэння прыметнікаў пры дапамозе названых суфіксаў ад асноў спрадвечных беларускіх назоўнікаў і дзеясловаў, але такія дэрываты не замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы. Падобная заканамернасць выяўляецца і ў рускай мове, дзе фармант *-ичн-* (або суфікс *-ическ-*, які звычайна выступае сінанімічным да першага) таксама мае здольнасць спалучацца з асновамі іншамоўных назоўнікаў. Згаданыя асаблівасці спалучэння суфікса *-ічн-*(руск. *-ичн-/-ическ-*) з асновамі назоўнікаў, верагодна, можна тлумачыць паходжаннем гэтага дэрывацыйнага фарманта, які ўзнік на базе іншамоўнага афікса. Даследчыца А.А.Станкевіч разглядае словатворчы сродак *-ічн-(-ычн-)* як афікс, што ўзнік у выніку перараскладання марфемаў: выдзялення з асновы лацінскага паходжання канцавога элемента *-ік* і далучэння яго да суфікса *-н-*» [4, с.126]. Такое неславянскае паходжанне суфікса *-ічн-* (руск. *-ичн-)* у значнай ступені паўплывала на яго марфематычныя сувязі.

У беларускай мове фармант *-ічн-* звычайна ўзаемадзейнічае з асновамі пазычаных субстантываў на цвёрдыя зычныя *б, п, д ,т, з, с, р,*

*л, м, н.* Як словаўтваральная база пры ўзнікненні прыметнікаў з суфіксам *-ічн-(-ычн-)* выкарыстоўваюцца тэрміналагічныя адзінкі разнастайнай семантыкі: матэматычныя і фізічныя (*алгарытмічны, бараметрычны, лагарыфмічны, перыядычны, сейсмаграфічны, страбаскапічны, сферычны, цыліндрычны);* грамадска-палітычныя *(дагматычны, дыпламатычны, пурыстычны);* медыцынскія *(гіпнатычны, лімфатычны, эпілептычны);* літаратуразнаўчыя і мовазнаўчыя *(аргатычны, анапестычны, аманімічны, гіпербалічны, драматычны, сінанімічны, страфічны);* прыродазнаўчыя і геаграфічныя *(вулканічны, кліматычны, магматычны, цыкланічны)*; тэрміны, што абазначаюць пэўныя катэгорыі логікі (*аналітычны, сінтэтычны)* і г.д.

Другая вялікая група ад'ектыўных тэрмінаадзінак з суфіксам *-ічн-(-ычн-)* – утварэнні ад іншамоўных назоўнікаў на *-ія(-ыя).* Семантыка найменняў, якія выступаюць утваральнай базай, досыць разнастайная. Але пераважаюць тут назвы шматлікіх прыродазнаўчых, тэхнічных і гуманітарных навук, іх асобных галінаў: *агранамічны, алгебраічны, бактэрыялагічны, геаграфічны, гідралагічны, мінералагічны, хімічны, хірургічны, лексікаграфічны, марфалагічны, псіхалагічны* і пад.

Шырока ўзаемадзейнічае дэрывацыйны сродак *-ічн-(-ычн-)* з пазычанымі субстантывамі на *-ія(-ыя)* – назвамі медыцынскіх паняццяў: *алергічны, дыстрафічны, істэрычны, анемічны, гіпертанічны, шызафрэнічны* і інш., грамадска-палітычнымі і сацыяльна-эканамічнымі тэрмінамі: *дэмакратычны, ідэалагічны, стратэгічны, манархічны, энергічны* і г.д.

Асобны разрад складаюць тэрмінаадзінкі з суфіксам *-ічн-(-ычн-),* што ўзніклі ад іншамоўных субстантываў на *-ізм-* – назваў грамадскіх фармацый, ідэйных і літаратурных плыней і кірункаў: *камуністычны, матэрыялістычны, імперыялістычны, сюррэалістычны, фармалістычны* і інш.

Беларускім прыметнікам з суфіксам *-ічн-(-ычн-)* у структуры у рускай мове, як правіла, адпавядаюць ад'ектывы, утвораныя пры дапамозе фарманта *-ическ-*. Як і ў беларускай мове, фармант *-ическ-* актыўна спалучаецца з асновамі тэрміналагічных адзінак, што служаць для намінацыі прадметаў і з'яў розных галін навуковай дзейнасці. Пераважаюць сярод іх матэматычныя і фізічныя тэрміны (*актинометр – актинометрический, анастигмат – анастигматический, апланат – апланатический, апохромат – апохроматический, асимптота – асимптотический, астат – астатический, гальванометр – гальванометрический, гелиограф – гелиографический, диаскоп – диаскопический, дилатометр – дилатометрический,изотерма – изотермический, логарифм – логарифмический, периметр – периметрический, стробоскоп – стробоскопический*), а таксама грамадска-палітычныя (*агония – агонический, дипломат – дипломатический*), літаратуразнаўчыя і мовазнаўчыя тэрміны (*арготизм – арготический, омоним – омонимический, драма – драматический*), назвы медыцынскіх і геаграфічных паняццяў, намінацыі прыродных з'яў (*вулкан – вулканический, циклон – циклонический, магма – магматический*).

Аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, што ў сучаснай рускай літаратурнай мове прыметнікі з суфіксам *-ическ-* могуць выступаць як словаўтваральныя сінонімы да ад'ектываў з фармантам *-ичн-* і мець пры гэтым тоеснае значэнне. Параўнаем: *асимметрический, асимметричный* 'той, які звязаны з асіметрыяй'; *кубический, кубичный* 'той, які ўтварае сабой куб'; *синонимический, синонимичный* 'той, які мае адносіны да сінаніміі'. «Своеасаблівасць прадукцыйнага морфа ~~*-ичн-*~~, – падкрэсліваюць аўтары «Русской грамматики», – выяўляецца ў тым, што ўсе словы з гэтым морфам, за выключэннем слоў з рускімі і даўно засвоенымі асновамі і некалькіх з іншамоўнымі асновамі, з'яўляюцца словаўтваральнымі сінонімамі прыметнікаў з морфам *-ическ-* [5, с.275]. У адрозненне ад прыметнікаў з фіналлю *-ический*, тэрмінаадзінкі з суфіксам *-ичн-* у структуры не толькі здольныя выражаць якасныя значэнні, але і валодаюць яшчэ марфалагічнымі сродкамі такога выражэння: магчымасцю ўтварэння кароткіх формаў, кампаратыву, адцягненых назоўнікаў. Таму катэгорыя ад'ектыўных тэрмінаадзінак на *–ичный* актыўна папаўняецца за кошт дэрыватаў з тымі самымі асновамі, што і прыметнікі з фіналлю *–ический.*

Такім чынам, большасць ад'ектываў з фармантам *-ічн- (-ычн-) / -ическ-* у абедзвюх мовах належыць да разраду адносных або адносна-якасных і выкарыстоўваецца пераважна са значэннем 'мае адносіны або зроблены з таго, што абазначана ўтваральнай асновай'. Якасныя прыметнікі звычайна ўжываюцца са значэннем 'мае ўласцівасці таго, што выражаецца ўтваральным словам' [32, с.35-36]. Пакажам дзеля прыкладу: *алгебраічны* 'які мае дачыненне да алгебры' [ТСБМ. – Т.1. – С.221]; *металічны* '1) зроблены з металу; 2) які мае адносіны да металу, звязаны з апрацоўкай металу; 3) уласцівы металу, падобны на метал' [ТСБМ. – Т.3. – С.142].

У шэрагу выпадкаў далучэнне фарманта *-ічн-(-ычн-)* да асновы пазычанага субстантыва ў сучасных беларускай і рускай літаратурных мовах мае некаторыя адметнасці. Па-першае, дэрывацыя тэрмінаадзінак з дапамогай суфікса *-ічн-(-ычн-)* ад іменных іншамоўных асноў суправаджаецца іх скарачэннем. Магчымасць выкарыстання

скарочаных утваральных асноў у складзе суфіксальных прыметнікаў дае падставы некаторым даследчыкам гаварыць пра асобны спосаб словаўтварэння – словаўтварэнне шляхам замены афіксаў[6, с.12]. Але вылучэнне замены суфіксаў як асобнага спосабу словаўтваральнага афармлення вытворных слоў нельга лічыць абгрунтаваным, бо адцінанне фінальнай часткі ўтваральнай асновы не адлюстроўваецца на семантыцы дэрывата, на яго словаўтваральным значэнні. На гэты конт даследчыкі У.У.Лапацін і І.С.Улуханаў заўважылі, што замена суфіксаў – паняцце празмернае, як з пункту гледжання сістэмы спосабаў словаўтварэння, так і з пункту гледжання сістэмы марфаналагічных словаўтваральных з’яў мовы [7, с.105]. Таму адцінанне фіналей асновы варта разглядаць як адну з марфаналагічных з’яў. Так, пры ўтварэнні прыметнікаў ад пазычаных назоўнікаў на *-ія(-ыя)* у абедзвюх мовах адбываецца скарачэнне ўтваральнай асновы за кошт адцінання апошняга зычнага гука [*j*]. Параўнаем: бел. *анемі~~ј~~(а)* + *-ічн-(ы)* → *анемічны*, *сімпаты~~ј~~(а)* + *-ычн-(ы)* → *сімпатычны*, руск. *омоними~~ј~~(а)* + *-ическ-(ий)*→ *омонимический*, *морфологи~~ј~~(а)*+ *-ическ-(ий)* → *морфологический* і г.д.

Адцінанне апошніх гукаў асновы назіраецца і пры ўзнікненні ад’ектываў тыпу *канічны, касмічны: кон~~ус~~* + *-ічн-(ы)* → *канічны*, *косм~~ас~~* + *-ічн-(ы)* → *касмічны*. Як бачым, утваральныя асновы ў гэтых выпадках скарачаюцца за кошт выпадзення этымалагічных канчаткаў *-ус,-ас*. Падобную заканамернасць бачым і ў рускай мове. Толькі тут, у адрозненне ад беларускай мовы, да асновы назоўніка далучаецца фармант *-ическ-* (*космический, тонический, эпический*).

Пры ўтварэнні прыметнікаў ад пазычаных назоўнікаў на *-ізм* адбываецца адцінанне апошніх гукаў асновы *-зм*, а ў структуры ад’ектываў накшталт *рэалістычны, сімвалістычны, фармалістычны* (руск. *идеалистический, романтический, сюрреалистический, комический, материалистический)* і інш. вылучаецца ўскладнены суфікс *-істычн-(-ическ-)*.

Па-другое, суфіксацыя ад’ектываў ад назоўнікаў, аснова якіх канчаецца на гукі *з, с*, часам суправаджаецца чаргаваннем зычных *з//т, с//т:* бел. *аналіз – аналітычны*, *сінтэз – сінтэтычны*, *хаос – хаатычны*, руск. *аналитический*, *хаотический* і г.д.

Па-трэцяе, у асобных выпадках ва ўтварэнні прыметнікаў тыпу *алгебраічны, драматычны, лімфатычны, сімптаматычны, парадыгматычны*, *сістэматычны* (руск. *драматический, схематический, травматический, магматический)* удзельнічаюць ускладненыя дэрывацыйныя сродкі *-аічн-*, *-атычн- /-атическ-* .

Такім чынам, разгледжаныя тыпы ад’ектываў сведчаць пра тое, што ў тэрмінасістэмах сучасных беларускай і рускай моў выяўляюцца як агульныя, так і адметныя тэрмінатворчыя заканамернасці, якія выкліканы не толькі ўнутрымоўнымі, але і пэўнымі экстралінгвістычнымі фактарамі.

*Спіс літаратуры*

1. Бяляўскі, С.С. Шляхі развіцця беларускай тэрміналагічнай лексікі / С.С. Бяляўскі, В.К.Ахраменка, В.І.Кожар, Н.В.Пыжкова // Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі: Артыкулы і матэрыялы міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі. – Гомель, 1998. – С.14 – 16.

2. Цытуецца паводле працы Анічэнка, У.В. Нацыянальная і інтэрнацыянальная тэрміналогія беларускай мовы / У.В.Анічэнка // Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі: Артыкулы і матэрыялы міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі. – Гомель, 1998. – С.11 – 14.

3. Занкавіч, А.П. Да праблемы функцыянавання навукова-тэхнічнай тэрміналогіі ва ўмовах беларуска-рускага двухмоўя / А.П.Занкавіч // Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі: Артыкулы і матэрыялы міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі. – Гомель, 1998. – С. 100 – 102.

4. Станкевіч, А.А. Словаўтварэнне запазычанай лексікі ў беларускай і польскай мовах / А.А.Станкевіч // Беларуская мова. – Вып.7. – Мінск: БДУ, 1989. – С.122 – 130.

5. Русская грамматика. В 2т. / Академия наук СССР. Ин-т русского языка. – Москва: Наука, 1980. – Т.1. Фонетика. Фонология. Ударение. Интонация. Словообразование. Морфология. – 784 с.

6. Протченко, И.Ф. Об образовании и употреблении имен существительных женского рода – названий лиц в современном русском языке: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01. / И.Ф.Протченко. – Москва, 1955. – 20 с.

7. Лопатин, В.В. Рецензия на книгу А.Н.Тихонова «Проблемы составления гнездового словообразовательного словаря современного русского языка: курс лекций. – Самарканд,1971» / В.В.Лопатин, И.С.Улуханов // Русский язык в школе. – 1973. – №1. – С.104 – 106.

УДК 811.162.1+811.162.3

**Н.А**. **Снігірова** (Мінск)

## ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІЯ АРЭАЛЬНЫЯ МАРФАЛАГІЧНЫЯ ТРАНСФАРМАЦЫІ Ў ПОЛЬСКАЙ МОВЕ І ІХ БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ СТЫМУЛЫ

Нягледзячы на фармальна астраўны характар, арэалы некаторых марфалагічных з’яў паўночна-ўсходняй Польшчы суадносяцца з адпаведнымі моўнымі арэаламі Беларусі. Цэнтр ірадыяцыі несумежных, аддаленых ад кантактнай мяжы арэалаў інавацый, магчыма, знаходзіцца на Беларусі. Неабходна падкрэсліць, што гаворка ідзе не пра інфільтрацыю пэўнай з’явы на суседнюю моўную тэрыторыю, а пра «ўздзеянне суседняй мовы на сістэму іншай мовы, якое выклікае да жыцця з’яву, што істотным чынам можа адрознівацца ад з’явы-стымула» [1, с.65]. Сярод такіх новаўтварэнняў вылучаюцца назоўнікі з

мадыфікацыйнымі значэннямі жаночасці / мужчынскасці – маскулінатывы *darmozjada* і *mańkuta*.

У паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы назва *darmozjada* ‘дармаед’ ужываецца для абазначэння асоб менавіта мужчынскага полу. Невялікі астраўны арэал слова *darmozjada* мае несуцэльны характар і паўночную арыентацыю размеркавання [2, к.126]. На Беларусі лексема *дармаз’яда* сустракаецца ў Ашм., Ваўк., р-нах і займае значную плошчу, дзе азначае ‘тое ж, што і дармаед’ і ўжываецца з граматычным значэннем м. і ж. р. побач з формай *дармаéд* і фанетычнымі варыянтамі *дармаéт*, *дармóед* і інш. [3, т.2, с.23]. Найменне *дармаéдзіна* м. р. са значэннямі ‘той, хто не працуе, а жыве на чужыя сродкі’ [4, с.369] і ‘чалавек, які гультайнічае, жыве за кошт іншых’ [5, с.43] зафіксавана ў Навагр. р-не. Прыслоўе *дармó* з канцавым *-о* распаўсюджана ў Малар. [6, с.54] і ў Чэрв. [7, с.62] р-нах, назоўнік *дармóед* м. р. – на Тураўшчыне [8, т.2, с.7].

У польскай мове такія назоўнікі м. р. з канчаткам *-a*, як *darmozjada*, *mężczyzna*, маюць змешанае скланенне: скланяюцца ў адз. л. на ўзор назоўнікаў ж. р., у мн л. – на ўзор назоўнікаў м. р. [9, с.74–75]. У беларускай мове скланенне адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага і агульнага роду з канчаткам *-а* (*-я*) выяўляе свае марфалагічныя і сінтаксічныя паказчыкі. Паводле П.У. Сцяцко, у беларускай мове супольны род – катэгорыя граматычная. Такія словы, як *сведка*, *прамоўца*, *стараста*, *мямля* і г.д., маюць адметныя канчаткі пры абазначэнні асобы мужчынскага полу: у дав. – месн. скл. – *-у (-ю)* і тв. скл. *-ам* (*-ем*): *Івану*, *Васілю*, *сведку*, *прамоўцу*, *старасту*, *мямлю*; *Іванам*, *Васілём*, *сведкам*, *прамоўцам*, *старастам*, *мямлем* [10, с.56]. У польскамоўным асяроддзі найменні *darmozjada*, *mańkuta*, *sierota* таксама могуць абазначаць уласцівасць чалавека незалежна ад полу. Таму пры вызначэнні граматычнага роду гэтых лексем, па-за кантэкстам канкрэтнай моўнай сітуацыі, часта ўзнікаюць сумненні. Згодна з меркаваннем П.Бонка, у працэсе вызначэння граматычнага роду назоўнікаў вырашальную ролю часам можа адыгрываць іх значэнне, часам – будова, форма. Акрамя таго, вучоны прыводзіць прыклады слоў «дваякага роду» (у тым ліку запазычаных) як з літаратурнай мовы: *ta chryzantema*, *cytata*, *fałda*, *zawiasa* альбо *ten chryzantem*, *cytat*, *fałd*, *zawias*, так і з гаворак, дзе кажуць *ta morga*, *ten frendzel*, *ten topól* замест літаратурнага *ten mórg*, *ta frendzla*, *ta topola* [11, с.164–165]. Таму лагічна сцвярджаць, што словы *darmozjada*, *mańkuta*, *muchomora* працягваюць гэты рад і, адпаведна, фарміраванне катэгорыі назоўнікаў «дваякага роду».

Тэндэнцыя да пашыранага разумення традыцыйнага тэрміна «агульны род» і, адпаведна, кола слоў, якія складаюць групу імён агульнага роду, вызначаецца і ў сучаснай русістыцы [12, с.220]. Ю.С. Азарх мяркуе, што словы агульнага роду на *-а* як асобая семантыка-граматычная група фарміруюцца ў гісторыі асобных славянскіх моў. Прычым гэтая група прадуктыўная ва ўсходнеславянскіх мовах і малапрадуктыўная ў сучасных заходнеславянскіх мовах, дзе словы агульнага роду больш уласцівы гаворкам, якія непасрэдна кантактуюць з усходнеславянскімі дыялектамі [12, с.223]. Згодна з думкай даследчыка, ядром групы слоў агульнага роду, якія фарміруюцца, з’яўляюцца першасныя найменні асоб мужчынскага полу паводле негатыўнай працэсуальнай прыметы [12, с.229]. Не выключана, што ж. р. вызначэнняў выконвае ролю ўзмацнення экспрэсіі, падобна да таго, як адбываецца ўзмацненне экспрэсіўнай афарбоўкі слоў ж. р. пры ўжыванні іх у адносінах да мужчын [12, с.233]. Таму дапасаванне паводле ж. р. сярод найменняў асоб мужчынскага полу на *-а* з’яўляецца інавацыяй.

Даследчыкі заўважаюць, што такія формы, як *fša*, *smaka*, маюць у сваім складзе словаўтваральны фармант *-a*, які з’яўляецца асабліва прадуктыўным пры ўтварэнні аддзеяслоўных назоўнікаў. Ва ўсіх выпадках фармант *-a* спалучае словаўтваральныя і флектыўныя функцыі [13, т.8, ч.2, с.236]. Канкурэнцыя канчатка *-a* як больш «фемінатыўнага» паказчыка з нулявой флексіяй (ст.-польск. *wonia* і сучаснае *woń*, *szerz* / *szerza*, *tarcz* / *tarcza*) [14, с.146] прыводзіла да таго, што іншы род назоўніка мог захавацца ў якасці рэгіянальнага архаізма або з’явіцца як спецыфічная інавацыя ў пэўным арэале распаўсюджання польскай мовы. У прыватнасці, на тэрыторыі пашырэння перыферыйных дыялектаў польскай мовы ў XIX ст. прадстаўлены варыянты, якія розняцца ад нарматыўных, напрыклад *pawa* ж. р. замест *paw*. У рэгіянальных варыянтах польскай мовы прадстаўлены ваганні ў наз. скл. адз. л. ж. р. паміж флексіямі *-a* і *ø*: літаратурнае *jabłoń* і перыферыйнае *jebłenia* [14, с.146]. А.Брукнэр, дбаючы пра «чысціню» польскай мовы, звяртаў увагу на адаптацыю запазычаных слоў да польскай марфалагічнай сістэмы. У прыватнасці, назоўнікі ж. р. *sznura*, *dyszla*, *banka* былі заменены на лексемы м. р.: *sznur*, *dyszel*, *bank* [15, с.31]. З.Курцова флексію *-a*, якая сустракаецца ў неадушаўлёных назоўніках м. р. у наз. скл. у словах іншамоўнага паходжання *numera*, *dokumenta*, *finansa*, *fundusza* і ў польскіх словах *cienia*, *płomienia*, *urzęda*, *wąsa*, трактуе як паўднёва-перыферыйны марфалагічны архаізм, які пачынае знікаць з літаратурнай мовы з канца XIX ст. [16, с.37–38]. Гэтак жа інтэрпрэтуецца даследчыцай факт захавання старога

граматычнага роду некаторых неадушаўлёных назоўнікаў: *ten kometa, planeta, zachęt, ta cień, mozoła, pierwiosnka, to album, cudo, fortepiano* (у той час, калі ў літаратурнай мове іх род памяняўся на адпаведны сучаснаму на працягу XIX ст.), а таксама ваганні канчаткаў назоўнікаў ж. р.: *łodzia // łódź, łań // łani // łania, topól // topola, tarcz // tarcza*, вядомыя ст.-польск. мове і сённяшнім гаворкам [16, с.43]. Разам з тым менавіта беларускім уплывам на марфалогію ўсходняй перыферыйнай пальшчызны З.Курцова тлумачыць іншы ў параўнанні з польскай мовай граматычны род слоў *recept, metod, ten kieszeń, kantora, krama, ptaszka, ta piec, cień* і пераход пад уплывам акання назоўнікаў н. р. з канчаткамі *-o, -e, -ę* ў назоўнікі ж. р.: *ta okna, wiadra, ta pola, ta zadania, do czółny, łóżi, okny* [16, с.45–46]. Як вядома, кантамінацыі часцей за ўсё з'яўляюцца інавацыямі. Да прыкладу, З.Курцова з іх дапамогай ілюструе інавацыйныя змены на словаўтваральным узроўні мовы палякаў з усходняй перыферыі: «*kapcylinder: kapelusz + cylinder, łachabunda: łachmyta + wagabunda, litosierdzie: litość + miłosierdzie, za pod rękę: za rękę + pod pachę, igielmachier 'krawiec': igła +* ням. *Macher*...» [16, с.41]. Зразумела, што ў польскай мове інавацыя *darmozjada* магла ўзнікнуць у выніку слова- ці асноваскладання: *darmo + zjada* (*zjad-acz* 'ядок'). Ёй папярэднічала двухчленная назва *darmozjad* у значэнні 'паразіт, чужаед', якая датуецца XVI ст., часам, калі падобныя гібрыдныя ўтварэнні пачынаюць ужывацца больш шырока [17, с.96].

Галоўным аргументам інавацыйнасці з'явы можна лічыць тое, што ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы лексема *darmozjada* выкарыстоўваецца для абазначэння асоб мужчынскага полу. Паколькі назва аднолькава вядомая па абодва бакі польска-беларускай мяжы, як і прэфіксальныя дзеясловы *з'есці / zjeść*, цэнтрірадыяцыі інавацыі-маскулінатыва *darmozjada*, хутчэй за ўсё, знаходзіцца ў сярэдзіне яе арэала. Непасрэднае дачыненне граматычных рэсурсаў беларускай мовы да нараджэння паўночна-ўсходняй арэальнай марфалагічнай інавацыі ў польскай мове малаверагоднае з прычыны таго, што на беларускай тэрыторыі найбольш пашыраны адпаведныя найменні з марфемай *-ед*. Аднак арэальны малюнак з'явы, уплыў на яе распаўсюджанне паўночнаперыферыйнай пальшчызны, адзначаны З.Курцовай, дазваляе трактаваць ужыванне ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы кампазіта *darmozjad* з канчаткам *-a* як інавацыю, стымуляваную асаблівасцямі граматычнай сістэмы суседняй мовы. У беларускай мове катэгорыя агульнага роду жывая і запатрабаваная, але польскай мове яна не ўласціва ў такой ступені. Для польскай мовы характэрна выразнае размежаванне назоўнікаў паводле прыналежнасці да катэгорыі мужчынскага або жаночага роду. Як падкрэслівае Р.Ляскоўскі, «граматычны род назоўніка з'яўляецца прыроджанай прыкметай: назоўнік як элемент лексікі з пункту погляду прыналежнасці да пэўнага граматычнага роду характарызуецца *адназначна*» [18, с.117]. Даследчык прапануе называць такія выразныя выключэнні са «зменным» граматычным родам, як *sierota, kaleka, niezdara*, «бязродавымі» назоўнікамі (пары *markiz / markiza* і пад. аднесены вучоным да «двухродавых» назоўнікаў) [18, с.118–119]. Магчыма, што новаўтварэнне *darmozjada* ўзнікла ў выніку пазбягання мадэлі, якую «навязвае» ўздзеянне беларускіх асаблівасцей у функцыянаванні назоўнікаў. Такім чынам, дадзеная інавацыя з'яўляецца прыкладам таго, як марфалагічная сістэма беларускай мовы стварае на тэрыторыі, на якую актыўна ўплывае, з'яву, нераўназначную стымулу.

Астраўны несуцэльны арэал лексемы *mańkuta* 'ляўша' займае значную тэрыторыю на паўночным усходзе Польшчы па-за межамі зоны ўсходнеславянскіх уплываў [2, к.156]. Большая частка арэала арыентавана на захад. Назвы ляўшы ў польскіх гаворках досыць дакладна апрацаваныя картаграфічна [13, т.5, ч.2, к.241], [19]. На тэрыторыі Мазоўша і Падляшша замест агульнавядомага *mańkut* вельмі часта сустракаецца варыянт *mańkuta*, там адназначна пераважаюць утварэнні, генетычна звязаныя з італ. назоўнікам *manca* 'левая рука' [20, т.6, с.222], і з разнастайнымі фанетычнымі пераўтварэннямі яго асновы [13, т.5, ч.2, к.241]. У беларускіх гаворках лексема *манькута* ў значэнні 'ляўша' не адзначана, яна вядома толькі як 'чучала, падобнае да цецярука, пры дапамозе якога палешукі лавілі цяцерак'. Відавочна, што ў дадзеным выпадку адбыўся семантычны перанос з *манькут*, якое асацыіравалася з беларускім *маніць* [20, т.6, с.222]. У беларускай дыялектнай мове ў форме м. і ж. р. ужываюцца наступныя аднакарэнныя да польскага *mańkuta* словы: *манька* '*ляўша* (той, хто валодае левай рукой лепш, чым правай)' (Свісл. р-н) [4, с.219], *манюка* 'ілгун, непраўдзівы чалавек, выдумшчык, хлус' (Чэрв., Пух., Лаг., Докш., Смарг., Гл. р-ны) [4, с.322], *манцюшка* 'хлуслівы, які гаворыць няпраўду, хлусню' (Круп. р-н) [4, с.409], *мань* 'тс' (Бярэз. р-н), *манека, маняка* 'тс' (Буда-Каш. р-н), *матон* 'тс' (Бял. р-н) [4, с.409]. У Гл. р-не зафіксавана назва ж. р. *манькуха* [4, с.322], аднак пераважнай большасці лексем уласцівы м. р.: *манькут* (Гл. р-н), *манюк* (Лаг. р-н), *манук* (Бар. р-н), *ман* (Бял., Кліч. р-ны), *мань, манцель* (Чэрв., Докш. р-ны), *манцюль* (Лаг. р-н), *мантун* (Ганц. р-н), *мантач* (Бых. р-н) [4, с.322, 409].

Прыведзеныя прыклады як з беларускай, так і з польскай мовы, выяўляюць этымалагічную сувязь з лац. словам *manus* 'рука' [17, с.321],

ст.-інд. *māyā́* 'чароўная сіла, падман, ілюзія', ст.-в.-ням. *mein* 'ілжывы, падманлівы', ст.-ісл. *mein* 'шкода, страта, урон, няшчасце', грэч. *μῖμος* 'падман, фокус, фокуснік' (**maniti* атрымана ў выніку дысіміляцыі з **mamiti*) [21, т.2, с.569]. Паводле звестак, сабраных К.Длугаш-Курчабовай, у ст.-польск. мове быў ва ўжытку прыметнік *mankat*, які субстантываваўся. Адсюль *mankat*, *mańkat*, *mańkut* 'чалавек, які карыстаецца левай рукой замест правай', якія даследчыца, у сваю чаргу, выводзіць з італ. *mancato* 'знявечаны, слабы' (параўн. таксама франц. *manchot* 'пакалечаны, бязрукі') [17, с.329]. А.Банькоўскі значэнне назоўніка *mańkut* трактуе як 'левая рука' і лічыць, што суфікс *-ut* выкарыстаны тут на ўзор *karchut* 'левая рука' [22, т.2, с.140].

Беларускае слова *манькут* са значэннем 'манюка' паходзіць з польскага *mańkut*, *mańka* 'ляўша'. Такое перараджэнне адбылося ў выніку ад'ідэацыі. Акрамя таго, на Беларусі *манькут* магло змяніць семантыку наступным чынам: 'леварукі' > 'які робіць не па-сапраўднаму' > 'які хлусіць, падманвае'. Можна параўнаць з польскім выразам *zażyć kogo z mańki* 'ашукаць, падмануць, пажартаваць'. Рэгіянальны (Маг.) тып словаўтварэння з суфіксам *-ут*, які валодае семантыкай 'носьбіт працэсуальнай адзнакі', з'яўляецца малапрадуктыўным у сучаснай беларускай мове, прычым дэрываты з ім характарызуюць асоб па негатыўнай працэсуальнай прымеце: *маніць* – *манькут* (з нарашчэннем *-к-*, магчыма, праз ступень *манека*, *манько*) 'хлус, манека' [23, с.70]. З суфіксамі *-ута*, *-юта* ў беларускіх дыялектах утвараюцца асабовыя назоўнікі агульнага роду і неасабовыя назоўнікі ж. р. Дэрываты называюць прадметы і жывых істот па выразнай знешняй прымеце, але гэты рэгіянальны (Віц.) тып словаўтварэння непрадуктыўны [23, с.129]. Магчыма, што большую прадуктыўнасць гэта з'ява атрымала, вырваўшыся на каланістычны прастор, у паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы. Узнікненню ў польскай мове арэальнай марфалагічнай інавацыі *mańkuta* м. р. магла пасадзейнічаць актывізацыя прадуктыўнасці словаўтваральна-флексійнага элемента *-а*, які, далучыўшыся да слова *mańkut*, змяніў яго марфалагічную будову на ўзор назоўніка «дваякага роду». Тэндэнцыя да падкрэслівання «мужчынскасці» слоў, утвораных на ўзор «чыста жаночых» азначэнняў пры дапамозе канцавога *-а*, відавочна прасочваецца на прыкладзе слова *mańkuta*, якое мае парадыгму скланення, уласцівую т. зв. назоўнікам змешанага тыпу. Маскулінатыў *mańkuta* з'яўляецца яшчэ адным вынікам уздзеяння асаблівасцей граматычнай сістэмы беларускай мовы, якое выклікала да жыцця з'яву, што не адпавядае стымулу. Прычыны ўтварэння арэальнай інавацыі ў паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы заключаюцца ў тым, што абсалютная большасць аднакарэнных да *mańkuta* назоўнікаў у беларускай мове адносіцца да граматычнай катэгорыі м. р., на што, адпаведна, магла арыентавацца экспансія новаўтварэння ў суседняй мове.

Прааналізаваныя ізаморфы *darmozjada* і *mańkuta* з мадыфікацыйнымі значэннямі жаночасці / мужчынскасці выявілі змены ў галіне прадуктыўнасці флексійна-словаўтваральнага элемента *-а* пры ўтварэнні назоўнікаў м. р. Паколькі ў гаворках адсутнічае кадыфікацыя нормы, граматычны род назоўнікаў можа вар'іравацца, у выніку чаго родавыя варыянты ўзнікаюць у межах адной моўнай сістэмы. Родавыя варыянты як семантычныя дублеты адрозніваюцца толькі граматычна (функцыянальна). Маскулінатывы *darmozjada* і *mańkuta* з'яўляюцца прыкладам таго, як марфалагічная сістэма гаворак беларускай мовы стварае ў зоне актыўнага ўздзеяння з'явы, нераўназначныя зыходнаму стымулу. Нягледзячы на тое, што «флектыўныя ўплывы ў міжмоўных кантактах наогул з'яўляюцца рэдкасцю» [24, с.558], арэалы разгледжаных інавацый утвораны пад уплывам беларускіх дыялектных марфалагічных асаблівасцей.

*Спіс літаратуры*

1. Цыхун, Г.А. Паўночны фрагмент заходнеславянска-ўсходнеславянскай кантактнай зоны / Г.А. Цыхун // Studia nad polszczyzną kresową / PAN, Kom. językoznawstwa. – Warszawa, 2001. – T. 10. – S. 65 – 69.

2. Kowalska, A. Zróżnicowanie słowotwórcze gwar Mazowsza i Podlasia: rzeczownik W 2 t. / A. Kowalska. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1975 – 1979. – T. II, cz. 1: Atlas: mapy 101 – 200. – 1979. – 100 m. – (Prace Instytutu Języka Polskiego / PAN; № 28).

3. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад.: Ю.Ф. Мацкевіч [і інш.]; пад рэд. Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 5.

4. Чалавек: тэмат. слоўн. / НАН Беларусі; Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; [склад. В.Дз. Астрэйка і інш.; навук. рэд. Л.П. Кунцэвіч, А.А. Крывіцкі]. – Мінск: Беларус. навука, 2006. – 573 с.

5. Усціновіч, А.К. Так гавораць у Купіску / А.К. Усціновіч // Народная словатворчасць / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд.: А.А. Крывіцкі, І.Я. Яшкін. – Мінск, 1979. – С. 43 – 48.

6. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад.: М.М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

7. Арашонкава, Г.У. Да слоўніка Чэрвеньшчыны / Г.У. Арашонкава // Народная лексіка: [зборнік] / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А.А. Крывіцкі, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1977. – С. 62 – 68.

8. Тураўскі слоўнік. У 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа; склад.: А.А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – Т. 5.

9. Bartnicka, B. Gramatyka języka polskiego: podręcz. dla cudzoziemców / B. Bartnicka, H. Satkiewicz. – Warszawa: Wiedza Powszechna, 1998. – 280 s.
10. Сцяцко, П. Культура мовы / П. Сцяцко. – Мінск: Тэхналогія, 2002. – 444 с.
11. Bąk, P. Gramatyka języka polskiego / P. Bąk. – Warszawa: Wiedza Powszechna, 1997. – 508 s.
12. Азарх, Ю.С. К истории слов общего рода в русском языке / Ю.С. Азарх // Общеславянский лингвистический атлас: материалы и исслед., 1984: сб. науч. тр. / АН СССР, Ин-т рус. яз.; отв. ред. В.В. Иванов. – М., 1988. – С. 220 – 245.
13. Atlas językowy Kaszubszczyzny i dialektów sąsiednich: w 15 z. / PAN, Kom. Słowianoznawstwa; pod kier. Z. Stiebiera. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1964 – 1978. – 15 z.
14. Ананьева, Н.Е. История и диалектология польского языка: учеб. пособие для студентов вузов / Н.Е. Ананьева. – М.: Изд-во Моск. ун-та, 1994. – 301 с.
15. Brückner, A. Walka o język / A. Brückner. – Lwów: Książnica Pol. T-wa Nauczycieli Szkół Wyższych we Lwowie, 1917. – 288 s.
16. Kurzowa, Z. O mowie Polaków na Kresach wschodnich / Z. Kurzowa. – Kraków: Secesja, 1993. – 64 s.
17. Długosz-Kurczabowa, K. Nowy słownik etymologiczny języka polskiego / K. Długosz-Kurczabowa. – Warszawa: Wydaw. Nauk. PWN, 2003. – 660 s.
18. Laskowski, R. Rodzaj gramatyczny, struktura głęboka a zaimki osobowe / R. Laskowski // Pr. Komis. Językoznawstwa / PAN, Oddz. w Krakowie. – Kraków, 1974. – № 37: Studia indoeuropejskie. – S. 117 – 124.
19. Leszczyński, Z. Kilka słów o *mańkucie* / Z. Leszczyński // Symbolae philologicae in honorem Vitoldi Taszycki / kom. red.: S. Hrabiec [et al.]; PAN, Oddz. w Krakowie. – Wrocław, 1968. – S. 197 – 202.
20. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978.
21. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. / М. Фасмер; пер. с нем. и доп. О.Н. Трубачёва. – 4-е изд., стер. – М.: Астрель: АСТ, 2004. – Т. 4.
22. Bańkowski, A. Słownik etymologiczny języka polskiego. W 2 t. / A.Bańkowski. – Warszawa: Wydaw. Nauk. PWN, 2000. – T. 2.
23. Сцяцко, П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне: афіксальныя назоўнікі/ П.У. Сцяцко; рэд. М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.
24. Siatkowski, J. Kryteria ustalania wpływu języków bliskispokrewnionych / J. Siatkowski // Festschrift für Herbert Bräuer zum. 65. Geburtstag am 14. April 1986 / Hrsg.: R. Olesch, H. Rothe. – Köln, 1986. – S. 551 – 563.

УДК 811.161.3

**А.В.Солахаў** (Мазыр)

## УТВАРЭННЕ СУБСТАНТЫВАТАЎ У МОВЕ ТВОРАЎ АЛЕСЯ РАЗАНАВА

Субстантывацыя (ад лац. *substantivum* – назоўнік) – пераход у разрад назоўнікаў слоў, што адносяцца да іншых лексіка-граматычных разрадаў. Словаўтваральным фармантам, на думку І. С. Улуханава, з’яўляецца «адрозненне ў сінтаксічнай пазіцыі і граматычнай семантыцы матывавальнага і матываванага або – калі карыстацца аперацыянальнымі (дынамічнымі) тэрмінамі – перавод прыметніка ў сінтаксічную пазіцыю назоўніка са змяненнем часцінамоўнага граматычнага значэння» [6, с. 31]. Фактычна, пры стварэнні адпаведных умоў, слова любога лексіка-граматычнага разраду можа субстантывавацца, г. зн. заняць сінтаксічную пазіцыю назоўніка і набыць яго граматычнае значэнне.

У беларускай мове шырока ўжываецца адпрыметнікавая і аддзеепрыметнікавая субстантывацыя [1, с. 274–276], вынікі якой адлюстроўваюцца ў лексікаграфічных працах, напрыклад: *выхадны* ‘дзень адпачынку’; *выхадны, выхадная* ‘той, хто выкарыстоўвае свой дзень адпачынку’ [5, т. 1, с. 589], *камандуючы* ‘начальнік буйнога вайсковага злучэння’ [5, т. 2, с. 598], *мінулае* ‘тое, што прайшло, адышло; былое’ [5, т. 3, с. 159], *немагчымае* ‘тое, што нельга ажыццявіць, выканаць’ [5, т. 3, с. 374], *працэдурная* ‘кабінет, у якім робяцца працэдуры’ [5, т. 4, с. 387] і інш.

Мастакі слова нярэдка звяртаюцца да субстантывацыі. З поспехам выкарыстоўвае яе разнастайныя магчымасці паэт Алесь Разанаў. «Нават не вынаходзячы новых слоў, – піша ён у адным са зномаў, – паэт усё роўна стварае свой слоўнік. Вартасць яго не ў саміх словах, а ў іхніх сувязях, у іхняй арыентаванасці» [3, с. 197]. Менавіта змяненне сінтаксічных сувязей слова абумоўліваюць пераход яго ў іншую часціну мовы, у прыватнасці ў назоўнік.

Найбольш прадуктыўную групу ў мове твораў А. Разанава складаюць адпрыметнікавыя субстантываты ніякага роду. Як слушна заўважыў А. М. Пяшкоўскі, «катэгорыя ніякага роду атрымлівае ў гэтым выпадку асобае адценне расшырэння паняцця» [2, с. 137]. Такія абагульненыя назвы з’яў характарызуюцца прыметай, абазначанай утваральным прыметнікам. Яны абазначаюць:

1) эстэтычныя паняцці: ***авангарднае*** ‘тое, што з’яўляецца перадавым’, *вышэйшае* ‘тое, што дасягае самай вышэйшай ступені ў чым-небудзь’, ***дасканалае*** ‘тое, што характарызуецца найвышэйшай ступенню і паўнатой станоўчых якасцей, што з’яўляецца ўзорным, беззаганным, бездакорным’, ***недасканалае*** ‘тое, што не дасягнула дасканаласці, што не пазбаўлена недахопаў’, ***пачварнае*** ‘тое, што з’яўляецца вельмі непрыгожым, агідным, брыдкім; такім, як у пачвары’, ***традыцыйнае*** ‘тое, што заснавана на традыцыі і замацавана ёю’: *…**традыцыйнае** творыць якасць колькасці, **авангарднае** – колькасць якасці* [3, с. 261]; *У творчасці веданне і ўменне пераўзыходзяцца,*

*пачынае панаваць* ***вышэйшае****. Гэты лішак жыватворны: ён вызваляе паэзію з-пад рамяства* [3, с. 188]; *Пакуль чалавек жыве, ён усё яшчэ няпоўны, незавершаны, дарэшты не ўвасоблены, ён яшчэ не зусім творца і не зусім твор. Аднак дзякуючы гэтаму «не зусім» і магчыма далейшае ўвасабленне, магчымы пераход* ***недасканалага*** *ў* ***дасканалае****, магчыма творчасць* [3, с. 182]; ***Пачварнае*** *не проста антыпод прыгожага, але і ўмова яго, і лона…* [3, с. 248];

2) інтэлектуальныя паняцці: *інтуітыўнае* 'тое, што заснавана на інтуіцыі', *нязведанае* 'тое, што не даследавалася, не вывучалася раней', *разумнае* 'тое, што з'яўляецца лагічным, мэтазгодным', *разумовае* 'тое, што звязана з дзейнасцю розуму, свядомасці', *рацыянальнае* 'тое, што з'яўляецца разумным, мэтазгодным': *Калі паэт ведае, што ён хоча сказаць, ён не здолее гэтага сказаць (прынамсі, як паэт), для гэтага ён мусіць вярнуцца ў тую глыбіню, дзе* ***нязведанае*** *яшчэ не стала зведаным,* ***інтуітыўнае*** *–* ***рацыянальным*** *і дзе рэчы яшчэ не маюць імёнаў* [3, с. 248]; *І пакуль «Павел» Пятра не стане цалкам Пятром, а «Пётр» Паўла – Паўлам, абодва яны застаюцца ў сферы вонкавых адносін, дзе праблемы не вырашаюцца, а рэгламентуюцца і дзе сутнаснае падмяняецца* ***разумовым*** [3, с. 247]; ***Разумнае*** *абмежавана, адкрыццё не-разумнае* [3, с. 198];

3) філасофскія паняцці: *аб'ектыўнае* 'тое, што існуе па-за свядомасцю і незалежна ад яе, што з'яўляецца праўдзівым', *суб'ектыўнае* 'тое, што пазбаўлена аб'ектыўнасці, што ўласцівае толькі дадзенай асобе': *Для* ***суб'ектыўнага*** *яно становіцца сведчаннем яго аб'ектыўнасці, для* ***аб'ектыўнага*** *– магчымасцю сведчыцца, быць сведчаным; яны – з'явы яго прысутнасці, яно – сутнасць іхняй з'яўнасці* [3, с. 267];

4) грамадска-палітычныя паняцці: *нацыянальнае* 'тое, што ўласцівае данай нацыі і выражае яе характар, што належыць данай краіне', *інтэрнацыянальнае* 'тое, што адпавядае прынцыпам інтэрнацыяналізму, што заснавана на яго прынцыпах': *У* ***нацыянальным*** *спеюць зярняты космасу, і дзякуючы гэтым зярнятам яно адкрываецца і прамаўляе свету – становіцца* ***інтэрнацыянальным*** [3, с. 250];

5) форму: *галінастае* 'тое, што з'яўляецца галінастым, што мае вялікія галіны', *звілістае* 'тое, што мае звіліны, завароты, загібы', *пляскатае* 'тое, што мае невялікую вышыню і таўшчыню, а таксама прамую роўную паверхню': *Калісьці ў лесе жылі і людзі, але, палюбіўшы бяспеку болей, чым небяспеку,* ***пляскатае*** *болей, чым* ***звілістае*** *і* ***галінастае****, адасобіліся ад яго: між імі і лесам – адлегласць, і гэтая адлегласць не дазваляе, каб лес увайшоў у сялібу…* [4, с. 396];



6) фізічныя ўласцівасці: *бязмоўнае* 'тое, дзе не чуваць ніякіх гукаў; цішыня', *цэнтраімклівае* 'тое, што накіравана ў час руху ад перыферыі да цэнтра', *цэнтрабежнае* 'тое, што накіравана ў час руху ад цэнтра да перыферыі': *Гром агромністы: ён «ахоўвае»* ***бязмоўнае*** *і пашырае імгненнае, палохаючы старых і малых тым, чаго ўжо няма, што ўжо мінула* [4, с. 386]; *Мадэль часу нагадвае кола: у ім ёсць акружнасць і ёсць цэнтр, дынаміка і статыка,* ***цэнтраімклівае*** *і* ***цэнтрабежнае****...* [3, с. 239];

7) прасторавыя паняцці: *дольняе* 'тое, што адносіцца да долу', *горнае* 'тое, што падобна на горы': *Ён [горад] – бесперапыннае пераўтварэнне* ***дольняга*** *ў «****горнае****», мінулага ў «градучае», ён – іхнія народзіны, і таму ўсе позіркі скіроўваюцца да яго, і таму ўсе дарогі сыходзяцца ў ім, і таму ўсім крывічам і радзімічам ён, нібы ўзнагарода, родны і дарагі* [4, с. 369];

8) колькасць: ***адзінае*** 'тое, што з'яўляецца цэлым, непадзельным': *Клін – раскольнік, родны дрэву па плоці і іншародны па духу: ён упарта вышуквае ў дрэве хоць якое-небудзь парушэнне, хоць якую-небудзь трэшчыну, каб, няўхільна ўбіваючыся ў яе і запаўняючы яе сабою, давесці моцнае да распаду,* ***адзінае*** *– да раздваення* [3, с. 128] і інш.

Асобную групу складаюць субстантываты ніякага роду, якія ўтвараюцца ад дзеепрыметнікаў залежнага стану. Яны абазначаюць абагульненыя з'явы, што характарызуюцца адносінамі да дзеяння, названага ўтваральным дзеепрыметнікам: *адкрытае* 'тое, што зрабілася вядомым', *дасягнутае* 'тое, што дасягнута, набыта, атрымана як жаданае', *замкнёнае* 'тое, што адасоблена, не даступна для іншых', *разбэрсанае* 'тое, што раскідана, распушчана, разблытана', *спазнанае* 'тое, што ахоплена розумам, асэнсавана', *спарадкаванае* 'тое, што прыведзена ў парадак, чаму нададзены належны выгляд, што даведзена да ладу': *...па сутнасці, дабрадзеі адкрываюць ужо* ***адкрытае*** [3, с. 263]; *Паэты паміраюць маладымі – гэта хутчэй запавет, чым канстатаванне, не так пра фізічную смерць, як пра неабходнасць пераўзыходзіць* ***дасягнутае****, сваё цвіценне, самога сябе ўчарашняга* [3, с. 194]; *Той «утрапёны» ген, які прымушае вугроў падавацца на нераст у неймавернае вандраванне – праз тысячу водаў – у сваё мора, у сваё лонвішча, ген, які размыкае* ***замкнёнае*** *– час... Як не стае яго ў нашых разумных, пісьменных, правільных вершах!..* [3, с. 214]; *Быццам віруе вір, верацяно верціцца адно толькі наўкола самога сябе і, «перацягваючы»* ***разбэрсанае*** *ў* ***спарадкаванае****, няпэўнае ў пэўнае, верыць, што яно цэнтр рэчаіснасці* [4, с. 442]; *...нельга спазнаць тое, чым ты ёсць, і гэта таму, што яно, гэтае тое, ужо «****спазнанае****»: у сферы сутнасці быць і ведаць – адно і тое ж* [3, с. 174].

Акрамя прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, утваральнай базай для субстантыватаў у мове твораў А. Разанава выступаюць займеннікі, прыслоўі, дзеясловы, службовыя часціны мовы. Так, субстантываты *сябе* 'тое, што раскрывае індывідуальнасць асобы', *нешта* 'тое, што невядома, незразумела', *яго* 'тое, што належыць яму' матывуюцца адпаведна зваротным, няпэўным і асабова-прыналежным займеннікамі: *...і праблема, і перашкода не што іншае, як сведчанне, што жыццёвы шлях чалавека са сферы сінтэзу пераключыўся ў сферу, дзе тэза супрацьстаіць антытэзе і дзе чалавек мае шмат «**сябе**»* [3, с. 181]; *Верш плённы прысвячэннем у нешта – у іншае светаадчуванне, іншую светабудову; без гэтага «**нешта**» ён не здольны адхінуцца ад долу* [3, с. 206]; *Стан творчасці, у якім удзельнічаюць глыбокія пласты чалавечай існасці, адкрывае чалавеку тое, што ён забыў альбо страціў, – я г о веды, я г о рэчаіснасць, якая тым больш сапраўдная, чым больш **я г о*** [3, с. 264].

Сярод адпрыслоўных субстантыватаў адзначаюцца наступныя: *дзе* 'месца, у якім што-небудзь адбывалася, адбылося, адбываецца, будзе адбывацца або адбудзецца', *нідзе* 'тое, што не ўяўляе ніякага месца', *пазаўчора* 'час, які быў два дні назад', *таму* 'прычына чаго-небудзь', *там* 'тое месца, той час', *тут* 'гэтае месца, гэты час', *усюды* 'кожнае месца': *Дзверы аддзяляюць унутраную прастору ад знадворнай, і той, хто ўваходзіць у дзверы, уваходзіць у новае становішча, у новую веру: з «**нідзе**» – у «**дзе**», з дня – у «дзень добры», з двара – у «дзяржаву»* [4, с. 372]; *Месцазнаходжанне пячоры ва ўчора, у **пазаўчора**, а можа, нават у праўчора* [4, с. 383]; *Усякая з'ява ў мастацтве адмаўляецца, абапіраючыся на вопыт гэтай жа з'явы, на **таму**, што яна ўжо ёсць* [3, с. 259]; *Для таго, хто натурыцца, хамут – мучэнне, для таго, хто не патурае сабе, – вучэнне, якое, як мытня, пераводзіць яго з тлумнага **тут** у мудрае **там*** [3, с. 134]; *Час – «мысленне» матэрыі: дзякуючы яму яна выводзіцца з таго месца, якое яна займае ў прасторы, і ўводзіцца ва «**ўсюды**», дзе час становіцца новым часам – думкай, а матэрыя новай матэрыяй – розумам* [3, с. 259].

Невялікія колькасныя групы складаюць субстантываты, якія матывуюцца:

1) дзеясловамі: *хачу* 'тое, што мае жаданне, ахвоту', *хочацца* 'тое, што адчувае патрэбу ў чым-небудзь': *Вершы нараджаюцца не з уладнага «**хачу**», а з безабароннага «**хочацца**»* [3, с. 247];

2) прыназоўнікамі: *пра* 'назвы асоб, прадметаў і з'яў, пры якіх ужываецца прыназоўнік *пра*': *Літаратура пра вайну, пра вёску, пра настаўнікаў ці інжынераў... Усім «**пра**» ўласцівы модус мінуласці. І калі твор не пераадолеў тэмы, ён яшчэ нямы, нямоглы* [3, с. 240];

3) часціцамі: *не* 'тое, што поўнасцю адмаўляецца': *Душа, пра якую Янка Брыль сказаў, што яна не падарожніца, здаецца, наогул складаецца з адных суцэльных «**не**». Яе стыхія інтуіцыя, а не рацыё* [3, с. 235];

4) спалучэннямі слоў, словазлучэннямі і сказамі: *Пакуль чалавек жыве, ён усё яшчэ няпоўны, незавершаны, дарэшты не ўвасоблены, ён яшчэ не зусім творца і не зусім твор. Аднак дзякуючы гэтаму «**не зусім**» і магчыма далейшае ўвасабленне, магчымы пераход недасканалага ў дасканалае, магчыма творчасць* [3, с. 182]; *Усе значныя адкрыцці ўзнікалі на мяжы «**не можа быць**», на мяжы нонсенсу* [3, с. 240]; *Кожны паэт па-свойму фармулюе мэту і правілы паэзіі. Інакш атрымліваецца не «**язда ў незнаёмае**», а язда паводле правіл дарожнага руху* [3, с. 221].

Падобныя неалагізмы могуць утварацца і іншымі спосабамі. Так, прэфіксацыя выкарыстана пры ўтварэнні індывідуальна-аўтарскага неалагізма *праўчора*, што матывуецца субстантыватам *учора*, да якога далучаецца прэфікс *пра-*, і мае значэнне 'вельмі даўні час': *Месцазнаходжанне пячоры ва ўчора, у пазаўчора, а можа, нават у **праўчора*** [4, с. 383].

Слова *зведанае* семантычна адрозніваецца ад дзеяслова *зведаць*, які па гэтай прычыне не можа выступаць утваральным; яно матывуецца субстантыватам *нязведанае* [у тэксце матывавальнае знаходзіцца побач з матываваным], г. зн. што новае слова ўтворана дэпрэфіксацыяй – выдаленнем з субстантывата *нязведанае* прыстаўкі *ня-*. Неалагізм абазначае 'тое, што з'яўляецца супрацьлеглым нязведанаму': *Калі паэт ведае, што ён хоча сказаць, ён не здолее гэтага сказаць (прынамсі, як паэт), для гэтага ён мусіць вярнуцца ў тую глыбіню, дзе нязведанае яшчэ не стала **зведаным**, інтуітыўнае – рацыянальным і дзе рэчы яшчэ не маюць імёнаў* [3, с. 248].

Наватвор А. Разанава *сутнаснае* абазначае 'тое, што з'яўляецца самым істотным, што складае ўнутраны змест чаго-небудзь': *І пакуль «Павел» Пятра не стане цалкам Пятром, а «Пётр» Паўла – Паўлам, абодва яны застаюцца ў сферы вонкавых адносін, дзе праблемы не вырашаюцца, а рэгламентуюцца і дзе **сутнаснае** падмяняецца разумовым* [3, с. 247]. Ён утвораны не чыстай субстантывацыяй, а спосабам суфіксацыі + субстантывацыі праз ступень, г. зн. непасрэдна ад назоўніка *сутнасць*. Гэта пацвярджаюць сучасныя лексікаграфічныя працы, у якіх прыметнік *сутнасны* не фіксуецца.

Спосабам немарфемнага скарачэння + складання + субстантывацыі ўтвораны аказіяналізм *тамтэйшае*: у прыметніку *тутэйшы* выдалены пачатковы склад, месца якога заняло прыслоўе *там*. Наватвор мае

значэнне ‘тое, што знаходзіцца ў тым месцы, што з’яўляецца іншым, не тутэйшым’: *Метафара – транскрыпцыя: яна перадае на «тутэйшай» мове «**тамтэйшае**»* [3, с. 224]; *Твор – таксама нараджаецца, твор – таксама праходзіць свой інкубацыйны перыяд, увідавочніваючы сабой невідавочнае, **тамтэйшае**, захаванае* [3, с. 229].

У мове твораў А. Разанава субстантываты выконваюць розныя функцыі. Адна з іх – намінатыўная, паколькі гэтыя словы называюць адпаведныя рэаліі і з’явы, пра якія гаворыць аўтар. Самі назвы з’яўляюцца абагульненымі, г. зн. кандэнсуюць вялікі аб’ём інфармацыі. Таму важнай функцыяй субстантыватаў з’яўляецца кампрэсіўная. Дзякуючы ёй, аўтар часта звяртаецца да прыёмаў намёку і таемнасці. Субстантываты выконваюць таксама экспрэсіўную функцыю, паколькі эмацыянальна ўздзейнічаюць на чытача.

Сэнсавая выразнасць тэксту нярэдка дасягаецца за кошт выкарыстання ў творах субстантыватаў-антонімаў: ***Крывое** не зробіцца **простым**, а скрывіцца яшчэ раз* [4, с. 352]; *Жменя – «меня»: тое, чаго не мае, яна бярэ, а тое, што мае, яна аддае і такім чынам усталёўвае раўнавагу паміж **парожнім** і **поўным*** [4, с. 454] і інш.

Аўтар звяртаецца таксама да прыёму ўзаемапераходу аднаго паняцця ў другое: *Клін робіцца не з клёну альбо з каліны, а з «калянага» дрэва і, дастасоўваючыся да дрэва, як усклік да гаворкі, як клічнік да выказвання, уяўляе сабой канстанту, дзе **тонкае** неўпрыкмет пераходзіць у **шырокае**, а **паступовае** – у **пранiклівае*** [3, с. 128]; *У **нацыянальным** спеюць зярняты космасу, і дзякуючы гэтым зярнятам яно адкрываецца і прамаўляе свету – становіцца **інтэрнацыянальным*** [3, с. 250].

Пры субстантыватах могуць ужывацца аднакаранёвыя словы, якія актуалізуюць унутраную форму субстантыватаў: *...па сутнасці, дабрадзеі <u>адкрываюць</u> ужо **адкрытае*** [3, с. 263]; *Месцазнаходжанне пячоры ва <u>ўчора</u>, у <u>пазаўчора</u>, а можа, нават у **праўчора*** [4, с. 383].

Аналіз утварэння субстантыватаў паказвае, што А. Разанаў аддае перавагу тым, якія паходзяць ад прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, маюць форму ніякага роду і вызначаюцца рознымі значэннямі. Субстантываты матывуюцца таксама займеннікамі, прыслоўямі, дзеясловамі, прыназоўнікамі, часціцамі, спалучэннямі слоў, словазлучэннямі і сказамі. Паралельна з субстантывацыяй фіксуюцца іншыя спосабы словаўтварэння: прэфіксацыя, дэпрэфіксацыя, суфіксацыя + субстантывацыя, немарфемнае скарачэнне + складанне + субстантывацыя. Субстантываты ўжываюцца ў намінатыўнай, кампрэсіўнай, экспрэсіўнай функцыях і служаць для стварэння намёку, патаемнасці, супрацьпастаўлення, узаемапераходу аднаго паняцця ў другое і інш.

*Спіс літаратуры*


1. Беларуская граматыка. У 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – 431 с.
2. Пешковский, А. М. Русский синтаксис в научном освещении / А. М. Пешковский. – Изд. 7-е. – М.: Гос. уч.-пед. изд-во МП РСФСР, 1956. – 511 с.
3. Разанаў, А. Паляванне ў райскай даліне: Версэты. Паэмы. Пункціры. Вершаказы. З Вяліміра Хлебнікава. Зномы / А. Разанаў. – Мінск: Маст. літ.,1995. – 287 с.
4. Разанаў, А. Танец з вужакамі: выбранае / А. Разанаў. – Мінск: Маст. літ.,1999. – 462 с. – (Беларуская паэзія XX стагоддзя).
5. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад агул. рэд. К. К. Крапівы (Кандрата Крапівы). – Мінск: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1977 – 1984. – Т. 1 – 5.
6. Улуханов, И. С. Единицы словообразовательной системы русского языка и их лексическая реализация / И. С. Улуханов; Российская академия наук, Институт русского языка им. В. В. Виноградова. – М., 1996. – 221 с.


УДК 811.161.3

**А.А. Станкевіч** (Гомель)

## СІНТАКСІЧНЫЯ СРОДКІ ВЫЯЎЛЕНЧАЙ ВЫРАЗНАСЦІ: ФІГУРЫ ПАЎТОРУ Ў ПАЭЗІІ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

Паняцце фігуры прадугледжвае перш за ўсё пэўную перабудову, трансфармацыю сінтаксічных структур з мэтай дасягнення незвычайнага спалучэння моўных адзінак і ўзмацнення выяўленчай выразнасці. Фігуры маўлення падзяляюцца на канструктыўныя, якія робяць сінтаксічную адзінку больш збалансаванай, і дэструктыўныя, якія парушаюць сінтаксічную структуру сказа [1, с. 238]. Да канструктыўных недыскрэтных фігур адносяцца фігуры паўтору, заснаваныя на паўтаральнасці моўных адзінак. Да дэструктыўных фігур належаць фігуры пропуску, у аснове якіх – пропуск асобных моўных адзінак, і фігуры перастаноўкі, звязаныя з парушэннем лагічнай структуры сінтаксічнай канструкцыі, якія адлюстроўваюць непаўтаральнасць моўных адзінак.

Прадметам нашага даследавання з’яўляюцца фігуры паўтору як сінтаксічныя сродкі выяўленчай выразнасці ў мастацкім маўленні. Матэрыялам даследавання паслужыла паэтычная творчасць Яўгеніі Янішчыц.

У артыкуле разглядаюцца найбольш частыя, ужывальныя фігуры паўтору, функцыянальна і стылістычна значныя для паэтычнага маўлення Я. Янішчыц, якія выконваюць не толькі выяўленча-выразную, але і тэкстаўтваральную ролю. Найбольш актыўна ў вершах Я.Янішчыц выкарыстоўваюцца анафара, падваенне, частковы (каранёвы і афіксальны) паўтор, шматзлучнікавасць і шматпрыназоўнікавасць.

Адной з самых распаўсюджаных фігур паўтору ў паэзіі Я.Янішчыц з'яўляецца **анафара**, адзінапачатак – паўтор слова ці групы слоў у пачатку некалькіх сумежных сказаў. Анафара садзейнічае лагічнаму выдзяленню, падкрэсліванню сэнсу паўторанага слова і стварае пэўны паралелізм сказаў.

У вершах Я. Янішчыц сустракаюцца розныя віды анафары: гукавая, лексічная, строфная. Найбольш распаўсюджанай з'яўляецца лексічная анафара – паўтор асобнай лексемы ў пачатку суседніх сказаў.

Паўтараемая лексічная адзінка можа адносіцца да любой часціны мовы. Субстантыўная анафара засяроджвае ўвагу на суб'екце або аб'екце дзеяння, які можа абазначацца як канкрэтным, так і адцягненым назоўнікам: *Лёд у вачах у гаспадыні, Лёд у акне заместа шкла* [2, с.112]; *Пыл – як вокам прастору абняць, Пыл на самым зіхоткім світанні, Пыл – як горкай слязы не стрымаць У любові да цябе і ў растанні* [7, с.77]; *Песня – бурай, песня – лістам. Песня – сонцам у акно* [2, с.91].

Займеннікавая анафара ўказвае на абагуленага лірычнага героя, суб'ект або аб'ект дзеяння, называе асабістыя адносіны аўтара выказвання да рэчаіснасці: *Ён тут жыве – сярод снягоў і пушчаў. Ён не са сцэны любіць і пяе* [2, с.146]; *Хто падсек рабіну маладую? Хто не пасадзіў сваёй грады?* [3, с.50]; *Цябе люблю, патрыярхальны плуг, Цябе – у страшным космасе, ракета* [3, с. 25]; *Чый светлы цень гукаецца ў бярозе, Чыё не ўстала з попелу сяло?* [3, с. 46].

Дзеяслоўная анафара паказвае высокую ступень значнасці дзеяння або працэсу, перадае інтэнсіўнасць яго праяўлення: *Ідзе салдат з вайны. Ідзе ён цёмнай ночанькай, Ідзе спякотным днём…* [2, с.126]; *Будзе сон трывожны і адхланне. Будзе падаць рэўнасці шкала. Бласлаўляю сонечнае ззянне .. Вуснамі – да вусця і святла* [3, с. 28].

Ад'ектыўная анафара акрэслівае якасць прадмета, яго істотную ўласцівасць або прыналежнасць: *Белы воблак. Белы сад. Белы бусел – снегападам. ...Гэтай вёсачцы на спад, Ці шумець ёй дзікім садам?* [3, с. 34]; *Лірнікаў голас – не звянуў! Лірнікаў час – не прабіў* [3, с. 103].

Адвербіяльная анафара ўзмацняе акалічнасны дэтэрмінант пры дзеяслове, падкрэсліваючы месца, час або спосаб, ступень праяўлення дзеяння: *Дзе час былы з паводкай весялосці, Дзе шчыры поціск вернае рукі?* [3, с. 75]; *Тут горача, бы ў мліва. Тут мармуровы абеліск, Тут брацкая магіла.* [2, с. 139]; *Там дзецюкі аршынныя, Там сваціейкі гудуць...Там дзеўкі з Харашылава Ў Залюбічы ідуць!* [3, с. 43]; *Яшчэ малюся труднай долі, Яшчэ звініць мой лёгкі смех... Як сіне лён цвіце на полі! ... Як белатою слепіць снег!* [3, с. 183].



Арыгінальнай і даволі рэдкай з'яўляецца гукавая анафара – паўтарэнне пачатковых гукаў: *Бязбожны дзень плыве і тае, Букет нагадвае свячу. Яна мяне не дапытае. Я з ёю – думна памаўчу* [3, с.134]; *Снег спявае калыханку, .. Сцеражэ тваю буслянку* [3, с. 23]. Гукавая анафара можа спалучацца з алітэрацыяй, паўтарэннем аднолькавых зычных гукаў, ствараючы выразны гукапісны малюнак: *Сышліся бур і стрэлаў стрэлкі, Спытаюся: чый ход канём?* [3, с. 138]; *Грозны гром над сцежкай пасваволіць, Град нязваны грады пасячэ* [3, с. 141].

Строфная або сінтаксічная анафара, пры якой у пачатку радкоў паўтараюцца аднолькавыя ці раўназначныя сінтаксічныя канструкцыі, прыводзіць да поўнага структурнага паралелізму, які праяўляецца ў аднолькавай пабудове суседніх сказаў: *«Я вас люблю» – няма каму сказаць? А мне ў любві да скону не змыліцца: Я вас люблю, лясы і сенажаць, Старая вёска, новая сталіца* [3, с. 24]; *Гэта любоў! І няма ёй спатокі. Гэта любоў! І няма ёй віны* [5, с. 157]; *Ні адной слязы не закіпела, Ні адной прыпеўкі не ўзышло* [4, с. 214]; *Пакуль яшчэ зялёная зямля Трымае нас па міласці закона, Сынок і Маці – зерне і ралля. Сынок і Маці – мудрая ікона* [3, с.166]; *А свет ізноў – спакусы ды інтрыгі, А свет ізноў на вастрыні падзей* [3, с. 96].

Анафара, такім чынам, выконвае ў паэтычным маўленні Я.Янішчыц важную структурна-семантычную і экспрэсіўную функцыю – садзейнічае лагічнаму, паслядоўнаму разгортванню думкі, упарадкаванню слоўнай пабудовы тэксту і ўзмацненню яго эмацыянальнага гучання.

Даволі часта ў вершах Я. Янішчыц сустракаецца **падваенне** – фігура маўлення, заснаваная на паўтарэнні адных і тых жа слоў або словазлучэнняў для іх лагічнага выдзялення:

Выкарыстанне падваення садзейнічае стварэнню эфекту працягласці і шматразовасці падзей, іх разнастайнасці, а таксама насычанасці з'яў, інтэнсіўнасці дзеянняў. Падваенне можа займаць розную пазіцыю ў сказе – у пачатку: *Знікаю, знікаю з усмешкай на тварах лісліва*х [7, с. 47] , сярэдзіне: *Таму і жыць, і жыць мне тут заўсёды* [7, с. 30] або ў канцы сказа: *Жывая ты і мёртвая, Лагодная і цвёрдая, І ўся, і ўся – мая!* [6, с.39].

Паўтараюцца розныя часціны мовы. Падваенне назоўнікаў садзейнічае лагічнаму выдзяленню суб'екта або аб'екта дзеяння: *Я*

*музыкі, я музыкі малю* [4, с. 92]; *Рады, радочкі, ані слоўка лішняга* [4, с. 48]; падваенне прыметнікаў падкрэслівае характарыстыку прадмета: *Яшчэ зялёны дзень, яшчэ зялёны Разбег вясны на маладым ствале* [2, с.239]; падваенне дзеяслова ўзмацняе названае дзеянне: *Плыві, плыві, празрыстая рака!* [4, с. 61]; *Помню, помню праз гады* [6, с. 36].

Падваенне можа быць бяззлучнікавае: *Нашто, нашто трымаць бяды цяжар* [4, с. 70] і злучнікавае: *А дождж нясхлынны, невідушчы Усё ліў і ліў, нібы з вядра* [6, с.74]. Выкарыстанне злучніка пры падваенні ўзмацняе эфект працягласці дзеяння.

Цікавым і разнастайным у вершах Я. Янішчыц з'яўляецца так званы **частковы паўтор** – паўтор аднакаранёвых слоў або афіксаў. Найбольш частыя і разнастайныя каранёвыя паўторы. У іх сумяшчаюцца вертыкальная і гарызантальная ўласцівасці тэксту, спалучаюцца парадыгматычная і сінтагматычная характарыстыкі моўных адзінак. Паводле пазіцыі і размяшчэння ў паэтычным радку яны бываюць кантактныя і дыстантныя. Кантактныя паўторы, акрамя звязнасці, выконваюць ролю ўзмацнення сэнсу і ідэйнай значнасці паўтораных слоў: *А вечарам, на схіле зоркі, Прымроіцца ў пустым акне, Што клічаш ты не цень мой горкі, А з жыта – жытнюю! – мяне*[3, с. 176]; *На год паменеў дзень, Ды стаў яшчэ выразней. А цененькі мой цень Перад табой, што вязень* [2, с. 139]; *Бы па снезе іду басанож – Скрушна сцелецца сцежка ў Прылукі* [2, с. 152].

Дыстантны паўтор выконвае ў першую чаргу функцыю звязнасці, ён аб'ядноўвае адасобленыя, размешчаныя на пэўнай адлегласці, адзінкі тэксту, спалучае іх паміж сабой, у выніку чаго ўзмацняецца іх значэнне і роля ў раскрыцці зместу маўлення: *Добры час. І добры лад. Дабрыня пасцелю сцеле* [2, с. 34]; З *сярпочкамі ды з віламі, З кажнюткага жытла – Тут вёсачка Цярпілаўка Спявала і жыла*[2, с. 43] ; *Снег іскрыўся і віхрыўся, Замятаючы сляды. Чарнавую ноч сляпілі Снегавыя матылькі* [2, с.124].

Вельмі разнастайнымі з'яўляюцца каранёвыя паўторы і паводле сваёй структурна-граматычнай характарыстыкі, якая дазваляе выдзеліць наступныя іх тыпы: паўтор аднакаранёвых назоўнікаў: *Даносчыкам да твару ліпкі бруд, Пры дапамозе іхняе брыднечы Выносіліся словы, як прысуд* [2, с. 56] ; *Віна з маной, з фарцоўкаю – няпраўда І з чамярыцай чэмер пад руку*? [2, с. 52]; назоўніка і прыметніка: *То буслікі на розуме, то гусі, То сціплы ўзор радзімага радна* [2, с. 49] ; *Узвейны ветрык легкавейны, Пакажа сцежку напрасткі* [2, с. 41] ; назоўніка і дзеяслова: *Звіняць гадоў званы: Да каласочка колас. Між мудрай гаманы Ваш чую голас* [2, с. 98]; *Ляціць ракета. І лятун. Усім хапае месца* [2, с. 54]; назоўніка і дзеепрыметніка: *Гамоніць Палессе. Гудзе Панямонь. Шугае дубняк адубелы* [2, с. 65]; *Бор чарніцамі зачэрнены І мадзеюць мурагі* [3, с. 151]; назоўніка і дзеепрыслоўя: *А ў наступ шлі адны, бадай што пешкі, Апешыўшы шаноўных гледачоў*[2, с. 54]; назоўніка, прыметніка і дзеяслова: *Нібы старонку перагортваю Жыцця назад. І раніць слых. Жывуць, жывуць у сэрцы мёртвыя, Іх, можа, болей, чым жывых* [2, с. 120].

У асобную групу мэтазгодна вылучыць ужыванне аднакаранёвых вытворных слоў з рознымі прэфіксальнымі і суфіксальнымі элементамі. У іх ліку дзеяслоўныя намінацыі: *Тут, дзе ласкава паверанць на слова, Але праверанць затым на плячо* [2, с. 58]; *Не пакахаўшы, адкахалі І толькі песняю жылі?!* [2, с. 58], субстантыўныя: *Франтавікі, Баяны, аднасельцы, Насельнікі аблок і гарадоў...*[ 2, с. 46]; *Ні спачуванняў тых, ні перашкоды, Ні адчування смутку, ні віны* [2, с. 22].

Па-майстэрску выкарыстаны каранёвы паўтор садзейнічае ў многіх выпадках раскрыццю ўнутранай формы слова, ужо страчанага ў мове або забытага першапачатковага значэння каранёвай марфемы: *Відаць, ад жалю, ад жалейкі Было з'явіцца мне на свет. Жыву. Не жалюся* [2, с. 86].

Працэс «ажыўлення» ўнутранай формы паэтэсай – гэта ў многіх выпадках мастацкае збліжэнне сэнсу сугучных слоў, якое выклікае пэўныя асацыяцыі паміж імі і садзейнічае актуалізацыі іх значэння: *Жураўы гуртуюцца журліва, І чарнее корань у сасны..* [2, с. 60]; *Прадзеда світка ці слова світае? Гэта агонія а ці агонь:* [3, с. 207]; *Шаломам шалаша Атуліцца давер. А я да вас ішла Па міласці, уверх* [3, с. 231].

Аўтарскія пошукі найбольш ёмістай формы выражэння мастацка-вобразнага сэнсу паэтычнага радка часта набліжаюцца да «гульні» слоў. Асабліва гэта паказальна пры супастаўленні апелятыўнай і анамастычнай лексікі: *Ці не Ваша выслалася поле Зеляное, як палын-віно, Ад балады віцебскай, ад болю, Ад сяннога гарадка Сянно* [2, с. 106]; *Якое дзіўнае сугучча У сонца, росаў і Расон*! [2, с. 111]; *Нацяты нервы сэрцаў і планет. І новы ўжо Раскольнікаў бунтуе. На астраўкі расколваецца свет. Якая ж прыгажосць яго ўратуе*? [2, с. 44].

Адным з відаў частковага паўтору з'яўляецца афіксальны, як правіла, прэфіксальны, паўтор. Гэты від паўтору актуалізуе значэнне афіксальных марфем, дазваляе супаставіць словы з блізкім словаўтваральным афармленнем, садзейнічае рытмізацыі маўлення, яго сэнсавай і гукавой выразнасці. Найчасцей у ім удзельнічаюць словы з аднатыпным граматычным афармленнем – назоўнікі: *Зноў праплываюць у змене дзён **Пры**боркі, **Пры**сухі, **Пры**лукі* [2, с. 40]; *Не тыя, не тыя – **да**жынкі, **да**коскі. І рук не хапае, і хлудзяць дажджы* [2, с. 50]; *Няхай*

*цябе не мучыць, Хай лепшаму навучыць **Раз**двоенасць, **Рас**слоенасць, **Рас**плаўленасць душы* [3, с. 173]; *Гэта ўсё – як праз лісце і дождж: **Пера**звоны гадоў, **пера**стукі* [2, с. 152]; дзеясловы: *І **за**пячэ, і **за**шчыміць, Як рана нажавая, У грозных водблісках зарніц Пара любові й жалю* [2, с. 76]; прыметнікі: *Не боль, не гром і не разлука, А – **на**балелая вышынь, А – **на**грымелая трывога, А – высакосная ў цішы Незацугляная дарога* [2, с. 79].

Выкарыстанне пры афіксальным паўторы слоў з рознай часцінамоўнай прыналежнасцю ўзмацняе ступень выяўленчай выразнасці, паколькі адначасова накіравана на розныя граматычныя класы слоў. Гэта, як правіла, назоўнікі і дзеясловы: ***Пра**біваецца праз першае лісце **Пра**зрыстасць думак і гукаў **пра**зрыстасць...* [2, с. 7]; *На паверцы стаім, на **пра**верцы, Растапляючы камень і лёд. І **пра**свечваюць нашыя сэрцы Каліноўскі. Купала. Народ* [2, с.113]; *Гэта ўсё – як праз дзіўныя сны: Не было ж ні сустрэч, ні разлукі. Ды ў зялёным канверце вясны **Пры**сылалі мне сонца **Пры**лукі* [2, с. 152] .

Узмацненню выяўленчай выразнасці паэтычнага слова Я. Янішчыц садзейнічае часта ўжываемы ёю **полісіндэтон** або шматзлучнікавасць – выкарыстанне аднаго і таго ж злучніка перад кожным аднародным членам сказа. Шматзлучнікавасць дапамагае звязаць аднародныя члены сказа і сказы ў сінтаксічнае адзінства і разам з тым выдзеліць, размежаваць іх паміж сабой. Гэта запавольвае тэмп паэтычнага выказвання, надае яму ўзнёсласць і выразнасць: *О, як трывожна ў свеце І сэрцу, і вачам! І нетутэйшы вецер Зрывае плашч з пляча* [7, с. 163]; *І нам не сорам пры народзе. І дзякуй богу, што былі І не зваліся ў нашым родзе Аратыя і кавалі* [7, с.151].

Полісіндэтон адыгрывае важную архітэктанічную ролю ў тэксце, яго функцыянальнае значэнне залежыць ад граматычнага значэння злучаемых членаў сказа. Так, калі злучнікі звязваюць паміж сабой аднародныя выказнікі, яны перадаюць працягласць дзеяння або яго замаруджанасць, запаволенасць, а таксама інтэнсіўнасць, разнастайнасць: *Ён паглядзіць, ці не ўчарнелі рамы, Ці дзверы не рассохліся ў кватэры, Ці не рыпяць сасновыя масніцы, Ці ёсць для свята месца на куце* [5, с.23]; *Ён прайшоў агонь і вецер І зямлю прайшоў наскрозь. І жыве мой дзед на свеце, Дзед, які не любіць слёз.* [3, с.177]; *Пагас, патух мой ясны дзень,І росы выпалі на травы, І пахне восенню гаркавай…* [2, с.256].

Шматзлучнікавасць пры аднародных дзейніках або дапаўненнях надае выказванню інтанацыю пералічэння, паказвае шматлікасць, разнастайнасць з'яў: *І густыя туманы, І бярозак мроіна; І Вясна, што без віны Маё сэрца кроіла* [4, с.7] *Бо тут усё сваёй хадою: І першы ліст, і першы гром, І певень з поўняй маладою, І Камарыха з Камаром* [6, с. 13].

Паўтор злучнікаў пры аднародных членах сказа ў вершах Я.Янішчыц найчасцей з'яўляецца анафарычным, што ўзмацняе інтанацыю пералічэння, стварае ўражанне бясконцасці разнастайных з'яў і дзеянняў. Злучнікавая анафара ўтварае рад кампанентаў, адкрыты для ўключэння іншых з'яў, незавершанасць якога графічна абазначаецца шматкроп'ем: *Цётка Ліда Саўчукова, Твой дасціпны жарт нашу І – калі шукаю слова, І – калі яго пішу, І – калі ў жыццёвай прозе Апускаю рукі ніц…* [2, с. 256].

Функцыянальна блізкім да шматзлучнікавасці з'яўляецца **шматпрыназоўнікавасць** – фігура маўлення, заснаваная на паўтарэнні перад аднароднымі членамі сказа аднолькавых прыназоўнікаў, якая надае кантэксту ўзмоцненую эмацыянальнасць і садзейнічае экспрэсівізацыі выказвання.

Паўтор прыназоўнікаў, як і злучнікаў, дазваляе аўтару выдзеліць асобныя словы, падкрэсліць іх значэнне, засяродзіць на іх увагу чытача: *Тры жанкі перайшлі мне дарогу З хлебам, З песняй, З зялёным вінам* [2, с.129].

Шматпрыназоўнікавасць, як і іншыя віды паўтору, садзейнічае таксама рытмізацыі маўлення, яго сістэмна-структурнай арганізацыі: *На шырыні, на дабрыні, На пункціках алоўка, Рабілі бочачку два дні, Стругалі дошкі лоўка* [3, с. 161].

Паўтор прыназоўнікаў можа спалучацца з паўторам злучнікаў або часціц, утвараючы такім чынам парны паўтор службовых слоў, якія ўзмацняе выдзяляльнае значэнне: *Ні ў поля вольнага, ні ў гаю, Ні ў зор, ні ў сноў, ні ў лугаўя Я ў аднаго цябе пытаю, Якая я* [4, с. 185].

У складзе гэтай фігуры выкарыстоўваюцца розныя прыназоўнікі – «за»*: За рухам дня не назіраю, За прывідам удачы не лячу, А на давер адказваю работай І за любоў – работаю плачу* [5, с. 190]; «з»: *З сяпочкамі ды віламі, З кажнюткага жытла* [7, с. 285]; «аб»: *Аб тым сакрэце мне не гаварыце: Аб самым-самым – допыту няма!* [7, с. 285]; «ад»: *Ад балады віцебскай, ад болю, Ад сяннога гарадка Сянно* [4, с. 118]; «да»: *Ад промня – да тугі, Ад жалю – да ўсмеху* [5, с. 111]; «на»: *На гаражы, на лімузін,На іншародную выгоду,На апусцелы магазін З лірычнай шыльдаю «Прырода»* [5, с. 148].

Такім чынам, фігуры паўтору – канструктыўныя слоўныя фігуры, заснаваныя на паўтаральнасці моўных адзінак. Выкарыстанне гэтых фігур дапамагае лагічна выдзеліць суб'ект або аб'ект пэўнага дзеяння, дазваляе паказаць устойлівасць пэўных якасцей, нарастанне, паслядоўнасць, мэтанакіраванасць дзеяння, працяглыя аднатыпныя

адрэзкі часу, дае магчымасць паказаць узмацненне эмацыянальнага і псіхалагічнага стану.

Яны з'яўляюцца важным сродкам інтэнсіфікацыі паэтычнага маўлення, узбагачэння яго дадатковымі эмацыянальна-ацэначнымі значэннямі і павышэння ступені экспрэсіўнасці моўных адзінак.

*Спіс літаратуры*


1. Клюев, Е.В.Риторика: Учебное пособие для вузов / Е.В. Клюев – М.: Изд.-во ПРИОР, 1999. – 272 с.
2. Янішчыц, Я. Выбранае: Для ст. шк. узросту / прадм. М.І. Панковай / Я. Янішчыц.– Мінск: Выш. шк., 1998. – 237 с.
3. Янішчыц, Я. Выбранае / уклад. А. Канапелькі і В. Коўтун; прадм. Дз. Бугаёва / Я.Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 2000. – 351 с.
4. Янішчыц, Я. Пара любві і жалю: Кніга лірыкі / Я. Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 1983. – 223 с.
5. Янішчыц, Я. Каліна зімы: Кніга лірыкі / Я. Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 2008 с.
6. Янішчыц, Я. На беразе пляча: Лірыка / Я. Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 1980. – 96 с.
7. Янішчыц, Я. У шуме жытняга святла: Вершы, паэмы / Я. Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 1988. – 414 с.


УДК 811.161.3

**С.М.Струкава** (Мінск)

## ДА ІНТЭРПРЭТАЦЫІ ПРАЦЭСУ АМАНІМІЗАЦЫІ ЛЕКСЕМЫ *КЛЮЧ*

Вядомую ролю ў працэсах аманімізацыі адыгрывае такі лексіка-семантычны фактар, як разгалінавасць сэнсавай структуры слова. Сэнсы, якія ўтваралі раней адзіную канцэптуальную фігурацыю, могуць страчваць сувязь паміж сабой, што прыводзіць да сэнсавага дыскантынуума (перапыннасці) і ўтварэння дыскрэтнай сістэмы апазіцый.

Працэс распаду адзінства слова характарызуецца своеасаблівасцю семантычных суадносін зыходнага і вытворнага значэнняў. Сутнасць гэтай своеасаблівасці ў тым, што абодва гэтыя значэнні маюць агульны перыферыйны семантычны кампанент. Тэндэнцыі, якія дзейнічаюць у гэтым працэсе, вызначаюцца семантычнай «вагой» агульнага кампанента. Ім жа вызначаецца ступень разыходжання значэнняў, або іх аманімічнасці. У галіне лексічнай семантыкі важным з'яўляецца ўстанаўленне гэтага агульнага кампанента, што дазваляе вызначыць накірунак семантычнага развіцця полісемантычнага слова і ўтварэння



тых ці іншых аманімічных апазіцый. Разгледзім пытанне, звязанае з адасабленнем лексіка-семантычных варыянтаў слова *ключ*, што важна з пазіцыі ўдакладнення шляхоў яго семантычнай дэрывацыі і іерархічнасці яго значэнняў.

Старабеларускае слова *ключъ* мела разгалінаваную семантычную структуру, так ці інакш звязаную з зыходным значэннем: 1) 'ключ' (*згинуло дей у него.. шапъка куны подшыта.. ключи одъ скрыни*); 2) *перан*. 'доступ' (*дамъ я тобе ключи королевства небесного*); 3) 'дэталь агнястрэльнай зброі' (*гроковница съ ключемъ*); 4) 'умоўныя знакі для вылічэння па іх розных дат' (*о браню ключовъ, то естъ вязаня и розвязованя, теды вhдаемо зъ оного евангелія*); 5) 'крыніца' (*брат# мо# скривдили как поток «ко ключ потоковый простUпили*) [1, с. 130-131]. Акрамя таго, гэта слова дае ўяўленне аб спецыфіцы ранейшай сістэмы землеўладанняў, паколькі служыла назвай зямельнага ўладання, якое складалася з пэўнай колькасці вёсак, фальваркаў і ўгоддзяў: *даютъ имъ на страву по грошу на тыждень, а къ тому даютъ хлhбъ, горохъ и крупы, пиво съ ключа городового; Юнъдилу шуба лисья завыйковая изъ ключа Виленъского* [1, с. 131]. Так называлася і пасада адміністратара ключа, а таксама асоба, якая займала гэту пасаду: *ω роздаванье слUгамъ его врядовъ: городничого, конюшого, ключа, ловъчого* [1, с. 131]. Выраз *въ ключахъ быти* азначаў 'быць на пасадзе адміністратара ключа': *Данила.. который се менил быт родомъ з волости Могилевской, села з Коровчына, и в ключах у пана своего бывал* [1, с.130]. У старарускіх тэкстах сустракаюцца словазлучэнні *ключ сельский, ключ городской* – 'гэта тое, што ў вялікіх гаспадарках называлася службай па якой-небудзь са спецыяльнасцей, на якія распадалася буйная гаспадарка' [2, с. 576], а жыць у «ключе» ў XVI стагоддзі абазначала – 'знаходзіцца ў службе, працаваць на гаспадара' [2, с. 576], параўн. яшчэ выразы *держать ключ, с ключом ходить* – 'выконваць пасаду ключніка'. У «Слоўніку рускай мовы XI-XVII стст.» між іншых значэнняў слова *ключ*, якое валодала шырокім экстэнсіяналам ('ключ', 'руль, карміла', 'замок, засаўка', 'прыстасаванне, з дапамогай якога робіцца стрэл', 'цвік, гак', 'пункт, важны ў ваенных адносінах, авалоданне якім адкрывае доступ куды-н.', 'нотны знак', 'ключ граніц'), прыводзіцца «тэрытарыяльнае» значэнне – 'частка манастырскіх вотчын, якая складала ведамства аднаго манастырскага прыказчыка (ключніка)' [3, с.187].

*Ключ* 'зямельнае ўладанне' аўтары «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» разглядаюць як вытворнае ад *ключ* 'чарада птушак (гусей, жораваў і пад.)' [4, с. 73], што з'яўляецца памылковым з пазіцыі храналогіі гэтых ужыванняў: значэнне 'чарада птушак' больш позняе і

не знаходзіць фіксацыі ў старабеларускіх помніках пісьменнасці. Вытокі гэтага значэння дапамагае ўстанавіць ужыванне слова ў сімвалічнай функцыі.

Са старажытнага часу слова *ключ* служыла ўмоўным абазначэннем літар. Стараславянскай і агульнаўсходнеславянскай мовам вядомы такія спалучэнні, як *ключъ границъ*, або «ключевые буквы». Ключавыя літары – гэта літары славянскай азбукі, якія паказвалі на колькі дзён Пасха аддалена ад 21 сакавіка. Яны называліся ключавымі, таму што складалі як бы ключ да дакладнага ўстанаўлення дня Пасхі і мелі лікавую кадыроўку, напр.: а – 1; б – 2, в – 3 і г.д. (усяго літар-лічбаў было 35) [5, с. 253]. Дарэчы, гэтыя панаццi актуальныя і сёння. Паводле энцыклапедычнага даведніка «Хрысціянства», *ключ граніц* – гэта чысло дзён паміж днём 21 сакавіка і днём Пасхі (паколькі самая позняя Пасха бывае 25 красавіка, то ключ граніц можа дасягаць значэння 35). У так званай «відушчай Пасхаліі» ключ граніц абазначаецца замест лічбаў літарамі славянскага алфавіта. Для кожнага года вялікага індыктыёна даецца ключавая літара, па якой з іншай табліцы знаходзіцца дзень Пасхі, а таксама дні іншых, пераходных святаў, звязаных з ёй [6, с. 314].

У сувязі з тым, што такі ключ складаўся з некалькіх, шэрагу лічбаў, магчыма, што на аснове гэтай інварыянтнай семы ‘некалькі, шэраг’ адбыўся перанос на аб’ект рэчаіснасці – землеўладанне, якое складалася з пэўнай колькасці вёсак, фальваркаў, угоддзяў. Паводле звестак М. Гарбачэўскага, ключ заключаў у сябе некалькі вёсак, больш ці менш сумежных [7, с. 181]. На ключы дзяліліся каралеўскія эканоміі, напрыклад, Гродзенская эканомія ўключала ў сябе 22 ключы [5, с. 253; 7, с. 181]. Такім чынам, словы *ключ* ‘умоўнае абазначэнне літар’ і *ключ* ‘землеўладанне’ звязаны адносінамі семантычнай дэрывацыі праз ступень ‘прынцып размеркавання чаго-н’.

У выніку далейшага семантычнага развіцця слова *ключ* набыло новыя значэнні нетэрміналагічнага характару: ‘нотны знак’, ‘верхні камень, якім заканчваецца арка’, ‘чарада птушак’, апошняе знаходзіцца ў эпідыгматычнай сувязі з гістарычнымі значэннямі ‘ўмоўныя знакі літар’, ‘зямельнае ўладанне’. Зыходзячы з неаднароднасці значэнняў сучаснага слова *ключ* лексікографы вылучаюць наступныя аманімічныя структуры: *Ключ*$^{1}$ – ‘металічная прылада для адмыкання і замыкання замка’, ‘прылада для завінчвання і адвінчвання гаек, адкаркоўвання чаго-н., для заводкі чаго-н. і пад.’, (*перан.*) ‘тое, што служыць для разгадкі, разумення каго-, чаго-н., для авалодання чым-н.’, *Ключ*$^{2}$ (спец.) – ‘знак у пачатку нотнага радка, які вызначае вышыню нот’, *Ключ* $^{3}$ – ‘чарада птушак (гусей, жыраўлёў і пад.) у палёце’; *Ключ*$^{4}$ (спец.) – ‘верхні камень, якім заканчваецца арка, скляпенне’, *Ключ*$^{5}$ – ‘крыніца’ [8, с. 294]. Адзначаныя аманімічныя структуры знаходзяцца ў этымалагічнай сувязі паміж сабой, выключэнне можа складаць, відавочна, толькі пяты амонім, паходжанне якога не зусім яснае. Параўн. семантыку слова ў іншых славянскіх мовах: славен. *kl’uč* ‘ключ’, тэхн. ‘гаечны ключ’, ‘скрыпічны ключ’ [9, с. 193], серб. і харв. *кључ* ‘ключ’, ‘ваенная ключавая пазіцыя’, ‘выгін ракі’, ‘крук для сена’, ‘рычажок (на духавых інструментах)’ [10, с. 211], польск. *klucz* ‘ключ’, ‘ключ; код’, ‘ключ, вызначальнік’, ‘касяк, чарада’, ‘звяно’, ‘прынцып размеркавання чаго-н.’, уст. ‘маёмасць, вотчына, уладанне’; муз. *k. basowy* ‘скрыпічны ключ’, арх. *k. sklepienia* ‘ключ скляпення’ [11, с. 324]. Значэнні польскага слова *klucz* ‘код’, ‘прынцып размеркавання’, ‘касяк’ суадносяцца са старажытнымі значэннямі старабеларускага слова ‘ўмоўнае абазначэнне літар’, ‘уладанне’, якія, напэўна, былі вядомы і старапольскай мове, хаця «Słownik staropolski» фіксуе *klucz* толькі як ‘ключ музычны’ і ‘інструмент, гак (рознага прызначэння)’ [12, с. 288].

Такім чынам, паступовае ўзбагачэнне слова шматлікімі значэннямі ў працэсе яго гістарычнага развіцця, з аднаго боку, і выхад з ужытку гістарычна абумоўленых значэнняў, з другога, можа выклікаць разбурэнне тоеснасці слова і садзейнічаць утварэнню амонімаў у выніку семантычнай дывергенцыі.

*Спіс літаратуры*


1. Гістарычны слоўнік беларускай мовы / склад. А.М.Булыка [і інш.]; рэд. А.М.Булыка. – Мінск: Беларуская навука, 1996. – Т.XV. – 311 с.

2. Греков, Б.Д. Крестьяне на Руси с древнейших времён до XVII в. / Б.Д. Греков. – Москва-Ленинград: Издательство Академии наук СССР, 1946. – 959 с.

3. Словарь русского языка XI – XVII вв. / Рос. АН, Ин-т яз. – Москва: Наука, 1980. – Вып.VII. – 403 с.

4. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / НАН Беларусі; Інт-т моваўнаўства – Мінск: Беларуская навука (Навука і тэхніка), 1989.– Т.V. – 320 с.

5. Дьяченко, Г. Полный церковнославянский словарь / Г.Дьяченко. – Репринтное воспроизведённое издание 1900 г. – Москва: Отчий дом, 2000. – 1120 с.

6. Христианство: энциклопедический словарь. В 3-х т. / редкол. С.С.Аверинцев (гл. ред.), А.Мешков. – Москва: Науч. изд. «Большая Рос. энц.», 1993.– Т.II. – 670 с.

7. Горбачевский, Н.И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского / Вильно, 1874./ N.I.Gorbačevskij. Wörterbuch der alten Urkundensprache des Grosfürstentums Litauen und des Königreichs Polen. – München: Verlag Otto Sagner, 1992. – 397 с.

8. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / рэд. М.Р.Суднік, М.Н.Крыўко. – 3-е выд. – Мінск: Бел. энцыкл. імя П.Броўкі, 2002. – 783 с.

9. Rusko-slovenský – Slovensko-ruský slovník / Русско-словацкий – Словацко-русский словарь / Maria Filkusova, Dezider Kollár.– Bratislava: Slovenské, ped. nakl-vo; Москва: Русский язык, 1988. – 368 s.
10. Сербскохорватско-русский словарь / И.И.Толстой. – 7-е изд. стереотипное. – Москва: Рус. яз., 2001. – 731 с.
11. Гессен, Д. Польско-русский словарь. В 2 т. / Д. Гессен, Р. Стыпула. – Москва-Варшава: Рус. яз., 1988. – Т.I. – С. 830.
12. Słownik staropolski / PAN. Inst. jezyka pol.; Kom. red. Stanislaw Urbanczyk. – Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk: Inst. jezyka pol. PAN, 1955. – T.III.– 320 s.

УДК 811.161.3

**Станіслаў Суднік** (Ліда)

## БЕЛАРУСКАЯ СІСТЭМА СТЭНАГРАФІІ

Стэнаграфія – гэта хуткапіс асаблівымі знакамі, такімі кароткімі, што імі можна запісаць жывую мову. У кнігу рэкордаў Гінэса ўнесены паказчык максімальна дасягнутай хуткасці стэнаграфіі – 173 словы ў хвіліну.

Тэрмін паходзіць ад грэчаскіх словаў ***stenos*** – *вузкі* і ***grapho*** – *пішу*.

Яшчэ ў старажытным Егіпце было заўважана: час, які ідзе на стварэнне іерогліфа, значна большы, чым той, што ідзе на вымаўленне слова. Таму яшчэ ў Егіпце пачалі выкарыстоўваць спрошчаныя іерогліфы, каб наблізіць тэмп пісьма да хуткасці маўлення.

Далейшае развіццё хуткапісу адбываецца ў Грэцыі і Рыме. Аўтарам старажытнага рымскага хуткаснага пісьма лічыцца Тырон.

Лацінскі хуткапіс называўся «тыронавымі нотамі» (*nota* – па латыні – *знак*).

Сам тэрмін «стэнаграфія» ўведзены ў Англіі ў 1602 г. Дж. Уілісам. Да XVII ст. існавала да 3000 розных знакаў. Затым пайшлі працэсы скарачэння іх колькасці.

У кірыліцкім пісьме элементы хуткапісу ўжываліся ледзь не ад моманту яго ўзнікнення.

Адна з першых кнігаў па рускай стэнаграфіі выйшла ў 1820 г. у Пецярбургу. Называлася яна «Графодрамия или Искусство скорописи», аўтар М.А. Корф.

У 1858 г. выйшла кніга М.І. Іваніна «О стенографии и применении её к русскому языку». У 1860 г. сістэма Іваніна была апрабавана на практыцы.

М.М. Сакалоў на аснове тэарэтычнага і практычнага параўнання сямі лепшых сістэм стэнаграфіі ўдасканаліў рускую сістэму. Яго метад заснаваны на вывучэнні біяхімічных заканамернасцяў пісьма з улікам частотнасці літар і марфемаў ў звычайным пісьме.

Да расійскіх рэвалюцый 1917 года веданне стэнаграфіі прыраўноўвалася да ведання замежнай мовы.

У 1933 годзе савецкім урадам было прынята рашэнне аб дзяржаўнай адзінай сістэме стэнаграфіі. Яе вучылі ў школах і ВНУ. У пасляваенныя гады савецкая адзіная сістэма стэнаграфіі была распаўсюджана на большасць краінаў сацыялістычнага лагеру. У 1976 годзе сістэма Сакалова была прынята ў Польшчы.

Пасля вайны 1939-1945 гг. стэнаграфію, як правіла, выкладалі на курсах, у прыватнасці пры дамах афіцэраў, а таксама на завочных курсах.

У СССР адзіная сістэма існавала да 1991 г. Пасля распаду СССР у новых самастойных краінах стэнаграфія пайшла сваімі шляхамі.

Заканадаўцамі моды ў Беларусі сталі спецыялісты блізкія да БДУ і ў першую чаргу Ніна Іванаўна Круглова. У аснове беларускай рускамоўнай сістэмы стэнаграфіі ляжыць усё тая ж сістэма Сакалова.

У канцы XX – пачатку XXI стагоддзя для запісу беларускамоўных тэкстаў прымянялася руская сістэма стэнаграфіі.

Уласна беларуская сістэма стэнаграфіі на аснове сістэмы Сакалова выкладаецца ў Беларусі з 2004 года.

27 верасня 2009 года на паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ у Менску быў прэзентаваны першы ў гісторыі навучальны дапаможнік па стэнаграфіі на беларускай мове. Аўтар Станіслаў Суднік. Навуковы рэдактар доктар філалагічных навук, прафесар Павел Сцяцко. 224 ст. 250 асобнікаў.

Гэты навучальны дапаможнік стаўся вынікам нарады на кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, якая адбылася пад старшынствам доктара філалагічных навук, прафесара Паўла Сцяцко ў пачатку 2004 года.

На нарадзе канстатавана, што без беларускай сістэмы стэнаграфіі беларуская лінгвістычная сістэма няпоўная, і разгледжана пытанне пра яе неабходнасць і актуальнасць. Было вырашана новую сістэму стэнаграфіі не ствараць, а прыстасаваць да беларускай мовы добра распрацаваную і эфектыўную сістэму М.М. Сакалова, якая ляжала ў аснове адзінай сістэмы стэнаграфіі СССР і ляжыць у аснове рускамоўнай сістэмы стэнаграфіі Беларусі.

У ходзе працы над беларускай сістэмай стэнаграфіі былі прааналізаваныя Адзіная сістэма стэнаграфіі СССР, адна з сістэм стэнаграфіі Расіі, сістэма стэнаграфіі Польшчы. Быў зроблены запыт у

Акадэмію навук Украіны і атрыманы адказ, што ўкраінскай сістэмы стэнаграфіі не існуе.

Падчас працы рэалізоўваліся два асноўныя прынцыпы:

1) як мага больш ашчадна падысці да сістэмы Сакалова;

2) як мага больш поўна ўлічыць асаблівасці беларускай лінгвістычнай сістэмы.

Распрацаваная сістэма – вынік кампрамісу паміж гэтымі двума прынцыпамі.

Выпрацаваная сістэма на працягу трох гадоў праходзіла апрабацыю ў Лідскім каледжы, у выніку апрабацыі была праведзена даводка сістэмы і пацверджана яе лагічнасць і завершанасць. У дапаможніку ўлічаны таксама досведы сямігадовага выкладання аўтарам рускай сістэмы ў іншых навучальных установах, а таксама правядзення аглядных заняткаў па польскай сістэме.

Беларуская сістэма стэнаграфіі дазваляе дасягаць тых жа паказчыкаў хуткасці і чытабельнасці, як і руская.У кожным канкрэтным выпадку гэтыя паказчыкі залежаць выключна ад досведу і навыкаў канкрэтнага стэнаграфіста.

Асноўныя праблемы, якія ўзніклі і былі вырашаны пры адаптацыі сістэмы Сакалова да беларускай мовы.

1. У раздзеле «Алфавіт» вырашаліся наступныя праблемы:

а) Праблема знака ***дз***. Гук [***дз***] шырока ўжываецца ў беларускай мове. Аднак напісанне яго традыцыйным дыграфам ***д+з*** выклікае значныя цяжкасці. Знак ***д*** – малы знак правага авароту, знак ***з*** – малы знак левага авароту. Злучэнне іх вядзе да ўтварэння знака сярэдняга паміж малым і вялікім, што не карэктна, паколькі знакі такой велічыні не прадугледжаны па азначэнні. Таму ўведзены новы адзінарны знак для абазначэння дыфтонга ***дз***. Уведзены знак – аднамерны знак правага авароту, зручны для ўваходу ў яго і для выхаду з яго.

б) Праблема знака ***ц***. У адрозненне ад рускай мовы, дзе [***ц***] толькі цвёрдае, у беларускай мове ў [***ц'***] пераходзіць [***т'***]. Таму напісанне ***ц*** у беларускай сістэме па аналогіі з ***ц*** ў сістэме рускай, г.зн. з выкарыстаннем складанага падлінейнага знака не ўяўляецца мэтазгодным (хаця палякі не сталі нічога мяняць). Уведзены новы знак, блізкі па спосабу напісання да знака ***т*** – г.зн. малы знак, але пашыраны да адной меры. Увядзенне такога знака значна спрашчае напісанне вялікай колькасці беларускіх слоў.

в) Праблема знака ***дж***. Гук [***дж***] ужываецца вельмі рэдка. Таму для яго магчыма выкарыстаць любы вольны складаны знак. У нашым выпадку выкарыстаны падлінейны знак. Можна было спыніцца і на дыграфе ***д+ж***, але тады аднолькава пісаліся б і ***дж,*** і ***даж***, што не пажадана.

г) Праблема галоснай ***ё***. У рускай сістэме галосная ***ё*** знаходзіцца на стадыі «выраджэння» і далучана да пары галосных э-е. У беларускай сістэме ***ё*** **-** паўнавартасная галосная. Таму ў беларускай сістэме ***ё*** знаходзіцца ў пары з галоснай ***о***.

д) Праблема «паўгалоснай» ***ў***. У рускай, польскай і іншых мовах ***ў*** няма, таму ў сістэмах стэнаграфіі гэтых моў напісанне ***ў*** не можа разглядацца і не разглядаецца. Але ў гэтых мовах ёсць «паўгалосная» ***й***, і напісанне ***й*** прапрацавана. Таму ў беларускай сістэме напісанне ***ў*** прапрацавана па аналогіі з напісаннем ***й***. З ***ў*** беларуская сістэма глядзіцца больш годна, чым усе іншыя. Адна «паўгалосная» ***й*** выглядае, як выключэнне. Дзве паўгалосныя ***й*** і ***ў*** выглядаюць як сістэма.

2. У раздзеле «Словаўтварэнне» вырашаліся праблемы:

а) Праблема выдалення з сістэмы злітных, пачатковых і канцавых знакаў, не характэрных для беларускай мовы (***вс***, ***ис-из***, ***ние-нание, тся-ться*** і інш.).

б) Праблема ўвядзення неабходных знакаў (***з-за***, ***сц, нне-нанне, цца*** і інш.).

в) Праблема пачатковага знака ***ня***. Гэтую праблему можна было не вырашаць, але сыходзячы з «Правіла лінейнага пісьма» мэтазгодна прымяніць да напісання часціцы ***ня*** прынцып напісання прыстаўкі ***за***.

г) Праблема замены сістэмы скарачэнняў для небеларускіх прыставак, прыназоўнікаў, займеннікаў і прыслоўяў на сістэму скарачэнняў прыставак, прыназоўнікаў, займеннікаў і прыслоўяў, характэрных для беларускай мовы.

3. У раздзеле «Стэнаграфаванне» разгледжаны спосабы скарачэння беларускіх словаў і словазлучэнняў, у тым ліку і ўстойлівых словазлучэнняў, характэрных толькі для беларускай мовы.

Створаны слоўнікі скарочанага напісання беларускіх слоў і словазлучэнняў.

Такім чынам створана беларуская сістэма стэнаграфіі. Сістэма прадстаўлена ў Інстытут беларускай мовы і літаратуры імя Янкі Купалы і Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Для надання сістэме афіцыйнага статусу яна павінна быць разгледжана і зацверджана ў Дзяржаўным камітэце па стандартызацыі.

*Спіс літаратуры*

1. Демачева, Ю.С. Стенография. – 2-е изд., перараб. и доп. / Ю.С. Демачева, К.М. Заранко. – М.: Высшая школа, 1991.

2. Задания для заочного обучения стенографии. Упрощенный вариант государственной единой системы. М. Министерство просвещения РСФСР. Государственные центральныя курсы заочного обучения стенографии «ГЗОС», 1970.

3. Круглова Н.И. Стенография: учебное и практическое руководство / Н.И. Круглова. – Мінск: ТетраСистемс, 1998.

4. Сцяцко, П.У. Уводзіны ў мовазнаўства / П.У. Сцяцко. – Гродна, 2001.

5. Ryszard Lazarski. Stenografia. Cz. 1. Panstwowe studium stenotypii i jezykow obcych w Warszawie. – Warszawa, 1983.

6. Tereza Lazarska, Ryszard Lazarski. Stenografia. Cz. 2. Panstwowe studium stenotypii i jezykow obcych w Warszawie. – Warszawa, 1983.

УДК 811.161.3 (07)

**З.М. Тамашэвіч** (Гродна)

## ДА ПЫТАННЯ ЎЗБАГАЧЭННЯ І АКТЫВІЗАЦЫІ СЛОЎНІКАВАГА ЗАПАСУ ВУЧНЯЎ ПАЧАТКОВЫХ КЛАСАЎ

Развіццё маўлення вучняў, іх маўленчых уменняў – галоўная задача навучання роднай мове ў пачатковых класах. У паняцце «развіццё маўлення вучняў» уваходзяць такія напрамкі: 1) выпрацоўка правільнага літаратурнага вымаўлення; 2) узбагачэнне і актывізацыя слоўніка вучняў; 3) праца са словазлучэннем і сказам; 4) праца над звязным маўленнем. Другі напрамак з'яўляецца прадметам нашага даследавання. Асаблівае значэнне гэтага напрамку ў тым, што ў слове «…ажыццяўляецца сувязь гукаў і марфем, мовы і маўлення і якое з'яўляецца асновай, будаўнічым матэрыялам для ўтварэння словазлучэнняў і сказаў» [1, с. 101] Мэтай развіцця слоўніка вучня з'яўляецца: а) засваенне вучнямі новых слоў; б) удакладненне значэння вядомых слоў; в) знаёмства вучняў з мнагазначнымі словамі, сінонімамі, антонімамі, амонімамі; г) актывізацыя слоўніка. Засваенне новых слоў адбываецца чалавекам напрацягу ўсяго жыцця. З'явіўся новы прадмет, з'ява – пачынае гучаць новае слова. Так, напрыклад, дзесяць – пятнаццаць гадоў таму назад мала хто ведаў, што такое мабільнік, блютуз, дыскета, дыск, SMS (Short Messag Sevis – служба кароткіх паведамленняў). Цяпер жа кожны школьнік можа патлумачыць лексічнае значэнне гэтых слоў. Для беларускіх слоў складаная справа – дайсці да свядомасці вучняў, якія вучацца ў рускамоўных школах. Усе прадметы на рускай мове вывучаюцца, на перапынках – на рускай размаўляюць, дома чуюць толькі рускую мову, тэлебачанне таксама перайшло амаль на рускую мову. І толькі 3 гадзіны ў тыдзень вучні могуць больш-менш чуць родную мову. Што можна сказаць настаўнікам наконт папаўнення слоўнікавага запасу на беларускай мове? Калі ласка, скарыстайце па максімуму гэтыя гадзіны! У першую чаргу, на кожным уроку трэба ўводзіць 3-4 новыя, незразумелыя для вучняў словы. Тлумачыць можна любым спосабам: зачытванне дэфініцыі з тлумачальнага слоўніка; паказ малюнка з выявай таго прадмета, які абазначаны словам; паказ дзеяння; падбор сінонімаў, антонімаў; падвядзенне слова да відавых ці родавых прымет; пераклад на рускую мову. Карысным лічыцца такое практыкаванне, як пераклад з рускай мовы на беларускую тых слоў, якія ўжо тлумачыліся на папярэдніх уроках. Напрыклад, словы *выставка*, *правда*, *снегирь*, *четверг*, *свет*, *пряник* вучні перакладаюць на беларускую мову, вучацца правільна вымаўляць іх і ведаюць лексічнае значэнне. Але каб не забылі іх і каб увесці гэтыя словы ў актыўны слоўнік, настаўнік ізноў запісвае іх на дошцы, а вучні паўтараюць, прыдумваюць словазлучэнні ці сказы з гэтымі словамі. Можна запісаць сказы, прапусціўшы гэтыя словы, а вучні з кантэксту зразумеюць, якое слова трэба ўставіць. Напрыклад: *У фае драмтэатра адкрылася … гродзенскіх мастакоў. Лепш горкая … , чым салодкая хлус*ня.

Цікавым і карысным прыёмам папаўнення слоўнікавага запасу з'яўляецца праца з тлумачальным слоўнікам. Па-першае, неабходна дабівацца, каб у кожнага вучня на стале быў слоўнік або выкарыстоўваць слоўнік, які даецца ў канцы прадручніка. Па-другое, на кожным уроку адводзіць 5-7 хвілін на работу са слоўнікам. Дзякуючы слоўніку(ам), вучні могуць пашыраць свой кругагляд, вучыцца дакладна ўжываць словы, авалодваць арфаэпічнымі, арфаграфічнымі навыкамі, павышаць культуру маўлення па-беларуску. Першае знаёмства са слоўнікам адбываецца ў 2 класе. Настаўнік павінен расказаць пра будову слоўніка, як ім карыстацца, хто аўтар(ы) слоўніка. Практыкаванні, якія патрабуюць наяўнасць тлумачальнага слоўніка:

1. Хто хутчэй знойдзе ў слоўніку значэнне слова ...?

2. Назавіце адным словам: вырабы са скуры або з іншых матэрыялаў, прызначаныя для нашэння на нагах (абутак); хлебны выраб з рэдкага цеста, спечаны на патэльні (блін); шматкаляровая дугападобная палоса на небе, якая ўзнікае ад пераламлення сонечных праменняў у дажджавых кроплях (вясёлка).

3. Злучыце словы з яго значэннем:

| | |
|---|---|
| Муляр<br>Пляткар<br>Гусляр | музыкант, які іграе на гуслях.<br>уладальнік млына або работнік у млыне. |

| | |
|---|---|
| Млынар | рабочы, які будуе што-н. з каменя або цэглы.<br>той, хто любіць пляткарыць. |

4. Растлумачце лексічнае значэнне слоў і праверце яго па слоўніку.

5. Выпішыце са слоўніка 3-4 памяншальна-ласкальныя назвы жывёл (напр.: ваўчок).

6. Адзначце словы, лексічнае значэнне якіх указана няправільна:

а) кашнэ – ваза для маскіроўкі кветкавага гаршка;

б) мястэчка – вялікае паселішча з некаторымі прыметамі горада;

в) пустазелле – дзікарослыя расліны, якія заглушаюць пасевы культурных раслін;

г) леташні – які мае адносіны да лета; звязаны з летам, адбываецца летам;

д) цагельня – адна штука цэглы.

7. Выпішыце мнагазначнае слова, якое мае 3 значэнні (2 значэнні).

Некалькі слоў неабходна сказаць пра мнагазначнасць. У маўленчай дзейнасці вучні даволі часта сустракаюцца з мнагазначнасцю, але не заўсёды ўсведамляюць яе. Настаўнік павінен звяртаць увагу вучняў на словы, якія маюць некалькі значэнняў, якія ўжываюцца ў прамым і пераносным значэннях. Дзеці павінны ўсвядоміць сутнасць пераноснага значэння, якое заключаецца ва ўласцівасці аднаго прадмета ці з'явы пераносіцца на другі прадмет ці з'яву на аснове падабенства ў чым-небудзь. Зразумець паняцце полісеміі ці мнагазначнасці змогуць вучні толькі назіраючы за словамі ў кантэксце, у сказах, у словазлучэннях. Калі мы запішам словазлучэнні *ўсмешка маці* і *ўсмешка вясны*, *востры нож* і *востры язык*, *мяккі дыван* і *мяккі характар*, вучні змогуць зразумець, у якіх выпадках словы *ўсмешка*, *востры*, *мяккі* ўжыты ў прамым значэнні, а ў якіх – у пераносным. Практыкаванні для знаёмства з мнагазначнымі словамі і для замацавання могуць быць разнастайныя:

1. Знайдзіце ў вершы слова, якое выкарыстоўваецца ў пераносным значэнні:

Па страсе і па градзе,
Сцежкамі, дарожкамі
Хмара шэрая ідзе
Дажджавымі ножкамі.

(Ідзе – рухаецца, перамяшчаецца. Хмара не можа хадзіць, значыць слова «ідзе» выкарыстана ў пераносным значэнні).

2. Прыдумайце тры сказы са словам *іголка* са значэннем а) прылада для шыцця; б) ліст хвойных дрэў і кустоў; в) тонкая калючка на целе некаторых жывёл. (Мама ўзяла іголку з ніткай і прышыла гузік. Сасновыя іголкі пахлі смалой. Вожык спалохаўся і скруціўся ў клубок, выставіўшы свае іголкі.)

3. Назавіце адным словам:

а) Падземная частка расліны, пры дапамозе якой яна замацоўваецца ў зямлі і атрымлівае пажыўныя рэчывы; частка зуба; частка слова без прыстаўкі і без суфікса. (Корань)

б) Музычны твор; від практыкаванняў у музыцы, у шахматах; накід да карціны, малюнка. (Эцюд)

в) Дарожны насып, аснова з каменя, жвіру; гладкая льняная тканіна асобага перапляцення; карціна мастака. (Палатно)

4. Утварыце словазлучэнні. Запішыце словазлучэнні з прамым значэннем слоў.

Скласці (дровы, ліст, кнігі, песню, рукі, галаву). Прыйсці (на ўрок, у галаву, на думку, да прытомнасці). Завесці (у лес, гадзіннік, размову, новыя парадкі).

5. Утварыце словазлучэнні і вусна растлумачце іх сэнс.

Высокі (рост, дом, голас). Мяккі (клімат, падушка, характар). Цёплы (адносіны, вада, світэр). Рэдкі (суп, лес, талент).

Гэтыя і іншыя практыкаванні будуць садзейнічаць глыбокаму засваенню праграмнага матэрыялу, даваць магчымасць вучням дакладна ўжываць пэўныя словы.

У праграме і ў падручніках адсутнічаюць патрабаванні і тэарэтычны матэрыял пра амонімы. Аднак словы, якія вымаўляюцца і пішуцца аднолькава, а маюць розныя значэнні сустракаюцца ў практыкаваннях падручнікаў для беларускамоўных і рускамоўных школ. Безумоўна, настаўнік павінен сказаць, што такія словы маюць вобразна-выяўленчыя магчымасці. Пісьменнікі, паэты, мовазнаўцы звяртаюць увагу на супярэчлівасць паміж формай і зместам гэтых слоў: гэта значыць, гучанне аднолькавае, а сэнс – розны. Таму ў розных вершах, загадках, гульнях выкарыстоўваюць амонімы. Можна даць вучням сказы, у якіх выкарыстаны амонімы: «Неўзабаве *падарожнікі* каля лесу зрабілі прывал. Раса блішчала і на *падарожніку* на сцежцы». Трэба спытаць, як разумець слова *падарожнік* у першым і ў другім сказе, паказаць, як у тлумачальным слоўніку падаюцца амонімы і мнагазначныя словы.

Практыкаванні для замацавання:

1. Знайдзіце ў тлумачальным слоўніку значэнні слоў *лісічка*$^1$-*лісічка*$^2$, *пагон*$^1$-*пагон*$^2$, *кіт*$^1$-*кіт*$^2$ і складзіце з імі сказы.

2. Адзначце радкі з амонімамі:

*1. аўсянка з маслам – аўсянка падробная да вераб'я;*

*2. расказваць байкі – коўдра з байкі;*

*3. скарынка хлеб – скарынка снегавой цаліны;*
*4. трапіць у мішэнь – трапіць у сад;*
*5. гасцінная гаспадыня – гасцінная сустрэча;*
*6. сшытак у лінейку – пастроіцца ў лінейку;*
*7. прыехаў пятага лютага – сустрэў лютага ваўка;*

Такія практыкаванні будуць садзейнічаць папаўненню слоўніка вучняў. Такім чынам, узбагачэнне і актывізацыя лексікі вучняў – адна з галоўных задач навучання мове. Цяжкасці ў рабоце над лексікай вядуць за сабою цяжкасці ў засваенні дзецьмі іншых тэм. Улічваючы ўзроставыя і псіхалагічныя асаблівасці малодшых школьнікаў, настаўнікі павінны выкарыстоўваць наглядны і займальны матэрыял пры вывучэнні лексікі беларускай мовы. Да кожнага ўрока настаўніку трэба падыходзіць творча, стымуляваць актыўнасць дзяцей цікавымі заданнямі і практыкаваннямі, увесь час сачыць за мовай дзяцей, яе граматнасцю і выразнасцю, ступенню насычанасці новымі словамі. Зразумела, што і мова настаўніка павінна быць эталонам правільнасці, змястоўнасці, дакладнасці і выразнасці.

*Спіс літаратуры*

1. Ляшчынская, В.А. Методыка выкладання беларускай мовы: вучэб. дапаможнік / В.А. Ляшчынская, З.У. Шведава. – Мінск: РІВШ, 2007. – С. 101.

УДК 811.161.3

**Т.І. Тамашэвіч**, **Т.С. Жукоўская** (Гродна)

## АБ СПРАДВЕЧНАСЦІ НЕКАТОРЫХ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫХ АДЗІНАК І ПОЛЬСКАМОЎНЫМ УПЛЫВЕ Ў СЯРЭДНЕВЯКОВЫ ПЕРЫЯД

Беларуска-польскія моўныя сувязі маюць даўнюю і працяглую гісторыю. Яны выкліканы сацыяльна-палітычнымі працэсамі, якія адбываліся пачынаючы з XIV ст.: ваенна-палітычны саюз Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ў Рэч Паспалітую, знаходжанне заходніх зямель Беларусі ў складзе буржуазнай Польшчы і інш. (Гл.: Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова. − Гродна, 2003. − С. 162). Лексічны ўзаемаўплыў сёння вывучаны адносна поўна, пра беларуска-польскія фразеалагічныя кантакты даследаванняў мала.

У артыкуле аналізуюца пазычанні з польскай мовы ў старабеларускі перыяд, калі фразеалагічны фонд беларускай мовы актыўна ўзбагачаўся іншамоўнымі адзінкамі: яны прама пазычаліся з суседніх моваў або пранікалі шляхам калькавання. У помніках пісьменства таго часу няцяжка выявіць фразеалагічныя стараславянізмы (*альфа и амега, сыпать бисеръ предъ свиньями, голосъ крычачого въ пустыни, око за око* і інш.), звароты лацінскага паходжання (*ipse facto, servus servorum Dei* і інш.). Больш складаным з'яўляецца вызначэнне фразеалагічных паланізмаў. Справа ў тым, што ўзаемазапазычванне, асабліва ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага, для беларускай і польскай моваў было з'явай нармальнай і натуральнай. Гэта, безумоўна, адбывалася і на ўзроўні фразеалогіі − у галіне аналітычных адзінак з цэласнай семантыкай, якая застаецца цэласнай незалежна ад вар'іравання структуры. А іменна жывое выкарыстанне фразеалагічных адзінак (далей ФА) стымулюе іх вар'іраванне (В.М. Макіенка), што ўскладняе ўстанаўленне гістарычнай іерархіі нават пры наяўнасці багатага дыялектнага матэрыялу.

У сярэднявечны перыяд адны і тыя самыя словы, ФА маглі быць аднолькава ўжывальнымі на польскай, беларускай і ўкраінскай землях. Таму гэтыя адзінкі можна не лічыць спецыфічным фактам той ці іншай мовы, а разглядаць іх як агульны моўны запас (напрыклад: *на пляцъ выехати* 'ўступіць у палеміку'; *на руку повабити* 'выклікаць на паядынак'; *выщвати волка зъ леса* 'раззлаваць каго-н. і інш.').

Пытанне спрадвечнасці (паланізм ці беларусізм) складанае з прычыны роднасці моваў. Як вядома, генетычна і рэальна агульная лексіка роднасных і блізкароднасных моваў не паддаецца ўзаемнаму калькаванню. ФА, у складзе якіх маюцца такія кампаненты, запазычваюцца.

Звернем увагу на тыя ФА, якія ўжываліся ў старабеларускай мове, але не захаваліся да нашага часу; разам з тым ФА, якія аналізуюцца, актыўна функцыянуюць у сучаснай польскай мове, што і дае падставу гаварыць аб іх спрадвечнасці (*фохи строить* 'капрызнічаць, манернічаць, крыўляцца'; *на мясныя ятки выдати* 'асудзіць каго-н. на пагібель, смерць'; *невыпареная губа* 'балбатун, брыдкаслоў';) *губу отворити* 'гаварыць небыліцы, чарніць каго-н.'; *до горла* 'да апошняй кроплі крыві, да апошняга дыхання'; *до кресу бежати* 'дажываць апошнія дні'; *да скутку привести* 'закончыць пачатую справу'; *обронной рукой* 'з дапамогай зброі'; *въ нивечъ обрацати* 'знішчаць' (параўн. у сучаснай польскай мове: *fochy stroic; dac (wydac) zolniery na jatki; niewyparzona gebe;otworzic gebe; do gardla; dobiegac kresu; przywiesc do skutku; obronna reka; obracac w niewiech*). У кантэкстах: *якій тамъ лукавый Бесъ презъ свои інструмента передъ нимъ* <u>*фохи строилъ*</u> (Хрэст., 35); *а если што правдивого уведають, заразъ одинъ другого яко* <u>*на резъ выдають*</u> (Лист, 1017, 1598); *А пастыры ... ничого то не дбають, а праве само стадо Христово* <u>*на месные ятки выдають*</u>

(Уния, 113, 1595); *О вшетечная __и непареная губо__!* (АПФ, 891, 1599); *певне бы и на Рускую професию ... __губу отвариль__* (АПФ, 767, 1599); *похвалку на насъ чинилъ а другий __целою губою__ лжилъ* (СДГА, 141); *обецую того __... до горла__ ... боронити* (Ап., 1056, 1599); *поневаже вже __до кресу__ своего пришли* (Листъ, 987, 1598); *хотечи той умыслъ __... до скурку привести__* (АСД, I, 5, 1507); *Воевода волоский Стефан __збройной рукою__ вторгнул до Руси* (ПСРЛ, XXXII, 103, 1509); *еретики поповъ въ __нивечъ обрацають__* (Спис. пр. л., 114).

Многія ФА ў беларускай мове паступова страчваліся, змянялі сваю форму − падпадалі пад лексічнае абнаўленне. Параўн.: *Пасля гэтага даносу прыказана было капітану Бегалю арыштаваць майго дзеда, што прыйшлося рабіць __аружнай рукою__* (А. Абуховіч); *Ніяк не __знойдуць__ яны __скутку__ і ўвесь дзень сварацца за дудку* (Я. Колас).

Спрадвечнасць ФА ўстанавіць лягчэй у тых выпадках, калі ў іх структуры прысутнічае яўна не славянскі элемент. Але ў такіх выпадках ускладняецца вывучэнне шляхоў пранікнення дадзеных ФА ў старабеларускую мову: даводзіцца гаварыць як аб мове-рэцэптары, так і мове-пасрэдніцы. Прыклады: *А тутъ ли вже прыдетъ съ филялетомъ праве яко __въ шранки вступити__, а ширший отказъ ... учинити* (АПФ, 569, 1599); *якобы вашой княжацкой милости съ королемъ его __милостью въ шранки вступовати__ не приходило* (АПФ, 661, 1599); *А то есть знакъ побожности католического чоловека ... который учителей цркрви Божое, однако, приимуеть, а не бракуючы писмами ихъ и не __приводечи__ одного противъ другого __на штыхъ__* (АПФ, 909, 1599); *__ставечи на штыхъ__ правдивому собору Флорентийскому* (АПФ, 913, 1599); *Стефан, воевода волоский ... большей __фортелю__ ниж силы __уживаючи__, страшливое войско турецкое отовсюль рвал и губил* (ПСРЛ, XXXII, 91, 1480).

ФА *въ шранки вступовати, приводити на штыхъ, уживати фортелю* звяртаюць на сябе ўвагу іменнымі кампанентамі. З значэннем ‘пачынаць дыскусію, палеміку’ ў сучаснай польскай мове ўжываецца ФА *wstegowac (wchodic) w sranki*. А. Брукнер вызначае слова *sranki* як нямецкае (Брукнер, 554). Можна меркаваць, што ФА ў старабеларускі перыяд прыйшла з нямецкай мовы праз калькаванне (ням. *in die Schranken treten* ‘выйсці на арэну, выступіць’, ‘выступіць ў абарону каго-н.’; ‘выступіць супраць каго-н., памерацца сіламі’) [Бинович, 486].

Аналагічна можна патлумачыць паходжанне ФА *приводити (ставити) на штыхъ* ‘сварыць каго-н. з кім-н., ставіць пад удар каго-н.’. Слова *sztych* − нямецкае [Брукнер, 556], ФА *приводити на штыхъ* − вынік калькавання (у польскай мове − *wystawiac na stych*; у нямецкай − *im Stich lassen* [Бинович, 541]).



ФА *уживати фортелю* (у польскай мове: *uzyc fortelu*) таксама паходзіць з нямецкай мовы − *Vorteil verschaften* ‘набыць незаконную выгаду’ [Бинович, 602]. З цягам часу ФА ў беларускай мове трансфармавалася. І.І. Насовіч фіксуе яе ў форме *пусціцца на фортэль* [Насовіч , 674], але ў літаратурнай мове яна не прыжылася.

У старабеларускіх тэкстах чытаем: *Отожъ въ тотъ часъ ... мовчали есте, панове адъверъсары, и __черезъ спары__ на то __смотрели__ есте* (АПФ, 679, 1599); *если бы и тотъ на то __презъ спары смотрелъ__ ... альбо бы тежъ о томъ и не ведалъ* (Листъ, 1019, 1598).

Выдзеленая ФА мае значэнне ‘знарок не звяртаць увагі, праяўляць абыякавасць’. А. Брукнер адзначае, што слова *spar* спачатку абазначала палку (жэрдку), затым падверглася семантычнай дысіміляцыі і набыло значэнне ‘шчыліна’ [Брукнер, 552−553]. У якасці ілюстрацыі ён прыводзіць прыклад польскамоўнай ФА *przez szpary patrzyc*. У сучаснай польскай мове ўжываецца і варыянт *przez palce patrzyc*.

Такім чынам, аналіз фактычнага матэрыялу паказвае, што прамое запазычванне і калькаванне ФА было вельмі характэрна для старабеларускай мовы, за кошт чаго нацыянальны моўны фонд узбагачаўся сродкамі выразнасці. І ў гэтым узбагачэнні адпаведную ролю адыгрывала польская мова, якая выступала і ў якасці рэцэптара, і ў якасці пасрэдніцы.

*Умоўныя скарачэнні крыніц*

**АСД** − Ахеографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси: в 9 т. − Вильна, 1867 − 1890; **Ап.** − Апокрисисъ. Сочинение Христофора Филалета // Русская историческая библиотека. Т. XIX. Памятники полемической литературы Западной Руси. Кн. 3. Пб., 1903; **АПФ** − Антиризисъ, или Апология против Христофора Филалета // Русская историческая библиотека. Т. XIX; Уния − Унія грековъ съ костеломъ римскимъ // Русская историческая библиотека. Т. VII. Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 2. ПБ., 1882; **Бинович** − Бинович, Л.Э. Немецко-русский фразеологический словарь / Л.Э. Бинович, Н.Н. Гришин. − М., 1975; **Бірыла** − З лексікі Чырвонаслабодчыны // З народнага слоўніка. Мінск, 1975; **Брукнер** − Bruckner, A. Slownik etymologiczny jezyka polskiego. Warszawa, 1970; **Гессен** − Гессен, Д. Большой русско-польский словарь / Гессен Д., Стыпула Р. − М., 1967; Листъ Ипатія Потея къ князю Константину Константиновичу Острожскому 3 іюня 1598 года // Русская историческая библиотека. Т. IXI; **Носович** − Носович, И.И. Словарь белорусского наречия / И.И.Носович. СПб., 1870. **ПСРЛ** − Полное собрание русских летописей. Т. XXXII. М., 1974; **СДГА** − Собраніе древнихъ грамотъ и актовъ городовъ: Вильны, Ковна, Трокъ, православных монастырей, церквей и по разным предметамъ. Ч.І. Вильно, 1843; **Хрэст.** − Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. І. − Мінск., 1961.

УДК 811.161.1+811.161.3

**Т.В. Федунова** (Минск)

# СЕМАСИОЛОГИЧЕСКОЕ СОПОСТАВЛЕНИЕ ЛЕКСИЧЕСКИХ СИСТЕМ РУССКОГО И БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКОВ С УЧЕТОМ СИСТЕМНОГО ПОДХОДА

В последнее время весьма актуальным становится рассмотрение вопросов, затрагивающих сферу межъязыковой культурной коммуникации. Особый интерес в этом плане представляет проведение сопоставительных исследований в области близкородственных языков.

Сопоставительные исследования в лексической сфере близкородственных языков позволяют свидетельствовать о том, что в мире не существует двух языков, полностью тождественных в своей лексико-семантической структуре, в силу чего их нельзя считать эквивалентными выразителями одной и той же реалии объективной действительности.

Контрастивный анализ в русле межъязыкового лексического сопоставления обладает своей спецификой в связи с особенностями лексической системы как системы. В соответствии с этим в русле межъязыкового русско-белорусского сопоставления необходим учет принципа системности, который проявляется в следующих аспектах:

1) в фиксации как сходных, так и отличительных черт в семантической структуре лексем сопоставляемых русского и белорусского языков;

2) в значимости обоюдного сопоставления, при котором факты русской и белорусской языковых систем занимают приблизительно одинаковое положение;

3) в выявлении специфики значений сопоставляемых лексических единиц, которое должно проводиться как по денотативному так и по коннотативному и функциональному макрокомпонентам значения;

4) в осуществлении русско-белорусского сопоставления на двух уровнях семантической градации: а) *на уровне отдельных значений* с установлением дифференциальных и интегральных сем и б) *на уровне лексемы в целом*.

На первом уровне семантической градации проведение сопоставления в межъязыковой русско-белорусской лексической паре дает возможность установить степень эквивалентности лексических единиц сопоставляемых языков. Само понятие эквивалентности определяется «сходной предметной отнесенностью; своеобразие и специфический путь развития отдельного языка, имеющего свои особые лексические и грамматические системы, определяют степени



этой эквивалентности» [1, с. 155]. В определении степени эквивалентности участвуют несколько типов семантических отношений посредством анализа семного состава каждого отдельно взятого значения лексем русского и белорусского языков.

1. Семантическое отношение **тождества**, заключающееся в полном совпадении значений в денотативном, коннотативном и функциональном компонентах. В поле нашего внимания находятся лексемы, составляющие пласт общеупотребительной лексики. Например:

| ***Запах*** | ***Пах*** |
|---|---|
| *‘свойство предметов, веществ’* | *‘уласцівасць прадметаў, рэчываў’* |
| *‘действовать на обоняние’* | *‘дзейнічаць на органы нюху’* |

*неоценочное, неэмоциональное, современное, употребительное*

2. Семантическое отношение **включения** устанавливается между лексическими единицами межъязыковой русско-белорусской пары в том случае, когда в семном составе одной из единиц присутствует хотя бы одна дополнительная, качественно новая сема. Причем отметим, что различия в семном составе обусловлены отнюдь не тем, что каждый из языков искажает действительность, а в том, что через семантическую систему каждый из языков отражает природу мира в концептуальном аппарате человека, осуществляется разная структурация общего семантического континуума. Этот тип семантического отношения репрезентируется двумя вариантами:

2А. **Включающей выступает русскоязычная лексема** (дополнительные семы характерны для семного состава белорусскоязычной лексемы). Так, в семном составе русскоязычного ЛСВ *гребля*$_4$ *‘насыпь’*, *‘на топком месте’* отсутствует характеристика насыпи, тогда как в семном составе белорусскоязычной лексемы такая характеристика представлена дополнительными дифференциальными семами *‘з бярвення’*, *‘або галля’*.

2Б. **Включающей выступает лексема белорусского языка**. Рус. *налобник*$_2$: *‘ремешок’*, *‘для поддержания волос’*, *‘во время работы’* + *‘головной убор’*, *‘женский’*, *‘старинный’*, *‘в виде повязки’*, *‘с украшениями’*, *‘нарядной’*, *‘надеваемой на лоб’* – бел. *налобнік*$_2$: *‘рэменьчык’*, *‘для падтрымкі валасоў’*, *‘у час работы’*.

3. Семантическое отношение **пересечения** предполагает наличие как совпадающей части в семном наборе сопоставляемых значений русской и белорусской лексем, так и сем несовпадающих. В этом случае

семы сопоставляемых слов как бы накладываются друг на друга, образуя зону пересечения. Так, в межъязыковой паре *дорога*$_1$ – *шлях*$_1$ наряду с интегральной семой *'полоса земли'* в значении представленных лексико-семантических вариантов (далее – ЛСВ) мы можем отметить и дифференциальные семы *'для ходьбы'* в структуре русского ЛСВ и *'шырокая'*, *'прыстасаваная толькі для руху транспарту'* в структуре белорусского.

4. Наконец, исследование особенностей процесса билингвальной межкультурной коммуникации позволили нам выделить и четвертый тип семантических отношений – отношение **исключения**, заключающееся в отсутствии общих сем и, как следствие, в наличии определенного рода лакун. Как правило, это выводит нас в сферу безэквивалентной лексики, свидетельствующей об уникальности языковой картины мира, которая призвана репрезентировать этносоциокультурную реальность при сопоставлении ее с реалиями другой культуры. Так, лексема русского языка *сорока* со значением *'старинный русский головной убор замужней женщины – сшитый чехол из холста, кумача или другой ткани, надеваемый поверх кички'* присуща только русской лингвокультуре и выступает безэквивалентной по отношению к лексической системе белорусского языка, в то время как в белорусском языке ей соответсвует лакуна.

Важным в установлении степени эквивалентности и выявлении отличительных признаков русской и белорусской лексической систем, специфики «семантического картирования» [2] предметного мира лексическими единицами сопоставляемых близкородственных языков является установление характера их семантического объема, соотнесение его с понятием содержания лексического значения и, как следствие, грамотной дифференциации этих сопряженных друг с другом понятий.

Устранению непоследовательности в квалификации понятия семантического объема призвана помочь все та же уровневая конкретизация, позволяющая рассмотреть семантический объем на уровне значения и лексемы в целом. На уровне значения, семантический объем определяется «количеством сем, отражающих класс определенных предметов и явлений, обобщенных в значении» [3, с. 159-160]. На уровне лексемы в целом рассматриваемое понятие семантического объема квалифицируется как число значений (ЛСВ) полисемичной лексемы.

Понятие содержания лексического значения предстает как «совокупность существенных семантических признаков предметов и явлений, названных словом» [3, с.160].

Между представленными выше понятиями как репрезентаторами когнитивного (предметно-логического) компонента в структуре лексического значения существуют отношения обратно пропорциональной зависимости: чем уже семантический объем, тем обобщеннее и шире содержание значения. Так, один из ЛСВ русскоязычной лексемы *гребля* с



пометой «областное» в значении *'плотина, насыпь на топком месте'* имеет соответствие в белорусском языке в виде однозначной лексемы *грэбля 'насціл з бярвення або галля для пераезду цераз балота, гразкае месца, гаць'*. Как видно, семантический объем белорусской лексемы, сужается за счет дополнительных сем-конкретизаторов качества насыпи *'з бярвення'*, *'галля'*, чего не представлено в семном наборе русского ЛСВ *гребля*$_4$. В результате русский лексико-семантический вариант имеет более широкое содержание за счет узкого (с минимальным набором сем) семантического объема в сравнении с белорусскоязычной лексемой.

Второй уровень семантической градации представляет собой следующую ступень в реализации принципа системности в контрастивной лексикологии. Причиной этого выступает способность структуры лексемы концентрировать в себе существенные системообразующие свойства лексического устройства языковой системы. Сопоставительный анализ, проведенный на данном уровне, позволяет выйти на выделение основных контрастивных признаков сопоставляемых лексем, среди которых мы выделим следующие:

1. **Степень полисемичности лексем сопоставляемых русского и белорусского языков.** Не учитывать число значений при контрастивном анализе лексем нельзя, так как, во-первых, это может служить показателем развития лексического состава языков; во-вторых, позволит провести разграничение по признаку «однозначная лексема в одном языке – многозначная в другом». Например, полисемичной русскоязычной лексеме *веселье* в белорусском языке соответствует однозначная лексема *весялосць* с выделением оттенка значения.

| ***веселье*** | ***весялосць*** |
|---|---|
| *1. Беззаботно-радостное настроение, радостное оживление.*<br>*2. Веселое времяпрепровождение, развлечение, забава.* | *Уласцівасць вясёлага. // Радасць, радасны настрой.* |

2. **Гипо-гиперонимическая лексическая характеристика.** Так, для обозначения одной и той же реалии объективной действительности один из языков может использовать более одного обозначающего с более узкой семантизацией значения., в то время как в другом языке все эти значения заложены в семантической структуре одной лексемы, выступающей своеобразным гиперонимом по отношению к гипонимическим лексемам другого языка. В этом случае мы сталкиваемся с гиперонимией как явлением, состоящем в недифференцированности значений одного языка по отношению к другому, где эти значения дифференцируются. Сравним: рус. *угол* – бел. *вугал* ('внешний угол'), *кут* ('внутренний угол'), *рог* ('пересечение

чего-н’); рус. *платье* – бел. *сукенка* (‘женская одежда’), *вопратка* (‘верхняя одежда’), *адзенне* (‘одежда вообще’).

3. **Состав и иерархическая структура ЛСВ.** Сложность в установлении данного контрастивного признака обусловлена тем, что значения сопоставляемых лексем в русско-белорусской паре представляют собой неразрывный, взаимопроницаемый континуум с признаками диффузности. Но и не учитывать последовательность ЛСВ в составе лексических единиц нельзя, поскольку этот факт позволяет грамотно осуществлять процесс понимания и порождения речи на другом языке, избежать смешения ЛСВ и приписывания отдельного ЛСВ другой лексеме.

Различие в составе и иерархической структуре ЛСВ может быть предопределено, во-первых, неодинаковой степенью развитости полисемии, во-вторых, наличием самостоятельных обозначающих, что особенно важно для выбора единственно правильного ЛСВ в процессе порождения речи. Так, в русско-белорусской паре *дорога – дарога*, несмотря на единство плана выражения представленных лексем, наблюдается несовпадение в структурном распределении и последовательности размещения ЛСВ. Данное утверждение находит свое отражение в схеме (см. следующую страницу).

4. **Признак лексико-семантической маркированности** как отдельный семасиологический параметр русско-белорусского сопоставления, предполагающий проведение контрастивного анализа в бинарной оппозиции «отдельное самостоятельное значение (ЛСВ) – оттенок значения». В этой связи с точки зрения сопоставительной лексикологии особую актуальность приобретает вопрос не столько о семантической квалификации содержания значения (т.е. отнесения его к оттенку семемы или самостоятельному ЛСВ), сколько о возможности противопоставления этих единиц. Вопрос о разной маркированности лексических единиц сопоставляемых русского и белорусского языков должен свидетельствовать о факте семантической разнообъемности двух сопоставляемых лексем, так как оттенок значения является «показателем более тонкого, «спектрального» анализа лексического содержания слова, отражающим семантическую динамику и дифференцирующим разные уровни содержательной стороны словесного знака» [3, с. 172]. Исходя из вышесказанного, мы можем выделить несколько вариантов в общей оппозиции «самостоятельный ЛСВ – Оттенок значения»:



**- ЛСВ с выделением нескольких оттенков значения в одном языке – ЛСВ в другом**: рус. гребля$_{4\text{обл.}}$ ‘плотина, насыпь на топком месте’ – бел грэбля ‘насціл з бярвення або галля для пераезду цераз балота, гразкае месца; гаць’ с выделением оттенка значения ‘насыпная дарога цераз нізкія балоцістыя мясціны’.

**- ЛСВ в одном языке – соответствующий ему оттенок значения в другом**, что свидетельствует о разностатусном положении семантических компонентов в содержательной структуре сопоставляемых лексем. Так, в русско-белорусской паре *монета – манета* один из лексико-семантических вариантов русскоязычной лексемы *‘металлический денежный знак’* имеет два оттенка значения *‘собир. Металлические деньги’* и *‘собир. прост. Деньги вообще’*, первый из которых в белорусском языке выступает в статусе

самостоятельного лексико-семантического варианта: *манета*$_1$ *'металічны грашовы знак'* и *манета*$_2$ *'Зб. Разм. металічныя грошы'*. Аналогичную ситуацию мы наблюдаем и в межъязыковой лексической паре *юбка – спадніца*:

| ***Юбка*** | ***Спадніца*** |
|---|---|
| *1. Женская одежда, облегающая фигуру от талии книзу.* | *1. Жаночае адзенне, а таксама частка сукенкі ад таліі ўніз.* |
| *// Часть женского платья от талии книзу.* | *2. перан. Разм. Пра жанчыну (як прадмет цягі мужчын).* |
| *2. перен. Разг. Женщина (как предмет чувственного влечения мужчин).* | |

Но, к сожалению, лексикографический анализ зачастую показывает и издержки лексикографической работы составителей словарных статей, заключающиеся в отсутствии четких и объективных критериев в придании значению того или иного семантического статуса – статуса отдельного самостоятельного ЛСВ или его оттенка. Совершенно неочевидным выступает следующая маркированность содержания лексем *баня – лазня*, где переносное значение одного из ЛСВ в русской лексеме фиксируется как оттенок, а в белорусской – как самостоятельный лексико-семантический вариант:

| ***Баня*** | ***Лазня*** |
|---|---|
| *1. Специальное помещение, где моются и парятся.* | *1. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца, парацца.* |
| *2. Разг. Мытье в таком помещении.* | *2. Разм. Мыццё ў такім памяшканні.* |
| *// перен. Строгий выговор; нагоняй.* | *3. перан. Разм. Наганяй, суровая вымова.* |

Таким образом, учет системного подхода позволяет последовательно провести установление общего и различного в сопоставляемых русском и белорусском языках, выявить уровни семантической градации, те черты, которые обычно остаются незамеченными при исследовании языковой системы, взятой в отдельности.

*Список литературы*

1. Медникова, Э.М. Значение слова и методы его описания: учебное пособие / Э.М. Медникова. – М.: Высш. школа, 1974. – 202 с.




2. Уфимцева, А.А. Лексическое значение: Принцип семиологического описания лексики / А.А. Уфимцева; под ред. Ю.С. Степанова. – Изд. 2-е, стереотипное. – М.: Едиториал УРСС, 2002. – 240 с.

3. Манакин, В.Н. Сопоставительная лексикология / В.Н. Манакин. – К.: Знання, 2004 – 326 с.


УДК 811.161.3

**К.Л.Хазанава** (Гомель)

## СТЫЛІСТЫКА БЕЛАРУСКІХ ЗАГАДАК СА СТРУКТУРАЙ СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫХ СКАЗАЎ

Загадкі ўяўляюць сабой вобразна-паэтычнае апісанне прадмета ці з'явы, што выпрабоўвае кемлівасць адгадвальніка. Як жанр народна-паэтычнай творчасці загадкі захоўваюць маральна ўзважаны, мудры погляд на жыццё як на сістэму адносін чалавека да свету прыроды, да грамадства, да роду, сям'і, Радзімы. У якасці атрымальніка інфармацыі і адгадвальніка загадкі патрабуюць дапытлівага чалавека. Яны прымушаюць думаць, узгадваць, параўноўваць, будаваць лагічныя ланцужкі і па падказках-указальніках «выводзіць» на правільны адпаведны адказ. Загадкі кранаюць нас сваёй змястоўнасцю, ёмістасцю сэнсу пры невялікай колькасці слоў. Іншы раз загадка можа складацца з некалькіх слоў, у якіх, дзякуючы згушчанасці думкі і лагічнасці іх спалучэння, трапна выяўляецца самае сутнаснае ў рэаліі, схаванай у загадцы.

Магчыма, загадкі яшчэ таму асабліва кранаюць і здзіўляюць, што спалучаюць у сабе разумнасць, якая ўспрымаецца галавой, розумам, і фантазлівасць, якую чуйна ўлоўлівае адкрытае сэрца, уяўленне. Мы як слухачы загадкі «прабіраемся» скрозь скандэнсаванасць думкі, здзіўляемся зграбнасці формы, ухваляем лаканізм, «паглыбляемся» ў падтэкставае багацце і… адкрываем таямніцу-адгадку, радуючыся ад усведамлення сябе асобай разумнай.

Не апошнюю ролю ў стварэнні ўказаных адметнасцей загадак стварае іх мова. І тут увагу на сябе звяртае сінтаксічны лад беларускіх загадак. У маўленні думкі, волевыяўленні, пачуцці фарміруюцца, выражаюцца і паведамляюцца праз розныя сінтаксічныя канструкцыі.

Мэтай дадзенага артыкула з'яўляецца даследаванне стылістычна-сінтаксічных адметнасцей загадак са структурай складаназлучаных сказаў.

Складаназлучанымі называюцца «сказы, часткі якіх аб'яднаны пры дапамозе злучальных злучнікаў» [1, с. 272]. Сінтаксічная канструкцыя складаназлучаных сказаў часта сустракаецца ў беларускіх загадках. У большай ступені распаўсюджаны загадкі са злучальным

злучнікам *а*: *Дзеўка ў каморы, а яе косы на дворы* (морква) [2, с. 313]; *Поўна дзежачка круп, а наверсе струп* (мак) [2, с. 313]; *Сам худ, а галава з пуд* (бязмен) [2, с. 313].

Загадкі са структурай складаназлучанага сказа маюць сінтаксічна раўнапраўныя часткі, якія нагадваюць самастойныя, незалежныя простыя сказы, але ствараюць сэнсавае адзінства складаных сказаў з дапамогай інтанацыі, парадку размяшчэння частак і ў некаторых выпадках суадносін форм дзеясловаў-выказнікаў.

Загадкі – складаназлучаныя сказы, якія ўяўляюць сабой дыялектычнае адзінства. Калі першая частка ў такіх загадках будуецца адносна свабодна, то другая частка даволі часта залежыць ад адносін, якія выражаюцца ўсёй загадкай-складаназлучаным сказам.

У загадках, якія ў сінтаксічных адносінах з’яўляюцца складаназлучанымі сказамі, выражаюцца разнастайныя сэнсавыя адносіны, залежныя ад структурных уласцівасцей, характару злучнікаў і лексічнага напаўнення.

Характар сэнсавых адносін састаўных частак такіх загадак дазваляе выдзяліць сярод іх сказы са спалучальна-пералічальнымі і з далучальнымі адносінамі, а таксама сказы з адносінамі супастаўлення і супрацьпастаўлення.

У сказах са спалучальнымі адносінамі выкарыстоўваецца спалучальны злучнік *і*: *Ідзе чалаве, і сам сябе бачыць* (цень) [3, с. 54]; *Цела не мае, без языка гаворыць, і ўсе яго чуюць* (рэха) [3, с. 55]. Тут злучнік *і* аб’ядноўвае часткі складаназлучаных сказаў з адносінамі адначасовасці. З’явы, аб якіх узгадваюць загадкі, адбываюцца адначасова. У маўленні гэта выражаецца пералічальнай інтанацыяй, а граматычна – трывальна-часавымі формамі выказнікаў. Адначасовасць розных з’яў, названых у прэдыкатыўных частках загадак-складаназлучаных сказаў, падкрэсліваецца выказнікамі-дзеясловамі незакончанага трывання цяперашняга часу. Гэтыя формы ажыўляюць мову загадак, надаюць ім найбольшую нагляднасць, своеасаблівую «выпукласць».

У іншых загадках са спалучальным злучнікам *і* дзеяслоў-выказнік выкарыстоўваецца толькі ў адной з прэдыкатыўных частак: *Поўны хлеў авец, і адзін баран бляець* (язык за зубамі) [3, с. 118]; *Дзве маці маюць пяць сыноў, і ў кожнага з іх адно імя* (рукі і пальцы) [3, с. 127]; *Белы, як снег, у чэсці ва ўсіх, і спадабаюся вам на бяду зубам* (цукар) [3, с. 243]; *Я з вады народжан, і сам яе раджаю* (снег) [3, с. 50]. Форма цяперашняга часу дзеяслова ў функцыі выказніка ў адной з частак указаных загадак перадае пастаяннасць з’яў. Дзякуючы адсутнасці дзеясловаў у другой частцы загадак пры часавым вызначэнні адгадвальнік абапіраецца менавіта на адзіны дзеяслоўны выказнік загадкі і вызначае адначасовасць узгаданых загадкай прыкмет і іх штохвіліннасць.

Сустракаюцца загадкі, дзе выказнік састаўной часткі мае форму закончага трывання прошлага часу: *Пяць братоў у адну ноч нарадзіліся, і усе з адным імем* (пальцы) [3, с. 127]. Адсутнасць дзеяслоўнага выказніка ў другой частцы, што складаецца з галоўнага члена і залежнага ад яго недапасаванага азначэння, пры форме закончанага трывання прошлага часу дзеяслова-выказніка ў першай частцы стварыла значэнне часавай паслядоўнасці і надала загадцы адметную дынамічнасць.

Часам сустракаюцца загадкі-складаназлучаныя сказы, у якіх злучнік *і* аб’ядноўвае часткі, што ў сінтаксічных адносінах нагадваюць намінатыныя сказы: *Семдзесят адзежак, і ўсе без засцежак* (гусь) [3, с. 159]. Тут перадаецца адначасовасць, паралельнасць і разам з тым пастаяннасць існавання апісаных з’яў.

Сінтаксічнай адметнасцю загадак-складаназлучаных сказаў з’яўляецца парадак размяшчэння частак. Калі ў звычайным складаназлучаным сказе са значэннем адначасовасці з’яў парадак размяшчэння частак свабодны, то ў загадках перастаноўка частак не заўсёды магчыма, што надае загадкам-складаназлучаным сказам са злучнікам *і* ўскладненне прычынна-выніковымі адценнямі. Асабліва яскрава выяўляюцца і ўзмацняюцца прычынна-выніковыя адносіны паміж часткамі, звязанымі ўзмацняльнай часціцай *дык*, якая выступае ў загадках у якасці злучніка: *Чорная карова ўсіх людзей пабарола, дык ляжаць* (ноч) [3, с. 60].

Велізарная частка загадак са структурай складаназлучанага сказа – гэта сказы з супастаўляльнымі адносінамі. Большасць з іх сродкам сувязі прэдыкатыўных частак утрымлівае злучнік *а*: *Па саломе ходзіць да не шастае, а на пяску слядоў не знаць* (сонца) [3, с. 24]; *Па калені вада, а напіцца недзе* (снег) [3, с. 50]; *Сястра да брата ў госці едзе, а брат ад яе хаваецца* (сонца і месяц) [3, с. 26]; *Чыстае, харошае, цэлае лета цвіце, а насення няма* (вада крынічная, крыніца) [3, с. 35].

Як паказваюць ілюстрацыі, паміж прэдыкатыўнымі часткамі такіх загадак устанаўліваюцца супастаўляльныя адносіны, пры якіх адна частка супастаўляецца з другой. Прычым характар супастаўлення ў загадках розны. Перш за ўсё выдзяляецца ўласна супастаўленне*: Баран бяжыць, а на ём воўна дрыжыць* (балота) [3, с. 31]; *Заржаў жарабёнак на Сіянскай гарэ, а ўчулі на гасударскім дварэ* (гром) [3, с. 39]. Для састаўных частак з уласна супастаўляльнымі адносінамі характэрны структурны паралелізм. Сродак выражэння ўласнага супастаўлення –

злучнік *а*, сінанімічны злучніку *і*: *Стаіць кіёк, а на тым кійку – клубок* (качан капусты) [3, с. 94].

Разам з тым нельга казаць аб поўнай адпаведнасці і магчымасці замены злучніка *а* злучнікам *і* ў загадках такога тыпу. На немэтазгоднасць замены ўказваюць загадкі, што складаюцца з трох частак, аб'ядноўваюцца і злучнікамі *і*, і злучнікам *а*, кожны з якіх мае свае адметныя належныя яму стылістычна-сінтаксічныя функцыі: *Стаіць дуб, а на тым дубе дванаццаць сучкоў і кожнаму сучку – па фамiлii* (год і месяцы) [3, с. 57]. Менавіта злучнік *а* передае супастаўленне, падкрэслівае паралелізм дзеянняў і з'яў, названых рознымі часткамі загадкі. Гэтыя ўласцівасці злучніка *а* ўзбуйнена выяўляюцца ў загадках-мнагачленных складазлучаных сказах, якія складаюцца з некалькіх (больш за дзве) прэдыкатыўных частак: *Стаіць пакой, а ў тым пакоі дванаццаць вакон, а на тых вокнах па чатыры паны, а ў тых панох па сем вянкоў* (год) [3, с. 57]; *Стаіць палка, а на палцы бочка круп, а наверсе сядзіць струп* (мак) [3, с. 104]. Злучнік *а* стварае ў мнагачленных складаназлучаных загадках градацыю эмацыянальна-экспрэсіўнага напружання, дазволеную адкрытай структурай сказаў са спалучальнымі адносінамі. Загадкі такой будовы маюць колькасць частак, неабходную для падрабязнага апісання схаванага ў творы прадмета ці з'явы. Часткі такіх загадак звычайна аднатыпнай будовы, маюць значэнне адначасовасці і з'яўляюцца своеасаблівым незамкнёным радам, які з боку сінтаксісу можна працягваць бясконца, а маюцца толькі лексіка-семантычныя абмежаванні.

У аснове загадак са значэннем супрацьпастаўлення закладзена супрацьлегласць прэдыкатаў. Адносіны супрацьпастаўленасці вымагаюць двухчленнай будовы загадак і іх закрытай структуры пры семантычнай узаемаабумоўленасці: *І тонкі, і доўгі, а з травы не відаць* (дождж) [3, с. 43]; *Ішоў генерал, з усіх шапкі паздымаў, а трое не даваліся* (мароз, хвоя, елка, ядловец) [3, с. 48].

Некаторыя загадкі з супрацьпастаўленнем маюць больш за дзве прэдыкатыўныя часткі, але адносіны супрацьпастаўленасці заўсёды выразна падзяляюць загадку на дзве паловы, аб'яднаныя злучнікам *а: Галаву зрэжам і з'ядзім, шкуру аблупім і прададзім, а мяса валяецца, і сабакі не хочуць есці* (лён) [3, с. 83]. Гэта загадка складаецца з чатырох прэдыкатыўных частак: першыя дзве звязаны бяззлучнікавай сувяззю, другія дзве – супастаўляльным злучнікам *і*, а вось між гэтымі больш вялікімі часткамі і выяўляецца супрацьпастаўленне, якое ў загадцы выступае на першы план.



Супрацьпастаўленне з'яў, падзей у складаназлучаных загадках са злучнікам *а* праяўляецца больш выразна, калі ў першай частцы ёсць адмоўе *не*: *Не кравец, а ўсё жыццё з іголкамі ходзіць* (вожык) [3, с. 316]; *Не шыта, не кроена, а ўся ў рубцах* (капуста) [3, с. 94]; *Не белены, а ўсё бел* (снег) [3, с. 50].

Выразнай адметнасцю загадак-складаназлучаных сказаў са значэннем супрацьпастаўлення з'яўляецца не толькі злучнік *а*, але абавязковая супрацьлегласць лексічных складаў прэдыкатыўных частак, што часта знаходзіць адлюстраванне ў наяўнасці антонімаў: *На адзін бок мора дровы рубаюць, а на другі бок трэскі лятаюць* (снег) [3, с. 51]; *Кіну з блыху, а вырасце з кулак* (бурак) [3, с. 96]; *За морам рубяць, а на наш стол шчэпкі ляцяць* (соль) [3, с. 242].

Часам супрацьлеглымі паводле семантыкі ў загадках становяцца словы, якія ў звычайным маўленні не зяўляюцца антанімічнымі: *На градцы – доўгі і зялёны, а ў бочцы – жоўты і салёны* (агурок) [3, с. 97]; *Гаспадар на гумно нясецца, а за ім жардзіна трасецца* (кот) [3, с. 142]. Кантэкстуальныя антонімы вельмі характэрныя для загадак дадзенай структуры: *Вутка ў моры, а хвост на заборы* (апалонік) [2, с. 315]; *На гары стукаюць, а ўнізе слухаюць* (гром) [3, с. 39]; *На дварэ гарою, а ў хаце вадою (*снег*)* [3, с. 50].

Большасць загадак са структурай складаназлучанага сказа са злучнікам *а* і значэннем супрацьпастаўлення ў сваёй мастацка-вобразнай аснове маюць антытэзу. Гэта і зразумела, бо такая сінтаксічная форма лепш за іншыя падыходзіць для мастацкага прыёму антытэзы. Супрацьпастаўленне супрацьлеглых думак, з'яў і вобразаў значна ўзмацняе ўражанне, што неабходна ў загадках.

Часам у загадках з указанай сінтаксічнай формай спалучаецца антытэза з аксюмаранам. Але аксюмаран пры гэтым адметны: сумяшчэнне лагічна несумяшчальнага адбываецца не ў словазлучэнні, як у звычайным аксюмаране, а ў цэлым загадкавым выразе, які, да таго ж, абгорнуты ў антытэзу: *Сяло заселена, а пеўні не пяюць і людзі не ўстаюць* (могілкі) [2, с. 314], *Рота няма, а зубы маюцца* (граблі) [2, с. 314]; *Жывы б'е, а мёртвы раве* (звон) [3, с. 372]; *Жывы мёртвага б'е, а мёртвы крычыць на ўсё горла* (звон) [3, с.372]; *На тым свеце жывы, а на гэтым мёртвы* (рыба) [2, с. 316]. Н.Гілевіч, аналізуючы сродкі вобразатворчасці ў загадках, назваў спалучэнне супярэчлівых, процілеглых паняццяў і ўяўленняў прынцыпам паэтычнага парадоксу і заўважыў, што «за гэтай спадманнай нелагічнасцю хаваецца разумнасць, дакладнасць і трапнасць вобразнай характарыстыкі, назіральнасць і ўдумлівасць» [4, с. 85]: *На гару бягом, а з гары – ні з*

*месца* (агонь па лучыне) [3, с. 273]; *Сам у ботах, а хаджу на галаве* (цвік у боце) [3, с. 315]; *На вадзе родзіцца, а вады баіцца* (лёд) [3, с. 52].

Усе гэтыя на першы погляд незразумеласці, нелагічнасці загадак накіраваны на тое, каб спрыяць адгадванню. А ўжо калі разгадаеш, то вобраз успрымаецца зусім натуральна. Парадаксальнасць загадак з будовай складаназлучаных сказаў са злучнікам *а* абумоўлена імкненнем чалавека-стваральніка загадак да незвычайнага, нечаканага, што «здольна будзіць і раздражняць думку, пераводзіць яе з вялай плыні абыдзённасці ў неспакойны і віратлівы паток паэзіі» [4, с. 85]. Адсюль – разнастайнасць сінтаксічных тыпаў прэдыкатыўных частак загадак са структурай складаназлучанага сказа са злучнікам *а* і значэннем супрацьпастаўлення: *Плача баба на ўвесь лес, а па ёй – ніякі бес* (сава) [2, с. 316]; *Сама пад страхою, а хвост мокры* (кудзель) [2, с. 314]; *Пяць козак смокчуць стажок, а пяць у поле ідуць* (пальцы і кудзеля); *Поле шкляное, а межы дрывяныя* (акно); *Сам голы, а сарочка за пазухой* (свечка) [2, с. 315]; *Свечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць* (зоркі на небе) [3, с. 29]; *Авец поўны хлявец, а казёл толькі адзін* (зоркі і месяц) [3, с. 29].

Як відаць з прыкладаў, у загадках-складаназлучаных сказах са злучнікам *а* прэдыкатыўныя часткі па сінтаксічнай структуры вельмі рэдка з'яўляюцца поўнымі двухсастаўнымі сказамі: *Сястра да брата ў госці ідзе, а брат ад сястры хаваецца* (но і дзень) [3, с. 62]; *Брат сястру даганяе, а сястра ад брата ўцякае* (дзень і ноч) [3, с. 63]. У большасці выпадкаў – гэта няпоўныя або аднасастаўныя сказы: *Дзяжа чорная, а вока белае* (зямля і снег) [3, с. 30]; *Відзен край, а дабрацца да яго нельга* (гарызонт) [3, с. 31]; *З гары падае, а ўніз б'е* (гром) [3, с.39]; *Мяне рэжуць, мяне б'юць, а я за гэта не злюсь, яшчэ лепей станаўлюсь* (глеба) [3, с. 30]; *Стукае, грукае, а нідзе яго не відаць* (гром) [3, с. 39]; *Шуміць, гудзіць цэлы век, а не чалавек* (вецер) [3, с. 42]; *Белае палатно, а пад ім халадно* (снег) [3, с. 51]; *Нетуці радасці, а гагочыць* (рэха) [3, с. 55]; *Поўны хлявец авец, а па сярэдзіне мархалец* (язык і зубы) [3, с. 118].

Прэдыкатыўныя часткі загадак са структурай складаназлучаных сказаў са значэннем супрацьпастаўлення часам аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучніка *але*: *Кожны ўжывае, але тое на стале не бывае* (грудзі маці) [3, с. 129]. Злучнік *але* семантычна больш насычаны ў параўнанні са злучнікам *а*, бо разам з супрацьпастаўляльнымі выражае яшчэ ўступальныя адносіны.

Сустракаюцца загадкі разгледжанага тыпу і са злучнікамі *ды, да*:: *Ляцелі белыя гусі, крылля русы, да нельга з іх па пёрушку вырваць* (снег) [3, с. 49]; *Поўна бочачка віна да й замочка няма* (яйка) [3, с. 151]; *Кінуць, то кінеш, ды праз хату не перакінеш* (пяро) [3, с. 161].



Такім чынам, прааналізаваўшы загадкі са структурай складаназлучнага сказа, можна адзначыць, што большасць з іх – у сінтаксічных адносінах – гэта складаназлучаныя сказы са значэннем супрацьпастаўлення і злучнікамі а. Гэтыя загадкі заснаваны на антытэзе, што абумоўлівае іх вобразнасць і экспрэсіўнасць. Радзей сустракаюцца загадкі са структурай складаназлучаных сказаў са спалучальнымі злучнікамі.

*Спіс літаратуры*


1. Беларуская граматыка. У 2 ч. Ч.2. Сінтаксіс / Рэд. М.В.Бірыла, П.П.Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986. – 327 с.
2. Беларускі фальклор: хрэстаматыя / склад К.П. Кабашнікаў, А.С.Ліс, А.С.Фядосік, І.К.Цішчанка. – Мінск: Вышэйшая школа, 1985. – 749 с.
3. Загадкі / склад. М.Я.Грынблат, А.І.Гурскі; рэд. А.С.Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 448 с.
4. Гілевіч, Н.С. Паэтыка беларускіх загадак / Н.С.Гілевіч. – Мінск: Вышэйшая школа, 1976. – 128 с.


УДК 811.161.3

**С.Г. Хвясько** (Гродна)

## ВАКАЛІЗАЦЫЯ СПАЛУЧЭННЯЎ ТЫПУ *ЗЫЧНАЯ(ЫЯ)* + *САНОРНАЯ* Ў ЗЫХОДЗЕ СУБСТАНТЫЎНЫХ АСНОЎ

Вакалізацыя асновы назоўніка ў сучаснай беларускай мове – сістэмная з'ява, якая выяўляе прыметы пазіцыйнай абумоўленасці, рэгулярнасці і прадуктыўнасці. Як правіла, устаўная галосная развіваецца ў асновах субстантыўных словаформ з нулявым канчаткам. Гэта значыць, што нулявая флексія муж. Н.(В.) адз. або не-муж. Р.(В.) мн. з'яўляецца пазіцыйнай умовай вакалізацыі асновы назоўніка ў парадыгмах словазмянення. Аднак у пазіцыі перад нулявой флексіяй вакалізуюцца далёка не ўсе асновы, а толькі такія, у якіх фінальныя кансанантныя групы маюць пэўныя фаналагічныя прыметы. У навуковых апісаннях беларускай мовы адзначаецца, што ў найбольшай ступені тэндэнцыю да вакалізацыі выяўляюць субстантыўныя асновы, якія заканчваюцца на спалучэнні тыпу ***зычная*(*ыя*) + *санорная зычная*** [1, с. 14]. Разгледзім больш падрабязна фактары вакалізацыі гэтых спалучэнняў ў зыходзе субстантыўных асноў.

Вакалізацыя фінальнай **кансанантнай групы *зычная* + *й*** – з'ява непрадуктыўная, але рэгулярная. Яна адбываецца толькі ў асновах назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду. Прадуктыўнасць гэтай з'явы абмяжоўваецца лексічным складам сучаснай беларускай мовы, у якім выяўлены толькі тры назоўнікі мужчынскага роду і пяць назоўнікаў

жаночага роду з такімі марфаналагічна зыходнымі асновамі, якія маюць у фінальнай частцы кансанантную групу ***зычная + й*** і спалучаюцца з нулявой флексіяй у пэўных склонавых формах: муж. Н. адз. *вера**бéй***, *сала**вéй***, *ву**лей***; жан. Р. мн.л. *ла**дзéй*** (ад *ладдзя*), *папа**дзéй*** (ад *пападдзя*), *сві**нéй*** (ад *свіння*), *ся**мéй*** і (*сéм'яў*) (ад *сям'я*), *ску**фéй*** (ад *скуф'я*). Рэгулярнасць эпентэзы галоснай ў асновах гэтых назоўнікаў забяспечваецца выключна фаналагічным фактарам – у сучаснай беларускай мове словы не могуць заканчвацца на такое спалучэнне зычных фанем, таму ў пазіцыі канца слова яно абавязкова вакалізуецца.

У адрозненне ад назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, субстантывы ніякага роду з зыходам асновы ***зычная + й*** прадстаўлены дастаткова вялікай групай слоў, але ў іх парадыгмах адсутнічае пазіцыйная ўмова для вакалізацыі асноў – нулявая флексія Р. мн.

**Кансанантнае спалучэнне *зычная*(*ыя*) + *р*** у фінальнай частцы марфаналагічна зыходнай асновы маюць каля 400 назоўнікаў, абсалютная большасць з якіх – назоўнікі мужчынскага роду. Нягледзячы на тое, што кансанантнае спалучэнне ***зычная*(*ыя*) + *р*** выяўляе відавочную тэндэнцыю да вакалізацыі, чаргаванне ***ø → галосная*** у асновах з гэтай фінальнай кансанантнай групай не з'яўляецца прадуктыўным. У сферы назоўнікаў мужчынскага роду вакалізаваныя і невакалізаваныя асновы з фінальным спалучэннем ***зычная*(*ыя*) + *р*** суадносяцца, прыкладна, як 1 : 9. Не вакалізуецца значная колькасць асноў, як правіла, запазычаных і неагульнаўжывальных назоўнікаў: *верлі**бр***, *ке**др***, *сква**йр***, ***акр*** і інш. Нерэгулярная эпентэза галоснай, якая развіваецца ў кансанантных групах ***-бр***, ***-кр***, -(***с***)***тр***, ***-фр*** і некаторых іншых у асновах спрадвечна беларускіх і добра адаптаваных запазычаных назоўнікаў мужчынскага роду, аказваецца пазіцыйна не абумоўленай, таму што правіламі фанемнай сінтагматыкі сучаснай беларускай мовы гэтыя спалучэнні зычных фанем дапускаюцца ў пазіцыі канца слова і, натуральна, перад нулявой флексіяй муж. Н. адз., параўн.: *ся**бра** → ся**бар*** і *ізю**бра** – ізю**бр***, *свё**кра** → свё**кар*** і *фія**кра** – фія**кр***, *мáй**стра** → мáй**стар*** і *магí**стра** – магí**стр***, *ку**фра** → ку**фар*** і *го**фру** – го**фр***. Такім чынам, вакалізацыя асноў з фінальнай групай ***зычная*(*ыя*) + *р*** назоўнікаў мужчынскага роду ў большасці выпадкаў не з'яўляецца патрабаваннем моўнай сістэмы, а выклікаецца фізіялагічнымі асаблівасцямі артыкуляцыі гэтых спалучэнняў [2, с. 25–26] і ў значнай ступені падтрымліваецца як лексічным фактарам – частотнасцю ўжывання слова ў маўленні, так і стылістычна-прагматычным фактарам – неафіцыйнасцю зносін, у якіх патрабавальнасць моўцы да артыкуляцыі гукаў і спалучэнняў гукаў зніжаецца [2, с. 23–25].



З'ява вакалізацыі кансанантнага спалучэння ***зычная*(*ыя*) + *р*** у асновах назоўнікаў жаночага роду ўвогуле не актуальная для сістэмы субстантыўнага словазмянення сучаснай беларускай літаратурнай мовы, таму што ў парадыгмах назоўнікаў жаночага роду з такой фаналагічнай характарыстыкай асноў адсутнічае пазіцыйная ўмова для іх вакалізацыі – нулявая флексія Р. мн. Эпентэза галоснай назіраецца ў аснове словаформ жан. Р. мн. толькі назоўнікаў *ся**стрá*** і вытворнага ад яго *медся**стрá***: *ся**стрá*** → *ся**сцёр*** (і *сё**стр**аў*), *медся**стрá*** → *медся**сцёр***(і мед*сё**стр**аў*).

Устаўная галосная ў асновах словаформ Р. мн. назоўнікаў ніякага роду назіраецца толькі ў тым выпадку, калі ў фінальнай частцы асновы перад нулявой флексіяй аказваецца спалучэнне ***-др***: *бя**др**у* → *бё**дзер***; *вя**др**у* → *вё**дзер*** і *вя**дзёр***; *я**др**у* → *я́**дзер*** і *я́**др**аў*; *антыя**др**у* → *антыя́**дзер*** і *антыя́**др**аў*. Фактарам альтэрнацыі ***ø → галосная*** ў гэтых словаформах аказваецца марфаналагічны фактар – значэнне нулявой флексіі, параўн.: спалучэнне ***-др*** дапускаецца перад нулявым канчаткам муж. Н. адз., напрыклад, *ка**др***, і жан. Р. мн., напрыклад, *эска**др*** (ад *эскадра*), але немагчыма перад нулявой флексіяй Р. мн. іменна назоўнікаў ніякага роду. Такім чынам, чаргаванне ***ø → галосная*** ў асновах з фінальным спалучэннем ***-др*** назоўнікаў ніякага роду – непрадуктыўная, але рэгулярная, марфаналагічна абумоўленая з'ява.

**Кансанантнае спалучэнне *зычная*(*ыя*) + *л*** у фінальнай частцы марфаналагічна зыходнай асновы маюць каля 100 назоўнікаў. У асноўным гэта назоўнікі мужчынскага роду. У іх асновах эпентэза галоснай можа выклікацца фаналагічным фактарам – недапушчальнасцю пэўнай кансанантнай групы ў пазіцыі канца слова, напрыклад: *д'я́**бла** → д'я́**бал***, *свé**рдла** → свé**рдзел***, *вы́**жла** → вы́**жал***, *ву**злá** → ву**зел***, *ка**злá** → ка**зёл***, *бу**слá** → бу**сел***, *ча**хлá** → ча**хóл***, і лексічным фактарам, як, напрыклад, у словаформах *ву**глá** → ву**гал***, *а**рлá** → а**рóл***, *ка**тлá** → ка**цёл***, у якіх устаўная галосная ўжо не мае пазіцыйнай абумоўленасці і захоўваецца па традыцыі. Гэта меркаванне абгрунтоўваецца тым фактам, што спалучэнні зычных ***-гл***, ***-кл***, ***-рл***, ***-тл***, хаця рэдка і пераважна ў запазычаных назоўніках, але ўжо сустракаюцца ў пазіцыі канца слова ў сучаснай беларускай мове: *сін**гл***, *мю́зі**кл***, *шэ**рл***, *бі**тл***, і значыць, не забараняюцца яе фаналагічнай сістэмай.

Назоўнікі жаночага роду, аснова якіх заканчваецца на спалучэнне ***зычная*(*ыя*) + *л***, – з'ява вельмі рэдкая. Вакалізацыя асновы перад

нулявой флексіяй Р. мн. адбываецца ў парадыгме толькі аднаго назоўніка жаночага роду: *мятла́ → **мёцел*** (і *мётлаў*)[10].

Эпентэза галоснай у асновах словаформ Р. мн.л. назоўнікаў ніякага роду развіваецца толькі ў тым выпадку, калі ў фінальнай частцы асновы перад нулявой флексіяй аказваецца спалучэнне ***-сл***, напрыклад: *вясло́ → **вёсел*** (і *вёслаў*), *крэ́сла → **крэ́сел*** (і *крэслаў*). Вакалізацыя спалучэння ***-сл*** у асновах гэтых назоўнікаў абумоўлена фаналагічным фактарам: дадзеная кансанантная група не дапускаецца ў зыходзе беларускіх слоў.

Вакалізацыя **кансанантнага спалучэння *зычная*(*ыя*) + *л’*** у фінальнай частцы асноў назоўнікаў мужчынскага роду таксама можа быць або фаналагічна абумоўленай: *га́ндлю → **га́ндаль***, *брэ́нзля → **брэ́нзаль***, *штры́фля → **штры́фель***, *кэхля → **кэхаль***, *гі́цля → **гі́цаль***, *ды́шля → **ды́шаль***, *ка́шлю → **ка́шаль***, або не залежнай ад дзеяння фаналагічнага фактару, і.к. пазіцыйна не абумоўленай: *гэ́бля → **гэ́бель***, *карабля → **карабе́ль***, *рубля → **рубе́ль***, *вуглі → **вугаль***, *камля → **каме́ль***, *жураўля → **жураве́ль***. І сапраўды, спалучэнні зычных ***-бл’***, ***-гл’***, ***-мл’***, ***-ўл’*** магчымы ў пазіцыі канца слова ў сучаснай беларускай мове, параўн.: *дубль*, *канстэ́бль*, *мангль*, *Бяго́мль*, *джо́ўль*. Вакалізаваныя і невакалізаваныя асновы з фінальным спалучэннем ***зычная*(*ыя*) + *санорная л’*** назоўнікаў мужчынскага роду суадносяцца прыкладна, як 1 : 1.

У парадыгмах большасці назоўнікаў жаночага роду, а таксама назоўнікаў pluralia tantum адсутнічае пазіцыйная ўмова для вакалізацыі ***л’***-асноў, таму што формы Р. мн.л. гэтых назоўнікаў маюць, як правіла, матэрыяльна выражаную флексію. Аднак слабая прадуктыўнасць чаргавання ***ø → галосная*** не адмяняе яго рэгулярнасці ў тых словаформах Р. мн., якія ўтвараюцца з дапамогай нулявой флексіі. Рэгулярнасць эпентэзы галоснай у кансанантных спалучэннях ***зычная(ыя) + л’*** асноў назоўнікаў жаночага роду і pluralia tantum з’яўляецца вынікам яе пазіцыйнай абумоўленасці – або канцом слова, у якім забараняюцца пэўныя спалучэнні зычных (так выяўляе сябе фаналагічны фактар), напрыклад: *ва́фля → **ва́фель***; *ту́флі – **ту́фель***, або пазіцыяй перад нулявой флексіяй – носьбітам граматычных значэнняў Р. мн. (так выяўляе сябе марфаналагічны фактар). Напрыклад, кансанантныя групы ***-бл’***, ***-пл’*** магчымы ў зыходзе асновы перад нулявой флексіяй муж. Н. адз.: *дубль* і жан. Н. адз.: *цепль*, але немагчымы перад нулявой флексіяй жан. Р. мн. і Р. pl.t., адсюль *грэ́бля → **грэ́бель***[11], *ша́бля → **ша́бель***, *агло́бля → **аглабе́ль***, *ка́пля → **ка́пель***, *кро́пля → **кро́пель***, *гра́блі → **грабе́ль***, *кано́плі → **канапе́ль***.

**Кансанантнае спалучэнне *зычная + н*** прадстаўлена ў фінальнай частцы асноў прыкладна 200 назоўнікаў, прычым амаль палова з іх – гэта назоўнікі жаночага роду.

У сферы назоўнікаў мужчынскага роду вакалізаваныя і невакалізаваныя асновы суадносяцца, як 1 : 4. Не вакалізуюцца, як правіла, асновы запазычаных і неагульнаўжывальных назоўнікаў з кансанантнымі групамі ***-йн***: *штэйн*, *камба́йн*, *Рэйн*; ***-л’н***: *Кельн*, ***-мн***: *гімн*; ***-рн***: *экстэ́рн*; ***-ўн***: *фаўн*. У некаторых спрадвечна беларускіх, але малаўжывальных словах аснова таксама застаецца невакалізаванай: *цёрн*. Не вакалізуецца і спалучэнне ***–гн***, якое рэалізуецца ў зыходзе асновы, здаецца, толькі аднаго назоўніка *стогн*. Эпентэза галоснай у асновах з кансанантнай групай ***зычная + н*** назоўнікаў мужчынскага роду можа быць: а) фаналагічна абумоўленай: *бу́бна → **бу́бен***, *мале́бна → **мале́бен***, *ражна́ → **ражо́н***, ***льну*** (*ільна́*) *→ **лён***, *сну → **сон***, б) марфаналагічна абумоўленай: *бла́зна → **бла́зан*** (і *бла́зен*), параўн.: словаформа жан. Р. мн. *трызн* (ад *трызна*) дапускаецца, але словаформа муж. Н. адз. **блазн* немагчыма; в) пазіцыйна не абумоўленай – у тых выпадках, калі ўстаўная галосная рэалізуецца ў такіх спалучэннях, якія дапускаюцца ў пазіцыі канца слова, напрыклад: *го́рна → **го́ран*** ‘печ’, *дзёрну → **дзёран***, *свірна → **свіран***, *шво́рна → **шво́ран***, *жарна́ → **жаро́н***, *чо́ўна → **чо́вен***. На вакалізацыю асновы прыведзеных назоўнікаў у значнай ступені ўплывае лексічны фактар: пазіцыйна не абумоўленая эпентэза галоснай развілася ў асновах якраз тых слоў, якія з’яўляліся агульнавядомымі і частотнымі ў маўленні, таму што яны абазначаюць паняцці, звязаныя са спрадвечнай дзейнасцю беларусаў.

У асновах назоўнікаў жаночага роду вакалізацыя фінальнага кансанантнага спалучэння ***зычная + н*** таксама непрадуктыўная з’ява. У большасці парадыгм назоўнікаў жаночага роду словаформы Р. мн. утвараюцца з дапамогай матэрыяльна выражанай флексіі, перад якой вакалізацыя асновы ніколі не адбываецца; некаторыя ж назоўнікі захоўваюць фанемную структуру асновы і перад нулявым канчаткам Р. Мінск, напрыклад: *тры́зна – **трызн***, *та́йна – **та́йн***, *каве́рна – **каве́рн***. Аднак некаторыя асновы назоўнікаў жаночага роду ўсё ж такі вакалізуюцца, прычым эпентэза галоснай у канцавым спалучэнні ***зычная + санорная н*** асноў назоўнікаў жаночага роду, як і асноў

---

[10] У «Граматычным слоўніку назоўніка» словаформа Р. Мінск *мётлаў* падаецца як безварыянтная.

[11] У «Граматычным слоўніку назоўніка» парадыгма слова *грэ́бля* кадыфікуецца толькі з матэрыяльна выражанай флексіяй у форме Р. мн.л.: *грэ́бляў*.

назоўнікаў мужчынскага роду, можа быць: а) фаналагічна абумоўленай: *княжна́ → княжо́н*, *блясна́ → блёсен*, б) марфаналагічна абумоўленай: *князёўна → князёвен*, *каралéўна → каралéвен*, параўн.: муж. Н. адз. ***фаўн*** дапускаецца, але жан. Р. мн.*князёўн немагчыма і в) пазіцыйна не абумоўленай: *баразна́ → баразён*(і *баро́знаў), цыстэ́рна → цыстэ́ран*(і *цыстэ́рнаў*) – спалучэнні зычных ***-зн*** і ***-рн*** магчымы ў пазіцыі перад нулявой флексіяй жан. Р. мн. і, натуральна, у пазіцыі канца слова, параўн.: *тры́зна – трызн*, *тавéрна – тавéрн*.

У адзінкавых асновах словаформ Р. мн. назоўнікаў ніякага роду эпентэза галоснай таксама можа быць фаналагічна абумоўленай: ***акно́ → ако́н*** (і *во́кнаў*) і марфаналагічна абумоўленай: *гумно́ → гумен* (і *гумнаў*), параўн.: спалучэнне ***-мн*** магчыма ў словаформе муж. Н. адз. *гімн*, але немагчыма ў словаформе н. Р. мн. **гумн*

**Кансанантнае спалучэнне *зычная*(*ыя*) + *н’*** рэалізуецца ў фінальнай частцы асноў прыкладна 5000 назоўнікаў, аднак іх вакалізацыя прадстаўлена далёка не так прадуктыўна. Справа ў тым, што больш за 90% субстантываў з кансанантнай групай ***зычная*(*ыя*)+*н’*** у зыходзе асновы з’яўляюцца назоўнікамі ніякага роду і (або) зусім не маюць субпарадыгмы множнага ліку, або, пры наяўнасці такой субпарадыгмы, не маюць у ёй словаформы Р. мн з нулявым канчаткам. Такім чынам, кансанантныя спалучэнні тыпу ***зычная*(*ыя*) + *санорная н’*** вакалізуюцца ў асновах назоўнікаў толькі мужчынскага і жаночага роду.

Вакалізацыя кансанантнага спалучэння ***зычная*(*ыя*) + *н’*** у асновах назоўнікаў мужчынскага і жаночага родаў – з’ява пазіцыйна абумоўленая і абсалютна рэгулярная. Эпентэза галоснай у асновах гэтых назоўнікаў прадвызначаецца ў асноўным фаналагічным фактарам: у сучаснай беларускай мове кансанантныя групы з апошняй зычнай фанемай ***н’***, за выключэннем ***-рн’***, не дапускаюцца ў пазіцыі канца слова, адсюль рэгулярная рэалізацыя чаргавання ***ø → галосная*** ў выпадках тыпу муж. *жні́ўня → жнíвень*, *лéжня → лéжань*, *вя́зня → вя́зень* і інш.; жан. *бага́жня → бага́жань* і інш. Фаналагічна абумоўленай з’яўляецца, натуральна, і эпентэза галоснай у аднаскладовых словаформах ***дня → дзень***, ***пня → пень***. Устаўная галосная абумоўлена марфаналагічным фактарам, а іменна, планам зместу нулявой флексіі муж. Н. адз., толькі ў адной словаформе мужчынскага роду *дурань*, а таксама у асновах з фінальным спалучэннем ***-рн’*** назоўнікаў жаночага роду: *банда́рня → банда́рань*, *кніга́рня → кніга́рань*, параўн.: спалучэнне ***-рн’*** дапускаецца перад нулявой флексіяй жан. Н. адз.: *чэ́рні – чэрнь*, але немагчыма перад нулявой флексіяй муж. Н. адз.: *дурня – *дурнь* і жан. Р. мн.: *друка́рня – *друка́рнь*. Рэгулярнасць чаргавання ***ø → галосная*** перад нулявой флексіяй у асновах назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду ў значнай ступені падтрымліваецца словаўтваральным фактарам: ≈40% слоў мужчынскага роду і 90% субстантываў жаночага роду з асновай, у якой спалучэнне ***зычная*(*ыя*) + *н’*** вакалізуецца, з’яўляюцца вытворнымі і маюць у структуры асновы суфікс ***-#н’***, які ў сучаснай беларускай мове выяўляе тэндэнцыю да вакалізацыі.

Спалучэнні зычных з іншымі санорымі зычнымі вакалізуюцца ў зыходзе адзінкавых субстантыўных асноў: муж. *льва́* (*ільва́*) → ***леў***, жан. *любві* (і *любо́ві*) → *любо́ў*, н. *пісьмо́ → пíсем*.

Такім чынам, на вакалізацыю кансанантных спалучэнняў тыпу ***зычная*(*ыя*) + *санорная*** ў зыходзе субстантыўных асноў уплываюць фаналагічны, марфаналагічны, словаўтваральны, лексічны і стылістычна-прагматычны фактары. Аднак рэгулярнасць гэтай з’явы ў сферы субстантыўнага словазмянення прадвызначаецца толькі фаналагічным фактарам. Эпентэза галоснай ў аснове назоўніка рэгулярна ўзнікае ў кансанантных групах *зычная* + ***й*** і *зычная*(*ыя*) + ***н’*** па той прычыне, што такія спалучэнні немагчымы ў пазіцыі канца слова і, натуральна, перад нулявой флексіяй. Ступень прадуктыўнасці вакалізацыі спалучэнняў тыпу ***зычная*(*ыя*) + *санорная*** вызначаецца перш за ўсё слоўнікавым складам беларускай мовы – колькасцю назоўнікаў з пэўнымі кансанантнымі групамі ў зыходзе асновы. Акрамя гэтага, на прадуктыўнасць вакалізацыі субстантыўных асноў уплываюць яшчэ дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі. З аднаго боку, тэндэнцыяй санорных зычных гукаў да складаўтварэння забяспечваецца прадуктыўнасць эпентэзы галоснай у субстантыўных словаформах з нулявым канчаткам тыпу муж. Н. адз. *магíст*$^{а}$*р*, *дуб*$^{а}$*ль*, жан. Р. мн. *кавéр*$^{а}$*н*, *тавéр*$^{а}$*н*. З другога боку, вакалізацыя кансанантных спалучэнняў ***зычная*(*ыя*) + *санорная*** стрымліваецца ўнутрысістэмнай тэндэнцыяй да структурнай устойлівасці асноў у парадыгмах словазмянення. Гэтай тэндэнцыяй прадвызначаюцца як мімінум два падыходы да кадыфікацыі граматычнай нормы ў сферы субстантыўнага словазмянення: або ўстаўная галосная, што развілася ў словаформе з нулявым канчаткам, захоўваецца і ў словаформах з матэрыяльна выражанымі флексіямі ў адпаведнасці з маўленчай практыкай, параўн.: белар. Н. адз. *грэ́бень* – Р. адз. *грэ́бeня*, хаця руск. Н. адз. *грéбень* – Р. адз. *грéбня*, або пазіцыйна не абумоўленая эпентэза ўвогуле ігнаруецца, перш за ўсё ў запазычаных словах, і, натуральна, не кадыфікуецца: муж. Н. адз. *магíстр*, *дубль*, жан. Р. мн. *кавéрн*, *тавéрн*. Відавочна, што такі экстралінгвістычны фактар, як выбар нормы для кадыфікацыі яе ў слоўніках беларускай мовы, таксама ўплывае на ступень

прадуктыўнасці эпентэзы галоснай ў субстантыўных асновах з фінальным кансанантным спалучэннем ***зычная*(*ыя*) + *санорная***.

*Спіс літаратуры*

1. Сцяцко, П. Культура мовы / П. Сцяцко. – Мінск: Тэхналогія, 2002. – 444 с.
2. Гардзей, Н.М. Вакалізацыя субстантыўнай асновы ў сучаснай беларускай мове / Н.М. Гардзей // Беларуская лінгвістыка. – 2008. – Вып. 62. – С. 19 – 27.

УДК 811.161.3

**А.М. Чарнышова** (Гомель)

## ХАРАКТАРЫСТЫКА КІНЕМНАЙ ЛЕКСІКІ ПАВОДЛЕ ЯЕ СЕМАНТЫКІ НА МАТЭРЫЯЛЕ ТВОРАЎ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Як мы ведаем, маўленчае дзеянне ўключае ў сябе розныя тыпы паводзін чалавека. У залежнасці ад таго, якімі камунікацыйнымі магчымасцямі карыстаецца чалавек, камунікацыю, у самым агульным выглядзе, можна падзяліць на два віды – моўную (вербальную) і нямоўную (невербальную).

Моўная, альбо вербальная, камунікацыя адбываецца пры дапамозе слоў і розных іх камбінацый, збудаваных па пэўных граматычных правілах.

Няслоўная моўная камунікацыя называецца парамоўнай і яе сродкамі з'яўляюцца інтанацыя, паўзы, тэмп маўлення і розныя вакалізацыі (смех, плач, усхліпванне і г.д.). Вербальная камунікацыя – гэта тое, што гаворыцца ці што прамаўляецца; а парамоўная камунікацыя – гэта тое, як што прамаўляецца альбо як што гаворыцца. У працэсе камунікацыі чалавек карыстаецца як моўнымі, так і парамоўнымі сродкамі, і часам гэта даволі істотна ўплывае на сэнс яго выказванняў.

Пазамоўныя сродкі суправаджаюць працэс маўленчай дзейнасці чалавека, дапаўняюць, ілюструюць змест выказанай ім думкі, нясуць такім чынам, дадатковую да асноўнага зместу інфармацыю.

Паравербальныя сродкі зносін з'яўляюцца прадметам вывучэння камунікатыўнай лінгвістыкі. Навука, якая займаецца вывучэннем міміка-жэставых паводзін чалавека называецца *кінесіка* (з грэч. Kinesis – рух), яна вывучае сукупнасць рухаў цела (мімікі, жэстаў), што прымяняюцца ў працэсе зносін паміж людзьмі (за выключэннем рухаў маўленчага апарату). Адзінкі, якія вывучае кінесіка, называюць кінемамі.



Выкарыстанне паравербальных сродкаў у творах мастацкай літаратуры з'ява даволі распаўсюджаная. Пісьменнікі ў сваіх тэкстах часта выкарыстоўваюць кінемы для выражэння таго, што нельга іншы раз сказаць словамі.

У творах мастацкай літаратуры жэставыя паводзіны адыгрываюць вельмі значную ролю пры стварэнні вобразнай характарыстыкі герояў. Пісьменнікі з дапамогай паравербальных сродкаў камунікацыі ствараюць больш поўную карціну псіха-фізічнага стану чалавека ў пэўнай сітуацыі, пры пэўных умовах.

У многіх мастацкіх творах беларускіх пісьменнікаў пазамоўныя сродкі камунікацыі адыгрываюць вельмі значную ролю. Пры дапамозе кінем пісьменнікі перадаюць складаны ўнутраны стан іх герояў у ходзе разважанняў, малейшыя змены ў настроі, рэакцыю на паведамленне, з'яву ці дзеянне.

Апісанне ці стварэнне пэўнай сітуацыі ў мастацкім творы абумоўлівае ўжыванне аўтарам пэўнай невербальнай лексікі. Такім чынам, паводле функцыі, мэты і сітуацыі зносін кінемы могуць выражаць адносіны паміж людзьмі. Яны падзяляюцца на пачуццёвыя і эмацыянальныя: перадаюць разнастайныя адценні пачуццяў (хваляванне, радасць, сумненне, расчараванне і інш.)

У творах беларускіх пісьменнікаў гэта разнавіднасць пазамоўных сродкаў з'яўляецца дамінуючай. Асаблівую ўвагу пры паказе ўнутранага свету персанажаў пісьменнікі ўдзяляюць яскраваму, непаўторнаму апісанню вачэй. Усе латэнтныя (прыхаваныя) ўнутраныя перажыванні, хваляванні, увесь унутраны стан адлюстроўваецца ў іх. Тое што немагчыма перадаць словамі, можа выказаць душа, а міміка (выраз твару) ў пэўнае імгненне выдатна дапаўняе агульны малюнак.

Пры выкарыстанні пісьменнікам нямоўных сродкаў камунікацыі, яго тэкст напаўняецца дадатковым семантычным адценнем. Кінемы – гэта не проста словы, апісанне пэўнай сітуацыі, палажэнне той ці іншай часткі цела героя ў прасторы, а вельмі значны сэнсавы элемент для разумення характарыстыкі персанажа. Усе кінемы ў мастацкім тэксце, створаныя аўтарам, маюць сваю семантыку, кожны пазамоўны элемент у канве мастацкага твора нясе сваю сэнсавую нагрузку.

Часцей за ўсе нямоўныя сродкі ў тэксце выражаюць пэўныя эмоцыі і пачуцці герояў у пэўнай, створанай для іх аўтарам, сітуацыі. Гэта можна ўбачыць па наступных прыкладах: *Убачыў тады, як вочы ў Гарновай <u>працяліся холадам, пустатой, як засвяцілася ў іх нешта такое, што падобна было да сполаху або да нейкай палкай, балючай журбы</u>* [1, с. 451] – 'хваляванне, туга'; *Жыццё табе дазваляе ўсё, капрызны чорцік. А вось калі яно пачне супраціўляцца, пачне мяць, -*

*тады ты зразумееш і станеш харошым, чорцік з дзівоснымі вачыма. Пагладзіў яе лапку. «Будзь добры з... людзьмі, чорцік. Будзеш?»*[2, с. 243] – ‘пяшчота’; *Здрыгануўся, прахапіўся, Галаву падняў Сымон. «Гэта ж толькі сон мне сніўся». І галоўку звесіў ён* [3, с. 299] – ‘засумаваць’; *А Абшарскі быццам застыгнуў, упяўшы ў іх бок свае адзервянелыя вочы* [1, с. 260] – ‘здзіўленне, спалох’; *У вачах у Ганны гарэлі, пераліваліся аганькі гневу* [1, с. 276] ‘гнеў’; *А йдзе бацька з хлевушка, Ён узбураны, сярдзіты, Бровы ссунуты на нос* [3, с. 293] – ‘змрочны, насуплены, хмуры’; *Але замест гэтага бярэ яе рукі, сціскае, гладзіць пяшчотна, абнімае нясмела любы, падатны стан* [1, с. 278] – ‘каханне, турбота, пяшчота’; *Калі датыркнецца яе гаворка, раптам насупіцца, змоўкне...у вачах смутак засвеціцца* - *ціхі, пакорны...* [1, с. 64] – ‘смутак, туга’; *Стаяў ён панура, нерухома, у дол апусціўшы сярдзіта прыжмураныя вочы. Твар быццам драўляны, быццам мёртвы. На ім застыла, закамянела хваравітая напружанасць* [1, с. 165] – ‘моцная задуменнасць’; *Аснач раптам узняў галаву. Акінуў хату ўраз павесялеўшым, светла-іскрыстым паглядам* [1, с. 165] – ‘добры настрой, прыўзняты эмацыянальны стан’; *Па твары разлілася давольнасць* - *шырокая, млявая, якая заўсёды бывае ў тых, хто пасля цяжкае працы знаходзіць сабе адпачынак* [1, с. 166] – ‘спакой, бесклапотнасць’; *Упяў пагляд проста ў твар пану. У гэтым паглядзе нешта гарэла, бушавала шалёнае, лютае* [1, с. 168] – ‘нянавісць, гнеў’; *Брызганула вясёлымі іскрачкамі з шэрых глыбокіх вачэй* [1, с. 172] ‘вялялосць, добры настрой’; *Вочы самі сабой шырока расплюшчваюцца, поўныя жаху, нервова сморгаецца сівая галава, і паграбаныя старасцю рукі – сухія, драўляныя* -*пачынаюць трэсціся, як у ліхаманцы* [1, с. 305] – ‘хваляванне, псіхалагічна напружаны стан’; *«Дзякуй вам, Алесь, - кажа яна. – Бывайце.» – Яна набліжае да яго тварык, дакранецца нерухомымі вуснамі да яго шчакі і падае яму руку...* [2, с. 124] – ‘удзячнасць’; *Пылок ляцеў проста ў вочы коням задняй тройкі. Наталля, смеючыся і закочваючы вочы, ад радасці пляскала далонькамі і спявала* [4, с. 14] – ‘радасць’; *«Мы за ўсё вымалілі дараванне. Усім гэтым.» – Яму так было шкада яе, што дрыжалі рукі, якімі ён саграваў яе пальцы* [5, с. 267] – ‘хваляванне’; *Міканор павярнуўся і злосна, цвёрда пакрочыў дахаты* [6, с. 202] – ‘злосць’.

Як вядома, асобую ролю падчас зносін адводзяць менавіта міміцы, бо на твары субяседніка лягчэй за ўсё знайсці адказ на ўсе пытанні, звязаныя з яго душэўным станам. У сваіх раманах многія пісьменнікі ўжываюць разнастайныя кінемы, што называюць мімічныя паводзіны герояў, якія звязаны з усімі часткамі твару і выражаюць радасць, адабрэнне, здзіўленне, развагу, роздум, спачуванне, насцярогу, стомленасць, спалох, хваляванне, пагрозу, трывогу, нярвовасць, насмешку, іронію, здзек, крыўду, сум, маркоту, няшчырасць, незадаволенасць, пачуццё віны, нязгоду, злосць, абурэнне, гнеў. Напрыклад, у творах Ул.Караткевіча мы знойдзем наступны матэрыял: *Алесь ішоў, калі раптам нешта неўсвядомленае прымусіла радасна задрыжаць яго веі. Ён усміхнуўся – перад яго ганкам стаялі ў святочных уборах Кагуты* [2, с. 72]; *Затое Лотр атрымаў магчымасць перагляноцца з Магдалінай. Вочы іхнія сустрэліся. Кардынал ухвальна апусціў веі, нібы падбадзёрыў. На вуснах Магдаліны быў дзіўны іранічны выраз. Як бы малення і, зусім трохі, нейкай пагрозы* [7, с. 162]; *Алесь заўважыў, як адно з крылатых броваў Вежы прыўзнялося ў непрыкметным здзіўленні* [2, с. 303]; *Людзі сядзелі моўчкі. Грубаватыя твары трохі маршчыніліся ад не вельмі звыклых думак. Нікому не хацелася першаму кінуць слова* [7, с. 43]; *Война еў, скоса паглядаючы на субяседніка насцярожанымі вачыма. Яго чорныя бровы былі нахмураныя* [2, с. 141]; *Алесь убачыў, як спалохана здрагануліся веі аканома* [2, с. 358]; *«Выйдзі!»* - *кінуў кардынал жанчыне. Тая надзьмула вусны. «Табе кажу!»* [7, с. 142]. *Бацькаў твар спахмурнеў, бо на матчыных вачах з’явіліся слёзы* [2, с. 56]; *Вычварна зламаныя пагардлівыя бровы Раўбіча дрыжалі, злуючыся на ўсіх* [2, с. 144]; *У пана Юрыя дрыжалі ноздры ад злосці* [2, с. 255].

Некаторыя кінемы могуць выкарыстоўвацца толькі ў працэсе зносін з іншымі людзьмі, іх можна назваць псіхалагічнымі. Яны залежаць толькі ад сітуацыі, у якой апынуліся субяседнікі. Такія кінемы нельга назваць аднастайнымі, іх семантыка можа вар’іравацца ў залежнасці ад змены адносін паміж людзьмі падчас размовы. Кінемы паказваюць на адносіны да субяседніка, выражаюць згоду, нязгоду з ім, адмову, інтэнсіўнасць і катэгарычнасць дзеяння, супрацьпастаўленне, аб’яднанне і раз’яднанне. Напрыклад, *У Дубадзела на гэта было іншае меркаванне – ён ускочыў, замахаў рукамі: «Грамадзяне, куранёўцы! Прашу! Заклінаю ўсіх!»* [6, с. 1482] – ‘нязгода, хваляванне’; *«Ат»-нецярпліва махнуў рукой і сеў на зэдлік – хмуры, пахілы* [1, с. 204] – ‘нязгода з тым, што адбываецца, немагчымасць што-н. змяніць, паўплываць’; *А Сымонка, як прыкуты, Не мог пальцам зварухнуць, Не мог гэтых чараў путы Ні разбіць, ні адпіхнуць*[3, с. 298-299] – ‘заставацца нерухомым, не магчы чаго-н. зрабіць у выніку моцнага ўздзеяння якіх-н. падзей, з’яў’; *Ён стукнуў кулаком па стале, незгаджаючыся з ім* [1, с. 114] – ‘нязгода’; *Успышкі ўсё часцелі. І вось чалавек ля горна зняў з сагана зусім круглую бутэльку з вузкім рыльцам, ускалаціў нейкі асадак і паказаў чалавеку з паласой. Той сцвярджальна апусціў галаву* [14, с. 138]; *«Я шкадую, што цябе стукнуў.» – «І я*

*таксама шкадую» – Алесь падаў хлопцу руку. Хлапец зрабіў крок, і падлеткі моцна паціснулі рукі* [14, с. 269]; *Раўбіч глядзеў на Загорскага. І Загорскі, асцерагаючы яго, адмоўна паківаў галавою* [14, с. 228]; *Перасякае дарогу чалавек на вараным кані. Стаў на ўзбочыне і глядзіць... Пастаяў, усміхнуўся на мой дэмарш з пісталетам, пасварыўся пальцам і знік у напрамку Дняпра...* [14, с. 359].

Наколькі гэты працэс (выяўленне семантыкі невербальных сродкаў зносін, дарэчнасці і недарэчнасці іх выкарыстання і г.д.) складаны ў паўсядзённым жыцці, настолькі ж цяжка вызначыцца наконт іх і ў мастацкім тэксце. Добра напісаны раман або аповесць павінны змяшчаць у сабе пры апісанні вобразаў галоўных герояў не толькі іх партрэтную і моўную характарыстыку, але і тыя невербальныя сродкі, якія характэрны для іх. Але жэсты, міміка, пастава і рухі цела, як і словы, не павінны быць празмернымі. Нездарма гавораць, што лепшым жэстам з’яўляецца той, якога не заўважаюць, які арганічна зліваецца са словам і ўзмацняе ўздзеянне слова на слухача.

Кінемы могуць быць і сімвалічнымі, а іменна характэрнымі не толькі для мастацкага вобраза, створанага ў творы, але і ўжывацца людзьмі падчас зносін. Гэта набліжае мастацкую фантазію да сапраўднага жыцця і вобраз становіцца больш блізкім для кожнага чытача. Сімвалічнымі ў аўтарскім тэксце часцей з’яўляюцца жэсты: агульнапрынятыя жэсты, якімі суправаджаюць сустрэчу, прывітанне, развітанне і інш.: *На развітанне моцна паціснула Ганулін руку* [1, с. 161]; *Прыступкі вялі ўніз. Пан Юры першы спусціўся туды. Працягнуў Алесю руку, прывітаўшыся* [2, с. 77]; *«Але. Пазнаёмцеся.» – буркнуў Іван. – Сабіна зрабіла рэверанс, і малахітавая сукенка нібы заструменілася* [2, с. 38]; *«Бачыш ты свайго пастрыжанага брата? Абдыміцеся першымі мужчынскімі абдымкамі.» – Яны абняліся* [2, с. 80]; *Старшы конюх, Зміцер, абпалены сонцам да таго, што скура лупілася на носе, як на маладой бульбе, зняў шапку перад панам: «Накрыйся, – сказаў бацька. – Ведаеш – не люблю.»* [2, с. 57]; *Міма Алеся паспяшаў да сходаў бацька. Весела падміргнуў сыну. Збег уніз і, падышоўшы да дзверцаў, галантна падставіў руку, каб дапамагчы сысці з прыступак жанчыне* [2, с. 88].

Такім чынам, эфектыўнасць стварэння мастацкага тэксту заключаецца не толькі ў ступені выкарыстання аўтарам вербальных адзінак для адлюстравання ўзаемадзеяння герояў твора, але і ва ўменнем уплятаць у канву тэкста кінемныя (паравербальныя) адзінкі, якія нясуць дадатковы сэнс і ствараюць непаўторны вобраз чалавека-героя са сваім адметным характарам і сваімі непаўторнымі манерамі. Дадатковая семантыка невербальных сродкаў зносін дазваляе пісьменніку больш поўна выразіць сваім персанажам пачуцці любові і нянавісці, шчасця і бяды, пяшчоты і агіды. Сэнсавая нагрузка кінем не толькі ўказвае на нейкія падзеі ў тэксце, змены ў настроі герояў ці тлумачыць той ці іншы зрух у іх душы, кінемы з’яўляюцца сімвалічнымі, характэрнымі не толькі выдуманым героям, але і звычайнаму чалавеку. Таму, выкарыстоўваючы ў сваіх творах кінемныя сродкі зносін, кожны пісьменнік павінен быць яшчэ і крыху псіхолагам, каб апісаць адносіны паміж персанажамі больш рэальна і жыццёва.

*Спіс літаратуры*


1. Зарэцкі, М. Кветка пажоўклая: апавяданні, аповесць / М. Зарэцкі; Уклад. Н.Семашкевіч. – Мінск: Маст. літ., 2002. – 431 с.
2. Караткевіч, Ул. Каласы пад сярпом тваім: раман. кн. першая / Ул.Караткевіч. – Мінск: Юнацтва, 1981. – 381 с.
3. Колас, Я. Новая зямля. Сымон-музыка: паэмы / Я.Колас. – Мінск, 1986. – 448 с.
4. Караткевіч, Ул. Збор твораў. У 8 т. Т. 5. Каласы пад сярпом тваім: Раман, кн. 2 / Ул.Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1989. – 527 с.
5. Караткевіч, Ул. Нельга забыць: раман / Ул.Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1982. – 335 с., іл.
6. Мележ, І. Людзі на балоце / І. Мележ. – Мінск, 1991. – 402 с.
7. Караткевіч, Ул. Выбраныя творы. У 2-х т. Т. 2. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (Евангелле ад Іуды): раман / Ул.Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1980. – 400 с.



УДК 811.161.3



**Н.С. Шакун** (Мінск)


## ЛАКАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ Ў МОВЕ ТУРАЎСКАГА СПІСУ *CORPUS AREOPAGITICUM*

Адзін з традыцыйных кірункаў даследавання мовы помнікаў старажытнага пісьменства – гэта пошук дыягнастуючых рысаў, якія б дазволілі звязаць той ці іншы тэкст з той ці іншай кніжна-моўнай традыцыяй або з пэўным лакальным тыпам старажытнаславянскай мовы*. Менавіта з гэтага гледзішча нас зацікавіў манускрыпт, які звязваецца гісторыяй свайго паходжання з тураўскімі гістарычнымі землямі. Гэта так званы Тураўскі спіс Сачыненняў Дыянісія Арэапагіта (*Corpus Areopagiticum*). Зараз рукапіс захоўваецца ў дэпартаменце манускрыптаў Нацыянальнай бібліятэкі Францыі ў Парыжы пад нумарам 105. Пра паходжанне рукапісу сведчыць суправаджальны каментар, прыкладзены княжычам Эмануэлем Булгакам, дзе

* Паводле тэрміналогіі М.Талстога.

адзначаецца, што дадзены спіс быў зроблены з сербскай рэдакцыі сачыненняў нейкім «манахам-русінам» у Тураве ў першай чвэрці XVI ст. Гэта вялікі па аб'ёме помнік, ён складаецца з 612 рукапісных старонак суцэльнага тэксту трактату, напісанага заходнім паўуставам, які зазнаў уплыў паўднёваславянскага паўуставу (магчыма, рэха перыяду другой цэнтралізацыі).

Мы не ставілі сабе за мэту дэталёвы і рознабаковы аналіз мовы дадзенага помніка, найперш нас цікавіла, ці адкрыты быў тэкст для лакальнага ўплыву. І калі так – то ў якой ступені. Значыць, у нашым выпадку, галоўнай мэтай быў пошук у тэксце прыкмет уплыву жывой гаворкі пісца.

Нагадаем, што трактат Дыянісія Арэапагіта паводле жанру адносіцца да патрыстыкі, а значыць, даследаваны намі тэкст не з'яўляецца кананічным, што робіць яго ў пэўным сэнсе адкрытым для пранікнення адзінкавых моўных рысаў, характэрных для лакальнай гаворкі – роднай гаворкі перапісчыка. Тым не менш, тураўскі спіс з сербскага пратографа рабіўся на самым пачатку XVI ст., і ў ім выразна праглядаюць рысы другога паўднёваславянскага ўплыву на ўсіх моўных узроўнях [11, с. 143-146]. Аднак на агульным фоне досыць паслядоўна архаізаванага тэксту выдзяляюцца рэдкія, але выразныя моўныя факты на граматычным, лексічным і нават словаўтваральным узроўні – гэта своеасаблівыя формы ці лексемы, якія не адпавядаюць канонам, паводле якіх складаліся тэксты ў перыяд другога паўднёваславянскага ўплыву (перавага архаічных граматычных формаў, узнаўленне юсоў, ераў і яця, ужыванне паўднёваславянскай лексікі).

Разгледзім найбольш яскравыя з іх.

1. На ўзроўні ***марфалогіі*** адлюстраваннем лакальнага ўплыву можна лічыць напісанне дзеяслова цяперашняга часу ў форме 3 асобы множнага ліку з асновай на заднеязычны з перадачай чаргавання *г // ж*. У наступным кантэксце чытаем: ибо сштеќќици знаменїа налагаѣть животрворѣштаго крŒта. приходѣштїимь къ таиќьствu за єже разделити техь t ќєверныихь. и да врага оубежѣть. Дзеяслоў 1 спражэння оубежѣти мае ў форме 1 асобы адзіночнага ліку ў аснове заднеязычны *г*: оубегѣ. Адпаведна ў форме 3 асобы множнага ліку павінен захоўвацца той самы гук: оубегѣть. Форма з *ж* у аснове, ужытая ў даследаваным тэксце, найхутчэй перадае вынік выраўноўвання асновы паводле формы 1 асобы адзіночнага ліку оубежѣ. Формы такога кшталту да гэтай пары фіксуюцца на Палессі [3, карта № 158], параўн. [стрижý – стрижýт']. Улічваючы той факт, што даследаваны тэкст быў перапісаны тураўскім манахам, можна канстатаваць адлюстраванне ўплыву жывой гаворкі пісца, у якой падобныя формы былі натуральныя.



У тэксце таксама сустрэліся формы прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, а таксама субстантываваных дзеепрыметнікаў, якія адлюстроўваюць у канчатках пераход этымалагічнага *е* ў *о*, напрыклад: проповедавшомѣ, w внешнои премѣдрости, настоѣштои, излишное і пад., замест закамерных для гэтага тыпу іменнага скланення проповедавшемѣ, w внешнеи, настоѣштеи, излишнее. Падкрэслім, што пераход у дадзеным выпадку фіксуецца ў формах менавіта прыметнікаў і дзеепрыметнікаў (тут у якасці прыкладу прыведзены формы прыметнікаў у месным і вінавальным склонах і дзеепрыметнікаў у давальным адзіночнага) як мужчынскага, так і жаночага роду, у канчатках і ў ненаціскной пазіцыі. Гэта мае надзвычайнае значэнне, паколькі ў гэтым выпадку мы, найхутчэй, маем справу не з фанетычна абумоўленым працэсам пераходу *е* ў *о*, пра які грунтоўна пісалі такія аўтарытэтныя славісты, як Ф. Філін, А. Сабалеўскі, Я. Карскі, А. Шахматаў, П. Векслер, З. Шцібер, М. Бірыла і інш., а з выраўноўваннем дадзеных склонавых формаў прыметнікаў і дзеепрыметнікаў мяккага тыпу іменнага скланення на ўзор цвёрдага. Нагадаем, што ў рускай і беларускай літаратурных мовах маем цяпер размежаванне на цвёрды і мяккі ўзоры скланення поўных формаў прыметнікаў, напрыклад: *молодому*, але *синему*; *маладому – сіняму*; што не тычыцца ўкраінскай мовы, дзе няма адрознення канчаткаў залежна ад цвёрдасці-мяккасці асноў: *червоному, могутньому* [12, s. 81, 83]. Такім чынам, проповедавшомѣ, настоѣштои (замест проповедавшемѣ, настоѣштеи) маюць канчаткі на ўзор цвёрдага скланення тыпу доброй/-ому. Таму тут варта казаць пра марфалагічныя прычыны пераходу *е* ў *о*. Гэтага ж пункту гледжання прытрымліваўся Ф. Філін, але заўважаў, што «такое меркаванне як быццам напрошваецца само сабою. Аднак яго можна лічыць безумоўна слушным толькі для эпохі, калі проціпастаўленне новага *о* і *е* набывае фаналагічнае значэнне. Для часу, калі пераход *е>о* меў фанетычна-камбінаторны характар, напісанне *о* замест *е* ў формах можна тлумачыць як адлюстраванне асаблівасцей жывой вымовы: уздзеянне аналогіі спрашчала для пісцоў працэс адлюстравання існай фанетычнай з'явы» [10, с. 190–191].

Цалкам верагодна, што ў нашым выпадку мы маем справу якраз з фанетычна-камбінаторным характарам пераходу *е* ў *о*. Нашая ўпэўненасць грунтуецца на фактах жывога маўлення Тураўшчыны, як вядома, «окаючага»: *нашому хлопцу берэцца восемнацацаць годоў, у неўмелушчого не боляць ні рукі ні ногі* [9, с. 174, 198]. Пацвярджэнне гэтаму можна знайсці ў артыкуле М. Бірылы «Вынікі пераходу *е (< е, ь)* у *о* і з'явы, звязаныя з ім, у беларускай мове», дзе адзначаецца, што ў гаворках, якія не ведаюць акання – брэсцкіх, гомельскіх, – *о*

вымаўляецца і не пад націскам [2]. На пашырэнне формаў тыпу *нашому* ўказваў таксама Я. Карскі [4, с. 171-172].

2. На ***лексічным*** узроўні лексема тогдашнии / тогдашнѣго не фіксуецца лексічнымі базамі слоўнікаў старажытнаславянскай мовы. Але такая форма выглядае цалкам натуральнай для жывога простага (простанароднага) маўлення ва ўсіх усходнеславянскіх мовах (параўн. *бел*. тадышні; *укр*. тодішній , *рус*. тогдашний).

3. На ўзроўні ***словаўтварэння*** нас зацікавіла словаформа книгохранилница ў кантэксце «въ сштенныи[х] книгохранилница[х] положенны имь». Тут яна найхутчэй мае значэнне 'месца, дзе захоўваюцца кнігі; бібліятэка'. Звычайна з такім значэннем ужываюцца формы кънигохранительница, кънижьница, зафіксаваныя слоўнікам І. Сразнеўскага [7; І, с. 1395-1396]. Форма книгохранилница падаецца Слоўнікам рускай мовы XI–XVII вв. [6, с. 198] са значэннем *'кнігасховішча, бібліятэка'*. Помнікі, у якіх яна ўжываецца, даволі позняга паходжання (XVI ст.); вядомая геаграфія аднаго помніка, Вопісу Іосіфава Валакаламскага манастыра 1545 (7053) г., – гэта паўночна-заходняя Расія. Астатнія два помнікі, а менавіта: «Кніга глаголемая Казьмы Індзікоплава» па спісе XVI ст. і Старажытны архіў Красна-Холмскага Мікалаеўскага Антоніева манастыра – не лакалізаваныя дакладна, але падобна на тое, што і яны таксама належаць да паўночна-заходняй ці заходняй часткі Расіі [5, с. 12, 59]. Паколькі іншыя слоўнікі не падаюць падобнай формы, можна меркаваць, што яна больш позняга ўтварэння ў параўнанні з кънигохранительница і арэал яе распаўсюджання ахоплівае паўднёва-заходнія беларускія землі, а таксама заходнюю/паўночна-заходнюю зону рускіх гаворак, якія з'яўляюцца натуральным працягам беларускіх гаворак. Па меркаванні П. Сцяцко, тып, паводле якога ўтвораны назоўнік книгохранильница, прадуктыўны ў беларускіх гаворках [8, с. 53]. Ужытая ў даследаваным тэксце форма з суфіксам *-льниц-*, замест больш рэгулярнага *-тельниц-* прадстаўляе агульнаславянскі тып назоўнікаў, утвораных паводле наступнай словаўтваральнай мадэлі: 'аснова інфінітыва + фармант *-льніц-а*', такія назоўнікі маюць словаўтваральнае значэнне 'назвы прадметаў (ёмістасцей), прызначаных для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *паласкаць – паласкальніца*', альбо: 'неасабовыя назоўнікі абазначаюць прадметы паводле іх прызначэння', напрыклад *насільніца* [1, с. 254]. Такім чынам, форма книгохранилница можа быць утворана не ад спалучэння *'книга+хранитель'*, а ад спалучэння *'книга+хранить'*. Прыняўшы пад увагу версію пра тураўскае паходжанне манаха-перапісчыка, можна выказаць меркаванне аб тым, што разгледжаная форма книгохранилница, не заканамерная для твораў, напісаных старажытнаславянскай мовай, магла трапіць у тэкст праз родную гаворку пісца, у якой такая словаўтваральная мадэль (утварэнне формы назоўніка непасрэдна ад дзеяслоўнай асновы) была цалкам натуральнаю.

Такім чынам, праведзены аналіз мовы тураўскага спісу *Corpus Areopagiticum* дае нам матэрыял для наступнай высновы: нягледзячы на імкненне пісца захаваць максімальны набор рыс, дыягнастуючых вяртанне да архаічнай нормы, у тэксце трапляюцца і лакальныя моўныя рысы. Іх нерэгулярны і нешматлікі характар сведчыць пра тое, што тураўскі лакальны тып старажытнаславянскай мовы меў кансерватыўны характар. Пісцы імкнуліся дакладна і акуратна захоўваць адпаведнасць пратографам або тэкстам-эталонам.

*Спіс літаратуры*

1. Беларуская граматыка. У 2-х ч. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; [рэд. М.В.Бірыла, П.П.Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – 431 с.

2. Бірыла, М. Вынікі пераходу е (< е, ь) у о і з'явы, звязаныя з ім, у беларускай мове / М.Бірыла // Prace filologiczne. – T. XVIII, cz. 2. – Warszawa, 1964. – S. 315-335.

3. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / АН БССР. Ін-т мовазнаўства ім. Я.Коласа. – Мінск: Выд. АН БССР, 1963. – Ч.1. Карты. – 338 карт.; Ч.2. Каментарыі. – 972 с.

4. Карский, Е.Ф. Белорусы: Язык белорусского народа / Е.Ф. Карский. Вып. 1 / АН БССР. Ин-т языкознания; Ред. В.И. Борковский. – М.: Изд-во АН СССР, 1955. – Вып. 1: Исторический очерк звуков белорусского языка. – 475 с.

5. Словарь русского языка XI – XVII вв. Указатель источников. – М.: Наука, 1975.

6. Словарь русского языка XI – XVII вв. / под ред. Бархударова–Аванесова, Т.1–23, АН СССР. – М.: Наука, 1977– [выданне працягваецца].

7. Срезневский, И.И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам / И.И.Срезневский, I–III. – СПб, 1893 – 1912.

8. Сцяцко, П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі / П.У.Сцяцко. Рэд. М.В. Бірыла. – Мінск.: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.

9. Тураўскі слоўнік. У 5 т. Т. 3 / склад. А.А. Крывіцкі, Г.А. Цыхун, І.Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – 311 с.

10. Филин, Ф.П. Присхождение русского, украинского и белорусского языков: историко-диалектологический очерк / Ф.П. Филин. – Ленинград: Наука, 1972. – 656 с.

11. Шакун, Н.С. Уплыў сербскага пратографа на мову Сачыненняў Дыянісія Арэапагіта (Тураўскі спіс XVI ст.) / Н.С.Шакун // Беларуская мова ў культурнай і моўнай прасторы Славіі: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 24-25 лістапада 2009 г.). – Мінск: Права і эканоміка, 2009. – С 142 – 147.

12. Stieber, Z. Zarys gramatyki porównawczej języków słowiańskich. Cz. II. Zeszyt 1. Fleksja imienna / Z. Stieber. – Warszawa, 1971. – 107 s.

УДК 811.161.3

**Н.Э.Шандроха** (Гродна)

# ПЕДАГАГІЧНЫ І РЫТАРЫЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ЗАГАДКІ Ў ФАРМІРАВАННІ МОЎНАЙ АСОБЫ ВУЧНЯ

Як сведчыць гісторыя духоўнасці беларускага народа, нашы далёкія прашчуры на працягу многіх стагоддзяў заставаліся сам-насам з прыродай, пакланяліся яе сілам і духам, былі яе арганічнай часцінкай. Думаецца, што менавіта недзе ў тых чуллівых адносінах да навакольнага свету зараджалася першапачаткова і сама духоўнасць, яе карані, любоў да ўсяго жывога і нежывога. Нашы продкі па-сапраўднаму ўмелі чытаць «кнігу прыроды» і перадаваць набытыя веды і ўменні нашчадкам. Народныя веды, мудрасць і кемлівасць, што дапамагалі людзям выжыць ва ўмовах суровай прыроды, знайшлі сваё адлюстраванне ў фальклоры, які на працягу многіх стагоддзяў заставаўся і застаецца скарбніцай ведаў пра навакольны свет. Вусная народная творчасць, асабліва прыказкі, прымаўкі, песні, казкі і загадкі, – гэта каштоўная крыніца народнай мудрасці і ведаў жыцця, цудоўны дыдактычны матэрыял і сродак авалодання і развіцця мовы.

Пачэснае месца сярод пералічаных фальклорных жанраў займаюць **беларускія народныя загадкі**, у якіх змяшчаецца велізарны педагагічны і рытарычны патэнцыял у фарміраванні моўнай асобы вучня. Акцэнтуючы ўвагу на родным слове як крыніцы развіцця асобы вучня, вядомы айчынны мовазнаўца В.У. Протчанка слушна адзначаў, што «неабходна так наладжваць навучальны працэс, каб моўная адукацыя садзейнічала засваенню культуры беларускага народа, а адным з галоўных накірункаў у працы настаўнікаў стала фарміраванне вучня як моўнай асобы (падкрэслена намі. – Н.Ш.) – носьбіта мовы, яе творцы, суб'екта, які любіць роднае слова, беражэ яго і карыстаецца ім перш-наперш як інфарматыўным сродкам ва ўсіх сферах жыццядзейнасці: пазнавальнай, навучальнай, нацыянальна-культурнай, бытавой» [1, с. 57]. У гэтай сувязі вывучэнне беларускай народнай загадкі ў школьным курсе беларускай мовы прадугледжвае развіццё пазнавальных здольнасцей вучняў і набыццё імі ведаў пра навакольны свет. Вельмі важна дапамагчы вучням суаднесці ўяўленыя ў загадцы мастацкія вобразы з праявамі аб'ектыўнай рэальнасці. Спазнанне жыцця праз вопыт мастацкага асэнсавання – адна з асноўных задач асобасна арыентаванай методыкі. Вызначаючы месца беларускай народнай загадкі ў педагагічным працэсе, а таксама ў фарміраванні моўнай асобы вучня, варта, на жаль, прызнаць той факт, што загадцы як менавіта фальклорнаму жанру надаецца недастаткова ўвагі. Як паказваюцьназіранні і даследаванні, загадкі ў народзе амаль перасталі складвацца і фальклорную загадку пачала паступова замяняць літаратурная, аўтарская загадка. З народнага ўжытку канчаткова зніклі з'явы і прадметы, якія ляглі ў аснову метафарычных вобразаў, а таму многія старыя загадкі ўжо амаль не існуюць у маўленчым асяроддзі сучасных школьнікаў. Так, сучаснаму, асабліва гарадскому, школьніку не хопіць, улічваючы нават яго здольнасці вобразна мысліць, ніякай кемлівасці, каб разгадаць, напрыклад, загадку пра цэп, якім некалі малацілі збожжа: *«Круціцца, верціцца, на ноч павесіцца. – Цэп»* [2, с. 170, № 1709], або пра прадзенне кудзелі: *«Пяць авечак стажок скубуць, а пяць дарожкай бягуць. – Прадзенне»* [2, с. 178, № 1805], ці калаўрот: *«Сярод хаты стаіць чорт рагаты. – Калаўрот»* [2, с. 179, № 1813], ці чаўнок з пражаю: *«За жоўтым парасяткам кішачкі цягнуцца. – Чаўнок з пражаю»* [2, с. 181, № 1839] і інш. Разам з тым, думаецца, пераважная большасць традыцыйных народных загадак можа разлічваць на сваё існаванне, бо загадкі пра стыхійныя з'явы і сілы прыроды, пра аб'екты расліннага і жывёльнага свету, увогуле пра чалавека заўсёды застаюцца папулярнымі і актыўна ўплываюць на развіццё паэтычнага густу. Ніякі іншы від або жанр фальклору ніколі не зможа замяніць загадку, бо «калі казачны эпас садзейнічае развіццю творчай фантазіі, а таксама з'яўляецца своеасаблівай маральнай і сацыяльнай педагогікай, калі песні і прыпеўкі ўплываюць пераважна на эмацыянальны лад чалавечай душы і служаць выхаванню пачуццяў, калі прыказкі і прымаўкі вучаць жыццёвай філасофіі, уменню аналізаваць і абагульняць з'явы грамадскага жыцця, то загадкі прызначаны перш за ўсё для таго, каб адкрываць чалавеку паэзію ва ўсім, што яго акружае, каб развіць у ім здольнасць глядзець на свет навакольных прадметаў і з'яў вачыма паэта (падкрэслена намі. – Н.Ш.)» [3, с. 8].

У працах фалькларыстаў XIX – XX стст. падкрэсліваецца, што загадванне загадак было своеасаблівай народнай педагогікай, прыдатным спосабам выпрабавання інтэлекту, а разам з тым і забавай, у некаторым сэнсе – вясёлай гульнёй. Загадкі ў народнай педагогіцы з'яўляюцца дзейсным сродкам разумовага выхавання, бо вымагаюць максімальнага напружання розуму, умення арыентавацца ў складанай сітуацыі, вызначаць прычынна-выніковыя сувязі паміж асобнымі фактамі і з'явамі рэчаіснасці, каб даць правільны адказ. У дачыненні да школьнай практыкі загадкі прапаноўваюцца ў тым узросце, калі вучань

ужо набыў адпаведны запас ведаў пра навакольны свет і мае пэўны светапогляд. Каб адгадаць загадку, вучню трэба не толькі ўмець назіраць і ведаць навакольнае жыццё, з’явы прыроды і грамадства, але і пазнаваць іх у інакш сказанай, загадкавай форме. Такая ўжо асаблівасць самой прыроды загадкі, што яна можа існаваць толькі ў пары з адгадкай, якая адыгрывала істотную ролю ў рытуале загадвання, бо «загадка без разгадвання прыносіць смерць, а разгадка – жыццё» [4, с. 58]. М.А. Рыбнікава слушна заўважыла, што «загаданая, але не разгаданая яшчэ загадка ўспрымаецца часта як бязглуздзіца» [5, с. 181]. Падобнай думкі прытрымліваецца і В.В. Мітрафанава: «Калі адгадкі няма, загадка разбураецца, страчваецца яе сэнс, разбураецца мастацкі вобраз» [6, с. 81]. Н.С. Гілевіч сцвярджае: «У загадцы абавязкова павінна быць заключана магчымасць адгадкі» [3, с. 21]. На думку педагогаў [7], працэс адгадвання з’яўляецца своеасаблівай гімнастыкай, якая мабілізуе і трэніруе разумовыя сілы дзіцяці. Загадка дазваляе педагогу дапамагчы школьнікам пабудаваць алгарытм пошуку адгадкі, які можа быць прыблізна такім: вызначыць, што і дзе трэба шукаць; вылучыць і аб’яднаць магчымыя прыкметы; прапанаваць адгадку і даказаць яе правільнасць. Кожны настаўнік сумесна з вучнямі можа выпрацаваць свой парадак адгадвання загадкі. Адгадванне загадак дысцыплінуе розум, прывучае дзяцей да дакладнай логікі, да разважання і доказу.

У загадках змяшчаецца мудрасць народа, яго імкненне да ведаў, цікаўнасць, назіральнасць, кемлівасць, дасціпнасць, выразнасць і сцісласць у выказванні думак. У названым аспекце беларуская народная загадка з’яўляецца выдатным прыёмам дыдактычнага ўздзеяння на дзіцячы розум. Вучні праяўляюць вялікую цікавасць да загадак, іх захапляе сам працэс загадвання і адгадвання, што дазваляе ўбачыць прыгожае і паэтычнае ў самым звычайным і будзённым. Нельга не адзначыць і рытарычны патэнцыял народнай загадкі, дзе найперш акцэнтуем увагу на разнастайнасці тропаў як рытарычных сродкаў, якія ствараюць красамоўна-таямнічы свет беларускай загадкі як фальклорнага жанру.

Дзякуючы сваёй красамоўнай і лаканічнай форме, беларускія народныя загадкі могуць плённа выкарыстоўвацца на ўроках беларускай мовы, беларускай літаратуры, пры выкладанні іншых школьных прадметаў, а таксама пры правядзенні пазакласных мерапрыемстваў. Прывядзём прыклады тыпаў загадак, якія з’яўляюцца ў школьнай практыцы метадычна апраўданымі і найбольш прыдатнымі для вучнёўскай цікаўнасці і дапытлівасці:



1. Загадкі, у якіх даецца апісанне прадмета ці з’явы шляхам пералічэння разнастайных яго прыкмет (колеру, смаку, формы). Школьнікі вучацца праводзіць аналіз і сінтэз, аб’ядноўваючы гэтыя прыкметы ў адзінае цэлае. Сустракаюцца загадкі, дзе апісанне прадугледжвае кароткую характарыстыку прадмета ці з’явы і па адной-дзвюх прыкметах трэба асацыятыўна аднавіць цэласны вобраз. Экспрэсіўная мова загадак не можа ўспрымацца без вобразаўтваральнай функцыі эпітэта – аднаго з самых традыцыйных, класічных і шырока распаўсюджаных у загадках тропаў – мастацкага, вобразнага азначэння, якое трапна і эмацыянальна характарызуе чалавека, прадмет, жыццёвую з’яву, падзею: *«Шуба бела ўвесь свет адзела. – Снег»* [2, с. 45, № 275]; *«Сядзіць паненачка ў красным жупане, хто ідзе, той паклоніцца. – Ягада»* [2, с. 64, № 487]; *«Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца. – Вішня»* [2, с. 91, № 810]; *«Кругла, гарбата, навокал махната, прыйдзе бяда – пацячэ вада. – Вока»* [2, с. 105, № 963] і інш. Вобразнасць і экспрэсію названага тропа асабліва выяўляе той загадкавы кантэкст, які ўзбагачаецца ласкальнай формай назоўнікаў і прыметнікаў. Эпітэты з памяншальна-ласкальным значэннем выяўляюць эмоцыі народа-творцы і асабліва каштоўныя сваёй экспрэсіўнасцю, лаканічнасцю і дакладнасцю характарыстыкі фальклорных вобразаў: *«Кругленька, бяленька, усяму свету міленька. – Сонца»* [2, с. 21, №5]; *«Кругленькае, касмаценькае да неба дакіне. – Вока»* [2, с. 103, № 948]; *«Шапачка маленькая, камізэлечка нятканая, кафтанік рабенькі, ды ходзіць босенькі. – Верабей»* [2, с. 139, № 1353]; *«Чарнюсенькае, малюсенькае караля падымае. – Блыха»* [2, с. 147, № 1444]; *«Бягуць два панічыкі, задраўшы лычыкі, і масла ядуць. – Сані»* [2, с. 262, № 2834] і інш.

2. Загадкі, у апісанні якіх выкарыстана метафара – найбольш экспрэсіўны трапеічны сродак вобразнасці ў загадкавым тэксце, які заснаваны на ўжыванні слоў і выразаў у пераносным значэнні на аснове знешняга ці ўнутранага падабенства вобразаў, з’яў і прадметаў. Пры стварэнні метафарычнага вобраза ў загадцы далёкае і незразумелае падаецца праз блізкае і даступнае. Так, з’явы прыроды, раслінны і жывёльны свет прыпадабняюцца прадметам быту, прыладам працы, хатнім жывёлам, паводзінам і дзеянням людзей: *«Бегла ліска каля лесу блізка; ні сцежкі, ні дарожкі, адны залатыя рожкі. – Месяц»* [2, с. 25, № 51]; *«Чырвонае карамысла праз рэчку павісла. – Вясёлка»* [2, с. 41, № 218]; *«Сярод лесу агонь гарыць. – Каліна»* [2, с. 64, № 488]; *«Румяны Піліп да палкі прыліп.* – Яблык» [2, с. 90, № 800] і інш. У загадках часта сустракаецца майстэрскае спалучэнне метафары з метаніміяй. Сутнасць заключаецца ў падмене прадметаў або з’яў на аснове ўнутранай сувязі паміж імі. Так, вельмі дасціпныя загадкавыя вобразы ствараюцца

дзякуючы выкарыстанню ўласных метанімічных назваў і імён, напрыклад: *«Глінскі біўся з Бульбінскім, а без Саламона і суду няма. – Бульба ў гліняным гаршку варыцца без солі»* [2, с. 193, № 1994] і інш.

3. Загадкі, пабудаваныя на супрацьпастаўленні, адмоўным параўнанні прадмета з іншым прадметам. Сутнасць параўнання – у супастаўленні якасцей, якія маюць блізкія або аднолькавыя прыкметы. Названы моўны сродак вобразна характарызуе з'яву і красамоўна стварае паэтычны, жывапісны малюнак. Са славянскім фальклорам, напрыклад, звязана паходжанне адмоўных параўнанняў, у якіх пры знешнім супрацьпастаўленні двух паняццяў ці з'яў відавочна глыбокае ўнутранае іх супастаўленне. Менавіта нечаканасцю расшыфроўкі вобразаў забяспечваецца эмацыйнасць загадкавага твора і яго арыгінальнасць: *«Ляціць, а не птушка; вые, а не звер. – Вецер»* [2, с. 37, № 178]; *«Не агонь, а пячэцца. – Крапіва»* [2, с. 67, № 525]; *«Чырвона, ды не дзеўка; зялёна, ды не дуброва. – Морква»* [2, с. 85, № 738]; *«Не прадзе, не тчэ, а людзей апранае. – Авечка»* [2, с. 117, № 1102]; *«Не яздок, а са шпорамі, не стораж, а ўсіх будзіць. – Певень»* [2, с. 129, № 1241]; *«Не кравец, а ўсё жыццё з іголкамі ходзіць. – Вожык»* [2, с. 137, № 1326]; *«Не куст, а з лісточкамі, не чалавек, а расказвае. – Кніжка»* [2, с. 284, № 3029]; *«На агні не гарыць, на вадзе не тонець. – Слова»* [2, с. 287, № 3062] і інш.

4. Загадкі, у якіх змяшчаецца прамое пытанне да адгадчыка. Такія тэксты вылучаюцца пытальнай інтанацыяй і адпаведным пунктуацыйным афармленнем. Найбольш спецыфічнай асаблівасцю названага тыпу загадак лічыцца іх пытальна-адказавы характар, прычым перавага аддаецца менавіта правільна і мудрагеліста сфармуляванай «пытальнай» структуры загадкавага тэксту: *«Які звер астаўляе птушыныя сляд? – Выдра»* [2, с. 137, № 1329]; *«Хто на сабе хату носіць? – Слімак»* [2, с. 144, № 1411]; *«Што гэта свеціць без агню? – Сонца»* [2, с. 306, № 3247]; *«Што без слёз плача? – Скрыпка»* [2, с. 308, № 3279] і інш. Да названага тыпу загадак адносяцца і загадкі-жарты, функцыянальнае прызначэнне якіх перш за ўсё ў іроніі, гумары, вясёлым жарце-гульні. Як слушна адзначае айчынны даследчык фальклору А.І. Гурскі, «дасціпная нечаканасць адказу на пытанне – адгадка – мае адну мэту: пасмяяцца над няўмелым, няўдалым адгадчыкам. …эстэтыка іроніі, сатыры – прэрагатыва загадак. Такую функцыю выконваюць перш за ўсё загадкі «няправільнага» тлумачэння, калі адгадчык няправільна разумее інтанацыйны сэнс пытання» [8, с. 68-69]: *«Які год цягнецца адзін дзень? – Новы год»* [2, с. 308, № 3277]; *«Які ў моры камень? – Мокры»* [2, с. 311, № 3312]; *«Ці можа страус назваць сябе птушкай? – Не, бо гаварыць не ўмее»* [2, с. 312, № 3324]; *«Што бывае пасля сямі гадоў? – Восьмы»* [2, с. 312, № 3327]; *«Чаму шапку купляюць? – Бо дарма не даюць»* [2, с. 312, № 3329]; *«Дзе гарады без людзей, а рэкі без вады? – На глобусе, на карце»* [2, с. 312, № 3333] і інш.

5. Загадкі-задачы, якія пабудаваны на арыфметычных разліках. Такая вуснамоўная народная «займальная матэматыка» заслужана лічыцца папулярнай і ненадакучлівай ў вучнёўскай аўдыторыі: *«Дзве дачкі, дзве мацеры і бабулька з унучкай. Колькі ўсіх? – Трое (бабка, маці, дачка)»* [2, с. 314, № 3351]; *«Ляцелі галкі, стаялі палкі. Як сядуць яны па адной – галка лішняя, як сядуць яны па дзве – палка лішняя. Колькі было галак і колькі палак? – Тры палкі і чатыры галкі»* [2, с. 315, № 3354]; *«Падзяліць сорак каней у дзевяць стайняў, каб не было пароўну. – У 4 стайнях па 5 каней, а ў 5 стайнях па 4 кані»* [2, с. 316, № 3362]; *«Несла гаспадыня ў кошыку дзесяць яец, а дно ўпала. Колькі засталося? – Нічога, ўсе разбіліся»* [2, с. 316, № 3365]; *«Сядзіць у кругу чатыры кошкі, супраць кожнай кошкі па тры. Колькі было разам? – Чатыры»* [2, с. 316, № 3366]; *«Пералічыце пяць дзён па парадку, не называючы чыслаў і назваў дзён. – Пазаўчора, учора, сёння, заўтра, паслязаўтра»* [2, с. 317, № 3369]; *«Вёз адзін чалавек ваўка, казу і капусту. Воўк усё хоча казу з'есці, а каза – капусту, ён ім не дае. Прыехаў да рэчкі. Трэба яму перавезці іх на той бераг. А човен маленькі, больш як дваіх не возьме: або яму браць з сабою ваўка, або казу, або капусту. Прыдзецца некалькі разоў ездзіць Задумаўся чалавек. Як жа мне перавезці, каб бяды не выйшла. З ваўком паеду – каза капусту з'есць. З капустай паеду – воўк казу з'есць. Казу павязу, а на другі раз як зрабіць? – Спачатку трэба перавезці казу, потым – ваўка, а казу забраць назад. Пасля перавезці капусту і, нарэшце, вярнуцца забраць казу»* [2, с. 317, № 3371] і інш.

У школьнай практыцы форма загадвання загадак можа быць як індывідуальнай, так і франтальнай, групавой. Віды практыкаванняў, якія ўключаюць разгадванне загадак, таксама могуць быць разнастайнымі. З адгадак можна скласці красворды, чайнворды, лато, правесці гульню ў выглядзе віктарыны, спаборніцтва і інш. Настаўнікі-практыкі часта ўскладняюць заданні, калі «рассыпаюць» словы загадкі з мэтай стварэння дэфармаванага тэксту, над складаннем якога трэба вучням працаваць. Праца з тэкстам загадкі ці са словам-адгадкай дапамагае развіць у вучняў арфаграфічную зоркасць, дазваляе папярэдзіць некаторыя памылкі, паўтарыць і замацаваць правілы граматыкі, развівае актыўную маўленчую творчасць. Створаная станоўчая эмацыянальная атмасфера спрыяе творчаму пошуку вучняў, матывуе іх цікавасць да атрымання ведаў.

Напрыканцы адзначым, што беларуская загадка як фальклорны жанр змяшчае і ў педагагічным, і ў рытарычным аспектах ўдзячны матэрыял для развіцця маўлення і інтэлекту асобы вучня, для выхавання пачуцця слова і разумення яго таямнічай загадкавасці, вобразнай сілы. Вучань праз загадку пазнае і свядома засвойвае ўсе таямніцу свету, бо падаюцца яны не сухой мовай навуковай інфармацыі, а ў вобразна-паэтычнай форме з багатай палітрай экспрэсіўных сродкаў. Прапанаваны фактычны матэрыял сведчыць аб неабсяжнасці красамоўнай і таямнічай фантазіі народа-творцы. Народа, які мудра і шчыра клапаціўся пра жывую далучанасць да слова і духоўнае развіццё нашчадкаў.

*Спіс літаратуры*

1. Протчанка, В.У. Актуальныя праблемы тэорыі і практыкі навучання беларускай мове / В.У. Протчанка. – Мінск: НІА, 2001. – 212 с.
2. Загадкі / склад. М.Я. Грынблат, А.І. Гурскі; рэд. А.С. Фядосік – 2-е выд., выпр. і дапрац. – Мінск: Беларус. навука, 2004. – 363 с.
3. Гілевіч, Н.С. Паэтыка беларускіх загадак / Н.С. Гілевіч. – Мінск: Вышэйш. шк., 1976. – 128 с.
4. Фрейденберг, О.М. Миф и литература древности / О.М. Фрейденберг. – М.: Наука, 1978. – 605 с.
5. Рыбникова, М.А. Избранные труды: К 100-летию со дня рождения / М.А. Рыбникова; сост. И.Е. Каплан. – М.: Педагогика, 1985. – 248 с.
6. Митрофанова, В.В. Русские народные загадки / В.В. Митрофанова. – Л.: Наука, 1978. – 180 с.
7. Илларионова, Ю.Г. Учите детей отгадывать загадки / Ю.Г. Илларионова. – М.: Педагогика, 1985. – 254 с.
8. Гурскі, А.І. Загадка ў славянскім фальклоры / А.І. Гурскі. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – 85 с.

УДК 811.161.3

**М.А. Якалцэвіч** (Гродна)

## З ПРЫКАЗАК, РАНЕЙ НЕ АПІСАНЫХ У ПАРЭМІЙНЫМ СЛОЎНІКУ

У 2002 годзе ў выдавецтве «Беларуская навука» выйшаў «Слоўнік беларускіх прыказак» І.Я.Лепешава і М.А.Якалцэвіч [1]. А ў 2006 годзе гэты ж слоўнік, толькі ў значна дапоўненым выглядзе, перавыдадзены «Беларускай асацыяцыяй «Конкурс» [2]. У анатацыі адзначана, што ў гэтым слоўніку «апісваецца больш за 1 600 найбольш ужывальных прыказак, тлумачыцца іх сэнс, пры неабходнасці даецца іх сітуацыйная і стылістычная характарыстыка. Выкарыстанне прыказак як моўных адзінак ілюструецца прыкладамі з мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў. Паказана, у якіх парэміялагічных зборніках прыводзіцца пэўная прыказка ці яе разнавіднасці. Пры некаторых прыказках ёсць даведкі пра іх паходжанне. У слоўніку адлюстравана варыянтнасць прыказак і сінанімічныя адносіны паміж імі».

Анатацыя завяршаецца сказам, што слоўнік «прызначаецца для шырокага круга чытачоў». Але хоць даведнік і быў выдадзены параўнальна немалым, па сённяшніх мерках, тыражом (7 700 экзэмпляраў), у кнігарні ён не паступаў, а ўсе экзэмпляры, апрача абавязковых рассылачных (Кніжная палата, Нацыянальная бібліятэка і інш.), былі ўручаны старшакласнікам – пераможцам рэспубліканскага конкурсу (на вокладцы пазначана: «Пераможцу гульні-конкурсу «Буслік-2006»).

Пры чытанні кніг, часопісаў, газет і І.Я. Лепешаў, і я працягвалі збіраць прыказкі, не апісаныя ў тлумачальных парэміяграфічных даведніках. Далей пададзім толькі асобныя такія прыказкі, запісаныя мною з пісьмовых літаратурных крыніц. Пры апісанні гэтых прыказак яны, па-першае, будуць ілюстравацца не чатырма прыкладамі-цытатамі, як гэта было ў названым вышэй слоўніку, а адной, па-другое, кожная прыказка будзе мець памету пра функцыянальна-стылёвую афарбоўку, пераважнае ўжыванне ў пэўным стылі. Паколькі абсалютная большасць прыказак – размоўныя, то пры іх стылістычная памета «разм.» не даецца. Кніжныя, прастамоўныя і функцыянальна не замацаваныя прыказкі адзначаюцца адпаведнай паметай.

**Адной рукой у далоні (ладкі) не пляснеш**. *Аднаму чалавеку, у адзіночку цяжка справіцца з чым-н.* **Сін**.: *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой вузла не завяжаш; Адным калом плота не падапрэш.* – Скажу яшчэ: адзін валадар, без народа, нішто. А адною рукою нават у ладкі не пляснеш, – працягваў прапаведнік (П. Місько. Грот Афаліны).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 38: Адной рукой у далоні не хлопнеш.

**Мэта апраўдвае сродкі**. *Кніжн. Звычайна гаворыцца з неадабрэннем у дачыненні да таго, хто для дасягнення якой-н. мэты выкарыстоўвае любыя сродкі, і ў тым ліку амаральныя.* Канонік гаварыў: «Нічога не паробіш, суровая неабходнасць. У нас вялікая мэта. Мэта апраўдвае сродкі. А граху не бойся… Павяршай дзела, як знаеш» (В. Чаропка. Архангел святой Ганны).

– *Іваноў*, с. 71: Мэта апраўдвае сродкі.

**Перажылі лета гарачае, перажывём і дзярмо сабачае.** *Праст. Кажуць з упэўненасцю ці з надзеяй перажыць, выцерпець што-н., справіцца з цяжкасцямі***.** – Пад Ленінградам, у блакадзе, горш

даводзілася, а ўсё перажылі. Не дрэйф! – І то праўда! – пагаджаліся беларусы. – Перажылі лета гарачае, перажывём і дзярмо сабачае (Р.Кобец. Ноеў каўчэг).

* [Аўгіня:] А маё сэрца нібы чула, што я вас убачу… І вось як яно сталася. [Талаш:] Нічога, нічога, Аўгінька. Перажылі лета гарачае, перажывём і панскую няволю (Я. Колас. У пушчах Палесся).

– *Ферадоўскі*, с. 366: Перабыла лета гарача, перабуду жыццё сабача.

Тут, як і ў слоўніку, за знакам зорачкі (*) дадзена індывідуальна-аўтарскае, творчае ўжыванне прыказкі ў змененым выглядзе.

**Сябры пазнаюцца ў бядзе**. *Функц. не зам.* **Сін**.: *Дружба пазнаецца ў няшчасці*. – Ты мне сябра, мой дарагі сябра, але навошта гэтыя грошы? Навошта? – Калі я табе сябра і ты мне сябра – ты павінен узяць. Не спрачайся. Сябры пазнаюцца ў бядзе. А ў цябе бяда. Я павінен табе памагчы. Бяры (У. Дамашэвіч. Фінская лазня…).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 381: У бядзе друга пазнаюць; Прыяцеля пазнаеш у няшчасці.

Некаторыя з прыказак былі выпісаны з твораў мастацкай літаратуры і значна раней, але ў ранейшым выданні слоўніка не называліся па пэўных прычынах. Асноўная з іх – надастатковая колькасць (часцей адзіная) ілюстрацый-пацвярджэнняў з твораў. А між тым толькі выбаркі-цытаты могуць пераканаць у сапраўдным існаванні пэўнага значэння, уласцівага данай прыказцы. Адначасова яны паказваюць, у якіх маўленчых абставінах выкарыстоўваецца прыказка, як і калі яе можна ўжыць. Інакш кажучы, ілюстрацыйны матэрыял у тлумачальным слоўніку мае выключна важнае значэнне, бо дае поўнае ўяўленне аб змесце і ўжыванні прыказкі. Дарэчы, дзякуючы дадатковым прыкладам-цытатам да прыказак, апісаных у ранейшым «Слоўніку беларускіх прыказак», былі выяўлены некаторыя варыянты парэмій, раней не адлюстраваныя. Прывядзём некалькі з іх.

**З вялікага кахання сабачае разбежышча –** варыянт прыказкі **Ад вялікіх любошчаў сабачае разбежышча.** З вялікага кахання ў іх сабачае разбежышча стала, варагавалі доўга. Нарэшце ён кінуў-рынуў усё – і пайшоў ад яе. Яна ровам раўла, але позна (С. Лобач. Па закутках памяці).

**Дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць** – варыянт прыказкі **Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць**. [Патыліца:] Штосьці не веру, што ты служыў на кухні ў турэцкага султана. Навошта прыкідваешся? [Абдула:] Абдула – эфендзі, а не дэрвіш. [Патыліца:] Гавары па-шляхецку. [Абдула:] Дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць. Замененаму кухару будзе болей увагі і павагі (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).



**Малыя дзеткі – малыя і бедкі, выраслі дзеткі – выраслі і бедкі** – варыянт прыказкі **Малыя дзеці – малы клопат <большыя дзеці – большы клопат>.** Спадзяваўся, што пасля вяселля [унучкі Машы] знікне трывога. Не, не знікла. Чаго зараз баюся? Усяго. Малыя дзеткі – малыя і бедкі, выраслі дзеткі – выраслі і бедкі (І. Шамякін. З дзённікаў).

**Не чапай ліха, пакуль ціха** – варыянт прыказкі **Не чапай ліха, калі спіць ціха.** Прайшоў месяц з дня аперацыі… Здаецца, я зрабіў памылку, давераўшыся сябрам і звярнуўшыся да медыцыны. Ну крыху пабольвала ў баку (часам), быццам нічога страшнага. А цяпер у адначассе з нармальнага ператварыўся ў інваліда. Сапраўды – не чапай ліха, пакуль ціха (В. Быкаў. Ліст да Л. Лазарава).

Вельмі многія выпісаныя намі парэміі падаюцца і ў адносна нядаўна выдадзенай кнізе А. С. Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі» (Мінск, 2000), якая з'яўляецца зборам рукапісных і друкаваных беларускіх прыказак, што захоўваюцца ў архівах, аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэк Вільнюса, Кракава, Лондана, Мінска, Санкт-Пецярбурга. Гэта запісы Я. Чачота, П. В. Шэйна, А. Н. Шыманоўскага, А. К. Сержпутоўскага, А. Варлыгі і шмат якіх іншых збіральнікаў парэмій у XIX–XX стст. Тут «аўтар робіць спробу ўстанавіць дэфініцыю прыказкі, выявіць сітуацыю, у якой яна ўжываецца» [3, с. 9]. Аднак у гэтым свайго роду тлумачальным слоўніку значэнне прыказак не зусім дакладнае. Прыйсці да такіх высноў нам ізноў жа дапамаглі менавіта прыклады-цытаты з твораў мастацкай літаратуры. Некалькі прыкладаў.

**Дарога не спіць**. *Падчас падарожжа ці паездкі з чалавекам можа здарыцца што-н. нечаканае.* Дарога не спіць, кажуць людзі. Гэта так. Нават у самую лютую непагоду, у самае грознае ліхалецце дарога нейкім чынам усё ж жыве. Не прайшоў Сцёпа і двух кіламетраў, як з падарожных кустоў вытыркнулася чарнявая галава: – Эй, гражданка! (Я. Курто. А жыццё – адно).

А вось як раскрывае сэнсавы змест пададзенай прыказкі А.Аксамітаў: 'хто-н. сустрэнецца і ў начной дарозе'. А паколькі ілюстрацыйны матэрыял у названай працы адсутнічае, то застаецца незразумелым, на аснове чаго прыказка атрымала такую семантызацыю. Як справядліва адзначае І.Я. Лепешаў, «.. вызначыць сэнс вельмі многіх прыказак без апоры на іх рэальнае ўжыванне, без адпаведных маўленчых кантэкстаў, а толькі шляхам абстрактных разважанняў, гіпатэтычна – рызыкоўная і далёка не заўсёды паспяховая справа» [4, с. 237].

**За чужое лычка раменьчыкам плацяць**. *Гаворыцца пры выпадку, калі за чый-н. дробязны ўчынак сурова караюць іншага*

*чалавека, невінаватага.* – Гаспадар Пархімчык, –упоцемках звярнуўся да знаёмага селяніна Барыс, – Бог да вас літасцівы таксама. – Гэта сёння, а што заўтра будзе? – і ўздыхнуў: – За чужое лычка раменьчыкам плацяць (В. Якавенка. Пакутны век).

І параўнаем зараз тлумачэнне ў «Прыказках і прымаўках» А.Аксамітава: ‘напамінак таму, хто прагне чужых рэчаў, бо за чужую нават танную рэч прыдзецца дорага заплаціць’.

**Казала качарга гуляць да чацвярга**. *Гаворыцца жартаўліва як станоўчы адказ на чыю-н. просьбу ці прапанову (звычайна пайсці ці паехаць куды-н.).* [Малдрык:] Прыдворныя мне зайздросцяць. Каб прымелі, то ў лыжцы вады ўтапілі б. Карацей, па ўзросце маю права на пенсію… [Вітаўт:] Разумею цябе, Малдрык. Казала качарга гуляць да чацвярга. Адпускаю са службы. Але не з пустымі рукамі, а з узнагародай. Атрымаеш футры і коней. І сто коп грошай (Я. Казлоў. Старажытны перыяд, або Гісторыі і каханне).

У слоўніку А.Аксамітава гаворыцца, што пададзеная прыказка запісана А.Вярыгам, апублікавана ім у зборніку «Прыказкі Лагойшчыны» (Нью-Йорк, 1960) з такім, хутчэй за ўсё, народнаэтымалагічным паясненнем: «Даўней вяселле ў Беларусі звычайна працягвалася да серады, але, калі госці разгуляюцца, дык яно працягваецца да чацвярга. А калі і ў чацвер госці не разыходзіліся, дык гаспадару даводзілася разганяць вяселле качаргой».

Існуе вялікая колькасць прыказак, звязаных з рэлігійнымі святамі, народнымі прыкметамі, працоўным календаром. Адразу некалькі такіх прыказак-прыкмет, назіранняў над стыхіямі прыроды сустракаем у Я. Сіпакова.

**Два Юр’і і абодва дурні: адзін халодны, другі – галодны**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды. Юр’я («галодны») – свята ў хрысціян, 23 красавіка па старым стылі, і Юр’я («халодны») – 26 лістапада па старым стылі.* Юр’е, як і Мікола, святкуецца ў нас двойчы – увесну і ўзімку. Беларусы заўважылі, што колькі снегу бывае на Юр’е зімовае, столькі травы – на Юр’е вясновае. А ўвогуле на абодва святы мы паблажліва злуёмся: «Два Юр’і ды абодва дурні: адзін халодны, другі – галодны» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 98: Два Юр’і і абодва дурні: адзін галодны, а другі халодны.

**Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды.* Студзень – самы халодны месяц года. Гэта ў ім трашчаць маразы. Але беларус рады маразам і не хоча, каб яны слаблі. Бо памятае продкаў: «Барані нас Бог ад цёплага студзеня», – казалі яны. Ды і сам ён ведае: «Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 74: Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы.

**У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаюцца**. *Пра кароткі дзень у лістападзе*. А ўжо ў лістападзе вецер і дождж абтрасаюць, распранаюць усе нашы дрэвы – на іх, зусім голых, нават рэдкаму цяпер промню няма за што зачапіцца. Дождж змагаецца са снегам, цяпло – з холадам. Світае позна, цямнее рана. Як мы кажам: «У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаюцца» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

**У снежні мароз і снег вышэй хаты – год будзе багаты**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды*. Снежань зноў апранае дрэвы. Але не ў зялёнае, а ў белае адзенне. І намятае да іх каранёў гурбы снегу. Навейвае сумёты па самыя стрэхі. І мы радуемся: «У снежні мароз і снег вышэй хаты – год будзе багаты» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

Прыведзеная падборка прыказак будзе з’яўляцца дадаткам, дапаўненнем да новага выдання «Слоўніка беларускіх прыказак».

*Спіс літаратуры*


1. Лепешаў, І.Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І.Я.Лепешаў, М.А.Якалцэвіч. – Мінск: Бел. навука, 2002.
2. Лепешаў, І.Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І.Я.Лепешаў, М.А.Якалцэвіч. – Мінск: Бел. асац. «Конкурс», 2006.
3. Аксамітаў, А. Прыказкі і прымаўкі: Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак з архіваў, кафедральных збораў, рэдкіх выданняў XIX і XX стст. – Мінск: Беларуская навука, 2000.
4. Лепешаў, І.Я. Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства: дапам. / І.Я. Лепешаў. – Гродна: ГрДУ, 2006.


УДК 811.161.3

**А.М**. **Якушава** (Мінск)

## СЕМАНТЫЧНЫ СПЕКТР НАЙМЕННЯЎ РЫСАЎ ХАРАКТАРУ, АБУМОЎЛЕНЫ АТРЫБУТЫЎНАЙ СПАЛУЧАЛЬНАСЦЮ

Мэта артыкула – даследаваць працэс развіцця семантычных і стылістычных асаблівасцей найменняў рысаў характару чалавека ў складзе атрыбутыўных спалучэнняў мовы твораў Івана Шамякіна. Лексічная адзінка разглядаецца як кампанент лексіка-семантычнага поля (парадыгматычны аспект) і як адзінка кантэксту (сінтагматычны аспект).

У славянскай культуры цэнтрам каштоўнасных іерархій з'яўляюцца чалавечыя адносіны. Рысы характару праяўляюцца менавіта пры міжасабовых зносінах. Кожная рыса характару ўяўляе сабой некаторы стэрэатып паводзін, якія рэалізуюцца ў пэўных жыццёвых сітуацыях. Спецыфіка семантыкі найменняў рысаў характару чалавека заключаецца ў тым, што ў склад іх значэння ўваходзіць ацэначны кампанент. Найменні рысаў характару належаць да катэгорыі лексем, якія маюць адносна невялікую зону пашырэння. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» у 5-ці тамах іх колькасць дасягае 230 адзінак. У пісьменнікаў яны асаблівай папулярнасцю не карыстаюцца. Так, у творах Івана Шамякіна ўсяго толькі 25 такіх найменняў, а ў аповесцях Івана Пташнікава – усяго адно словаспалучэнне з прыметнікам – *п'яная смеласць* [1, с. 200]. Сэнс найменняў рысаў характару ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» звычайна вызначаецца праз семантычна звязаныя з імі словы. Напрыклад, **акуратнасць** 'уласцівасць акуратнага' [2, с. 219], **грубасць** 'уласцівасць грубага' [3, с. 81], **дакладнасць** 'уласцівасць дакладнага' [3, с. 121], **ветлівасць** 'уласцівасць ветлівага, прыветлівасць' [2, с. 483], **злараднасць** 'пачуццё радасці пры няшчасці, няўдачы другіх' [3, с. 477]. У такой інтэрпрэтацыі найменні рысаў характару не раскрываюць усю паўнату свайго семантычнага аб'ёму і развіццёвых магчымасцяў. Аналіз гэтай групы назваў у складзе атрыбутыўных словаспалучэнняў мастацкага кантэксту дазваляе глыбей пранікнуць у сэнс гэтых слоў, выявіць іх новыя значэнні і адценні.

Дамінантай лексіка-семантычнага мікраполя, што разглядаецца ў працы, з'яўляецца лексема *характар*. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» ёй даецца наступнае азначэнне: 'сукупнасць устойлівых псіхічных уласцівасцей чалавека, яго асабістых рыс, якія праяўляюцца ў паводзінах і дзейнасці' [4, с. 179]. У адпаведнасці з гэтым азначэннем да прадмета нашага даследавання мы адносім найменні, якія выяўляюць рысы чалавечага характару і з'яўляюцца кампанентамі названага лексіка-семантычнага мікраполя. Звернемся да словаспалучэнняў, якія ўжыў у мастацкіх творах Іван Шамякін. У пісьменніка іх не вельмі багата, яны ўтвараюць нешматлікае па складу кампанентаў мікраполе, але яно даволі паказальнае. Мікраполе аб'ядноўвае словаспалучэнні з субстантыўнымі кампанентамі, якія абазначаюць псіхічныя якасці:

1) адносіны чалавека да сябе: *дурнота, самалюбства,*

2) манера паводзін чалавека: *бесцырымоннасць, капрызнасць, нахабства, непасрэднасць, прастата,*

3) валявыя якасці чалавека: *слабасць, смеласць, упартасць,*



4) адносіны чалавека да іншых людзей: *ветлівасць, грубасць, дабрата, далікатнасць, добразычлівасць, жорсткасць,*

5) маральная сутнасць чалавека: *злараднасць, неразважлівасць, падазронасць, практычнасць, разважлівасць, хітрасць,*

6) адносіны чалавека да рэчаў: *шчырасць,*

7) адносіны чалавека да працы: *акуратнасць, дакладнасць.*

1. Рысы характару, якія адлюстроўваюць адносіны чалавека да сябе, у творах Шамякіна прадстаўлены двума словамі: *дурнота* і *самалюбства*. Слова *дурнота* «Тлумачальны слоўнік» падае ў значэнні 'разумовая абмежаванасць, тупасць' [3, с.210]. Кантэкстуальнае ўжыванне некалькі змякчае грубасць і катэгарычнасць гэтага сэнсу: *Як можна так не верыць самаму блізкаму чалавеку? Жыццё яму [Сцяпану] давяраю, а ён мне [Валі] – сваё. А тут [на заданні] – не верыць. Вось ужо сапраўды* ***бабская дурнота*** [5, с.309]. Атрыбутыўны кампанент *бабская* развівае, уносіць новае адценне 'недалёкасць, недарэчнасць, неабдуманасць' у агульны сэнс назоўніка *дурнота*. Такая рыса характару як *самалюбства* ўласціва для ўсіх людзей, у мастацкай прозе выяўлена словаспалучэнне *шафёрскае самалюбства*, значэнне якога актуалізуецца ў кантэксце: *«Баіцеся? – знарок уедліва спытаў Карнач, каб закрануць* ***шафёрскае самалюбства***» [6, с.27]. Атрыбутыўны кампанент істотна не змяняе семантычную структуру слова, але спалучальнасць носіць спецыфічны характар – выяўляе пачуццё ўласнай годнасці, уласцівае людзям пэўнай прафесіі.

2. Манера паводзін чалавека перадаецца пяццю атрыбутыўнымі словаспалучэннямі: *няўрымслівая бесцырымоннасць, беспрычынная капрызнасць, абуральнае нахабства, дзіцячая непасрэднасць, грубаватая прастата*. Атрыбутыўныя кампаненты ўдакладняюць значэнне найменняў рысаў характару чалавека і ўносяць пэўны ўклад у семантычную арганізацыю тэксту. Прыметнік, што спалучаецца з лексемай *непасрэднасць*, падкрэслівае той узрост, для якога характэрна гэтая рыса, і надае словаспалучэнню, у якім вылучаецца дыферэнцыяльная сема 'натуральнасць', станоўчую канатацыю: *Ці то ў вас [Міхаліна] гэта* ***непасрэднасць***, *амаль* ***дзіцячая***, *ці... акцёрская здольнасць...* [7, с.431]. Значэнне лексемы *капрызнасць* цалкам супадае са значэннем у слоўніку 'ўласцівасць капрызнага' [3, с.632], але мастацкі кантэкст надае гэтаму значэнню адценне 'абумоўленасць, абгрунтаванне': *Але і гэта ён [Максім] дараваў: неўзабаве пасля нялёгкіх родаў у жанчыны могуць з'явіцца самыя нечаканыя асацыяцыі, фантазіі і проста* ***беспрычынная капрызнасць*** [6, с.29]. Такая адмоўная рыса характару як нахабства не прыймаецца носьбітамі славянскай лінгвакультуры, а таму ацэньваецца негатыўна. Але

семантычная структура слова змяшчае ў сабе, акрамя асноўнага ‘бессаромная назойлівасць, бесцырымоннасць’ [8, с.331], ‘дзёрская бессаромнасць’, яшчэ адзін змястоўны кампанент – ‘другое шчасце’, таму і прыметнікі, што спалучаюцца з гэтай лексемай, утвараюць паміж сабой антанімічную карэляцыю – *абуральнае – прыемнае*: *Ёй [Надзі] падабалася не тады, калі ён ціскаў, у той сітуацыі яна не аднойчы адвешвала яму аплявуху, праўда, беражлівую, ашчадную, ёй падабалася пасля, уначы, калі яна масіравала свае грудзі і ўспамінала, як ціскалі іх хлапечыя рукі, **абуральнае** яго **нахабства**, але ўсё ж і **прыемнае**; яна пачала разумець тых дзяўчат, якія самі правакавалі аднакласніка на такія дзеянні, якія, па ўсіх педагагічных і літаратурных законах, ганьбяць савецкага вучня* [9, с.37].

3. Такія валявыя якасці чалавека як *слабасць* і *смеласць* супрацьпастаўляюцца паміж сабой рознымі значэннямі, якія дыферэнцыруюць атрыбутыўныя кампаненты, што спалучаюцца з гэтымі лексемамі. Напрыклад, слабасць у значэнні ‘адсутнасць цвёрдай волі’ [10, с.194] (дзе лексема *слабасць* у кантэксце набывае станоўчую канатацыю) і смеласць у значэнні ‘смелыя паводзіны; храбрасць, адвага’ [10, с.219]: *Другая жанчына магла б папракнуць: «Навошта ж ты спакусіў мяне?» Я [Міхаліна] не кінула ні слова папроку. Завошта? За тое, што даў мне хоць кароткую радасць? Наадварот, я, здаецца, пакахала Сашу за гэтую яго **чалавечую слабасць** яшчэ мацней* [7, с.405] – *Я [Валя] адкрыта пайшла па гэтай дарожцы, здзівіўшы Машу: па вачах убачыла, што яна нават спалохалася такой маёй **раптоўнай смеласці*** [5, с. 295] ці слабасць у значэнні ‘маладушнасць’ [10, с.194] і смеласць у значэнні ‘рашучасць’ [10, с.219]: *Вось і яго [Леаніда Мінавіча] **уласная слабасць**, праўда, **старая**, **закаранелая**, якую ўжо, відаць, не пераадолець, паставіла яго ў няёмкае становішча* [6, с.260] – *А потым апанавала [Супца] нейкая **злая адчайная смеласць**, нічога не выкрэсліваць, не знішчаць, нічога не хаваць* [9, с.181].

Для атрыбутыўнага кампанента характэрна пераносна-вобразнае ўжыванне на аснове асацыяцыі прыметы па падабенству з жывёлай, што асабліва падкрэслівае семантыку і значэнне адпаведнай лексемы ‘настойлівае імкненне’ – найменне рысы характару чалавека, напрыклад: *«Той [поп] мае **казліную ўпартасць**, – даводзіў біскуп»* [11, с.44]. За кошт прыметніка, які заключае ў сабе параўнанне з упартай жывёлінай, удакладняецца і ўзмацняецца агульны сэнс наймення рысы характару – яно набывае большую канкрэтнасць, вобразнасць і экспрэсіўнасць успрыняцця.

4. Рысы характару, што адлюстроўваюць адносіны чалавека да іншых людзей, заключаны ў словаспалучэннях *пакорлівая ветлівасць*, *узаемная ветлівасць, душэўная грубасць, жаночая дабрата, жончына дабрата, надзвычайная дабрата, чалавечая дабрата, жаночая далікатнасць, інтэлігенцкая далікатнасць, рыбацкая далікатнасць, шчырая добразычлівасць, бязлітасная жорсткасць, несправядлівая жорсткасць*. Адным з частотных найменняў рысаў характару чалавека ў мове мастацкіх твораў Івана Шамякіна з’яўляецца слова *дабрата*, што пэўным чынам суадносіцца з яго дыстрыбуцыяй, г. зн. з колькасцю атрыбутыўных словаспалучэнняў, у якіх ужываецца слова ў дадзеным значэнні. Гэта лексема рэпрэзэнтуе самую важную рысу характару ў моўнай свядомасці беларусаў. Атрыбутыўныя кампаненты раскрываюць не толькі тыя катэгорыі, якім уласціва дадзеная рыса – *чалавечая дабрата, жаночая дабрата, жончына дабрата*, але і надаюць гэтай якасці адпаведную станоўчую характарыстыку, а менавіта выяўляюць найвышэйшую ступень праяўлення гэтай рысы характару і адценне ‘дружалюбнасць, прыязнасць’: *Але Алейнік не злаваўся і па-ранейшаму адносіўся да свайго бязлітаснага крытыка найлепшым чынам. Максім нават не мог уцяміць, ад чаго гэта ў Алейніка – ад **надзвычайнай дабраты**, ад упэўненасці ў сабе як у кіраўніку, ад новага стылю працы, які яшчэ не ўсталяваўся паўсюдна, ці ад вялікай хітрасці?* [6, с.196]. Ідэаграфічным сінонімам у мастацкім кантэксце да гэтай лексемы выступае слова *добразычлівасць*, у якім пад уплывам атрыбутыўнага кампанента *шчырая* вылучаецца значэнне ‘які жадае людзям дабра’ [3, с.185]: *Пра ўсіх падумаў [Максім] у той кароткі міг, калі па правадах прыляцела гэтая кароткая інфармацыя. Пра сябе. Пра Дашу. Пра Лізу. Пра Ігнатовіча. Толькі пра жанчыну, якая, безумоўна, хвалюючыся (па голасу чуваць было), са **шчырай добразычлівасцю** і спагадай паведаміла гэта – пра яе ён забыўся* [6, с. 284]. У гэтым словаспалучэнні адлюстроўваюцца глыбінныя семантычныя сувязі – ‘праўдзівая, чыстасардэчная, адкрытая дабрата, прыхільнасць і спагада’. Такім чынам, у семантычнай структуры лексем *дабрата* і *добразычлівасць*, абумоўленай спалучальнасцю з атрыбутыўным кампанентам, прабіваюць сабе дарогу зародкі новых, калі не значэнняў, то адценняў.

Адной рысе характару неабавязкова адпавядае толькі адзін шаблон паводзін. З дапамогай аднаго слова можна апісваць розныя сітуацыі і адносіны да розных катэгорый людзей. У такім выпадку дыферэнцыяцыя сітуацый адбываецца дзякуючы атрыбутыўным кампанентам, што спалучаюцца з адпаведнай лексемай. Напрыклад, гэта можна назіраць на прыкладзе лексемы *далікатнасць*, якая, згодна з мастацкім кантэкстам, можа быць уласціва жанчыне і інтэлігенту, што дазваляе выдзеліць адпаведныя адценні, напрыклад, ‘мяккасць,

пяшчота’: *Звычайна Максім быў удзячны Полі за яе надзвычай* ***жаночую далікатнасць*** [6, с.14], і ‘выхаванасць’: ***Інтэлігенцкая далікатнасць*** *не дазволіла незапрошаным уварвацца ў чужую хату* [9, с. 367]. Такая спалучальнасць, якая складаецца з пастаянных эпітэтаў і сталых выразаў, з’яўляецца ўкладам у семантычную арганізацыю тэксту.

5. Маральную сутнасць чалавека выяўляюць лексемы *злараднасць, неразважлівасць, падазронасць, практычнасць, разважлівасць, хітрасць*. *Злараднасць* і *падазронасць*, што прыпісваюць жанчынам у мове мастацкай літаратуры, маркіруюцца атрыбутыўным кампанентам адмоўна, як і самі значэнні гэтых лексем – *нядобрая бабская злараднасць* і *хваравітая падазронасць*. Што датычыцца лексемы *злараднасць*, то ў мастацкім кантэксце яна страчвае некаторыя кампаненты свайго асноўнага значэння, якое пададзена ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» – ‘пачуццё радасці пры няшчасці, няўдачы другіх’ [3, с.307] і за кошт спалучальнасці набывае большую канкрэтнасць ‘прасякнуты злосцю’ як найменне рысы характару, напрыклад: *Раніцой, даючы ў дарогу хлеб і цыбулю, Клаўдзя з* ***нядобрай бабскай злараднасцю****, а можа, і зайздрасцю сказала мне [Валі]: «А гэтая... твая ўсю ноч з Валодзем папаратнік выцірала…»* [5, с. 307].

Лексема *хітрасць* у кантэксце мастацкай прозы Шамякіна выступае ў некалькіх новых значэннях і адценнях, якія адсутнічаюць у ТСБМ. Хітрасць, згодна з мастацкім кантэкстам, уласціва прадстаўнікам улады і жанчынам. Першыя павінны служыць узорам для іншых членаў грамадства, таму і выкарыстоўваюцца адпаведныя словаспалучэнні для характарыстыкі такіх герояў. У семантычнай структуры такіх словаспалучэнняў вылучаюць наступныя значэнні – ‘разумны ўчынак’, напрыклад: *Нават сваіх непасрэдных падначаленых ён [старшыня] рэдка выклікаў у кабінет, часцей ішоў да іх, у аддзелы. Між іншым, некаторыя лічылі, што гэта* ***разумная хітрасць****: старшынскія паходы моцна дысцыплінавалі людзей* [6, с. 71]; ‘дыпламатычнасць, вынаходлівасць’: *Але Алейнік не злаваўся і па-ранейшаму адносіўся да свайго бязлітаснага крытыка найлепшым чынам. Максім нават не мог уцяміць, ад чаго гэта ў Алейніка – ад надзвычайнай дабраты, ад упэўненасці ў сабе як у кіраўніку, ад новага стылю працы, які яшчэ не ўсталяваўся паўсюдна, ці ад* ***вялікай хітрасці****?* [6, с. 196]. Жанчыны з’яўляюцца носьбітамі маралі ўсяго грамадства, а таксама і сваёй жаночай гібкасці, якая дазваляе ўлагодзіць розныя жыццёвыя сітуацыі, таму і лексема *хітрасць* не набывае ў прозе адмоўнай канатацыі і пад уплывам атрыбутыўнага кампанента ўзнікаюць новыя адценні, напрыклад, ‘з пэўнай доляй хітрынкі, вынаходлівасць, хітрамудрасць’: *Падазрона падумала: «Мабыць, яшчэ адна хітрасць, каб скарыць мяне [Міхаліну],* ***хітрасць разумная****,* ***прадбачлівая****, якую магла прыдумаць толькі Антаніна Аркадзеўна»* [7, с.417]; *Але ў той жа час я [Міхаліна] не магла не адчуваць, што гэта –* ***мацярынская хітрасць****, для шчасця сына, унука – майго сына...* [7, с.417]; ‘увёртлівасць, прыдумка’: *Максім зразумеў, што гэта таксама* ***маленькая хітрасць****: не магла яна [Вета] не ведаць такую, яго часта пілі дома* [6, с.122]. Такім чынам, на прыкладзе лексемы *хітрасць*, мы назіраем, як атрыбутыўная спалучальнасць вылучае зародкі новых значэнняў і адценняў.

Лексема *практычнасць* выкарыстоўваецца для характарыстыкі станоўчых якасцей літаратурных герояў. Атрыбутыўны кампанент выразна вылучае адценне ‘які добра разбіраецца ў жыццёвых справах’. Так, напрыклад, вельмі падрабязна ў мастацкім кантэксце падаецца апісанне практычнасці ў княгіні Алены: *Яшчэ таму, што падораны пасламі бацьку партрэт Аляксандра не спадабаўся ёй; яна [Алена] ведала, што ён на пятнаццаць гадоў старэйшы, гэта яе не палохала, але на партрэце ён здаўся яшчэ больш старым, а яна ж не з вопыту, з* ***разумнай практычнасці*** *заключала, што ніводзін партрэтыст не намалюе караля ці князя старэйшым ці менш прыгожым, чым ён ёсць у жыцці; такому мастаку і галаву могуць знесці* [11, с.7]. Такая змястоўная спалучальнасць, сэнс якой падрабязна раскрываецца ў кантэксце, з’яўляецца арганічным укладам у семантычную арганізацыю тэксту.

6. Стаўленне чалавека да рэчаў у Шамякіна выражаецца атрыбутыўным спалучэннем са словам *шчырасць*. Але значна паўней семантыка слова раскрываецца ў значэнні ‘сардэчныя і душэўныя адносіны да людзей’ і пад уплывам мастацкага кантэксту і спалучальнасці з атрыбутыўным кампанентам у лексеме выдзяляюцца адценні ‘адкрытасць’: *Але ад гэтай сціпласці трацілася ўражанне той* ***незвычайнай шчырасці*** *і праўдзівасці, што так захапілі мяне [Івана Пятровіча] раніцай* [7, с.430], і ‘моцны ў сваім праяўленні’: *І тут, на прыпынку, напружана думаў [Аксён], што сказаць ёй [Ядвісі], каб не ўнізіць свой мужчынскі гонар і каб яна паверыла не ў яго фізічнае жаданне, а ў* ***душэўную шчырасць*** [12, с.417]. У мастацкім кантэксце ў адносінах да рэчаў лексема *шчырасць* сустрэлася толькі адзін раз: *Ірына сарамліва пасміхалася, а Аксён весела смяяўся – ён любіў* ***сялянскую шчырасць*** [12, с.437].

7. Своеасабліва падаюцца адносіны чалавека да працы. Для іх характарыстыкі ўжываюцца атрыбутыўныя спалучэнні са словамі

*акуратнасць* і *дакладнасць*. Цікава, што яны спалучаюцца з аднолькавым атрыбутыўным кампанентам *нямецкі*. Такая традыцыйная спалучальнасць, якая заключае ў сабе параўнанне, вылучае ў мастацкім кантэксце значэнне ‘поўная бездакорнасць’: *Але, гэта былі шыбеніцы. З* ***нямецкай акуратнасцю*** *зробленыя недзе ў майстэрні, трывалыя, нават пафарбаваныя ў нейкі брудна-шэры колер* [13, с.69]. У такім значэнні вылучаюцца дыферэнцыяльныя семы ‘канкрэтна, поўна, верна’: *Лотке спытаў у Хіндэля: пра што спрачаюцца? Той растлумачыў не вельмі далікатна, але з* ***нямецкай дакладнасцю*** [13, с.58], і ‘пунктуальнасць’, якая ў кантэксце выступае ў адмоўным успрыняцці: *Савіч і Грот з’яўляліся на абед роўна ў гадзіну дня. З* ***нямецкай дакладнасцю*** [13, с.90].

Аналіз паказаў, што ў складзе кантэкстуальнага словаспалучэння значэнне назоўніка знаходзіцца ў пэўнай залежнасці ад значэння атрыбутыўнага кампанента. Спалучальнасць з’яўляецца не толькі арганічным укладам у семантычную арганізацыю тэксту, але і значна пашырае і ўзбагачае семантычны спектр найменняў рысаў характару. Атрыбутыўны кампанент як бы «дыктуе» ўмовы назоўніку, раскрывае яго новыя функцыянальныя магчымасці, пашырае яго слоўнікавае значэнне.

*Спіс літаратуры*

1. Пташнікаў, І.М. Зерне падае не на камень / І.М. Пташнікаў. – Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959. – 260 с.
2. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мінск: Гал. рэд. Белар. сав. энцыклапедыі, 1977 – 1984. – Т. 1: А–В. – 1977. – 608 с.
3. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мінск: Гал. рэд. Белар. сав. энцыклапедыі, 1977 – 1984. – Т. 2: Г–К / рэд. тома А.Я. Баханькоў. – 1978. – 768 с.
4. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мінск: Гал. рэд. Белар. сав. энцыклапедыі, 1977 – 1984. – Т. 5, кн. 2: У–Я / рэд. тома М.Р. Суднік. – 1984. – 608 с.
5. Шамякін, І.П. Збор твораў. У 8 т. / І.П. Шамякін. – Мінск: Маст. літ., 2006. – Т. 7: Вялікая княгіня: раман; Ах, Міхаліна, Міхаліна…; Адна на падмостках; Шлюбная ноч: аповесці. – 398 с.
6. Шамякін, І.П. Збор твораў. У 8 т. / І.П. Шамякін. – Мінск: Маст літ., 2004. – Т. 4: Атланты і карыятыды; Губернатар. – 463 с.
7. Шамякін, І.П. Збор твораў. У 6 т. / І.П. Шамякін. – Мінск: Маст. літ., 1977. – Т. 2: Раман «Крыніцы», аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна…», апавяданні. – 560 с.
8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мінск: Гал. рэд. Белар. сав. энцыклапедыі, 1977 – 1984. – Т. 3: Л–П / рэд. тома П.М. Гапановіч. – 1979. – 672 с.
9. Шамякін, І.П. Палеская мадонна / І.П. Шамякін. – Мінск: Юнацтва, 1998. – 590 с.
10. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. – Мінск: Беларус. сав. энцыкл., 1977 – 1984. – Т. 5, кн. 1: С–У / рэд. тома М.Р. Суднік. – 1982. – 663 с.
11. Шамякін, І.П. Вялікая княгіня / І.П. Шамякін. – Мінск: Юнацтва, 1997. – 366 с.
12. Шамякін, І.П. Збор твораў. У 8 т. / І.П. Шамякін. – Мінск: Маст. літ., 2005. – Т. 6: Злая зорка: раман; Палеская мадонна; Абмен: аповесці. – 446 с.
13. Шамякін, І.П. Сэрца на далоні / І.П. Шамякін. – Мінск: Маст. літ., 2001. – 414 с.



УДК 811.111

**Л.М. Якшук** (Гродна)

## ПРА МЕТОДЫКУ ВЫКЛАДАННЯ АДНОЙ ТЭМЫ НА ЗАНЯТКАХ ПА АНГЛІЙСКАЙ МОВЕ

Навучальны дапаможнік для студэнтаў 1 курса фізіка-тэхнічнага факультэта «Focus on English» [1] прапануе для чытання некалькі тэкстаў, аб’яднаных агульнай тэмай, якую можна сфармуляваць як «Transport and traffic». Гэта тэксты «Are Buses as Easy to Use as Cars», «Transportation Used to be Much Slower than It is Now» і інш. На наш погляд, з мэтай засваення і замацавання лексічнага матэрыялу па гэтай тэме можна прапанаваць яго студэнтам у выглядзе лексічнай табліцы.

Лексічная табліца ўяўляе сабой візуальны сродак навучання, які характарызуецца структураванасцю і эмацыянальнай афарбаванасцю, яна стварае ўмовы для пачуццёвага ўспрыняцця новых лексічных адзінак, а значыць і для лепшага іх засваення. Такім чынам, выкарыстанне лексічных табліц адпавядае прынцыпу нагляднасці ў методыцы выкладання мовы. Акрамя гэтага, як піша Чмых І.Е., лексічная табліца – гэта сродак, які не толькі забяспечвае захаванне неабходных умоў для фармавання лексічнага навыку, але і кампрэсуе гэты працэс, а таксама дапамагае адбывацца авалоданню лексічнымі навыкамі не паслядоўна, а комплексна, прыводзячы ў дзеянне найбольшую колькасць аналізатараў [2].

Разгледзім варыянт лексічнай табліцы па тэме «Transport and traffic» і асноўныя моманты тэхналогіі работы з гэтай табліцай.

У адпаведнасці з прынцыпамі адбору лексічных адзінак, якія неабходна ўлічваць пры складанні лексічнай табліцы (частотнасць, тэматычны прынцып, спалучальнасць і адпаведнасць лексічнага матэрыялу навучальнаму працэсу), у яе ўвайшлі словы і выразы, якія часта сустракаюцца ў тэкстах па адпаведнай тэматыцы, у тым ліку і ў

тэкстах у навучальным дапаможніку, а таксама найбольш распаўсюджаныя словы з асаблівасцямі спалучальнасці з іншымі словамі.

Як вядома, работа з лексічнай табліцай уключае ў сябе 3 этапы:

1) успрыняцце-імітацыя;

2) абазначэнне;

3) камбінаванне.

Працы з практыкаваннямі папярэднічае экспазіцыя, дзе выкладчык уводзіць студэнтаў у праблему. Напрыклад: «*You know, usually I go to the University by bus. And I should say that sometimes I have problems because of our public transport. For example today my bus didn't come and I had to wait for another one. And I was really afraid to be late for our classes. Usually it takes me 25 minutes to get to the University. But this morning it took me 40 minutes. What about you? How long does it usually take you to get to the University? How long did it take you today?..*» і г.д.

Далей ідуць імітацыйныя практыкаванні, дзе на пытанне настаўніка да кожнага блока студэнты з дапамогай магнітафоннага запісу выбіраюць варыянты адказаў, якія адпавядаюць іх меркаванню, прагаворваючы лексічныя адзінкі шэптам. На наступным этапе студэнты, выкарыстоўваючы прапанаваны моўны ўзор, выказваюць свой пункт погляду ў дачыненні да зададзенай праблемы. На этапе камбінавання выкладчык задае студэнтам пытанні, якія маюць на ўвазе выкарыстанне лексічных адзінак з розных блокаў у адным адказе. Напрыклад: «*What should be done to solve such problem as car accidents in our town? Large number of pedestrians? Growing volume of traffic?*» і г.д.

У якасці дадатковага тэкставага матэрыялу для дамашняга і аўдыторнага вывучэння можна прапанаваць студэнтам тэксты «Car boom leaves Caracas in one big jam» (http://www.buzzle.com/ articles/117257.html), «Taxi» (http://www.onestopenglish.com/section.asp? catid=59408&docid=146276) і інш.

*Спіс літаратуры*


1. Focus on English = Английский в фокусе: задания для чтения на англ. яз. В 2 ч. / сост. И.А. Болдак. – Гродно : ГрГУ, 2005. – Ч. 2.

2. Чмых, И.Е. Использование лексических таблиц на этапе формирования лексических навыков [Электронный ресурс] / Фестиваль педагогических идей «Открытый урок». – Москва : Издательский дом »Первое сентября», 2003 – 2009. – Режим доступа: http://festival.1september.ru/articles/412010/ – Дата доступа: 14.09.2009




автореферат диссертации на соискание учёной степени кандидата филологических наук. – Минск, 1987. – 23 с.

*11. Пилипович Т.П. Словообразовательные варианты прилагательных в современном белорусском литературном языке* (специальность 10.02.02 – Языки народов СССР. Белорусский язык): автореферат диссертации на соискание учёной степени кандидата филологических наук. – Минск, 1987. – 17 с.

*12. Бадевич З.И. Префиксальные прилагательные в современном белорусском литературном языке* (специальность 10.02.02 – Языки народов СССР. Белорусский язык): автореферат диссертации на соискание учёной степени кандидата филологических наук. – Минск, 1989. – 17 с.

*13. Карпович М.П. Сопоставительно-стилистический аспект русского и белорусского словообразования* (специальности: 10.02.01 – Русский язык и 10.02.02 – Языки народов СССР. Белорусский язык): автореферат диссертации на соискание учёной степени кандидата филологических наук. – Минск, 1990. – 17 с.

*14. Ермакова Е.М. Катэгорыя суб'ектыўнай мадальнасці ў сучаснай беларускай публіцыстыцы.* – Гомель, Гомельскі універсітэт імя Ф.Скарыны, 1999 (абарона 11.06.1999. Навуковы кіраўнік А.А.Станкевіч).

*15. Будзько І.У. Рэлігійная лексіка старабеларускай мовы.* – Мінск, Нацыяльная акадэмія навук Беларусі. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа (абарона 22.06.1999. Навуковы кіраўнік А.М.Булыка).

*16. Крук Б.А. Бяззлучнікавы сказ у сучаснай беларускай літаратурнай мове* (спецыяльнасць 10.02.01 – беларуская мова): аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. – Мінск: БДПУ, 2000.

*17. Хромчанка А.Р. Паўночна-мастоўскія гаворкі (арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка).* – Мінск: БДПУ імя М.Танка., 2001 (абарона 5.04.2001. Навуковы кіраўнік Г.А.Цыхун).

*18. Бушлякоў Ю.Е. Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы).* – Мінск: БДУ, 2003 (абарона 25.03.2003. Навуковы кіраўнік І.Р.Шкраба).

*19. Федарцова К.Р. Фанетыка-акцэнталагічны аспект вывучэння беларускіх народных гаворак.* Гомель: ГДУ імя Ф.Скарыны, 2002 (абарона 5.07. 2002. Навуковы кіраўнік В.А.Ляшчынская).

*20. Кліменка В.У. Дыялектна-літаратурная полісемія і аманімія субстантываў у беларускай мове.* – Гомель: ГДУ імя Ф.Скарыны, 2002 (абарона 27.09.2002. Навуковыя кіраўнікі У.В.Анічэнка і У.А.Бобрык).

*21. Самусенка В.М. Беларускія СМІ ў лагасферы нацыянальнай культуры (лінгвістычны аспект).* – Мінск.: БДУ, 2003 (абарона 11.02.03. Навуковы кіраўнік М.П.Карповіч).

*22. Міхалёва А.М. Структурна-семантычная характарыстыка беларускай тэрміналогіі машынабудавання (спецыяльнасць 10.02.01 – беларуская мова):* аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. – Мінск: БДПУ, 2005.

## ЗВЕСТКІ Ў ДРУКУ ПРА П.СЦЯЦКО

*1. Karl Gutschidt // Zeitschrift für Slawistik // Band XII. – Berlin, 1971.*

*2. Гайдук, М. Пра багацце народнай мовы* / М. Гайдук // Ніва. Беларускі тыднёвік. – Беласток. – 1971. – 11 красавіка.

*3. Mikolaš Zatovkaňuk // Slavia. Praha. – 1972. – № 3.*

*4. Wiesław Witkowski // Sławia orientalis. Warszawa. – 1979. – № 3.*

*5. Бурака, Н. Віншуем з юбілеем* / Н. Бурака, Я. Івашуціч, М. Касцян // Савецкі настаўнік. Шматтыр. газета МДПУ імя А.М.Горкага. – 1980. – 5 сакавіка.

*6. Зяневіч, І.Ц. Актыўная жыццёвая пазіцыя* / І.Ц. Зяневіч // Настаўніцкая газета. – 1980. – 12 сакавіка.

*7. Дзендзелівьский Й.О.* // Sławia. Ročnik. – 1982. – № 51.

*8. Сцяцко Павел Уладзіміравіч* // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 5. – Мінск, 1987. – С. 205.

*9. Лаўрэаты гадавых навуковых чытанняў: Прафесар Павел Уладзіміравіч Сцяцко* // Гомельскі універсітэт. – 1987. – 21 красавіка.

*10. Марціноўскі, П. Твае людзі, Зэльвеншчына: Даследчык роднай мовы* / П. Марціноўскі // Праца. – 1989. – 8 ліпеня.

*11. Кобыш, І. Аб родным слове* / І. Кобыш, А. Рогалеў, П. Чайкун // Гомельскі універсітэт. – 1990. – 13 сакавіка.

*12. Пяткевіч, А. Адданасць роднаму слову* / А. Пяткевіч // Гродзенскі універсітэт. – 1990. – 14 сакавіка.

*13. Нашы юбіляры: Сцяцко Павел Уладзіміравіч* // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4. – 1990. – № 1. – С. 79 – 80.

*14. 60 гадоў з дня нараджэння Паўла Сцяцко* // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 3. – С. 11.

*15. Прэміі часопіса «Полымя» за 1990 год: Паўлу Сцяцко – за артыкул «З пашанай да народнай мовы»* // Полымя. – Мінск. – 1991. – № 1.

*16. Сцяцко Павел Уладзіміравіч* // Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994. – С. 545 – 546.

*17. Гарадзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры.* – Гродна, 1993, 1996, 1997.
*18. Сцяцко Павел Уладзіміравіч* // Беларусь: энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 1995. – С. 695.
*19. Сцяцко Павел Уладзіміравіч* // Роднае слова. – 1995. – № 4; 1996. – № 4;1997. – № 3; 1998. – № 9; 1999. – № 2; 2001. – № 2; 2002. – № 2; 2003. – № 2.
*20. Хто ёсць хто ў сучаснай беларускай лінгвістыцы.* – Мінск, 1997. – С. 99 – 100.
*21. Даніловіч, М. Навука – 98. На філалагічным факультэце* / М. Даніловіч // Гродзенскі універсітэт. – 1999. – 5 мая.
*22. Скобла, Міхась. Дзярэчынскі дыярыюш: Гістарычны нарыс. Артыкулы. Эсэ* / Міхась Скобла. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. – С. 6.
*23. Сцяцко Павел Уладзіміравіч* // Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы: біябібліяграфічны даведнік. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 494 – 496.
*24. Пяткевіч, А.М. Людзі культуры з Гродзеншчыны* / А. Пяткевіч. – Гродна., 2000. – С. 288 – 289.
*25. Даніловіч, М. Жыццё, прысвечанае навуцы* / М. Даніловіч // Гродзенскі ўніверсітэт. – 2000. – 1 сакавіка.
*26. Скобла, Міхась. Рыцар вяльможнага слова. Да 70-годдзя Паўла Сцяцко* / Міхась Скобла // Літаратура і мастацтва. – 2000. – 3 сакавіка.
*27. Багдзевіч, А. Павел Уладзіміравіч Сцяцко* / А. Багдзевіч // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. – 2000. – № 1(3). – С. 125 – 126.
*28. Шавыркін, Міхась. Карыфей айчыннага мовазнаўства* / Міхась Шавыркін // Звязда. – 2000. – 4 сакавіка.
*29. З крэўным словам па родных сцежках: Паўлу Сцяцко – 70* // Гродзенская праўда. – 2000. – 4 сакавіка. – С.5.
*30. Міхайлаў, П. Васількавага краю душа* / П. Міхайлаў // Настаўніцкая газета. – 2000. – 4 сакавіка.
*31. Марціноўскі, П. Родная мова – вызначальны накірунак дзейнасці вучонага: П.У.Сцяцко – 70 гадоў* / П. Марціноўскі // Праца. – 2000. – 4 сакавіка.
*32. Бубновіч, Іна. Слынны навуковец і педагог* / Іна Бубновіч // Наша слова. – 2000. – 8 сак.
*33. Сіпліценя, Жана. Пакліканне – лінгвістыка. Да юбілею Паўла Сцяцко / Жана Сіпліценя* // Роднае слова. – 2000. – № 3. – С. 27 – 29.
*34. Бубновіч, І.І. Прафесар Павел Уладзіміравіч Сцяцко: Бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці ў галіне беларускага і славянскага мовазнаўства* / І.І. Бубновіч, В.Л. Вараловіч, Ж.С. Сіпліценя. – Гродна, 2000. – 65 с.
*35. Габрусевіч, С.А. Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы* / С.А. Габрусевіч, І.П. Крэнь. – Гродна, 2001. – С. 116 –117.
*36. Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна.* – Мн., 1999. – С. 550.
*37. Сцяцко П.У. / Беларуская энцыклапедыя.* Т. 15. – Мн., 2002. – С. 319.
*38. Вітаўт Кіпель і Зміцер Саўка. Беларускія слоўнікі і энцыкляпэдыі* // Беларускі інстытут навукі і мастацтва. – Нью-Ёрк – Мінск, 2002. – 568 с. – № 120, 617, 1463, 1505, 1622 – 1633, 1796, 1885, 1607, 1608.
*39. Памяць. Гістарычна-дакументальная хроніка Зэльвенскага раёна.* – Мн., 2003. – С.417.
*40. Hermann Bieder (Salzburg) Культура речи: Восточнославянские языки. Белорусский язык // Тенденции развития языка в зеркале культуры речи //* Universität Innsbruck – Institut für Slawistik. Uniwersytet Opolski. – Opole. – 2003. – S. 371.
*41. Змагар за беларускую мову прафесар Павел Сцяцко ўзнагароджаны медалём Ф.Скарыны* // Наша слова. – 2004 г. – 6 кастрычніка.
*42. Новицкая, Л. Медали для филологов / Л. Новицкая //* Гродзенская праўда. – 2004. – 16 лістапада. – С.1.
*43. Кветкі рэктара //* Гродзенскі універсітэт. – 2004. – 6 снежня.
*44. Жамойціна, С.А. Руплівец на ніве нацыянальнай культуры і мовы / С.А.* Жамойціна // Славуты Зэльвенскі край: матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі «Старонкі гісторыі Зэльвеншчыны» (Зэльва, 12 снежня 1998 г.). – Ліда, 2004. – С. 312 – 316.
*45. Кандрат Крапіва. Водзыў аб дысертацыі П.У.Стэцко «Прадметна-бытавая лексіка зэльвенскіх гаворак» //* Збор твораў у шасці тамах. Т.6. – Мінск: Мастацкая літаратура. – 2004. – С. 280 – 289.
*46. Дубравин, Михаил. Имя собственное* / Михаил Дубравин // СБ Беларусь сегодня. – 15.10.2005. – С. 17.
*47. Барыс Пракопчык* // Звязда. – 2005. – 14 кастрычніка. – С. 15.
*48. Кавальчук А.І. Навуковыя працы і іншая дзейнасць прафесара П.У.Сцяцко* / А.І. Кавальчук, Т.А. Якубовіч // Надзённыя

пытанні лінгвістыкі: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Гродна: ГрДУ, 2005. – С. 17 – 51.

49. *Буглак, Ж.М. Удзячнасць гадаванцаў* / Ж.М. Буглак, Л.Я. Кавалёва // Надзённыя пытанні лінгвістыкі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Гродна: ГрДУ, 2005. – С. 15 – 17.

50. *Крэчка, К. У водпуск – на радзіму* / К. Крэчка // Праца. – 2005. – 7 верасня. – С.5.

51. *Багдзевіч, А.І. Знаны навуковец і педагог / А.І. Багдзевіч, І.І. Бубновіч* // Надзённыя пытанні лінгвістыкі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Гродна: ГрДУ, 2005. – С. 9 – 15.

52. *Журавлёв, В. «Мы як зубры. Тутэйшыя, што ад вякоў жывуць»: Имя в энциклопедии (в книге): профессор Павел Стецко* / В. Журавлёв // Перспектива. – 2005. – 29 сентября. – С.20.

53. *Островцова, И. Трудности перевода. Профессор Павел Стецко о…собеседнике и собутыльнике* / И. Островцова // Вечерний Гродно. – 2005. – 16 марта. – С.3.

54. *Піваварчык, І. Шукаць, знаходзіць, быць няспынным у працы і жыцці* / І. Піваварчык // Гродзенская праўда. – 2005. – 10 сакавіка. – С.2.

55. *Буглак, Ж. Навуковая школа прафесара Паўла Сцяцко* / Ж. Буглак, Л. Кавалёва // Гродзенскі універсітэт. – 2005. – 22 красавіка. – С.8.

56. *Думкі аб выкладанні і выхаванні* // Гродзенскі універсітэт. – 2006. – 6 красавіка. – С. 4.

57. *Университет и его педагоги / под ред. Ю.П.Золотухина*. – Гродно: ГрДУ. – 2006. – С. 299 – 300.

58. *Зэльвенцы, вядомыя ў свеце* // Праца. – 2008. – 18 кастрычніка. – С. 5.

59. *Стецко Павел Владимирович* // Республика Беларусь: Энциклопедия. Т. 7. – Минск: Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2008. – С. 114.

60. *Даніловіч, М.А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны* / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2008. – С. 187 – 191.

61. *Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно»* / В. Журавлёв. – Гродно, 2009. – С. 71 – 95.

62. *Барыс Пракопчык* // Звязда. – 2009. – 5 верасня. – С. 3 – 4.

63. *Кіпель, Вітаўт. «Доктар філалогіі Сцяцко – чалавек знакаміты … сярод філолагаў, на кафедрах славістаў…» / Вітаўт Кіпель* // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 89.

64. *Жук, І. «Аўтарытэтная фігура ва ўсім руху «Адраджэння…»* / І. Жук // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 93.

65. *Трусов, О. Большой труженик / О. Трусов* // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 74.

66. *Церлюкевич, В. «Очень энергичный человек…плодотворно работает на благо факультета»* / В. Церлюкевич // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 76 – 77.

67. *Петрашевич, Е. «Это скромный человек и большой ученый…»* / Е. Петрашевич // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 81.

68. *Пяткевіч, А. «Эта подвижническая работа ученого открывает огромные резервы белорусского языка…»* / А. Пяткевіч // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 94 – 95.

69. *Голуб, Ю. «Кніга карыфея айчыннага мовазнаўства П.Сцяцко»* / Ю. Голуб // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 94.

70. *Кавальчук, А. «Ды і сёння Павел Уладзіміравіч гатовы дапамагчы, падказаць, растлумачыць…»* / А. Кавальчук // Журавлёв, В. «Чем больше имя знаменито, тем неразгаданней оно». – Гродно, 2009. – С. 87.

71. *Знакаміты даследчык і педагог: Да юбілею Паўла Сцяцко* // Роднае слова. – 2010. – № 2.

72. *Да юбілею Паўла Уладзіміравіча Сцяцко* // Веснік ГрДУ. Серыя 3. – 2010. – № 1.

# III. КУЛЬТУРА МОВЫ

**П.Сцяцко**

## НАРЫСЫ КУЛЬТУРЫ МОВЫ

Напрацоўкі, што падаюцца тут, ёсць працягам нарысаў культуры мовы, змешчаных у папярэдніх кнігах аўтара: «Праблемы нормы, культуры мовы» (Гродна: ГрДУ, 1998. – 294 с.), «Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы» (Гродна: ГрДУ, 1999. – 292 с.), «Культура мовы» (Мінск: Тэхналогія, 2002. – 444 с.), «Мовазнаўчы досвед (выбраныя творы): у 2 ч. Частка 2. Культура мовы. Тэрміналогія» (Гродна: ГрДУ, 2005. – 380 с.).

Усе яны прайшлі адпаведную апрабацыю на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку – часопіса «Роднае слова» (2005 – пачатак 2010 гг.) і штотыднёвіка «Наша слова» (2005 – 2009 гг.).

У некаторых артыкулах змяшчаюцца новыя абгрунтаванні, меркаванні датычна нарматыўнасці моўнай адзінкі (слова, аналітычнага наймення), яе структуры, графемнага аблічча, семантыкі. Пры гэтым прымалася пад увагу маўленчая практыка, адлюстраваная ў тэкстах знакамітых моўцаў (пісьменнікаў, навукоўцаў) ці аўтарытэтных выданняў.

Пры падачы артыкулаў бралася пад увагу алфавітная паслядоўнасць іх назвы.

**Аберучма.** «*Выпрастай шырокія плечы і з песняй, агнём у вачах кідайся ў свет, хапай жыццё **аберучма***» (Анатоль Казлоў. Паразумецца з ветрам // Маладосць, 2009. № 4. С.13).

Лексема *аберучма* мае значэнне ‘абедзвюма рукамі (абхапіць, узяць што-небудзь)’. Тлумачальны слоўнік зафіксаваў аднакаранёвыя (аднаасноавыя) словы (з тым жа значэннем) *аберуч* і *аберучкі* (Т.1, с.47).

Утварэнне ад *аберуч* з далучэннем прыслоўнага суфікса ***-ма*: *аберуч-ма***. Параўн. *лежма, седзьма.*

**Абязбольны – абязбольвальны – абязбольваючы**. Усе гэтыя словы – аддзеяслоўныя ўтварэнні, толькі выкарыстаныя пры гэтым розныя словаўтваральныя сродкі: суфіксы *-н-*, *-льн-*, *-уч-*. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Том 1. 1977, с.92) падае: «**Абазбольваючы**, -ая, -ае. Які служыць для абязбольвання»

Беручы пад увагу штучнасць для беларускай мовы дзеепрыметнікаў з суфіксам *-уч-(-юч-)*, навязаных нашай мове ўсесаюзным стандартам, слоўнікі незалежнай Беларусі сталі фіксаваць пашыраныя ў маўленні прыметнікавыя адпаведнікі з суфіксамі *-льн-*, *-н-* і інш. Так, «Русско-белорусский словарь» 1993 года падае: «**Обезболивающий**, прил. *Абязбольвальны*; *обезболивающие средства – абязбольвальныя сродкі* (Т. 1, с. 268).

Прыметнік *абязбольвальны*, аднак, груваткі (5 складоў) і немілагучны сваёй структурай (…*больваль*…), таму на яго месцы ўзнік больш прыдатны эквівалент-утварэнне ад формы закончанага трывання дзеяслова *абязболіць*. І гэта заканамерна: *абязбольны* – які служыць для *абязбольвання*, а гэтае слова тлумачыцца так: «**Абязбольванне**, н. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *абязбольваць – абязболіць*». Адсюль натуральным ёсць і ўтварэнне ад формы закончанага трывання – «**Абязболіць**, *зак. што*. Зрабіць бязбольным. *Абязболіць зуб замарожваннем*» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с. 26). Таму і з’явіўся адпаведны прыметнік з высокапрадукцыйным суфіксам *-н-*: *абязболь-н-ы*. «І не чуў тае аперацыі, бо, кажуць, былі адмысловыя ***абязбольныя*** лекі» (Адамчык).

Прыметнік *абязбольны* добра стасуецца з адназоўнікавым утварэннем *бязбольны*, выкарыстаным ў слоўніку пры тлумачэнні слова *абязболіць*. У мове, такім чынам,узнік куст аданкаранёвых слоў, простых сваёй будовай і выразных семантыкай: *бязбольны* (‘які не мае болю’), *абязбольны* (‘які абязбольвае’) і *абязболены* (‘які страціў боль’).

Такім чынам, з названых варыянтаў найбольш прыдатным словам ёсць *абязбольны*.

***Адлуп – лупцаванне – лупцоўка.*** «Сашку карціць загаварыць з ёю, але ён баіцца: раптам і тут напаткае *адлуп*, як колькі хвілінаў таму ад бацькі?» (Дзеяслоў. 2009. № 4, с. 50).

*Адлуп* – нульсуфіксавае ўтварэнне ад дзеяслова *адлупіць* ‘адлупцаваць, моцна набіць каго-небудзь’: *адлуп(-іць).* Як і ўсе нульсуфіксавыя аддзеяслоўныя ўтварэнні, слова *адлуп* досыць выразнае і экспрэсіўнае, частае ў вусным і пісьмовым маўленні. Але ў слоўніках не фіксуецца, на яго месцы – суфіксавыя дэрываты *лупцаванне і лупцоўка* (ад *лупцаваць*).

«Беларуска-рускі слоўнік» (Т.1, 1988, с. 82) падае *адлуп* як лесазнаўчы тэрмін: «*Адлуп*, -пу, м. *лес*. отлуп».

**Аднагадовы** – а не **гадава́лы**. *Як ні вылузваўся Рыгор, як ні даводзіў, што ў яго сям’я, **гадавалая** дачка, што ў яго ў дадатак гастрыт, як ні прасіў, каб далі адтэрміноўку да заканчэння вучобы, – у ваенкамацкіх чыноўнікаў … быў адзін адказ…* (Дзеяслоў. 2008. № 5 (36), с.103).

*Гадавалая* (дачка)… Яно стасуецца з дзеясловам *гадаваць*. Адсюль і *гадаванне, гадоўля, гадаванец, гадаванка…* Расійскаму *годовалый*

адпавядае беларускае *аднагадовы* (Русско-белорусский словарь, т.1., 1993, с.317). Аднаслоўныя назвы бытуюць у нашай мове і як адпаведнікі аналітычных расійскіх найменняў: *стрыгун – годовалый жеребёнок, выпустак, пярэзімак – годовалый телёнок* (Тамсама).

**Адымёнавы і адыменны.** «Рад прозвішчаў у нашай мове мае *адыменнае* паходжанне – утвораны ад уласных асабовых імён: *Кандратовіч* – ад *Кандрат, Платонаў* – ад *Платон, Клімук* – ад *Клім…*»

У гэтым тэксце слова *адыменнае* (паходжанне) мае іншае значэнне. Тлумачальныя беларускія слоўнікі падаюць: «*Адыменны.* У моваведстве: утвораны ад назоўніка або прыметніка. *Адыменны дзеяслоў*» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с. 49). *Адыменны* – пазычанне з рускай мовы(параўн.: «*Отымённый.* В языкознании: образованный от имени существительного или прилагательного. *Отыменный глагол*». Ожегов С. Словарь русского языка. М., 1982, с. 428), дзе яно – ад аналітычнай назвы (з першым кампанентам *имя*) *имя прилагательное, имя существительное* → *именная часть речи* → *именной.*

Для назваў прозвішчаў (і іншых утварэнняў) ад уласных асабовых імёнаў адэкватная назва (тэрмін) *адымёнавыя*, г.зн. дэрываты ад *імёнаў.* Калі апісваюцца розныя сваім паходжаннем (утварэннем) прозвішчы, то сярод іх вылучаюцца побач з іншымі разрадамі (напрыклад, *адапелятыўнымі* – утворанымі ад апелятываў 'няўласных назваў') і *адымёнавыя* – дэрываты ад уласных асабовых імёнаў: *Васілевіч, Васілюк, Василеня* ад *Васіль, Якубовіч, Якубеня, Якубцэвіч* ад *Якуб.* На жаль, у нашых слоўніках такога натуральнага ўтварэння – *адымёнавы* – няма, хоць яно павінна быць для перадачы адпаведнай рэаліі, паняцця.

**Азнача́льны** і **азна́чаны,** а не **азнача́емы.** Беларускай мове неўласцівыя дзеяслоўныя формы – дзеепрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану – утварэнні з суфіксамі **-ем- / -ім- (-ым-).** Гэта засведчана і самымі аўтарытэтнымі выданнямі – энцыклапедычнымі даведнікамі. Так, у кнізе «Лингвистический энциклопедический словарь» (Москва: Советская энциклопедия, 1990, с.71) у артыкуле «Белорусский язык» чытаем: «…неупотребительность страдательных причастий настоящего времени…» Аўтар артыкула – М.Р. Суднік, тагачасны дырэктар Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі.

Яскрава пацвярджаецца гэта маўленчай практыкай. Беларусы адмаўляюцца ад «імаевых» формаў і ў лінгвістычнай тэрміналогіі, замяняючы іх прыметнікамі з суфіксам **-льн-**: *нескланяльны* і *неспрагальны* замест ранейшых *нескланяемы* і *неспрагаемы*, або дзеепрыметнікамі (прыметнікамі) з суфіксамі **-н-, -ен-, -ан-, -ён-**: *паважаны, іменаваны, практыкаваны, паяснёны* (адпаведна рас. *уважаемый, именуемый, практикуемый, поясняемый*).

У згаданым энцыклапедычным даведніку робіцца таксама заўвага пра «ограниченное (терминологическое) употребление действительных причастий настоящего времени (вядучае кола 'ведущее колесо')»…

Натуральна, дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу таксама нехарактэрныя для беларускай мовы. Яны пазбягаюцца і як тэрміналагічныя адзінкі. Замест былога «ўтвараючая аснова» замацавалася *ўтваральная аснова*.

Апошнім часам у лінгвістыцы стала актыўна выкарыстоўвацца тэрміналагічная пара «матывавальнае – матываванае слова». Яго бачым ў мовазнаўчых публікацыях – манаграфіях, навучальных дапаможніках для ВНУ. Гэтыя натуральныя для беларускай мовы формы замянілі ранейшыя (з усесаюзнага стандарту) *матывуючае і матывуемае*.

А вось наступная тэрміналагічная пара адпаведна рас. *определяющее – определяемое* ў лінгвістычных публікацыях на беларускай мове не знайшла адэкватнай формы. Першы кампанент тут набыў натуральную выяву адпаведна іншым, усталяваным у нашай лінгвістычнай тэрмінасістэме формам – *азначальнае* (слова), а другі застаўся ў «савецкім» мундзіры: *азначаемае*. Ці апраўдана гэта? Не! Яно разбурае саму тэрмінасістэму. Тут мае быць тая самая форма - *азна́чанае* (як і *матывава́нае*).

Нагадаем, класікі беларускай літаратуры Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны і іншыя знакамітыя майстры слова не выкарыстоўвалі ў сваіх творах і рашуча выступалі супраць штучных для беларускай мовы дзеепрыметнікаў цяперашняга часу. Якуб Колас у сваім лісце ў бюро ЦК КПБ «Прашу зразумець мяне правільна» ад 25.05.1956 года называў утварэнні «прадстаячы», «маючыйся», «кіруемы» – «страхападобнымі» словамі.

У незалежнай краіне Беларусь трэба адэкватна паклапаціцца пра ўдасканаленне нашай мовы, яе далейшую распрацоўку і пашырэнне. Пасля зробленых нармалізацыйных крокаў у галіне правапісу трэба заняцца лексічным і словаўтваральным унармаваннем, а таксама формаслоўным і сінтаксічным.

У слоўнікі савецкага часу, пры панаванні глабальнай ідэалогіі на зліццё нацый, іх культуры і мовы, наўшывалася шмат штучных для беларускай мовы лексічных адзінак, асабліва з усесаюзнага стандарту.

Беларускі нацыянальны друк за амаль дваццацігадовы перыяд незалежнасці назапасіў шмат адмысловых лексемаў. Іх трэба сістэматызаваць і зафіксаваць ў слоўніках.

Спынімся тут на некаторых беларускіх варыянтах рускамоўных тэрмінаў, якія выкарыстоўваюцца ў дысертацыйных працах. Маю на ўвазе найперш наступныя: ***водзыў*** і ***водгук*** (*отзыв*), ***глава*** і ***раздзел*** (*глава*), ***апаніруючая арганізацыя, арганізацыя-апанент*** (оппонирующая организация).

Слова *водгук* як адэкватнае рас. *отзыв* падае і найноўшы акадэмічны трохтомавы « «Беларуска-рускі слоўнік». Выданне 3-е, папраўленае і дапрацаванае. Пад рэдакцыяй акадэміка НАН Беларусі А.І.Падлужнага. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя. 2003. Тут чытаем: **Водгук** … 3. (рэц.) *отзыв*.

Слова «*глава*» ў гэтым слоўніку зусім не мае свайго лексікаграфічнага артыкула. Яно падаецца як лексічны варыянт (сінонім) у артыкуле «Раздзел» з трыма значэннямі: 1) дзеянне, 2) частка твора, часопіса; 3) частка кнігі. Гэта натуральна і зразумела: стараславянізм *глава* неўласцівы беларускай мове, як і ўсе стараславянізмы, што бытуюць у расійскай мове. Перакладныя слоўнікі, выдадзеныя пад рэдакцыяй К.Крапівы, фіксуюць шмат беларускіх адпаведнікаў да гэтага слова. «Глава. I. 1. (главное лицо) галава; (председатель) старшыня; (руководитель) кіраўнік; (вождь) правадыр; 2. *архит.* купал; 3. (голова) уст. галава; *склонить главу – схіліць галаву*; *во главе с кем – на чале з кім*; *положить во главу угла – пакласці ў аснову*. Глава II. (отдел книги) глава, раздзел». Усе вытворныя ад рас. *глава* маюць у беларускай мове іншакаранёвыя адпаведнікі: *главарь – верхавод, завадатар; главенство – вяршэнства, панаванне, узначальванне*.

«Руска-беларускі слоўнік па кнігазнаўстве» (Мінск, 1997. Нацыянальная бібліятэка Беларусі) падае: *глава – раздзел*.

І ў дысертацыях, іх рэфератах таксама выкарыстоўваецца слова «раздзел».

На наш погляд, слова *водгук*, *раздзел* варта лічыць больш адпаведнымі лексічнай сістэме беларускай мовы (параўнальна з *водзыў*, *глава*).

У аўтарэфератах дысертацыйных працаў паказваюцца навукоўцы-апаненты і арганізацыя, якая выконвае функцыю апанента. Таму лагічна і абазначаць гэта назовам «арганізацыя-апанент». Дарэчы, у некаторых беларускамоўных аўтарэфератах гэта фіксуецца: «Арганізацыя-апанент…» Але часцей рускамоўны тэрмін толькі афармляецца па-беларуску: *апаніруючая арганізацыя*.

Як ужо адзначалася, дзеепрыметнікі цяперашняга часу нехарактэрныя для беларускай мовы. Параўнаем згаданыя *матывавальны* (рус. мотивирующий), *азначальны* (определяющий), *утваральны* (образующий).

Названы трохтомавы слоўнік 2003 года таксама падае новыя словы на месцы дзеепрыметнікавых формаў на **-емы, -імы, -ачы (-ячы), -учы (-ючы)** (замяніўшы іх на адмысловыя беларускія словы): *абслуговы адпачывальнік* (ранейшае *адпачываючы*), *заахвочвальны, захаплядьны, жывародны, канверсоўны* (рас. конверсируемый), *здабыўны, пальцаходны, пагражальны* і пад.

Беларускай мове нехарактэрныя і дзеяслоўныя асновы з суфіксам ***-ір- (-ыр-)***. Гэта таксама знайшло сваё адлюстраванне ў слоўніку 2003 года. Напрыклад, *прэміяваць* (рас. *премировать*). З усяго згаданага вынікае, што на месцы «апаніруючая арганізацыя» больш адпаведным ёсць «арганізацыя-апанент».

**Анёл** і **арханёл** – а не **архангел.** *У Ашмянах аўтобус стаяў 20 хвілінаў. Быў час зайсці ў касцёл Святога Арханёла Міхаіла* (Дзеяслоў. 2008. № 5 (36), с.157).

Слоўнікі не падаюць адмысловай беларускай формы, а толькі супольнае (аднолькавае) з расійскім: «**Архангел**, м. … У хрысціянскай міфалогіі: вышэйшага рангу анёл» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с.66). Але ж значэнне 'вышэйшага рангу' передаецца тут прыстаўкаю ***арх-***, якая і далучаецца да слова *анёл*: *арханёл*. Слова *арханёл* вартае быць у літаратурным слоўніку як нарматыўная лексічная адзінка.

**Анёлкавы – анёльскі.** Перакладныя слоўнікі да рус. *ангел* звычайна падаюць адно слова – *анёл*. Праўда, «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.1, 1988, с. 125) справядліва фіксуе тут два словы: «**Анёл** м., прям., перен. *ангел*. **Анёлак**, -лка, м. *áнгел*». Аднак прыметнік скрозь падаецца ў адным выглядзе: «**Анёльскі**, прям., перен. *ангельский*».

Сучасная маўленчая практыка актыўна выкарыстоўвае ўтварэнне ад *анёлак* – прыметнік *анёлкавы*. Яго бачым у складзе словазлучэнняў *анёлкавы выгляд* (галоўка), *анёлкава чысты*, *анёлкавая дабрыня* і іншых.

Слова *анёлкавы* мае больш выразную семантыку, якую надае яму тыповы прыналежны суфікс ***-ав-*** (параўн.: *сынавы*, *татавы*, *братавы* і пад.).

**Вадзіла** і **вадзіцель**. «*…Ага, пранырлівы **вадзіла**. Скарыстаўшы зручны момант, наша маршрутная таксоўка, парушаючы ўсе магчымыя правілы руху, юркнула на тратуар і, праехаўшы сотню метраў паўз абыякавых мінакоў, звярнула на паўпустую бакавую*

*вулачку. Нязрушная пробка засталася за спіной.*» (Маладосць. 2009. №4. С.26).

Пісьменнік Анатоль Казлоў, як відаць, не выкарыстоўвае штучнай структуры з суфіксам ***-цель*** (***вадзіцель***), а замяняе яго на пашыраны фармант (словаўтваральны сродак) ***-л-а.***

У тэксце бачым і іншыя сучасныя беларускія лексемы: *таксоўка, мінакі*...

**Гаваркое – гаворачае (слова, імя, прозвішча...).** 1. «Сапраўднымі наватворамі-эксперыментамі У. Верамейчыка можна лічыць «гаворачыя» імёны, прозвішчы, мянушкі, што таксама з'яўляюцца дзейсным сатырычным сродкам высмейвання якасцей, носьбіты якіх – героі з пэўным імем...» (Актуальныя пытанні функцыянавання і развіцця лексікі беларускай мовы: Зборнік навуковых артыкулаў. Мазыр, 2003, с 51).

2. *Разглядаючы стылявыя асаблівасці творчасці А.Мрыя і Л.Калюгі, З.Драздова нярэдка звяртала ўвагу на «гаваркія» антрапонімы і тапонімы... у іх прозе, якія пераважна ўяўляюць сабой сатырычную метафару і па-свойму характарызуюць поле дзейнасці літаратурных герояў, а таксама стыль іх працы* (В. Шур. Агульная характарыстыка онімаў у мастацкім тэксце. Тамсама, с 77).

Як відаць з прыведзеных тэкстаў, розныя аўтары выкарыстоўваюць з тым самым значэннем розныя тэрміны – аднакаранёвыя варыянты «гаворачыя» і *гаваркія*. Якому з варыянтаў аддаць перавагу?

Першы – гэта калькаванне рус. «говорящие» (паўкалька з заменай суфікса *-ящ-* на *-ач-).* І калі ў рускай мове такія ўтварэнні ўспрымаюцца як звычайныя, нарматыўныя, то ў беларускай – «як ненатуральныя, скалькаваныя і, паводле навуковай атэстацыі, непажаданыя ва ўжытку» (Каўрус А. Калі ісці ад свайго: Дзеепрыметнік і яго адпаведнікі // Полымя, 2004, № 5, с. 215).

Слова *гаваркі* – утварэнне з суфіксам -к- ад *гаварыць (гавар-к-і)* – мае шырокае выкарыстанне ў беларускай мове. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 2. Мінск, 1978, с. 8) падае яго з наступным значэннем: **«Гаваркі...** Схільны да размоў, ахвочы пагаварыць; *проціл.* маўклівы. *Яфрэйтар быў жвавы, гаваркі, ветлівы, зусім не падобны да сваіх маўклівых і хмурых салдат* (І. Мележ)». Пацвярджае гэта і аднакнігавае выданне 1996 г.: **«Гаваркі...** Схільны да размоў, ахвочы пагаварыць» (ТСБЛМ, с. 139).

Шляхам метафарычнага пераносу слова *гаваркі* набыло здатнасць спалучацца з неадушаўлёнымі назоўнікамі – лексемамі *слова* і яго замяшчальнікамі *імя, прозвішча, мянушка, антрапонім, тапонім, онім*... Напрыклад: *Праўда заўсёды маўклівая, / А гаваркая – хлусня* (С. Законнікаў).

Пісьменнік, знаўца і актыўны прапагандовец роднага слова Уладзімір Юрэвіч нават ужыў гэтае слова ў назве сваёй навукова-папулярнай кнігі «Слова жывое, роднае, *гаваркое*» (Мінск: Юнацтва, 1992).

Такім чынам, беларускае слова *гаваркі (гаваркое слова)* мае ўсе падставы замяшчаць ненатуральны тэрмін «гаворачы» («гаворачыя словы») і ў навуковым стылі мовы.

**Гаротны, горкі, тужлівы –** а не **горасны.** «*Не кожны з нашых, хто вырваўся на волю і ад занудлівага сядзення за ватманам, і ад хатніх клопатаў і згрызот, мог бы доўга слухаць чужую, тым больш **горасную** споведзь*». (Полымя. 2006. № 12. С.41).

Беларускай мове неўласцівае слова ***горасны***. Адпаведнікам рас. ***горестный*** выступаюць адмысловыя беларускія лексемы. «Русско-белорусский словарь» (1993, т.1, с.323) падае: «**Горестный –** (полный горя) гаротны; горкі; (выражающий скорбь) тужлівы; жаласны».

**Гурт, гуртоўня, гурма – група**. Слова *гурт* уласцівае ўсім усходнеславянскім мовам (пазычанне з сярэдневерхненямецк. *hurt* 'загон з сплеценых пруткоў' (М.Фасмер)). Некаторыя мовазнаўцы лічаць, што белар. *гурт* мае вузкае значэнне (і выкарыстанне), адпаведнае расейскаму *гурт* 'статак жывёлы'. Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасці, што і засведчана перакладнымі слоўнікамі: «Беларуска-рускі слоўнік» (Т.1, 1988, с. 340): «**Гурт,** род. *гурту*. м. 1. гурьба́. ж.; вата́га, ж; толпа. ж. 2. гурт, стадо».

Слово *гурт* – актыўная база для вытворных слоў: *гуртавацца, гуртаваць, гуртаванне, гуртавы, гуртам, гурток, гуртковы, гуртковец.*

Лексема сінанімізуецца з словамі *група, шэраг.* Ад яго ўтварылася і новае слова, не засведчанае слоўнікамі, – *гуртоўня:* «*Каля агароджы цэлая **гуртоўня** дзяцей*» (Маладасць. 2007. №1. С.88 – В.Коўтун – Ясельда. Крыж ігуменні).

Слова *гуртоўня* паходзіць ад *гуртавацца* (*гуртав-ня → гуртоўня*) і значыць 'згуртаванне, натоўп'. Сінонімам да *гурт* выступае і блізкае ў гучанні слова *гурма:* «*На падворку, нягледзячы на лютаўскі мароз, **гурма** людзей*» (Тамсама, с.91). Слова падаецца ў згаданым слоўніку: «**Гурма** ж. обл. гурьба» «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926, с.85) фіксуе яго з наступным значэннем: «**Гурма,** ж. – толпа». Гэта пацвярджае і згаданы тэкст.

Слова *гурма* лічыцца пазычаным з польскай мовы, дзе яно – *hurm, hurma* 'статак' – ад с.-в.-нямецк. *hurm* 'напад, гурт' (М.Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Том.1. Москва, 1964, с.478). Дарэчы, аўтар гэтага даведніка фіксуе слова *гурма* ў расейскай мове (як дыялектнае) і ўкраінскай (побач з *гурбá*).

**Дабравешчанне – благавешчанне.** Беларускія слоўнікі фіксуюць толькі другое слова. Так, у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) чытаем: *«Благавешчанне*, ср. церк. *благовещение»*(с. 129). Без усякіх зменаў – у двухтомавым перавыданні (т. 1. Мінск, 1988, с 188). Вацлаў Ластоўскі гэтае рускае слова падаваў з наступным тлумачэннем і адпаведнікамі: *«Благовещение*, свята на ўспамін зьвеставаньня Дзеве Марыі (25 сакавіка): Зьвеставаньне; багавешчаньне» [Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Факс. выд. Мінск, 1990, с 30].

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1. Мінск, 1977, с. 381; далей ТСБМ) змяшчае слова з наступнай кваліфікацыяй: **«Благавешчанне,** *н. уст.* адно з веснавых хрысціянскіх свят». ТСБЛМ таксама падае гэтае слова з крыху зменпенай кваліфікацыяй [знята памета *уст.* (устарэлае)]: **«Благавешчанне,** *н.* Адно з веснавых хрысціянскіх свят // *прым.* благавешчанскі» (Мінск, 1996, с. 89).

У сучаснай беларускай мове «благавешчанне» ўспрымаецца як складанае слова з першаю часткай *блага-*. Слова *блага* слоўнікі кваліфікуюць як прыслоўе да *благі*, а таксама як безасабовае ў ролі выказніка: «пра дрэнныя неспрыяльныя абставіны, акалічнасці, пра цяжкі фізічны або душэўны стан каго-небудзь» (ТСБМ, т. 1, с. 381). Прыметнік *благі* таксама мае ў беларускай мове (параўнальна з рускаю) негатыўную семантыку «які не мае станоўчых якасцяў, адмоўна ацэньваецца; дрэнны ў маральных адносінах; які заслугоўвае асуджэння, выклікае незадавальненне; непрыемны для іншых; нездаровы, хваравіты, худы; які не абяцае нічога добрага, несуцяшальны; які выклікае агіду, гадкі, непрыстойны» (тамсама, с. 381– 382).

Неадпаведнасць семантыкі словаў *блага* і *благо* ў беларускай і рускай мовах яскрава засведчана перакладнымі слоўнікамі. «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй К. Крапівы падае: «**Блага,** *разг.* 1. *нареч.* плохо; дурно; нехорошо; худо; скверно; 2. *в знач. безл. сказ,* плохо, дурно, нехорошо; *яму стала блага* – ему нехорошо» (т. 1. Мінск, 1988, с. 188). Аналагічную негатыўную семантыку (параўнальна з рускаю мовай) мае і прыметнік: «**Благі.** 1. плохой; нехороший; дурной; худой; скверный; 2. нездоровый, болезненный» (тамсама).



Падчас беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, рэлігійнай свабоды слова «благавешчанне» (з улікам разгледжаных значэнняў яго першай часткі *блага-)* было заменена на *дабравешчанне* (з пачатковай часткай *дабра-)*.

Словы з пачатковым коранем *добр- (дабра-)* маюць у беларускай мове значэнне, адпаведнае рус. «благо». Параўнаем: *дабрадзей* - благодетель, благотворитель; *дабрадзейства* – благодеяние, *дабратворнасць* – благодетельность, *дабрачыннасць* – благотворительность і пад. (Беларуска-рускі слоўнік: У 2 т. Т. 1. Мінск, 1988, с. 344).

У сучасным беларускім перыядычным друку і энцыклапедычных даведніках выкарыстоўваецца якраз гэтае слова – *дабравешчанне.* Напрыклад: *Праваслаўная царква ў Беларусі, нягледзячы на цяжкасці, перажытыя ў недалёкім мінулым, і праблемы, што паўстаюць сёння, як і раней, напоўнена дабрачыннасцю Божай і здольная несці людзям Святло Дабравешчання Хрыстовага* (Наша слова, 2000, 2 жн., с. 3). У 18-томавай «Беларускай энцыклапедыі» змяшчаецца адмысловы артыкул пад назвай «Дабравешчанне» (т. 5, Мінск, 1997, с. 557). (Дарэчы, 12-томавая «Беларуская савецкая энцыклапедыя» яго не падавала.). У артыкуле паўтоўстым шрыфтам падаецца гэтае рэестравае слова, а побач уразрадку – яго сінанімічныя назвы: *«Дабравешчанне, Благавешчанне, Звеставанне* (дакладная назва – *Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы;* ад царк.-слав. «Благая весть» – «Добрая вестка»), рэлігійнае хрысціянскае свята... Адзначаецца за 9 месяцаў перад Калядамі (каталіцкай царквой 25 сакавіка па грыгарыянскім календары і праваслаўнай – 7 красавіка па юліянскім)... У народным календары адзначаецца як пачатак вясны, дзень абуджэння зямлі».

Як бачым, царкоўна-славянскае найменне набыло ў беларускай мове сваю нацыянальную форму, адпаведную яе лексічнай сістэме. У наступных тамах гэтай энцыклапедыі выкарыстоўваецца гэтае заканамернае беларускае слова. Так, у 15-м томе (Мінск, 2002, с. 274) засведчана: *«Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр. Палац архімандрытаў. 17 ст.»* (подпіс пад фотаздымкам); *«...Храм Супраслъскага Дабравешчанскага манастыра»* (тамсама).

І ў іншых сучасных публікацыях выкарыстоўваецца менавіта гэтае натуральнае ў беларускай мове слова (тэрмін) *дабравешчанне.* Напрыклад, у навукова-папулярным выданні «Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Зэльвенскага раёна» (Мінск, 2003, с. 436)

чытаем: *«Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Міжэрычы»* (подпіс пад здымкам).

А вось у нашых сучасных слоўніках усё яшчэ «красуецца» гэтае архаічнае, стараславянскага паходжання, слова «благавешчанне», нават у самым найноўшым «Беларуска-рускім слоўніку» (2003). У першым томе трохтомавіка на с. 394 чытаем: *«Благавешчанне* ср. церк. *благовещение*». Хоць на тытульным лісце слоўніка пазначана: «Выданне 3-е, папраўленае і дапоўненае».

Такім чынам, на месцы былога наймення *благавешчанне* трэба выкарыстоўваць натуральнае матываванае слова *дабравешчанне*.

**Даведнік, спадарожнік,** а не **пуцевадзіцель.** «*Так Легал ... вызначае жанр твораў сп. Бахарэвіча як «парадыйна-сатырычны», разглядаючы кароткі, але змястоўны **пуцевадзіцель** па таямнічай краіне Кудзіі ў «Прыватным пляжы…»*» (Маладосць. 2007. № 5. С.114).

Рас. *путеводитель* – складанне (кампазіт) з частак *путь* і *водитель*. Ніводная з гэтых частак нехарактэрная для беларускай мовы. Таму ў слоўніках няма такога слова (*пуцевадзіцель*), яму адпавядае адметна беларускае слова *даведнік:* у «Беларуска-рускім слоўніку» (1988, т.1, с.346) чытаем: «**Даведнік** м. справочник; путеводитель». Часам у перыядычным друку выкарыстоўваецца ***пуцяводнік*** – калькаванне рас. «путеводитель», дзе замест суфікса *-тель* выкарыстаны *-нік*. Але ж і першая частка «*путе-*» («*путь*») таксама ненатуральная для беларускай мовы, бо рас. «путь» у нашай мове адпавядаюць адмысловыя лексемы *дарога, шлях*, а таксама *кірунак, маршрут, спосаб* і іншыя. *Пуць* замацавалася толькі як спецыяльнае слова чыгуначнай тэрміналогіі (*пуцевымяральнік, чыгуначны пуць, пуцявік*). Дый тут нярэдка адпаведнікам рас. *путь* выступаюць іншыя словы, параўн. *чыгуначнік, транспартнік* (рас. *путеец*), *транспартны* (*путейский*) і інш.

Варта зазначыць, што адметнасць мовы найперш выяўляецца ва ўстойлівых зваротах. Яны тут і сведчаць пра неўласцівасць лексемы «пуць» беларускай літаратурнай мове; параўн.: *жизненный путь – жыццёвы шлях; счастливого пути! – шчаслівай дарогі!; держать путь – браць кірунак; пути-дороги* (нар.-паэт.) *– шляхі-дарогі*; *стать поперёк пути – стаць упоперак дарогі; сбить с пути – збіць з дарогі (з толку, з панталыку); избрать путь – выбраць шлях* (Русско-белорусский словарь. – Минск, 1993, т.3, с.135). Усё згаданае дае падставу лічыць больш прыдатным канкрэтызатарам *даведніка* слова «***спадарожнік***», якое мае выразную матывацыю – ‘тое, што спадарожнічае наведвальніку’. Інакш сказаць: *спадарожнік – даведнік* для *падарожніка* (што яму *спадарожнічае* – ідзе з *падарожнікам*). Гэта выяўляецца, замацоўваецца ў марфемнай будове слова: *з падарожнік(ам) → спадарожнік.*

***Дазнавец – следчы.*** «Найбольш назаляюць *дазнаўцы*… Найбольш усім траім чамусьці абыходзіць дазнацца, ці мела нябожчыца спадкаемную схільнасць да самазабойства». (Дзеяслоў. 2009. № 4, с. 53).

Слоўнікі фіксуюць толькі *следчы* – «службовая асоба, якая вядзе следства – высвятленне органамі юстыцыі абставін, звязаных са злачынствам» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с. 608). Гэта – калька рас. *следователь*. Праўда, бачым у слоўніках і слова *дазнанне* ‘папярэдняе расследаванне крымінальнай справы для ўстанаўлення факта злачынства і павінных у ім асоб’. (Тамсама, с. 166).

Наватвор *дазнавец* і ўзнік ад *дазнаца/дазнанне* (праз ступень дзеяслова незакончанага трывання *дазнавацца*) з выкарыстаннем суфікса *-ец: дазнав-ец.*

Слова вартае замацавання як юрыдычная тэрміналагічная адзінка – побач з аднакаранёвым *дазнанне*, якое падаецца слоўнікамі з паметай «юр.» (юрыдычны тэрмін) (Беларуска-рускі слоўнік. Т.1, 1988, с. 351).

**Доўгажыльцы.** «*Здарылася так, што польская пасляваенная паэзія аказалася абяскроўленай: моладзь злегла ў баях, да літаратараў 20-30 гадоў, якія аказаліся **доўгажыльцамі**, у 60–70 гадах прыйшло лідэрства, яны выйшлі ў паэзіі позні для іх творчасці часам на першы план.*» (Алег Лойка // Полымя. 2007. №5. С.120).

Слоўнікі не падаюць гэтага натуральнга для беларускай мовы слова *доўгажыльцы* (доўгажылец), а толькі *доўгажыхар*. Слова *доўгажылец* выразна выяўляе сваё значэнне, шчыльна стасуючыся з матывавальным словазлучэннем *доўга жыць (доўга жылі, доўга жывуць)*. Другая частка гэтага складання – *жылец* якраз і значыць ‘той, хто жыве (жыў)’. Параўнайма: «*Не жылец* (разм.) – пра чалавека, які доўга не пражыве» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с. 202).

Знаны навуковец і пісьменнік А.Лойка, адчуваючы штучнасць лексемы *доўгажыхар*, выкарыстаў яго адпаведнік з больш празрыстай семантыкай другой часткі – *доўгажылец*. Ёсць усе падставы, каб наватвор заняў сваё месца ў слоўніках літаратурнай мовы.

***Жадунак – жаданне.*** «І як ёй, маладой, поўнай *жадунку*, абараніцца ад яго». (Кастусь Цвірка. Воўчая выспа// Полымя. 2009. № 3. С.27).

Тлумачальны слоўнік фіксуе толькі множналікавую форму *жадункі* як размоўную, якая мае значэнне ‘дзіўныя жаданні, капрызы’

(Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т.2, с.247). Да таго ж, без усякай тэкставай ілюстрацыі.

Лексема *жадунак* у знакамітага аўтара Кастуся Цвіркі мае тое значэнне, што і слоўнікавае *жаданне* – ‘унутранае імкненне, цяга да ажыццяўлення чаго-небудзь; хаценне чаго-небудзь; ахвота’. Утворана на ўзор слоў *пацалунак, мацунак, кірунак.* Слова вельмі выразнае, сакавітае, заслугоўвае замацавання ў нарматыўным слоўніку беларускай мовы.

***Запарыць – заварыць (каву).*** «Зараз *заварым* гарбаты… Даспела гарбата і ўсе трое, пасеўшы на ложках, былі гатовыя да працягу размовы». (Дзеяслоў. 2009. № 1 (36). С.25). «Ну хоць бы *запарым* кавы, агледзімся і пойдзем на аўтобус» (Тамсама, с.29).

Тлумачальны слоўнік падае дзеяслоў *запарыць* якраз з тым значэннем, што і ў згаданых тэкстах – ‘прыгатаваць настой, заліўшы варам’. *Запарыць ліпавы цвет* (ТСБМ, т.2, с. 361).

З аналагічным значэннем фіксуецца і слова *заварыць* ‘прыгатаваць навар, настой з чаго-небудзь. *Заварыць ліпавага цвету* (Тамсама, с.286).

Перакладныя слоўнікі падаюць толькі другое слова: «*Заварить сов.* **–** *заварыць*; *заварить чай – заварыць чай*» (Русско-белоруский словарь, 1993, т.1, с.441).

Але калі прыгледзецца да гэтых слоў, то больш прыдатным ёсць слова *запарыць* (чай, каву), а не *заварыць,* бо ніхто такі настой не варыць, а гатуецца ён шляхам запаркі, калі змесціва (каву, чай) заліваюць кіпнем, што запарвае яго.

**Запісоўца**. «*Гэтак потым і з’яўляюцца ў некаторых друкаваных зборніках не запісанае ў пэўнай мясцовасці, а прыдуманае самім* ***запісоўцам***» (Полымя. 2007. № 12. С.74).

*Запісовец, запісоўца.* Актыўныя ў наш час утварэнні з суфіксамі **-ец / -ц-а, -овец / -оўц-а /**. Параўн. аднамадэльныя *вядоўца, размоўца, навуковец, службовец, вайсковец, падліковец, спартовец, кіровец* і шмат іншых.

Такія словы даюць магчымасць унікнуць навязаных нашай мове ўсесаюзным стандартам штучных утварэнняў (дзеепрыметнікаў з суфіксамі **-уч- (-юч) / -ач- (-яч-)** і іншых «усесаюзных формаў») кшталту *вядучы, гаворачы, служачы, выконваючы* (абавязкі).

На маю думку, дарэчным будзе выкарыстоўваць лексему *падпісоўцы* на месцы ненарматыўнага *падпісаўшыяся* і нават замест *падпісанты, падпісаныя.*

**Заржавець –** а не **саржавець.** «*Ну, што ты можаш пераіначыць, калі ўжо даўно тут усё пайшло прахам, збуцвела, згніло і* ***саржавела***» (Полымя. 2006. №12. С.40). У беларускай мове выкарыстоўваецца слова ***іржа*** і ўтвораны ад яго дзеясловў ***іржавець*** (рас. *ржаветь*), у закончаным трыванні з прыстаўкаю **з-** ***зыржавець***. Форма ***саржавець*** **–** гэта ўтварэнне ад **ржавець**, якога няма ў беларускай мове. Не можа быць тут і варыянта «сыржавець», бо прыстаўка-фанема ў моцнай пазіцыі (перад галоснай ці санорнай зычнай) – гэта **з-** (а не **с-**), параўн.: **зэканоміць** – рас. сэкономить (Русско-белорусский словарь. 1993, т.3, с. 493).

**Засну́лая – спя́чая** (прыгажуня). Перакладныя слоўнікі савецкага часу і іх пазнейшыя перавыданні нярэдка капіявалі структуру усесаюзных (рускіх) слоў. Так ў «Русско-белорусском словаре» (1993, т.3, с.436) чытаем: «**Спящий…** 2. прил. *спячы;* 3. сущ. *спячы, -чага*». Тое самае і ў «Беларуска-рускім слоўніку» (Т.2., с.503): «**Спячы** 1. пркл. *спящий,* 2. в знач. сущ. *спящий*» і

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Т.5, Кн.1, с.288): «**Спячы**, -ая, -ае. 1. Дзеепрым. незал. цяпер. ад *спаць*. 2. у знач. наз. **спячы**, -ага, м.; **спя́чая,** -ай, ж. Той (тая), хто спіць, знаходзіцца ў стане сну».

Між тым, як вядома, гэтыя формы неўласцівыя нармаванай мове. Невыпадкова тлумачальны слоўнік 1996 года не падае гэтага штучнага слова. Няма яго нават у гняздзе дзеяслова *спаць.*

Рус. *спящий* у беларускай мове адпавядае прыметнік *сонны*, што зафіксавана і БРС (Т.2, с. 487): «**Сонны** (погружённый в сон) *спящий.* 2. в знач. сущз. *спящий*». Гэта засведчана і РБС-93: «**Спящий** 1. прич. які (што) спіць; 2. прил. *спячы; (*сонный*) сонны;* 3. сущ. *спячы, сонны*» (Т.3, с.436).

Сучасная маўленчая практыка замест слова *сонны*, якое мае розныя значэнні і ўваходзіць у склад шэрагу устойлівых словазлучэнняў-тэрмінаў (*сонныя каплі, сонная артэрыя, сонная хвароба*) і фразеалагізмаў (*як сонная муха, соннае царства*), выкарыстоўвае адмысловы аддзеяслоўны прыметнік *заснулы*: «*Менавіта дзеці падказалі маці для творчага выкарыстання тэму з вядомай казкі пра праўдзівае люстэрка ў руках ліхой мачахі і* ***заснулую*** *прыгажуню*» (Францішка Уршуля Радзівіл. Выбраныя творы. – Мінск: Беларускі кнігазбор. 2003. С. 13. – Укладанне Сяргея Кавалёва. Прадмова Жанны Некрашэвіч-Кароткай і Наталлі Русецкай (Пераклад з польскай і французскай мовы). – 448 с.).

**Збор** «*Налева развальваецца былы кальвінскі* ***збор*** *з байніцамі*» (Полымя. 2007. № 1. С.194).

Слова *збор* з значэннем ‘царква’ зафіксаваў Іван Насовіч.

Лексема *збор* падаецца з чатырма значэннямі: 1) ‘сукупнасць розных прадметаў’, 2) «даход», 3) ‘збор людзей, натоўп’; 4) царк. *сабор* (І.І.Насовіч. Слоўнік беларускай мовы. – Мінск: БелСЭ, 1983, с.196).

Бачым гэтае слова і ў В.Ластоўскага: яго «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (Коўна, 1924, с.669) падае: «**Собор** м. Збор…».

Беларускія слоўнікі савецкага часу не змяшчалі гэтай натуральнай для беларускай мовы лексемы *збор* (‘царква’), а толькі пазычанне з расейскай мовы *сабор* (< собор).

Як назва царквы слова *збор* узнікла ў выніку пераносу наймення сходу, збору людзей на памяшканне, дзе гэта адбывалася.

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» змяшчае слова *збор* з 7–мю значэннямі, у іх ліку і ‘сход людзей, агульная іх колькасць’. (Том 2. 1978, с.431). Аднак натуральнага значэння ‘памяшканне для збору, сходу людзей’ тут няма. Яго месца заняў ўсесаюзны стандарт *сабор*.

**Землятрус – землятрасенне**. Перакладныя акадэмічныя слоўнікі савецкага часу фіксуюць тое самае слова ў абедзвюх частках артыкула: *землетрясение – землетрасенне*. І зразумела чаму: яно ёсць і адпаведным тэрмінам, а тэрміналогія была складнікам асноўнага слоўнікавага фонду, супольнага для ўсіх моваў СССР.

У жывой жа народнай мове выкарыстоўваўся больш кароткі яго варыянт – *землятрус* – складананульсуфіксавае ўтварэнне : *зямля+трэсці→землятрус*: параўн. аднамадэльная *земляроб, землямер*. Другая частка (каранёвая) гэтага слова ёсць у слове *ператрус* – нульсуфіксавага ўтварэння ад *ператрэсці*.

Слоўнікі 1930-1980-х гадоў не фіксавалі слова *землятрус* (а толькі *землетрасенне*). А вось перакладныя лексіконы незалежнай Беларусі падаюць гэтае слова як нейтральную адзінку: «**Землетрясение** ср. землетрасенне, *землятрус*. (Русско-белорусский словарь. Мн., 1993. Т.1, С. 524).

Дарэчы будзе нагадаць, што слова *землятрус* – нармаваная лексічная адзінка і ў іншых славянскіх мовах: украінск. *землетрус*, балг. *земетръ′*с.

Ад *землятрус* лёгка ўтвараюцца новыя словы, напрыклад *землятрусны*. «*Выключная роля ў гэтай надзённая працы належыць школе. Толькі яна ў сучасны надзвычай спецыяльна* ***землятрусны*** *перыяд планеты яшчэ здольная шматаспектна папоўніць святлом дзіцячым душы*» (М.Шавыркін. Сумленне // Роднае слова. 2004. № 5. С. 111).



Такім чынам, *землятрус* – нарматыўная лексічная адзінка беларускай літаратурнай мовы, яна адпавядае патрабаванням да тэрмінаў – выступае базай для ўтварэння новых слоў.

**Зімнота.** *Ля кожнае важнае брамкі мусіць быць вартавы; стаялі і мерзлі на 15-градуснай* ***зімноце*** *тры святыя Пётры ў міліцэйскай форме* (Ніл Гілевіч. Забаўныя гісторыі з жыцця пісьменнікаў // Дзеяслоў. 2009. № 3 (40). С.139).

Слоўнікі не фіксуюць назоўніка ***зімнота***, але сэнс яго вынікае з кантэксту – ‘зімнае (зімовае) надвор’е’, ‘халадэча’. ***Зімнота*** – утварэнне з суфіксам ***-от-а*** ад ***зімны*** ‘халодны’ (‘уласцівы зіме’). Тлумачальны слоўнік (Т.2, с.474) занатаваў шэраг вытворных слоў з асновай *зімн-*: *зімна* ‘холадна’, *зімні* ‘тое, што і зімовы’ (Параўн. у Якуба Коласа: *Сціхлі песні зімняй буры*); *зімны* (разм.) ‘Халодны’. *Зімная вада.*

Утварэнні з суфіксам ***-от-а*** найчасцей абазначаюць адцягненую прымету, фізічны або фізіялагічны стан. Некаторыя з іх выступаюць як гутарковыя сінонімы (утварэнні ад саміх назоўнікаў: *сум – сумота, бяда – бядота*).

Як відаць, выкарыстанае народным пісьменнікам Нілам Гілевічам слова ***зімнота*** мае выразную структуру і семантыку і здатнае папоўніць засекі літаратурнай мовы.

**Злосць – злоба**. Слова «злоба» характэрнае для рускай мовы, дзе яно мае шэраг сваіх вытворных адзінак. У беларускай мове ім адпавядаюць свае адмысловыя словы: **Злобиться** – злаваць, злавацца; бушаваць (пра мяцеліцу, завіруху). **Злобно** – злосна, зласліва. **Злобность** – злоснасць, зласлівасць. **Злобный** – злосны, зласлівы: **злобствование** – злосць, злаванне, лютаванне; **злобствовать** – злоснічаць, злаваць, злавацца, лютаваць.

*Злоба* ўваходзіць таксама ў шэраг рускіх фразеалагізмаў, якім адпавядаюць беларускія ўстойлівыя звароты з словам *злосць*: *бешеная злоба* – лютая злосць, *дышать злобой* – дыхаць злосцю, *по злобе* – па злосці (Русско-белорускій словарь. Мн., 1993, т. 1, с. 528). Толькі адзін устойлівы зварот *злоба дня* мае гэтае слова, але тут пазычаны сам фразеалагізм.

Відаць, з улікам згаданага перакладныя руска-беларускія слоўнікі не падаюць гэтага слова ў беларускай частцы артыкула, а толькі ў рускай: «**Злоба** – злосць». (Русско-белорусский словарь. М., 1953. С. 166; Русско-белорусский словарь, Мн., 1993, т. 1., с. 528). Не падае слова «злоба» і «Беларуска-рускі слоўнік» 1962 года, а ў яго перавыданні 1988 года бачым: «**Злоба**, ж. см. *злосць*».

Праўда, трапіла *злоба* ў тлумачальныя беларускія слоўнікі (разам, зазначым, з многімі іншымі небеларускімі словамі). Аднак аўтарытэтны нарматыўны даведнік «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (Мінск, БелСЭ, 1987) справядліва не падае гэтага слова. Няма яго і на старонках «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы».

З прааналізаванага выразна вынікае, што беларускай мове слова «злоба» неўласцівае, а адпаведнікам рус. *злоба* ёсць слова *злосць*.

**Знізіцца, спасці –** а не **ўпасці.** «За апошнія дваццаць год узровень возера ўпаў на 45 сантыметраў». (Полымя. 2006. № 12. С.127). Тут памылкова ўжытае слова «ўпаў». У нармаванай мове павінна быць «знізіўся» ці «спаў». Гэта засведчана слоўнікамі. Так, «Русско-белорусский словарь» 1993 года (т.3, с.616) фіксуе: «**Упасть**… 4. *уровень воды упал – узровень вады знізіўся; барометр упал – барометр спаў* (знізіўся)».

**Каляронімы – каларатывы.** Тэрмін «каларатывы» замацаваны ў рускай мове («колоративы»), дзе ён стасуецца з словам *колор* ‘афарбоўка’ (ад лац. *color* ‘колер, афарбоўка’). У беларускай мове традыцыяй замацаваная лексема *колер,* ад якой вытворныя словы *каляровы, каляровасць, колеравы, колернасць, колеразнаўства, колерамузыка* і іншыя кампазіты з гэтай першай часткай.

У навуковых публікацыях на беларускай мове звычайна выкарыстоўвалася рускамоўная форма тэрміна – «каларатывы». Вось некаторыя прыклады: «Каларатывы ў паэзіі Янкі Купалы» – назва артыкула. У ім чытаем: «Несумненна, што колеранайменні з’яўляюцца неад’емнай часткай слоўніка кожнага мастака, паколькі апісанне жыцця чалавека, прыроды – самых розных рэалій не можа быць поўным, дакладным без ужывання гэтай групы лексікі. Але такая роля каларатываў характэрна для ўжывання іх у рознай колькасці і разнастайнасці любым і кожным носьбітам мовы» (Актуальныя праблемы выкладання мовы і літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай школе: Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі. Гродна, 2003, с 288); «У якасці такой адзінкі мы ўзялі прыметнікі – колераабазначэнні (каларатывы) як інварыянты кампаратыўна-асацыятыўных палёў, сфарміраваных на аснове параўнанняў, сабраных намі з розных крыніц…» (тамсама, с 296).

Аднак нематываванасць тэрміна «каларатывы» ў беларускай мове падштурхнула навукоўцаў пашукаць слова з выразнай матывацыяй, якое мела б стасункі з вядомымі ў беларускай мове лексемамі адэкватнага сэнсу. Так з’явілася слова *каляронімы* з першай асновай *колер-* (фанетычны варыянт *каляр-)* і другой *-онім* ‘імя’ [і семантыкай ‘імя колеру (афарбоўкі)’]. Другая частка *-онім* прысутнічае ў агульнавядомых лексікалагічных тэрмінах *антонім, сінонім, амонім* і пад. Такім чынам, тэрмін *каляронім* – зразумелы, матываваны і дакладна перадае адпаведнае паняцце «колеранайменне». Гэты тэрмін апраўдана стаў выкарыстоўвацца ў навуковым стылі мовы: У *даследаванні «Пра белы свет, красную дзеўку і чорнага вала» Ларыса Станкевіч прааналізавала функцыянальна-семантычны аспект каляронімаў у шэрагу ўстойлівых адзінак, вынесеных у загаловак. Эпітэты «белы», «красны» і «чорны» ў іх не служаць для колераабазначэння. Псіхалінгвістычнае пераасэнсаванне іх значэнняў цесна звязана з архетыпавымі ўяўленнямі беларусаў пра колеры* (Роднае слова, 2004, № 6, с. 49).

Такім чынам, знойдзены натуральны тэрмін для абазначэння паняцця «колераабазначэнне». Ён выразны сваім зместам (семантыкай) і формаю звязаны з вядомымі ў беларускай мове лексемамі, выступае як структурна-сістэмная тэрмінаадзінка.

**Канцэпцыйны – канцэптуальны.** Слова *канцэптуальны ў* «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (с. 275) падаецца з значэннем ‘які мае сур’ёзную самастойную канцэпцыю’ і разглядаецца як вытворнае ад *«канцэпцыя //* прым. *канцэптуальны».* Але ж як мог утварыцца прыметнік *канцэптуальны* ад назоўніка *канцэпцыя?* Дзе яго ўтваральная аснова? І які словаўтваральны сродак (фармант)? У прыметніку *канцэптуальны* супольная з утваральным назоўнікам *канцэпцыя* частка *канцэп-,* да яе далучыўся фармант *-туальны.* Але ж такая словаўтваральная аснова не існуе, як і суфікс. Перад намі – штучнае «стварэнне». Яго семантыка не вынікае ні з згаданае асновы, ні з далучанага да яе штучнага фарманта *-туальны.*

Натуральна ж прыметнікі ўтвараюцца шляхам далучэння да асновы назоўніка пэўнага суфікса. Напрыклад: *канфігурацыя → канфігурацый-ны, кантамінацыя → кантамінацый-ны, кантрыбуцыя → кантрыбуцый-ны, канфрантацыя → канфрантацый-ны.* Таму натуральная форма прыметніка, утворанага ад назоўніка *канцэпцыя,* – *канцэпцыйны,* дзе да асновы *канцэпцый-(а)* далучаны суфікс *-н-* (разам з канчаткам *-ы): канцэпцый-н-ы.* Як і ў словах *кантамінацый-ны, канфігурацый-ны* і пад. Форма *канцэпцыйны* натуральна стасуецца з адпаведнай семантыкай ‘які мае... канцэпцыю’. Менавіта такую форму прыметніка ад назоўніка *канцэпцыя* выкарыстоўвае нацыянальны беларускі друк. Вось адзін з прыкладаў: *«Руская гістарыяграфія, навуковая і папулярная літаратура ніколі не адмяжоўваюць гісторыю рускага народа ад эпохі Кіеўскай Русі і папярэдняга перыяду. Не адмяжоўваюць*

*ні тэрміналагічна, ні* ***канцэпцыйна*** *ў дачыненні не толькі да XIII, але і да VI – XII стагоддзяў»* (Наша слова. 21.02.2001).

**Кіроўца** (машыны) **– вадзіцель.** *Кіроўцы машынаў рухаюцца так, як хочуць* (Полымя. 2008. №12, с.181). Нашая мова мае сваё адмысловае слова, добра матываванае і структурна выразнае ўтварэнне з старажытным суфіксам ***-ц-а* –** *кіроўца*. А вось слоўнікі падаюць тут пазычанне з неўласцівым беларускай мове суфіксам ***-цель:*** *вадзіцель* (< рас. *водитель*).

**Ключ. Б'юць крынічныя ключы.** *Нас не палохалі ні віры, ні студзёная вада, асабліва ў тых мясцінах, дзе білі крынічныя ключы.* (Полымя, 2007. № 7. С.197). У беларускай мове слова ***ключ*** не мае такога значэння, як у рас. мове. Рас. ***ключ*** (источник, родник) адпавядае белар. ***крыніца*** (Русско-белорусский словарь, 1993, т.1, с.637). І ўстойлівыя звароты з гэтым словам маюць адметныя беларускія адпаведнікі: «*биць* ***ключём*** *– біць* ***крыніцай, кипеть ключём –*** *кіпець, віраваць*».

Дзіўна бачыць згаданую трасянку на старонках знанага часопіса. Тым больш, што праз тры старонкі (с. 197) у тэксце сустракаем натуральнае беларускае: «*…дзе бруіліся тры гаючыя* ***крыніцы***».

**Кнігасхоўніца – кнігасховішча.** Слоўнікі фіксуюць толькі другое слова – *кнігасховішча* (як адпаведнік рус. *книгохранилище*). Бачым у слоўніках і аднакаранёвыя (простыя) словы *схованка, схованьь, сховішча,* якія таксама маюць значэнне 'месца для схову, захавання'. Напрыклад: «**Сховішча.** Асобае памяшканне ў архіве, бібліятэцы, музеі для захоўвання рукапісаў, рэдкіх кніг, калекцый і пад.; гэтыя ўстановы як цэнтр сабраных каштоўнасцей» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т.5. Кн. 1. С. 412). Складанае слова *кнігасховішча* як бы дублюе свой аднакаранёвы варыянт *сховішча*.

Новае слова *кнігасхоўніца* больш дакладна арыентуе чытача на семантыку 'бібліятэка', на што паказвае і яго «жаночы мундзір» – форма роду і фармант **-(н)іца** (як і слова *бібліятэка* з канчаткам **-а**).

**Кніжная крама, кніжны магазін, кнігоўня, кнігарня**. *Цікава зазірнуць у* ***кніжную краму*** (Полымя. 2008. № 12, с.163). *У маёй* ***кнігоўні*** *ёсць том А.Олэся* (Сяргей Панізнік // Полымя. 2007. № 8, с.132).

Перакладныя слоўнікі падаюць да рас. *книжный магазин* беларускія адпаведнікі *кніжны магазін, кнігарня* (Русско-белорусский словарь, т.1. 1993, с.638). Слова *кнігарня* як адзіны адпаведнік да аналагічнай расійскай назвы падае «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча (1926 года, с.148).

*Кнігарня* – утварэнне з суфіксам *-арн-я* ад назоўніка *кніга*, абазначае збудаванне, ёмістасць для змяшчэння таго, што названа ўтваральным словам. Такое ж значэнне маюць і ўтварэнні з суфіксам *-оўн-я*: *вазоўня, лядоўня, саладоўня…* Таму натуральным выглядае і слова *кнігоўня* як сінонім да *кнігарня*.

Аналітычныя назвы – *кніжны магазін, кніжная крама* – дублеты расійскіх назоваў.

**Крывавіць і крывяніць.** Абодва гэтыя словы выкарыстоўваюцца ў народнай беларускай мове. Праўда, слоўнікі зафіксавалі толькі першае з іх – супольнае з рускай мовай (*кровавить*).

Як першае, так і другое слова – аднамадэльныя паводле ўтварэння: дэрываты ад прыметнікаў: *крывавы → крывавіць, крывяны → крывяніць.*

У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» зафіксаваны дзеяслоў *крывяніць* з паметай «абл.» (абласное, дыялектнае). Але з такой (ненарматыўнай) кваліфікацыяй гэтага выразнага сваім зместам і формай слова нельга пагадзіцца. Яно бытуе ў вусным маўленні (беларускіх дактароў). Да таго ж, яго выкарыстоўваў у сваіх творах народны пісьменнік Беларусі Іван Мележ, пра што сведчаць і слоўнікавая ілюстрацыя да гэтай лексічнай адзінкі.

Натуральным было б занатаваць слова *крывяніць* і ў слоўніку літаратурнай мовы.

**Купіла б –** а не **купіла бы**. «*Лепш* ***купіла бы*** *сабе што-небудзь талковае… Цяпер* ***знайшліся бы*** *лекі ад алергіі і не мучылася б*». (Полымя. 2006. № 12. С.81, 85). Беларуская мова мае два варыянты часціцы, якая ў расейскай мове выступае заўсёды ў адной форме **бы**. Дзвюхфанемны варыянт **бы** выкарыстоўваецца ў беларускай мове пасля папярэдняга слова, якое канчаецца зычным: ***прынёс бы, стаў бы, купіў бы.*** Аднафанемавая часціца б ужываецца пасля слова, якое канчаецца галоснай: ***чытала б, купілі б, прынеслі б***. Ужыванне часціцаў ***бы, б*** дыктуецца гармоніяй гукаў. На жаль, гэты фанетычны закон беларускай мовы парушаецца пры неадрозніванні сістэмаў беларускай і расейскай моваў, ствараючы тым самым трасянкавы варыянт маўлення. А трасянка ж разбурае мову, яе сістэму!

**Маладзік і поўнік – поўня.** *Засеўкі прымеркаваў да таго дня, калі ў небе месяц выкругліўся ў поўнік… Якраз у поўнік звычайна рабілася гэта ў Волі.* (Кастусь Цвірка. Воўчая выспа// Полымя. 2009. № 4. С. 53).

Як тут усё натуральна: *поўны месяц – поўнік!* Тая ж мадэль утварэння («аснова прыметніка + суфікс *-ік*»), што і ў слове *маладзік: малады месяц → маладзік.*

*Поўня* зарыентавана на слова жаночага роду – *луна*: гэта сцягнутае (кандэнсаванае) найменне ад двухслоўнай назвы «поўная луна». У «Беларуска-расійскім слоўніку» М.Байкова і С.Некрашэвіча (1926, с.242) чытаем: *«Поўня, ж. – полнолуние, полная луна»*. Тут, дарэчы, падаецца і беларускае матываванае ўтварэнне: «*Поўнік, м. – см. поўня»*.

За савецкім часам беларускія слоўнікі падавалі толькі форму, зарыентаваную на ўсесаюзны стандарт (*полная луна – поўня*). І пазнейшыя перакладныя слоўнікі паўтараюць тое ж: *«Полнолуние – поўня»* («Русско-белорусский словарь» 1993 г.).

Аднак «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Т. 4, с. 296) змясціў гэтае слова: *«Поўнік, -а, м. Разм. Поўны месяц, поўня»*. Праўда, прычапіўшы памету «размоўнае», хоць такое стылёвае абмежаванне гэтага натуральнага слова не пацвярджаюць кантэксты-ілюстрацыі да яго з маўлення знаных беларускіх пісьменнікаў. У Алены Васілевіч: *«У акно глядзеў і заліваў пакой серабрыстым святлом **поўнік**»*. У Рамана Сабаленкі: *«Месяц-**поўнік** як бы веславаў на сініх хвалях, і гэтак было хораша на зямлі і ў высях»*.

Як вынікае з нагаданага, больш выразным, структурна і семантычна матываваным, ёсць слова *поўнік: поўны месяц → поўн-ік.*

Сучасны нацыянальны друк пацвярджае гэта актыўным выкарыстаннем слова *поўнік*. А лексікаграфічныя даведнікі ўсё яшчэ на старых пазіцыях: ігнаруюць сучасную маўленчую практыку.

Крыўдна, што новы Тлумачальны слоўнік (1996), створаны ў незалежнай краіне Рэспубліцы Беларусь, не падае гэтае лексічнае адзінкі, засведчанай сваім папярэднікам, як і многіх іншых беларускіх слоў.

Варта нагадаць тут: *поўня* – шматзначнае слова, якое, як сведчыць Тлумачальны слоўнік беларускай мовы мае больш шырокае значэнне – *росквіт, паўната,* што пацвярджаецца кантэкстамі з мовы беларускіх пісьменнікаў: *«Вясна была ўжо ва ўсёй поўні»* (Пестрак). *«Сама ў сілу [дзядзька] увабраўся, у ясную поўню гадоў»* (Лужанін).

Такім чынам, фазы месяца натуральна пазначаюцца дэрыватамі тоеснай структуры (з фармантам *-ік*): *маладзік і поўнік*. Лексема *поўня* больш прыдатная для абазначэння адцягненага паняцця паўнаты, росквіту.

**Мілата́ – абаянне**. Слова *абаянне* не падавалі на сваіх старонках беларускія слоўнікі 1920-х гадоў.

Рас. *абаяние* – утварэнне ад *баять* ‘загаворваць, абварожваць, зачароўваць’ (М.Фасмер). Нашыя акадэмічныя слонікі фіксуюць беларускія яго адпаведнікі – *чароўнасць, прывабнасць* (Русско-белорусский словарь. 1953, с. 329).



«Беларуска-рускі слоўнік» (Т.1, 1988) змяшчае яшчэ адзін яго адпаведнік: «***Мілата***, 1. *Обаяние* «(с. 692). Падае гэтае слова і трохтомавае яго перавыданне (2003 года): *«Мілата – обаяние»*.

Знаходзім ускоснае пацвярджэнне гэтага і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (1996): «***Мілы*** – які выклікае прыхільнасць да сябе; прыемны, *абаяльны*» (с. 345). На жаль, лексема *мілата* тут не фіксуецца. А вось шасцікнігавы яго папярэднік падае гэтае слова з характарыстыкай значэння і адпаведнымі ілюстрацыйнымі прыкладамі. У трэцім томе ТСБМ (1979, с. 154) чытаем: ***«Мілата***. Чароўнасць, прыгажосць, абаянне чаго-небудзь прыгожага». *«У Лявона на сэрцы неяк стала лёгка і соладка, калі адчыніў вароты ў свой садок. **Мілата** і любата!»* (Чарнышэвіч). Зафіксаваў гэтае і «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» пад рэдакцыяй акадэміка М.Бірылы (Мінск, 1987, с. 388)

Дык ***мілата*** – і для душы, і для маўлення.

**Нападарожныя словы.** «Паводле «Жыція» Мяфодзія, імператар сказаў ім ***нападарожныя*** словы…» (А.Каўрус, М.Круталевіч. Стараславянская мова. – Мінск, 2005. – С. 13).

Слова *нападарожны* не фіксуюць нашыя слоўнікі. Пры перакладзе расейскага **напутственный** у слоўніках падаюцца апісальныя звароты «*ска́заны на дарогу*», *«дадзены на дарогу»*; *обратиться с* ***напутственной*** *речью – сказаць* ***слова на дарогу***; ***напутственный*** *совет – парада* ***на дарогу*** (Русско-белорусский словарь. 1993. Т. 2. С. 146).

Адмысловы знаўца мовы, аўтар кнігі (пакуль рукапіснай) «Словы без прапіскі (пазаслоўнікавая лексіка беларускай мовы)» Алесь Каўрус стварыў натуральнае слова-адпаведнік рас. *напутственный*. Яго (слова) можна кваліфікаваць як конфіксавае ўтварэнне ад *падарожжа* (*на–**падарож**-н-ы*) з матываваннем (унутранай формай) ‘словы-наказ на дарогу падчас падарожжа’.

Удалае і вельмі неабходнае слова. Ёсць усе падставы, каб замацавацца ў слоўніку літаратурнае мовы і тым самым унікнуць лакуны ў моўным скарбе беларусаў.

**Нарадзіцца → нараджэнне → нараджэнец –** а не **ўраджэнец.** Нашая мова мае натуральныя словы з прыстаўкаю **на-**: *нараджацца, нарадзіцца, нараджэнне, нараджальнасць, нараджэнец, нараджэнка, народжаная, народзіны, народзінец…*

Але слоўнікі савецкага часу на месцы свайго слова *нараджэнец* (яго падае «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча, Менск, 1926, с. 185) змясцілі штучную форму *ураджэнец*, якая

супярэчыць утваральнай лексеме, што падаецца пры тлумачэнні гэтага слова. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (Т.5, Кніга 2. 1984, с.44) чытаем: «*Ураджэнец*, -нца, м. Чалавек, які *нарадзіўся* ў якой-небудзь мясцовасці, родам з якой-небудзь краіны, горада і пад.»

*Ураджэнец* – гэта прыстасаванне да ладу беларускае мовы усесаюзнага стандарту – расейскага *уроженец*, якое мае і свайго суродзіча *урод* (белар. *вырадак*). У перакладных слоўніках падаецца беларускае слова *народжаная* як адпаведнік рас. *урождённая* («Беларуска-рускі слоўнік», т.2, 1989, с. 753), што таксама сведчыць пра натуральнасць беларускага ўтварэння *нараджэнец* (*нараджэнне → нараджэн-ец*). Як і аднаструктурныя *вызваленне → вызваленец, паўстанне → паўстанец* і пад.

На месцы пазычання *ўраджэнец* у незалежнай Рэспубліцы Беларусь стала выкарыстоўвацца беларускае слова гэтага кшталту *народзінец* (утварэнне ад *народзіны*: *народзін-ец*): «*Гэтым Смоліч адрозніваецца ад бальшыні сваіх папярэднікаў – **народзінцаў** Беларусі*» (А.Болатаў, Г. Радзеўскі. Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне: Аркадзь Смоліч. – Мінск: Тэхналогія, 1999, с. 6). Дык ці не пара замацаваць у літаратурным слоўніку Рэспублікі Беларусь сваё натуральнае слова *нараджэнец* (і *нараджэнка*)?!

**Начаваць – начаванне, начлег –** а не **начоўка.** *...Ад'язджаюць на **начоўку** ў парыжскае прадмесце* (Полымя. 2008. № 12, с.165).

Беларускай мове ўласцівыя ўтварэнні – з значэннем апрадмечанага дзеяння (працэсу) – з суфіксам ***-нн-е***, а вытворныя ***-к-а*** выкарыстоўваюцца з прадметным значэннем, параўн. *вы́думаць, выду́мваць → выдумванне; выдумка* – 'тое, што выдумана, хлусня'; *перагароджваць* і *перагарадзіць –перагароджванне; перагародка* – 'тое, што аддзяляе адно ад другога' і інш.

Слова *начоўка* як адпаведнік рас. *ноче́вка* не падаюць перакладныя слоўнікі, тут выкарыстоўваецца свой адпаведнік: *ночёвка – начлег* (РБС, 1993, т.2, с.256). Не падае яго і «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы». І гэта не выпадкова: *начоўка* асацыюецца як форма (адзіночны лік) ад *начоўкі* 'пасудзіна для мыцця бялізны і іншых гаспадарчых патрэбаў'.

**Неўразумеліца**. «*Не ведаю, што сказаць. Маўчаць няёмка, а хваліць ды охаць-ахаць – не дазваляе сумленне. Таму і адводзіш, хаваеш вочы, бубніш пад нос **неўразумеліцу***». (Маладосць. 2009. № 4. С.23).

Слоўнікі фіксуюць толькі аднаасноваву адпаведнік *неўразуменне* і прыметнік *неўразуменны* (ТСБМ, т.3, с.400), а таксама *неўразумела, неўразумелы* (Беларуска-рускі слоўнік, т.2, 1988, с.795). Менавіта ад апошняга слова з выкарыстаннем суфікса ***-іц-*** і ўтварылася гэтая выразная сваёй будовай і значэннем адзінка: ***неўразумел-іца*** (аднамадэльныя *драбніца, таямніца, бяссоніца*).

**(Ня)спешна – (не)таропка**. «*Дзеці адразу перасталі шморгаць носам і хто **таропка**, ажно часам падаючы на зямлю, хто **няспешна**, хто мітуслівa шнуравалі ў танцавальнае кола*» (Полымя. 2007. № 1. С. 26).

Слова *таропка* – утварэнне ад *торопиться* (*тороп-к-а*), якому ў беларускай мове адпавядае *спяшацца*, а яно – ад *торопить* – 'падганяць, прыспешваць' (Русско-белорусский словарь. Минск, 1993, с. 533). Дый сам ілюстрацыйны прыклад сведчыць пра гэта – антонімы «таропка», «спешна». Таму па-беларуску натуральна было б сказаць (напісаць): *хто спяшаючыся (спешна), хто няспешна...*

Дык ці трэба нам пазычаць тыя словы, «якіх (іх адпаведнікаў) поўна ў сваёй мове»? (Я.Скрыган). Моўная ж трасянка не ўзбагачае, а разбурае сістэму мовы.

**Нястрым.** Гл. тэкст да артыкула *Таўпеня*. **Няўстрым –**утварэнне (нульсуфіксаае) ад *не стрымацца*, сінонім да слоўнікавага *нястрымнасць* 'нясцерпнасць', 'невыноснасць'.

**Няўхільны, немінучы – непазбежны**. Прыметнік *непазбежны* – утварэнне ад дзеяслова *пазбегнуць*, у штучнасці якога для беларускай мовы мы ужо пераканаліся. Адпаведнікамі рус. *избежать* (*избегнуть*), як было ўжо даведзена, выступаюць словы *ўхіляцца, мінаць* і інш. Ад іх конфіксавым спосабам (прыстаўкі *ня-/не-* і суфіксы *-н-*, *-уч-*) і ўзніклі беларускія словы *няўхільны, немінучы* як натуральныя адпаведнікі рус. *неизбежный*. «**Неизбежный** – немінучы, непазбежны, няўхільны» (Русско-белорусский словарь. М., 1953, с. 305; Русско-белорусский словарь. Мн., 1993, т.2, с. 201). А слова *непазбежны*, якое падаецца ў слоўнікавым артыкуле, – усё тая ж даніна часу – дзеля «збліжэння беларускай і рускай моў». Пра гэта сведчыць і дэфініцыя (азначэнне) слова: «**Непазбежны**, -ая, -ае. Такі, якога нельга пазбегнуць...» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, с. 388). Як і ў даведніку: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (1982, с. 356): «**Неизбежный**... Такой, которого невозможно избегнуть...»

**Пагода. Добрая пагода. Любая пагода. «***А захад чысты і сонца як закацілася за зямлю – чакай добрае **пагоды*****»** (Полымя. 2007. № 7. С.49). *Бо поле – не заводскі цэх пад дахам, дзе можна папрацаваць у любую **пагоду***. (Тамсама, с.195).

Стан атмасферы ў пэўны час у пэўным месцы абазначаецца ў беларускай мове словам *надвор'е*. Беларусы кажуць: *зводка надвор'я, добрае (кепскае) надвор'е*. ***Добрае надвор'е*** абазначаецца адным словам

***пагода***, а кепскае – утварэннем з прыстаўкаю-адмоўем ***не-: непагода***, ці ***непагадзь.***

Этымолагі звязваюць слова **пагода** з коранем ***-год-,*** словамі *годны, гожы, прыгодны, годзіць (*надвор'е*).* Таму ў народнай мове «непагода» мае і назву *нягода*. Гэта засведчана і «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы»: «***Нягода***. Дрэннае надвор'е, непагода» (Т.3, с.425). Беларускаму слову ***пагода*** адпавядае рас. *вёдро,* якое засведчыў яшчэ «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С.Некрашэвіча (1926, с.206), а таксама акадэмічныя беларускія перакладныя слоўнікі (1953 г. і яго перавыданні).

Менавіта такое значэнне лексемы ***пагода*** пацвярджаецца вытворнымі ад яго словамі – прыметнікамі і дзеясловамі: *пагодлівы* і *пагодны* – 'добры, ясны, цёплы'. *Пагодзіцца* – 'рабіцца пагодным'. *Пагодзіць* – пра добрае спрыяльнае надвор'е. *Распагодзіцца* – пра наступленне яснага, пагоднага надвор'я.

І ўстойлівыя выслоўі, прымаўкі таксама маюць слова *пагода* толькі з значэннем 'добрае надвор'е': *Хто даджом косіць, той* ***пагодаю*** *сушыць. Дым слупамі на* ***пагоду*** *падымаецца ўгару.*

Такім чынам, слова ***пагода*** – гэта не любое надвор'е, а толькі *добрае надвор'е*. Таму і кажуць: *Калі сонца закацілася за зямлю, чакай* ***пагоды***.

**Падкіданец – падкідыш.** «*Удачлівы, ты,* ***падкіданец****. Малако пасля вужоў засталося. Валодшам у мяне будзеш, пабрацімам вужыным*» (Маладосць. 2007. № 1. С. 70).

Слова *падкіданец* узнікла паводле ўзору слоў *гадаванец*, *выхаванец* (аддзеяслоўнае ўтварэнне з суфіксам *-анец*) і належыць да прадукцыйнага словаўтваральнага тыпу назоўнікаў з семантыкай выніку адпаведнага дзеяння. На жаль, слоўнікі не фіксуюць гэтага натуральнага слова, а толькі *падкідыш* (рас. *подкидыш*), хоць утварэнні з суфіксам *-ыш* беларускай мове неўласцівыя.

**Падпаліць** (у печы), **распаліць** (печ) – а не **растапіць** (печ). «*У хаце ў Кужалёў цёпла і светла ад белых сонечных водсветаў. Фёкла* ***растапіла*** *печ. У дзежцы падыхлдзіць цеста. Падкінула ў печ палена, другое і спынілася, пазіраючы на агонь, які абвіваў дровы, прагна хапаўся за сухое дрэва*» (Полымя. 2007. № 11. С.28).

Ніводзін слоўнік не фіксуе ў беларускай мове «растапіць печ». Дзеяслоў *растапіць* мае ў беларускай мове значэнне «нагрэўшы, ператварыць цвёрдае ў вадкае. *Растапіць воск*» («Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы». 1996, с.556). Перакладныя слоўнікі таксама засведчылі гэта: «**Растопить** (печь) – *распаліць* (печ), *падпаліць* (у печы)» («Русско-белорусский словарь», 1993, т.3, с.223).



Дык для чаго такая моўная трасянка ў аўтарытэтным часопісе?!

**Падпольны** і **падпольніцкі – нелегальны, патаемны (тайны), канспірацыйны.** Слова *падпольны* не фіксуюць беларускія слоўнікі 1920-х гадоў. Гэта пазычанне з расейскай мовы (*подпольный*), дзе яно ад *подполье (подполь-ный)*; якое ад *пол* (*под-пол-j-э*). Перакладныя слоўнікі падаюць наступныя іх беларускія адпаведнікі: «**Пол** м *падлога*; **Подполье** 1. (помещение под полом) *падмосце;* (погреб) *склеп;* (подвал) *сутарэнне*» 2. перен. *падполле*. ***Подпольный*** 1. *падмастовы; склепавы, сутарэнны;* 2. перен. *падпольны* (РБС-53, с.463, 449; РБС–82, т.2, с. 614).

Рас. *подпольный* (і *подполье*) былі перанесеныя ў беларускую частку слоўнікавага артыкула (*падпольны*, *падполле*) як палітычныя тэрміны дзеля рэалізацыі ідэі «зліцця нацыяў». У слоўніку В.Ластоўскага засведчана наступнае: «***Подпольный***, які знаходзіцца пад завалам, памосткам, у порубе, склепе; *тайны*, *скрытны*, *падземны*» (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. – Выданне факсімільнага тыпу. Мінск: Навука і тэхніка, 1990. с. 489).

У сучасным перыядычным друку на месцы *падпольны* выкарыстоўваецца і наватвор *падпольніцкі* – утварэнне ад *падпольнік* (*падпольнік + ск-і → падпольніцкі)* – адэквата пазычанага з расейскай мовы *падпольшчык* (*подпольщик*).

У суседніх славянскіх мовах з гэтым значэннем ужываюцца свае ўтварэнні, што фіксуецца сучаснымі перакладнымі слоўнікамі: польск. *podziemny*, *nielegalny*, *tajny* (рас. *подпольный*, *нелегальный*); *nielegalniak (подпольщик*); чэшск. *ilegálńi*, *podzemni*; славацк. *ilegalny*, *podzemný* (рас. *подпольный).*

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» да слова *падпольны* падае сінонімы *нелегальны*, *тайны* (ТСБМ, т.3, с.555), а слова *падполле* і з тлумачэннем «дзейнасць, накіраваная супраць улад, якая праходзіць *тайна*, ва ўмовах строгай *канспірацыі*, а таксама жыццё ў такіх умовах…» (Тамсама).

З прааналізаванага відаць, што адмысловымі беларускімі адпаведнікамі да рас. *подпольный* ёсць *нелегальны*, *патаемны (тайны)*, *канспірацыйны*, а найменнямі асобы – *нелегальнік*, *патаемнік*, *канспірацыйнік* (рас. *подпольщик*).

**Падтакваць –** а не **паддакваць.** «*Адны з іх згаджаліся,* ***паддаквалі*** *кіўком галавы, іншыя спрачаліся*». (Полымя. 2007. № 1. С.36).

***Паддаквалі –*** памылковае слова. Гэта – утварэнне ад слова «**Да! Да!**» (*паддакивать*). Яму ў беларускай нармаванай мове адпавядае ***падтакваць*** – выказваць згоду (з чужой гаворкай), адабрэнне, часта

вымаўляючы «**так**». Гэта дасведчана слоўнікамі, напрыклад, «Русско-белорусским словарём» 1993 г. (т.2, с.591). Дарэчы, у іншым месцы гэтага тэксту (Полымя. 2006. № 12. С.54) бачым нармаваную форму – ***падтаквацъ***: «– *Усюды ён проста пішчом лезе. – Ага, праўда, –* ***падтакнуў*** *другі жаночы голас. – Усё навідавоку хоча быць*».

**Палатніна – палотнішча.** Слова *палотнішча* - утварэнне ад *палатно* з суфіксам *-ішч-(а).* Гэты суфікс звычайна надае словам павелічальна-ўзмацняльнае значэнне: *дом – дамішча, вецер – вятрышча.* Утварэнні з суфіксам *-ін-(а)* маюць, як правіла, вылучальнае, канкрэтна-прадметнае значэнне: *жывёла – жывёліна, лес – лясіна* ‘асобнае дрэва (у лесе)’.

Гэта пацвярджае і «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 3, с. 640): *«Палотнішча, -а,* н. Вялікі кавалак матэрыялу». *«Палатніна, -ы,* ж. 1. Кавалак або полка палатна; асобны выраб з палатна. *Нехта з хлопцаў знайшоў* ***палатніну*** *- настольнік ці што, – і мы абгарнулі крывавае цяжкое цела.* (Я. Брыль.) 2. Дамашняе льняное палатно; адзенне з такога палатна. [Кастусь:] – *Палатніна пачала выходзіць з моды.* (У. Караткевіч)» (тамсама, с 628).

Адсюль відавочна, што слова *палатніна* натуральнае і пры абазначэнні дэталі сцяга ды пад. Рус. *полотнище* мае наступныя беларускія адпаведнікі: 1. (кусок ткани в натуральную ширину) – *полка, палатно; парус в четыре полотнища – парус у чатыры полкі; 2.* (знамени и т. п.) – *палотнішча;* 3. (инструмента) спец. *палатно; полотнище пилы – палатно пілы;* 4. (у ворот) – *створка: повесить п. ворот – павесіць створкі варот* (РБС-82, т. 2, с. 133). Як бачым, скрозь, за выняткам тэрміналагічнага ‘частка сцяга’, у беларускай мове ёсць свае адпаведнікі. Улічваючы згаданае, сучасны нацыянальны друк на месцы «ўсесаюзнага стандарту» *палотнішча* выкарыстоўвае ўласнае *палатніна.*

**Паховіны – пахаванне.** «Тыдзень ад *паховінаў* цёткі Любы пад знакам прысутнасці ў двары старонніх людзей» (Дзеяслоў. 2009. № 4, с. 53).

*Паховіны* – вытвор з суфіксам *-ін-ы* ад дзеяслова *пахаваць* (з пераходам націску на папярэдні склад): *пахав-іны → пахов-іны.* Слова не трапіла ў акадэмічныя слоўнікі (на яго месцы – *пахаванне*), хоць у жывой народнай мове ўтварэнняў на *-овіны(-авіны)* нямала: *дамовіны, заповіны* (ад *запіваць*) і *запоіны, шлюбавіны…*

Як сведчыць акадэмічная «Беларуская граматыка» (Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – Мінск, 1985, с. 264), утварэнні з суфіксам *-ін-ы(-ын-ы)* складаюць прадукцыйны тып у гутарковым стылі (*запросіны, закосіны*). Бальшыня ўтварэнняў называе абрады.

**Пачатковы курс – уводзіны (***у што***).** У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (Т.5, кн.1, с. 606) чытаем: «**Уводзіны**, -аў. 1. Уступная пачатковая частка чаго-н.; уступ. *Уводзіны да падручніка.* 2. *у што*. Раздзел навукі, у якім раскрываюцца асноўныя паняцці гэтай навукі. *Уводзіны ў мовазнаўства*». Як вынікае з азначэння, «Уводзіны ў мовазнаўства» – раздзел навукі, які раскрывае яе асноўныя паняцці.

Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасці: у гэтым курсе не толькі «раскрываюцца асноўныя паняцці», але (у больш простым выглядзе) асвятляюцца амаль усе пытанні тэарэтычнага («агульнага») мовазнаўства: фаналогія, марфеміка і словаўтварэнне, лексікалогія, фразеалогія, граматыка, гістарычныя змены ў фанетычнай і граматычнай структуры мовы, пісьмо, класіфікацыя моваў свету, паходжанне мовы. Таму для вызначэння існасці названага раздзела навукі больш прыдатнай ёсць назва «Пачатковы курс мовазнаўства».

Такое найменне гэтага курса засведчыў навучальны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў, выдадзены ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы ў 1993 годзе. Тытульны ліст кнігі: «П.У.Сцяцко. Пачатковы курс мовазнаўства. Рэцэнзенты: *Л.А.Антанюк*, доктар філалагічных навук, дацэнт БДУ; *А.Ф.Рогалеў*, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны. Рэкамендавана да друку Навуковай радай Гродзенскага дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы».

**Перавоз** (тавараў) – **перавозка**. З значэннем дзеяння як працэсу ў беларускай мове выкарыстоўваюцца аддзеяслоўныя ўтварэнні з нулявым суфіксам: *перавоз (*грузаў, тавараў*)*, *вываз* (угнаення на поле), *раскопы* (грунту на замчышчы), *заправа*, *выстава* і г.д.

З гэтым значэннем выступаюць таксама аддзеяслоўныя ўтварэнні з фармантам ***-нне***: *кармленне, раскопванне, высяканне…*

Словы з суфіксам **-к-а** маюць у беларускай мове прадметнае значэнне. Параўнайма: *выбранне* і *выбіркі* ‘тое, што выбрана’, *падкормка* ‘рэчыва для падкормлівання’ і г.д.

Таму непрымальнымі трэба лічыць прыметнікавыя ўтварэнні з суфіксам **-н-** (ад назоўнікаў на **-к-а**) пры абазначэнні прылады (абсталявання, прыстасавання) для выканання дзеяння. Нарматыўна: *выгружальная*, *загружальная* (баржа, машына), а не *выгрузачная*, *загрузачная* (утварэнні ад *выгрузка, загрузка → выгрузач-ная*, *загрузач-ная*).

На жаль, у слоўнікі яны трапляюць у выніку механічнага пераносу расійскіх формаў (у расійскай мове ўтварэнні на **-к-а** маюць больш шырокую семантыку – абазначаюць і прадмет, і працэс, дзеянне).

**Пабытавы – бытавы**. Перакладныя слоўнікі падаюць два словы – *быт* і *побыт* як раўнапраўныя адпаведнікі да рус. *быт*. Так, у «Беларуска-расійскім слоўніку» М.Байкова і С.Некрашэвіча (1926, с. 51, 241) чытаем : «**Быт**, м. – быт, способ жизни. **Побыт**, м. – быт, способ жизни». І ў акадэмічных слоўніках: «**Быт**, *быт, побыт*» (Русско-белорусский словарь. 1993, Т.1, с. 135) Аднак вытворныя словы падаваліся толькі пры слове, супольным з усесаюзным стандартам: *быт – бытавы*, *бытавізм*, *бытаўшчына* і інш.

І гэта зразумела: слова *побыт* не супадала з усесаюзным стандартам. У маўленні савецкага часу яно амаль не выкарыстоўвалася, таму і не было патрэбы ў вытворных ад яго. Нават шасцікнігавы тлумачальны слоўнік падае *побыт* як адзіночнае слова. Не зарэгістраваў слова *побытавы* і самы аўтарытэтны даведнік – «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987).

У незалежнай Беларусі слова *побыт* атрымала шырокае выкарыстанне і стала базай для ўтварэння новых слоў: *побытавы*, *побытавасць* і інш.

**Подзьмеўка – паддувала.** Другое слова падаецца ў слоўніках з наступнай класіфікацыяй: «Паддувала, н. Адтуліна ў печы пад топкай для ўзмацнення цягі» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1996, с. 411; далей ТСБМ). Гэта копія з рус. мовы: «Поддувало... Отверстие в печи для усиления тяги» (Ожегов С. Словарь русского языка. Москва, 1982, с. 473). Рус. «поддувало» – утварэнне з суфіксам *-л-(о)* ад «поддувать» 'дуть немного снизу, сбоку' (тамсама). У беларускай мове рус. «поддувать» адпавядае *паддзімаць*. «Русско-белорусский словарь» (1953) падае: ***«Поддувало*** техн. *паддувала,* **ср.:** ***поддувать*** несов. *паддзімаць»* (с. 442). Адсюль відаць, што форма «паддувала» ненатуральная, яна пярэ-чыць матывавальнаму слову *паддзімаць*, якое мае каранёвую марфему *-дзім-* (рус. *-ду-)*. Вацлаў Ластоўскі перакладаў яго наступным чынам: *«Поддувало*, атворына ў печы, праз якую ў печы паветра дзьме ў печ; *подзьмеўка, подзьмевень»* [Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Мінск, 1990, с. 485]. Слова мае выразнае матываванне і словаўтваральную будову: *падзьмуць → падзьмуваць → подзьмеў-ка.* Гэтая натуральная лексема выкарыстоўваецца і ў сучасных тэрміналагічных слоўніках, напрыклад, у «Расійска-беларускім хімічным слоўніку» М. Міляшкевіча, З. Санько, А. Глушко, дзе чытаем: *«Поддувало – подзьмеўка»*.

Такім чынам, яшчэ 80 гадоў таму беларуская мова карысталася сваім словам, якое савецкім часам было замененае на ўсесаюзнае «паддувала» (рус. *поддувало).* Але падчас нашага нацыянальнага адраджэння яно вяртаецца да нас як свая адметная тэрміналагічная адзінка.

**Постаць – асоба.** Першае слова нашыя слоўнікі падаюць з надта збедненай семантыкай: «**Постаць**. ж. Стан., фігура» (ТСБМ, т.4, с. 294). (Тут і аманімічная адзінка: «**Постаць**[2] ж. Палоска жыта або іншай збажыны, занятая адной жняёй у час жніва»).

Сучасны ж нацыянальны друк выкарыстоўвае лексему *постаць* з значэннем, адпаведным расейскаму слову *личность*. Вось некаторыя прыклады: *Збіранне і рэгістраванне **постацяў** культуры – справа складаная, якая патрабуе вялікіх калектыўных намаганняў... Аўтар ўсведамляе, што сабраныя ім **постаці** зусім не вычэрпваюць той вялікай колькасці асоб з тэрыторыі Гродзеншчыны, што плённа працавалі ці працуюць зараз на культурнай дзялянцы жыцця* (Аляксей Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік. – Гродна, 2000. – 356 с. С.3,4).

*У выбраную на з'ездзе Раду ТБМ увайшло 58 чалавек. Сярод іх такія відныя **постаці** нацыянальнай літаратуры і культуры, навукі і адукацыі, як Я.Брыль, Р.Гарэцкі, В.Шаранговіч, У. Калеснік, А.Мальдзіс, Ф.Янкоўскі, Г. Бураўкін* (Ніл Гілевіч. Ад ідэі да заснавання // Наша слова. № 21 (656). 2004. 2 чэрвеня, с.3). *Прыказкі малююць збіральны вобраз працоўнага беларуса. З іх скупых радкоў паўстае велічная **постаць** духоўна багатага, шчодрага душой і сэрцам, непрымірымага да уціску, добразычлівага, мудрага, вострага на язык чалавека* (Рыгор Шкраба. Сіла слова. Мінск, 1958, с.35). *У Віцебскай вобласці, лічы, у адным раёне нарадзіліся магутныя **постаці** беларускай літаратуры, народныя пісьменнікі Беларусі, лаўрэаты шматлікіх прэмій – Быкаў і Барадулін* (Наша слова. № 22 (708). 2005. 15 чэрвеня). *І **постаці** настаўнікаў доўга трымаюцца ў памяці, калі іх урокі ператвараюцца ў адкрыцці* (Роднае слова. 2005. №6, с.112).

У адмысловай кнізе «Постаці ў гісторыі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы» (Гродна: ГрДУ, 2005. – 203 с.) аўтар-складальнік прафесар В.П.Таранцей піша: «Адной з прычын, якая падштурхнула аўтара ўзяцца за напісанне кнігі аб людзях Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, было жаданне расказаць як мага болей аб супрацоўніках, жыццё якіх, педагагічная і навуковая дзейнасць аказалі важкае ўздзеянне на гісторыю развіцця нашай ВНУ. Дарэчы, гэтыя людзі былі самі па сабе *асобамі з энцыклапедычнымі*

*ведамі, разнабаковымі інтарэсамі*. Адным словам, былі ***постацямі*** на даволі адметным шляху ВНУ» (с.5).

Як бачым, лексема *постаць* (*постаці*) ў маўленні выдатных беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, знаных нацыянальных выданняў мае значэнне ‘выбітная асоба’, адпаведна таму, што ў «Тлумачальным слоўніку» прыпісваецца слову *асоба* (ТСБМ, т.1, с. 285–286). Аднак *асоба* – слова шматзначнае, да таго ж, яно мае і іранічную афарбоўку «чалавек, які трымае сябе важна, ганарліва; персона», а таксама «пра чалавека (часцей жаночага полу), калі не хочуць назваць яго імя» (тамсама). Відаць, гэта і паспрыяла таму, што лексема *постаць* сёння замяняе ў нацыянальным друку свайго сіноніма *асоба*.

У перыядычных выданнях гэтае слова стала і назвай адмысловай рубрыкі. Напрыклад, у «Народнай волі» (№ 128 (2189) за 5 ліпеня 2005 года: «***Постаці***: *Рыгор Крушына: невядомы класік*».

Дарэчы, з гэтым значэннем слова *постаць* выкарыстоўваецца і ў мовах нашых суседзяў, што засведчана перакладнымі слоўнікамі: «украінск. *постать* – личность, польск. *postać* – личность, лицо, персона, *postać historyczna* – историческая личность». Такім чынам, больш адпаведным беларускім эквівалентам да рас. *личность* ёсць слова *постаць* ( а не *асоба*)

**Прадзіўны – прадзільны**. Слова *прадзіўны* – ад *прадзіва*, якое падаецца слоўнікамі з наступнымі значэннямі: «1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *прасці*. 2. Вынік гэтага дзеяння; тое, што спрадзена. 3. Кудзеля, лён і пад., прыгатаваныя для прадзення» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 4, с. 319). Ад гэтага назоўніка і натуральны прыметнік з высокапрадукцыйным суфікса ***-н-*** *прадзіўны* – ‘прызначаны для прадзіва’: *прадзіўны варштат, прадзіўная майстэрня, фабрыка*.

Усе вытворныя ад слова *прадзіва* – натуральныя, заканамерныя для мовы беларусаў: *прадзіўнік* – ‘рабочы, заняты вырабам прадзіва’, *прадзіўніца* – ‘жанчына, занятая прадзівам’, *прадзіўня* – ‘майстэрня (або фабрыка) для вырабу прадзіва’.

Беларускае *прадзіва* адпавядае расейскаму *прядение*, што засведчана перакладнымі слоўнікамі: «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (Масква, 1953, С. 551). «***Прядение***, текст. прадзіва, ср.; *ручное п. – ручное* ***прадзіва***; *машинное п. – машыннае* ***прадзіва***».

«Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.2. Мінск, 1989, с. 249): «***Прадзіва*** ср. *прядение*; *ручное п. – ручное прядение*…»

Але ж адметна беларускія словы не ўкладваліся ў рэчышча рэалізацыі ідэі на «зліццё нацыяў» і іх моваў, таму на іх месца былі



пастаўленыя ў слоўніках агульнасаюзныя стандарты (расейскія словы, напісаныя з улікам беларускай арфаграфіі): *прадзільны*, *прадзільшчык*, *прадзільшчыца*, *прадзільня* (уст.) А таксама складаныя тэкстыльныя тэрміны, напрыклад, *прадзільна-ткацкі* (< *прядильно-ткацкий*), хоць тут натуральным выступае беларускі эквівалент *прадзіўна-ткальны*.

Дарэчы, расейскаму *ткачиха* адпавядае белар. *ткаля* (*ткалля*), што таксама засведчана перакладнымі слоўнікамі. Але пазней яно было выціснута ўсесаюзным *ткачыха* (< *ткачиха*), утварэннем ад *ткач* (*ткач*-ыха), хоць, натуральна, тканнем займаліся не мужчыны, а жанчыны.

Ад *ткаць*, *ткаля* і і найменне майстэрні : *ткальня* – рас. *ткацкая мастерская* («Беларуска-расійскі слоўнік, 1926, с. 313). Праўда, у 1930-1980 гады гэтае слова ў перакладныя слоўнікі не дапускалася (яго месца заняло расейскае найменне).

**Працоўня.** «*Янка Брыль падоўгу жыў у Крынічным на беразе Нёмана. Леційшча ў Крынічным стала* ***працоўняй*** *пісьменніка, тут ім напісаныя многія творы, у наваколлі Крынічнага жылі ягоныя героі*» (Наша слова. 2007. № 30. 8 жніўня. С.3).

Слова *працоўня* – вытворнае ад *працаваць* (*працоўны*) з коранем *прац(а)*, мае значэнне ‘тое, што звязана з працай, працоўнае месца (кабінет, аўдыторыя, майстэрня)’.

Слоўнікі фіксуюць шмат вытворных слоў з гэтым коранем: *праца, працавацца, працаваць, працавік, працавіта, працоўны…* Але не бачым у гэтым лексічным кусце слова *працоўня*, хоць яно мае шчыльныя дачыненні да словаў *працавік, працаўнік,* якія абазначаюць суб’ектаў дзеяння (тых, хто працуе); *працоўня* ж – працоўнае месца для *працавікоў*.

У жывой мове яно бытуе, існуе. І не можа не існаваць, як нішто не існуе без прасторы (месца).

Назва працоўнага месца – *працоўня* – актыўна функцыянуе ў славянскіх мовах – польскай, славацкай, чэшскай: польск. *pracownia* – ‘майстэрня’, ‘атэлье’, ‘лабараторыя’, ‘кабінет’; чэш. *pracovna* – ‘пакой для заняткаў’, ‘рабочы пакой’, ‘кабінет’; славацк. *pracovňa* ‘тс’.

Часта выкарыстоўваецца слова *працоўня* ў сучасным нацыянальным друку, бо мае выразную словаўтваральную будову і значэнне, стаіць у адным шэрагу з зафіксаванымі ў слоўніках лексемамі на ***-ня / -оўня (-аўня)***, што абазначаюць месца, прастору для выканання дзеяння асобамі, названымі ўтваральным словам: *пякарня* (тут працуюць *пекары*), *смалярня* (*смаляры*), *канюшня* (*конюхі*), *цырульня* (*цырульнікі*). І *працоўня* – месца для выканання дзеяння (работы) *працавікоў* (*працаўнікоў*).

У народнай мове вытворныя з суфіксамі ***-н-я, -оўн-я (-аўн-я)*** складаюць высокапрадукцыйны словаўтваральны тып з значэннямі: 1) месца, збудаванне, дзе адбываецца дзеянне: *пільня* (пілаваць), *стайня* (стаяць коні), *бойня* (біць); 2) месца, памяшканне, прызначанае для таго, што названа ўтваральным словам: *пчольня* (пчолы), *кветня* (кветкі), *варыўня* (варыва), *багажня* (багаж), *крухмальня* (крухмал); 3) памяшканне, дзе працуюць спецыялісты, названыя ўтваральным словам (базавыя – назвы асобоў паводле іх занятку, спецыяльнасці): *слясарня, сталярня, вяндлярня, вінакурня, галярня* (і *цырульня*), *стальмашня* (*стэльмах*). (Больш падрабязна пра гэта гл. у нашай кнізе «Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі.» – Мінск: Навука і тэхніка. 1977, сс. 58, 164–165 і інш.).

Як відаць, лексема *працоўня* – натуральнае ў беларускай мове слова, якое выразна выяўляе сваё значэнне і мае тыповую для словаў нашай мовы будову. Яно выступае родавым словам (гіперонімам) для пазычаных відавых лексем (гіпонімаў) *аўдыторыя, кабінет, майстэрня* (іх асобных значэнняў)…

Да таго ж, яно стасуецца і з дзеясловам-назвай дзеяння, усведамляецца як ўтварэнне з суфіксам **-н-я:** *працаваць → працав-ня → працоўня.* Як і *вартаваць → вартоўня, мастраваць → майстроўня.*

**Прэміяваць – прэміраваць.** Слова *прэміяваць* мае выразную ўнутраную форму – ‘узнагародзіць (узнагароджваць) прэміяй’ і празрыстую словаўтваральную будову – утварэнне з суфіксам **-ава-:** *прэмij(а)* + *-ава-ць → прэміяваць* ( як і *крэдыт* + *-ава-ць → крэдытаваць*), а дублет *прэміраваць* – скарочаную невыразную частку *прэм-* і неўласцівы словаўтваральнай сістэме беларускай мовы суфікс **-ірава-** ( *прэм-ірава–ць*). Таму маўленчая практыка незалежнай краіны Рэспублікі Беларусь аддае перавагу менавіта гэтаму празрыстаматываванаму слову, што знайшло ўжо свой адбітак і ў «Беларуска-рускім слоўніку» 2003 года.

Дарэчы будзе нагадаць і пра іншыя адмысловыя беларускія формы такога кшталту, ужо занатаваныя слоўнікам, напрыклад *раянаваць* ‘зрабіць (рабіць) падзел якой-небудзь тэрыторыі на раёны (адміністрацыйныя, эканамічныя і пад.)’. Зазначым, што ў слоўніках савецкага часу і іх перавыданнях XX стагоддзя яны афармляліся на ўсесаюзны ўзор – з суфіксам **-ірава-:** *прэміраваць, раяніраваць …*

**Радзільня – радзільны дом – радзілка.** *Дзіця кахання – навароджаную Алінку – маладзенькія бацькі прынеслі ў агульны інтэрнацкі пакой, дзе жыла Зоська з сяброўкамі. Забіралі з* ***радзільні*** *цэлым студэнцкім хаўрусам, папярэдне аблаташыўшы некалькі гарадскіх кветнікаў… Як-ніяк – першае дзіця на курсе.* (Г.Дзмітрыеў. Хроніка непрыкаенай душы // Дзеяслоў. 2008. №5 (36), с.101).

Нашыя тлумачальныя слоўнікі не падаюць гэтага натуральнага беларускага слова – утварэння з суфіксам ***-льн-я*** ад дзеяслова *радзіць* (*радзільня*), хоць у беларускай мове шмат аднамадэльных слоў: *бялільня, днявальня, плавільня, прадзільня, пральня, спальня, чытальня, шатравальня, шліфавальня…* Яны абазначаюць памяшканне для выканання адпаведнага дзеяння, названага ўтваральным словам.

Затое «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Т.4, с.554) падае наступнае: «**Радзілка**, ж., разм. Радзільны дом; радзільнае аддзяленне». Але ж утварэнні з суфіксам ***-лк-а*** маюць зусім іншае значэнне – ‘прылада, посуд для выканання адпаведнага дзеяння’ ці ‘прадмет-суб’ект дзеяння’: *абганялка, веялка, капалка, качалка, сеялка, паілка, цадзілка, мігалка, снавалка, круцёлка.*

Так што *радзілкай* хутчэй можна назваць парадзіху, а не радзільны дом.

Перакладныя слоўнікі фіксуюць слова *радзільня* толькі як адпаведнік рас. *родильная* (о комнате) (Гл. РБС, 1996, т.3, с.258). Затое скрозь – у абедзвюх частках слоўніка – тое самае: *родильный дом – радзільны дом.*

**Распушчальная** (кава) – **раставаральная.** *А бацька прачынаўся, гатаваў сабе рапушчальную каву, курыў і глядзеў ў акно.*(Маладосць. 2009. № 1. С.31).

Прыметнік *распушчальны* – ад дзеяслова *распуціцца* з значэннем «разысціся ў якой-небудзь вадкасці». Яго падае «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Т.4, с.671).

Але натуральнага прыметніка ад згаданага дзеяслова гэты слоўнік (як і ўсе даведнікі савецкага часу) не змяшчае. На яго месцы бачым аднакаранёвае з усесаюзным стандартам: «*Растваральны:* 1. растворимый; *растваральныя рэчывы – растворимые вещества*; 2. растворяющий» (Беларуска-рускі слоўнік, т.2.,1989, с.395).

У даведніку, выдадзеным падчас нашага нацыянальнага адраджэння («Русско-белорусский словарь», 1993, т.3, с.220), гэтае натуральнае беларускае слова занатаванае, праўда, як другараднае, пасля вядомага, ранейшага: «**Растворимый** – *растваральны, распушчальны; растворимый кофе – растваральная (распушчальная) кава*».

Натуральнае адмысловае беларускае *распушчальны* мае ўсе падставы для замацавання ў слоўніка як нарматыўнай лексічнай адзінкі.

**Рухальны –** а не **рухацельны.** «*І так аслаб мой* ***апорна–рухацельны*** *апарат*» (Полымя. 2007. №1. С.144). Абодва варыянты

слова утвораныя ад асновы дзеяслова *руха-(цца, ць);* першы мае натуральны для беларускай мовы суфікс *-льн- (руха-льны).* Другі – неўласцівы нашай мове фармант *-цельны (руха-цельны).* Слоўнікі літаратурнай мовы фіксуюць толькі ўтварэнне з фармантам **-льны:** «*Рухальны – двигательный; рухальныя нервы – двигательные нервы*» (Беларуска-рускі слоўнік, 1989, т.2, с.412). «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» пад рэдакцыяй акадэміка М.Бірылы (1987, с.703) падае тры вытворныя прыметнікі з гэтым коранем, адзначаючы тэрміналагічны статус апошняга слова: «*рухáвы, рухлíвы, рýхальны* анат.».

Дык ці маем мы права парушаць замацаваную натуральную форму слова *рухальны*, замяняючы суфікс *-льн-* на небеларускі *-цельн-*?

Дарэчы, у шостым нумары гэтага часопіса на с. 160 падаецца заканамерная форма згаданага слова: «*Мастачка Ала Замай ... пісала мой партрэт, я дні тры пазіраваў. Размаўлялі пра ўсё. Пра маю хваробу* ***апорна-рухальнага*** *апарату*» (І.Шамякін. З дзённікаў).

Праўда, тут на с. 161 бачым іншае слова (з такім суфіксам), неўласцівае беларускай мове: «*Хацеў пазваніць, павіншаваць. Стрымаўся – яго пашкадаваў: раптам расхвалюецца, падумае немаведама што, хворыя* ***мніцельныя***».

Рас. *мнительный* адпавядаюць іншакаранёвыя беларускія словы. «Русско-белорусский словарь» (1993, т.2, с.66) падае: «**Мнительный** (недаверліва) падазроны, недаверлівы, надумлівы». Не падае «мніцельны» і згаданы «Слоўнік беларускай мовы» пад рэдакцыяй М.Бірылы, што пацвярджае штучнасць гэтага слова ў беларускай мове.

**Садоўнік – садавод.** Назвы асобы – кампазіты (складаныя словы) з фінальнаю часткаю *-вод* нехарактэрныя для беларускай мовы. На іх месцы выкарыстоўваюцца суфіксавыя ўтварэнні; параўнаем: *пчал-яр* (рус. *пчеловод), птушкагадов-ец (птицевод), авечкага-дов-ец (овцевод).*

Рускаму *садовод* у беларускай мове адпавядае *садоўнік (садовы – садоўнік* ці *сад – садоўнік*, як і *агарод – агароднік).* Яго фіксуе «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926, с. 282): *садоўнік* м. – *садовод* і вытворнае ад яго *садоўніцтва (садоводство).* Нашы ж акадэмічныя слоўнікі, захаваўшы слова *садоўніцтва* як адпаведнік рус. *садоводство*, замест слова *садоўнік* ужо падаюць *садавод* (РБС-53, с. 601; РБС-82, т. 2, с. 346). А ў двухтомавым «Беларуска-рускім слоўніку» (1989, с. 427) ужо бачым: *«Садаводства* ср. в разн. знач. *садоводство»*.

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 5, кн. 1, с. 18) фіксуе: *«Садоўнік, -а*, м. Спецыяліст па догляду саду і вырошчванню садовых раслін» і *«Садоўніцтва, -а*, н. 1. Занятак садоўніка; майстэрства даглядаць сад. 2. Развядзенне садовых раслін як галіна сельскай гаспадаркі // Раздзел сельскагаспадарчай навукі аб развядзенні і вырошчванні садоў». Разам з тым тут бачым і *садавод, садаводства* (тамсама, с. 16); прадубляваў гэта і «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы».

**Самадáйка.** « – *Бр-р, якое зацяганае слова, падобнае да* ***самадайкі****-прастытуткі, якую хто хоча, той і мае бясплатна, задарам, так*» (Маладосць. 2009. №4. С.29).

У сялянскім заходнебеларускім асяроддзі бытавала менавіта сваямоўнае слова ***самадайка***, а не яго іншамоўны пазычаны адпаведнік *прастытутка*.

**Сапраўды́ – напрáўду.** Першае слова падаецца слоўнікамі як стылёва нейтральнае, а другое мае памету «размоўнае». Ці апраўданая такая стылістычная кваліфікацыя лексемы *напраўду*? Сучасная маўленчая практыка не пацвярджае стылёвага абмежавання гэтай лексічнай адзінкі, бо яна выкарыстоўваецца і ў навуковых тэкстах: «*Геній марыць пра галавакружную літаратурную кар'еру. Ён* ***напраўду*** *геній, але са сваёй геніяльнасцю кінуты на самае дно жыцця*» (Пятро Васючэнка. Пятрогліфы і філалагемы // Дзеяслоў. 2004. № 9. С.216). «*Магчымасці мастацтва ў гэтай сферы напраўду невычэрпныя*» (Тамсама).

Да таго ж слова *напраўду* мае выразную ўнутраную форму (матываванне): *на* (што?) *праўду;* тым часам як *сапраўды* – зацемненая структура.

Матыванальнае слова *праўда* шырока выкарыстоўваецца ў народнай мове, ад яго ўтварыліся рознапрыстаўкавыя прыслоўі – сінонімы да лексемы *сапраўды: дапрáўды, напрáўду, папрáўдзе.*

Акадэмічныя перакладныя слоўнікі не фіксуюць словаў *дапраўды, папраўдзе*, як і аднакнігавы тлумачальны слоўнік (1996). Шасцікнігавы «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае словы *дапрáўды, напрáўду, папрáўдзе*, але кваліфікуе іх як гутарковыя (з паметай «разм.»). Зафіксаваў іх і «Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987), але з паўтарэннем стылёва абмежавальнай прыметы «разм.». Тут слова *дапрáўды* падаецца нават двойчы – як розныя часціны мовы. На с. 202 чытаем: ***дапрáўды*** разм., прысл.; ***дапрáўды*** разм., выкл..

Ці абгрунтавана заганяюцца гэтыя словы ў закутак гутарковасці? Іх жа бачым у рознастылёвых тэкстах, у творах знаных пісьменнікаў: «*Але факт ёсць факт: ясенеўскія тэксты* ***папраўдзе*** *лепшыя за многія іншыя і адпавядаюць песеннай спецыфіцы*» (Роднае слова. 2004. № 8. С.100). *І* ***папраўдзе****, усё дакляравала добрую ноч: неба чыстае, звонкае*

(Скрыган) – *Што гэта? Здалося ці* ***папраўдзе*** *наперадзе мільгануў цень?* (Сачанка). *Што ж … узрост… **Дапраўды** пара ў абоз, – думаў стары* (Шамякін).

Аналіз тэкстаў сучаснай маўленчай практыкі сведчыць, што словы *дапра́ўды, напра́ўду, папра́ўдзе* не маюць стылёва абмежаванага выкарыстання і павінны падавацца ў слоўніках літаратурнай мовы як нарматыўныя нейтральныя адзінкі, раўнапраўныя з *сапраўды*.

**Састарэлы, застарэлы,** а не **прэстарэлы**. «*Не дзіва, што тутэйшаму я-герою, чыё жыццё мінае, калі не ў непасрэдным атачэнні, дык у фатальнай блізкасці да «**прэстарэлых** аўто» і «плачучых коўдраў», пасля смерці хочацца трапіць туды*» (Маладосць. 2007. № 5. С.111).

Беларускай мове неўласцівае ўтварэнне «прэстарэлы». Расейскаму слову з прыстаўкаю *пре-* адпавядаюць беларускія з спрадвечнымі прыстаўкамі *за-* і *са-*, што і засведчана перакладнымі слоўнікамі: «Беларуска-рускі слоўнік» (1989, т.2, с.443) фіксуе: «**Састарэлы** (доживший до глубокой старости) престарелый». «Русско-белорусский словарь» (1993, т.2, с.759): «**Престарелый** састарэлы, стары».

**Сіняв́аты – сіня́вы.** Гэтыя прыметнікі фіксуюцца тлумачальнымі слоўнікамі як сэнсава тоесныя словы: «**Сіняваты,** -ая, -ае. З сінім адценнем, па колеру блізкі да сіняга. *Сіняватыя вочы.* **Сінявы**, -ая, -ае. Тое, што і сіняваты» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т.5. Кн. 1. Мінск, 1983. С.140). «**Белаваты**, -ая, -ае. Трохі белы, не зусім белы» (ТСБМ, Т.1, с. 303). «**Бялявы,** -ая, -ае. Не зусім белы, белаваты» (Тамсама, с.461).

Аднакнігавы тлумачальны слоўнік (1996) падае на сваіх старонках толькі ўтварэнні на **-авы, -явы**, разглядаючы іх як адэкваты да словаў з суфіксам **-ават-**/ **-яват-**. Напрыклад: «**Бялявы,** -ая, -ае. Не зусім белы; белаваты. *Узнімаўся **бялявы** туман*» (ТСБЛМ, с.101). «**Танклявы**, -ая, -ае. Не зусім тонкі, танкаваты» (Тамасама, с.652).

Такіх словаўтваральных варыянтаў зафіксавана слоўнікамі шмат: *белаваты – бялявы, гаркаваты – гаркавы, кіславаты – кіслявы, радкаваты – радкавы, русаваты – русявы, саладкаваты – саладкавы, танкаваты – таклявы* і інш.

Утварэннямі на **-авы-, -явы-** актыўна карысталіся класікі беларускай літаратуры; шырока бытуюць яны ў жывой народнай мове, фальклорных тэкстах і мастацкіх творах сучасных мастакоў слова. Вось некаторыя прыклады: ***Бялявае*** *месячнае святло лягло на зямлю* (Чорны). *Іду, а над крыніцаю **бялявы** туман сцелецца, і дыхае аселіца пахучай медуніцай.* (Гілевіч). *З другога боку высокая **танклявая** елка праціскае скрозь дубовыя галіны свае зялёныя калючыя лапы* (Колас).



*Вася выбраўся на дарогу і непадалёк убачыў знаёмую **таклявую** постаць* (Мележ). *Пад стрэхамі вісяць медзякі. У цяні яны **сінявыя,** на сонцы – празрыста–ружовыя* (Бядуля). ***Сінявае*** *неба над галавой стала падобна на вялікае возера* (Савіцкі).

Перакладныя акадэмічныя слоўнікі, падаючы ўтварэнні на ***-авы-, -явы-*** як адпаведнікі да рускіх з суфіксамі ***-оват-, -еват-***, звычайна суправаджаюць іх паметай «размоўнае», а нейтральнымі адэкватамі тут выступаюць словы з суфіксамі, супольнымі з рускай мовай: «**Кіслявы,** разг. кисловатый. **Кіславаты** кисловатый» (Беларуска–рускі слоўнік. Т.1. 1988. С. 601, 602). «**Сінявы** разг. синеватый. **Сіняваты** синеватый» (Беларуска–рускі слоўнік, Т.2. 1989. С.463.).

Такую стылёвую кваліфікацыю прыметнікаў на на ***-авы, -явы*** ў «Беларуска–рускім слоўніку» 1988–1889 гг. нельга лічыць справядлівай. Тлумачальныя слоўнікі паралельныя ўтварэнні з суфіксамі на ***-ават-, -яват-*** і на ***-ав-, -яв-*** справядліва разглядаюць як раўнапраўныя і ў стылёвых адносінах лексічныя адзінкі. Такую ацэнку гэтых словаўтваральных варыянтаў бачым і ў «Слоўніку беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мінск, 1987».

Адцісканне ўласнабеларускіх словаў на на ***-авы, -явы*** – адэкватаў да рускіх на на ***-оватый, -еватый*** і замацаванне ў якасці нарматыўных утварэнні з аналагічнымі з рускай мовай суфіксамі, відаць, мела на мэце хутчэй наблізіць нашую мову да ўсесаюзнага стандарту – рускай мовы. Між тым беларускім прыметнікам з суфіксам ***-ават- (-яват-)*** у рускай мове нярэдка адпавядаюць іншыя лексемы – складаныя словы з другой часткай «-видный, -образный». Напрыклад: **Зерняваты** с.-х. – зерневидный. **Клінаваты –** клиновидный, клинообразный (Беларуска–рускі слоўнік. Т.1. 1988. С.516, 605). **Пілаваты –** пилообразный, пильчатый. **Шылаваты –** шиловидный, остроконечный (Беларуска–рускі слоўнік. Т.2. 1989. С.222, 723).

Як відаць, беларускія прыметнікі з дзвюхфанемным суфіксам ***-ав-*** (арфаграфічна і ***-яв-***) і чатырохфанемнае ***-ават- (-яват-)*** маюць неадэкватнае з рускай мовай значэнне. Яны досыць «эканомна» выяўляюць сваю семантыку і трывала замацаваліся ў лексікаграфічных даведніках, што знайшло сваё адлюстраванне і ў найноўшых слоўніках, напрыклад у трохтомавым «Беларуска–рускім слоўніку» 2003 года, дзе ўтварэнні на ***-авы, -явы*** не маюць стылёвых абмежаванняў і падаюцца як нейтральныя словы. Напрыклад: *Кіслявы* – кисловатый, *сінявы* – синеватый, *танклявы – тонковатый* і пад.

**Сотавік, мабільнік.** «Ішла тут у гэты час нейкая бабуля з унучкаю. Перапалохаліся. Унучка адразу пазваніла па *сотавіку* ў

міліцыю, потым у «хуткую дапамогу». (Полымя. 2009. №8. С.132). *Сотавік* – утварэнне (шляхам кандэнсацыі, сцяжэння) ад намінацыйнага словазлучэння *сотавы тэлефон: сотав(ы)-ік. Сотавы тэлефон* – «аўтаномны тэлефон, звязаны радыёхвалямі з базавай станцыяй сувязі» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с.163).

Замест намінацыйнага словазлучэння *мабільны тэлефон* выкарыстоўваецца аднаслоўнае найменне *мабільнік*. «Тэлефануй, як што спатрэбіцца… Дарэмна Ігараў *мабільнік* не ўзяў» (Дзеяслоў. 2009. № 1. С.47).

**Спадкаемны – спадчынны.** «…Ці мела нябожчыца *спадкаемную* схільнасць да самазабойства». (Дзеяслоў. 2009. № 4, с. 53).

Слоўнікі фіксуюць лексему *спадкаемец* з семантыкай ‘той, хто прадаўжае чые-небудзь традыцыі, чыю-небудзь дзейнасць// ж. *спадкаемніца//* прым. *спадкаемскі*. (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996. С.614). Прыметнік *спадкаемскі*, што тут фіксуецца, мае семантыку прыналежнасці.

Наватвор *спадкаемны* – ўтварэнне ад *спадкаемец* (з адцінаннем – *ец*) з захаваннем значэння ‘уласцівы спадкаемцу’: *спадкаемная схільнасць – схільнасць спадкаемца*.

Форма *спадкаемны* стасуецца з літаратурнаю нормаю (параўн. слоўнікавае *спадчынны*) і вартае занатавання ў нарматыўным слоўніку.

**Спазнавальны – пазнавальны**. Слова *пазнавальны* – ўтварэнне ад *пазнаваць* (пазнава-льны), а яно ад формы закончанага трывання *пазнаць* (пазна-ваць).

У беларускай мове, як засведчылі тлумачальныя слоўнікі, дзеяслоў *пазнаць* мае асноўнае, найбольш выкарыстанае значэнне «прызнаць у кім-, чым-небудзь знаёмага або знаёмае. // Распазнаваць па якіх-небудзь прыметах каго-, што-небудзь» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т.3, с. 602). У дзеяслова ж *спазнаць* найпершае значэнне «ахапіць розумам, асэнсаваць з’явы рэчаіснасці». Акрамя таго «набыць веды ў чым-небудзь, пазнаць што-небудзь» // Атрымаць сапраўднае ўяўленне пра каго-, што-небудзь». «*Ён* ***спазнаў*** *ужо прыхільную лагоднасць яе душы, да якой міжвольна памкнуўся і сам*» (В.Быкаў). А таксама – «усвядоміць, зразумець, пераканацца». *Народ* ***спазнаў****, кім мусіць знацца*. (М.Чарот) (Том 5. Кніга 1. С. 242).

Такія выразныя значэнні і выкарыстанне ў тэкстах знакамітых аўтараў спрыяла таму, што ад дзеяслова *спазнаць* / *спазнаваць* сталі ўтварацца новыя лексічныя адзінкі – назоўнікі і прыметнікі, якія адлюстраваныя ў друку незалежнай Рэспублікі Беларусь.



Падамо некаторыя прыклады. «*Супрацьпастаўляючы эмпірычнаму* ***спазнанню*** *інтуіцыю, уяўленне, сны, пачуцці, рамантызм выступаў як адна з праяваў ірацыяналізму*». (Роднае слова. 2006. № 9. С. 20). «*Уладзімір Калеснік так вызначыў рух душы творчай асобы, сутнасць творчага* ***спазнання*** *свету:* «*Паэт шукае гармонію сусвету ў прыродзе і ў сабе ды неўпрыцям сам становіцца сусветам*»«. (Тамсама, с. 38). «*Пераклады біблейных кніг выконваліся пераважна ў адукацыйных і* ***спазнавальных*** *мэтах*». (Роднае слова. 2006. №8. С.11).

Нашыя акадэмічныя слоўнікі (перакладныя і тлумачальныя) абмежаваліся фіксацыяй толькі дзеяслоўных лексемаў і слова *спазнаны*. Іншыя вытворныя ад гэтых выразных слоў тут не падаюцца. Відаць, таму, што гэта не спрыяла б набліжэнню моваў. Затое супольных з усесаюзным стандартам лексічных адзінак у названых даведніках шмат: *пазнанне*, *пазнаны*, *пазнавальны*, *пазнавальнасць* і інш.

Між тым дзеясловы з прыстаўкаю **с- (<з)** маюць больш выразна акрэсленую і багатую семантыку (засведчаную і тлумачальнымі слоўнікамі) і здатныя на шырокае выкарыстанне іх у пісьмова-кніжнай мове, а таксама вытворныя адзінкі – *спазнавальнасць*, *спазнавальны*, *спазнаванне*.

**Спяванка.** «*Кабзар спявае пад гукі кобзы свае цудоўныя* ***спяванкі***». (Полымя, 2007, № 1. – С.192).

Слоўнікі не падаюць гэтага слова, а толькі *песня***.**

*Спяванка* – аддзеяслоўнае ўтварэнне (ад *спяваць*) таго ж кшталту, што і *калыханка, чытанка*. Словы гэтай мадэлі складаюць высокапрадукцыйны тып ўтварэння, асабліва ў народнай мове (Гл.: П.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. – Мінск, 1977. С.28–29).

*Спяванка* мае натуральныя дачыненні да лексемаў *спявак, спявачка*, якія абазначаюць выканаўцаў дзеяння (спеву, спявання), суб’ект яго, а *спяванка* – аб’ект (і вынік) гэтага дзеяння, тое, што выконваецца (спяваецца).

Нагадаем, што слова *песня* таксама аддзеяслоўнае ўтварэнне (*пець* → *пе-сня*) з значэннем аб’екта (выніку) дзеяння (пяяння), а семантыка суб’екта тут перадаецца аднакаранёвымі (аднаасноўнымі) словамі *пявун* і *пяюн*, якія фіксуюцца ў слоўніках як гутарковыя лексічныя адзінкі (з паметай «размоўнае»)

Лексема *спяванка* мае ў нашай мове куды большае кола сваіх непасрэдных родзічаў, чым *песня*. Да таго ж , усе яны падаюцца слоўнікамі як стылёва нейтральныя адзінкі мовы: *спевы, спеў, спеўка, спеўнік, спеўны, спявак, спяванне, спяваны, спяваць, спявачка*. У расейскай мове іх адпаведнікамі выступаюць словы з асновай *пе*-:

*спевы, спеў, спяванне – пение, спеўнік – песенник, спявак – певец, спяваны – петый, спявачка – певица, спяваць – петь.*

**Сталая, вечная** (каштоўнасць) – а не **непераходзячая.** *Кожны куточак сапраўднага беларускага пейзажу мае* ***неپераходзячую*** *духоўную, эстэтычную каштоўнасць.* (Полымя.2008. № 12, с.170).

Тут аўтар тэксту паленаваўся падумаць, пашукаць у перакладных слоўніках адэкватнае слова да рас. *непреходящий* і падаў чужое ў беларускім афармленні. Але ж гэтае трасянкавае стварэнне нічога не выяўляе, не перадае. Да таго ж *-уючыя/-аючыя* формы не маюць пашырэння ў беларускай мове. «Русско-белорусский словарь» (т.2, 1993, с.221) засведчыў: «***Непреходящий*** *(*постоянный*) сталы;* (вечный) *вечны*».

**Суправаджальнік, суправаджэнец** – а не **суправаджаючы.**

Першыя акадэмічныя беларускія перакладныя слоўнікі падавалі найменне суправаджальнай асобы без перакладу, толькі прыстасаваўшы расейскую форму дзеепрыметніка да беларускай мовы: «***Сопровождающий*** (в знач. существит.) ***суправаджаючы***. (Русско-белорусский словарь, 1953, с.646); «***Суправаджаючы*** (в знач. существ.) сопровождающий» (Беларуска-рускі слоўнік, 1962, с.900).

Праўда, з значэннем прыметніка ў слоўніках адэкватам выступае беларускі прыметнік ***суправаджальны***: ***сопровождающие*** *обстоятельства –* ***суправаджальныя*** *акалічнасці.*

А гэта ўжо само па сабе сведчыць пра штучнасць формы ***суправаджаючы***. Да таго, у Слоўніку 1962 г. яно падаецца ў адным слоўнікавым артыкуле з семантыкай аж трох часцінаў мовы: прыметніка, назоўніка і формы дзеяслова – дзеепрыслоўя (рас. *сопровождая*).

Пры перавыданні першага акадэмічнага Руска-беларускага слоўніка (1953 г.) неўласцівае беларускай мове слова-адэкват рас. дзеепрыметніка з суфіксам ***-ющий*** было заменена на натуральнае беларускае ўтварэнне з суфіксам ***-льнік – суправаджальнік***. Так, у кнізе «Русско-белорусский словарь» (Выд. 2-е, Мінск, 1989, т.2, с.420) чытаем: «**Сопровождающий.** 3. сущ. ***суправаджальнік***». І ўсе наступныя перавыданні згаданага слоўніка трымаюцца гэтае нормы.

А вось беларуска-рускія слоўнікі застылі на «узоры» 1953 года. І ў «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 года, і ў двухтомавым перавыданні 1988-1989 гг., і ў трохтомавым 2003 года (выдадзеным пад рэдакцыяй А.Падлужнага) усё красуецца штучная для беларускай мовы форма дзеепрыметніка ***суправаджаючы***.

Занесена яно і ў пяцітомавы (шасцікнігавы) «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». У пятым томе (кніга першая) на с.384 чытаем: «**Суправаджаючы** 1) Дзеепрыметнік…, 2) у знач. назоўніка. Той, хто суправаджае каго-, што-н. з мэтай аховы, канваіравання або як праваднік. 3) Дзеепрыслоўе ад *суправаджаць*».

Вось які прастор, які разгон мае гэтае штукарства! Насамрэч яно натуральнае толькі як форма дзеяслова – дзеепрыслоўе.

Зазначым таксама, што на папярэдняй старонцы згаданага слоўніка падаецца з семантыкай дзейнай асобы заканамернае ўтварэнне з высокапрадукцыйным суфіксам **-льнік:** «***Суправаджальнік.*** Той, хто суправаджае каго-, што-н.». Дарэчы, тут занатавана і форма жаночай асобы – ***суправаджальніца***.

Новы Тлумачальны слоўнік (аднакнігавы) не падае наймення асобы паводле значэння дзеяслова ***суправаджаць.*** Таму аўтары пісьмовых ткстаў, зналыя пісьменнікі, самі ўтвараюць найменні асобы – выканаўцы гэтага дзеяння. Так, у Ніла Гілевіча чытаем: «*Ліфшыц варочае галаву то ў адзін, то ў другі бок… і нарэшце спыняецца сам і спыняе сваіх* ***суправаджэнцаў***» (Дзеяслоў. 2009. № 3 (40), с.29). Назоўнік *суправаджэнец* – утварэнне з суфіксам ***-ец*** ад слова *суправаджэнне* (‘хто у складзе суправаджэння’) ці з ***-энец*** ад ***суправаджаць*** (*супраавадж(аць) -энец*). Такія вытворныя, як сведчыць «Беларуская граматыка» (1985 г.) складаюць прадукцыйны тып: *акружэнец, вылучэнец, паўстанец, паражэнец, прымірэнец…*

**Сынаў, сыноўскі,** а не **сыноўні**. «*Вобраз Брылёвай маці паказаны і ў іншых жыццёвых сітуацыях, у іншых паваротах… Але ўсюды па-ранейшаму ён будзе насычаны* ***сынавай*** *любоўю і* ***сынавай*** *пашанай.* (Роднае слова. 2007. № 8. С.4). «*Чытаючы і перачытваючы творы Янкі Брыля …пераконваешся, з якой жыццёвай праўдзівасцю, рыцарскай павагай і сапраўднай* ***сыноўскай*** *любоўю заўсёды пісаў ён вобраз маці, жанчыны ўвогуле*» (Тамсама, с.5). «*І шчасце наша, і грунтоўная школа, і ўдзел у* ***сыноўнім*** *служэнні*» (Тамсама, с.3).

Першыя два прыметнікі ўтвораныя паводле натуральнай у беларускай мове мадэлі: 1) *сын* + суфікс *-аў → сынаў*; 2) *сын* + суфікс *-оўск-і → сыноўскі*. Слова «сыноўні» парушае натуральнасць нашай мовы, якая не мае суфікса *-оўн-*. Утварэнні з фармантам *-овн-* уласцівыя расейскай мове, што засведчана перакладнымі слоўнікамі: «Беларуска-рускі слоўнік» (1989, т.2, с.539): «**Сынаў –** сыновний; сыновий; *сынаў абавязак – сыновний (сыновий) долг.* **Сыноўскі –** сыновний, сыновий; *сыноўскі абавязак – сыновний (сыновий) долг*»; «Русско-белорусский словарь» (1993, т.3, с.492): «**Сыновний –** сынаў, сыноўскі».

Слова «сыноўні» перакладныя слоўнікі не фіксуюць. А вось «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» знайшоў месца і гэтаму штучнаму слову. У пятым томе яго (1983, с.432) чытаем: «**Сыноўні**.

Разм. Тое, што і сыноўскі». Аднак больш позні па выданні «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996, с.645) не змяшчае гэтага штучнага словаўтваральнага варыянта. Пры слове *сын* тут падаецца толькі: «*Сыноўскі. Сыноўскія абавязкі*».

**Сыты – наеты, сытасць – наетасць**. Слоўнікі не падаюць другіх слоў гэтых параў, а толькі першыя: *сыты – сытасць*. У жывой народнай мове актыўна выкарыстоўваюцца гэтыя матываваныя, выразныя словы *наеты, наетасць*.

Яны фіксуюцца ў народна-дыялектных слоўніках, выкарыстоўваюцца ў мастацкіх творах: «**Наеты**, прым. Той, хто наеўся; сыты. ***Наеты*** *галоднаму ні спагадая. Яды ні бракуя: адзін ні галодны, і другі* ***наеты***» (П.Сцяцко. Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны. Гродна, 2005. С.78). *Але Маня пачакае абеду, каб* ***наетасць*** *размеркаваць на ўвесь дзень і не завяршаць сённяшнюю працу надгаладзь*. (А.Бутэвіч. Апошняе ігрышча // Полымя. 2007. № 1. С.61).

Слова *наеты* – утварэнне ад *наесціся* 'паесці, перастаць быць галоднымі', былы дзеепрыметнік з суфіксам **-т-:** *нае-т-ы*. Як і *адзець – адзеты, набыць – набыты*... Ад яго з дапамогаю тыповага суфікса **-***асць* утварылася *наетасць* (як і *сытасць* ад *сыты*). Слова ж *сыты* не мае непасрэднай матываванасці (утваральнай базы). У народнай мове Гродзеншчыны яно выкарыстоўваецца толькі з адным значэннем) – 'які мае ў сабе шмат тлушчу'. Тым самым тут выразна выяўляецца семантыка кожнага з названых слоў, а ў слоўнікавай лексеме *сыты* няма такой пазатэкставай пэўнасці значэння. У перакладных слоўніках яно падаецца з расейскімі адпаведнікамі: «**Сыты** 1. (отъевшийся) упитанный, тучный, жирный; 2. (наевшийся) сытый; 3. (содержащий много жира) жирный; *сытае мяса – жирное мясо*» (Беларуска-рускі слоўнік. Том 2. Мінск, 1989. С.540–541).

**Сыходзіць у – узыходзіць да.** «Вытокі такога сімвалічнага выкарыстання эпітэта *белы*, паводле Вяч.Іванова, сваімі каранямі *сыходзяць у* дахрысціянскую эпоху» (Роднае слова, 2008, № 1, с. 48. Лемцюгова. Чаму ты белая, Белая Русь?).

У навуковых тэкстах нярэдка выкарыстоўваецца на месцы выдзеленага *сыходзіць у* спалучэнне *ўзыходзіць да* . Напрыклад, : «Сучасны беларускі алфавіт агульнага паходжання з рускім і ўкраінскім. Усе яны *ўзыходзяць да* старaславянскай азбукі – кірыліцы» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. 1983, т.5, с. 652). На нашу думку, больш прыдатным і адэкватным ёсць тут дзеяслоў *сыходзіць* – 'быць накіраваным у глыбіню, да першаснасці аб'екта, з'явы, эпохі'. Менавіта такое значэнне мае гэтае слова ў прыведзенай цытаце знанага навукоўца Валянціны Лемцюговай.



Спалучэнне *ўзыходзіць да* выяўляе значэнне накіраванасці ўверх. Дзеяслоў *узыходзіць* падаецца тлумачальнымі слоўнікамі з значэннем 'весці свій пачатак, паходжанне ад чаго-небудзь'. Гэта штучная калька рус. *восходить* (гл. Словарь русского языка: в 4 т. Т. 1. М., 1981, с. 218). Перакладныя слоўнікі не пацвярджаюць такога значэння ў слове *ўзыходзіць* як адпаведніка рус. *восходить*. Яшчэ акадэмічны «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953, с. 71) засведчыў: «*Восходить*, несов. 1. (подниматься вверх) *узыходзіць;* 2. (иметь началом) *браць пачатак* (ад чаго); (происходить) *паходзіць* (ад чаго); 3. (о светилах) *усходзіць*». Пацверджана гэта і ўсімі перавыданнямі гэтага даведніка (1982, 1993, 2002 гг. і інш.). Толькі пры трэцім значэнні (о светилах) дадаецца да слова *ўсходзіць* і дзеяслоў *узыходзіць.*

Такім чынам, адэкватам да рускага *восходить* з семантыкай 'иметь началом' ёсць беларускае *браць пачатак*, а з значэненм 'происходить' – *паходзіць*. Замест штучнай калькі «ўзыходзіць да» (рус. *восходить к*) натуральным беларускім адэкватам ёсць *сыходзіць у*.

**Таўпеня.** «*Яе хочацца да нястрыму ў кагале, гурце, масе, у бясконцай таўпені такіх жа двуногіх, як сам*...» (Маладосць. 2009. № 4. С.37).

Нaватвор ***таўпеня*** паходзіць ад слоўнікавага ***тоўпіцца*** 'збірацца дзе-небудзь вялікай групай, утвараць натоўп' (ТСБМ, т.5, кн.1, с.500). Утварэнне з суфіксам ***-ен-*** (параўн.: *ступаць – ступень*).

**Ткалля – ткальніца – ткачыха.** «*А якое тыповае, якое тонкае спалучэнне фарбаў! У іх сінтэзавана праца тысячы год і тысячы нашых жанчын-****ткальніц****, друкароў набіванак*». (Полымя. 2007. №1. С.192).

Слоўнікі падаюць апошняе з гэтых слоў (супольнае з рас. *ткачиха*). Праўда, дадаюць да яго і адметнабеларускае *ткалля*, але як гутарковае слова (каб не трапіла ў навуковы стыль як тэрмін!) Вылучанае ў тэксце *ткальніца* (*ткальніц*) – мажлівае ўтварэнне ад *ткаць* (*тка-льніца*) ці ад *ткальня* 'майстэрня для ткання' (М.Байкоў, С.Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. 1926. С. 313) з выкарыстаннем суфікса *-(н)іца*: *ткальніца*. А для тэрміналагічнага выкарыстання падаецца лексема – *ткачыха* (рас. *ткачиха*).

**Тодарышын –** а не **Тодарыхін.** «*Вось і* ***Тодарыхін*** *надворак*». (Полымя. 2006. № 12. С.70). Форма **Тодарыхін** парушае норму беларускай мовы: перад суфіксам **-ін-** у прыналежных прыметніках адбываецца чаргаванне гукаў **к–ч, х–ш**: *Зоська – Зосьчын, Андрусіха – Андрусішын, Тодарыха –Тодарышын*.

**Тупак – тупіца.** «Ды і хто з *тупакоў* калі любіў разумных? Але жыццё дае кожнаму тое, чаго ён варты». (Маладосць. 2009. №8. С.22).

Слоўнікі фіксуюць толькі *тупіца* (супольнае з расейскім *тупица*). Між тым асабовыя адпрыметнікавыя назоўнікі з суфіксам *–ак(-як)* складаюць прадукцыйны тып: *дабрак, бядняк, прастак (і прасцяк), сляпак, халасцяк, чужак…* Форма *тупіца* хутчэй стасуецца з прадметам, найменнем яго: *тупая сякера (піла) → тупіца.*

**Тушаніна – тушонка.** «У нас цэлая рандэля кашы з *тушанінай*». (Дзеяслоў. 2009. №1. С.23).

Слова *тушаніна* ўтварылася ад дзеяслова *тушыць* 'варыць на малым агні ў закрытай пасудзіне' з выкарыстаннем суфікса *–анін-а* (*туш-аніна*) і абазначае вынік названага дзеяння. Узорам для яго ўтварэння стала *квашаніна*, таксама назва стравы.

Найменне *тушаніна* вельмі выразнае паводле сваёй матывацыі ('тушаная страва') і будовы і вартае занатавання ў літаратурным слоўніку. Акадэмічныя слоўнікі падаюць толькі *тушонка* – пазычанне з расейскай мовы (*тушёнка*).

**Тэлевізійны** – а не **тэлевізіённы**. «*Малыя вельмі лёгка ловяць з экрана фразы пашлаватага **тэлевізіённага** гатунку і тут жа страляюць імі нават па старэйшых*» (Полымя. 2007. № 12. С.69).

Нарматыўная ў беларускай літаратурнай мове форма *тэлевізійны* (утварэнне з суфіксам **-н-** ад *тэлевізія*: *тэлевізій-ны*). «Тэлевізіённы» – вытворнае ад *тэлевізія* з з суфіксам **-онн-**: *тэлевізій-онн-ы.* Беларускай мове такія ўтварэнні неўласцівыя, бо прыметнікі ад назоўнікаў, якія канчаюцца на **-ія**, утвараюцца з выкарыстаннем суфікса **-н-**: *камісія – камісійны, тэлевізія – тэлевізійны.* Гэта ў расейскай мове адпаведныя прыметнікі маюць суфікс **-онн-**: *комисионный, телевизионный*, што пацвярджаюць і перакладныя слоўнікі: «**Телевизионный** – тэлевізійны» («Русско-белорусский словарь». 1993, т.3, с.506).

**Тэлефанаваць –** а не **тэлефаніраваць.** Ад пазычанага слова *тэлефон* дзеясловы ўтвараюцца ў беларускай мове з выкарыстаннем спрадвечнага суфікса *-ава-* і вытворнага ад яго *-ізава: тэлефанаваць, тэлефанізаваць,* як і *тэлеграф → тэлеграфаваць; манеўр → манеўраваць, прэмія → прэміяваць, палітура → палітураваць, раён → раянаваць, масаж → масажаваць…*

На жаль, у нашых слоўніках да гэтага часу бачым штучную «-іравую» форму «*тэлефаніраваць*». Так, у найноўшым «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (2005, с.672) чытаем: «*Тэлефаніраваць*, зак. і незак. Паведаміць (паведамляць) па тэлефоне, а таксама пазваніць (званіць) па тэлефоне». Гэтаксама, як у яго папярэдніку: *«Тэлефаніраваць…* Пазваніць па тэлефоне// пра што і з дадан. сказам. Паведаміць (паведамляць) што-небудзь па тэлефоне. *Тэлефаніраваць пра тэрмін канферэнцыі».* (ТСБМ, т. 5, кн. 1, 1983, с. 575). Але ж няма тут пацвярджальнай інфармацыі з тэкстаў знаных аўтараў (пісьменнікаў, навукоўцаў).

Пра штучнасць формы на *-іраваць* сведчыць і дзеяслоўная лексема без элемента *-ір-* (ад таго ж утваральнага слова) *тэлефанізаваць* 'забяспечыць тэлефонам', які падаецца на гэтай жа старонцы.

Слова *тэлефанаваць* трапіла і на старонкі «Слоўніка новых слоў беларускай мовы» (Мінск, 2009, с. 373). Гэтым словам беларусы карыстаюцца даўно і актыўна. Яго засведчыў «Руска-беларускі слоўнік» 1993 года (Мінск: «Беларуская энцыклапедыя» імя П.Броўкі, т.3, с.508): *«Телефонировать* сов. и несов. *тэлефанаваць».* І гэтая натуральная форма (без элемента *-ір-*) у поўнай згодзе з *тэлефанізаваць.* Яны адлюстроўваюць словаўтваральную заканамернасць беларускай мовы – абыходзіцца спрадвечнабеларускім словаўтваральным сродкам *–ава-*, а не яго штучным варыянтам *-ірава-.*

Дык і надалей будзем *тэлефанаваць* у незалежнай краіне Рэспубліцы Беларусь, не прыстасоўваючыся да былога ўсесаюзнага стандарту (*тэлефаніраваць ← телефонировать*).

**Тэставанне – тэсціраванне**. «*Цэнтралізаване **тэставанне** – гэта першы этап конкурсу на шляху ў ВНУ. Таму падрыхтоўка да яго патрабуе не толькі пэўных ведаў, але і ўмення выконваць* тэставыя *заданні*», – чытаем у аўтарытэтным штомесячным навуковым і метадычным часопісе «Роднае слова» (2007. № 2. С. 66) у рубрыцы «Рыхтуемся да цэнтралізаванага тэставання». Форма *тэставанне* арганічна стасуецца з яго аданкаранёвымі *тэст – тэставы – тэставаць.*

Параўнайма аднамадэльныя : *анкета – анкетаваць – анкетаванне, пакет – пакетавы – пакетаванне.*

Варыянт з ***-ір-*** *тэсціраванне* – не адпавядае фанетычным і словаўтваральным нормам беларускай нацыянальнай мовы: суфікс – ***ірава-*** штучны для беларускай (як і іншых славянскіх моваў – украінскай, польскай, славацкаў, чэшскай…). Апроч таго, фінальны зычны [т] звычайна захоўвае сваю цвёрдасць, параўн.: *фетыш – фетышызаваны, фанат – фанатызм, фанатычны; фантаст – фантастыка.* Пра гэта сведчаць таксама аднамадэльныя ўтварэнні, зафіксаваныя слоўнікамі, напрыклад: *савет – саветызаваць* (рас. *совет – советизировать*). Адсюль натуральна *тэст – тэставаць – тэставанне* (рас. *тест – тестировать – тестирование*).

**Умяшанне – умяшальніцтва.** «*Паэт спавядаўся, што сям'я ўратуе яго ад непрыхаванага **ўмяшальніцтва** самадзяржаўя ў прыватнае жыццё*» («без таямніцы няма сямейнага жыцця») (Роднае слова. 2006. № 2. С.51). Наватвор «умяшальніцтва» – калькаванне

структуры рус. *вмешательство*, дзе суфікс ***-тельство*** замены на -***льніцтва.*** Аднак беларуская мова не мае такога складанага суфікса -***льніцтв-а (-льнік + ств-о → льніцтва)***, тым часам як у рускай мове -***тельство*** – натуральны суфікс, які служыць для ўтварэння аддзеяслоўных назоўнікаў з семантыкай ‘апрадмечанае дзеянне’: *вмешаться / вмешиваться → вмеша–тельство.*

У беларускай мове гэтую функцыю выконвае тыповы суфікс ***-нн-е***: *умяшацца → умяша-нне.*

«**Умяшанне**», н. Дзейны ўдзел ў чым–н., актыўнае ўнікненне ў што–н. // Дзеянні, якія спыняюць што–н. *Хірургічнае ўмяшанне.* (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Том 5. Кніга 2. С.23).

Невыпадкова ніводны беларускі слоўнік не фіксуе штучнага ўтварэння «ўмяшальніцтва», а толькі *ўмяшанне*, якому ў рускай мове адпавядае *вмешательство.* Напрыклад: «**Умяшанне,** ср. вмешательство» (Беларуска–рускі слоўнік. Том 2. 1989. С.611). «**Вмешательство** – умяшанне» (Русско–белорусский словарь. 1999, т.1. С.184).

**Унікнуць, ухіліцца, абысці, абмінуць, мінуць – пазбегнуць**. Слова *пазбегнуць* – калькаванне рус. *избегнуть* (з унікненнем старaславянскай прыстаўкі *из-*). Яго не фіксавалі слоўнікі 20-х гадоў ХХ стагоддзя. Пра штучнасць «пазбегнуць» сведчыць яго марфемная будова *па-збегнуць*, бо няма ў беларускай мове «збегнуць», а ёсць *збегчы*, *збегаць*. Адпаведнікамі рус. *избегнуть* ёсць натуральныя словы, зафіксаваныя перакладнымі слоўнікамі. Так, у «Русско-белоруском словаре» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (Москва, 1953. С. 171) бачым: «**Избегнуть**… *унікнуць, ухіліцца, абысці, абмінуць, мінуць*». Паўторана гэта і «Русско-белорусским словарём» 1993 года і пазнейшымі перавыданнямі (1999, 2002).

У тлумачальныя слоўнікі *пазбегнуць* ( з рус. *избегнуть*) перанесенае з рускіх лексікаграфічных крыніцаў разам з тлумачэннем яго значэння. Параўн.: «**Избегнуть**, сов. *чего*. Избавиться, спастись от чего-н.» (С.О.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982, с. 213) і «**Пазбегнуць** зак. *чаго*. Збавіцца, выратавацца ад чаго-н.» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с. 422).

Такім жа штучным для беларускай мовы ёсць і слова *пазбягаць* (∠ рус. *избежать*), натуральнымі адпаведнікамі якога выступаюць усё тыя ж адмысловыя беларускія словы ў форме незакончанага трывання -*унікаць, ухіляцца, абходзіць, абыходзіць, абмінаць, мінаць.* (Русско-белорусский словарь. 1993. Т. 1. С. 542). І гэта зразумела: у рускай мове *избегнуть, избежать* выступаюць як паралельныя лексічныя адзінкі, што засведчана згаданым «Словарём русского языка» 1982 года. На старонцы 213 чытаем: «*Избегать, избегнуть*. Избавиться , спастись от чего-н.».

Зазначым да гэтага, што слова *пазбягаць* мае тры значэнні: 1. Збегчы, спусціцца ўніз – пра ўсіх, многіх. 2. Сцячы – пра ўсё, многае. 3. Збегчы, уцячы – пра ўсіх, многіх» (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. С. 423).

Дык ці ёсць патрэба навязваць гэтай натуральнай беларускай лексеме яшчэ і штучны амонім?

**Уседарожнік – усюдыход.** «Што ні кажы, а *ўседарожнік* – машына адметная!» (Полымя. 2009. №8. С.132).

Слоўнікі фіксуюць толькі кальку з расейскай мовы – *усюдыход* (вездеход) з семантыкай ‘аўтамашына на гусенічным ходу, прызначаная для язды ў цяжкіх дарожных умовах’ (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с. 700).

Уласнамоўнае слова *ўседарожнік* – досыць матываванае абазначэнне рэаліі (паняцця) – ‘машына, здатная праходзіць (праязджаць) усе дарогі’. І структура яго выразная: складана-суфіксавае ўтварэнне: *усе + дарог(і) + -нік → уседарожнік.*

**Формаўтваральны – формаўтвараючы.** Маўленчая практыка незалежнай Беларусі ўсё больш трымаецца прыродных уласцівасцяў нацыянальнай беларускай мовы. Накінутыя ў 1930–х гадах нашай літаратурнай мове штучныя дзеяслоўныя формы (дзеепрыметнікі) з суфіксамі ***-ач-, -яч-, -уч-, -юч-*** (адпаведна рускім ***-ащ-, -ящ-, -ущ-, -ющ-***) усё радзей ужываюцца ў перыядычным друку, творах мастацкай літаратуры, тэрміналагічных слоўніках, навуковых і іншых тэкстах. Іх месца займаюць адмысловыя беларускія словы.

І ў школьнай практыцы, падручніках і навучальных дапаможніках для ВНУ, навуковых выданнях на месцы ранейшага «ўтвараючая» (на ўзор усесаюзнага «образующая») замацавалася *формаўтваральная* (аснова, база). Аднак «Беларуска-рускі слоўнік» 2003 года вяртае нас да ранейшага савецкага часу – *формаўтварачы* (рус. *формообразующий*). І гэта пры тым, што ў самым гэтым слоўніку падаецца натуральнае *словаўтваральны*, а таксама *цэнаўтваральны*.

Уважлівае прачытанне ўсіх трох тамоў слоўніка паказвае, што ў ім, на жаль, засталіся ў ранейшай форме («савецкім мундзіры») амаль усе гэтыя штучныя для беларускай мовы формы, якія падаваліся ў двухтомавым выданні 1988-89 гадоў – перыяду актыўнай барацьбы за пабудову камунізму, «зліццё нацыяў» у «адзіны савецкі народ», які будзе карыстацца адзінай мовай – усесаюзным стандартам (а таму трэба ўкараняць супольныя з рускай мовай словаўтваральныя мадэлі).

Маўленчая практыка суверэннай краіны – Рэспублікі Беларусь ў слоўніку 2003 года амаль не знайшла свайго адбітку. Пра гэта, дарэчы, чытаем і ў прадмове слоўніка: «На жаль, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа не мае матэрыяльнай і тэхнічнай магчымасці сістэматычна фіксаваць новую лексіку з перыядычных выданняў…»

Пытанне пра штучнасць для беларускай мовы формаў на ***-ачы, -ячы, -учы, -ючы*** грунтоўна распрацоўвае знаны навукоўца і стыліст Алесь Каўрус. У адмысловым артыкуле «Калі ісці ад свайго: Дзеепрыметнік і яго адпаведнікі» (Полымя. 2004. № 5. 194–216) ён піша: «Як паказвае аналіз літаратурных тэкстаў розных стыляў, замест нехарактэрных беларускай мове дзеепрыметнікаў з суфіксамі ***-уч-, -юч-, -ач-, -яч-*** ўсё часцей выкарыстоўваюцца прыметнікі…». На 23 часопісных старонках (вялікага фармату) даследнік паказвае асноўныя адпаведнікі і сродкі замены неўласцівых беларускай мове формаў дзеепрыметніка.

Беларускімі адэкватамі да рускіх дзеяслоўных формаў з суфіксамі ***-ащ-, -ящ-, -ущ-, -ющ-***, якія выконваюць функцыю прыметнікаў, выступаюць, як сведчыць навукоўца, аддзеяслоўныя і адназоўнікавыя (радзей) прыметнікі з наступнымі суфіксамі:***-льн-*** (*захапляльны, пазнавальны, узрастальны*), ***-лів-*** (*бегатлівы, гаварлівы, дымлівы*), ***-н-*** (*падыходны, непрабітны, трасірны*), ***-к-*** (*вабкі, лёткі, поўзкі*), ***-оў-н*** (*атакоўны, паноўны, пульсоўны*), ***-оў-ч-*** (*арганізоўчы, накіроўчы, стыкоўчы*), ***-ацый-н-*** (*кансалідацыйны, каардынацыйны, актуалізацыйны*), ***-уч-, -юч-*** (*звінючы, спявучы, кусучы*), ***-аст-*** (*рыкасты* статак), ***-іст-*** (*зіхацістыя* кветкі), ***-ат-*** (*лыпатыя* фары), ***-ільн-*** (*жывільная* страва).

А рускім формам дзеяслова з суфіксамі ***-ащ-, -ящ-, -ущ-, -ющ-***, якія ўжываюцца ў значэнні назоўніка, у сучаснай беларускай моўнай практыцы ўсё часцей выступаюць субстантываваныя прыметнікі і ўласна назоўнікі… (С.209).

Напрацоўкі вучонага надта важкія для беларускага мовазнаўства, у прыватнасці граматыкі і лексікаграфіі. Бо не сакрэт, што нашыя лексікографы пры перавыданні слоўнікаў часта кіруюцца застарэлымі поглядамі на адпаведныя мовазнаўчыя праблемы, што пацвярджаюць і матэрыялы «Беларуска–рускага слоўніка» 2003 года, дзе згаданыя дзеепрыметнікі засталіся амаль некранутымі – у той форме, што фіксавалі папярэднікі – слоўнікі 1962 і 1988–89 гадоў выдання. Вось яны: *абагульняючы, абязбольваючы, ажыўляючы, акаляючы, арганізуючы, бастуючы, блукаючы, брыючы (палёт), ваеннаслужачы, веруючы, вісячы, выконваючы (абавязкі), выпраменьваючы, вытвараючы, гаворачы, горназдабываючы, гукаізалюючы, гукаправодзячы, дазіруючы, жадаючы, жывародзячы, затухаючы, захапляючы, звышцякучы, здабываючы, здзіўляючы, змываючы, змякчаючы, знясільваючы, зыходзячы, ільнасеючы, існуючы, камплектуючы, караючы, квітнеючы, кіруючы, лечачы (урач), лідзіруючы, льнасеючы, лятаючы, малапаспяваючы, мелкасядзячы, многаабяцаючы* і яшчэ безліч падобных «уючых» і «аячых».

Дарэчы, гэты слоўнік нават змяшчае на сваіх старонках формы дзеяслова (інфінітывы) з суфіксам **-ч-**: *падсеч, перасеч, ссеч, усеч*, хоць ніводная беларуская граматыка такіх формаў не згадвае. Як, дарэчы, і не прыпісвае суфіксу ***-ейш-***, акрамя значэння вышэйшай ступені параўнання, яшчэ і значэнне найвышэйшай: гл. у гэтым слоўніку: ***буйнейшы*** – 1) крупнее, 2) крупнейший. Тое ж і ў артыкуле ***важнейшы*** і іншых. Гэта беларуска-руская сумесь – трасянка перыяду «зліцця нацыяў і іх моваў».

Згаданыя штучныя формы, змешчаныя ў слоўніку 2003 года, не могуць спрыяць удасканаленню маўлення носьбітаў беларускай мовы, бо яны пярэчаць сучасным моўным рэаліям.

**Халадок – прахалода**. «*Цяністыя хвоі, бярозы, вольхі надзейна хавалі ад спякотнага ліпеньскага сонца. З Дняпра веяла* ***прахалодай***».

«Прахалода» перанесена ў беларускую мову з рускай [старaславянізм з непаўнагалосным «**ла**» (*про****хла****да*) перароблены ў варыянт з уходнеславянскім паўнагалосным коранем *–холод-* → *халод-*]. Яно фіксуецца з наступным апісаннем значэння: «**Прахалода**, ж. Умераны холад, які выклікае прыемнае адчуванне» (Тлумачаьны слоўнік беларускай літаратурнай. Мінск, 1996. С. 504). Гэта – копія слоўнікавага артыкула (пераклад) з кнігі: С.И.Ожегов. Словарь русского» (Москва, 1982. С. 557): «**Прохлада**, ж. Умеренный холод, вызывающий приятное ощущение».

У беларускай мове паняцце ‘свежае халаднаватае паветра, вецер’ перадаецца словам *халадок*: «*Павеяла ранішнім* ***халадком***» (Колас). «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Том 5. Кн. 1, 1984. С. 171) падае яго з шасцю значэннямі: «**Халадок**, м. 1. Памянш.-ласк. да холад, невялікі холад. 2. Свежае халаднаватае паветра, вецер // Халаднаватае надвор’е, невысокая тэмпература паветра. 3. Цяністае месца, цянёк. 4. Час сутак, алі ўжо спала або яшчэ не наступіла спёка. 5. *перан.* Пра адчуванне лёгкага холаду (ад хвалявання, страху і пад). 6. *перан.* Стрыманасць, раўнадушнасць у адносінах да каго-, чано-н.» Бачым тут і ўстойлівыя звароты з гэтым словам: «*аціраць халадкі*» (‘ухіляцца ад работы’), *з халадком*: а) без цікавасці, старання (рабіць што-н.); б) раўнадушна адносіцца да каго-н.»

Слова *халадок* як лексічнуюю норму (да рус. *прохлада*) замацаваў «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча (1926). На с. 333 чытаем: «**Халадок**, м. – *прохлада*». У акадэмічныя слоўнікі «*прахалода*» (∠ *прохлада*) трапіла дзеля рэалізацыі Пастановы СНК БССР 1933 года, «скіраванай на прымусовае сбліжэнне беларускай мовы з рускай» (Б.Плотнікаў. Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў // Роднае слова. 2000. № 12. С. 13). Таму гэтая лексема і падаецца ў слоўнікавым артыкуле першай, а пасля ўжо – беларускае слова-адпаведнік: «**Прохлада** ж. прахалода, ж. халадок, м.» (Русско-белорусский словарь. Москва, 1953, С. 548).

Пра штучнасць у беларускай мове лексемы «прахалода» сведчыць пераклад вытворных слоў, дзе не згадваецца гэтае слова: «*прохладно* - халаднавата, *прохладность* – халаднаватасць, *прохладный*: 1) халаднаваты; 2. *перен.* Халаднаваты, абыякавы». І ўстойлівае словазлучэнне мае толькі «халадок»: «*работать с прохладцем (прохладцей) – працаваць з халадком*». І да дзеясловаў з гэтым коранем беларуская мова мае свае адмысловыя адпаведнікі: *прохладить* – ахаладзіць, астудзіць; *прохлаждать* – ахалоджваць; *прохлаждаться* – ахалоджвацца, астываць (Тамсама).

Перавыданні «Русско-белорусского словаря» 1953 года пацвердзілі гэта («Русско-белорусский словарь» 1993. Т. 3. С. 116, а таксама выданні РБС 1999, 2002 гг.).

Такім чынам, натуральным адпаведнікам да рус. *прохлада* ёсць *халадок*. Яго марфемная будова (*халад-ок*) выразна выяўляе праз суфікс *–ок* значэнне памяншальнасці і ласкальнасці (пяшчоты). Таму так натуральна гучыць коласаўскае *«Павеяла ранішнім **халадком»***.

**Цукравіца, цукрыца і цукровы дыябет.** У слоўніках падаецца: цукровы дыябет – «хвароба, якая характарызуецца павелічэннем цукру ў крыві і мачы». Калькаванне рус. *сахарный диабет.* У жывой народнай мове бытуюць аднаслоўныя беларускія назвы гэтай хваробы – *цукравіца і цукрыца.* Вось тэкст Вольгі Іпатавай: *Прайшлі каля шпіталя, у якім памёр ягоны сын Алесь і ён* [Кастусь Акула] *расказаў пра тое, што ў час прыступу цукравіцы ў сына разгубленая жонка не разабралася, што адбываецца, і замест таго, каб выклікаць цяжка хвораму сыну-дыябетчыку «Хуткую», напаіла яго гарачай гарбатай з цукрам, што яшчэ больш справакавала прыступ* (Наша слова, 2008, № 6, 6 лютага).

*Цукравіца* – натуральнае аднаслоўнае найменне ад *цукровая хвароба,* утварэнне з суфіксам *–іц-а.* У гутарковым маўленні сустракаецца і ўтварэнне з суфіксам *-к-а: цукроўка* – па аналогіі з іншымі найменнямі хваробаў: *чырвонка* (краснуха), *свінка* ды пад.



Аднак больш апраўданае слова з суфіксам *–іц-а – цукравіца* (параўн. *сукравіца* – утварэнне ад *кроў: сукрав-іц-а*). Да таго ж, слова *цукроўка* мае замацаванае ў слоўніках іншае значэнне. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (Т. 5, кн. 2, с. 254) і яго аднакнігавае перавыданне (ТСБЛМ, с. 733) фіксуюць слова як назву гатунку летняй грушы і яе салодкіх пладоў. У «Беларуска-расійскім слоўніку» М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926, с. 339) яно мае больш шырокае значэнне: «*Цукроўка*, ж. – сладкая яблоня, груша».

«Беларуска-рускі слоўнік» (1989, т. 2, с. 680) кваліфікуе яго наступным чынам: «*Цукроўка,* ж. (сорт летних сладких яблок и груш) *медовка».* У жывой народнай мове слова *цукроўка* таксама выступае назвай не толькі грушы (і яе пладоў), але і яблыні (і пладоў), што, на жаль, праігнаравана тлумачальнымі слоўнікамі. У жывым рускамоўным маўленні (на рынку) амаль не пачуеш слова *медовка*, а толькі *сладкие яблоки (груши).* Або такия плады называюцца па-беларуску – «цукровки».

Такім чынам, беларусы маюць тры словы з коранем *цукр-* з сваім адметным значэннем: *цукравіца, цукрыца* – ‘цукровая хвароба’ (дыябет) і *цукроўка* – ‘гатунак садавіны: летнія салодкія яблыкі і грушы’. На жаль, слоўнікі фіксуюць толькі адно з іх – *цукроўка.*

**Цямрэча**. «*Праваліліся ў **цямрэчу** кубы і кубікі дамоў*» (Маладосць. 2009. №4. С.29). Слоўнікі не падаюць гэтага слова, а толькі *цемра, цемрадзь* і *цемрань*. Назоўнік ***цямрэча*** – утварэнне з суфіксам ***-эч-а*** ад ***цемра***: ***цямр-эча.*** Параўнай *малеча, старэча, глушэча.* Суфікс надае павелічальна-ўзмацняльнае адценне.

**Чацвярцёвы – чацвярцічны**. «*Ён* (Гаўрыла Гарэцкі – П.С.) *заснаваў беларускую школу эколагаў-спецыялістаў у **чацвярцёвай** геалогіі, быў старшынём беларускай антрапагенавай камісіі АН СССР і савецкай секцыі Міжнароднага саюза па вывучэнні **чацвярцёвага** перыяду*» (Радзім Гарэцкі. Якуб Колас і браты Гарэцкія // Роднае слова. 2004. № 5. С. 81). «*У гонар Якуба Коласа адну з світ **чацвярцёвых** адкладаў Пра-Немана Гаўрыла гарэцкі назваў «Коласаўскай»*«(Тамсама).

Акадэмікам Р.Гарэцкім тут выкарыстаны натуральны тэрмін *чацвярцёвы* (*чацвярцёвая* геалогія, *чацвярцёвы* перыяд, *чацвярцёвыя* адклады), які адпавядае словаўтваральнай сістэме беларускай мовы, дзе прыметнікі ад асновы лічэбнікаў (адлічэбнікавых назоўнікаў) ўтвараюцца з выкарыстаннем суфікса -ов-(-ёв-): *двайковы*, *трайковы*, *чацвярковы*, *семярковы*, *дзесятковы* і пад. Утварэнні на *–овы/-ёвы* замацаваныя тэрміналагічнымі даведнікамі (Тэрміналагічны даведнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мінск, 1993). Выкарыстоўваюцца

яны і ў навучальна-метадычнай літаратуры: «*Прырода сілаў, якія забяспечваюць* ***трацёвую*** *і* ***чацвярцёвую*** *структуру ДНК*» (В.С.Лучко. Біяфізіка. Метадычныя парады для лабараторных работ. Гродна, 1998. С. 38).

За савецкім часам тут выкарыстоўваліся «запазычаныя з рускай мовы прыметнікі на *-ічны(-ычны)*, якія ўтвораны ад асноў парадкавых лічэбнікаў: *пярвічны, трацічны, чацвярцічны…*» (Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 220).

На жаль, нашыя акадэмічныя слоўнікі пры перавыданні яшчэ ўсё паўтараюць усесаюзныя формы на *-ічны(-ычны).* Як тут не нагадаць словы знакамітага Уладзіміра Калесніка: «… руска-беларуская мяшанка выдаецца ідэальнаю літаратурнаю моваю. Зрэшты, такую мову яны чуюць і ад настаўнікаў у школе, і са школы прыносяць дамоў, яе чуюць па радыё і г.д.» (Ліст да Дзм.Бугаёва // Полымя. 2004. № 3. С. 206).

**Чысцец – чысцілішча.** Слова *чысцец* як адпаведнік рус. *чистилище* падае «Русско-белорусский словарь» (1953; далей РБС-53), на с. 760 чытаем: *«Чистилище,* ср. рел., перен. *чысцец,* род. *чыстца».* «Беларуска-рускі слоўнік» (1962) ужо не фіксуе гэтага слова, у ім бачым толькі: *«Чысцілішча* ср. рел. *чистилище»* (с. 1017). Відаць, такое было зроблена дзеля таго, каб беларускае *чысцец* не блыталася з рус. *чистец.* Але ж гэтаму *чистец* адпавядае іншае слова. РБС-53 засведчыў: *«Чистец* бот. – *чысцік, -ку,* м.» (с. 760). Бачым у названым слоўніку і наступнае: *«Чистик* заол. – *чысцік, -ка,* м.». «Руска-беларускі слоўнік» (1982) фіксуе ўжо два словы: *«Чистилище* ср. рел., перен. *чысцілішча, чысцец,* род. *чыстца* м.; *был в чистилище – быў у чыстцы»* (т. *1*, с. 593). Паўтарылі гэта і наступныя перавыданні слоўніка (РБС-99, т. 3, с. 728).

Падаюць слова *чысцец* і тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы: *«Чысцец, -стца,* м. Тое, што і *чысцілішча* / у вобразным ужыв.» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. Т. 5, кн. 2. Мінск, 1984, с. 333; Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1996, с. 751).

Сучасны нацыянальны друк актыўна выкарыстоўвае адметнабеларускае слова *чысцец:* «Я. Зэльвіч. *Чысцец для мовы»* (ЛІМ. 10.04.1998). Перавагу яго перад адзінкай *чысцілішча* бачым і ў перакладных слоўніках (РБС-82, РБС-93), дзе ў ілюстрацыйных прыкладах падаецца толькі сваямоўнае слова: *был в чистилище – быў у чыстцы.*

**Швагер –** а не **шурын.** *«Мы, лічы, з маім мужам і* ***шурынам*** *дачу збудавалі»* (Полымя. 2006. № 12. С.79). Слова ***шурын*** беларускай літаратурнай мове неўласцівае, яго не падаюць слоўнікі. Расейскаму ***шурин*** у беларускай мове адпавядае слова ***швагер***. Гэта засведчана



ўсімі слоўнікамі: «Русско-белорусский словарь» (1993, т.3, с. 762): «**Шурин – швагер**». «Беларуска-расійскі слоўнік» (1926, с.349) М.Байкова і С.Некрашэвіча: **Швагер** м. – шурин, свояк; «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.2, с. 708): «**Швагер,** м. 1. (брат жены) шурин; 2. (муж сестры) свояк». Гэтае слова мае і свой жаночы варыянт – «*швагерка* (сестра жены) свояченица» (Тамсама).

**Шчыруны́…** «*То была яна, дачка настаўніка, які паважаў мяне і якога паважаў я лепш за ўсіх педагагічных* ***шчыруноў*** *на свеце*» (Полымя. 2007. № 12. С.70). Слова *шчырун* **(***шчыруны***) –** утварэнне ад дзеяслова *шчыраваць* «дбайна, старанна, рупна рабіць што-небудзь, завіхацца каля, вакол чаго-небудзь». («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Том 5. Кніга 2. С.423) ці *шчырэць* «упарта, старанна, з запалам рабіць што-небудзь» (Тамсама. С.424). Нашыя слоўнікі не падаюць слова *шчырун*, хоць фіксуюць шмат яго аднакаранёвікаў: *шчыраваць, шчыра, шчыраванне, шчырасць, шчыры, шчырэць.*

*Шчырун* – натуральнае слова і заслугоўвае фіксацыі ў слоўніку літаратурнай мовы. Словы з гэтым суфіксам складаюць прадукцыйны тып словаўтварэння («Беларуская граматыка». Частка 1. – Мінск, 1985, с. 228–229).

## Пра натуральныя і штучныя формы словаў

Беларускай мове неўласцівы збег галосных у межах адной марфемы, таму ён раздзяляецца зычным дзеля гармоніі гукаў. Гэтаму закону падлягаюць і словы іншамоўнага паходжання, дзе спалучэнне (збег) галосных раздзяляе зычны [**й**]; параўн. *біялогія* [бійалогійа] з *biologia.* Такую адмысловасць нашай мовы добра засведчыў акадэмічны «Руска-беларускі слоўнік» (Масква, 1953) пад рэдакцыяй Я.Коласа, К. Крапівы, П.Глебкі. У ім бачым: «*Ион* физ. *іён, ионийцы* ист. *іянійцы, Ионическое море – Іянічнае мора, адажыо – адажыё, сольфеджио – сальфеджыё; трио* в разн. знач. – *трыё, триод – трыёд; триолет – трыялет*».

І ў тэрміналагічных слоўніках 1990-х гадоў таксама бачым гэта: *іён, іятрон, іянізацыя, іянізаваць, іённая атмасфера, радыюс, трыё* і пад.

Зазначым: спалучэнне (збег) галосных у межах адной марфемы падзяляецца зычным ва ўсіх фанетычных пазіцыях – пачатку, сярэдзіне і канцы – іншамоўных словаў. І гэта адпавядае гукавому ладу нашай мовы: зеўранне (збег галосных) парушае гэтую заканамернасць беларускай мовы.

Невыпадкова ў «Выніковым дакуменце» (1994 г.) Дзяржаўная арфаграфічная камісія этымалагічнае **іо (ыо)** на канцы слова раіла перадаваць як **іё (ыё):** *адажыё, сальфеджыё, трыё.*

І гэта правільна: беларусы пісалі і пішуць такія словы з падзелам канцавога спалучэння галосным зычным гукам: параўн. *радыё* (рас. *радио*). Як і *студыя* (італ. *studio*) і пад.

Прапанова канцавое этымалагічнае спалучэнне **іо (ыо)** перадаваць на пісьме як **іа (ыа)** не мае ніякай паставы і парушае закон гармоніі гукаў. У такім разе трэба будзе ўжо пісаць *п**іа**нер, патр**ыа**тычны, б**іа**логія* і пад., што пярэчыць усталяванай традыцыі беларускага пісьма.

## Больш адпаведныя нацыянальнай моўнай сістэме і памылковыя моўныя адзінкі

Гартаючы, перачытваючы старонкі сучасных літаратурных і навуковых выданняў («Полымя», «Маладосць», «Наша слова», «Роднае слова» ды іншыя), радуешся багаццюі выразнасці нацыянальнай моўнай палітры мастацкіх і навуковых тэкстаў, «вынаходству» новых слоў, створаных (часам адноўленых) выбітнымі аўтарамі. Праўда, сустракаюцца яшчэ і ранейшыя «ўсесаюзныя» адзінкі, уваткнутыя ў даведнікі савецкага часу пад ціскам глабальнай ідэі «зліцця нацыяў» і іх моваў.

Спынімся на двух тэкстах – публікацыях Івана Саверчанкі і Уладзіміра Ліпскага, змешчаных у часопісе «Полымя» № 7 за 2008 год.

Першы з іх – «Афанасій Філіповіч. Дыярыуш, або Апісанне праўдзівых падзей». Пераклад твора і ўступнае слова Івана Саверчанкі (сс. 119-138).

У прадмове перакладчыка, уступным яго слове «Афанасій Філіповіч – пісьменнік беларускага барока» ў самым пачатку чытаем: «*У беларускай літаратуры і культуры XVII стагоддзя ключавое месца займае **постаць** Афанасія Філіповіча (каля 1597...1648) – аўтара знакамітага «Дыярыуша»*.

Знаны навуковец і літаратар выкарыстоўвае слова слова ***постаць*** у сучасным, новым, яго значэнні – 'выбітная асоба', а не тым, што падаецца слоўнікамі (***стан, фігура***). «*Ён неаднаразова трапляе за краты, а затым – у высылку ў Кіеў*».

***Высылка*** – ад натуральнага *высылаць, выслаць* (а не «ссылаць» і яго ўтварэнне *ссылка*) (рас. ссылка).

«*Другі **найважнейшы** твор, што меў назоў: «Навіны....*»

Заканамернае прыстаўкавае ўтварэнне з значэннем найвышэйшай ступені – ***найважнейшы***, а не невыразнае з гэтай семантыкай ***важнейшае*** – калькаванне (тэкставае) рас. *важнейший*.

«*Сярод персанажаў твораў А.Філіповіча – рэальныя гістарычныя асобы, людзі блізкага яму асяроддзя: святары, урадоўцы...* а ў слоўніках 30 – 80 гг. ХХ ст. – *свяшчэннікі, служачыя* (рас. священник, служащий).



Толькі ў слоўніках суверэннай Рэспублікі Беларусь стала мажлівым выкарыстоўваць сваё ўтварэнне *святар* (ад *святы*: *свят-ар*), яго падае «Русско-белорусский словарь общеупотребительной лексики. Редактор-составитель, канд. филол. наук Н.Кривко – Мн.: Аверсэв, 1999). І ***урадоўцы*** – сінонім да *службоўцы*, а не *служачыя*.

«*У творчым метадзе А.Філіповіча ключавую ролю адыгрывала прасторава-часавая складовая...*» ***Складовая***, а не савецкае *састаўляючая і складаючая*.

«*Гэтаму, без **сумневу**, паспрыяў і суб'ектыўны фактар*: ***святарская** пасада А.Філіповіча*».

Нульсуфіксавае ***сумнеў*** (ад *сумнявацца*) – удалы наватвор, які дае мажлівасць мець яго натуральную форму прыметніка *сумнеўны* – замест штучнага пазычання, што трапіла ў слоўнікі, – *сумніцельны* (рас. *сомнительный*).

«*...Вядома няхай будзе вялікасці тваёй, **Міхайле**, што Госпад наш Ісус Хрыстос ва ўсім свеце **радца***».

Клічная форма *Міхайле* – натуральная і для афіцыйнага стылю мовы (а не толькі гутарковага, як беспадстаўна сцвярджаюць граматыкі). ***Радца*** – (а не *саветнік*) – ад беларускага *радзіць, рада....*

«*Ён прасіў ісці да карачоўскага ваяводы Пятра Ігнатавіча, паважанага чалавека, **распавесці** яму пра сябе ды папрасіць **даверчы ліст** да тваёй вялікасці*»

Заканамерныя для роднай мовы адзінкі: ***распавесці, даверчы ліст*** (а не *верыцельная грамата*).

«*Не дойдзеш, спадару ойча, бо цяпер час трывожны пагрому казацкага... Шчасце тваё будзе, калі згодзіцца прапусціць, бо тут цяпер **памежнікаў** безліч*».

Вылучаныя словы – ***спадару ойча, памежнікаў*** – здабытак сучаснага стану развіцця роднай мовы, замацаваныя ўжо лексікаграфічнымі даведнікамі.

У разгляданым тэксце шмат іншых моўных набыткаў суверэннай Беларусі бачым тут і натуральныя, народна-беларускія словаформы, у тым ліку поўныя формы дапасаваных слоў у ролі выказніка: *вера праўдзівая Грэцкая грунтоўна была **супакоеная**, а унія **вынішчальная** і дарэшчы **адкінутая***».

Праўда, сустрэлася штучная форма – падвоенае напісанне ***праменнямі***: «*Як узышло сонца, убачылі той жа час на небе крыж... **праменнямі** сонечнымі ўтвораны і аздоблены*» (с.125).

Нарматыўна ***прамянямі*** (ці *промнямі*), бо формы множнага ліку ўтвараюцца ў беларускай літаратурнай мове з дапамогаю канчатка ***-і (-ы)***,

які далучаецца да асновы назоўніка адзіночнага ліку без змены яе: *алень→ алені, конь → коні, прамень → прамені.*

Трапілася ў тэксце і ўсесаюзнае *мысліцель* (с.119), хоць сучасны нацыянальны друк карыстаецца больш адпаведнай нацыянальнай моўнай сістэме формай (без неўласцівага беларускай мове суфікса -***цель***) ***мысляр.*** Падамо некалькі прыкладаў: *І не варухнуцца камяні – незразуметыя **мысляры*** (ЛіМ. 2.01.1998). *Але творцы – **мысляры** ўсядаравальныя – са свае духоўнае вышыні яны сыходзяць да нас (*Наша слова. 1998. № 1*). Вучэнням гэтых **мысляроў** супрацьстаяла пазіцыя Карла маркса* (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Дапаможнік для студэнтаў. Мн., 1996. с.6). *Славуты нямецкі пісьменнік і **мысляр** Георг Крыстоф Ліхтэнберг сцвярджаў: «Больш за золата змяніў свет свінец» (Роднае слова. 1998. № 3. С.118).*

Слова ***мысляр*** (утварэнне з суф. ***-яр***) адпаведнае сваёй будовай беларускім лексемам ***змагар, лекар, званар, друкар*** і пад., якія абазначаюць асобу – утваральніка адпаведнага дзеяння (*мысліць →* ***мысляр***). Стасуецца ***мысляр*** і з адназоўнікавымі ўтварэннямі кшталту *пясняр, разьбяр* як найменнямі асоб паводле аб'екта ці прадукта іх дзейнасці. Гэта засведчана акадэмічнай «Беларускай граматыкай. Частка І. – Мінск: Навука і тэхніка. 1985. С.229».

Такім чынам, слова ***мысляр*** матывуецца як дзеясловам *мысліць*, так і назоўнікам *мысль*. Таму яно такое зразумелае і стала папулярным у нацыянальным маўленні.

Спынімся на другой публікацыі гэтага нумара «Полымя» – «Цунамі над намі. Казкі жыцця» (с. 73 – 100).

І тут бачым нямала новых (ці адноўленых) моўных адзінак, аўтарскіх наватвораў, адметных беларускіх слоў, якія арганічна ўліваюцца ў мастацкую тканіну твора, дазваляюць ствараць рэалістычныя малюнкі побыту людзей, іх стасункаў у розных жыццёвых абставінах. Падамо асобныя прыклады, вылучыўшы адметныя беларускія адзінкі. …*Бацька Марусі Ахрэм ці то вычытаў у Бібліі, ці то запомніў ад свайго дзеда–**святара**… Ахрэм не быў **вернікам**, але пасля недарэчнай смерці любай Хадоркі часта пачаў узірацца ў неба… А вытрыманы не **крыўдлівы**, **бязгнеўны**, пакорлівы чалавек і ёсць божы **паслухмянец**… **Весялінка** знікла з іх твараў, імі заўладала маркота… Бог ніколі не даруе свавольсвта зямным **пыхліўцам**… У іх сям'і такога **шматжонца** яшчэ не было… І пачаліся страшныя мукі выпрабавання для маці–**дэкрэтніцы**.*

*Я вытрымаю, перажыву ўсё, бо я былая **дзетдомаўка**, **бяздомаўка** і **бязбацькаўка**… Зафарціла з **аднагрупніцамі**… Будучыя **вучылкі** пацанят… У той жа вечар пасля кіно ён палез да Аксаны з* ***абдымулькамі*** *ды пацалункамі… І вачы ў яго Ваневы, **колкія**, **упіўныя**, нахабныя… Усе яны падабаліся **вечарынкаўцам**… Без яго свет рабіўся змрочным, **хмарным**… **Клёвае** слоўца «цалануць».*

Ды шмат іншых самабытных беларускіх адзінак. У гэтым тэксце сустракаюцца, праўда, і ненарматыўныя адзінкі ці тыя з іх, што ў сучасным нацыянальным маўленні замяняюцца новымі, больш адпаведнымі сістэме нашай мовы эквівалентамі. *«Сцёпка **выкурыў** трубку… **закурыў** трубку…»* Беларусы кураць **люльку**. Гэта засведчана ўсімі слоўнікамі (рас. ***трубка*** – бел. ***люлька***).

*Хлопец як бы адштурхнуў **партнёршу**…* Беларускай мове жаночыя асабовыя найменні з фармантам **–ша** неўласцівыя, такім расеізмам адпавядаюць беларускія словы на **–ка** – ***партнёрка***. Дарэчы, у пісьменнікавым тэксце таксама бачым: «*перапытала **аптэкарка*** (а не «*аптэкарша*»)».

***Дзіцёнак** у чэраве маці*. Дыялектызм. Нарматыўнае *дзіця* (*дзіцё*). Параўн. у іншых месцах разгляданага тэксту: *«Яна бяздетная, вельмі хацелі **дзіцё**»*.

***Падкідыш***. Найменні з **–ыш** (пазычэнні з расейскай мовы) саступаюць месца беларускім утварэнням з іншымі суфіксамі, напрыклад, *падкіданец* (г.зн. *падкіданы*).

*…Ногі падк**а**шваліся…* Нарматыўна – *падк**о**шваліся*. Параўн. у тэксце *ўгав**о**рваць* (не «*угав**а**рваць*»). *Не вельмі ад**а**бравалі Ленін учынак…*» Калі ад *ад**о**брыць*, то і тут не можа быць чаргавання націскнога **о** з націскным **а**; трэба *адобрывалі*. А лепш па-беларуску – ***ухвалялі***.

*«Павел аказаўся цікавым **субяседнікам**»*. Субяседнік – пазычанне з расейскай мовы, дзе яно – *собеседник* – утварэнне ад *беседа*, якому ў нашай мове адпавядае *гутарка*, *размова*. У беларускай мове, як сведчаць перакладныя акадэмічныя слоўнікі, яно мае зусім іншы сэнс: «**Бяседа** – пір, піршество, банкет, застолье» (Беларуска-рускі слоўнік. Т.1, 1988, с.210). Невыпадкова замест гэтага расеізма ў суверэннай Беларусі сталі выкарыстоўваць сваё – **суразмоўнік**, засведчанае «Русско-белорусским словарём» 1993 года. На старонках гэтага нумара «Полымя» (с. 14) таксама бачым: *«Трахім паўзіраўся ў свайго **суразмоўніка**»*.

У сучасным кантэксце **субяседнік** сінанімізуецца з словамі *выпівоха, сабутэльнік*.

*…Ёсць на свеце каханне, якое **лепш** за ўсю мудрасць, **каштоўней** за ўсё багацце, **мацней** самой смерці*» (с. 83).

Небеларуская сінтаксічная канструкцыя, дзе слова *лепш*, *каштоўней*, *мацней* ўспрымаюцца як прыслоўі, што спалучаюцца з

назоўнікам *каханне* (яго заменнікам – *якое*). Па-беларуску натуральныя тут дапасаваныя словы-прыметнікі: каханне (яно) *лепшае, каштоўнейшае, мацнейшае*. А ў словаспалучэнні *мацней самой смерці* – і чыста расейская канструкцыя *(сільнее самой смерти*), па-беларуску: *мацнейшая* (дужэйшая) *за самую смерць»*.

Як бачым, сучасны нацыянальны друк упэўнена крочыць па шляху адраджэння і ўзбагачэння роднай мовы. Праўда, на гэтай дарозе сустракаюцца перашкоды, якія паступова пераадольваюцца.

## Рэкламныя шаблоны, іншыя канцылярыты і літаратурная норма

У незалежнай краіне Рэспублiцы Беларусь рэклама, справовая дакументацыя сталі ажыццяўляцца і на дзяржаўнай мове тытульнай нацыі – беларускай. Але пры адсутнасці Дзяржаўнай установы, якая б рэгулявала пытанні моўнай стандартызацыі, рэкламадаўцы, іншыя стваральнікі рознай афіцыйнай беларускамоўнай дакументацыі нярэдка выдаюць такія «перлы», што жах бярэ, чытаючы (слухаючы) такія «сочинения».

Спынімся на некаторых з іх.

**«Запрашаем за пакупкамі».** Небеларуская – трасянкавая – сінтаксічная канструкцыя (< рас. *Приглашаем за покупками*>). Толькі першы кампанент яе адпавядае літаратурнай норме (*запрашаем*).

Дзеяслоў *запрашаць* патрабуе залежнага слова (назоўніка) у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***па*** ці ***на*** і значэння мэты дзеяння ці яго аб’екта. Натуральна тут было б: *запрашаем на заку́пы, па заку́пы* або *заку́пкі!*

Форма *покупка* ад. *покупать*. У беларускай мове яму адпавядае *купляць*; а *пакупа́ць* – гэта форма закончанага трывання ад *купаць* ‘апускаць у ваду для мыцця, асвяжэння’; ад яго – ўтварэнні *вы́купаць, купа́цца, вы́купацца, купа́нне, купа́льны* (сезон, касцюм).

Таму беларусы кажуць: *Запрашаем па закупкі*. Параўнайце: «*Шмат часу на закупкі не спатрэбілася*» (Полымя, 2007. – №7, с.14).

Як відаць, *Запрашаем за пакупкамі* – скалечаны, трасянкавы тэкст. Ён не мае права на выкарыстанне, супярэчыць літаратурнай норме.

А вось падобныя «перлы» з педагагічнай дакументацыі (бачым у тэкстах на старонках журналаў, у інструкцыях).

*Правілы распарадку правядзення* ***вучэбных*** *заняткаў.* ***Вучэбныя*** *заняткі праводзяцца* ***па раскладу****, зацверджанаму рэктарам ВНУ. …****Па гэтаму званку*** *студэнты абавязаны заняць свае месцы ў аўдыторыі. Выкладчык не мае права дапускаць* ***спазніўшыхся*** *студэнтаў у аўдыторыю да пачатку наступнай гадзіны заняткаў… **Прадставіць** у дэканат даведку ўрача аб вызваленні ад заняткаў.* ***Без прадстаўлення*** *ў тэрмін апраўдальнага дакумента пропуск заняткаў разглядаецца як прагул. Інструкцыя* ***па вядзенню*** *журнала ўліку наведвання заняткаў студэнтаў… Дысцыпліна* ***па выбару****…* ***Заявіцель****… Літаратура* ***бліжняга*** *замежжа. Ведамасць для правядзення* ***заліка*** *або іншай формы кантролю (акрамя* ***экзамена****)… Адказныя –* ***загадчыкі кафедрамі****…*

У гэтых тэкстах – тая ж беларуска-расійскамоўная трасянка. Чаму *вучэбныя* заняткі, *вучэбныя* планы, хоць падаецца форма *навучанне*. Па-беларуску натуральна: *навучанне* (= рас. *учёба*) і *ВНУ* (а не ВВУ), таму маюць быць усе вытворныя ад слова *навучаць: навучальны год, навучальная установа, навучальныя планы, навучальныя заняткі* і пад.

У беларуская мове прыназоўнік *па* кіруе месным склонам (а не давальным, як у расійскай мове); таму нарматыўна: *па гэтым званку, па раскладзе* (ці *паводле раскладу*), *па правядзенні…*

Замест *па выбару* (рас. *по выбору*) беларусы кажуць: *на выбар, дысцыпліны на выбар.* Па-беларуску *загадчыкі кафедраў*, а не трасянкавае *загадчыкі кафедрамі*. Гэта ў расійскай мове натуральнае *заведующие кафедрами*, бо першае слова тут – дзеяслоўная форма (дзеепрыметнік), якая патрабуе формы творнага склону (*заведующий чем?*).

Дарэчы, адметнасці структуры беларускіх словазлучэнняў (параўнальна з расійскімі) паслядоўна разгледжаны ў кнізе: М.С.Яўневіч, П.У.Сцяцко. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. Падручнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей устаноў, якія забяспечваюць атрыманне вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь. – Мінск: «Аверсэв», 2006. – с.11-15.

Беларускай літаратурнай мове неўласцівыя зваротныя дзеепрыметнікі. Яны не падаюцца ў сучасных беларускіх слоўніках. Расійскім зваротным дзеепрыметнікам звычайна адпавядаюць беларускія прыметнікі з адэкватным значэннем. Гэта падрабязна разгледжана ў часопісе «Роднае слова» № 2 за 2005 год у нашым артыкуле «Зваротныя дзеепрыметнікі і іх адпаведнікі» (С.19-21).

Па-беларуску *Літаратура блізкага замежжа* (а не *бліжняга ← ближнего*): *заяўнік*, а не *заявіцель* (Гл. «Русско-белорусский словарь, Т.1., 1993, С.519). Словы *залік* і *экзамен* маюць у родным склоне адз. ліку канчатак *–у: заліку* і *экзамену* (а не *заліка*, *экзамена*), як і *кантролю* (Гл. «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / Пад рэдакцыяй акадэміка М.В.Бірылы. – Мінск: БелСЭ імя Петруся Броўкі, 1987. Гэта засведчана ўсімі перакладнымі слоўнікамі, а таксама тлумачальнымі.

Дык які ўзор пісьмовых тэкстаў прапануецца тут для будучых настаўнікаў роднай мовы і літаратуры?!

## Ненармаваныя моўныя адзінкі, штучныя пазычанні

У мастацкіх творах некаторых пісьменнікаў старэйшага пакалення, апублікаваных у перыядычным друку, усё яшчэ сустракаюцца словы і іх формы з былога усесаюзнага стандарту ці набліжаныя да яго, хоць яны не адпавядаюць сучасным тэндэнцыям, нормам. Спынімся на прыкладах з аднаго мастацкага тэксту (Дзеяслоў. 2008. №5 (36)): «*Ягайла спусціў ногі, шукаючы цёплыя **мехавыя** чуні*» (С.40).

У беларускай мове слова *мех* (яго прыметнік *мехавы*) мае значэнне: 1) тара з палатна для захоўвання і перавозу сыпкіх целаў, дробных рэчаў і пад.; 2) у кавальскай справе: прыстасаванне з скуры для нагнятання паветра ў горан, а таксама для прывядзення ў дзеянне некаторых музычных інструментаў; у фатаграфіі – святлонепранікальная частка фатаграфічнай камеры… Гэта засведчана слоўнікамі. (Гл. «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы». 1996, с. 343).

Расійскаму *мех* (*меховой*) адпавядае ў нашай мове слова *футра (футравы)*. Дарэчы, яно падаецца і ў гэтым тэксце: «*Плашч, падшыты бабровым **футрам***» (С.46).

«*Заяц хуткімі спрактыкаванымі рухамі рэзаў **каравай хлеба** з дарожнага сака…*» (С.22). Слова *каравай* мае значэнне вясельнага абрадавага пірага круглай формы (або вялікай булкі, спечанай для якой-небудзь урачыстасці, свята), а выпечаны хлеб (пераважна круглай формы) – гэта *бохан*. На старонцы 60 бачым гэтае натуральнае слова: «*…свежы, з прыліпшым лістом клёну **бохан** і ладны кавалак сыру…*»

***Язычаскія святары.*** І натуральнае: ***язычнікі**-славяне* (С.30). Ад яго – нарматыўнае *язычніцкі* (*язычнік + скі →язычніцкі*).

«*…Каб не яна, **расклявалі** б цябе **вараны́***» (С.33). Па-беларуску нарматыўна: ***раздзяўблі б крумкачы (груганы)***.

«*…Стукаць сваімі катламі ды **тарэламі***» (С.52). У беларускай мове – ***талеры (талеркі).***

«***Па многу** разоў падымаліся*» (С.47). Нарматыўна: ***многа, шмат разоў…***

«*Пабачыў **звілістую** паласу*» (С.22) – ***пакручастую** паласу.*

«*Па **карэннях** бегаюць лясныя мурашы*» (С.23), «*тоўстыя дубовыя **бярвенні***» (С.25). Нарматыўныя формы – без падвойных зычных **-нн-: *каранях*** (ці *карэнях*), ***бярвёны.***

«*Разам яны **стануць мацней** за крыжакоў*» (С.44) – ***стануць мацнейшымі…***



«*Яна зусім **было занепала***» (С.29). Трэба: ***была занепала.*** Складаная форма прамінулага (прошлага) часу мае дзеяслоў-звязку адпаведнага роду (жаночы род: *яна*).

«*…Па ўсяму **бачна**.*» (< *по всему видно*). Трэба: *па усім, з усяго відаць* (бачым).

«*…**Шчоўкнуў** карліка па носе*» (С.82). ***Пстрыкнуў…** (стукнуў).*

***Абаімі** рукамі, **абеімі** рукамі* – на месцы натуральнага ***абедзвюма****…*

*Палка* ***абламілася –*** на месцы нарматыўнага ***абламалася***.

## Утварэнні з суфіксам -яч- і іх актывізацыя ў нацыянальнай мове

Суфікс **-ач-** пашыраны ў многіх славянскіх мовах. Асаблівую прадукцыйнасць ён мае ў беларускай і ўкраінскай мовах. Надта актыўна ўтварае ён новыя словы ў народна-дыялектнай мове. Словаўтваральнай базай выступаюць тут розныя часціны мовы – дзеясловы, прыметнікі, назоўнікі, і нават лічэбнікі – ад іх узніклі словы *адна́ч* – ‘адзін сын, адна жывая істота’, *друга́ч* – ‘цяля на другім годзе жыцця’, *сарака́ч* – ‘самаскід (самазвал) на сорак тон’ і іншыя.

Некаторая частка ўтварэнняў на **-ач** занатаваная нашымі акадэмічнымі слоўнікамі: *бубнач, глядач, скрыпач, сілач…* Але гэта вельмі нязначная колькасць ад тых, што бытуюць у жывой народнай мове. (Падрабязна гэтае пытанне асвятляецца ў нашай кнізе «Беларускае народнае словаўтварэнне» –Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.)

Вытворныя словы з **-ач** абазначаюць як асобу , так і прадметы, адцягненыя паняцці. Згадаем некаторыя з гэтых найменняў: 1) назвы асобы паводле занятку: *іграч* ‘музы́ка’, *грабач* ‘грабец’, *сявач* ‘сейбіт’, *трапач* ‘трапальнік’, *таргач* ‘гандляр’; 2) найменні-характарыстыкі асобы: *крумкач* ‘папрашайка’, *туляч* ‘туляга’, *папіхач, храпач* ‘храпун’; 3) назвы прыладаў працы: *таўкач* ‘мяла’, *сцяга́ч* і *зграбач* ‘вілы зграбаць гной’, *сякач* ‘прылада секчы’, *распыляч* ‘распыльнік’, *падкурач* ‘дымар’; 4) назвы птушак: *туркач* ‘турок’, *крумкач* ‘груган’, *драч* і іншыя; 5) назвы канкрэтных прадметаў паводле іх уласцівасцяў ці як аб’ектаў або суб’ектаў дзеяння: *кура́ч* ‘нагар на кноце’, *скарач* ‘скарэлы ручнік’, *сукач* ‘ссуканая пятля’, *ківач* ‘маятнік’, *трапач* ‘трапло’ і іншыя.

Невыпадкова, што ў сённяшнім друку надта актыўна выкарыстоўваюцца найменні з суфіксам **-ач.** Іх бачым на старонках аўтарытэтных часопісаў, у тэкстах знакамітых майстроў слова.

Вось некаторыя прыклады.

«*Відаць, у кагосьці з моладзі быў* ***радыёпрымач****, бо ўсё больш пашыралася чутка, што немцы набліжаюцца да Воршы*» (Дзеяслоў. 2008. № 4 (35). С.5. Ніл Гілевіч). «*Нават пра запуск спадарожніка Зямлі пачуў ад суседа-механізатара, які меў* ***радыёпрымач*** *на батарэйках*» (Полымя. 2007. №3. С.88). «*Але ж мы здавён – сейбіты.* ***Арачы****-ворнікі мы*» (Тамсама, с.11. Валянціна Коўтун) «*Дык тады хто ж мы, як не яго* ***падпевачы***» (Дзеяслоў. 2008. №5 (36). С.17. Вольга Іпатава). «*Калі набывалі падарунак, Кася перапытала ў* ***прадавачкі****: Прабачце, гэта ў Вас Пінгвіны?*» (Тамсама, с.155).

У іншых тэкстах – *прадавач, электраперада́ч, выхава́ч* (‘выхавальнік’) і пад.

Форма *радыёпрымач* – вельмі выразна матываванае слова: *прымаць радыё → радыёпрымач*. Як і ўсе такія ўтварэнні.

### Словы выразнай структуры, матываванасці і значэння

Кожная мова, акрамя сваіх, спрадвечных, мае і іншамоўныя словы. Лексемы з неблізкароднасных моваў нярэдка маюць невыразную будову, што не дазваляе лёгка ўлучаць іх у маўленне.

Вылучаюцца гэтым іншамоўныя дзеясловы з элементам *–ір-(-ыр-)*. Тлумачэнне значэння такіх дзеясловаў даецца ў слоўніках звычайна з выкарыстаннем аднакаранёвых назоўнікаў. Напрыклад: «*Прэміраваць* зак. і незак. каго (што). Узнагародзіць (-джваць) прэміяй». (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996, с.523). «*Лідзіраваць,* незак. Быць лідэрам». (Тамсама, с. 318). Непасрэдныя семантычныя стасункі такіх дзеясловаў з матывавальнымі назоўнікамі сведчаць, што натуральнымі формамі дзеясловаў тут маюць быць утварэнні ад назоўнікаў: *прэмія → прэміяваць, лідэр → лідэраваць.*

Такія выразныя натуральныя будовай і значэннем дзеяслоўныя формы, узніклыя ў мове-пазычальніцы ад аднакаранёвых назоўнікаў, знаходзяць сваё адлюстраванне і ў акадэмічных слоўніках. Так, у трохтамовым «Беларуска-рускім слоўніку» 2003 года засведчана: *масажаваць* (‘рабіць масаж’) – руск. массажировать, *манеўраваць* (‘рабіць манеўр’) – маневрировать, *прэміяваць* (‘узнагароджваць прэміяй’) – премировать, *раянаваць* (‘падзяляць на раёны’) – районировать і інш.

Адмысловыя дзеяслоўныя формы ўтвараюцца паводле беларускай словатворчай мадэлі «назоўнік + суфікс *–ава-*» (*зіма → зімаваць*). Такім шляхам узнікла шмат дзеясловаў ад іншамоўных назоўнікаў. Гэта адзначаецца і ў лексікаграфічнай працы члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.М.Булыкі «Слоўнік іншамоўных слоў» (Мінск, 1993): *калька → калькаваць, масаж → масажаваць, мітынг → мітынгаваць, план → планаваць, старт → стартаваць, сцірта → сціртаваць* і падобныя.



Новыя формы дзеясловаў гэтага ўзору ўсё часцей выкарыстоўваюцца ў сучасным маўленні, што варта толькі вітаць: такая з’ява стасуецца з структурна-сістэмнымі заканамернасцямі беларускай нацыянальнай мовы.

Непасрэдныя матывацыйныя дачыненні да ўтваральных слоў на *–цыя* маюць прыметнікі на *–цыйны: адміністрацыя → адміністрацыйны, аперацыя* (медыц.) *→ аперацыйны, ілюстрацыя → ілюстрацыйны, канструкцыя → канструкцыйны, матывацыя → матывацыйны, меліярацыя → меліярацыйны, спекуляцыя → спекуляцыйны, рэканструкцыя → рэканструкцыйны.* Гэтыя заканамерныя формы засведчаны акадэмічнымі слоўнікамі. На жаль, у некаторых аўтараў сустракаюцца штучныя формы на *–тыўны: адміністратыўны, ілюстратыўны, меліяратыўны, спекулятыўны.* Гэта – перанос у беларускія тэксты рускамоўных формаў на *–тивный* (административный – адміністратыўны).

Заканамерныя формы на *–цыйны,* матываваныя ўтваральным словам на *–цыя,*пашыраныя і ў лінгвістычнай тэрміналогіі. Напрыклад, *асіміляцыя → асіміляцыйны, дысіміляцыя → дысіміляцыйны.* У слоўніках бачым натуральнае *асіміляцыйны* (у згаданым даведніку А.М.Булыкі) і штучныя *асімілятыўны* і *дысімілятыўны* ў «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (1996). У апошнім падаюцца нават два варыянты: *асімілятыўны* і *асіміляцыйны.* Але ж ва ўсіх выпадках значэнне атрыбутыўнай формы вынікае з семантыкі ўтваральнага слова на *–цыя: асіміляцыйнае аканне* – аканне, абумоўленае *асіміляцыяй, дысіміляцыйнае аканне* – аканне, абумоўленае *дысіміляцыяй.* Або *намінацыйная* функцыя слова – гэта функцыя *намінацыі* (*намінацыя → намінацыйны*); *камунікацыйная* функцыя мовы – функцыя *камунікацыі.* Гэтыя натуральныя формы выкарыстоўваюцца ў новых мовазнаўчых працах – манаграфіях, навучальных дапаможніках для ВНУ. Прыметнік *намінатыўны* натуральна стасуецца з назоўнікам *намінатыў* ‘назоўны склон’. Таму гэты тэрмін заканамерны пры абазначэнні аднасастаўных сказаў, галоўны член якіх мае форму назоўнага склону (намінатыву) – *намінатыўны* сказ. Як і *генітыўны* сказ – з генітывам галоўнага члена.

Натуральную матываванасць і значэнне маюць словы кшталту *мысленчы.* «Мова і ёсць стваральніца нашых мысленчых працэсаў і іх вынікаў» (Маладосць. 2009. № 9. С.140). Такія прыметнікі ўтвараюцца ад дзеяслоўных назоўнікаў на *–нне: вызваленне – вызваленчы, запаленне – запаленчы, прымірэнне – прымірэнчы.* Іх заменнікі кшталту

*мысліцельны* парушаюць марфеміку беларускай мовы, бо яна не мае словаўтваральнага сродку (фарманта) *–цельн-*. Рускаму суфіксу *–тельн-(-ительн-)* у беларускай мове адпавядаюць *–льн-, -н-, -ч-, -лів-: глядзельны* (зрительный), *адукацыйны* (образовательный), *даверны* і *даверчы* (верительный), *помслівы* (мстительный). Таму на месцы «сумніцельны» стала выкарыстоўвацца *сумнеўны* (утварэнне ад *сумнеў*).

Словаўтваральнае слова (аснова) з яго формай і значэннем вымагаюць таго, каб вытворнае слова не ішло ў супярэчнасць з семантыкай утваральнага. Напрыклад, для *ўдзельнік размовы* ёсць натуральнае найменне *суразмоўнік*. Яно зафіксавана «Руска-беларускім слоўнікам» 1993 года (Т. 3, с. 393) і ўсімі наступнымі перавыданнямі першага акадэмічнага «Руска-беларускага слоўніка» (М., 1953) пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Пятра Глебкі, у тым ліку і перавыданнем 2005 года. Яго заменнік *субяседнік*, што падаецца перакладнымі беларуска-рускімі слоўнікамі, ніяк не стасуецца з утваральным словам *бяседа*, якое падаецца ў слоўніку з кваліфікацыяй ‘збор гасцей з пачастункам’. *Балявала ўся бяседа* (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. 1996. С. 101). Сінонімам лексемы *бяседа* выступае ў згаданым слоўніку *выпіўка*. На с. 129 чытаем: «*Выпіўка*… 2. *бяседа*, пачастунак са спіртным». Двухтомавы «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. 1988. С. 210) змяшчае ўтваральнае слова як адпаведнік чатырох рускіх слоў: *бяседа* ж. – *пир, пиршество, банкет, застолье*». Поўнасцю прадублявана гэта і трохтомавым яго перавыданнем 2003 года.

Дык ці адпавядае беларускае *субяседнік* рускаму *собеседник*? Адэкватам рус. *собеседник* выступае натуральнае беларускае слова *суразмоўнік (суразмоўца),* якое актыўна выкарыстоўваецца ў нацыянальным друку. Яго матываванне, сэнс вельмі выразны: *суразмоўнік (суразмоўца)* – ‘той, хто прымае ўдзел у размове’. А *субяседнік*, як вынікае з семантыкі ўтваральнага слова *бяседа,* – гэта *‘сузастольнік’, ‘субанкетнік’, ‘субаляваннік’*.

Большай тэрміналагічнай здатнасцю вылучаецца ў беларускай мове суфікс *-ов-(-ав-, -ев-)* (параўнальна з *-н-*): пры выкарыстанні яго ўтваральная аснова поўнасцю захоўваецца ў нязменным стане (без чаргавання фінальнай зычнай асновы і з’яўлення беглай галоснай), што дае выразную матываванасць вытворнага слова. Напрыклад, *аднамесцавы, двухмесцавы, разнамесцавы* (націск). Гэтыя тэрміны выкарыстоўваюцца ў навучальных дапаможніках для ВНУ «Уводзіны ў мовазнаўства»: *аднамесцавы націск* (інакш *сталы, фіксаваны*) і *разнамесцавы націск* (інакш *нефіксаваны, свабодны*).



У складаных прыметніках гэты фармант досыць актыўны: *аднабаковы, аднаактовы, аднавосевы*. У рускай мове яму адпавядае суфікс *-н-: односторонний, одноактный, одноосный…*

Большай выразнасцю і прыдатнасцю вылучаюцца ўтварэнні з *-ав-(-ов-)* і ў іншых выпадках (на месцы дэрыватаў з *-н-*): *крэпасцевы* (вал, збудаванне) (на месцы *крапасны*), *гарачкавы* прыступ (*гарачачны*), *свечкавае* асвятленне (*свячное*), *рычаговы* пераключальнік *(рычажны), гірляндавы (гірляндны), рынкавы (рыначны), кнопкавы (кнопачны), табліцавы (таблічны), зоркавы (зорачны), дзіркавы (дзірачны), клеткавы (клетачны), кухневыя выпарэнні (кухонныя), дзяснавы (дзясенны), бланкавы (бланачны), бочкавы (бочачны), іголкавы (іголачны), тайговы (таёжны), шынкавы (шыначны)…*

Непасрэдныя стасункі назоўнікаў на *-льнік* з утваральнымі прыметнікамі на *-льны* сведчаць пра натуральнасць найменняў асобы кшталту *суправаджальнік* ‘той, хто суправаджае каго-, што-небудзь’, інакш ‘суправаджальная асоба’. Дэрываты з суфіксам *-льнік* складаюць высокапрадукцыйны тып аддзеяслоўных назоўнікаў (*заснавальнік, спажывальнік, аглядальнік, парушальнік*). Выкарыстанне ў такіх выпадках штучнай дзеепрыметнікавай формы *суправаджаючы* сведчыць пра занядбанне свайго на карысць чужога (былога ўсесаюзнага).

Сінонімамі да ўтварэнняў на *-льнік* выступаюць найменні асобы на *-энец: суправаджальнік – суправаджэнец.* Напрыклад, у Ніла Гілевіча чытаем: «*Ліфшыц варочае галаву то ў адзін, то ў другі бок… і нарэшце спыняецца сам і спыняе сваіх суправаджэнцаў*» (Дзеяслоў. 2009. № 3. С. 29). Такія назоўнікі матывуюцца аддзеяслоўнымі ўтварэннямі на *-нне (суправаджэнне → суправаджэн-ец),* а таксама самімі дзеясловамі (*суправаджаць → суправадж-энец*). Акадэмічная «Беларуская граматыка» (1985) адносіць такія ўтварэнні да прадукцыйнага тыпу: *акружэнец, вылучэнец, паражэнец, паўстанец, прымірэнец…* Таму натуральным з’яўляецца і найменне *нараджэнец: нарадзіцца → нараджэнне → нараджэнец (а не ўраджэнец).*

Досыць выразную структуру і значэнне маюць у беларускай мове ўтварэнні на *-ач*. Параўнайце: *прымаць радыё → радыёпрымач.* Гэты суфікс актыўны ў многіх славянскіх мовах. Асаблівай прадукцыйнасцю ён вылучаецца ў беларускай народнай мове. (Гл.: П.У.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі. – Мінск, 1977. – С. 31, 95, 140, 149, 213, 220). Невыпадкова ў сённяшнім нацыянальным друку шырока выкарыстоўваюцца найменні на *–ач: прадавач* (і *прадавач-ка*), *падпявач, электраперадач, выхавач, прымач і радыёпрымач* і інш. Напрыклад: *«Відаць, у кагосьці з моладзі быў*

*радыёпрымач, бо ўсё больш пашыралася чутка, што немцы набліжаюцца да Воршы»* (Ніл Гілевіч// Дзеяслоў. 2008. № 4. С. 5). *«Нават пра запуск спадарожніка Зямлі пачуў ад суседа-механізатара, які меў радыёпрымач на батарэйках»* (Полымя. 2007. № 3. С. 88). *«Але ж мы здавён сейбіты. Арачы-ворнікі мы»* (Валянціна Коўтун// Полымя. 2007. № 3. С.11).

Празрыстую натуральную структуру і значэнне маюць у нашай мове найменні на *-ар(-яр)* – утварэнні ад назоўнікаў і дзеясловаў: яны абазначаюць асоб паводле аб'екта ці прадукта іх дзейнасці (*пчаляр, пясняр, разьбяр, сталяр, гандляр, шкляр)* ці асобу – утваральніка дзеяння (*друкар, званар, змагар, лекар, пекар*) (Беларуская граматыка. Ч.1. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. С. 229-230). Таму сучасны нацыянальны друк актыўна карыстаецца найменнем ў форме, адпаведнай нацыянальнай моўнай сістэме (без суфікса *-цель,* неўласцівага беларускай мове): *мысляр* (на месцы ўсесаюзнага *мысліцель*). Вось некаторыя прыклады. *«І, не задумаўшыся, не варухнуцца камяні – незразуметыя мысляры»* (Рыгор Барадулін// Полымя. 1995. № 7. С.4). *«Вучэнням гэтых мысляроў супрацьстаяла пазіцыя Карла Маркса»* (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Дапаможнік для студэнтаў. – Мінск, 1996. – С. 6). *«Гэта дастаткова сур'ёзная лічба, каб паставіцца да сведчанняў антычных мысляроў з пэўнай увагай»* (Т.Шамякіна// Маладосць. 2008. № 10. С. 103). *«Сярод улюбёных мысляроў – і нашы сучаснікі ды суайчыннікі»* (Маладосць. 2009. № 9. С. 143).

Аналіз беларускіх лексічных адзінак, што выкарыстоўваюцца ў суверэннай краіне Рэспублііцы Беларусь, сведчыць пра адмысловасць і багацце нашай мовы – «дзівоснага скарбу беларусаў і ўсёй Славіі».

## Акцэнтаванне – адмысловы спосаб антрапанімічнай дэрывацыі

Даследчыкі антрапанімікі сцвярджаюць, што прозвішчы ўтварыліся двума спосабамі – марфалагічным (марфемным, афіксальным) і семантычным.

У беларускай мове шмат прозвішчаў, якія ўзніклі шляхам семантычнай дэрывацыі – пераасэнсавання найменняў жывых істот, назваў прадметаў (іх частак), слоў-характарыстык чалавека, а таксама імёнаў – кананічных (зрэдку) і (найчасцей) абыходкавых, іх формаў, ацэнкавых варыянтаў. Напрыклад, *Баран, Верабей, Качарга, Лапа, Гарбач, Кузьма, Багдан, Навуменка.*

У сучаснай афіцыйнай мове (маўленні) некаторыя з падобных прозвішчаў сталі адмяжоўвацца ад сваіх базавых утваральных слоў шляхам набыцця іншага націску, а разам з тым і новага напісання (каб не супадаць з апелятывамі – назвамі жывёл, з лексемамі – адмоўнымі характарыстыкамі чалавека).

Так, прозвішча *Ба́ран* выкарыстоўваецца з націскам на першым (пачатковым) складзе, як і *Ко́зел (< Казёл) , Драко (< Дра́ка), Шкурко (< Шку́рка)…*

Спосаб утварэння новых слоў шляхам змены месца націску атрымаў назву **акцэнтаванне**. Слова фіксуецца ў слоўніках як утварэнне ад дзеяслова *акцэнтаваць* «паставіць (ставіць) акцэнт» (націск) (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1977, т.1, с. 220).

Акцэнтаванне як спосаб прозвішчаўтварэння перш за ўсё стаў выкарыстоўвацца пры ўзнікненні прозвішчаў ад формаў імёнаў па бацьку – «бацькаімёнаў» (рус. отчеств): *Адамовіч < Ада́мавіч (< Ада́маў* (сын) *< Ада́м); Багдановіч < Багда́навіч; Васілевіч < Васі́левіч; Гаўрыловіч < Гаўры́лавіч; Грыгаровіч < Грыго́равіч; Даніловіч < Дані́лавіч; Ждановіч < Жда́навіч; Піліповіч < Пілі́павіч* і пад.

Шляхам акцэнтавання пераходзяць у прозвішчы некаторыя кананічныя імёны: *Багда́н → Богдан, Бары́с → Борыс, Тара́с → Та́рас* і іншыя. Але найчасцей акцэнтаванню падлягаюць абыходкавыя (гутарковыя) формы імёнаў з канцавым галосным *-а*, на месцы якога ўзнікае націскное *-о: Валька → Валько, Валодзька → Валадзько, Санька → Санько, Сенька → Сянько* і пад.

Акцэнтаванню падпадаюць не толькі ўласныя асабовыя імёны, але і апелятывы – агульныя назоўнікі розных тэматычных груповак. Найчасцей шляхам акцэнтавання ўзнікаюць новыя маўленчыя, а нярэдка і графічныя формы прозвішчаў ад асабовых назоўнікаў – характарыстык чалавека.

Першае месца належыць тут назоўнікам з фармантамі, якія надаюць дэрыватам негатыўную ацэнку *(-ан, -ач, -ей, -ель/-аль, -ун…).* Напрыклад, агульныя назоўнікі з суфіксам *-ач* маюць сталы націск на гэтым фарманце*: чыта́ч, гляда́ч, галава́ч, слуха́ч…* А ў прозвішчах на *-ач* пазбягаецца такое вымаўленне, каб не супадаць з апелятывамі. Параўн.: *гарба́ч* ('гарбаты чалавек') і прозвішча *Горбач*, адпаведна *брыка́ч* і *Бры́кач, лаба́ч* і *Ло́бач, пуза́ч* і *Пу́зач, ківа́ч* і *Кі́вач, бака́ч* і *Бо́кач…*

Дэрываты з іншымі суфіксамі таксама падлягаюць такому акцэнтаванню: выступаючы ў ролі онімаў (прозвішчаў), яны набываюць іншы націск: *кава́ль → Ко́валь, маўчу́н → Мо́ўчун, даўга́ль → До́ўгаль, Лаба́н → Ло́бан.*

Акцэнтаванне пашыраецца на адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі пры выкарыстанні іх у функцыі онімаў: *бочка → Бачко́, тычка → Тычко́, бычок → Бы́чак, скурка → Скурко́.*

Актыўнае выкарыстанне акцэнтавання як спосабу антрападэрывацыі ў сучаснай беларускай мове тлумачыцца найперш імкненнем прозвішчаносьбітаў адмежаваць сваё імя ад апелятываў, якія часта маюць адмоўную канатацыю. Акрамя таго, пры супадзенні прозвішча з агульным назоўнікам з канцавым *-а* перанос націску на фінальны склад фармуе новае слова з націскным канчаткам *-о*: *лапа → Лапо, лялька → Лялько, скрыпка → Скрыпко, тычка → Тычко*, што засцерагае прозвішча ад скланення і тым самым яшчэ больш аддаляе яго ад апелятыва. У гэтым выпадку можна бачыць арыентацыю на афіцыйную рускую мову, дзе прозвішчы з фінальным *-о* не скланяюцца: *Андрейченко, Вдовенко, Кириленко, Носко, Рудько…*

Такім чынам, акцэнтаванне як спосаб утварэння сучасных прозвішчаў (іх новых варыянтаў) актыўна выкарыстоўваецца ў афіцыйнай беларускай мове (як і ў іншых славянскіх мовах). І гэта – рэальны факт: новыя (абноўленыя) прозвішчы замацоўваюцца ў афіцыйнай, дакументальнай мове як новыя антрапонімы (прозвішчы), якія перадаюцца па спадчыне.

Пра гэта сведчаць матэрыялы энцыклапедычных выданняў. Так, у дванаццацітомавай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» (Мінск, 1969 – 1975) падаюцца наступныя прозвішчы (новыя графічныя, вымаўленчыя варыянты) вядомых людзей Беларусі: *Богдан, Бабко, Будзько* (і *Будзька*), *Булко* (і *Булка*), *Бурко, Бялко, Валадзько* (і *Валодзька*), *Варанко* (і *Варонка*), *Вітко* (і *Вітка*), *Галаўко, Гарбатко, Горбач* (і *Гарбач*), *Га́рбук* (і *Гарбу́к*), *Гняўко* (і *Гнеўка*), *Грышко* (і *Грышка*), *Гурко* (і *Гурка*), *Драко, Дубко, Жабо* (і *Жаба*), *Жылко* (і *Жылка*), *Жыло, Козел, Лапо* (і *Лапа*), *Лапко* (і *Лопка*), *Міцько, Папко, Пашко, Платко, Пліско, Пляшко, Пожар, Позняк, Поляк, Прашко, Прокап, Пранько* (і *Пронька*), *Пупко, Пырко, Рабко, Радзько, Радо, Ралько, Рамо, Раўдо* (і *Роўда*), *Рудзько, Рудко, Рэхо, Сідор, Сліпко, Скабло* (і *Скобла*), *Скурко, Слабко, Слепак, Слімко, Сяўко, Та́рас* (і *Тара́с Гушча*), *Хацько, Хілько, Храпко, Цітко, Чапко, Чуйко, Чурко, Шапко, Шчуко, Шыйко, Шымко.*

Прычынаў, якія прыводзяць да з'яўлення новых варыянтаў антрапонімаў, некалькі. Можна бачыць тут уплыў афіцыйных польскай і рускай моваў.

1) Уплыў польскай мовы. Ён адчуваўся цягам стагоддзяў – пасля 1697 года, калі пастановаю Сейма ў афіцыйна-справовай сферы ўзаконена было выкарыстанне польскай мовы. А калі мець на ўвазе больш блізкі час, то гэта 1921–1939 гады, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы. Узорам афармлення афіцыйных дакументаў стала дзяржаўная мова гэтай краіны. Прозвішчы беларусаў падганяліся пад узор слоў польскай мовы, дзе націск прыпадае на перадапошні склад слова. Таму і беларускія прозвішчы пераафармляліся, набываючы гэтую заканамернасць. Так, прозвішча *Бычок* набыло форму *Бы́чак, Вярста́к → Ве́рстак, Вярзу́н → Ве́рзун, Федзяня́ → Фядзе́ня* і пад.

2) Уплыў рускай мовы. Найчасцей у гэтым выпадку беларускія прозвішчы з канцавым *-ка* афармляюцца на ўзор рускіх з фінальным *-ко: Будзька → Будзько, Валодзька → Валадзько, Варонка → Варанко, Галоўка → Галаўко, Гнеўка → Гняўко, Грышка → Грышко, Драка → Драко, Жылка → Жылко, Пліска → Пліско, Прошка → Прашко, Пронька → Пранько, Скурка → Скурко, Шапка → Шапко, Шымка → Шымко, Шышка → Шышко.*

Яшчэ адна з прычынаў – імкненне пазбыцца аманіміі прозвішча з уласным асабовым іменем і імем па бацьку. Так узніклі і прозвішчы, носьбітамі якіх з'яўляюцца знаныя беларускія пісьменнікі *Ніна Та́рас* і *Валянцін Та́рас*. Параўн. гэтую форму прозвішча з першаснай *Тара́с Гушча* (псеўданім Якуба Коласа). Або прозвішча вядомай беларускай пісьменніцы *Алены Васіле́віч* ( параўн. *Мікалай Васі́левіч Бірыла*).

Часам той самы аўтар у розных выданнях (публікацыях) мае рознае прозвішча (яго графічна-вымаўленчы варыянт). Напрыклад, прафесар геаграфіі, родам з Зэльвеншчыны, *Сяргей Іванавіч Сідар*, мае такое натуральнае прозвішча, засведчанае ў Энцыклапедыі «Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Зэльвенскага раёна» (Мінск, 2003, с. 416), а ў яго кнізе «Геаграфія Беларусі: падручнік для 9 кл. сяр. шк. « (Мінск: Нар. асв., 1995) – *Сідор С. І.*

Згаданыя прычыны нярэдка дзейнічаюць у сваёй спалучнасці, выконваючы асноўную функцыю – адмежаваць онім (прозвішча) ад іншых моўных адзінак. Бо прозвішча – найбольш важны элемент уласнага асабовага наймення, які перадаецца па спадчыне. І не зважаючы на тое, як узнікла прозвішча, якім спосабам – нават шляхам скажэння натуральнай формы яго, як *Жэбрак (← Жабрак), Машэраў (← Машэра)* [1, с. 36–37] ці *Сідор (← Сідар),* яно, замацаваўшыся ў пісьмовай форме (афіцыйным выданні), набывае норму закона.

*Літаратура*

1. Шур, В.В. Уласныя імёны ў часе і прасторы / В. В. Шур. – Мінск: НІА, 2008. – 100 с.

# З **увагай да словаўтваральных заканамернасцяў і сучасных тэндэнцый развіцця мовы**

Рэцэнзія на кнігу **Вaрановіча В.** Словаўтварэнне назоўнікаў у беларускай мове: Манаграфія. – Гродна: ГрДУ, 2005.135 с. Наклад 70 паас.

«Апошнія гадоў 15 характарызуюцца рэзкай актывізацыяй словаўтваральнага працэсу ў сістэме беларускай мовы... з тэндэнцыяй да пошуку тых словаўтваральных сродкаў і мадэляў, якія найбольш адпавядаюць сістэме беларускай мовы і падкрэсліваюць яе спецыфіку», – справядліва заўважае аўтар рэцэнзаванай манаграфіі.

Аб’ект даследавання ў манаграфіі Валерыя Варановіча – сістэма асабовых назоўнікаў; крыніцы даследавання – матэрыялы перыядычнага друку 90-х гг. ХХ ст., «Руска-беларускі слоўнік» (1993), «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996), галіновыя тэрміналагічныя слоўнікі 1990-х гг., навуковыя працы, пераклады, а таксама запісы нефіксаваных у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» слоў, зробленыя А. Каўрусам і змешчаныя ў часопісе «Роднае слова» (1998 – 2005).

Новаўтвораная асабовая лексіка змястоўна і ўсебакова даследуецца аўтарам, вызначаюцца ўтваральныя асновы слоў, тыпы і мадэлі ўзнікнення дэрыватаў. Мадэлі ўтварэння неалагізмаў супастаўляюцца з мадэлямі ўтварэння дэрыватаў, засведчаных слоўнікамі. Пры супастаўленні словаўтваральных тыпаў-канкурэнтаў аналізуюцца іх характарыстыкі на прадмет большай ці меншай прыдатнасці гэтых тыпаў для выражэння таго ці іншага дэрывацыйнага значэння. У кнізе зроблены сур’ёзныя абагульненні і высновы, што тычацца сучасных тэндэнцыяў да пошуку дэрывацыйных сродкаў і мадэляў, найбольш адпаведных сістэме беларускай мовы, яе адмысловасці, спецыфіцы.

Даследаванне сведчыць, што бальшыня асабовых назоўнікаў-наватвораў узнікла з дапамогай суфікса *-нік-(-ль-нік-)*. Утваральнымі звычайна выступаюць дзеяслоўныя асновы, радзей назоўнікавыя, прыметнікавыя і дзеепрыметнікавыя. Нярэдка наватворы з’яўляюцца разнасуфіксавымі сінонімамі да тых, што фіксуюцца акадэмічнымі слоўнікамі.

Аўтар манаграфіі дае кампетэнтную ацэнку штучным для беларускай мовы слоўнікавым дэрыватам: «*...адказнік* (параўнальна з натуральным *адмоўнік)* з’яўляецца яўным расіянізмам і не мае адпаведнай свайму значэнню матывацыі, бо беларускае *адказаць* ніводным са сваіх значэнняў не набліжаецца да расійскага *отказать*». Або: «...альтэрнатыўнае ўтварэнне *праектавальнік,* арганічна стасуючыся з нарматыўным дзеясловам *праектаваць*, у плане забеспячэння гармоніі сістэмных сувязяў у мове пераўзыходзіць свой нарматыўны адпаведнік *праектыроўшчык*, які не мае ўтваральнай базы (у слоўніках не падаецца *праекціраваць*, а толькі *праектаваць)»*. Пры аналізе словаўтваральнай структуры слова аўтар звяртае ўвагу на магчымы выбар, які «палягае на кампрамісе паміж пазбяганнем груваскасці структуры дэрывата і імкненнем да выразнасці яго ўнутранай формы». Напрыклад, у пары *распаўсюджвальнік – распаўсюднік* другі варыянт можна назваць аптымальным, бо яго пяціскладовы нарматыўны адпаведнік мае звышгруваскую структуру.

Шмат увагі аддаецца ў манаграфіі дэрыватам з суфіксам *-ец-, -ц-а*. Многія з іх утвораныя ад асновы наяўнага ў акадэмічных слоўніках дзеяслова. Сярод іх нямала заменнікаў субстантываваных дзеепрыметнікаў: *адпачыванец, ад’язджанец, атаковец, ачунёвец* і *папраўленец, вядовец, мітынговец, набоец, наступовец* (параўн. з *адпачываючы, ад’язджаючы, атакуючы, ачуньваючы, вядучы, мітынгуючы, зараджаючы, наступаючы).*

Разглядаюцца ў працы і асабовыя дэрываты з суфіксамі *-шчык- / -чык, -ар-(-яр), -ант-, -атар-, -ач-(-яч-), -іст-(-ыст-)* і інш. Даследнік, характарызуючы суадносіны паміж наватворамі і іх семантычнымі адпаведнікамі, утворанымі з дапамогаю інакшых суфіксаў, прыходзіць да высновы, што суфікс *-нік-*(у тым ліку фармант *-ль-нік-)* найчасцей быў выкарыстаны на месцы *-шчык- / -чык-:* «Узнікненне шэрагу наватвораў на *-нік-* – назваў рабочых прафесіяў адпавядае логіцы дэрывацыйных працэсаў апошняга дзесяцігоддзя ў беларускай мове». Навуковец справядліва зазначае, што назоўнікі на *-ца* называюць толькі асобу, а на *-ец-* – як правіла, асобу, таму суфікс *-ц-а* і можа ўспрымацца менавіта як выразны сродак абазначэння дзейнай асобы; што тыповыя беларускія катайконімы маюць у сваім складзе суфікс *-ец-*.

Робячы агульныя высновы, даследнік абгрунтавана сцвярджае, што найбольшай прадукцыйнасцю вызначаецца суфікс *-нік-*, другое месца належыць суфіксу *-ец*, сярэднюю ступень прадукцыйнасці мае *-шчык- / -чык-*.

Другая частка манаграфіі прысвечана словаўтварэнню назваў асобы жаночага полу. Аўтар падрабязна спыняецца на праблеме інтэрпрэтацыі словаўтваральнай структуры назваў асобы жаночага полу, вылучаючы гэтак званае цerасступеннае словаўтварэнне, і робіць заканамернае падагульненне: утварэнне назваў асобы жаночага полу ў беларускай мове з’яўляецца правілам.

Навуковец крытычна ставіцца да слоў тыпу «вызваліцельніца», «правіцельніца», кваліфікуючы іх як «расіянізмы, якія парушаюць словаўтваральную норму беларускай мовы, бо жаночыя ўтварэнні ад мужчынскіх на *-цель* (дарэчы, таксама чужых для нашай мовы) утвараюцца, як правіла, з удзелам фарманта *-к-а: выхавацелька, мучыцелька, карміцелька, крыўдзіцелька* ды інш.».

У манаграфіі аўтарам даецца справядлівая кваліфікацыя ўтварэнняў на *-ун-ня* і *-ш-а* як несістэмных, неўласцівых беларускай мове.

На падставе аналізу словаўтварэння фемінінатываў-наватвораў даследнік робіць абгрунтаваныя высновы:

пры ўтварэнні фемінінатываў з дапамогаю матэрыяльна выражаных суфіксаў самым прадукцыйным у апошнія два дзесяцігоддзі з'яўляецца *-к-а*, у тым ліку за кошт узнікнення паралельных формаў да ўтварэнняў на *-ша*, *-ыса*, *-эса*, *-цельніца*, *-уха*, чаму спрыяе як найбольшая выразнасць яго семантыкі, так і нейтральнасць з пункту гледжання экспрэсіўна-стылістычнага; мадэлі ўтварэння фемінінатываў на *-ша*, *-цельніца*, а таксама *-іца* ад маскулінатыўваў на *-ец* неўласцівыя дэрывацыйнай сістэме сучаснай беларускай літаратурнай мовы альбо займаюць у ёй перыферыйнае становішча.

Хочацца яшчэ раз падкрэсліць грунтоўнасць і важкасць разгляданай працы. Аўтар выкарыстаў у працы багатую і разнастайную літаратуру: крыніцаў даследавання – 52, тэарэтычнай літаратуры – 84. Мяркуем, што дадзеная кніга прынясе вялікую карысць навукоўцам-лінгвістам, а таксама студэнтам-філолагам, аспірантам, выкладчыкам, усім, хто імкнецца да ўдасканалення сваёй мовы.



**ЗМЕСТ**

Жыццё, прысвечанае навуцы і выхаванню ....................................................4
Шур В.В. (Мазыр). П. Сцяцко як даследчык беларускай анамастыкі ............8
**І. Навуковыя артыкулы** …………………………………........................13
Аліферчык Т.М. (Мінск). Катэгорыя прасторы ў айканіміі (на матэрыяле айканіміі Заходняга Палесся)……………………….....................................13
Андарала Г.Ф. (Мінск). Асаблівасці ўжывання вайсковай лексікі ў рамане Л.Дайнекі «Меч князя Вячкі»…………………………...........................19
Аніськова С.М. (Гомель). Метафарызацыя агульнаўжывальнай лексікі як крыніца фарміравання навукова-тэхнічнай тэрміналогіі ………...................24
Асабіна С.В. (Гродна). Ацэначная стылістычная функцыя фразеалагізмаў і прыказак (на прыкладзе твораў Міхася Лынькова).......................................30
Асіпчук А.М. (Гродна). Антонімы-назоўнікі як адзін са сродкаў выразнасці ў творах Ніла Гілевіча……………………………....................................33
Аўчыннікава Г.У. (Гродна). Найменні асобы паводле прафесійнай дзейнасці і ра-мёстваў–дэрываты з суфіксамі *-нік /-ник/ -nik* – у беларускай, рускай і польскай мовах ……………………….....................................................................36
Багдзевіч А.І. (Гродна). Аб некаторых прагматычных і граматычных асаблівасцях мастацкага загалоўка (на прыкладзе загалоўкавых комплексаў з лірыкі Я.Купалы)…………………………….....................................42
Баровец Агнешка (Люблін). *Nomina agentis* з двайной матывацыяй у сучаснай беларускай мове ……………………………………..............46
Барысевіч К.А. (Гродна). Актуальныя задачы міжмоўнай перадачы антрапонімаў ..............................................................................................53
Белакурская Жанна (Мінск). Спосабы выражэння аўтарскай пазіцыі ў мастацкім тэксце ………………………………………………..............61
Блінава Э.Д., Міхайлаў П.А., Фацеева С.І. (Мінск). Гаворкі Случчыны: традыцыі і сучаснасць………………………………….……..................67
Бочкар Т.П. (Гродна). Аб вывучэнні лексічнай варыянтнасці фразеалагізмаў у супастаўляльным аспекце……………………...........................................73
Бубновіч І.І. (Гродна). Асаблівасці адаптацыі іншамоўных дзеясловаў асноваў старабеларускаю літаратурнаю моваю…………………….............79
Варановіч В.Л. (Гродна). Да праблемы вызначэння матывацыі назваў асобы жаночага полу некаторых словаўтваральных тыпаў………..........................85
Воінава А.М. (Гомель). Сінтаксічныя асаблівасці перакладу паэмы М.Ю.Лермантава «Мцыры» на беларускую мову А.Куляшовым…..............91
Волкава Я.В. (Мінск). Фармант *-і(ы)шча/-і(y)šćo* ў беларускай і сербалужыцкіх мовах .....................................................................................97
Галай В.М.(Мінск). Афіксальная дэрывацыя германізмаў у беларускай мове ...........................................................................................102
Гацко А.М. (Баранавічы). Лінгвакультуралагічны падыход у фарміра-ванні камунікатыўна-дыскурсіўнай культуры будучых настаўнікаў .........................105

Герасимович О.В. (Минск). О некоторых значениях восточносла-вянского «*вера*»……………………………………………………………………......................…110
Давідоўскі П.М. (Люблін). Фарміраванне беларускай лацінкі і вопыт суседзяў…………..…………………………………………………………........116
Далідовіч В. У. (Мінск). Лексіка італьянскага паходжання ў беларускай мове ..........................................................................................123
Даніловіч М.А. (Гродна). Айканімія Гродзенскага раёна ………..…........125
З.П. Данільчык (Гродна). Назоўны прэдыкатыўны назоўнікаў са звязкай *ёсць* у сучаснай беларускай мове ..………………………….........132
Ермакова А.М. (Гомель). Экспрэсіўна афарбаваная лексіка як сродак прагматычны...……………………………………………….............137
Кавалёва Л.Я. (Гродна). Англійскія запазычанні ў комплексных тэрмінах сучаснай беларускай мовы ..........................................................................140
Кавальчук А.І. (Гродна). Назвы асобы паводле адносінаў да ежы ў беларускіх народных гаворках .....................................................................142
Кантаровіч Т.М. ( Гродна). Дэрываты – найменні асобы жаночага полу паводле прафесіі ў беларускай і нямецкай мовах...……….............148
Лапкоўская А.М. (Гродна). Дыялагічнасць і адрасаванасць у навуковым дыскурсе……………………………………………............155
Лапшына Т.В. ( Магілёў). Матываванасць арнітонімаў (на матэрыяле беларускіх, рускіх і англійскіх арнітонімаў)……….….............159
Лаўшук Д.А., Ячмянёва І.М. (Магілёў). Асноўныя спосабы кампрэсіі комплексных намінацый (на матэрыяле сельскага-спадарчай тэрміналогіі) …......165
Лепешаў І.Я. (Гродна). Ці ўсе прыказкі – вобразныя?...............................170
Лісоўская І.С. (Гродна). Дзеясловы акустычнага аспекту ў працэсе адлюстравання маўленчай дзейнасці……………………….........175
Літвін Н.У. (Гродна). Да пытання пра беларускую эканамічную лексіку перыяду да 20-х гадоў XX стагоддзя ………………………….........179
Ляскевіч С.Г. (Гродна). Састарэлыя назвы жаночых галаўных убораў (на матэрыяле гаворак Гродзеншчыны)..……………….................185
Маліцкі Ю.В. (Мінск). Беларуская народная іхтыялагічная лексіка: аб'ектны тып матывацыйных адносін………………….............191
Маляўка П.І. (Гродна). Моўная палітра апавяданняў Алены Васілевіч...........................................................................................................197
Маршэўская В.В. (Гродна). Фразеалагізмы з кампанентамі «белы–чорны» ..202
Маршэўскі А.І., Маршэўская В.В. (Гродна). Канцэпт «залаты» ў тэрмінах эканомікі …………………………………………………….........................208
Мачалава А.А. (Гродна). Пытанні адзінства / падзельнасці моўнай формы пры параўнанні назваў асобы неблізкароднасных моў.....….......................210
Памецька Н.К. (Гродна). Гісторыя клічных формаў назоўніка і іх рэалізацыя ў мове Янкі Купалы ………………………..........………...…214
Піваварчык І.В. (Гродна). Лексіка-семантычная група 'шлюбнае ўбранне маладой' (этналінгвістычнае апісанне**)** ……………………........................221
Рагаўцоў В.І. ( Магілёў). Каламбур як сродак стварэння камічнага эфекту (на матэрыяле п'ес К. Губарэвіча) ..………………….......……....227
Сабуць А.Э. (Гродна). Генітыўная метафара ў паэзіі Рыгора Барадуліна .................................................................................................234
Садоўская А.С. (Гродна). З'ява сінаніміі ў эканамічнай і ваеннай тэрміналогіі.....................................................................................................240
Сачанка С.Б. (Мінск). Абнаўленне сучасных літаратурных норм.............244
Сідарчук А.А. (Гродна). Сродкі выражэння ацэначных найменняў асобы ў беларускай і нямецкай мовах.......................................................250
Сіплівеня Ж.С. (Гродна). Да пытання пра беларуска-рускія тэрміналагічныя паралелі ............................................................................................................253
Снігірова Н.А. (Мінск). Паўночна-ўсходнія арэальныя марфалагічныя трансфармацыі ў польскай мове і іх беларускамоўныя стымулы .............259
Солахаў А.В. (Мазыр). Утварэнне субстантыватаў у мове твораў Алеся Разанава ..............................................................................................266
Станкевіч А.А. (Гомель). Сінтаксічныя сродкі выяўленчай выразнасці: фігуры паўтору ў паэзіі Яўгеніі Янішчыц ..............................273
Струкава С.М. (Мінск). Да інтэрпрэтацыі працэсу аманімізацыі лексемы *ключ* .........................................................................................................280
Суднік С. (Ліда). Беларуская сістэма стэнаграфіі .......................................284
Тамашэвіч З.М. (Гродна). Да пытання ўзбагачэння і актывізацыі слоўнікавага запасу вучняў пачатковых класаў..........................................288
Тамашэвіч Т.І., Жукоўская Т.С. (Гродна). Аб спрадвечнасці некаторых фразеалагічных адзінак і польскамоўным уплыве ў сярэднявечны перыяд.........................................................................................292
Федунова Т.В. (Минск). Семасиологическое сопоставление лексических систем русского и белорусского языков с учетом системного подхода ..........................296
Хазанава К.Л. (Гомель). Стылістыка беларускіх загадак са структурай складаназлучаных сказаў .....................................................303
Хвясько С.Г. (Гродна). Вакалізацыя спалучэнняў тыпу *зычная(ыя) + санорная* ў зыходзе субстантыўных асноў ...........................309
Чарнышова А.М. (Гомель). Характарыстыка кінемнай лексікі паводле яе семантыкі на матэрыяле твораў мастацкай літаратуры ..............................316
Шакун Н.С. (Мінск). Лакальныя асаблівасці ў мове Тураўскага спісу *Corpus Areopagiticum* ……………........................................................................321
Шандроха Н.Э. (Гродна). Педагагічны і рытарычны патэнцыял беларускай народнай загадкі ў фарміраванні моўнай асобы вучня ...............................326
Якалцэвіч М.А. (Гродна). З прыказак, раней не апісаных у парэмійным слоўніку ..........................................................................................................332
Якушава А.М. (Мінск). Семантычны спектр найменняў рысаў характару, абумоўлены атрыбутыўнай спалучальнасцю ............................................337
Якшук Л.М. (Гродна). Пра методыку выкладання адной тэмы на занятках па англійскай мове ...........................................................................................345

**ІІ. Звесткі пра юбіляра**...................................................................................348
Навуковая дзейнасць прафесара Паўла Уладзіміравіча Сцяцко……..........348
Бібліяграфія…………………………………………………………......…........348
І. Кнігі…………………………………………………………….................…348
ІІ. Брашуры, артыкулы, тэзісы, рэцэнзіі.......................................................354
Кандыдаты філалагічных навук, падрыхтаваныя пад кіраўніцтвам
прафесара П.У.Сцяцко ....................................................................................389
Навуковае рэдагаванне: кнігі, навучальныя дапаможнікі, выдадзеныя пад
рэдакцыяй прафесара П.У.Сцяцко…………………………….....................390
Навуковае рэцэнзаванне: выданні з рэцэнзіямі прафесара
П.У. Сцяцко.........................................................................................................392
П.У.Сцяцко ў складзе рэдкалегіікніжных і перыядычных выданняў.........393
Апанентаванне і экспертаванне дысертацыйных працаў прафесарам
П.У.Сцяцко ………………………………………………………….......394
Звесткі ў друку пра П.Сцяцко ……………………………………….........397
**ІІІ. Культура мовы**.........................................................................................402
Сцяцко П.У. Нарысы культуры мовы ...........................................................402

## ЖЫЦЦЁ, ПРЫСВЕЧАНАЕ НАВУЦЫ І ВЫХАВАННЮ

5 сакавіка 2010 года споўнілася 80 гадоў Паўлу Уладзіміравічу Сцяцко, доктару філалагічных навук, прафесару, выдатніку адукацыі Рэспублікі Беларусь, узнагароджанаму за высокія дасягненні ў прафесійнай дзейнасці, значны ўклад у развіццё і памнажэнне духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа медалём Францыска Скарыны.

Нарадзіўся П.У.Сцяцко ў вёсцы Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля навучання ў Ваўкавыскім педвучылішчы паступіў у Гродзенскі пединстытут. Скончыў філалагічны факультэт з дыпломам выдатніка і быў размеркаваны на працу ў сваю альма-матар. Выкладаў тут усе мовазнаўчыя курсы студэнтам-філолагам. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Абараніў (датэрмінова) кандыдацкую дысертацыю, якую высока ацаніў віцэ-прэзідэнт АН Беларусі акадэмік К.Крапіва як першы апанент; потым – доктарскую дысертацыю, прысвечаную беларускаму народнаму словаўтварэнню. Павышаў свой славістычны досвед у знаных еўрапейскіх універсітэтах – Карлавым універсітэце ў Празе і Варшаўскім універсітэце.

Маючы высокі славістычны досвед, Павел Уладзіміравіч належным чынам перадае свае веды студэнтам, працуючы ў розных ВНУ Беларусі: дацэнт, затым прафесар кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага пединстытута імя М.Горкага (1962 – 1981), загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага універсітэта імя Ф.Скарыны (1981 – 1990), з агадчык кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства (1991 – 2007), цяпер прафесар названай кафедры Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы, а таксама прафесар Варшаўскага універсітэта (філіял у Беластоку, 1991 – 1994), дзе чытаў лекцыйныя курсы параўнальнай граматыкі славянскіх моваў, спецкурс па словаўтварэнні ў беларускай, рускай і польскай мовах і праводзіў адпаведны спецсемінар.

Адметным перыядам у жыцці Паўла Уладзіміравіча і беларускай лінгвістыкі былі 1960 – 1970 гады. Працуючы на кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага пединстытута, П.У.Сцяцко прымаў самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы надта запатрабаваных тым часам навучальных дапаможнікаў для студэнтаў беларускай філалогіі, а таксама навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных установаў. У 1969 годзе выходзіць навучальны дапаможнік для ВНУ «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы», падрыхтаваны разам з М.С. Яўневічам. Кніга вытрымала тры выданні. У 2006 годзе выйшаў падручнік для



ЖЫЦЦЁ, ПРЫСВЕЧАНАЕ НАВУЦЫ І ВЫХАВАННЮ

5 сакавіка 2010 года споўнілася 80 гадоў Паўлу Уладзіміравічу Сцяцко, доктару філалагічных навук, прафесару, выдатніку адукацыі Рэспублікі Беларусь, узнагароджанаму за высокія дасягненні ў прафесійнай дзейнасці, значны ўклад у развіццё і памнажэнне духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа медалём Францыска Скарыны.

Нарадзіўся П.У.Сцяцко ў вёсцы Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля навучання ў Ваўкавыскім педвучылішчы паступіў у Гродзенскі пединстытут. Скончыў філалагічны факультэт з дыпломам выдатніка і быў размеркаваны на працу ў сваю альма-матар. Выкладаў тут усе мовазнаўчыя курсы студэнтам-філолагам. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Абараніў (датэрмінова) кандыдацкую дысертацыю, якую высока ацаніў віцэ-прэзідэнт АН Беларусі акадэмік К.Крапіва як першы апанент; потым – доктарскую дысертацыю, прысвечаную беларускаму народнаму словаўтварэнню. Павышаў свой славістычны досвед у знаных еўрапейскіх універсітэтах – Карлавым універсітэце ў Празе і Варшаўскім універсітэце.

Маючы высокі славістычны досвед, Павел Уладзіміравіч належным чынам перадае свае веды студэнтам, працуючы ў розных ВНУ Беларусі: дацэнт, затым прафесар кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага пединстытута імя М.Горкага (1962 – 1981), загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага універсітэта імя Ф.Скарыны (1981 – 1990), з агадчык кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства (1991 – 2007), цяпер прафесар названай кафедры Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы, а таксама прафесар Варшаўскага універсітэта (філіял у Беластоку, 1991 – 1994), дзе чытаў лекцыйныя курсы параўнальнай граматыкі славянскіх моваў, спецкурс па словаўтварэнні ў беларускай, рускай і польскай мовах і праводзіў адпаведны спецсемінар.

Адметным перыядам у жыцці Паўла Уладзіміравіча і беларускай лінгвістыкі былі 1960 – 1970 гады. Працуючы на кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага пединстытута, П.У.Сцяцко прымаў самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы надта запатрабаваных тым часам навучальных дапаможнікаў для студэнтаў беларускай філалогіі, а таксама навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных установаў. У 1969 годзе выходзіць навучальны дапаможнік для ВНУ «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы», падрыхтаваны разам з М.С. Яўневічам. Кніга вытрымала тры выданні. У 2006 годзе выйшаў падручнік для